Вот что писал в своих воспоминаниях бывший секретарь Полесского подпольного обкома КП(б)Б И. Д. Ветров: «Около полутора года действовала в лесах, городах, поселках, на железнодорожных станциях группа Степи — Федора Сергеевича Манзиенко, которая переросла потом в отряд. Она оказала большую помощь советскому командованию...»

Вспоминают о Манзиенко и другие партизанские командиры.

В своей книге «Наш позывной — свобода» бывший начальник Украинсного штаба партизанского движения генерал-лейтенант Т. А. Строкач писал о том, что во время рейдов крупных партизанских соединений летом и осенью 1943 года большую помощь партизанам оказывал отряд под командованием Федора Манзиенко, проводивший глубокую разведку тылов противника.

В послевоенные годы написал о Манзиенко и Герой Советского Союза И. Н. Черный.

О подвигах Федора Сергеевича рассказывала «Правда».

Через много лет после войны польские патриоты, характеризуя деятельность Федора Сергеевича Манзиенко, написали в Одесский обком КП Украины такие строки: «Мы помним Федора Манзиенко с 1943 года, когда он во главе разведывательного отряда переправился через Буг. Советские разведчики принесли с собой все, что было так необходимо бойцам подполья: оружие, боеприпасы, взрывчатку и слова бодрости, уверенности в скорой победе. Польские и советские партизаны уничтожили в тылу врага 56 железнодорожных воинских эшелонов с живой силой и боевой техникой, провели 32 диверсионные операции. Товарищ Степь во главе своих бойцов вместе с нашими группами Гвардии Людовой и Армии Людовой семнадцать раз вступал в бой с немецкими частями, войсками жандармерии, СС и полиции.

О героях-партизанах майора Манзиенко до сих пор помнят жители Северной Люблинщины».

Федор Сергеевич в послевоенные годы побывал в Польше, за свободу которой сражался с фашистами. О его пребывании там писала газета «Трибуна люду». Он навестил места, где воевал, встречался с боевыми соратниками, польскими

партизанами, патриотами, учеными-историками, выступал по радио и телевидению. Высокую оценку работе, проделанной бывшим советским партизаном и разведчиком, дали в Министерстве обороны ПНР.

Как же сложилась судьба героев этой книги?

Не все участники борьбы с лютым фашистским зверем дожили до светлого мирного дня. Где-то на дорогах войны затерялся след Ивана Москаленко, заместителя Манзиенко по диверсионной работе. Перед освобождением Полесья от фашистских захватчиков Иван Москаленко сражался в рядах партизан. На Украине погиб в бою храбрый подрывник Григорий Середа.

Уже после войны ушли из жизни подпольщик Иван Васильевич Змушко, разведчик Анатолий Тарков, заместитель Манзиенко Владимир Оффман.

Федор Манзиенко — майор Степь — после войны трудился в родной Одесской области. Долгое время он возглавлял совхоз, был директором экспериментального винзавода. Умер в 1983 году, похоронен в Одессе.

В Москве поселились радистки Аня Степанова (теперь Павлова) и Наташа Качалина (ныне Кормакова). Радистка Оля Куликова живет в Молдавии.

Мозырские подпольщики — учителя Аверьян Муравьев и Константин Котлинский по-прежнему живут в родном городе, а связная-разведчица Татьяна Есьман — в деревне Сырод Калинковичского района.

Василевичские школьники-патриоты, так активно помогавшие отряду Манзиенко, после войны учились в высших учебных заведениях, приобрели разные профессии. Николай Белый работал в Брагинском районе учителем. Иван Довжик долгие годы жил и работал лесничим в Василевичах. Сейчас он на пенсии и живет в Светлогорском районе.

Многие соратники по борьбе встречаются с Кузьмой Бакуном, Александром Коростелевым, Анастасией Лавшук, Василием Табулиным, Леонидом Волковым и другими партизанами, которые живут в Мозыре и Калинковичах, в районах, в тех самых местах, где прославили себя 99-я Калинковичская партизанская бригада имени К. Е. Ворошилова и отряд Ф. С. Манзиенко — капитана, затем майора Степи.

Память о боевых подвигах участников Великой Отечественной войны живет в сердцах многих советских людей, всех тех, кто помогал разведчикам Федора Сергеевича, партизанам и подпольщикам.

Когда едешь из Гомеля в Мозырь, на правой стороне шоссейной дороги можно увидеть деревню, которая называется Глинной Слободой. Ничем особенно среди многих других деревень она не отличается. Отсюда начинался боевой путь Ф. С. Манзиенко. Здесь он нашел своих первых помощников — лесника Ивана Шумака, его жену Лидию Васильевну, простых колхозниц Ефросинью Пырко, Марию Судас.

Отряд Федора Сергеевича от Глинной Слободы, от Василевичей и Калинковичей прошел нелегкий путь по военным дорогам до польской деревни Тесменица, а затем до Лукова и Парчева, что в северной Люблянщине. Немало было верных помощников у Манзиенко на многотрудном, полном опасности пути. И они, эти истинные патриоты нашей Родины, не останавливались ни перед какими испытаниями ради одной великой цели — победы над врагом.

У боевой славы широкие крылья. Она передается от поколения к поколению, потому что нет сроков давности большому бессмертному подвигу советских людей.

# ЛЕТУЦЕННІК

*Раман*

## I

Мінулі кастрычніцкія святы, падзьмулі халодныя вятры, але ўсё яшчэ не падае снег. Над разбураным горадам вісіць змрочнае шэрае неба. За шэсць гадоў, якія мінулі з часу сканчэння вайны, горад парадкам падлатаўся: вымалёўваецца ў прыемных для позірку абрысах цэнтральны праспект, забудаваны ў сваім пачатку прыгожымі чатырох- і пяціпавярховымі дамамі, новыя гмахі, кварталы вырастаюць у розных частках горада, але відавочных слядоў разбурэння яшчэ многа.

Доўгая прамавугольная каробка Дома друку — помнік канструктывізму трыццатых гадоў — у віхуры вайны ўцалела. Можа, і яна была спалена ці ўзарвана, а пазней адноўлена, але Касцюшка гэтага не ведае, бо на ўскраіне горада, дзе размешчаны гэты будынак, у час вучобы ва ўніверсітэце амаль не бываў.

Цяпер у чатырохпавярховым, з аблезлай тынкоўкай Доме друку месцяцца ледзь не ўсе рэдакцыі газет, часопісаў і нават выдавецтвы. Па шырокіх гулкіх лесвіцах штохвіліны спускаюцца ўніз і падымаюцца супрацоўнікі рэдакцый і няштатныя аўтары, у напаўцёмных доўгіх калідорах пахаджваюць, размаўляючы між сабой, журналісты, пісьменнікі, наогул творчыя асобы.

Касцюшка таксама журналіст. Ледзь не ўсе пасляваенныя гады ён быў карэспандэнтам абласной газеты, якая выходзіць у надпрыпяцкім горадзе, аб'ездзіў збольшага Палессе, хоць па службовым абавязку ў першую чаргу абслугоўваў цвёрда вызначаны «куст» — тры прылеглыя адзін да другога раёны. Жыў у родным мястэчку, у бацькавай хаце. Можна было і далей жыць, тым болей што Касцюшка ажаніўся, мае малога сына, завочна скончыў універсітэт. Але ў адзін момант ён усё гэта пакінуў, памяняўшы на няпэўнае становішча аспіранта.

Чаму ён так зрабіў? Па многіх прычынах. Галоўная, відаць, тая, што Касцюшка яшчэ не стары, мае за плячамі толькі дваццаць шэсць гадоў, і варта пазмагацца за нешта большае, чым знаёмыя з дзяцінства пясчаныя местачковыя вуліцы, старая бацькава хата і пасада карэспандэнта абласной газеты. Ды і проста не пашкодзіць няшчаснаму завочніку грунтоўней падкавацца ў навуках, бо дагэтуль вучыўся похапкам, за кнігі браўся пераважна ў сесіі, на якія рэдакцыя адпускала за кошт адпачынку.

Калі Касцюшка ездзіў на сесіі завочнікаў і, рыхтуючыся да здачы чарговага прадмета, вылежваў на жорсткім інтэрнацкім тапчане гадзін па шаснаццаць у суткі, ён нават прыблізна не ведаў, што такое аспірантура. Тым часам яго поспехі ў навуках як бы самі сабой прывялі да яе. З сотні завочнікаў першага пасляваеннага набору толькі Касцюшка ды яшчэ двое выпускнікоў, адчужаныя ад жыцця, самаахвярныя кніжнікі — матэматык і географ,— атрымалі памечаныя чырвонымі літа-

рамі дыпломы выдатнікаў. Такія дыпломы — хоць аб гэтым нідзе не напісана — як бы заклікаюць да далейшай вучобы, а пры паступленні ў аспірантуру даюць перавагу.

Захмялелы прафесар Ерусалімчык, старшыня экзаменацыйнай камісіі, які прысутнічаў на выпускным студэнцкім банкеце, пра гэтую перавагу сказаў адкрыта:

— Церабіся, браток, у аспірантуру. Заслужыў. Будзем разам рухаць наперад навуку. Здольнасці маеш. Я цябе з першага экзамену запомніў...

Вядома, Касцюшка не ў адзін момант прыняў рашэнне ехаць у Мінск. Год думаў над словамі Ерусалімчыка. Былі вялікія сумненні і хістанні. Жонку, малога сына ў Мінск не возьмеш, кватэру ў напаўразбураным горадзе не знойдзеш. Нават думаць аб гэтым не прыходзіцца. Ды і жыць на якія капіталы?

Ён усё ж адважыўся на аспірантуру. Падсвядома адчуваў: усё жыццё будзе сябе дакараць, калі ўпусціць такую магчымасць.

Напрадвесні Касцюшка напісаў ліст Ерусалімчыку. Адказу не атрымаў. Відаць, проста забыў яго паважаны прафесар. Ці мала студэнтаў праходзіць перад яго позіркам?

Тады Касцюшка робіць адмысловы крок. Выразае з абласной газеты некалькі сваіх рэцэнзій на кнігі апошняга часу, засоўвае іх у канверт і пасылае Ерусалімчыку. Адказ прыходзіць імгнення, Ерусалімчык на гэты раз пазнае напорыстага завочніка, абяцае гарачую падтрымку пры паступленні ў аспірантуру.

Не абышлося без барацьбы ў абласной рэдакцыі. Рэдактар, лысы і вяртлявы, як уюн, які сам завочна скончыў Вышэйшую партыйную школу, меў наконт Касцюшкі ўласныя планы. Збіраўся прызначыць на аддзел. Колючы Касцюшку чорнымі вочкамі-свярдзёлкамі, рэдактар сказаў:

— Плаціць па вэксалі не хочаш. Ірвешся ў высі...

Крыўду рэдактара можна зразумець. Ставіўся да карэспандэнта добра, даваў магчымасць вучыцца, адпускаў на сесіі. Расціў маладую змену...

Але і ў Касцюшкі ёсць козыры. Запярэчыў рэдактару: у горад завяце, а кватэру нават не абяцаеце. Палавіну заработку прыйдзецца аддаваць за нікчэмны катух. Як жыць у такіх умовах, а тым болей працаваць?..

Стыпендыя аспіранта большая, чым у студэнта. Але не разгонішся і на ёй. Таму Касцюшка, як чалавек жанаты, наважыў не пакладацца на адну толькі стыпендыю. Здаўшы ўступныя экзамены ў аспірантуру, пачаў шукаць дадатковы заработак. Вядомай газеце якраз быў патрэбен стыльрэдактар. Пасля невялікай праверкі Касцюшку ўзялі на гэтую пасаду.

І вось ужо месяц з другой палавіны дня, а іншы раз нават вечарам, Касцюшка прыходзіць у Дом друку, падымаецца на трэці паверх, дзе ў канцы доўгага напаўцёмнага калідора размяшчаецца службовы пакойчык стыльрэдактараў.

Касцюшка сядзіць у сваім вузкім пакойчыку, у якім, апрача ягонага, стаіць яшчэ адзін стол такога ж, як сам ён, зменнага стыльрэдактара. З акна відаць кавалак вуліцы. Прыглушана звініць трамвай, грукаюць па вышчарбленым асфальце грузавікі. Яшчэ толькі чатыры гадзіны, а ўжо як бы пачынае цямнець.

Перад Касцюшкам стусік рэдакцыйных матэрыялаў. Ён прачытвае іх адзін за другім, зрэдку правячы паасобныя словы і сказы. Пасля подпісу літработніка, загадчыка аддзела стаіць подпіс стыльрэдактара. Увогуле ў рэдакцыі нядрэнна пішуць. Ёсць два-тры супрацоўнікі, якія, можна сказаць, пішуць бліскуча, манерай якіх Касцюшка асабліва захапляецца. Але і такіх нямала, хто казённыя, нясмачныя словы нанізвае адно на другое, снуючы нудную, невыразную тканіну. Пісаніну іх і стараецца хоць збольшага палепшыць стыльрэдактар.

Нават такая работа падабаецца Касцюшку. Ён ніколі не ставіўся абыякава да слова, да заметак, карэспандэнцый, якія пісаў у сваю абласную газету. Уважліва перачытваў матэрыялы другіх газет, асабліва нарысы, фельетоны, падоўгу смакаваў удалыя выразы, якія ў іх знаходзіў.

Ён даўно зрабіў для сябе адкрыццё, што ад саміх слоў, ад таго, свежыя яны ці ад частага ўжытку нібы зашмальцаваліся, сцерліся, ад парадку слоў, іхняй музыкі вельмі многае ў матэрыяле залежыць.

Нарысы, невялікія фельетоны, нават вершы ён друкаваў. Марыў пра большае — пра апавяданне. Спрабаваў і да апавядання дацягнуцца, два ці тры месяцы пакутаваў, шмат паперы папсаваў, але сарвалася...

Касцюшка ганарыцца, што працуе ў вядомай газеце, якая пачала выходзіць яшчэ да рэвалюцыі. Калі раніцай купляе ў кіёску свежы нумар, то адразу шукае вачамі матэрыялы, якія чытаў, правіў. Без памылкі бачыць у матэрыялах словы, якія знайшоў сам, як бы прымерваючыся, наколькі шчыльна прылягаюць яны да астатняга тэксту. Прыемна адчуваць, што робіш нешта карыснае, а значыць, недарма жывеш на свеце і ясі свой хлеб.

Касцюшку наогул падабаецца рэдакцыя. Людзі тут ставяцца адзін да другога прыхільна, уважліва, у рэдакцыі пануе дух добразычлівасці. Да такіх адносін яшчэ доўга трэба цягнуцца супрацоўнікам абласной газеты, у якой Касцюшка працаваў дагэтуль, а таксама некаторым раённым установам, з дзейнасцю якіх ён сутыкаўся.

Ужо зусім цёмна ў пакоіку. Касцюшка ўключае святло. На вуліцы як бы яшчэ больш цямнее, абрысы будынкаў расплываюцца, тонуць у змроку. То ў адным, то ў другім месцы горад запальвае вячэрнія агні.

У пакоік завітвае Мікола Чарняўскі, раз’язны карэспандэнт. Ён сярэдняга росту, плячысты, з шырокім прыемным тварам. На выгляд карэспандэнту гадоў сорак ці трохі болей.

Так сталася, што Чарняўскі ўпадабаў Касцюшку, часта зачынае гаворку, цікавіцца ягонымі справамі. Для стыльрэдактара такая ўвага — вялікі гонар, бо раз’язны карэспандэнт фактычна пісьменнік, адзін з тых, чыімі артыкуламі, нарысамі Касцюшка зачытваецца.

Чарняўскі займае асаблівае становішча ў рэдакцыі. Раз ці два на месяц выязджае ў камандзіроўку, вярнуўшыся, у рэдакцыю толькі паказваецца, матэрыял апрацоўвае дома. Дзе толькі не пабыў, чаго не пабачыў Чарняўскі! Рэспубліку ведае як пяць сваіх пальцаў. Не толькі ўяўляе становішча ў раёнах, а нават у паасобных сельсаветах. Нічога не скажаш — пісьменнік...

У Касцюшкавым раёне Чарняўскі таксама быў, і не раз. Таму грунт для гаворкі ёсць. Пісьменнік і цяпер завітаў у пакой стыльрэдактараў, ведаючы, што на кастрычніцкія святы Касцюшка ездзіў дамоў.

— Стаіць на месцы тваё мястэчка?

— Стаіць.

— Цяплей там ці халадней, як у нас?

— Цяплей.

— Ведаю, брат, што цяплей. Трыста кіламетраў адлегласць, і на́ табе — новы мерыдыян. На два тыдні вясна раней прыходзіць, сады цвітуць, раней сеюць, жніво пачынаюць палешукі першыя. Я таму першыя камандзіроўкі бяру на Палессе. Люблю ваш край. Асаблівая ў вас прырода — узгоркаў, як тут, мала, кругом раўніна, столькі лесу, балот!..

Газета, у якой працуе цяпер Касцюшка, з года ў год друкуе вялікія, на два-тры падвалы, матэрыялы пра пачатак розных сельскагаспадарчых работ, адбудову спаленых вёсак, пра новыя цялятнікі, свінарнікі, кароўнікі. Часцей за ўсё такія нарысы, замалёўкі носяць святочны характар, прасякнуты замілаваннем, што вайна скончылася, што можна мірна жыць, працаваць. Нарысы Міколы Чарняўскага прыкметна выдзяляюцца сярод падобных матэрыялаў.

— Хачу ведаць тваю думку пра надвор'е,— працягвае Чарняўскі.

— Як разумець ваша пытанне?

— Проста разумець. Успомні, якія былі, скажам, некалькі даваенных, пасляваенных гадоў? Лета было як лета. Нармальна свяціла сонца. У час ішлі дажджы. А цяпер што?

Цікава пагаварыць з пісьменнікам. Думка, накшталт гэтай, прыходзіла ў галаву Касцюшку. Толькі, можа, не такая акрэсленая. Колькі ён памятае, лета ў іх, на Палессі, было сонечнае, нават гарачае. Але грымелі ў час навальніцы, ішлі дажджы, і ў шырокіх памерах такіх з'яў, як засуха, не было. Пасля вайны пачаліся засухі — адна, другая. Асабліва памятны засушлівы сорак шосты...

— Вось і я так думаю! — узрадавана ўсклікае пісьменнік.— Штосьці такое сапраўды намецілася. А калі намецілася, трэба шукаць прычыну. Я лічу, што прычына — нашы безаглядныя дзеянні. Перастараліся, калі балоты асушалі, калі высякалі лясы. Цяпер Цэнтральная Расія дрэнна прыкрывае ад сухавеяў Палессе, а Палессе слаба засланяе астатнюю Беларусь. Сушаць нас паўднёвыя вятры. З азіяцкіх стэпаў, пустынь...

Думка ў духу часу. Цяпер там, на Поўдні, вядуцца вялікія лесанасаджэнні, якія ў хуткім часе, відаць, прыпыняць шлях бязлітасным сухавеям.

Касцюшка ўдзячны пісьменніку за такія размовы. Тым болей што Чарняўскі, здаецца, нават паспрыяў яго ўладкаванню ў газету.

— Хачу вас пачаставаць,— прапануе ён, не знайшоўшы ніякага дыпламатычнага ходу.

— Можам выпіць,— ахвотна згаджаецца Чарняўскі.— Па цэлых сто грамаў. Пры адной умове. Кожны плаціць за сябе...

Прасторная, незабудаваная пустка насупраць Дома друку шчыльна застаўлена пафарбаванымі ў сіні, зялёны колер ларкамі, наспех збітымі з дошак павільёнчыкамі. Ёсць дзе падвесяліць душу. Гандлёвыя галовы правільна разлічылі, што ў такім месцы ларкі і павільёнчыкі пуставаць не будуць. Хіба, атрымаўшы ганарар, не захоча творчы чалавек выпіць чарку, закусіць смажанай ці варанай траской? Тым болей што можна з аднаго ларка перайсці ў другі, з другога ў трэці і асабліва нікому не кідацца ў вочы.

Яны патыкаюцца ў адзін, другі павільёнчык, знаходзяць нарэшце такі, дзе найменш тлумна, садзяцца за столік. Шыракаваты твар Чарняўскага выпраменьвае спакой, добразычлівасць. Пісьменнік удзячны Касцюшку за запрашэнне. Ёсць такія людзі — удзячныя за дробязь.

Касцюшка прыносіць дзве шклянкі, напалавіну налітыя гарэлкай, па кухлі піва і талерку са смажанай траской. Добрая рыба траска! Служыць закускай у кожнай сталовай, буфеце, у такім вось ларку-павільёнчыку і замяняе сала, мяса, іншыя прысмакі ў не надта багатыя пасляваенныя гады.

— Рыба з Белага мора,— гаворыць пра траску Чарняўскі.

Яны выпіваюць, закусваюць рыбай з Белага мора, разважаюць пра рэдакцыйныя справы. За акном цёмны асенні вечар. Самая сумная пара — сярэдзіна лістапада. Бясконца доўгая ноч, кароценькі шэры дзень. Касцюшка, намерваючыся ехаць у Мінск, найбольш баяўся такіх вось доўгіх вечароў, самотнай адзіноты. Добра вучыцца юнаку, маладому чалавеку, не абцяжаранаму абавязкамі, клопатамі, сям’ёй.

— Не сумуеш па жонцы? — нібы адгадваючы Касцюшкавы думкі, пытае Чарняўскі.

Пісьменнік закрануў балючае месца. Супярэчлівыя пачуцці валодаюць Касцюшкам. Вядома, ён сумуе. З жонкай пражыў тры гады, ведае яе яшчэ з даваеннага часу. Са школы пачалося каханне Касцюшкі да Маргарыты, прайшло праз вайну, ростані. Ажаніўся ён, як пішуць у кнігах, з дзяўчынай першага кахання...

Вядома, душы перад Чарняўскім Касцюшка не раскрывае, як не раскрывае ні перад кім другім. Цяжка, няпэўна ў яго на сэрцы. Ёсць у паводзінах Маргарыты штосьці такое, што даўно выклікае неспакой.

— Сумую,— адказвае ён, каб што-небудзь сказаць.— Увогуле, з цяжкасцю прывыкаю да горада.

— Я таксама так пачынаў.— Чарняўскі, які не курыць, няўмела прыпальвае цыгарэту.— Ведаю гэтае пачуццё. Прывыкнеш. Я прыехаў сюды ў дваццаць гадоў. Пасля тэхнікума толькі лета і восень папрацаваў у раённай газеце. Напачатку месца сабе не знаходзіў...

Вось так, значыцца. Чарняўскі жыве і працуе ў Мінску гадоў дваццаць, тым часам піша толькі пра вёску. Толькі яна дае яму натхненне. Нядаўна раз’язны карэспандэнт выдаў кніжачку апавяданняў. Называецца «Золата зямлі».

Касцюшку цікава дазнацца, як працуе пісьменнік. Якім, напрыклад, матэрыялам карыстаўся, калі пісаў апавяданне, што дало назву ўсяму зборніку? У гэтым апавяданні расказваецца, як нечакана для саміх сябе калгаснікі атрымалі высокі ўраджай. Рашылі ачысціць сажалку, знайшлі на яе дне вялікія залежы ілу, затым завезлі іл на палі...

— Сапраўды так было? — дапытваецца Касцюшка.

— Магло быць. У мастацтве, брат, важна выявіць магчымае ў сапраўдным. Схапіць, так сказаць, перадавыя тэндэнцыі часу.

Касцюшка не пярэчыць, хоць гісторыя з ілам здаецца яму не зусім праўдзівай. Навошта іл капаць, калі ў некаторых вёсках гной прападае? У Міхалавічах, дзе жыла Маргарыта і куды часта наязджаў Касцюшка, ля калгасных фермаў, хлявоў гадамі ляжаць горы выкінутага гною; жыжка, гразь так забруджваюць грамадскі двор, што прайсці нельга...

Але, можа, і карэспандэнт правы. Болей Касцюшкі паездзіў, пабачыў. Важна за асобнымі пралікамі, недахопамі не праглядзець галоўную лінію жыцця, зазірнуць у заўтрашні дзень, умець разгадаць яву недалёкай будучыні...

У нарысах, якія пісаў, друкаваў у абласной газеце Касцюшка, таксама нямала прыхарошанага і нават выдуманага. Якую-небудзь даярку ён так распісваў, што яна здавалася гераіняй. А яна проста добра працавала. Але хіба нельга паверыць, што заўтра ўсе даяркі будуць гэтак жа працаваць?

Цёмны, як дзёгаць, асенні вечар глядзіць у акно павільёнчыка. Але Касцюшка з Чарняўскім яшчэ доўга сядзяць. Гаворка пераходзіць з аднаго прадмета на другі...

Другі год ідзе карэйская вайна. І канца ёй не відаць. Кожны нумар газеты запоўнен матэрыяламі пра небяспеку тэрмаядзернай вайны. Неспакойна ў свеце...

## II

Трасучыся, трамвайны вагон грыміць па рэйках. Гэтым гулкім трамваем, перасякаючы ледзь не ўвесь горад, дабіраецца Касцюшка ў інтэрнат на Маскоўскай вуліцы.

Смутна, нядобра на душы.

Сваім пытаннем пра сям'ю, жонку Чарняўскі як бы падагрэў трывогу, якая не пакідае Касцюшку. Толькі тыдзень мінуў, як ён прыехаў з дому, а ўжо зноў сумуе па сям'і, мястэчку. Бываюць хвіліны — месца не знаходзіць. Горай за ўсё, што ад Маргарыты не дачакаешся ліста. Жыве сваім жыццём і яго ў гэтае жыццё не дапускае. Так заўсёды было. Нават у вайну. Калі ў канцы сорак трэцяга года мясцовасць Касцюшкі была вызвалена ад немцаў і ён усім, каго ведаў, напісаў лісты, толькі ад адной Маргарыты не атрымаў адказу. На яго шматлікія пасланні яна адказала толькі праз год. Ён насіў яе лісты ў нагруднай кішэньцы гімнасцёркі, ледзь не штодзённа перачытваючы.

Але ў вайну і некаторы час пасля вайны Маргарыта была для Касцюшкі нікім. Цяпер жонка. Працягвае, аднак, ранейшае. Касцюшка добра памятае першую праяву крыўды, выкліканую маўчаннем Маргарыты. Было гэта ў той год,

калі ён з ёй ажаніўся. У маі запісаліся, а ў ліпені ён паехаў у Мінск на сесію завочнікаў. Быў на трэцім курсе. Ён добра памятае тое лета. Папярэдні год быў ураджайны і гэты не скупіўся на цеплыню, дажджы, як бы абяцаючы яшчэ больш важкі колас, багацейшы зажытак.

Касцюшка мусіў здаваць у сесію шэраг асабліва цяжкіх прадметаў. Сярод іх дыямат, зарубежную літаратуру, палітэканомію.

Палітэканомію, між іншым, ён някепска вывучыў. Выбіраючы вольныя хвіліны, з пачатку лета ляжаў на зарослым муравой бацькавым двары, штудзіраваў формулы ўзаемазалежнасці грошай, тавару, капіталу, іншыя незнаёмыя катэгорыі.

З усіх грамадскіх прадметаў палітэканомія яго найбольш захапіла. Гэта быў прадмет, які ў школе зусім не вывучалі. Касцюшка меў два старыя падручнікі палітэканоміі і папераменна чытаў то адзін, то другі. Ды і першы том Марксавага «Капіталу» таксама прачытаў. Том гэты ён купіў у кіёску, яшчэ ў ваеннай Маскве, калі пасля шпіталя трапіў у сталіцу адразу пасля вызвалення мястэчка.

Проста бліскуча адказваў Касцюшка на экзамене па палітэканоміі. Выкладчык, зачытваючы адзнакі, яго асабліва выдзеліў, пахваліў перад усёй аўдыторыяй.

Завочнікі жылі тое лета ў драўлянай двухпавярховай школцы на скрыжаванні вуліц Віцебскай і Астроўскага. Вельмі быў утульны іхні інтэрнат. На двары старыя разгалістыя ліпы, у засені якіх завочнікі хаваліся ад спёкі. Прахалода, цішыня ў невялікіх класных пакойчыках. Жыць наогул стала лягчэй: ідзі ў магазін, купляй што хочаш: цукар, селядцы, каўбасу.

Касцюшка пра свой поспех пры здачы экзамену па палітэканоміі адразу напісаў Маргарыце. Але дарэмна шукаў ён у стусе лістоў, якія паштальён звычайна пакідаў у калідоры на падаконніку, ліст ад Маргарыты. Не прыходзіў яму ліст ад жонкі. Другім завочнікам жонкі пісалі амаль кожны дзень. Знаходзіўся ў іх час і жаданне пісаць. Маргарыта маўчала. Ёй было ўсё роўна, як яе муж здае экзамены.

Побач з інтэрнатам завочнікаў кінатэатр «Беларусь». Здаўшы апошні экзамен, Касцюшка нарэшце схадзіў у кіно. Стоячы перад пачаткам сеанса ў шчыльна забітым людзьмі, цес-

ным фае кінатэатра, дзе ўзмоцненыя дынамікам разлягаліся мелодыі патэфонных пласцінак, ён пачуў песню, якая вельмі пасавала да яго тагачаснага настрою: «Видно, без внимания обращается с человеком человек...» Першы раз у душы Касцюшкі варухнулася крыўда на Маргарыту — яна толькі пад самы канец сесіі прыслала адзін абыякавы ліст...

Вось і вуліца Маскоўская. Як усе ўскраінныя вуліцы, яна болей-меней уцалела ў віхуры вайны. Забудавана не вельмі высокімі камяніцамі, на скорую руку падрамантаванымі, падмазанымі.

Увогуле Касцюшку падабаецца месца, дзе ён жыве. Па абодва бакі Маскоўскай — вулачкі, завулкі, тупікі, наўсцяж застаўленыя драўлянымі асабнячкамі, дамкамі, нават звычайнымі хацінамі, шчыльна атуленымі яблыневымі садамі. Шмат такіх вуліц і вулачак нават з гучнымі назвамі — Талстога, Чэхава — нібы перавандравалі ў Мінск з невялікіх раённых гарадкоў. Гаспадары дамкоў і катэджыкаў трымаюць курэй, свіней, іншы раз нават кароў. Вось так — каровы ў сталічным Мінску!..

Цяпер сады на ціхіх бакавых вулічках голыя, у іх цёмным вецці свішча вецер. Аканіцы ў дамках, катэджыках шчыльна прычынены, і толькі дзе-нідзе праз шчыліну прабіваецца палоска святла. Гэтыя вулачкі як бы яднаюць Касцюшку з мястэчкам, невялікім надпрыпяцкім горадам, дзе выходзіць абласная газета, наогул з сельшчынай, якую ён не можа выкінуць з душы. Лягчэй яму дыхаецца на гэтых нават не замошчаных каменем вуліцах, на драўляных тратуарах, якія адчайна рыпяць і скрыпяць пад нагамі...

Інтэрнат на Маскоўскай — асяродак аспірантаў і нават выкладчыкаў. З выкладчыкаў тут жывуць тыя, хто стаіць у чарзе на атрыманне кватэр. Чарга пасоўваецца марудна: за апошні год толькі адзін выкладчык вызваліў пакой на Маскоўскай вуліцы.

Неблагія аспіранты падабраліся ў пакоі, у якім жыве Касцюшка. Па-першае, таварыскія, нос перад ім, завочнікам, не дзяруць, ахвотна ідуць на дружбу. Нават нейкую перавагу адчувае былы завочнік. Ён прыйшоў у аспірантуру з жыцця, працаваў папярэднія гады і цяпер працуе, а яны рубля не

зарабілі. Сядзяць на дзяржаўнай стыпендыі і на шыі бацькоў. Нават студэнцкіх прывычак не пазбавіліся. Сабраўшыся разам, шумяць, рагочуць. Без выбрыкаў, кепікаў, падколвання размаўляць адзін з другім не могуць. Некаторыя з аспірантаў, карыстаючыся тым, што асаблівага кантролю за іх заняткамі няма, і на навуку асабліва не налягаюць.

«Per aspera ad astra» — «Праз перашкоды да зорак»... Гэты лацінскі выраз, які ведае Касцюшка з другога курса ўніверсітэта, нібы перагукваецца са словам «аспірант». «Аспірант» азначае: чалавек, які нечага дамагаецца.

Касцюшкавы таварышы шчыра дамагаюцца ведаў. Аспірант — не студэнт. Студэнту абы здаць экзамен. Тым часам аспірант праз тры гады сам будзе вучыць студэнтаў і свой прадмет мусіць ведаць дасканала.

З раніцы да вечара выседжваюць сябры па пакоі ў Ленінскай бібліятэцы. Аспірантура і ёсць сядзенне, корпанне ў паперах, бо за тры гады навучання трэба не толькі гару кніг перачытаць, а і напісаць дысертацыю, унесці, так сказаць, уклад у навуку.

Касцюшка заходзіць у пакой, акідваючы позіркам стол — ён стаіць якраз пасярэдзіне пакоя, у вольным прамежку, што ўтварыўся між прыстаўленых да сценак ложкаў. Стол звычайны, пафарбаваны ў цёмна-буры колер, нічым не пакрыты. На ім звычайна ляжаць пісьмы. Але, як і ў студэнцкія гады, няма пісьма Касцюшку. І, хоць ён асабліва не спадзяецца на такую раннюю вестку ад Маргарыты, настрой прыкметна зніжаецца.

Аспіранты прыходзяць у інтэрнат, бадай, толькі начаваць. Вось і цяпер на месцы адзін Казюк, аспірант-географ, прысадзісты, камлюкаваты хлапчына з сінімі, як вясновае неба, трохі пукатымі вачамі. Казюк поркаецца ў куфэрку, перакладаючы рэчы. Гэта яго любімы занятак. Казюк ледзь не штодня купляе якую-небудзь драбязу, прынёсшы ў інтэрнат, кладзе на ложак, а вечарам шукае ёй месца ў куфэрку.

— Пі чай,— гаворыць Казюк.— Кіпятку я прынёс. Заварку зрабіў свежую.

Касцюшка дзякуе. Казюк добры таварыш. Нездарма ў яго з ім прыязныя адносіны. Паміж іх ложкамі стаіць ложак

філосафа Жэні Гуля, але Гуль жыхар не сталы ў інтэрнаце, часта нават не начуе. Так што Касцюшка з Казюком суседзі найбліжэйшыя, ноччу, калі не спіцца, часта між сабой перашэптваюцца.

— Толькі мы з табой асталіся,— паведамляе Казюк.— Смаленчука не будзе, Алег дадому паехаў.

— Ён жа быў нядаўна дома.

— Зноў паехаў. Бацька хворы. Прыйшла тэлеграма.

Алег Мардасаў яшчэ адзін філосаф.

У адрозненне ад Гуля, які спецыялізуецца па дыялектычным матэрыялізме, Мардасаў абраў гісторыю філасофіі. Ён самы старэйшы ў пакоі. У вайну быў авіятэхнікам, скончыў педінстытут. Бацька Мардасава буйны начальнік: ні то дырэктар завода, ні то нават кіраўнік трэста.

Казюк выкладвае навіны:

— Тут, брат, была драма з камедыяй. Смалянчук зноў высвятляў адносіны з сваёй Люсяй. Мяне выгнаў з пакоя, сказаў — выклікаюць у студкам...

Казюк расказвае адменна: вялікія сінія вочы нібы падсвечваюць тое, пра што гаворыць. Калі пра што-небудзь вясёлае, вочы ззяюць, смяюцца, калі пра сумнае — робяцца бляклыя, нібы прысыпаныя попелам. Як цяпер.

Смалянчук вывучае гісторыю сярэдніх вякоў. За апошні месяц у пакоі вынікла дзве ці тры дыскусіі, самым дасціпным у іх быў Смалянчук. Ён відны сабой: высокі, стройны, з тонкім далікатным тварам. Але ў той жа час вельмі самалюбівы, нават жорсткі.

Люсю, пра якую гаворыць Казюк, Касцюшка трохі ведае. Яшчэ калі ён быў студэнтам і прыязджаў на сесіі, выдзеліў Люсю сярод астатніх студэнтак. Здавалася яна яму недаступнай прыгажуняй: на вытанчаным чарнявым твары як бы насіла пячаць ганарлівасці, строгасці. Не ведаў Касцюшка, што ўжо тады пахаджваў з Люсяй Смалянчук, ледзь не штодзень сварыўся з ёй, мірыўся, не могучы ні сысціся, ні разысціся.

## III

Час позні — другая гадзіна ночы. Касцюшка з Казюком распранаюцца, кладуцца спаць. Інтэрнат на Маскоўскай тым харошы, што няма тут лішняга гаму, ляманту. Нездарма сямейныя выкладчыкі яго аблюбавалі.

Казюк як лёг, так і засвістаў носам. Касцюшка яшчэ доўга не засне. Такая ў ягоным жыцці пачалася паласа...

Усё папярэдняе жыццё ён спаў добра. У дзяцінстве, юнацтве многа чытаў, прыхопліваючы іншы раз ледзь не палавіну ночы. Але, адклаўшы кнігу ўбок, засынаў імгненна.

Усю вайну Касцюшка правёў далёка ад дому. У канцы сорак другога года трапіў у ваеннае вучылішча, летам сорак трэцяга — на фронт. Два разы пасля раненняў лячыўся ў шпіталях. Спаў, дзе прыткнецца. Гам, шум, лямант, нават страляніна і бамбёжкі на сон не ўплывалі.

Хоць не зусім так. У казармах, інтэрнатах ён засынаў трохі пазней астатніх.

Калі ў снежні сорак другога года Касцюшка прыбыў у ваеннае вучылішча, будучых курсантаў на некалькі дзён размясцілі ў ізалятары, вялізным бараку, дзе чакалі свайго лёсу дзвесце пяцьдзясят чалавек. Ад аднаго дыхання саграваўся барак. Яго месца было на нарах трэцяга яруса, пад самым вільчыкам. У вільчыку была дзірка, праз якую падміргвала сіняватая зімовая зорка. Ён заўсёды цікаваў за зоркай, і, калі яна знікала з абсягу назірання, засынаў.

Інтэрнаты — тая ж казарма. Асабліва першыя, пасляваенныя. Разбураны, вынішчаны Мінск не мог даць сваім студэнтам нічога лепшага. Касцюшка спаў у пакоях, дзе стаяла па восем, дзесяць, пятнаццаць ложкаў. Інтэрнатаў не хапала, і аднойчы пяцьдзясят завочнікаў пасялілі ў аўдыторыі хімічнага факультэта. Ноччу з аднаго канца пакоя-стадолы ў другі перакатваліся хвалі магутнага храпу. Нібы кіпела, усхліпваючы, лава якога-небудзь абуджанага вулкана.

Асабліва гучныя рулады — з прысвістам, булькатам, клекатаннем — выводзіў тоўсты дырэктар школы, з вялікім, нібы начоўкі, жыватом. Ён, відаць, пакутаваў ад задышкі. Але на гэта зусім не зважаў ягоны дзівакаваты сусед, таксама настаўнік. Прачнуўшыся ад храпу, ён падхопліваўся з пасцелі,

падскокваў да дырэктарскага ложка і торкаў калегу босай нагой у бок:

— Павярніся на бок, карыта! Напхаў трыбух чым папала. Здыхацца не можаш!..

Нават пры пералівістых інтэрнацкіх трубах Касцюшка засынаў. Пачаў спазнаваць бяссонніцу пасля абароны дыпломнай работы. Падкасіла яго дыпломная...

Экзаменацыйную камісію ўзначальваў доктар філасофскіх навук Дуднікаў. Вузкаплечы, з худым аскетычным тварам, пасмай няпэўнага колеру валасоў, якая навісала на нізкі зморшчаны лоб, ён хадзіў зямлі пад сабой не чуючы. Нібы Бог. Якраз быў у зеніце славы: загадваў кафедрай ва ўніверсітэце, ездзіў чытаць лекцыі ў Маскоўскі ўніверсітэт, у дадатак займаў немалую пасаду ў высокай інстанцыі.

У вайну Дуднікаў працаваў нампалітам у шпіталі, размешчаным у Маскве. Яшчэ вайна не скончылася, а ён паспеў абараніць доктарскую дысертацыю на філасофскую тэму.

З дысертацыі Дуднікава атрымалася ёмістая кніга. Называецца «Матэрыя і мысленне». Касцюшка купіў яе. Суцэльныя цытаты. Уласнага тэксту аўтара вельмі мала. Прачытаўшы кнігу, а затым яшчэ раз перагартаўшы яе, Касцюшка так і не зразумеў, што хоча сказаць доктар філасофіі. Бо ніяк нельга зразумець з яго кнігі, як і чаму з нежывой матэрыі ўзнікае жывая, паяўляецца здольнасць усяго жывога адчуваць, рэагаваць на знешні свет, прыстасоўвацца да яго, а ў чалавека — і мысліць, рабіць абагульненні, пазнаваць прыроду, часткай якой ён сам з’яўляецца.

З-за Дуднікава пачалася ў Касцюшкі бяссонніца.

Для дыпломнай работы ён абраў раман Васіля Ажаева «Далёка ад Масквы». Не сказаць, каб раман яму вельмі падабаўся. Затое тэма якая! Як у люстры, адбівае раман гераічны, наступальны характар эпохі, у якую прыйшлося жыць пакаленню Касцюшкі.

Пісаў дыпломную Касцюшка па вечарах, усю сумную доўгую восень. Да зімовай сесіі, якая пачыналася з канца студзеня, работа збольшага была напісана. Касцюшка перадрукаваў яе на машынцы і, прыехаўшы ў Мінск, аддаў навуковаму кіраўніку, маладому кандыдату навук Злотніку.

Вярнуўшыся з сесіі (яна працягвалася дваццаць дзён), Касцюшка з хваляваннем чакаў адказу навуковага кіраўніка. Разлічваў на поспех, на пахвалу Злотніка. Усё-такі ён журналіст і словам як быццам валодае. Матэрыялы, якія змяшчае ў абласной газеце, пахвальваюць не толькі знаёмыя газетчыкі з раённых рэдакцый, а і настаўнікі, урачы, аграномы — сельская інтэлігенцыя.

Водзыў навуковага кіраўніка нарэшце прыйшоў. Злотнік ацаніў работу стрымана, параіўшы напісанае перапрацаваць, дапісаць новы раздзел аб мастацкіх вартасцях рамана «Далёка ад Масквы».

Спачатку Касцюшка абразіўся. Ён не такі ўжо навічок у крытычным разборы літаратуры. Трэці год друкуе ў абласной газеце рэцэнзіі на мастацкія творы. Прытым на такія, якія толькі паяўляюцца ў часопісах і крытычная думка наконт якіх яшчэ не ўсталявалася.

Некалькі дзён паразважаўшы, Касцюшка мусіў, аднак, прызнаць справядлівасць большасці крытычных заўваг навуковага кіраўніка. Залішне многа ў ягонай рабоце квяцістых, урачыстых слоў, якія, па сутнасці, мала нясуць канкрэтнага сэнсу. Ды і глыбокай думкі бракуе рабоце. І дока вялікі ягоны кіраўнік! Не шмат ска́заў запазычыў Касцюшка з рэцэнзій, артыкулаў, прысвечаных раману Васіля Ажаева, але шустры дацэнт іх вывудзіў усе, падкрэсліў чырвоным алоўкам, памеціў, адкуль што ўзята.

Зноў засеў за дыпломную работу Касцюшка. Сябе не шкадаваў. Вымарваў старонкі за старонкай, стараючыся выказаць, што сам думае, што знаходзіць цікавага ў рамане рускага пісьменніка. Вядома, раман сухаваты. Напісаны галавой, розумам, а не сэрцам. Але затое якое дакладнае адчуванне гераічнага пульсу сучаснасці, яе высокіх сяганняў! У тым, што сам ён жыве ў гераічны, нябачаны, нечуваны ў гісторыі чалавецтва час, Касцюшка ніколькі не сумняваецца.

Прыходзіць, нарэшце, другі водгук навуковага кіраўніка. На гэты раз, бадай, залішне хвалебны. Злотнік вызначае работу як цалкам спелую, творчую, багатую на самастойныя думкі і назіранні.

І вось па такой рабоце ўдарыў Дуднікаў! Той самы доктар філасофскіх навук, прафесар, які напоўніў сваю кнігу

суцэльнымі цытатамі, а ў яго ўласным тэксце Касцюшка не знайшоў ніводнага слова, якое б можна было пасмакаваць, ніводнай адметнай думкі.

Рэцэнзент Касцюшкі дацэнт Шмаліна, таўставатая, з трохі азызлым, засеяным вяснушкамі тварам, у маладосці, відаць, досыць прывабным, напаткала Касцюшку яшчэ да афіцыйнай абароны дыпломных работ, пахваліла яго, параіла не хвалявацца: дзяржаўная камісія ацэніць яго работу належным чынам.

Нарэшце пачалася абарона. Калі чарга дайшла да Касцюшкі, Дуднікаў похапкам падсунуў да сябе дыпломную работу, стаў яе паспешліва гартаць.

— Ці ёсць тут хоць адно слова «народнасць»? — раптам спытаў.

Касцюшка збянтэжыўся. Не чакаў такога пытання.

На выручку дыпломніку прыйшоў навуковы кіраўнік:

— Важна сутнасць, а не тэрміны.

— Вас не пытаюць! — рашуча абсек Злотніка старшыня экзаменацыйнай камісіі.

І пайшло...

Злотнік па-рыцарску абараняў Касцюшку, а дацэнт Шмаліна пазіцыі здала. Сваё выступленне звяла да таго, што ў кожнай рабоце абавязкова павінна раскрывацца сутнасць такой важнай катэгорыі, як народнасць.

Ацэнка рабоце была зніжана на бал.

Касцюшка не крыўдаваў з-за ацэнкі. Чацвёркі ў ягонай залікоевай кніжцы былі, і нават не адна. Душыла крыўда. Знаёмы ён з некаторымі работамі, якімі кіравалі Шмаліна ці нават сам Дуднікаў. Шмаліна яшчэ сяк-так, а Дуднікаў нават не чытае работ сваіх дыпломнікаў. У лепшым выпадку пагартае іх і ставіць пяцёркі.

Навошта так рабіць? Як магло здарыцца, што няма справядлівасці, сумленнасці на такой вышыні, як дзяржаўная экзаменацыйная камісія?

Пасля абароны дыпломнай Касцюшка перажываў нешта падобнае да душэўнага крызісу. Не, у жыцці ён не расчараваўся і ў дабрачыннасць людзей верыў. Лічыў, што возьме верх добрае. Але паспрабуй дакажы сваё дзяржаўнай камісіі, якую ўзначальвае прафесар Дуднікаў!..

Рыхтуючыся да экзамену па рускай літаратуры, Касцюшка перастараўся. Пачаў лавіць сябе на тым, што не памятае прозвішча то аднаго героя, то другога. Як бы правалы сталі вынікаць у памяці. Герой, назва твора, дата напісання, зрэшты, усплывалі, але дзеля гэтага прыходзілася затрачваць велізарныя намаганні.

Касцюшка страціў спакой і нарэшце сон. Дайшло да таго, што ноччу, напалоханы да поту на целе забытым імем якога-небудзь героя, ён перабіраў літары алфавіта, знаёмыя імёны, каб як-небудзь наткнуцца на патрэбнае прозвішча. Ён думаў, што пачынае вар’яцець...

Ён і так быў змізарнелы, а за час экзаменаў выпетраў на шчэпку. Не ведаў, што ёсць таблеткі, якія дапамагаюць заснуць. Лячыўся ад бяссонніцы тым, што, кладучыся ў ложак, трошкі выпіваў. Не, ён ніколі лішне не любіў гарэлкі, віна і за час экзаменаў не прывык. Так ці іначай, але дорага абышоўся Касцюшку дыплом. Дамоў ён вярнуўся знясілены, знерваваны, з бяссонніцай...

У дадатак выбухнула карэйская вайна. Ён блізка да сэрца прымаў яе падзеі, асабліва няўдачы, якія пачаліся восенню таго памятнага года.

Цяпер Касцюшка бяссонніцы не баіцца. Навучыўся з ёй змагацца. Трэба паболей хадзіць, стамляцца фізічна, лішне не тлуміць галаву. Сон так ці іначай прыйдзе. Гадзіну, дзве, тры будзеш варочацца, уздыхаць і нарэшце заснеш.

## IV

Смутная трывога не пакідае Касцюшку. Не ведае, адкуль яна. У апошні яго прыезд Маргарыта была ласкавая, пакорлівая, нейкая задуменна-ціхая. Нават прыходзіла на станцыю яго спатыкаць. Ніколі раней такога не было, і, можа, таму Касцюшка трывожыцца.

Маці, аднак, хадзіла невясёлая. Нават падарунку — шарсцяной гарусавай хустцы, якую ён прывёз з Мінска,— не ўзрадавалася.

У бацькавай хаце Касцюшка пражыў з Маргарытай больш як тры гады. І вяселле іхняе было ў гэтай хаце. Але пасля вя-

селля Маргарыта вярнулася ў Міхалавічы, да бацькоў. Жыла там лета і восень.

У тую восень пасля сваёй жаніцьбы Касцюшка часта завітваў у Міхалавічы. Прыязджаў у надпрыпяцкі горад, у рэдакцыю здаваў матэрыялы і, вяртаючыся назад, жадаючы хутчэй пабачыцца з Маргарытай, у чыгуначным гарадку Клінск ішоў не на станцыю, а на шашу. «Галасаваў», садзіўся ў кузаў спадарожнай паўтаратонкі, па шашы-брусчатцы дабіраўся да вёскі Сівалобы і там злазіў.

Ад Сівалобаў да Міхалавіч рукой падаць, нейкія пяць кіламетраў.

Дарога ў Міхалавічы пясчаная, да палавіны ідзе лесам. Лісцвяны лес навокал Сівалобаў з бярозы, альхі, асіны пераходзіць затым у суцэльны сасоннік. Адбыўшы сесію ў Мінску, вярнуўшыся на работу ў рэдакцыю, Касцюшка застаў лес у перадасенняй задуменнасці. Асіна, клён палыхалі нібы вогнішчы, паціху засыпала вакол сябе дол жоўтым лістом бяроза. Касцюшка ішоў вячэрнім лесам, здаралася, у дарозе яго засцігала ноч. Ён у такім выпадку падоўгу стаяў ля варот Маргарыцінага двара — стукаў і грукаў, пакуль нарэшце адчынялі наглуха замкнутыя на ноч вароты. Маргарыта сустракала мужа на ганку, цёмным, шчыльна абвітым дзікім вінаградам, хінулася да яго, і было такое ўражанне, што чакала яго, радуецца яго прыезду.

Бацькі Маргарыты — Амалія Сідараўна і Амос Фёдаравіч Асмалоўскія — сельскія дактары. Інстытутаў не канчалі, але ў Міхалавічах, вялікім, раскіданым, размешчаным на самай седлавіне пясчанага пагорка сяле, працуюць гадоў трыццаць, карэнні пусцілі глыбока. Іхні дом, бадай, найлепшы ў надзвычай бедным, занядбаным сяле, а пры доме сад, сякая-такая гаспадарка.

Відаць, невыпадкова Касцюшка захапіўся Маргарытай, якая прыехала ў местачковую сярэднюю школу з вясковай сямігодкі. Ён нічога не ведаў ні пра яе самую, ні пра яе бацькоў, ні пра іхнюю прыгожую сядзібу. Яму не прыйшлося вучыцца разам з Маргарытай. Восьмых, дзявятых класаў у школе было па два, яна трапіла ў «А» клас, ён — у «Б», і ён заўважыў яе толькі пад канец навучання ў школе, бо

Маргарыта ў восьмым класе сядзела два гады. Іх звёў выпадак. З рук у рукі перадавалася ў старэйшых класах школы кніга «Мужчына і жанчына» яшчэ дарэвалюцыйнага выдання. Касцюшка ніяк не мог залучыць яе сабе хоць на адну ноч. Ён даведаўся, што кніга належыць Маргарыце, пайшоў у дзявяты клас, спытаў, за якой партай сядзіць Асмалоўская, нарэшце ўбачыў яе самую і папрасіў кнігу. Назаўтра Маргарыта сама завітала ў дзясяты клас, дала Касцюшку ў рукі абгорнутую чыстай белай паперай кнігу. З гэтага часу яны пачалі вітацца, усміхацца адно другому, а перад самай вайной, выпадкова сутыкнуўшыся, разы два-тры пагаварылі, аднойчы нават пасядзелі на лавачцы. Касцюшка цьмяна адчуваў, што дзяўчына належыць да іншага, чым ён, свету, і гэта радавала і хвалявала.

Думаць пра Маргарыту ён пачаў пазней, трапіўшы ў канцы вогненнага лета сорак першага года ў Куйбышаў, а яшчэ праз год — у ваеннае пяхотнае вучылішча ў невялікім прыволжскім гарадку. Ён штохвіліну ўспамінаў захопленую ворагам Радзіму, роднае мястэчка, і ўспаміны гэтыя нязменна нараджалі вобраз Маргарыты. Касцюшка за свае сямнаццаць гадоў прачытаў многа кніг, сяганні меў узвышаныя і, можа, таму з гурту знаёмых школьных дзяўчат выдзеліў Маргарыту. Можа, яму, як славутаму Дон-Кіхоту, проста трэба было знайсці сваю Дульцынею Табоскую, і ён прызначыў на гэтае месца Маргарыту. Яна здавалася асаблівай, незвычайнай, бо жыла не ў мястэчку і ён пра яе амаль нічога не ведаў...

Даўно ў Касцюшку праявілася схільнасць да летуценнасці. Пачынаючы з ранняга дзяцінства, выдумліваў ён дзівосныя карціны, становішчы, у якія нібыта трапляў, а потым, успамінаючы іх, не мог пэўна сказаць, што было ў сапраўднасці, а што толькі ў ягоных уяўленнях. У дзяцінстве бацькі, паехаўшы ў госці да сваякоў на далёкі хутар Прыстань, узялі з сабой маленькага Сяргея. Калі ехалі назад, ён, змарыўшыся, пачаў кляваць на возе носам. Ён то патанаў у салодкай напаўдрымоцe, то раптам прачынаўся і ў кароткія прамежкі паміж сном і явай выразна бачыў, што на полі ў Рогаўцы, дзе Касцюшкі мелі клін зямлі, растуць вялізныя, нібы парасоны, грыбы. Ён так выразна бачыў гэтыя агромністыя грыбы з

цёмнымі каптурамі-шапкамі, што да самага паўналецця не мог выкінуць з памяці дзіўны малюнак. Прыкідваў, што то магло быць у сапраўднасці, і прыходзіў да высновы: хутчэй за ўсё, цені ад дрэў, кустоў на схіле дня.

Ён лёгка, без асаблівага намагання выбаўляўся са стану летуценнасці, ныраючы ў знаёмы, звычайны, рэальны свет гэтак жа, як кожны чалавек пераходзіць ад сну да явы. Летуценнасць не замінала яму жыць, разумець сапраўдны сэнс рэчаў, з'яў, якія яго акружалі. Чытаць Касцюшка пачаў рана, кнігі так моцна захапілі яго ў свой палон, такія прыгожыя, ружовыя далі перад ім адкрывалі, што ён ніколі не стамляўся вандраваць па нязведаных дарогах гэтых цудоўных даляў.

Вяртаючыся са школы, Касцюшка прыкідваў, колькі часу патраціць, каб непрыкметна прынесці са станцыі, з дрывянога склада плашку-другую дроў, распілаваць, пакалоць, схадзіць у краму, пастаяць у чарзе па хлеб, зрабіць нарэшце пісьмовыя ўрокі. Часу на чытанне кніг заставалася мала. Касцюшка знаходзіў час, укарочваючы сон. Чытаў звычайна да паўночы, да першых, нават другіх пеўняў, і гэта асабліва не ўплывала на здароўе.

Стыхія летуценнасці захліствала яго і на ўроках. Тых настаўнікаў, якія нудна, не адрываючы носа ад падручніка, тлумачаць матэрыял, ён амаль не слухаў. Зрэшты, ён сам мог прачытаць тыя ці іншыя старонкі падручніка і без надакучлівага тлумачэння зразумець напісанае. На пустых уроках ён трызніў: размаўляў, спрачаўся, вандраваў разам з героямі, якія ноччу прыйшлі да яго з кніг. Хадзіў іхнімі дарогамі, уяўляў рэкі, горы са снежнымі шапкамі, прэрыі, савану, пустыні.

Першы раз ён закахаўся яшчэ ў пятым класе. І дзіва дзіўнае: пачаў думаць пра сваю Сашу Бабрынскую не тады, калі з сумкай, поўнай чытанак, задачнікаў, сшыткаў, шыбаваў у школу, а летам, калі шкаляроў адпусцілі на канікулы. Гэта была нібы хвароба. Хвіліну ён не мог пражыць, каб не ўявіць вясёлую, непаседлівую Сашу, якая, рагочучы, насілася між партаў, даганяла сяброўак, абнімаючы іх, шэпчучы на вуха штосьці таямнічае, прызначанае не для ўсіх.

Трызнячы пра Сашу, Касцюшка адчуваў, як у грудзях замірае сэрца, а прыемна-салодкая хваля разліваецца па ўсім

целе. Саша жыла ў другім канцы мястэчка, але ў Касцюшкі нават думкі не ўзнікла схадзіць туды, зірнуць на яе дом, пабачыць яе самую. Хапала яму таго, што ён мог уяўляць іхнюю сустрэчу, размову. Дый што ён мог ёй сказаць? Што ён думае, марыць пра яе? Касцюшка лепш бы даў руку адсекчы, чым аб гэтым заікнуцца. Ён яе штохвілінна ўспамінаў, трызніў ёю, яна запоўніла сабой увесь свет, але свет гэты належаў яму аднаму, і нават Сашы не было да яго ніякай справы.

Так, тое лета, калі Касцюшка перайшоў з пятага ў шосты клас, уладна было запоўнена Сашай, яе голасам, смехам, бляскам яе зеленавата-шэрых вачэй. Да смешнага даходзіла: Касцюшка наняўся на летнія месяцы на работу ў лясніцтва, яны рабілі асвятленне маладым дубкам, высякаючы, каб даць ім лепшы рост, асінкі, бярозкі наўкруг, і, калі выходзілі з лесу, вачам адкрывалася разлеглая лугавіна, наўсцяж якой ва ўсю сваю даўжыню ляжала мястэчка. На лугавіне пасвіліся статкі, пераважна з паўднёвага канца мястэчка, дзе жыла дама Касцюшкавага сэрца. Разы два ці тры яму памроілася, што кароў пільнуе яна. Ён страшэнна губляўся, ніякавеў у такія хвіліны, баючыся, што Саша ўбачыць яго босага, з паколатымі нагамі, у рванай вопратцы. Але то была не Саша, і ён адразу супакойваўся.

Пайшоўшы ў шосты клас, пераканаўшыся, што не ім, а другім хлопцам захоплена душа каханай, Касцюшка без асаблівых пакут развітаўся з вобразам выдуманай ім самім Дульцынеі. Хлопец, якому старалася Саша спадабацца, з віду быў ніштаваты, шустры, але вучыўся дрэнна, кніжак не чытаў, і менавіта гэтыя яго якасці Касцюшка як бы перанёс і на Сашу.

На ўзмежжы дзяцінства і юнацтва была яшчэ адна дзяўчынка, якой цэлы год захапляўся Касцюшка. У процілегласць Сашы яна была ціхмяная, марудлівая, засяроджаная на сабе самой і вучылася добра. Але яна таксама паказала, што не надта да яго хіліцца, і ён яшчэ лягчэй, чым з Сашай, развітаўся з ёй у сваіх летуценнях.

Вось такая, у кароткім апісанні, гісторыя душэўнага развіцця Касцюшкі да таго, як ён сутыкнуўся з Маргарытай, а сутыкнуўшыся, стаў пра яе думаць, панёс вобраз малазнаё-

май і, магчыма, пагэтаму яшчэ больш прывабнай дзяўчыны з сабой на вайну.

Бацькі хацелі, каб Маргарыта стала ўрачом. Маладзейшыя за Маргарыту брат і сястра паступілі ў індустрыяльны тэхнікум. Маргарыта падавала дакументы ў медыцынскі інстытут, але там быў конкурс, і яна пабаялася выпрабоўваць лёс. З лёгкім сэрцам паступіла ў медыцынскае вучылішча, размешчанае ў надпрыпяцкім горадзе, у тым самым, дзе знаходзіцца рэдакцыя Касцюшкавай газеты.

Яшчэ тады, да жаніцьбы, чаго толькі не выдумліваў Касцюшка, каб у кожны свой прыезд у надпрыпяцкі горад пабачыцца з Маргарытай. На гасцініцу разлічваць не выпадала, гасцініца заўсёды перапоўнена, і карэспандэнт начаваў у рэдакцыі.

Але, прыехаўшы ў горад, ён перш-наперш кіраваў не ў рэдакцыю, а ў медыцынскае вучылішча, размешчанае на пагорку, на крывой, гарбатай вуліцы, замошчанай дзікім круглым каменем. Выклікаць Маргарыту з заняткаў ён не мог, таму пакідаў на падаконніку ў доўгім калідоры вучылішча запіску ў заклееным канверце на яе імя. Вечарам яны сустракаліся і вандравалі па вуліцах ці ішлі ў кіно.

З вучобай на першым курсе ў Маргарыты не клеілася. У экзаменацыйную сесію яна правяліла два прадметы. Адзін удалося пераздаць, другі — так і павіс. У канцы навучальнага года Маргарыта прызналася Касцюшку, што чакае дзіцё. Яны ў той жа дзень занеслі заяву ў загс.

Пасля дэкрэтнага водпуску Маргарыце зноў прыйшлося вяртацца на першы курс. Яна вельмі хацела, каб яны жылі ў горадзе. Касцюшка напачатку згадзіўся. Маргарыта тым часам у доме шаўца-яўрэя нават кватэру падшукала: вузенькі цёмны закутак, аддзелены абклеенай шпалерамі перагародкай ад большага пакоя.

Але Касцюшка здрэйфіў. Не адважыўся перабірацца ў горад. Не мог уявіць, як у апошні перад сканчэннем універсітэта год будзе бегаць у рэдакцыю, сядзець за няньку з малым дзіцём і пісаць дыпломную работу. Ды і кватэра-катушок каштавала ледзь не палавіну яго месячнага заработку.

Пасля дэкрэтнага водпуску Маргарыта правучылася ў вучылішчы тыдзень. Кінула заняткі і прыехала да Касцюшкі.

З таго часу яны асталяваліся ў мястэчку, узялі ад Маргарыціных бацькоў хлопчыка.

Былі дзве нялёгкія задачы: дамагчыся на год ці два, пакуль падрасце хлопчык, водпуску Маргарыце і ўладкаваць яе на працу. Як крычаў на Касцюшку дырэктар вучылішча Харафан, якім паказаў сябе грубым і жорсткім! Касцюшка і цяпер з непрыемным пачуццём успамінае, як абражаў яго зарослы чорнымі валасамі, падобны на турка дырэктар. За тое нібыта, што ён збіў з тропу, завязаў дарогу да навукі і святла здольнай студэнтцы...

Раённая бальніца размяшчаецца бадай што ў цэнтры мястэчка. Некалькі доўгіх драўляных карпусоў з вялікімі вокнамі туляцца пад разгалістымі таполямі. Пасярэдзіне агароджанага бальнічнага двара стары яблыневы сад.

Касцюшка любіць бальніцу, месца, дзе яна знаходзіцца. Касцюшка ведае: да падпольнай групы ў акупацыю належаў галоўны ўрач бальніцы Князюк, хірург па спецыяльнасці, мужчына відны, дзейны. Старэйшы Касцюшкаў брат Валодзя, які меў сувязь з партызанамі, часта хадзіў да доктара. Добрыя справы яны рабілі: пасылалі партызанам медыкаменты, нават партызан у гэтай бальніцы лячылі.

Князюк з жонкай, у якой на руках было малое дзіцё, разам з Валодзем пайшоў у атрад. Нейкі час галоўным урачом ён заставаўся і пасля вызвалення, пакуль не прыехала з эвакуацыі Ізольда Апанасаўна Невядомская, жанчына ўладная, хітрая, з вялікімі сувязямі. Да вайны галоўным урачом раённай бальніцы быў яе муж, які загінуў на фронце. З Князюком Ізольда Апанасаўна з першага дня не паладзіла і не толькі заняла яго пасаду, а наогул звольніла дзейнага хірурга з бальніцы.

Касцюшка тым часам свае задачы выканаў: дамогся Маргарыце ў медвучылішчы водпуску і ўладкаваў на працу ў раённую бальніцу. Другая задача аказалася нават лягчэйшай, чым першая. Ізольда Апанасаўна ахвотна пайшла насустрач: залічыла Маргарыту медсястрой.

Як яны з Маргарытай жылі? Увогуле нядрэнна. Займалі большы, чысты пакой бацькавага дома. Маці, малодшыя брат і сястра мясціліся на меншай палавіне. Там і калыска стаяла.

Абеды, снеданні, вячэры гатавала маці. Касцюшкаў бацька памёр адразу пасля вайны.

Першую зіму Маргарыта была вясёлая, жвавая. Ахвотна расказвала пра ўрачоў, медсясцёр, пра ўсялякія бальнічныя здарэнні. Астаўшыся адна, паціхеньку спявала.

Перамена наступіла на другое лета. Маргарыта да таго сумавала, што стала нават худзець, зрабілася калючай, насмешлівай. Адзін раз між імі вынікла жорсткая сутычка. Фактычна без прычыны. Пагражаючы, што накладзе на сябе рукі, Маргарыта выбегла насупраць ночы з дому і да раніцы не вярнулася.

Касцюшка не ведаў, што рабіць. Не спаў усю ноч. Назаўтра пазваніў у Міхалавічы, у сельсавет, папрасіў да тэлефона Асмалоўскага. Знайшлася добрая душа, збегала да Асмалоўскіх, хоць дом іх далёка ад сельсавета. Амос Фёдаравіч, цесць, прыйшоў у сельсавет і спакойна паведаміў, што Маргарыта прыехала вячэрнім цягніком і начавала дома...

Да таго, як Касцюшка сабраўся ў Мінск, у аспірантуру, Маргарыта зноў павесялела, нібы нарэшце знайшла душэўную раўнавагу. Бясконца перакройвала сукенкі, спадніцы, падганяючы ўборы пад сваю прыкметна распаўнелую паставу.

Вось так і ішло іхняе жыццё. Ні ў якія часы Касцюшка не быў упэўнены ў Маргарыце. Не адчуваў сваёй улады над ёй. Не ведаў, не мог нават здагадвацца, як павядзе яна сябе ў наступную хвіліну.

Выйшаўшы замуж, Маргарыта не адмовілася ад дзявочых прывычак. Магла дзесьці затрымацца, спазніцца на абед, на вячэру, забывала зрабіць абяцанае. Ніколі не прасавала мужу штаны, сарочку.

Здаралася, на працягу дня некалькі разоў мяняўся ў Маргарыты настрой. Ты — як красавіцкае надвор'е, гаварыў жонцы Касцюшка. То сонца, то дождж і вецер... Яна пагаджалася.

Калі Касцюшка пасля больш чым чатырохгадовай адсутнасці вярнуўся ў мястэчка, да яго даходзілі розныя чуткі. Нібыта мела Маргарыта прыязныя адносіны са шмат якімі кавалерамі. Ён нават ведаў пэўна: у вайну, калі сам галадаў у Куйбышаве, поўзаў па-пластунску ў пяхотным вучылішчы, сядзеў у акопах, Маргарыта жыла досыць бесклапотна. Пра вайну мала думала.

Ён супакойваў сябе тым, што ў той час побач з Маргарытай не было яго. Як ён мог думаць інакш, калі Маргарыта выказвала да яго прыхільнасць, усё-такі напісала некалькі лістоў на фронт, прыходзіла на спатканні!

Дэмабілізаваўшыся з арміі, вярнуўшыся ў мястэчка, Касцюшка ў першы вечар пакіраваў да Маргарыты. Яна кватаравала тады ў Астапчукоў, у доме, размешчаным якраз насупраць правулка, якім Касцюшка некалі шыбаваў у школу. Ён вывеў Маргарыту на вуліцу, і яны ўсю ноч прасядзелі на лавачцы пад разгалістай вярбой. Ён быў ахмялелы ад шчасця. Колькі марыў пра такую сустрэчу! І вось кончылася вайна, ён жывы і сядзіць з той, пра якую думаў усю вайну. Хіба гэта не ўзнагарода за страх, нягоды, пакуты? Ён прыходзіць у дом Астапчукоў амаль кожны вечар. Кастрычнік, нават лістапад мяккія, цёплыя — доўга не наступаюць маразы. Яны з Маргарытай выходзяць на вуліцу, садзяцца на лавачку або блукаюць па мястэчку. Узыходзіць месяц, п'янка пахне асенняя прывялая трава, падае з дрэў лісце.

Праз вуліцу, наўскасяк ад сядзібы Астапчукоў, агароджаны высокім дашчаным парканам, стаіць дамок яўрэйскай малельні. У ім заўсёды зачынены аканіцы. На двары малельні тры купчастыя клёны. Нават у няпэўным святле месяца здаецца, што ў двары, у шатах дрэў, шугае ціхае залацістае полымя.

Касцюшка бясконца гаворыць: расказвае пра свае ваенныя прыгоды. Раз-пораз расхінае шынель, каб Маргарыта магла ўбачыць ордэн і два медалі на гімнасцёрцы.

А ўвогуле кавалер ён кепскі. Губляецца, ніякавее ў прысутнасці Маргарыты, ніколі не скажа і не зробіць, чаго хоча... Яна нарэшце расчаравалася ў ім, і гэта пацвердзілася вясной, у час выпускных экзаменаў. У адзін з тых дзён ён завітаў да Маргарыты і дома яе не застаў. Гаспадыня — чорная, сухарлявая кабеціна, з нядобрымі, глыбока запалымі пад лоб вачамі, гаворачы, што не ведае, куды пайшла кватарантка, пасміхаецца.

Праз дзень ці два Касцюшка ўбачыў, куды ходзіць Маргарыта. Яна сядзела на лавачцы з незнаёмым ваенным. Лавачка другая, на суседняй вуліцы, але гэта справы не мяняла.

Болей да Маргарыты ён не пайшоў.

Тужліва, журботна плыло для Касцюшкі першае мірнае лета. Ён паехаў у Мінск, на сесію, добра здаваў экзамены, стараючыся пра Маргарыту не думаць. Яна адышла далёка, стала мізэрнай, і думкі пра яе нараджалі ў душы шчымліва-салодкі ўспамін.

Маргарыта нанесла першы ўдар па спадзяваннях, ілюзіях, якія Касцюшка прынёс з вайны.

У грамадскіх справах таксама не ўсе надзеі спраўджваюцца. Касцюшка працуе, вучыцца, яго прынялі ў партыю. Ён ведае становішча не толькі ў сваім раёне, а і ў суседніх. Таму пакутуе душой. Далёка яшчэ да ціхага, мірнага раю, пра які ён трызніў на фронце. Наогул справы павярнуліся зусім не так, як малявала яму ў вайну яго, можа, залішне гарачая фантазія. Столькі людзей палягло, столькі лёсаў разбіта, гарадоў, вёсак знішчана, думаў ён, што, сама мала, на сто гадоў людзі забудуць пра ўсялякую вайну. Людзі ж не вар'яты! Першая сусветная вайна і яшчэ больш другая, з пункту гледжання цвярозага чалавечага розуму,— недарэчнасць. Бо прыдуманы проста жахлівыя сродкі знішчэння людзей: самалёты, танкі, гарматы, рэактыўныя мінамёты. Што сказаць цяпер, калі вынайдзена атамная бомба, якая за лічаныя імгненні спапяліла Хірасіму і Нагасакі. Толькі год мінуў з часу сканчэння самай вялікай вайны, якая калі-небудзь была на свеце, а паўстае ўжо прывід новай, вынікі якой не можа прадказаць ніякая фантазія.

## V

Першае мірнае лета пачалося сухменню. За май і чэрвень не выпала ні кроплі дажджу. Ездзячы, а найбольш пешкі ходзячы па раёне, Касцюшка назірае сумныя малюнкі. Рэдка на калгасным полі гурчыць адзінокі, маласільны трактар. Часцей услед за плугамі, за схуднелымі конямі клыпаюць аратыя — уцалелыя на вайне мужчыны, якія паспелі вярнуцца дамоў.

У дзвюх ці трох вёсках, спаленых карнай эсэсаўскай дывізіяй, якая тут лютавала тры гады назад, Касцюшка бачыў, як засяваюць прысядзібныя ўчасткі жанчыны. Відовішча

пакутлівае. Некалькі кабет, упрэгшыся ў лямкі, зробленыя са скручаных хустак, сагнуўшыся, нібы бурлакі на вядомай карціне, цягнуць плуг. За плугам, сутаргава трымаючыся за ручкі, цягнецца яшчэ адна жанчына.

Пакутуе Касцюшка, гледзячы на родную сельшчыну. Ён трапіў на фронт, калі вайна скіравала ў пераломны, пераможны бок, быў у некалькіх краінах, самую Германію бачыў, а такога спусташэння, як тут, на Палессі, не назіраў нідзе.

Спустошаны, вынішчаны край. У дадатак — засуха. З раніцы з-за небакраю выкочваецца бліскуча-залаты шар сонца. Яго першыя промні, залоцячы дахі, зазіраючы ў вокны, яшчэ не пякуць, не паляць. Але прыпаленая ў папярэднія дні скура рук, твару пачынае балець нават ад гэтага далікатнага дотыку ранішніх промняў. Трава на сцежцы, націна агуркоў у агародчыку сухая. Хоць бы адна расінка. Толькі што прайшоў статак, і над пясчанай вуліцай вісіць, павольна асядаючы, шэрае воблака сухога пылу. Горкі пыл на губах, за вушамі, між пальцамі рук...

Гадзін у дзесяць сонца паліць ужо нясцерпна. Мужчыны, хто хадзіў касіць, вяртаюцца дамоў: трава мізэрная, дый па такой гарачыні касу не пацягнеш.

Апоўдні ўсё жывое хаваецца куды можа. Зачыняюцца аканіцы, там дзе няма іх, вокны завешваюцца дзяружкамі. Бо і ў хаце не ўседзіш. Панура звесілі шырокае прывялае лісце, апусцілі ганарыстыя галовы сланечнікі, усё заціхла, замёрла ў невыносна-млявай гарачыні. Узлобкі ўзгоркаў на полі — шаравата-рудыя. Траву на іх выпаліла. А яшчэ толькі чэрвень.

Вада ў калодзежах упала напалавіну. У некаторых толькі на самым дне мутныя лужынкі. Выцягнеш вядро — вада ў ім напалавіну з пяском.

Сям-там на даляглядзе вісяць дымы. Нерухомыя стаўбуры стаяць цэлымі днямі. Гараць лясы. Як тры гады назад гарэлі падпаленыя эсэсаўцамі вёскі.

Цяпер ад драбніцы можа вынікнуць пажар: ад недакурка, іскры з паравознай топкі, ад вугалька, што пстрыкне з вогнішча.

Мястэчка апаноўваюць вужы. Яны нахлынулі з навакольных лясоў, балот — відаць, там мала вільгаці. Вужоў знахо-

дзяць у хлявах, пад ганкамі, пад падвалінамі хат. Вужы нібыта высысаюць у кароў малако. Прылепіцца да вымені і ссе...

Вечарам захад палае густой барвовасцю. Па краях хмар нібы водбліскі пажару. Значыць, і заўтра не зменшыцца спякота.

Ліпень, ледзь не палавіну жніўня Касцюшка праводзіць у Мінску. На летнюю сесію завочнікаў выклікалі на сорак дзён. Мінск у суцэльных руінах, развалінах. Асабліва цэнтр. Але менавіта тут, у цэнтры разбуранага горада, кіпіць жыццё. Каля ўцалелага дзевяціпавярховага Дома ўрада спыняюцца легкавыя аўтамашыны, з якіх вылазяць заклапочаныя людзі з папкамі, партфелямі.

Ля закураных каробак на цэнтральным праспекце завіхаюцца жаночыя будаўнічыя брыгады. Дзяўчаты — у іх нават спяцовак няма, працуюць у той вопратцы, у якой прыехалі з вёскі,— носяць на насілках цэглу, стаяць з кельмамі на рыштаваннях, нават вокны шкляць. Брыгадзір звычайна мужчына. Дзядок пенсійнага ўзросту ці інвалід вайны з планкамі ўзнагарод на лацкане падлатанага караткаватага пінжачка. Але бывае, трапіцца брыгадзірам чырванатвары дзяціна. Глухім, як з бочкі, голасам пакрыквае на дзяўчат, слінячы хімічны аловак, запісвае ў блакноціку лічбіны іхняй выпрацоўкі.

Мінск — гасцінны горад. Хоць і разбураны, вынішчаны, але шматлікаму, беднаму студэнцтву прытулак дае. Ніводны завочнік не застаецца без даху над галавой, ложка, падушкі, прасцірадла, коўдры. Камендант універсітэцкага інтэрната — вусаты, хударлявы ўкраінец — золата, не чалавек. Проста бліскуча паставіў гаспадарку. Дбае пра студэнтаў. Тытаны працуюць: у любы час можна зрабіць кіпятку; штотыдзень мяняюцца прасцірадлы; у пакоі чыста, падмецена. Ёсць дзе памыцца, пагаліцца...

З харчам, вядома, тугавата. Рабочая картачка, якую палучаюць завочнікі, дае права на паўкілаграма хлеба ў дзень і абед у сталовай. На абедзе не разгонішся: нішчымны боршч, лыжка кашы, для блізіру запраўленая маргарынам. Пра снеданне, вячэру трэба думаць самому.

Выйсце ёсць. Абы грошы. Шумяць-гамоняць на прывакзальнай плошчы, у іншых месцах разбуранага, шматпакут-

нага Мінска стракатыя, шматгалосыя базары. Розны люд таўчэцца на базары, але найбольш людзей у ваеннай вопратцы, інвалідаў. Мыліцы, на якія абапіраецца зарослы шчэццю былы салдат, нібы дазвол на свабодны гандаль.

Усё можна купіць. Тым часам, прыходзячы на базар, Касцюшка нават не пытае, колькі каштуе юнраўская каўбаса — у бліскучых бляшанках, з прымацаваным дроцікам-адмычкай — або кавалак пажаўцелага сала. Не па грашах такія ласункі.

Касцюшка штодня купляе па селядцу. Ён каштуе не так дорага: дваццаць рублёў штука. Можна жыць на селядцах: з хлебам з'ясі, пасля цэлы дзень ваду п'еш. Што болей трэба?

Касцюшка сам не думаў, што так упарта возьмецца за вучобу. Узяўся, аднак. Праседжвае з кнігай увесь доўгі летні дзень, яшчэ і ночы прыхоплівае. Сам сябе не ведае чалавек. Ён, Касцюшка, відаць, самалюбівы, зацяты. Пра выратавальныя тройкі нават думаць не хоча, адчувае боль у сэрцы, калі выкладчык ставіць у заліковую кніжку чацвёрку, і толькі пяцёрка нараджае ў ягонай душы радасць і зіхатлівы бляск.

Маргарыту Касцюшка стараецца не ўспамінаць. Пасля таго, як ён убачыў яе на лавачцы з незнаёмым капітанам, зрабілася маленькай, мізэрнай Маргарыта і, нібы птушка, зляцела ў нябачную даль.

Рэшту лета Касцюшка праводзіць у мястэчку. Лінію трымае цвёрда: Маргарытай не цікавіцца, нават абмінае вуліцы, дзе можа з ёй сустрэцца.

У верасні, нікому нічога не гаворачы, ён едзе ў Мінск, за дзень уладкоўвае справы з пераводам на стацыянар, нават месца ў інтэрнаце атрымлівае. Толькі тады звальняецца з рэдакцыі.

Але, відаць, лёс наканаваў Касцюшку за дзень да ад'езду ў Мінск сутыкнуцца з Маргарытай. Ён прыйшоў на станцыю і на апусцелым пероне ўбачыў яе. Цягнікі — брэсцкі і гомельскі — ужо размінуліся, Маргарыта, відаць, чакала мясцовага, які хадзіў па чыгуначнай ветцы на Хвойнае: наступнай ад мястэчка станцыяй былі Міхалавічы.

Касцюшка, сутыкнуўшыся з Маргарытай, не ведае, што гаварыць. Маўчыць і Маргарыта. Нарэшце, не згаворваючыся, яны крочаць са станцыі. Пахаджваюць па прылеглай да

чыгункі вуліцы, абменьваюцца нязначнымі словамі. Тут Касцюшка ўспомніў, што Маргарыце трэба на цягнік.

— Не паеду я сёння,— вінавата гаворыць Маргарыта.

— Ты білет купіла?

— Няхай прападае.

Яму падабаюцца яе словы. Але ўсё адно ён не збіраецца з ёй мірыцца. Маргарыта стала добрай, бо нічога не атрымалася з капітанам, думае ён. Што ж, няхай успамінае свайго капітана...

Яны забрыдаюць на тэрыторыю гарадка — так называецца размешчаны па-над кручай глінянага кар'ера, засаджаны наўсцяж таполямі пляц былой лясной школы. У драўляных, доўгіх, як казармы, карпусах школы жывуць цяпер звычайныя жыльцы.

Неба між тым цямнее. Яго пачынаюць паласаваць вогненныя маланкі. Насоўваецца навальніца.

Касцюшка з Маргарытай, каб схавацца ад дажджу, які вось-вось хлыне, узбягаюць на ганак аднаго з будынкаў. Над ганкам навісае гонтавы чатырохкантовы дах-казырок, абапёрты на круглыя, вышмараваныя чалавечымі спінамі слупкі, прамежкі між якімі абшыты дошкамі. Па абодва бакі ганка — лавачкі, дзякуючы якім ён нагадвае ўтульную альтанку, якія звычайна будуюць у садах, парках.

Цемень робіцца суцэльнай. Нават восенню не бывае такіх чорных, як дзёгаць, начэй. Адзін за другім разлягаюцца некалькі магутных ударaў грому. Яны суправаджаюцца такім асляпляльным, сінявата-бялёсым бляскам, што міжволі прыходзіцца заплюшчваць вочы.

Першая за вясну і лета навальніца. Фактычна не патрэбная траве, дрэвам, зямлі. Засушлівае лета сваё слова сказала.

Маргарыта міжволі хінецца да Касцюшкі, нібы шукаючы ў яго абароны. Ён, зняўшы пінжак, акрывае яе, абнімае. Маланак, грому ён не баіцца. Хоць мог бы баяцца: як быў малы, у іхні дом двойчы пацэльвала маланка, і не звычайная, а шаравая: вогненна-сіні клубок насіўся па хаце, першы раз знікшы між шчылін падлогі ў зямлю, другі — спаліўшы каробку тэлефона, які вісеў на сцяне (у чыстай палавіне хаты тады размяшчалася кантора «Плодагародніна»).

Бура між тым распачынаецца такая, якой Касцюшка ў жыцці не бачыў. Грымоты вынікаюць безупынна, зліваючыся ў суцэльны д'ябальскі гул. Яркае мярцвяна-бледнае святло маланак чаргуецца з дзягцярна-чорнай цеменню навальнічнай восеньскай начы.

Нарэшце хлынуў дождж. Ён лінуў суцэльнай лавай, нібы там, у небе, узнікла прорва, праз якую прарвалася нябачная рака. Тры летнія, страшэнна спякотныя месяцы чакала засмяглая зямля жыватворнай вільгаці, і вільгаць гэтая нарэшце прыйшла нібы помста неба зямлі — з нечуванымі вогненнымі грымотамі.

Касцюшка з Маргарытай адразу прамоклі, кінуліся з ганка ў калідор: дзверы не замкнуты. Пры святле маланак яны бачаць дзежкі, мяшкі з бульбай, прымус на стуле, абшарпаныя сцены, брудную падлогу. Касцюшка прыхінае Маргарыту да сябе, пачынае ліхаманкава цалаваць.

Значыць, не скончылася ў яго з Маргарытай. Дарэмна думаў, што забыў яе, выкінуў з душы...

Навальніца лютуе, шалее праз усю ноч. Трашчаць дрэвы, ломяцца іх сукі, галіны. Грыміць гром, і безупынна, як з вядра, ліе дождж. Нечага думаць, каб са сховішча рушыць у разбушаванае, раз'ятранае страхоцце вады і маланак.

Пад раніцу ў адной сподняй бялізне выходзіць з пакоя гаспадар. Не спускаючыся з ганка, спраўляе малую патрэбу. Толькі вяртаючыся назад, у пакой, заўважае начных кватарантаў у сваім калідоры. Тым часам нават словам іх не зачэплівае.

Раніцай, калі ўжо зусім развіднела, яны разыходзяцца. Маргарыта пешкі кіруе ў Міхалавічы. Касцюшка — дамоў. На прыбітай дажджом зямлі, пад сценамі ледзь не кожнага дома ён бачыць адзін і той жа малюнак: распластаныя, уціснутыя ў пясок цельцы мёртвых вераб'ёў. Бура дастала іх з хованак у падстрэшшах, паддашках, і яны ніяк не змаглі ад яе ўратавацца...

Касцюшка не сказаў Маргарыце, што ад'язджае ў Мінск. Крыўда на яе сядзіць у душы вельмі моцна. Прыехаўшы ў Мінск, пражыўшы ў ім да зімы, ён ёй не пісаў. Відаць, дарогі іхнія разышліся б, каб ён у той свой першы прыезд утрымаўся

ў Мінску. Але прабыў ён там толькі адзін семестр. Дапамогі з дому не меў, на работу не здолеў уладкавацца ды і не вельмі прагнуў пабочнай, знясільваючай работы. Ён напакутаваўся, нагаладаўся за вайну. Чатыры гады не бачыў роднага дома.

## VI

Зіма нарэшце прыйшла. Лягла шэрым бясснежным грудам. У рэдакцыі Касцюшка чытае свае матэрыялы гадзін да дзесяці-адзінаццаці вечара. Тады замыкае пакойчык, аддае ключ вахцёру і кіруе ў інтэрнат. У позні вячэрні час цэнтральны праспект апусцелы. Трамваі ходзяць рэдка: не дачакаешся. Ён ідзе ў інтэрнат пешкі, і яго крокі гулка раздаюцца на вышчарбленым, амаль бязлюдным бруку.

Нязвычна, няўтульна Касцюшку ў горадзе. З цяжкасцю прывыкае да шэрага муру, гулу, мітусні, што сталі цяпер звычайнасцю ў ягоным жыцці. Хоць і ў мястэчку апошнія год-два ён адчуваў сябе не надта добра. Але там па другой прычыне. Там як бы расло незадавальненне аднастайнасцю, застыгласцю, знешняй непрывабнасцю навакольнага побыту.

Трывога, якая закралася ў душу, не мінае. Некалькі разоў па дарозе ў інтэрнат Касцюшка завітвае на паштамт, звоніць дамоў. Яшчэ вісіць у чыстай палавіне бацькавай хаты тэлефон, які ў апошні год паставілі Касцюшку як карэспандэнту. Нават у гэты позні час Маргарыты дома няма. Маці як бы баіцца размаўляць па тэлефоне. Скажа два-тры словы і маўчыць. Толькі слухае, што гаворыць сын. На ўсе ягоныя пытанні адказвае адно: Маргарыта забавілася ў бальніцы.

Паштамт на скрыжаванні вуліц Кірава і Энгельса. Некалькі гадоў назад, калі Касцюшка быў студэнтам-стацыянарнікам, ён званіў адсюль рэдактару абласной газеты. Не знайшоўшы ў Мінску работы, не могучы ўтрымацца на адной стыпендыі, дамаўляўся наконт вяртання ў рэдакцыю.

Ідучы з паштамта ў інтэрнат, Касцюшка думае аб сплячэнні сувязей, выпадкаў, якія вызначаюць чалавечы лёс. Зноў набягае думка: каб пяць гадоў назад не паехаў ён з Мінска, не вярнуўся ў абласную газету, хутчэй за ўсё не сышоўся б з Маргарытай і, можа, зусім інакш склалася б ягонае жыццё.

Чаму не сплывае з душы трывога? Чаму ён зноў і зноў вяртаецца ў думках да свайго сямейнага жыцця? Можа, таму, што разлучан з Маргарытай. На адлегласці ўсё бачыцца выразней.

Зрэшты, што бачыцца? Маргарыта ставіцца да яго не надта. Калі побач з ім — добрая, паехаў куды-небудзь — адразу забывае. Ліста не дачакаешся.

А вось бацькі Маргарыты яго паважаюць. У гэтым сумнення няма. Калі б ён да іх ні прыехаў, няхай сабе ў сярэдзіне ночы, абавязкова сустракаюць пачастункам.

Падрыхтоўка да банкетавання вядзецца нават з некаторай урачыстасцю. Амалія Сідараўна, пакалыхваючы мажным станам, некалькі разоў робіць вандроўкі ў кладоўку, прыносіць агуркі, капусту, вяндліну. Усё гэта не спяшаючыся наразае, раскладвае па талерках.

Амос Фёдаравіч, апрануўшы старую ватоўку, выбягае на двор, кідае ля печы на ababіты бляхай квадрацік падлогі бярэмя дроў, похапкам коле лучыну. Запальваецца ў печы, варыцца бульба, шкварыцца яечня. Іншы раз, каб хутчэй сесці за стол, агонь раскладваецца на прыпечку, пад таганком, на які ставіцца скавародка.

Маргарыта ў гэтых прыгатаваннях удзелу не прымае. Ляжыць у ложку або сядзіць на канапе, думаючы нейкую сваю думку, ні з кім ёй не дзелячыся. Ніколі не спытае: чаму муж прыехаў у гэты, а не ў другі дзень, чаму затрымаўся, што рабіў?

За сталом Маргарыта таксама сядзіць нядоўга. Пасядзіць для прыліку некалькі хвілін, аддасць даніну павагі мужу і непрыкметна знікае, ідзе ў спальню і зноў кладзецца ў ложак.

Застолле тым часам прыемнае: з невялікай выпіўкай, доўгімі размовамі. Амалія Сідараўна мае прыгожы, з цёмнасіняга шкла, графінчык, прадаўгаватыя, з тонкімі сценкамі шклянкі. П’юць гарэлку або настойку.

Касцюшка ледзь не да раніцы слухае гісторыі, якія расказвае Амос Фёдаравіч. Гісторый няшмат: чатыры ці пяць, і змест іх складаецца з таго, як гаспадар вучыўся да рэвалюцыі ў фельчарскай школе ў літоўскім гарадку Панявежысе, як працаваў фельчарам у літоўскай вёсцы, як служыў санітарам пяхотнай роты ў першую сусветную вайну.

Самая галоўная гісторыя датычыць асабістых рэчаў Амоса Фёдаравіча, якія ён набыў, калі толькі стаў працаваць фельчарам. Пасля рэвалюцыі Асмалоўскі ў Літву не трапіў: ад Расіі яе аддзяліла мяжа. Рэчы тым часам засталіся ў гаспадара ягонай кватэры.

Барацьба за гэтыя рэчы вялася тры ці нават чатыры гады. Не, гаспадар кватэры аказаўся чалавекам сумленным. Нічога не ўтаіў, спакаваў рэчы ў пасылку, аднёс на пошту.

Але за пасылку, якая прыйшла ў Расію з-за мяжы ў дваццаць першым годзе, Амос Фёдаравіч мусіў заплаціць такую вялікую пошліну, што нават заработку за цэлы год работы на гэта не хапіла б. Барацьба за змяншэнне пошліны якраз і вялася на працягу некалькіх гадоў, і ўрэшце Амос Фёдаравіч перамог.

Асмалоўскі родам з Вілейшчыны. Паходзіць са страшэнна беднай сям'і. Можа, таму ён надаваў такое вялікае значэнне рэчам, набытым яшчэ ў маладосці. З гэтых рэчаў Амос Фёдаравіч нязменна ўспамінае паліто з каракулевым каўняром, такую ж шапку і сіні шавіётавы касцюм.

Касцюшку падабаюцца Міхалавічы. Праўдзівей, месца, дзе яны размешчаны. Бо ў самой вёсцы, якая складаецца з доўгай прамой вуліцы, што ў сваёй паўднёвай, блізкай да чыгункі частцы як бы разгаліноўваецца на два правулкі, позірку няма на чым запыніцца. Струхлелыя хаты з малымі аконцамі, зялёным мохам на дахах, паламаныя парканы, тыны, ігрушыдзічкі на агародах вока не радуюць. Сваёй паўднёвай часткай вуліца ледзь не ўпіраецца ў вялікі, ахайна збудаваны дом, у якім размяшчаецца дзіцячы сад. Тут да рэвалюцыі жыў памешчык. Да дома вядзе шырокая зацененая алея, засаджаная старымі купчастымі ліпамі.

Ёсць мясціны, якія падабаюцца невядома за што. Вось як гэтае поле, лес, наогул увесь міхалавіцкі абсяг, хоць Касцюшка і ведае, што ўраджаі на тутэйшых пясках бедныя, людзі жывуць не надта і з выгляду прыбітыя, дрэнна апранутыя.

Поле вакол Міхалавіч узгóркаватае, і калі ўзыдзеш на самы высокі пагорак, вачам адкрываецца незвычайна прыгожы краявід. Вёска здаецца прывабнай і загадкавай: зялёны востраў сярод залатога разліву збажыны. Гэтак бачыў

Касцюшка і роднае мястэчка, калі ў дзяцінстве вяртаўся дадому з лесу, з грыбоў.

Зіма прыйшла, а снег усё не кладзецца. Над шэрым абмёрзлым грудам веюць халодныя вятры, гоняць па небе шэрыя калматыя воблакі, што спяшаюцца ў невядомыя далі, а над тутэйшай зямлёй не сыпнуць і сняжынкай. Іншы раз нават у горад прыносяць вятры пах прэлага бульбоўніку, хвоі, кранутага першым марозам лісця. Ад гэтых подыхаў кружыцца галава, а ў душы нараджаюцца смутныя няпэўныя жаданні — хочацца ў поле, на прастор — падалей ад шэрага мярцвянага муру.

Думкі пра Маргарыту, душэўны неспакой, згрызоты прыводзяць да таго, што Касцюшка бярэ ў рэдакцыі трохднёвы водпуск і едзе на радзіму, на Палессе.

О, ён добра ведае чыгунку з Мінска на Гомель, начны поезд, якім і ў беларускую сталіцу, і назад, у самы буйны пасля яе Гомель, прыязджаеш заўсёды раніцай!

У Гомелі перасадка. Чакаць цягніка, які ідзе праз местачковую станцыю, трэба гадзін шэсць.

Хмуры, разбіты Гомель патроху адбудоўваецца. Яшчэ можна ўбачыць зруйнаваныя, што свецяць пустымі праёмамі акон, камяніцы, сцены з нанесенымі на іх цёмна-зялёнай фарбай разводамі маскіроўкі (Гомель бамбіла савецкая авіяцыя, і гэтак немцы ад яе ратаваліся), абнесеныя дашчанымі парканамі груды цэглы, друзу, густа парослыя бадыллём, але жывы воблік горада ўжо вымалёўваецца.

Яшчэ імклівей за каменную, акуратна распланаваную частку горада расце яго драўляная, з прыватнай пабудовай палавіна. Драўлянае царства ўкрытых за высокімі парканамі, дубовымі варотамі асабнякоў, катэджаў, разлеглых харомін, не горшых за тыя, якія некалі будавалі купцы, разбагацелыя чыноўнікі, пачынаецца за дзве-тры вуліцы ад вакзала.

Касцюшка чуў, што вось такія палацы ставяць сабе былыя партызаны. Толькі не верыцца, што прынеслі партызаны з лесу вялікія капіталы. Драўляныя хароміны хутчэй за ўсё належаць стоеным тарбахватам, якія ў лесе толькі ратаваліся, называліся партызанамі, а цяпер вось дарваліся да ўлады і зажытку.

Часу да вечара многа. Касцюшка пабыў на шумным гомельскім базары, павандраваў па горадзе. Адна думка не выходзіць з галавы: відаць, залішне прасталінейна ставіцца ён да жыцця, да людзей. Хоча, каб людзі былі такія ж правільныя, чыстыя, як словы, заклікі, што бясконца паўтараюцца на плакатах і лозунгах. Але жыццё — не толькі плакаты і лозунгі. Агромністае месца займае ў ім побыт: рэчы, яда, вопратка, абутак. Маргарыта шые, перашывае сукенкі, марыць пра туфлі на высокім абцасіку. Ён сам лічыць гэта блазенствам. Нават гадзіну ў час сесій не патраціў, каб пашукаць жонцы прыгожую матэрыю на сукенку ці купіць туфлі.

Ён нават пасля жаніцьбы не зрабіў жонцы падарунка. Згулялі ў бацькавай хаце вяселле, і ўсё. Пасля вяселля Маргарыта вярнулася ў Міхалавічы і жыла ў сваіх бацькоў амаль год. Ён ездзіў да яе нібы ў госці. Муж, называецца…

Толькі цяпер да Касцюшкі даходзіць: мог сабраць грошай і купіць жонцы залаты пярсцёнак. Яна б насіла яго на руцэ як знак, сімвал іхняга яднання і вернасці.

Ён тут жа рашае набыць пярсцёнак. Лепей позна, чым ніколі. Распытвае, дзе знаходзіцца ювелірны магазін, ідзе туды. Нібы хоча гэтым жэстам зняць з душы няпэўную трывогу, якая ўжо колькі дзён яго не пакідае. Тлее ў Касцюшкі надзея, што бліскучае кальцо замкне ў сабе самім усе згрызоты і супярэчнасці.

Магазін новы, нядаўна адчынены і размешчан на галоўнай вуліцы. Ляжаць пад шклом на падкладцы з сіняга аксаміту розныя залатыя, упрыгожаныя каштоўнымі камянямі рэчы: пярсцёнкі, кулоны, ланцужкі, каралі. Ёсць сярэбраныя наборы: лыжкі, відэльцы, нажы, і нават падробкі пад золата і срэбра: розныя з выгляду прыгожыя дрындулькі, кожную з якіх можна купіць за некалькі рублёў.

Каля прылаўка тоўпяцца дзяўчаты, маладыя жанчыны, і ад Касцюшкі не схавалася, з якой цікавасцю, нават прагнасцю разглядаюць яны бліскучыя, дарагія рэчы.

На залаты пярсцёнак грошай не хапае. Праўдзівей, ён можа яго купіць, але тады прыедзе ў мястэчка з пустымі кішэнямі і нават на білет да Мінска прыйдзецца ў каго-небудзь пазычаць.

Касцюшка купляе сярэбраны пярсцёнак: тоўсценькі, важкі, не вельмі прыгожы на від. Што ж, трохі пазней ён і залаты купіць.

Зрэшты, няпраўда, што Касцюшка нічога не абяцаў, нічым не ўсцешыў Маргарыту. Абяцаў ён ёй многа. Найбольш маляваў планы наконт Каўказа, Чорнага мора, куды калі-небудзь яны з Маргарытай паедуць на цэлае лета. Будуць катацца па моры на сіняй яхце з белымі ветразямі, любавацца пальмамі, хадзіць у горы...

Калі гэта будзе? Касцюшка не ведае. Ні ён, ні Маргарыта на курорце не былі. Ягонага заработку хапае толькі на бягучыя патрэбы: хлеб, цукар, селядцы, маргарын. Нават каб якую-небудзь адзежыну ці чаравікі купіць, трэба эканоміць, разлічваць, як і на што патраціць зарплату, адрываючы ад яе па сотні ці дзве, складваючы грошы на пакупку.

Нарэшце падаюць да перона цягнік. Гэта так званы рабочы цягнік з цугам нудных, абшарпаных вагонаў, унутраны выгляд якіх нават горшы за знешні. У такіх вагонах лаўкі не адкідваюцца, вокны не адчыняюцца, падлога брудная, шкло на вокнах у шэрых разводах ад пылу і выпадковых падцёкаў, паветра спёрта-кіслае, густа прасякнутае застойным махорачным духам.

Вось такімі цягнікамі сапраўды карыстаецца рабочы люд, які жыве ў навакольных, нават парадкам аддаленых ад горада вёсках, на золку едзе на работу, пад вечар вяртаецца дамоў.

Калі Касцюшка зайшоў у вагон, ён быў амаль што поўны. Гучна перамаўляюцца, дымячы папяросамі, цыгарэтамі, чыгуначнікі ў засаленых ватоўках, паддзёўках, у форменных шапках з цэшкамі і бліскучымі казыркамі. Чыгуначнікі жывуць на бліжэйшых станцыях, паўстанках, першыя выходзяць з вагонаў, робячы іх свабоднымі, іншы раз нават напаўпустымі.

Касцюшку, калі едзе з Гомеля ў мястэчка, амаль заўсёды здараецца напаткаць у вагоне знаёмага чалавека. Так і на гэты раз. Ледзь не ў апошнім купэ ён бачыць Грышу Попеля, школьнага таварыша, які сядзіць у незнаёмай кампаніі двух салдатаў, матроса і дзяўчыны. Якраз ёсць яшчэ адно месца, і Касцюшка садзіцца.

Поезд крануўся. У вагоне паўзмрок. Кароткі зімовы дзень канчаецца. За акном мільгаюць закопчаныя, складзеныя з чырвонай цэглы будынкі паравознага дэпо, чарада мёртвых, спісаных паравозаў, што стаіць на запасных пуцях, пакгаўзы, склады, атуленыя голымі чорнымі дрэвамі дамкі прадмесця.

Грыша Попель таксама вучыцца ў Мінску. Не ў аспірантуры, не ў інстытуце нават — у тэхнікуме. Ён не местачковец, паходзіць з вёскі Палавінкі, ад якой да мястэчка тры кіламетры.

Касцюшка ў добрых адносінах з Грышам, хоць ніколі яны асабліва не сябравалі. Грышаў бацька, вясковы актывіст, старшыня сельсавета, яшчэ ў калектывізацыю быў пасланы ў Мінск на вучобу, сышоўся там з маладой жанчынай і да сям'і, да трох малых дзяцей не вярнуўся. Грыша рос без бацькі. У школе Касцюшка нават сапернічаў з Грышам, змагаючыся за першынство. У матэматычных навуках Грыша дасягаў, бадай, большых поспехаў. Затое саступаў Касцюшку ва ўсіх астатніх.

Даўно разышліся іх дарогі. Да вайны, яшчэ пасля восьмага класа, Грыша падаўся ў хіміка-тэхналагічны тэхнікум, размешчаны ў Мінску, і паспеў скончыць два курсы. Цяпер, болей чым праз дзесяць гадоў пасля паступлення, нарэшце заканчвае свой тэхнікум. Так здарылася. Ваяваць Грыша не ваяваў, затое пасля вайны шмат гадоў праслужыў у арміі.

Тым часам запальваецца святло, і Касцюшка можа лепей разгледзець сваіх суседзяў. Салдаты і матрос, відаць, адслужылі свае тэрміны і вяртаюцца дадому. Адзін другога не ведаюць і знаёміцца не збіраюцца.

Салдаты засоўваюць па чамадану на самую верхнюю полку, не знімаючы ботаў, самі залазяць на сярэднія адкідныя полкі. Кладуць пад галаў рэчавыя мяшкі, акрываюцца шынялямі.

Матрос застаецца з дзяўчынай. Яны дзіўна сябе паводзяць. На століку пры акне на разасланай газеціне адкаркаваная паўлітра гарэлкі, кавалкі смажанай траскі, нарэзаная тонкімі скрылікамі каўбаса, вараныя яйкі — яда ўзята ў буфеце на вакзале,— але ні гарэлка, ні закуска не радуе ўзбуджаную пару, што напаўголаса між сабой спрачаецца.

Касцюшка з Грышам міжволі прыслухоўваюцца да суседзяў. Праз паўгадзіны робіцца ясна, аб чым спрачаецца

дзяўчына з матросам. Ён сваё на флоце адслужыў, едзе дадому. Яна, відаць, сябравала з ім, пахапілася ехаць разам. Ён згадзіўся з'явіцца з ёй да бацькоў, але па дарозе чамусьці раздумаў. Цяпер угаворвае дзяўчыну вярнуцца дадому, абяцаючы да яе прыехаць, як толькі знойдзе работу.

Спрэчка ідзе, па ўсіх прыкметах, не першы дзень, і на даволі прыемным твары дзяўчыны адмеціны стомленасці, разгубленасці, расчараванасці.

З нейкай нават прагнасцю ўслухоўваецца ў спрэчку салдат, які ляжыць на левай полцы. Ён спусціў уніз галаў і, здаецца, есць вачамі дзяўчыну.

Нарэшце салдат саскоквае ўніз.

— Паедзем са мной! — выгуквае салдат.— Падабаешся мне. Будзем жыць.

Хвіліну пануе замяшанне.

— Не пярэчу,— гаворыць матрос, чамусьці паціраючы рукі.

Дзяўчына глядзіць на яго доўгім, поўным нянавісці позіркам.

— Болей нічога не скажаш?

— Што гаварыць? Чалавек сам набіваецца.

На твары дзяўчыны крыўда, разгубленасць, адчай.

Вялым, абыякавым голасам прамаўляе:

— Мне некуды ехаць. Калі ён такі, паеду з табой. Усё адно...

Грыша падхопліваецца. У школьныя гады малы, як верабей, ён за час вайсковай службы вырас, выцягнуўся, раздаўся ў плячах, нават з твару пасуровеў.

— Няўжо не ведаеш, што робіш? — Грыша ўшчыльную падступае да дзяўчыны.— Ён цябе кіне на першай станцыі.

Матрос таксама падхопліваецца, сціскае кулакі.

— Не лезь не ў сваё дзела! — крычыць на Грышу.

Дзяўчына тым часам налівае ў шклянку гарэлкі.

— Мне некуды ехаць. Дый гэтаму хачу адпомсціць,— яна паказвае на матроса.

Салдат прысаджваецца да дзяўчыны, кладзе ёй руку на плячо. Яна ад яго не адхінаецца.

Працягу Касцюшка не бачыць. Грыша рашуча хапае свой збіты з фанеры, пафарбаваны ў зялёны колер чамадан і ледзь не выбягае з купэ. Касцюшка выходзіць за ім.

За вокнамі даўно, з паўдарогі цёмна. Але нават у цемені можна ўбачыць: снегу і тут няма. У змроку вечара цьмяна зіхацяць станцыйныя ліхтары, мільгаюць раскіданыя аганькі прылеглых блізкіх і далёкіх вёсак.

## VII

Маргарыта жыве трывожна. Яшчэ ніколі ў яе жыцці не было, каб вось так, як цяпер, яна не валодала сабой, не магла справіцца з нечакана нахлынуўшым пачуццём, якое захапіла цалкам, не дае апамятацца, трымаючы душу ў моцных, нібы жалезных, абдымках.

Як бы лавіна снегу, што коціцца з гары, няўхільна павялічваючыся ў памерах, зваліўся на яе Віктар Стаход, новы тэрапеўт, прысланы ў бальніцу. Першы раз убачыўшы яго, яна ўнутрана здрыганулася, і тады ж нарадзілася прадчуванне, што між імі абавязкова нешта здарыцца. Не вельмі высокі, моцна складзены, з прыемным мужным тварам, пранізлівым позіркам жывых, пад колер сталі вачэй, ён першы павітаўся, назваў сябе і абыякава адвярнуўся. А яна ўся затрымцела: нібы нейкі агонь загарэўся ў грудзях. Ёй адразу стала прыемна жыць, прыходзіць у бальніцу, ведаць, што яна прыйдзе сюды заўтра, паслязаўтра і абавязкова ўбачыць Віктара.

Віктар прыехаў у раённую бальніцу па размеркаванні, скончыўшы медыцынскі інстытут. Ён у недарагім, шэра-сінім, у светлую палоску касцюме, трохі стаптаных жоўтых туфлях, у белай, з вышыўкай на грудзях сарочцы, якую носіць без гальштука. Ёй адразу зрабілася цікавым, значным усё, што датычыць новага ўрача: як апранаецца, што любіць, якія ў яго звычкі, схільнасці, характар.

У першыя дні яна спецыяльна затрымлівалася на дзве-тры хвіліны ў ардынатарскай, каб пасля прайсці міма тэрапеўтычнага кабінета, у якім Віктар пачынаў прыём, услухоўвалася ў яго голас, уладны, патрабавальны, у затоеную цішыню, што панавала ў чарзе наведвальнікаў. У адзін з тых момантаў, калі яна на хвіліну прыпынілася перад дзвярамі кабінета, пачуўся загадны, нібы вайсковая каманда, голас Віктара, дзверы нечакана расчыніліся і яе ледзь не збіла з

ног медсястра, якая на злом галавы бегла выконваць заданне ўрача.

Ёй вельмі спадабалася, што Віктар гэткі строгі, што яго баяцца нянечкі, медсёстры і гатовы неадкладна выканаць першае ягонае жаданне. У яе вачах кожны сапраўдны мужчына мусіў быць іменна такім.

Віктар прыехаў на месца былога тэрапеўта Трахімчыка, кароткатэрміновага мужа галоўнага ўрача Ізольды Апанасаўны Невядомскай, які з фельчарскім дыпломам займаў пасаду ўрача. Чарнявы, прыгожы, ніжэйшы ростам і маладзейшы гадоў на дзесяць за сваю палавіну, Трахімчык даўно ласым вокам пазіраў на маладых акушэрак, медсясцёр. Але пад пільным наглядам уладнай Ізольды Апанасаўны лішняга разгону не меў. Таму адважыўся на адчайны крок: уцёк ад жонкі ў чым стаяў, адцураўшыся чамадана з рэчамі, працоўнай кніжкі і характарыстыкі з месца работы.

Трахімчык кідаў прыязныя позіркі і на Маргарыту, але яна цяпер рада, што справа між імі далёка не зайшла. Адзін толькі раз, калі ў бальніцы была складчына і яна танцавала з Трахімчыкам, ён шапнуў ёй, каб выйшла ў суседні — пусты і неасветлены — кабінет. Яна вагалася, баялася Ізольды Апанасаўны, таму момант упусціла. Прыскочыла на месца спаткання, каб толькі папярэдзіць Трахімчыка, бо па доўгім бальнічным калідоры, шукаючы мужа, ужо шнуравала Ізольда Апанасаўна. Толькі і паспела адзін раз пацалавацца з сімпатычным фельчарам.

Добра, што так здарылася. Цяпер, калі ад Ізольды Апанасаўны збег муж, зганьбіўшы яе немаладую, пафарбаваную ў бронзава-залацісты колер галаву, начальніца проста лютуе. Звольніла дзвюх медсясцёр, якіх падазравае ў сувязі з былым мужам. Да Маргарыты тым часам ніякіх рахункаў не мае.

Маргарыта лічыць сябе прыгажуняй. У гэта яна паверыла даўно, яшчэ ў дзяцінстве, і дзякуючы такой думцы пра сябе прыемна і весела жыць на свеце. Пра тое, што яго першае дзіця прыгажосці незвычайнай, пастаянна гаварыў бацька, яму падтаквала маці, і словы іхнія Маргарыта запомніла. Ды і пацвярджаюцца яны на кожным кроку. Маргарыта рана расцвіла сваёй жаноцкасцю і з таго часу ловіць на сабе

зацікаўленыя позіркі мужчын. Гэта цешыць, хвалюе. Маргарыта адчувае сябе нібы царыца: можа дарыць прыязныя позіркі, усмешкі, увагу.

Маргарыту веставалі. Яна нарадзілася, калі бацьку было сорак тры гады. Ён без памяці любіў першую дачку. Хутка нарадзілася другая дачка, за ёй сын, але ім не выпала і палавіны той пяшчоты, якую мела Маргарыта. Малодшая сястра ненарокам пашкодзіла сабе вока, на якім з'явілася бяльмо, расла стоенай, нелюдзімай. Сястра і брат пасвілі гусей, свіней, карову, Маргарыта нічога гэтага не ведала. Яна насіла яркія паркалёвыя сукенкі, сандалі, туфелькі, у той час як малодшая сястра і нават брат карысталіся яе абноскамі.

Зрэшты, у Маргарыты добрае сэрца. Яўная перавага, якую аддавалі ёй у сям'і, не нарадзіла ў яе душы пагарды да малодшых сястры і брата. Яна любіла іх, ахвотна бавіла з імі час.

Шкода ад празмернага веставання старэйшай дачкі ўсё ж вынікла. Звычайна вясковыя дзеці да свайго паўналецця навучаюцца ўсяму, што складвае аснову не вельмі цікавага, але цвёрдага, грунтоўнага сялянскага побыту. Так было і ў сям'і фельчараў Асмалоўскіх. Малодшая сястра навучылася даіць карову, чысціць бульбу, гатаваць абед, палоць грады, хадзіла ў лес па ягады, грыбы. Брат пілаваў, сек дровы, умеў запрэгчы каня, нават касіць прыладзіўся, памагаючы старому бацьку.

Усё гэта, аднак, прайшло міма Маргарыты. Праўдзівей, яна таксама сёе-тое ўмела, рабіла, але без ахвоты, цікавасці, захопленасці.

Кнігамі, якіх у бацькі было дастаткова, Маргарыта таксама не зацікавілася. Нават дзівосныя, размаляваныя ў розныя колеры малюнкі, змешчаныя ў падручніках па геаграфіі, прыродазнаўстве, якім захапляліся, перагортваючы іх, малодшая сястра і брат, пакінулі яе абыякавай. Яе не прывабіў ніводны школьны прадмет, дый, як выявілася, здольнасці да навукі яна наогул мела пасрэдныя. Але канфлікт на гэтым грунце вынік толькі тады, калі, скончыўшы Міхалавіцкую школу, Маргарыта прыехала ў местачковую дзесяцігодку і паступіла ў восьмы клас. Толькі тут выявілася, што сарамлівая з выгляду васьмікласніца з усімі адзнакамі рана расцвіўшай жаноцкасці амаль нічога не засвоіла са школьных навук.

Міхалавіцкія тройкі і чацвёркі, якія ставіліся ёй у сельскай школе, відаць, з-за павагі да бацькоў-фельчараў, тут дружна ператварыліся ў суцэльныя двойкі, і Маргарыту без ваганняў пакінулі ў восьмым класе на другі год.

Да часу, калі Маргарыта вучылася ў местачковай школе, адносіцца яе знаёмства з Сяргеем Касцюшкам. Ён папрасіў у яе кнігу, пасля гэтага, сустрэўшыся на вуліцы, яны два ці тры разы размаўлялі. Адзін раз да паўночы прасядзелі на лавачцы на Вакзальнай вуліцы, перад домам пенсіянераў-чыгуначнікаў. Ёй падабалася, што дзесяцікласнік выдзеліў яе, цікавіцца ёй, не звяртаючы ніякай увагі на другіх дзяўчат. Зрэшты, і тады, да вайны, і ў сорак трэцім годзе, калі з Міхалавіч прагналі немцаў, а Касцюшка, пра якога Маргарыта нашчэнт забыла, прыслаў ёй з арміі пісьмо, яна не лічыла сябе яму чым-небудзь абавязанай і вельмі мала пра яго думала.

Перабраўшыся ў мястэчка, Маргарыта на першым часе кватаравала і сталавалася ў знаёмых бацькам местачкоўцаў, якія мелі дамок і агарод на пясчанай, блізкай да школы вуліцы. Да гаспадароў часта завітваў унук з горада, рослы, шыракаплечы байбус, што ў свае дваццаць з лішкам гадоў не здолеў прыбіцца ні да якой прыстані.

Унук то ўладкоўваўся на работу, то паступаў на нейкія курсы, але падоўгу нідзе не затрымліваўся. Меў па гэтай прычыне вольны час і, відаць, не жадаючы слухаць дакоры бацькоў, на тыдзень і болей з’язджаў да дзеда і бабы.

— Ты файная штучка,— сказаў Маргарыце байбус пры другім ці трэцім наездзе.— Няўжо табе толькі шаснаццаць гадоў?

Байбус памкнуўся прыладзіцца да Маргарыты ў пасцель, але яна яго груба, колькі мела сілы, адштурхнула.

Помсцячы дзяўчыне, байбус назаўтра пацвельваўся:

— Не задзірай нос. Бачыў такіх. У калодзе карт меней, чым я баб перабраў. На каралеву ты не цягнеш. Вока касаватае і ногі кароткія. У трыццаць гадоў будзеш як бочка...

Маргарыта не хацела вось такіх заляцанняў.

На другі дзень перабралася на Вакзальную вуліцу, якая прылягала да чыгуначнай станцыі. Яе гаспадарамі былі цяпер пенсіянеры-чыгуначнікі.

З усіх знаёмых хлопцаў, якія ўваходзяць у кавалерскі ўзрост, Маргарыце найбольш падабаецца Аркадзь Вярбіла, з якім яна вучылася ў Міхалавіцкай сямігодцы. Касаваты, чорны, як турак, з арлiным носам, Аркадзь гады на тры старэй за яе, цяпер вучыцца ў другім мястэчку, дзе жыве яго сястра, і Маргарыта рэдка з ім спатыкаецца. Ды ён і не глядзіць на яе! Дзеля таго, каб хоць крадком пабачыць Аркадзя, Маргарыта спецыяльна завяла сяброўства з глухаватай Маняй, суседкай Вярбілаў, і, завітаўшы да бацькоў, заўсёды да яе бегае.

Пачалася вайна. Жудасныя справы пачалі тварыцца ў Міхалавічах пад час акупацыі. Можа, таму, што навакольныя вёскі багацейшыя, а Міхалавічы стаяць на пясках, хлеба ўдосталь не ядуць, шмат хто з мужчын, хлопцаў падаўся ў паліцыю. Не менш як сто паліцэйскіх аб'явілася ў сяле.

Пад выглядам барацьбы з партызанамі міхалавіцкія паліцаі рабавалі суседнія вёскі. Хапалі, што трапіць пад руку: світкі, коўдры, дзяружкі, сувоі палатна, нават выбіралі бульбу з капцоў і падполляў.

З цяжкасцю адбіўся ад паліцаяў Асмалоўскі. За́рыліся, га́ды, на дабро, што збіралася гадамі. Блізка было да бяды, але Амалія Сідараўна захрыбетнікаў перахітрыла. Паслала Амоса Фёдаравіча фінагентам у воласць. Толькі тры месяцы пасядзеў ён за казённым сталом, паляскаў на лічыльніках, але дом, гаспадарку ўратаваў. Тым часам аднавіў работу фельчарскі пункт, і Амос Фёдаравіч ахвотна звольніўся з ненавіснай пасады.

Маргарыту вайна закранула мала. Нічога ў яе жыцці не змянілася. Нават як бы весялей, цікавей стала жыць. Школа, заняткі, экзамены самі сабой адпалі: не трэба было думаць, тлуміць галаву. Затое ў сяле штовечар наладжваліся танцулькі. Міхалавіцкі люд, які так і не спазнаў электрычнасці, не здымаў з поля высокага ўраджаю, нават добрай школы не пабудаваў, вечарынкі, пагулянкі, выпіўкі любіў заўсёды.

У якой-небудзь хаце раптам пачынаў бухаць бубен, залівістай трэллю азываўся гармонік, і туды цёмнай вуліцай кіравалі ўсе, хто прагнуў уцехі і весялосці.

Маргарыта ажыла. Першая ваенная зіма супала з яе паўналеццем (у метрыках, на ўсялякі выпадак, яна была запісана

на год маладзейшай). Не было ніводнай полькі, вальса, каб які-небудзь хлопец не запрасіў Маргарыту ў круг. Яна не адмаўлялася. Другія дзяўчаты стаялі ля сценак, у парозе, чакалі, калі да іх хто-небудзь падыдзе, возьме за руку, і люта зайздросцілі Маргарыце.

У пачатку зімы ў Міхалавічы прыбрыў схуднелы, змізарнелы Аркадзь Вярбіла. Прызваны на пачатку вайны ў армію, ён удзельнічаў у баях, трапіў у палон, але здолеў з-за дроту ўцячы.

Маргарыта яшчэ болей расцвіла.

Аркадзь, відаць, таксама быў да Маргарыты неабыякавы. Але тое, што яна лічыла глупствам — танцулькі, спатканні з кавалерамі, якія ёй зусім не падабаліся,— ён прымаў усур'ёз. Карацей, Аркадзь меў рахунак да Маргарыты, і ў гэтым рахунку было запісана нямала яе грахоў. Таму сустрэўся з Маргарытай стрымана і ніякіх сваіх пачуццяў да яе стараўся не паказваць.

Усё ж выпадак іх звёў. На другім годзе вайны немцы пачалі набіраць моладзь на работу ў Германію. Заганялі ў вагоны па трыццаць-сорак маладых хлопцаў, дзяўчат з кожнай вёскі. Пры такім паліцэйскім гарнізоне, як у Міхалавічах, нечага было і думаць, каб выбавіцца ад Германіі. Было адно выйсце: знайсці службу.

Другой ваеннай восенню Аркадзь і Маргарыта апынуліся ў глухой лясной вёсцы Шашаны. Яго накіравалі сюды загадчыкам школы, яе настаўніцай. Яны толькі і паспелі сабраць некалькі ўцалелых буквароў, чытанак, запісаць вучняў у класы, правесці першыя заняткі. Ноччу з'явіліся партызаны, пабілі ў школе вокны, развалілі печ.

Ідучы назад, у Міхалавічы, няўдалыя настаўнікі заначавалі ў лесе. Знайшлі капу сена, развалілі, ляглі спаць. Маргарыта думала, што цяпер нарэшце прывяжа Аркадзя да сябе. Але пад раніцу ён у яе груба спытаў:

— Ты ведала мужчын?

— Не.

— Не хлусі. Калі будзеш так трымаць сябе, ведаеш, да чаго дойдзеш?

Аркадзь здагадваўся пра яе тайны. Але блізка да сэрца ягоныя словы яна не ўзяла. Жыло ў ёй адчуванне сваёй удачлівасці, поспеху, і, падпарадкоўваючыся гэтаму адчуванню, яна бадай што бязвольна і бяздумна прымала ўсё, што адбываецца навакол.

Восенню наступнага года Міхалавічы былі вызвалены ад немцаў. Чырвонаармейскія войскі, абозы, майстэрні запрудзілі вуліцы і правулкі сяла. Частка байцоў размясцілася ў голым, халодным лесе — у наспех выкапаных зямлянках. Фронт далёка не адышоў. Да самай зімы ад Прыпяці даносіліся глухія гарматныя раскаты.

З немцамі не паспеў уцячы валасны бургамістр, які ім падпяваў, выдаваў партызан, іхнія сем'і. Пасля кароткага ваенна-палявога суда бургамістра павесілі на пясчанай плошчы сяла. Павесілі ў чым хадзіў: у паліто, ботах, шапцы-вушанцы. Назаўтра на вісельні гойдаўся труп у адной бялізне, без шапкі, з пасінелымі босымі нагамі. Маргарыта ведала дакладна: абутак, вопратку зняў з павешанага Аркадзь. Сям'я ў іх вялікая, голая; адыходзячы на фронт, ён вось гэтак пра яе паклапаціўся. Калі яна ўспамінае пра вісельню, цела ахопліваюць міжвольныя дрыжыкі. Які смелы, адважны Аркадзь! Толькі адзін ён можа вось так зрабіць...

Аркадзя зноў прызвалі ў армію, але далёка ён не адышоўся. Запасны полк, у якім праходзіў перападрыхтоўку, размяшчаўся ў суседнім з Міхалавічамі сяле Сівалобы. Аркадзь не зваў яе да сябе, нічога не абяцаў, але яна знайшла яго, прынесла крышанчык сала, цёртай табакі і пасля, шчаслівая, радасная, прыходзіла на спатканні ледзь не кожны тыдзень. Нават начыста паголены (чорная да сінечы чупрына адляцела нашчэнт), у старым, з падпаленым крыссём шынялі, зашмальцаванай гімнасцёрцы і ватніках ён усё адно быў прыгожы.

Як у сне праляцела для Маргарыты мокрая, з бясконцымі адлігамі, лужамі, граззю на дарогах зіма, халодная, зацяжная вясна, пачатак гарачага, незабыўнага лета. Аркадзь даслужыўся да сяржанта, насіў на пагонах тры чырвоныя паскі, і яго пакінулі ў запасным палку на сталую службу.

## VIII

У сярэдзіне зімы Чырвоная Армія вызваліла абласны надпрыпяцкі горад. Вясной запасны полк, у якім служыў Аркадзь, перакінулі пад гэты горад, у казармы былога пяхотнага вучылішча, размешчаныя сярод сасновага лесу. Маргарыта месца сабе не знаходзіла. Абласны цэнтр — не мястэчка, так проста туды не паткнешся.

Яна знайшла выйсце. Якраз у тыя дні было аб'яўлена, што ў надпрыпяцкім горадзе адкрываюцца курсы па падрыхтоўцы медсясцёр. Бацька дапамог узяць накіраванне на курсы, і Маргарыта паехала ў горад.

Быў цудоўны месяц чэрвень і яшчэ некалькі не меней цудоўных ліпеньскіх дзён. Маргарыта нават кватэру падшукала ў забітым штабамі, машынамі, тэхнікай горадзе: летнюю дашчаную будачку ў яблыневым садзе. Маргарыта абклеіла сцены будачкі газетамі, упрыгожыла выразкамі з «Огонька», і гняздзечка атрымалася ўтульнае. Сяржант з трыма лычкамі на пагонах — начальнік невялікі, але Аркадзь выйсце знаходзіў. Раз за разам завітваў у горад. У іх з Аркадзем нават ложак, стол былі: гаспадар не пашкадаваў стары матрац, які яны паставілі на калодкі, а стол зрабілі са скрынак, пастаўленых адна на другую.

Маргарыта хадзіла на курсы, з нецярпеннем чакаючы дня, у які абяцаў забегчы Аркадзь. Ён па пасадзе стаў забеспячэнцам і ніколі не прыходзіў з пустымі рукамі. Два ці тры разы нават заставаўся начаваць.

Аркадзь прынёс у дашчаны дамок абшарпаны чамадан, які недзе раздабыў, некалькі кніг. Гэтым як бы засведчыў, што разглядае адносіны з Маргарытай як сямейнае жыццё.

Вярнуўшыся аднойчы з заняткаў, Маргарыта адразу адчула нядобрае. Чамадана, кніг у хібарцы не было. Аркадзь знік, нават не пакінуўшы запіскі. Гаспадар, хітры стары ўкраінец у саламяным брылі на лысай галаве, белых даматканых штанах, адводзячы позірк, сказаў Маргарыце, што за кватэру заплочана. Як бы даваў зразумець: яе далейшае пражыванне ў садовай старожцы непажадана.

Гэта быў нечувана балючы ўдар па яе веры, самалюбстве, гонары. Пазней яна даведалася, што запаснога палка пад го-

радам болей няма. Але хіба Аркадзь не мог папярэдзіць яе, развітацца як чалавек? Уцёк як злодзей, як нягодны цюцька...

Яна ведала нумар палявой пошты Аркадзя, але пісаць не стала. Перабралася ў інтэрнат да дзяўчат, старалася рабіць выгляд, што нічога благога ў яе жыцці не здарылася.

Маргарыта адчувала, што зрабіла памылку. Але не дакарала сябе. Яна гэтак моцна любіла Аркадзя, гэтак уладна ахапіла яе непадуладная розуму сіла, што пераступіць праз сваё пачуццё яна не магла.

Час ад часу яна завітвала ў Міхалавічы. Яе чакалі там лісты ад Касцюшкі. Нават не атрымліваючы ад Маргарыты адказу, ён упарта, вось ужо некалькі месяцаў, працягваў ёй пісаць.

Амаль пасля цэлага году маўчання яна паслала яму нарэшце адзін ці два лісты. Не, моцных пачуццяў, такіх, як да Аркадзя, у яе да яго не было. Ён ёй трохі падабаўся, і ўсё. Як многія іншыя. А ён як бы загарэўся. Проста закідваў яе лістамі. Пісаў: быў паранены, ляжаў у шпіталі, зноў вярнуўся на фронт. Тым часам яна нават не заўважыла, што ў яго пастаянных пісьмах да яе быў трохмесячны перапынак.

Вайна канчалася. Ні на фронт, ні нават у шпіталь Маргарыту не паслалі. Нібы па злой іроніі лёсу ёй далі накіраванне ў тыя самыя Шашаны, дзе два гады назад разам з Аркадзем Вярбілам яна спрабавала стаць настаўніцай. У Шашанах мусілі адкрыць фельчарскі пункт. Але пакуль што адзіным медыкам там была Маргарыта.

Гора ў Шашанах яна зазнала сапраўднага. Месячны харчовы паёк медсястры складалі восем кілаграмаў мукі. Па гэты паёк трэба было ісці ў мястэчка, стаяць у чарзе. Іншы раз мукі не хапала, і тады атрыманне пайка пераносілі на наступны месяц.

Сяргеевы лісты трохі сагравалі Маргарыту ў тую апошнюю халодную зіму вайны.

Як і трэба было чакаць, здарылася бяда. У сярэдзіне зімы ў Шашаноўскую школу прыслалі піянерважатай міхалавіцкую дзяўчыну Зосю Шпілеўскую: амаль адначасна з Маргарытай яна вучылася ў надпрыпяцкім горадзе на курсах піянерважатых. Хоць сама Зося адчайна гуляла з ваеннымі, без

сораму мяняла знаёмствы, сутыкнуўшыся з Маргарытай адзін на адзін, не прамінула спытацца:

— Як твой муж? Піша табе?..

Маргарыта пахаладзела.

— Які муж?

— Аркадзь Вярбіла. З нашых Міхалавіч.

— Што гаворыш? Хіба сама не знаёмілася з ваеннымі?

— Знаёмства адно, а ты, мая мілая, замужам была. Няхай сабе не запісаная. Кватэру на Пралетарскай вуліцы наймала. Я і нумар дома помню...

Бачачы, што Маргарыта пабялела з твару, гатова вось-вось заплакаць, Зося памякчэла.

— Ладна. Я пажартавала. Нікому не гаварыла і не скажу. Дурныя мы, бабы. Спадабаецца хто, дык гатовы жыццё за яго пакласці. А ён хвастом вільне, і памінай як звалі. Аркадзю твайму нагаварыў нехта. Усё распытваў пра гэтага вашага суседа Гарасіма Шайбака. Пра фельчара Федзю Лычка таксама распытваў...

Маргарыта зразумела: заставацца ў Шашанах нельга. Маці, бацька ведалі пра Аркадзя. Прыйшлося расказаць і пра Зосю. На сямейным савеце было вырашана: Маргарыце трэба пакінуць Шашаны. Не такое вялікае дасягненне быць медсястрой з дзевяццю класамі адукацыі.

Скончылася вайна. У першую мірную восень Маргарыта вярнулася ў мястэчка, паступіла ў дзясяты клас. Ёй ішоў, калі лічыць не па метрыках, дваццаць другі год.

Пра Аркадзя яна ўспамінала з ціхім салодкім смуткам. І нават не верылася, што быў ваенны горад, дашчаная будка ў яблыневым садзе, зорныя летнія ночы з нажамі пражэктараў, якія шарылі па небе. Яна цяпер ведала бадай дакладна: Зося перад Аркадзем яе абылгала. Яна не вінавата ў тым, што іхнім суседам стаў Шайбак, а ў Шайбака рос задзірысты, нахабны сын Герасім. Ды і было тое даўно-даўно, яшчэ ў дзяцінстве...

Іхні дом прыкметны ў сяле і, бадай, самы прыгожы. Бацька абгарадзіў двор, сад высокім парканам, абвітым зверху, па зубцах, калючым дротам. Магчыма, бацьку, доктару, і не варта было гэтак умацоўваць сваю сялібу. Але, з другога боку,

і зладзеяў у Міхалавічах хапае. Ва ўсім сяле тым часам прыстойны сад таксама толькі ў іх, Асмалоўскіх.

Летам, калі ў садзе паспявалі яблыкі і грушы, адбою не было ад ахвотнікаў нарваць іх поўныя запазухі. У лік зладзеяў уваходзілі і хлопцы, якіх лячыў бацька. Бацька і стрэльбу купіў, і ўночы соллю страляў па нягодніках, але ўсё адно з падвулічнай стараны яблыкі і грушы зладзеі абабіралі начыста.

Днём сад сцерагла Маргарыта. Яна ляжала ў саламяным шалашыку і з цікавасцю сачыла за прошукамі хлапечай талакі, якую ўзначальваў суседскі сын Герасім. Хлапчукі, што ўздзіраліся на паркан і дражніліся з Маргарытай, дзейнічалі болей для адводу вачэй. Галоўную ролю выконваў Герасім, кудлаты, з вялікай галавой хлапчына, гады на тры старэйшы за Маргарыту. Пакуль хлапчукі пішчалі і верашчалі, ён з саламянай страхі свайго хлява, які межаваў з садам, перабіраўся на дрэва і спакойна сядзеў там да таго часу, пакуль не набіраў поўную запазуху яблыкаў або груш. Маргарыта бачыла гэта, але маўчала. Чымсьці ўладным, цёмна-загадкавым Герасім вабіў яе да сябе.

Аднойчы яна сама вынесла суседскаму хлопцу некалькі яблык. Ён узяў іх, і ў яго, нібы ў ката, выразным бляскам загарэліся зеленаватыя вочы.

— Выйдзеш вечарам у правулак,— сказаў, аблізваючы сухія, патрэсканыя губы.— За хату...

Яна прыйшла. Але жаданне сустрэцца з Герасімам яшчэ раз у яе не ўзнікла. Яна наогул пазбягала яго і болей не трапіла на прыманку дзявочай цікаўнасці.

На фельчара Фёдара Лычка, невысокага, з прыемным тварам хлопца, на якім асабліва выдзяляюцца задуменныя шэрыя вочы, яна наогул ніякай увагі не звяртала. Можа, калі пастаяла з ім, пагаварыла ці станцавала на вечарынцы вальс. Фёдар пісаў вершы, прысвечаныя ёй, прысылаў іх па пошце, але ягоныя вершы, як і сам ён, яе не цікавілі.

Пра тое, што Аркадзь падмануў яе, абвёў вакол пальца, яна не думала. Яна наогул мае схільнасць забываць усё благое, што калі-небудзь з ёй здарылася. Непрыемныя выпадкі, здарэнні яна забывае настолькі моцна, глуха, што пазней сама не памятае: былі яны на справе ці не.

Старэйшыя класы школы больш чым напалавіну складаюцца з пераросткаў, якім мінула васямнаццаць і дзевятнаццаць гадоў. Маргарыта сярод іх асабліва не выдзяляецца.

Яна канчала школу, калі дэмабілізаваўся з арміі Касцюшка. Яна нават не пазнала яго: перад ёй стаяў старшы лейтэнант з мужным, абветраным вятрамі вайны тварам, з ордэнам і некалькімі медалямі на камандзірскай з цёмна-зялёнага шавіёту гімнасцёрцы. На першым часе гэты малазнаёмы Сяргей, які напісаў ёй столькі пісем, нават закалыхаў, зачараваў Маргарыту. Бясконца расказваў пра фронт, баі, свае раненні, шпіталі, у якіх лячыўся, краіны, у якіх пабываў. Маргарыта з цікавасцю яго слухала. Але ён толькі і ўмеў, што бясконца расказваць. Нават прыхінуць Маргарыту да сябе, пацалаваць не асмеліўся.

Яна прыйшла да вываду, што ён гаварун і болей ні на што не здатны. Не, такі хлопец не мог завалодаць душой Маргарыты. Яна не чакала яго, не прызначала спатканняў. У будучыню яна асабліва не заглядвала, але, калі і думала пра замужжа, сямейнае жыццё, ніколі Касцюшку побач з сабой не бачыла. Яна ўсё-такі чакала чалавека, які будзе ёй па сэрцы. Не якога-небудзь выключнага, хоць бы такога, як Аркадзь.

Калі яна спатыкалася з Аркадзем, адчувала, што гарыць душа, што яна жыве на свеце, бо кожны пражыты з ім дзень нараджаў бясконцую радасць. Яна засынала і прачыналася з адной думкай: у яе ёсць Аркадзь. Як гэта хараша, калі любіш чалавека!..

На яе з цікавасцю глядзяць мужчыны. Няўжо не знойдзецца яшчэ адзін, падобны на Аркадзя?

Маргарыта адчувае: Касцюшка яе любіць. Моцна любіць, бо лёгка даруе, забывае крыўду, якую яна прычыняе яму кожнага дня. Спатыкаючыся з ёй, ён хвалюецца, радуецца, робіцца сам не свой.

У яе душы іншы раз нараджаецца хваля цёплага пачуцця да яго. Але толькі на той час, пакуль Сяргей побач. Ідзе ад яе, і яна перастае пра яго думаць.

У пачатку першай мірнай вясны вярнуўся ў Міхалавічы Аркадзь Вярбіла. Пачуўшы гэта, Маргарыта адразу паехала да бацькоў. Яна тыдзень у школу не хадзіла, прытварылася нездаровай і ўсё шукала сустрэчы з Аркадзем.

Спатканне адбылося. Выклікаўшы Аркадзя вечарам на прыгуменне, Маргарыта сама кінулася яму ў абдымкі. Ён ад ласкі, ад пацалункаў не ўхіляўся, але назаўтра на сустрэчу не з'явіўся. Усё працягвалася, як і раней.

Яна занылa душой. Тыя, каго любіць яна, яе не хочуць, а хто сам да яе цягнецца, тых яна без літасці адштурхоўвае. Чаму так? Няўжо немагчыма, каб чалавек знайшоў чалавека і двое адно ў другога закаханых людзей жылі ў шчасці, радасці?

Бацькі бачаць: з Маргарытай творыцца нядобрае. Трэба шукаць ратунак. Як на шчасце, у Міхалавічы прыехаў яшчэ не стары, чарнявы і прыемны з выгляду капітан Сцяпан Лысенка, які гады за тры да вайны падаўся ў ваенна-медыцынскае вучылішча, вывучыўся там на ваеннага доктара.

Сцяпан служыць у арміі, як урач-капітан жыве, вядома, някепска.

Лейцы ў рукі бярэ Амалія Сідараўна. Выклікае з мястэчка Маргарыту, заводзіць асцярожную гаворку пра Сяргея Касцюшку. Хлопец быццам неблагі, але хто ён? Вучыцца толькі на першым курсе. Калі скончыць той універсітэт? Праз пяць гадоў. Пяць гадоў чакаць?

Капітан-урач тым часам з дня на дзень завітвае да Асмалоўскіх. Яго добра, як жаданага госця, прымаюць, частуюць. Маргарыта, відаць, капітану падабаецца. Усё ідзе як па масле.

Маргарыта абыякавая да капітана. Хоць бацькам не гаворыць. Хіба зразумеюць? Ім абы аддаць яе замуж. Але калі абавязкова іменна цяпер выходзіць замуж, то ўжо лепей за капітана. Звязе куды-небудзь, дзе яе не ведаюць, не будуць часаць языкі.

На правах жаніха капітан едзе ў мястэчка, штовечар сустракаецца з Маргарытай. Жаніх аж гарыць ад узбуджэння, дае гарачыя абяцанні, малюе ружовыя карціны іх сумеснага жыцця. Маргарыта патроху да яго прывыкае, супакойваецца, нават паказваецца разам з капітанам на вуліцы.

Тым часам капітан усё радзей завітвае да Маргарыты. Нарэшце заяўляе: ягоны водпуск скончыўся. Вернецца ў часць і дасць ёй выклік.

Яна разумее: яшчэ адно паражэнне. Упершыню палохаецца адзіноты. Усе пакінулі яе, нават Сяргей.

Лета страшэнна гарачае. Сапраўдная засуха. Жыта, авёс, бульба, пасеяныя на пясчаных міхалавіцкіх узлобках, выгаралі дашчэнту. Няма чаго збіраць. Як будуць жыць?

Сяргей з Маргарытай не спатыкаецца.

Яна, вядома, магла б напісаць яму ліст, знайсці якое-небудзь апраўданне сваім сустрэчам з капітанам. Але яна так ніколі не зробіць. Аркадзю, каб ён хоць трохі да яе хінуўся, яна б напісала. Сяргею ніколі. Ён і так за ёй пабяжыць.

Між тым прайшоў жнівень, ужо верасень мінае, Сяргей даўно прыехаў з Мінска, з завочнай сесіі, аднак знакаў пра сябе не падае. Болей таго, знаёмыя дзяўчаты расказваюць нешта неверагоднае: бачылі Сяргея ў кампаніі з бібліятэкаркай Лідай Гарошка. Ліда тым часам жанчына маладая, вясёлая, з мужам развялася і так проста хадзіць з Сяргеем не будзе.

Маргарыта дзяўчатам не вельмі паверыла, але рашыла дзейнічаць. Бегаць за ім яна не збіраецца, нізавошта не пакажа, што шукае сустрэчы.

Маргарыта ведае: што-небудзь прыдумае. Сяргей ходзіць на станцыю, перадае знаёмым, якія едуць у абласны горад, свае допісы ў рэдакцыю.

Адзін раз Маргарыта прыходзіць на станцыю, другі, трэці. Нават білеты купляе. Калі напаткае Сяргея, скажа — едзе ў Міхалавічы.

Нарэшце яна там бачыць яго. Маргарыта робіць выгляд, што ідзе да вагона, на хаду з ім вітаецца. Ён адказвае на прывітанне, але не затрымлівае яе, не даганяе. Спектакль зрываецца. Маргарыта робіць выгляд, што нешта забыла, спыняецца. Толькі тады Сяргей падыходзіць.

Страшэнна ў тую ноч грымела навальніца...

Толькі на дваццаць трэцім годзе жыцця скончыла Маргарыта дзесяцігодку. Паехала разам з сяброўкамі ў Мінск, паткнулася ў медыцынскі інстытут. Але старшыня прыёмнай камісіі, сівы дзядуля са зламанымі акулярамі на тоўстым, як бульбіна, носе, нават не захацеў узяць ад яе дакументы.

— У нас з чацвёркамі і пяцёркамі не ўсе праходзяць,— сказаў.— У цябе адны тройкі. Пастпай, пакуль не позна, у медыцынскае вучылішча.

Медыцынскае вучылішча ў надпрыпяцкім горадзе, нават у тым самым будынку, дзе Маргарыта ў вайну вучылася на курсах медсясцёр.

Сяброўкі Маргарыты, усе без выключэння, паступілі ў інстытуты. Але яе гэта асабліва не засмуціла. Няхай радуюцца. Шэрыя, як адна, пташкі. Высока не ўзляцяць. Яна возьме другім.

У надпрыпяцкім горадзе магло быць цудоўна. Яна зноў сустрэлася з Аркадзем Вярбілам, які прыехаў паступаць у настаўніцкі інстытут.

Яна бавіла з ім час, хадзіла ў кіно, нават у тэатр. Аркадзь, як і ў памятнае ваеннае лета, яўна да яе хінецца. Праўда, ён паступае на завочнае аддзяленне. У горад будзе прыязджаць рэдка. Але ён працуе ў сямігодцы, размешчанай не так далёка ад Міхалавіч, і нават запрашае Маргарыту да сябе ў госці.

Маргарыта была на ўзлёце надзей. Не, замуж за Сяргея Касцюшку яна не збіралася. Так выйшла...

Сяргей прыязджае ў рэдакцыю раз ці два ў месяц, заходзіць у вучылішча, пакідае ў калідоры на падаконніку запіску. Гэтую запіску Маргарыта аднойчы паказвае Аркадзю. Хоча, каб у яе адносінах з ім усё было ясна і чыста.

Няшчасце здарылася напрадвесні. Ідучы пераздаваць экзамен, Маргарыта нос у нос сутыкнулася з Зосяй Шпілеўскай, той самай школьнай піянерважатай, з-за якой уцякла з Шашаноў. Зося, аказваецца, завочна вучыцца ў настаўніцкім інстытуце і прыехала на кансультацыю.

— Шчаслівая ты,— сказала Зося.— Зноў вярнула сабе Аркадзя. Што ж, хлопец харошы.

Сэрца ў Маргарыты як абарвалася. Прадчувала: і на гэты раз бяда не міне.

Яна паехала дамоў, па дарозе завярнула ў вёску, дзе размешчана Аркадзева школа. Ён яе завёў да гаспадыні, у якой кватараваў, увесь дзень не выпускаў з бакоўкі, у якой стаяў ягоны ложак і стол, а вечарам, калі зусім сцямнела, вывеў на бальшак. Сем кіламетраў да Міхалавіч яна прайшла пешкі: ніводнай машыны не трапілася. Яна добра запомніла праведзены ў Аркадзя дзень. Было Восьмае сакавіка — жаночае свята...

Яшчэ праз месяц Маргарыта пачула: Аркадзь ажаніўся.

Некалькі дзён на заняткі яна не хадзіла, ляжала ў ложку, плакала. Якраз прыехаў у горад Касцюшка. Яна спаткалася з ім і запрасіла яго да сябе ў свой закутак, які здымала ў прыватных гаспадароў. Зрабіла, каб Касцюшка застаўся нанач. Вясной яна адчула, што цяжарная. Не ведала, што думаць, што рабіць. Нарэшце зноў прыехаў Касцюшка, і яна расказала яму аб сваім становішчы. У той жа дзень яны, нават не папярэдзіўшы бацькоў, пайшлі ў загс і запісаліся.

Можна жыць сямейным жыццём. Але толькі калі побач жаданы чалавек. Як Аркадзь, якога яна любіла нават пасля ўсіх непрыемнасцей, якія ён ёй зрабіў. У Аркадзя душа нібы жывое срэбра. Ёй бы на ўсё жыццё хапіла адно пільнаваць яго, чакаць, утаймоўваць.

Яна прадчувала, што не ўтрымаецца ў межах нуднай сямейнай будзёншчыны. Баялася напаткаць такога, як Аркадзь, калі можа цалкам страціць над сабой уладу. Тых, да каго асабліва не прыкіпае душа, яна не баіцца: можна пагуляць, пацешыцца, і не застаецца ніякага следу.

З Аркадзем Маргарыта сыходзілася, разыходзілася, але ён быў проста кавалер. Вольная птушка. Цяпер сутыкнулася з жанатым. Толькі хіба для сэрца ёсць розніца? Калі Маргарыта сустракаецца з Віктарам, яе малое, слабое сэрца б’ецца, нібы злоўленая ў сіло птушка. Бунтуе, вірue кроў.

Віктар тым часам выдзеліў яе сярод акушэрак, медсясцёр, маладых доктарак. Вітаючыся, запыняе на ёй позірк шэрых пранізлівых вачэй. Пад яго позіркам яна нямее, губляе волю. Баіцца і ў той жа час цягнецца да яго. Такога з ёй яшчэ не было. Хіба толькі з Аркадзем.

Цяпер яна як бы помсціць і Аркадзю. Пасля таго як ён ажаніўся, а яна выйшла замуж, не скончылася іхняе каханне. Летам, калі яна, замужняя, прыехала з вучылішча ў Міхалавічы, Аркадзь сам стаў настойліва шукаць з ёй сустрэчы. Надвячоркам на полі сярод палавеючага жыта яны спаткаліся, і ён прызнаўся, што любіць адну яе. Яна зноў даравала яму крыўду і абразу. Хоць не зусім. Праз некалькі дзён яна ўбачыла Аркадзеву жонку, і на гэты раз нядобрае пачуццё да каханка пасялілася ў яе сэрцы надоўга. Што ён убачыў у

гэтай чарнявай, худой, надзвычай някідкай з выгляду жанчыне? Змяніў яе на нейкую задрыпанку. Маргарыта цешылася, што ад сваёй законнай Аркадзь бегае да яе. Але нешта Маргарыту і прыгнятала...

Хутка месяц, як Касцюшка ў Мінску. Іншы раз у Маргарыты ўзнікае думка паехаць да мужа, расказаць, што з ёй робіцца, зняць чары, якія апанавалі яе істоту. Але яна адкідвае гэтую думку. Што будзе, калі яна так зробіць? Сум, адзінота...

Прыгожы бальнічны двор. Раней Маргарыта нават не заўважала, што ён такі прыгожы.

Старыя купчастыя бярозы, раскідзістыя клёны навісаюць над усімі драўлянымі бальнічнымі карпусамі.

У першым корпусе кватаруе Ізольда Апанасаўна, галоўны ўрач. Забрала сабе чатыры пакоі. Пафарбаваная рыпучая падлога ў тых пакоях, дарагія гардзіны на вокнах. Маргарыта баіцца Ізольды Апанасаўны. Нават як бы раўнуе яе да Віктара. Ён жа фактычна прыехаў на месца Трахімчыка, які ад Ізольды Апанасаўны ўцёк. Але Віктар — не Трахімчык. Не дагаджае, не віляе перад галоўнай урачыхай.

У другім, самым вялікім, корпусе — амбулаторыя, у трэцім — бальніца, стацыянар.

Пад таполямі стаяць лавачкі. Маргарыта марыць, што калі-небудзь вечарам на адной з іх пасядзіць з Віктарам. Ніхто не ўбачыць. Ад вуліцы бальніца аддзяляецца вялікім яблыневым садам.

Жаўцее на дрэве ліст, падаюць на зямлю яблыкі. Нават чуваць, як падаюць. Прыгожае неба: высокае, зорнае — яно нібы гаворыць пра бясконцыя абсягі свету і пра нікчэмную, загубленую ў бязмежных prасторах пясчынку — чалавека. Што зробіць чалавек са сваімі пачуццямі, калі яны мацней за яго? Калі абяцаюць радасць, шчасце, няхай часовае, хуткаплыннае...

Маргарыта даведваецца: Віктар знайшоў кватэру ў тым жа канцы мястэчка, дзе жыве яна, на новай, забудаванай пасля вайны вуліцы, за якой пачынаецца поле. Яна палохаецца і радуецца адначасова. Баючыся таго, што можа здарыцца, перастае хадзіць вечарам з бальніцы адна. Спецыяльна чакае акушэрку і фельчарку, якія жывуць блізка ад яе, вяртаецца дамоў з імі разам.

Непазбежнае здараецца. У адзін з тых, па-летняму яшчэ цёплых вечароў яна раптам чуе, што нехта даганяе іх невялікую жаночую кампанію. Сэрца трывожна і радасна падказвае: Віктар. Ён задыхаўся, пакуль дагнаў іх, параўняўшыся, кідае некалькі нязначных слоў і астатнюю дарогу маўчыць. Яна маўчыць таксама. Спачатку фельчарка, затым акушэрка, дайшоўшы да сваіх двароў, развітваюцца. Маргарыта і Віктар застаюцца адны.

Вулачку — вузкую і цёмную, у якую Віктар мог звярнуць, яны прапусцілі. Цяпер Віктару трэба ісці ледзь не да самай чыгункі, каб дабрацца да наступнага правулка, што з паўночнага боку прылягае да Палявой вуліцы.

Перад дваром Маргарыты Віктар нерашуча спыняецца.

— Я правяду вас,— гаворыць яна і ідзе з ім далей.

За драўляным, напаўразбураным мастком, наведзеным праз перасохлы ручэй, яны спыняюцца. З правага боку чарнее дом Веры Бляўскай, саламянай удавы. Да апошняга часу Веру, у якой чацвёра малых мурзатых дзяцей, лічылі жонкай загінуўшага камандзіра, выплачвалі вялікую пенсію. Нядаўна выявілася, што камандзір жывы, ажаніўся з маладой і проста хаваецца ад дзяцей і аліментаў. Ля глухой сцяны Верынага дома вышэй даху ўздымаецца разгалістая вярба. Пад вярбой нічога не расце, але гаспадыня дрэва не ссякае.

Па завулку далей стаіць яшчэ адзін дом, большы памерам, крыты бляхай, але таксама без гаспадара. Гаспадара, паравознага машыніста, арыштавалі яшчэ перад вайной. Па другі бок правулка — сядзіба папа. Ён купіў яе ў чыгуначнікапенсіянера, які паехаў у горад да дачкі. Палавіну сядзібы ў папа займае лужок, на якім, пры самым плоце, задумліва спусціўшы шацёр галін, стаіць плакучая іва.

Маргарыта з Віктарам праходзяць яшчэ некалькі крокаў — пад цень івы. Стаяць, не гаворачы адно другому ні слова. Нарэшце ён кідаецца да яе, пачынае цалаваць. Яна, трацячы волю, свядомасць, вырываецца, збівае з яго галавы шапку. На шапку ён не зважае. Хапае яе за руку. Зноў накідваецца з прагнымі пацалункамі.

— Не сёння,— гаворыць яна.

— Калі? — пытае ён.

— Заўтра.

— Дзе?

— Тут.

Ён яе адпускае, падымае з зямлі шапку.

Назаўтра яна прыходзіць пад іву, ціхая і пакорлівая...

За правулкам пачынаецца поле. Цягнецца яно далёка: да нябачнага ў цемені лесу. З правага боку поля ляжыць чыгунка — яна адгароджана ад поля паласой лесапасадкі. Маладыя ліпы, клёны, таполі, дубкі, пасаджаныя адразу пасля вайны, высока падняліся над зямлёй, сплёўшыся наверсе вершалінамі.

У непралазнай гушчэчы лесапасадак Віктар і Маргарыта ў гэтыя асеннія вечары тайна спатыкаюцца. Бывае, Віктар чакае Маргарыту, часцей — яна яго. Прыйшоўшы, ён нецярпліва, прагна на яе накідваецца, і здаецца, канца не будзе яго дзікай неўтаймаванасці...

Вісяць над асеннім полем бліскучыя, нібы вымытыя, зоркі. Але ціхае, цёплае лета пастурова канчаецца. Усё часцей шуміць у вершалінах клёнаў, таполяў халодны вецер, зрываючы з іх апошняе лісце. Услед за ветрам сеецца з цёмнага, як дзёгаць, неба надакучлівы дождж...

Маргарыта і Віктар штовечар прыходзяць у пасадкі. На вецер, дождж не зважаюць. Другога, больш зацішнага, схаванага ад цікаўнага людскога вока месца не знойдзеш.

Вось ужо і лісця на дрэвах няма. Скоўвае зямлю мароз. Яны ўсё яшчэ прыходзяць у пасадкі. Холадна нават у засені дрэў. Маргарыта кожны раз прыносіць пад крыссем паліто бутэльку гарэлкі. Па чарзе прыкладваючыся да рыльца бутэлькі, яны грэюцца. Пасля некалькіх глыткоў зусім іншым робіцца свет. Весялейшым, прыгажэйшым.

Ці мокрая слата, ці халады — спатканні Віктара і Маргарыты зацягваюцца далёка за поўнач. Добра, што снегу няма. Як выпадзе снег, у пасадкі не прыйдзеш.

Лежачы на апалым халодным лісці, каханкі праз навісь галін глядзяць на далёкія зоркі.

— Твая жонка прыгожая? — пытае Маргарыта.

Віктар адказвае з прыкметным раздражненнем.

— Навошта табе? Я пра твайго мужа не пытаюся.

— Ты цяпер мой муж.

Віктар пачынае злавацца. Не тоіць свайго настрою.

— Пра гэта не дамаўляліся. Сагрэлі адно другога, і хопіць.

Маргарыта, баючыся, што Віктар не прыйдзе на наступнае спатканне, дарue яму ўсё. Стараецца задобрыць. Да смешнага даходзіць: разам з запіскамі, у якіх прызначае спатканне, яна апускае ў кішэнь яго парадкам паношанага, шэрага, без каўняра паліто, што вісіць у ардынатарскай, пліткі шакаладу, цукеркі, пачкі папярос.

Але чым далей, тым часцей ухіляецца Віктар ад спатканняў. Стараецца выйсці з бальніцы непрыкметна. Ці, наадварот, вяртаецца дамоў у кампаніі.

Па вечарах Маргарыта блукае па бальнічным садзе, пільнуючы Віктара. Яна ў роспачы. Яшчэ ніколі ў яе жыцці не было, каб вось так, як цяпер, яна вымольвала каханне...

## IX

Касцюшка вылазіць з вагона, развітваецца на пероне з Грышам. Пра свой прыезд ён не пісаў, нават маці не сказаў, калі размаўляў па тэлефоне, і ніхто яго не сустракае. Так лепей. Мінулы раз на станцыю прыходзіла Маргарыта, і ў тым, як яна яго сустракала, штосьці Сяргею не спадабалася. Была не падобная на сябе Маргарыта: парывіста абхапіла яго за шыю, пацалавала, а ён да такіх яе пяшчот не прывык.

Даўно ўвайшла Маргарыта ў Касцюшкава жыццё, а ён усё яшчэ яе не ведае, губляецца ў здагадках наконт жончынага характару. Ён пачаў зрэдку думаць пра Маргарыту яшчэ напярэдадні вайны, калі збіраўся ў свой жыццёвы вырай. Ён марыў пра горад, інстытут, і ў гэтых марах нейкае, хоць яшчэ даволі няпэўнае, месца займала Маргарыта.

Горад, інстытут перакрэсліла вайна. Касцюшка рана пайшоў у школу і закончыў дзесяць класаў у няпоўных сямнаццаць гадоў. У армію, як другіх дзесяцікласнікаў, яго не ўзялі. Але калі стала вядома, што ў мястэчка прыйдуць немцы, ён падгаварыў двух дзевяцікласнікаў, з якімі сябраваў, і яны ўтраіх рушылі на ўсход. Ішлі да Дняпра праз Маргарыціну вёску, і, распытаўшы, дзе яна жыве, ён маўкліва прайшоў міма яе

двара. У яго нават думкі не ўзнікла на правах знаёмага зайсці да яе, развітацца.

Гора за час вандравання па дарогах уздыбленай вайной краіны ён зазнаў сапраўднага. Галадаў, мок пад дажджом, мёрз. Да самай восені на станцыі Варажба, якая знаходзіцца не так далёка ад Харкава, ён разам з жанчынамі, дзяўчатамі з гарадоў, да якіх набліжаўся вал нямецкага наступлення, капаў акопы, супрацьтанкавыя рвы, харчаваўся, начаваў, як і дзе прыйдзецца.

Два ягоныя таварышы, трохі пакаштаваўшы бежанскага жыцця, ад Касцюшкі адбіліся. Адзін успомніў, што недзе на Алтаі жыве матчын брат, родны дзядзька, і рушыў туды, у другога нават дакладны адрас сваяка быў запісан: горад Цім Курскай вобласці. У Касцюшкі на прасторах Расіі сваяка не было, ягоная радня засталася за Дняпром. Праўдзівей, быў адзін чалавек, які б, відаць, прытуліў яго, каб ён да яго звярнуўся. Іхні сусед Макар Туравец яшчэ ў пачатку трыццатых гадоў паехаў у Маскву, працаваў там, а ўласны дамок збудаваў пад Масквой, у дачнай мясцовасці. У яго размаляваным, пад хмурымі елкамі дамку Касцюшка нават начаваў, калі гады за тры да вайны разам з бацькам-чыгуначнікам, якому давалі бясплатны білет, ездзіў у Маскву купляць корт. Тым часам цяпер яму да Макара дарогі няма. На Маскву нацэлілі ўдар фашысты, раз за разам імкнуцца прарвацца да яе армады іхніх самалётаў, і Макару ў гэтыя трывожныя дні не да Касцюшкі.

На станцыі Варажба Касцюшка цяжка захварэў. Ён папрасіўся нанач у глінабітны, пабелены звонку дамок да старой маўклівай украінкі, ды так і праваляўся ў яе ў тыфозным трызненні болей як два тыдні. Украінка лячыла яго як магла. Вялікае сэрца мела жанчына: не толькі даглядала чужога чалавека як роднага, а выратавала ад новай бяды. Калі да гарадка падышлі немцы, правяла на станцыю, пасадзіла ў таварны, шчыльна забіты людзьмі вагон, дала ў рукі вузельчык з бялізнай і харчам.

У вагоне Касцюшка даехаў да Куйбышава. Са станцыі нікуды не пайшоў: што такое фабрыка, завод, ён не ведаў, тым часам на чыгунцы, у пуцейскай брыгадзе працаваў, наймаючыся туды на месяцы летніх канікулаў.

Ён і тут паступіў у рамонтную брыгаду, атрымаў месца ў інтэрнаце, ватоўку, хлебную картку. Але, знясілены хваробай, дзень выходзіў на работу, дзень валяўся ў ложку. Для поўнай папраўкі малады арганізм патрабаваў харчу. Харчу якраз не хапала. Посны абед у сталоўцы і пяцьсот грамаў хлеба па картачцы — на такім паўгалодным пайку ён, відаць, доўга б не працягнуў. Рамонтнікі, мабілізаваныя з навакольных вёсак, прыносілі з дому хлеб, бульбу, яблыкі. Ён меў толькі картку. Пачалася зіма, маразы. У яго тым часам, акрамя ватоўкі, не было болей ніякай зімовай вопраткі, нават шапкі-вушанкі ён не меў і не мог купіць: каштавала залішне дорага.

Ён усё-такі знайшоў выйсце: паступіў у ваенізаваную ахову. Зіма была суровая: гулялі вятры, мялі снягі, вісела над горадам, над Волгай, над заволжскім стэпам злавеснае чорнае неба. На вялікую, разлеглую станцыю штохвілінна прыбывалі новыя эшалоны: са станкамі, трактарамі, рабочымі розных заводаў, якія накіроўваліся ў глыбокі тыл, у Сібір.

Касцюшка ў ваенізаванай ахове акрыяў. Меў шынель, валёнкі, цёплую шапку і нядрэнны харч тры разы ў дзень. Пахаджваючы ноччу з вінтоўкай узбоч эшалонаў, ён успамінаў мястэчка, якое цяпер ляжала за вогненнай паласой фронту, родную хату, нават печ з шырокім цёплым чаранам, на якой ён столькі прачытаў кніг. Пра Маргарыту ў час сваіх блуканняў па пакутах Касцюшка амаль не ўспамінаў. А тут, калі ён трохі адагрэўся, адкарміўся, яна раптам выплыла зноў, выцесніла з яго думак астатніх школьных дзяўчат, якіх ён ведаў. Пад чужым, чорным небам яму прыемна было марыць пра вяртанне ў мястэчка, сустрэчу з Маргарытай, з якой толькі адзін раз ён адважыўся пасядзець на лавачцы.

У мястэчку гэтак жа, як у Мінску, ляжыць голы замёрзлы груд, стаяць, раскінуўшы разгалістыя лапы-галіны, чорныя дрэвы. Сяргей ідзе дадому чыгункай, мінаючы дрывяны склад, вагавую будку, драўляныя прыземістыя базы розных нарыхтоўчых кантор, пабудаваныя наўзбоч тупіковых пуцей. Яшчэ не позна, толькі дзевяць гадзін вечара, але ўражанне такое, нібы вісіць над мястэчкам глухая ноч. Неба зацягнута воблакамі, зорак не відаць, і ледзь праглядваюцца ў цемені дарога, абрысы будынкаў, макушкі дрэў. Бярэцца на непагоду: дзьме халодны паўночны вецер.

Нядобра ў Сяргея на душы. Можа, упершыню ў жыцці ідзе ён у родную хату без радасці, уздыму, без той прыемнай, хвалюючай нацятасці пачуццяў, якія заўсёды суправаджаюць яго зварот дадому з бліжніх і дальніх ваколіц.

Перш чым зайсці ў хату, Сяргей праходжваецца па панадворку. Усё на месцы ў вузкаватым, знаёмым да дробязей двары: паветка, стопка, якая да самых акенечак уехала ў зямлю, хлеў, што замыкае двор, аддзяляючы яго ад агарода,— ён прымыкае да паветкі і стопкі пад прамым вуглом, хоць стаіць разам з імі пад адным саламяным плехам.

Перад хатай, за хатай — на ўсім адгароджаным штыкетнікам прасцягу сядзібы шастаюць цёмнымі галінамі яблыні і грушы. Непрыкметна двор ператварыўся ў сад, праз навісь галін у пярэдняй і чыстай палавінах хаты свецяцца вокны.

Праз вокны відно: парадак у доме ранейшы. У пярэднім пакоі пры бляклым святле лямпы-васьмерыка малодшыя брат і сястра робяць урокі. Абое сядзяць за сталом-шкапчыкам, змайстраваным бацькам яшчэ да вайны. Маці гойдае калыску. Гэтую на дужках-ножках калыску Сяргей купіў у Гомелі на базары, калі вяртаўся дамоў з зімовай сесіі, якой пачынаўся чацвёрты курс.

У чыстай палавіне хаты, якую цяпер займае адна Маргарыта, святлей. На стале, пастаўленым ледзь не пасярэдзіне пакоя, гарыць большая — дванаццацілінейная — лямпа. Відаць канапа, нікеляваны ложак з гарой падушак. Седзячы за сталом, Маргарыта таксама нешта піша. У Сяргея падымаецца настрой. Усё-такі дома Маргарыта.

Прыезду Сяргея ніхто не здзіўляецца. Гэта яго яшчэ больш супакойвае. Дарэмна ён тлуміў галаву, пакутаваў ад згрызотлівых думак. Проста ён адарваўся ад дому, ад блізкага, прывычнага асяроддзя.

Сяргей раздае небагатыя падарункі, якім шчыра радуюцца брат, сястра, маці. Ад яго позірку, аднак, не хаваецца, што Маргарыта ўзяла сярэбраны пярсцёнак амаль абыякава. Прымерала на палец і адразу зняла, паклала на стол.

Сяргей не прыдае гэтай дробязі ўвагі. Ён як бы нырнуў у ціхую, лагодную раку спакою і не хоча адтуль вылазіць. Як бы баіцца парушыць доўгачаканую раўнавагу, якая нарэшце запанавала ў душы.

Незвычайнае пачынаецца гадзін у дзесяць вечара. Маргарыта раптам пачынае збірацца. На туфлі надзявае боцікі, апранае палітончык.

— Трэба ісці,— заяўляе.

Сяргей нямее ад нядобрага прадчування.

— Куды ісці?

— У бальніцу.

— Ноччу ў бальніцу? Тваё дзяжурства даўно скончылася.

— Ёсць начное дзяжурства.

— Дык ты ж днём працавала. Навошта нанач ідзеш?

— Медсёстры хварэюць. Трэба графік паглядзець. Калі мне заўтра і паслязаўтра на работу. Графік часта мяняецца.

— Нікуды не пойдзеш! — са злоснай рашучасцю выгуквае Сяргей.

Не распранаючыся, Маргарыта садзіцца ў крэсла, апускае галаву на стол. Пачынае гучна ўсхліпваць.

Такога Сяргей яшчэ не бачыў. Праўдзівей, бачыў. І раней апаноўвала Маргарыту штосьці ўпартае, цёмнае, чаму цяжка падшукаць назву. Ён заўсёды станавіўся ў тупік перад такімі вось выбрыкамі. Страшыўся іх і саромеўся.

Яму і цяпер сорамна перад маці, братам, сястрой. Яны фактычна служаць Маргарыце. Туляцца ў невялічкім пакойчыку. Нават дзіця ўзялі. Маргарыта жыве як пані. Пагарджае, камандуе сям'ёй...

Але сваркі Сяргей не хоча. Хоча як-небудзь памірыцца з Маргарытай. Падыходзіць, гладзіць яе па валасах. Паступова яна супакойваецца.

Змізарнела за апошнія два тыдні Маргарыта: запалі шчокі, ляглі пад вачамі сінякі, завастрыўся нос. Выгляд падбітай птушкі.

Да Сяргея раптам даходзіць: нядобрае творыцца з жонкай. Імгненна ў яго свядомасці ў адзін рад выстройваюцца розныя незразумелыя праявы яе паводзін, над якімі ён раней не задумваўся, адкідаў прэч. Чаму адкідваў? Жадаў спакойнага жыцця, салодкага сну? Не тое, не тое. Ён верыў Маргарыце. Жылі з ёй добра. Калі ён быў побач, трымалася з ім ласкава, шчыра. Як бы адчувала яго ўладу. Хоць настрой яе часта мяняўся. Пераліваўся нібы жывое срэбра. «Ты як надвор'е

ў красавіку»,— гаварыў ён ёй. Яна пагаджалася. Ён нават характарыстыку ёй прыдумаў. «Шчырая ў кожны дадзены момант». Яна і з такой характарыстыкай пагаджалася. Гэтага хапала для яго душэўнага спакою. Было зарукай сямейнай згоды.

Ён, вядома, любіў яе больш, чым яна яго. Але і яна адказвала чымсьці такім, што не адштурхоўвала, а яшчэ болей прываблівала. Чым? Можа, ён проста сваё ўяўленне пра Маргарыту любіў? Ім жа выдуманы міраж?

Сяргей з жахам адчувае: ён не задумваўся над сваім з Маргарытай жыццём. Хаваў, як страус, галаву пад крыло, каб не бачыць небяспекі. Небяспека тым часам даўно стукае ў дзверы...

Не толькі са мной шчырая Маргарыта, нараджаецца ў Сяргея думка. З другімі яна яшчэ шчырэй. Высахла, выпетрала...

Думка сядзіць у галаве як загнаны цвік. Пачынае пячы агнём.

Маці засцілае стол, прыносіць вячэру. Сяргей вымае з чамаданчыка паўлітэрку: купіў у Гомелі. Налівае сабе, Маргарыце.

— Давай вып’ем,— гаворыць.— Трэба высветліць адносіны.

Маргарыта не тоіць страху, які прабіваецца ў голасе, праглядвае на твары.

— Якія адносіны?

— Нашы з табой.

— Што высвятляць?

Грудзі Сяргея, зацінаючы дыханне, працягвае пячы д’ябальскі агонь, нашчэнт выпальваючы, спусташаючы душу. І нібыта не Сяргей цяпер гаворыць з Маргарытай, а нехта другі, нейкі мудры, хітры змей, які пазычыў ягоны даверлівы голас і, паддобрываючыся, закалыхваючы яе пільнасць, вынюхвае, выпытвае.

— Давай вып’ем, Маргарыта. Потым пагаворым.

Выпіваюць. Закусваюць. Глядзіць у акно цёмная асенняя ноч. У шыбіну акна, гойдаючыся пад ветрам, стукае галінка акацыі. У пярэднім пакоі, аддзеленым ад чыстага тонкімі дзвярамі, ціха. Брат і сястра заснулі. Толькі маці не спіць.

Час ад часу, нібы забываючы і ўспамінаючы зноў, пачынае гойдаць калыску.

Выпіваюць яшчэ, затым яшчэ… Маргарыта прыкметна п’янее. Над Сяргеем у цяперашнім яго стане гарэлка ўлады не мае. Толькі стукае кроў у скроні. Бутэльку тым часам выпілі.

— У цябе болей няма? — Сяргей запытальна глядзіць на Маргарыту.

Яна падымаецца. Пахістваючыся, ідзе да грубкі. Грубка пастаўлена ў кут, паміж ёй і сценамі ёсць два прамежкі — шырэйшы і вузейшы. Праціснуўшыся ў шырэйшы прамежак і прасунуўшы руку ў вузейшы, Маргарыта дастае абвітую павуціннем паўлітру.

Вось такія пайшлі песні. На брыжы грубкі, які прылягае да ўнутранай сцяны, старэйшы брат Валодзя, які цяпер працуе машыністам і жыве ў другім горадзе, хаваў у акупацыю савецкія газеты і брашуры. Па словах Валодзі, тыдзень ці два там ляжаў нават наган, які пазней немцы знайшлі ў Валодзевага таварыша Сымона Баравіка, расстраляўшы за гэта яго самога і сястру. Цяпер у тым патайным месцы Маргарыта хавае гарэлку. Мяняюцца часы і людзі...

Выпіўшы яшчэ, Сяргей нарэшце адстаўляе бутэльку ўбок.

— Я тры разы званіў дадому,— гаворыць напаўголаса.— У дзесяць вечара. Ні разу цябе не застаў. Дзе была?

— На дзяжурстве.

«Хлусіць, хлусіць Маргарыта,— свідруе Сяргееву свядомасць думка.— Ушчэнт яна заблыталася. Нават адгаворкі прыстойнай не прыдумала...»

Услых гаворыць:

— Можаш маці тлуміць галаву. Не мне. Ніхто тры начныя дзяжурствы адно за другім не прызначае. Заўтра пайду ў бальніцу і пра ўсё дазнаюся.

— Ідзі.

— Лепш скажы праўду. Я ў Мінску, ты тут. Ніякая сіла не прымусіць мяне жыць з табой, калі будзеш, як цяпер, хлусіць. На світанні паеду ў Мінск.

— Едзь.

Сяргей адчувае сябе спакойным. З вешалкі ў шафе здымае дзве сарочкі, складае, ладкуе ў чамаданчык. Са стуса кніг,

што займае ніжнюю палавіну шафы, дастае дзве ці тры кнігі і таксама кладзе ў чамаданчык.

Бярэ падушку, коўдру. Распранаецца, тушыць лямпу. Кладзецца спаць на канапцы. Асобна ад Маргарыты.

Ён не спіць і ведае, што не засне. Прадчуванне спраўдзілася: у яго жыцці здарылася нешта агіднае, мярзотнае, для чаго цяжка знайсці назву. Маргарыта хлусіць. Гэта відавочна. У бальніцу ён не пойдзе, ні ў кога нічога дапытвацца не стане. Але і жыць з Маргарытай не будзе.

У глыбіні Сяргеевай істоты тоіцца кропелька надзеі, што самае страшнае яшчэ не здарылася і іх з Маргарытай адносіны можна паправіць. Толькі трэба, каб праўду сказала Маргарыта. Яна прывыкла, што ён ёй заўсёды саступае. Але цяпер не саступіць.

Цішыня ў хаце. Чуваць, як цікае кішэнны гадзіннік, які Сяргей паклаў на стол. Гойдаецца пад ветрам галінка акацыі, шкрабе па шыбіне. Здаецца, каля акна нехта ходзіць, зазірае ў хату.

Сяргей не спіць і чуе, што не спіць Маргарыта. Варочаецца. Відаць, чакае, што ён да яе прыйдзе. Дрэнна ўсё-такі ведае яго Маргарыта. Лічыць слабым, кволым. На той падставе, што ён мірыўся заўсёды першы. Але ўсе гады вось да гэтай ночы ён верыў ёй. Вагаўся, хістаўся, сумняваўся, але верыў. Цяпер не верыць. Ні кроплі. Парвалася нітачка, якая іх звязвала. Цяпер няхай неба падае на зямлю, а да Маргарыты ён першы не падыдзе! Нізашто на свеце!

Злёгку дрыжаць сцены, гойдаецца падлога, звіняць не шчыльна прыгнаныя ў рамах вокан шыбіны: ідзе цягнік. Чыгунка ад Сяргеевага двара ўсяго метраў за шэсцьдзясят — семдзесят, і да руху цягнікоў у сям’і прывыклі. Засынаюць пры ім і прачынаюцца. На чыгунку не зважаюць. Як бы яе зусім няма.

Але цяпер Сяргей не спіць, думае пра ад’езд, таму выразна чуе, як пыхкае паравоз, як ляскочуць па рэйках колы цяжка гружаных вагонаў. Таварны пайшоў на Макаў. Праз паўгадзіны праляскае парожні таварняк з Макава: чыгунка з вайны засталася аднапуткай, і сустрэчныя цягнікі размінаюцца на местачковай станцыі праз паўгадзіны.

Сяргей ціхенька ўстае, бярэ са стала гадзіннік. Ледзь прыкметна свецяцца на цыферблаце зеленаватыя, пакрытыя фосфарам лічбіны. Тры гадзіны ночы. У пяць гадзін ён устане, пойдзе на станцыю. Каб сесці на рабочы цягнік да Гомеля.

На нейкае імгненне ён забываецца ў напаўсне, напаўтрызненні, але адразу прахопліваецца. І ў гэты кароткі міг яму ўявілася цэлая карціна: яны з Маргарытай ідуць па міхалавіцкім полі, наўсцяж засеяным жытам. Дарога якраз вынырае з лесу, і вачам адкрываюцца хісткія абрысы сяла. Жытні разліў паўстае да самых будынкаў, як бы ахутаных зялёнымі прысадамі. Дзень летні, гарачы. Пад подыхам ветру лава жыта то злёгку ўгінаецца, то распрамляецца зноў, і нібы хвалі перакатваюцца з краю ў край шырокага, разлеглага поля. Поле нагадвае мора. Яны з Маргарытай бягуць па гэтым моры. Ён яе даганяе і не можа дагнаць.

Сяргей выразна чуе: Маргарыта ходзіць па хаце. У яго радасна ўздрыгвае сэрца: вось зараз яна падыдзе да яго, прысядзе на край канапы, і ўсё між імі высветліцца...

Але Маргарыта да канапы не даходзіць. Спыняецца ля стала, нешта шукае. Сяргея ахоплівае жах: намацаўшы бутэльку, Маргарыта проста з рыльца п’е гарэлку. Цэлую хвіліну не адрывае бутэльку ад рота. Нарэшце ставіць пустую бутэльку пад стол, кладзецца ў ложак.

Вось такія пачаліся справы. Колькі гарэлкі заставалася ў бутэльцы? Здаецца, амаль палавіна. Ён сам столькі без перадыху не вып’е ні ў якім разе. Маргарыта выпіла. Навучылася, набралася практыкі, хоць увесь час скардзіцца на сэрца.

Выплывае ў памяці выпадак, які надарыўся, можа, у тым самым сорак восьмым годзе, калі яны толькі з Маргарытай пажаніліся. Ён прыехаў да яе, мінуўшы мястэчка, адразу з надпрыпяцкага горада, але дома не застаў. Амалія Сідараўна сказала, што Маргарыта ў сяброўкі. Ён ведаў, дзе жыве яе сяброўка, бялявая, някідкая з твару, сарамлівая дзяўчына, якую завуць Маняй, і вуліцай рушыў да Манінага двара. Ноч была ціхая, светлая: вераснёвае неба шчодра засеяна зоркамі і поўны бохан месяца над сялом вісіць. Ён дайшоў да падворка Маргарыцінай сяброўкі і ўбачыў, што ў вокнах цёмна. Жонкі тут не магло быць. Ён рушыў назад і каля правулка, які вядзе ў поле, убачыў Маргарыту.

— Кудою ты ішла? — спытаў.

— Вуліцай.

— Дзіўна, як мы маглі размінуцца?

— Неяк размінуліся...

Той выпадак яму запомніўся, і калі ён успамінаў пра яго, у грудзях нараджалася непрыемнае пачуццё.

Сяргея аддзяляе ад Маргарыты два ці тры метры — адлегласць ад канапы да ложка. Але ён не можа іх пераадолець. Не будзе сябе паважаць, калі зробіць гэта. Яны з Маргарытай цяпер далей адно ад другога, чым тады, калі Сяргей быў на фронце, за тысячу вёрст ад мястэчка, Міхалавіч, Маргарыты.

Як бы святлее за акном. І вецер суцішаецца. Прайшоў яшчэ адзін цягнік — цяпер з Макава. Дружна гарланяць пеўні. Пачынае іхні, яму адказвае суседскі. Дзесьці каля пераезду залівіста брэшуць сабакі.

Сяргей чуе, як цяжка, перарывіста дыхае Маргарыта. Але ён не падыдзе да яе. Нізашто не падыдзе! Тры разы званіў з Мінска і ні разу не застаў дома. Гарэлку навучылася піць. Ясна, з некім спатыкалася. З кім? Гэтага ён не ведае. Але Маргарыта так захоплена тым невядомым ягоным сапернікам, што нават не прыдумала прыстойнай адгаворкі. Тры начныя дзяжурствы ўзапар... Ён ведае, на што спадзяецца Маргарыта. На тое, што ў яго не хопіць вытрымкі. Памыляешся, дарагая! Ты ніколі мяне не цаніла. Не цікавілася, як ваяваў, дзе быў, як вучуся, чаго дамагаюся. Як бы ўсё гэта цябе не датычыць і трэба толькі мне аднаму...

Сяргей яшчэ раз нырае ў кароткую хвалю напаўсну, напаўявы. На гэты раз яго абуджае стук. Стукнула аканіца, засланіўшы сабой палавіну акна. Вецер, значыць, не суняўся. Яшчэ болей узмацніўся, калі сарваў аканіцу з драцяной пятлі. Чаму ён, ледзь закрыўшы вочы, бачыць Маргарыту? На гэты раз яна не снілася. Проста перад унутраным позіркам як бы аднавіўся яшчэ адзін сапраўдны выпадак. Сяргей нават не памятае дакладна, калі гэта было: два гады назад ці тры? Ён, Маргарыта, яе бацька і брат хадзілі па грыбы. За чыгунку. Лес у тым баку нецікавы: расце на нізкай, чорнай, ледзь не балотнай зямлі. Бярозы, асіны, вольхі. Таму і грыбоў адпаведных набралі: сыраежак, абабкаў. Баравікоў было тры. І ўсе тры знайшоў Сяргей.

Нічога асаблівага не здарылася ў тым чарналессі. Пайшоў дождж, яны намоклі. Расклалі агонь: сушыліся, абедалі. І зноў вызначыўся Сяргей: у мокрым, няўтульным лесе спрытна і лёгка развёў вогнішча, як бы даказаў, што нездарма быў на фронце. Маргарыта хінулася да яго, глядзела з павагай. Яны не зусім абсушыліся, але вярталіся дамоў узбуджаныя і вясёлыя. Менавіта тады ў Сяргеевай памяці ўсплылі пушкінскія радкі, і ён у думках паўтараў іх усю дарогу:

На холмах Грузии лежит ночная мгла;
Шумит Арагва предо мною.
Мне грустно и легко: печаль моя светла;
Печаль моя полна тобою,
Тобой, одной тобой...

Як даўно гэта было! Як бы ў другім, зусім іншым жыцці.

Відаць, цяпер не менш чым чатыры гадзіны. Сяргей устае, запальвае лямпу. Ён не памыліўся: дзесяць хвілін на пятую. Маргарыта ляжыць на ложку, павярнуўшыся тварам да сцяны. Яна нават не распраналася.

— Куды ты? — спалохана пытае Маргарыта.

— На станцыю.

— Нават дня не пабудзеш?

— Не пабуду.

— Цябе ж бачылі на станцыі. Што скажуць людзі? Прыехаў і паехаў...

— Няхай гавораць, што хочуць.

— Не едзь. Прашу цябе.

— Што будзем рабіць? Як цяпер, гуляць у хованкі?

— Не будзем гуляць у хованкі.

Апрануўшыся, Сяргей прысаджваецца да стала. Маргарыта ўстае, прыклаўшы далоні да скроняў, ходзіць па хаце.

— Між намі паявілася невялікая трэшчына,— нарэшце гаворыць Маргарыта.

Сяргей нават вокам не вядзе.

— Якая трэшчына?

— Я трошкі палюбіла...

— Каго палюбіла?

Маргарыта раптам падае на ложак, тварам уніз, пачынае калаціцца, захліпваючыся ад гучных літанняў:

— Ён мяне кінуў! Не хоча сустракацца. Уцякае ад мяне. Пачынаў сам, цяпер уцякае. Я не хацела, працівілася... Я жыццём, сям'ёй рызыкую, а ён уцякае. Ніколі яму не дарую!..

Маргарыта звар'яцела. Ці, можа, так напілася? Так, яна ўшчэнт п'яная. Забыла нават, што ён яе муж. Спавядаецца, як перад чужым. Думае і цяпер не пра яго, а пра таго невядомага, трэцяга. Яна і ўчора, калі ён прыехаў, рвалася да каханка. Хто ён?

Сяргею жудасна. Нервы напяты, думкі блытаюцца, мітусяцца. Дзесяць гадоў ён знаёмы з Маргарытай. Тры гады разам жывуць. Думаў пра адну яе, калі быў у Куйбышаве, у ваенным вучылішчы, на фронце. Нават грошы прысылаў. За ўсё гэта яна зрабіла яго апошнім чалавекам. Насмяялася. Нават цяпер пра яго не думае. Нібы ён, яе муж, не мужчына...

Сяргей нібы скамянеў. У сваёй помсліва-ганарлівай зацятасці пакрысе супакойваецца. Што ж, чалавеку, бывае, трэба і праз такое прайсці. Не ён першы, не ён апошні. Няхай жыве, як хоча, Маргарыта!

Сярод нясцерпна балючай, пакутлівай мітусні пачуццяў у Сяргея прабіваецца халодная, нібы лязо нажа, думка: з Маргарытай жыць не будзе. Яна першая парушыла абавязак перад ім, сваім мужам, і перад малым сынам.

Нечакана на Сяргея як бы находзіць азарэнне. У верасні, калі ён толькі збіраўся ў Мінск, у аспірантуру, Маргарыта вельмі многа гаварыла пра новага тэрапеўта, якога прыслалі на месца збеглага Трахімчыка. З языка не спускала Маргарыта гэтага тэрапеўта. Прозвішча яго, здаецца, Стаход. Так, Віктар Стаход. Вельмі часта Маргарыта расказвала, які Стаход злосны, ганарлівы, як прыдзіраецца да малодшага медыцынскага персаналу. Зрэшты, сама яна малодшы персанал...

Нечакана для сябе Сяргей пытае:

— Ты са Стаходам звязалася? З новым тэрапеўтам?

Маргарыта нямее. Бянтэжыцца ўшчэнт. Толькі цяпер цверазее, пачынае разумець, з кім размаўляе.

— Я сама на сябе нагаварыла...

— Можаш болей не гаварыць. Даўно ўсё ясна. Толькі дурны я быў, жаўтароты. Нічога не разумеў. Запомні: жыць з табой не буду. Бывай!..

Сяргей падымаецца, апранае паліто. Маргарыта перахоплівае яго ля дзвярэй, кідаецца ў ногі:

— Астанься. Я ўсё раскажу...

Ён дрыжыць, калоціцца, нібы ў ліхаманцы, тым часам застаецца. Маргарыта як апантаная. Дух яе зламаны, і як бы здаецца яна на літасць пераможцы. Толькі з дрэннага, надзвычай дрэннага боку паказвае сябе гэты пераможца. Сілы выйсці з дому з горда ўзнятай галавой, грукнуўшы напаследак дзвярамі, у яго не хапіла. Не хапае волі, каб трымаць сябе дастойна са здрадніцай. Ён садзіцца з Маргарытай на канапу, гладзіць жонку па валасах, супакойвае, а тым часам выпытвае пра самыя інтымныя падрабязнасці яе адносін з каханкам. Пякельным агнём пякуць яго гэтыя падрабязнасці, але ён не можа спыніцца і ўсё выпытвае...

Сам не ведаў Сяргей, што можа быць такім агідным. Адно яго выбачае: сабой амаль што не валодае. За гэтую ноч на яго наваліўся цяжар такога агромністага гора, сораму, прыніжэння, з якім ён не ў сілах саўладаць. Маргарыта пра любоўныя ўцехі расказала, але прабачэння не папрасіла, нават не заікнулася, што раскайваецца, што асуджае сябе, не зробіць нічога падобнага ў далейшым. Маўляў, прымай мяне, якая ёсць. Як жа ён можа яе такою прыняць?..

З глыбіні Сяргеевай свядомасці праз мітусню, бязладнасць пачуццяў прабіваецца даволі акрэсленая думка: не толькі дзеля яго Маргарыта такая шчырая і гэтак расхінулася ў патайных учынках. Гоніцца хутчэй за ўсё адразу за двума зайцамі. Калі адштурхне муж, то, можа, пашкадуе каханак. Так, на свайго тэрапеўта Маргарыта ўсё яшчэ разлічвае. Ім запоўнена яе душа, пачуцці...

Маці не спіць. У гаворку сына з нявесткай не ўмешваецца. Пра ўсё здагадваецца, ведае, але маўчыць. Дзякуй табе, маці!..

Ледзь толькі пачынае днець, Сяргей паспешліва апранаецца, ідзе на Вакзальную вуліцу да ляснічага Івана Яворскага. Самы лепшы сябар у мястэчку Іван. Разам з ім вучыліся

ў школе, сябравалі да вайны і пасля вайны: Іван таксама вярнуўся з фронту.

Два гады назад Іван, не скончыўшы апошняга курса лесатэхнічнага інстытута, ажаніўся. Узяў дзяўчыну, якую яны ведалі яшчэ да вайны: была наборшчыцай, працавала ў друкарні, набірала раённую газету.

Праз тыдзень пасля вяселля ў Іванавай жонкі адняліся ногі. Узбуджаны Іван прыбег да Сяргея раіцца: як быць? Наперадзе цэлае жыццё.

Сяргей параіў сябру не гарачыцца. Калі ўзяў дзяўчыну за жонку, трэба яе глядзець… Галя папраравілася.

І вось ужо два гады Іван шчасліва жыве са сваёй Галяй, можа, не надта практычнай, увішнай, затое прыгожай і вясёлай.

Цяпер Іван дае Сяргею парады.

— Такое кароткае жыццё, і столькі ў ім згрызот,— гаворыць задумліва.— Рашай сам. Калі праўда, што сказаў, то жыць з такой асобай проста ганебна...

Пасля размовы з Іванам Касцюшка ідзе ў рэдакцыю раённай газеты. Няма другой установы ў мястэчку, куды ён у час прыезду з Мінска гэтак ахвотна завітвае. У сваю бытнасць абласным карэспандэнтам Касцюшка падпісваў раённую газету, як бы выконваючы абавязкі рэдактара: адзін раз на працягу месяца, другі — амаль паўгода. Гэта здаралася, калі старых рэдактараў звальнялі, а новых толькі падшуквалі.

Але няма сёння ў Касцюшкі настрою расказваць цікаўным газетчыкам пра сваё жыццё ў Мінску. Пабыўшы ў рэдакцыі з паўгадзіны, распытаўшы, якім парадкам змяшчае газета аб'явы аб скасаванні шлюбу, Касцюшка ідзе ў народны суд.

Прысадзісты, нібы стадола, будынак суда амаль насупраць рэдакцыі, праз агарод, які раённыя газетчыкі супольна са штатнымі супрацоўнікамі суда штогод засаджваюць бульбай.

У знаёмай, з завязаным вокам сакратаркі суда Сяргей просіць паперы, піша заяву аб разводзе. Прычынай разводу называе несупадзенне яго і былой жонкі характараў, а таксама розныя погляды, адносіны да жыцця.

Тут жа Сяргей піша ліст бацькам Маргарыты, у якім, не тоячыся, паведамляе, чаму збіраецца скасаваць шлюб з іхняй дачкой.

Сакратарка тлумачыць: судоў мусіць быць два. Спачатку раённы, затым — абласны...

Да паўдня мястэчка ведае: карэспандэнт Касцюшка, які цяпер вучыцца ў Мінску, разводзіцца з жонкай. І прычыну ведаюць местачкоўцы. У поглядзе на прычыну разводу як бы ўтвараюцца дзве группы — большая па колькасці людзей, якія да яе належаць, і меншая. Большая — у яе ўваходзяць местачкоўцы, што асабліва не сутыкаліся з Касцюшкам,— не верыць, што вінавата Маргарыта. Гэтая група якраз абвінавачвае Касцюшку: закруціў носам, ганьбіць жонку, бо знайшоў сабе ў Мінску другую.

Да меншай групы — усяго якіх-небудзь дваццаць-трыццаць асоб — адносяцца блізкія знаёмыя Касцюшкі. Пачуўшы навіну, яны бяруць яго старану, сумна ківаюць галавой: даўно, маўляў, бачылі, ведалі, якая ў карэспандэнта жонка, толькі не хацелі гаварыць яму самому. Ад'ехаць не паспеў, небарака, а яна хвост на бок...

Касцюшку сорамна. Даў грунт для абывацельскай балбатні, чутак, плётак. Нарэшце ён махае рукой: усё адно. Языкі не завяжаш, схаваць тое, што між Маргарытай і ім здарылася, немагчыма...

## X

Ні восень, ні зіма. Сумная, гіблая пара. Шастае вецер у голых цёмных галінах дрэў, носіць па пероне перасохлае лісце. Чакае спакою, снежнага покрыва сумная чорная зямля. Снегу няма. Толькі холад і вецер.

Касцюшка прыйшоў на станцыю за гадзіну да адыходу цягніка. Дома невыносна. Маці раз-пораз выцірае слязу; рыхтуючы ўрокі, сядзяць у пярэднім пакоі за сталом разгубленыя, прыціхлыя брат і сястра. Маргарыта з'явілася з бальніцы і адразу лягла ў ложак, адвярнуўшыся тварам да сцяны. Не азвалася нават, калі Сяргей выходзіў з дому.

Маргарыта паганяе ранейшае. «Я прызналася, цяпер дзела твае. Хочаш мілуй, хочаш карай. Бегаць за табой не буду...» Так думае, так паводзіць сябе Маргарыта. Не хоча ці не можа зразумець, што ранейшае жыццё ніколі не вернецца. Мусіць

здарыцца нешта вялікае, агромністае, што зблізіць берагі ракі, якія цяпер так далёка адзін ад другога. Што павінна здарыцца? Сяргей не ведае...

Вострым болем баліць душа. Нібы ў сэрца загналі цвік, і ён сядзіць там, жалезны, халодны.

У чакальнай зале, як заўсёды, поўна людзей. Ёсць знаёмыя, якія, гэтак як Сяргей, едуць насупраць ночы з дому. Не ўсе, відаць, ведаюць пра ягоную бяду. Некаторыя падыходзяць, заводзяць гаворку. Але нават з прыемнымі людзьмі Сяргей гаварыць не можа. Сказаўшы колькі слоў, адыходзіць.

Нарэшце Сяргей выходзіць у прыстанцыйны сквер. Яго тут не зачэпяць. Цёмным кругам стаяць таполі, шастаюць пад ветрам. З краю круга воданапорная калонка. На адпаліраваны дотыкам рук рычаг падае святло з акна чакальнай залы, і ён блішчыць у цемені. Летам вада ў калонцы сцюдзёная, зводзіць сківіцы. Зімой, наадварот, здаецца цяплейшай, чым узятая са студні.

Сяргей узіраецца ў цемень. Няўжо Маргарыта не прыйдзе? Няўжо не разумее, што перад ім, найбольш блізкім да яе чалавекам, зрабіла злачынства самае цяжкае, страшнае, якое толькі можа быць на свеце? Калі хоча з ім жыць, павінна за яго змагацца, выкупляць віну. Як выкупляць? Ён сказаць не можа...

Пякельная паліць грудзі абраза. Маргарыта лічыла і цяпер лічыць яго бязвольным хлюпікам, які прыпаўзе да яе на каленях. Бо любіць. Бо жыць без яе не можа. Дурная Маргарыта! Ён раней узвышаў, ідэалізаваў яе, бо не ведаў, хто яна ў сапраўднасці. Цяпер ведае. Таму ніколі, ніколі не пойдзе да яе на паклон.

Прыбыў вячэрні рабочы цягнік. У Гомелі ён будзе гадзін у дзесяць, і Сяргей яшчэ паспее на рыжскі поезд, якім прыедзе ў Мінск.

Бываюць на свеце вялікія дзівосы. Залезшы ў вагон, заняўшы месца ў першым ад дзвярэй купэ, Сяргей вачам не верыць. Сядзіць знаёмая дзяўчына, тая самая, што ўчора вечарам ад дэмабілізаванага матроса перайшла да салдата, насупраць яе размясціўся са сваім фанерным чамаданам Грыша Попель. Грыша голасна і не вельмі далікатна выгаворвае дзяўчыне за легкадумныя паводзіны...

Касцюшка застывае ў здранцвенні. Можа, салдат з матросам некуды адышліся, а ён і не вылазіў з вагона? Не быў у мястэчку, родным доме? Тады усё, што з ім здарылася, проста страшны недарэчны сон, які тут, у гэтым купэ, яму прысніўся. Сяргей адчувае, што яшчэ адна, дзве такія думкі — і ён страціць над сабой уладу. Ліпкім потам пакрываецца лоб, далоні рук...

— Добры вечар,— ломкім, нязвычным голасам звяртаецца Сяргей да Грышы.— Тая самая кампанія. Можа, мы і не разыходзіліся?

— Добры вечар,— Грыша ўстае, працягвае Сяргею моцную касцістую далонь.— Проста зноў трапілі ў той самы вагон. Успомні, ці не казаў я ёй,— Грыша паказвае на дзяўчыну,— што салдат кіне яе на першай станцыі. Так і выйшла. Толькі адзін дзень цягнулася любоў. Цяпер вось назад едзе...

Сяргей з палёгкай уздыхае. Усё як мае быць. Грыша, як і ён сам, дома не затрымаўся. На сярэдняй полцы ляжыць ягоны фанерны чамадан. Мінулі толькі адны суткі. Грыша, відаць, не ведае, што за гэтыя суткі зламалася Сяргеева жыццё. Няхай пакуль не ведае. З дзяўчынай тым часам нічога асаблівага не здарыцца. Прылепіцца яшчэ да аднаго матроса ці салдата. Хоць, можа, Сяргей і несправядлівы да дзяўчыны. Яе далікатны, з вяснушкамі тварык зблажэў, пад вачамі цёмныя кругі.

Весці якую-небудзь размову Сяргей не хоча. Дый, бадай, не можа. Не хоча нікога бачыць.

Ён брыдзе па вагоне, знаходзіць пустое купэ, залазіць на сярэднюю полку. Пакутлівы боль у грудзях, сэрцы, галаве. Хто, калі здыме з Сяргея гэты невыносны боль, які, здаецца, на часткі разрывае істоту?

Ён цяпер не здольны на самакантроль, на тое, каб абдумваць учынкі. Яшчэ меней здольны глядзець на сябе чужымі вачамі. Душа прыгнечана, прыбіта, у адчуваннях, пачуццях ніякай радаснай прасветліны. Усё ж нейкая частка свядомасці нібы папярэджвае Сяргея: не кідайся ў адчай, не сарвіся. Ратунку ад такога болю няма, яго трэба перанесці, перацярпець...

Галоўнае — ён не можа спаць. Мінулую ноч не спаў і цяпер не засне. Гэта самае горшае. Нібы вярнулася хвароба,

нажытая ў час здачы экзаменаў за ўніверсітэт. Колькі начэй ён будзе вось гэтак не спаць, заставацца адзін на адзін са сваімі пакутлівымі думкамі, адчуваннямі, у дзясяты, соты раз перадумваючы адно і тое ж?

Вядома, Маргарыта асабліва не перажывае. Хутчэй за ўсё спіць. Адсыпаецца за мінулую ноч. Заўсёды так было. Ён ненавідзеў яе, калі, чым-небудзь узбуджаны, выведзены з сябе, доўга не мог заснуць, пакутліва перавальваўся з боку на бок, а яна ў гэты час гучна і бесклапотна храпла. Тупая, здрадлівая жывёліна! Так, яна іменна такая. У тыя вечары, ночы, калі бегала за сваім Стаходам, не думала ні пра мужа, ні пра сына. Цалкам аддавалася прагнаму ненасытнаму жаданню... Дзесяць гадоў патрачана на разбэшчаную жывёліну! Дзесяць гадоў!..

Ён можа ў думках клясці, абражаць Маргарыту, але палёгкі гэта не прыносіць. Бо былі між імі радасныя, светлыя хвіліны. Куды дзець іх? Дзесяць гадоў ён любіў Маргарыту. Хіба гэта можна закрэсліць? Таму нечаканы разрыў з ёй — нібы жывая рана, з якой цячэ кроў. Цярпець, цярпець! Рана калі-небудзь зарасце...

Змрочным, закіданым здаецца Касцюшку гомельскі вакзал. Асабліва прыгнятаюць дрэнна асветленая, напаўзабудаваная плошча перад вакзалам, шэрая, без адзінага акна сцяна Дома чыгуначнікаў. Усё залежыць ад настрою, думае Касцюшка. У другія дні ён знаходзіў вакзал нават прыгожым. Ехаў у Мінск з надзеямі, вяртаўся дамоў з радасцю.

Многае з Касцюшкавага пасляваеннага жыцця звязана з гомельскім вакзалам.

Пакутуючы, нібы ад зубнога болю, Касцюшка пераседзеў у цёмным кутку чакальнай залы гадзіну, якая заставалася да пасадкі на рыжскі цягнік. Вагоны ў гэтым цягніку шмат ахайнейшыя, чым у рабочым. Няма лішняга тлуму, горкага тытунёвага паху, дыму, які проста душыць.

Ад Грышы Попеля Касцюшка адбіўся. Знаёмых у вагоне няма. Да плацкартнага білета ён прыкупляе пасцель, не зважаючы на суседа, які сядзіць у кутку ў паліто і капелюшы, раскладвае яе. Калі не засне, то хоць паляжыць на мяккім.

Як толькі цягнік, усё гучней пастукваючы коламі на стыках рэек, аддаляецца ад Гомеля, Касцюшку як бы робіцца

лягчэй. Не толькі час, але і адлегласць гоіць раны. Касцюшкам валодае адчуванне, што ў нясцерпна-пакутлівым болі, якім ахоплена душа, тоіцца ягонае вызваленне. Мог ён прапусціць міма ўвагі захапленне Маргарыты Стаходам. Што было б далей? Бясконцы ланцуг яе новых захапленняў. Ён цяпер, бадай, разумее Маргарыту. Для яе гэта сэнс жыцця. Самасцвярджае такім шляхам сваю асобу. Так, ён узяў на сябе бытавы клопат, стараўся прынесці жонцы як можна болей грошай, пакутліва раздумваў, як знайсці ў спаленым, разбураным Мінску кватэру, перавезці сям'ю. Маргарыта аб усім гэтым не думала. Зусім не думала. Ні вучыцца не хацела, ні нават, як звычайна робяць замужнія жанчыны, розных «бэбахаў» не збірала. Увесь час шукала новых уцех, захапленняў. Страшна падумаць: ён мог выкрыць Маргарыту не цяпер, а пазней, калі б у іх было двое ці нават трое дзяцей, а яму было б не дваццаць шэсць, а трыццаць шэсць ці нават сорак. Што б рабіў ён тады?

Грукаюць колы на стыках рэек. Амаль на кожнай станцыі цягнік спыняецца. Выходзяць, заходзяць пасажыры. Касцюшка не спіць: перабірае ў памяці абставіны свайго жыцця з Маргарытай.

Мінск — вызваленне. У Мінску няма нікога і нічога, што б нагадвала пра Маргарыту. Вылезшы з цягніка, Касцюшка ідзе ў інтэрнат на вуліцу Маскоўскую. Горад прачынаецца. На прывакзальнай плошчы звініць трамвай, пранізліва скрыгочучы на закругленнях, высякаючы дугой на дратах снапы асляпляльна-сініх іскраў.

У доўгім прыстанцыйным скверы, засаджаным чатырма ці пяццю радамі таполяў, яшчэ гараць ліхтары.

Зямля так і не пакрылася снегам. Пакуль Касцюшка з'ездзіў у мястэчка, прымаразак мінуў. Дзьме вільготны заходні вецер.

Касцюшка не спяшаецца ў інтэрнат. Трэба аглядзецца, прывесці ў парадак думкі. Дый перакусіць, выпіць кухаль піва не зашкодзіць. Учора за ўвесь дзень ён да яды нават не дакрануўся.

Касцюшка глядзіць на бліскучы цыферблат кішэннага гадзінніка. Дзясятая гадзіна, хоць яшчэ не зусім развіднела. Гандлёвыя, харчовыя ўстановы ў гэты час ужо адчынены.

У канцы сквера зялёны ларок-павільёнчык. Каля яго стаіць невялікая чарга. Касцюшка становіцца ў чаргу, бярэ сто грамаў гарэлкі, кухаль піва. Закуска не надта ў павільёнчыку: смажаная траска, вараныя яйкі. Але лепшай яму не трэба. Голад пераб’е.

Выпіўшы, закусіўшы, Касцюшка прыкметна весялее. З яго як бы спадае цяжар здранцвення, душэўнай скамянеласці, якія ён прывёз з мястэчка. Маргарыту ён страціў, але хіба свет сышоўся клінам на адной Маргарыце? Свет яму толькі цяпер адкрываецца, бо ён можа пазнаёміцца з любой дзяўчынай, запаліць яе душу каханнем, павесці за сабой! Яму ўсяго дваццаць шэсць гадоў. Яго дзяўчаты, можа, яшчэ нават інстытутаў не паканчалі. Быць не можа, каб не знайшлося шчырай, сумленнай дзяўчыны, якая яго зразумее, ацэніць. Іначай не варта жыць.

Якраз каля ларка-павільёнчыка жалезныя рашоткі агароджы ўтвараюць куток, у якім захаваўся лапік невытаптанай, зарослай муравой зямлі. Спыніўшы на ім позірк, Касцюшка адчувае, як хутка сыходзіць узбуджэнне, выкліканае выпіўкай на галодны жывот. Мураўка зялёнай пойдзе пад снег і толькі праз пяць доўгіх зімовых месяцаў зноў зірне на сонца, адчуе цяпло, святло. Душа Касцюшкі паранена, нясцерпна баліць. Як ён пражыве зіму? Хто яго ўсцешыць, абагрэе?

Ён летуценнік, ідэаліст, з ранніх год глядзіць на жыццё праз ружовыя акуляры. Сённяшніх дзяўчат, жанчын мерае гераінямі тургенеўскіх раманаў. Хоць ёсць і такія дзяўчаты. Павінны быць. Яму проста не пашанцавала. На яго дарозе не трапілася шчырая, сумленная душа. Няпраўда, траплялiся добрыя дзяўчаты. Толькі ён іх не разгледзеў. Ці нават проста адштурхнуў. Вінават сам...

Вуліца Маскоўская шуміць і грыміць. Ляскаюць, грукаюць наваленым у кузаве жалеззем, бочкамі, скрынкамі абшарпаныя грузавікі, звініць, выкрэсваючы сваёй дугой сінія іскры з навешанага над ім дроту, трамвай. Нават трактар ці які-небудзь цягач не дзіва ўбачыць на заўсёды людная, неспакойнай Маскоўскай вуліцы.

Інтэрнат на месцы. Нічога не змянілася ў раскладзе мітуслівага аспіранцкага жыцця. У пакоі Касцюшка застае толькі

Казюка і Гуля. Добра, што так. Двое гэтых найбольш бяскрыўдныя з усяго пакоя. Нават спагадлівыя. Лішнімі роспытамі даймаць не будуць.

Казюк, толькі зірнуўшы на Касцюшку, пытае:

— Чаму такі сумны? З твару пачарнеў. Не выспаўся?

Касцюшка, хоць наважыў лішняга не гаварыць, не мае сілы ўтаіць тое, што здарылася ў ягонай сям'і. Боль такі востры, неадступны, неадольны, што чужая спагада яму патрэбна як паветра. Стараючыся не ўдавацца ў падрабязнасці, Касцюшка расказвае, што падаў у суд заяву на развод з жонкай і чаму падаў.

Казюк і Гуль змаўкаюць. Яны ходзяць да дзяўчат, збіраюцца жаніцца, і бяда, якая нечакана, негадана абрынулася на таварыша, як бы прымушае іх насцярожыцца.

— Можа, нагаворы? — перапытвае Казюк.— Дзесяць гадоў былі знаёмыя. Хіба лёгка адкінуць дзесяць гадоў? Калі нават і было што, то твая Маргарыта адумаецца. Вось пабачыш, адумаецца.

Гуль, на белым, без якіх-небудзь адмецін летняга загару тварыку якога заўсёды цвіце спакойна-грэблівая ўсмешка, раптам ускіпае:

— Што значыць адумаецца? На якога д'ябла патрэбна такая жонка? Муж не паспеў ад'ехаць, а яна да другога. Прычым не весяліцца паехаў муж, а вучыцца. Пры такой жонцы жыць не захочаш, не то што пісаць дысертацыю.

Таварышы суцяшаюць Касцюшку як могуць. Лішніх пытанняў не задаюць. Крануты іх спачуваннем, далікатнасцю, Касцюшка расказвае нават пра тое, аб чым наважыў маўчаць. Не спавядацца перад другімі, як вось цяпер, ён проста не можа. Да вечара пра здраду Касцюшкавай жонкі ведае ўвесь інтэрнат. Жыхары пакоя ў гэты дзень нават залішне ўважлівыя да Касцюшкі. Вечарам прыходзяць з бібліятэкі Алег Мардасаў і Сяргей Смалянчук. Яны ў курсе справы. Павячэраўшы булкай з каўбасой і чаем, забраўшыся ў ложкі, выключыўшы святло, аспіранты абмяркоўваюць паводзіны Касцюшкавай жонкі.

— Лялька! Любуецца адной сабой. Пра сябе толькі думае. Будзеш вялікі дурань, калі да яе вернешся. Загубіш жыццё...

Так сказаў Алег Мардасаў.

Казюк вядзе ранейшае:

— Яна яшчэ адумаецца. Ох, будзе шкадаваць! Локці будзе кусаць. Пралічылася дык пралічылася...

— Плюй на ўсё і беражы здароўе! — раіць, пакурваючы ў ложку, Смалянчук.— Не думай пра яе. Яна пра цябе не думала. Ведаю я гэту пароду. Калі разважаць філасофскі, нічога не здарылася. Якіх-небудзь дзесяць тысяч гадоў назад быў праміскуітэт. Беспарадкавы шлюб. Усе валодалі ўсімі. У некаторых людзей інстынкт захаваўся. Цяга да многіх. Да новых уражанняў, адчуванняў.

Хлопцы могуць вось гэтак разважаць, раіць кожны сваё. Ім не баліць. Выказаўшыся, адзін за адным пачынаюць паціху пасвістваць насамі. Засынаюць. Сяргей не засне. Колькі яму яшчэ адлічана бяссонных начэй?.. Сяргей пераносіцца думкай у местачковае жыццё. Смалянчук сказаў праўду: здрады былі і будуць. Нават сярод простых людзей. Тацяна Багульнікава, тоўстая, мажная, з поўным ротам залатых зубоў — яна жыве праз дзве хаты ад Сяргея,— калі была маладзейшая, гуляла з кім папала. Не зусім з кім папала — выбірала кавалераў па густу. «Круціцца Тацяна»,— гаварылі, сабраўшыся ля студні, суседкі і тут жа абмяркоўвалі вартасці яе новых кавалераў. Сяргей нават ведаў некаторых Тацяніных каханкаў. Адным з іх быў старшыня сельсавета Бутрымовіч — высокі, відны, у сіняй, ваеннага фасону гімнасцёрцы, якая шчыльна аблягала яго шырокія плечы. На рэмені ў Бутрымовіча вісела бліскучая кабура, з якой праглядвала цёмная ручка нагана, хадзіў ён шпарка, на людзей амаль не глядзеў.

І вось якая любоў у падобных жанчын. Бутрымовіч недзе знік, але Тацяна лішне па ім не сумавала. Хутка ў яе з'явіўся новы кавалер — загадчык абоднай майстэрні Пільгуй. Бутрымовіч быў відны сабой з твару, постаці. Пільгуй прыгажосцю не вызначаўся: як мядзведзь няўклюдны, касалапы, з пабітым рабаціннем тварам. На гэты твар было нават страшнавата глядзець: на ім сіне-чырвонай дуляй сядзеў агромністы нос. Пра такі нос звычайна гавораць: для траіх нос, аднаму дастаўся.

Мужык Тацяны, грузчык Сямён Багульнік, чалавек маўклівы, пануры, вандруе па двары, вуліцы, спусціўшы галаву.

На каго-небудзь зазлаваўшы, узрушыўшыся, даходзіць да шаленства і можа, здаецца, не толькі зняважыць, а нават забіць чалавека. Тацяна, аднак, на выбуховы характар свайго мужыка зусім не зважае, не шманае яго, як гавораць у мястэчку, працягваючы гуляць з кім хоча.

У Тацяны ёсць сястра Анюта, якая замужам за бухгалтарам Хібенкам, чалавекам ціхім, схаваным у самім сабе. Анюта таксама гуляе. Яшчэ больш адчайна, безразважна, чым Тацяна.

Тым часам яе ціхі Хібенка — гіпнатызёр. Умее падпарадкаваць сваёй волі волю другога чалавека. На адной з вечарынак у час акупацыі ён проста стварыў цуд. Пра гэта расказваў Касцюшку старэйшы брат Валодзя.

Худы, выпетраны Хібенка прыйшоў на пасядзелкі, відаць, разлічваючы разжыцца ў каго-небудзь табакай на самакрутку. Як і другія мужчыны, ён вельмі пакутаваў, што не стала курыва. Адзін з маладых самаўпэўненых рагатуноў падкалоў Хібенку, і ён у гэты ж вечар адпомсціў насмешніку.

Падышоў да чалесніка, узяў качаргу, аддаў рагатуну.

— Патрымай!

Адышоў на два-тры крокі, сваімі сінімі, як васількі, трохі вільготнымі вачамі стаў узірацца ў твар хлопца.

— Кідай, гэта змяя!

Хлопец з жудасцю, з нейкім нават падвываннем кінуў качаргу на падлогу.

— Уцякай, ідзе вада!

Загіпнатызаваны адступае, адступае, ускоквае на табурэтку, затым з жахам пачынае драцца на сцяну...

Так, Хібенка валодае цудадзейнай, таямнічай сілай, але ўласную жонку загіпнатызаваць не здолеў. Любіла Анюта, як і Тацяна, многіх. Няўжо некаторым жанчынам гэта даецца ад прыроды?

Сяргей адчувае, што не засне. Думкі мітусяцца, рояцца, як куслівыя пчолы. Аднак заснуць як-небудзь трэба. Іначай ён выб’ецца з сіл.

Сяргей устае, адчыняе тумбачку, навобмацак знаходзіць кардонную скрыначку са снатворнымі таблеткамі. Налівае паціху ў шклянку з графіна вады, глытае адразу дзве таблеткі, запівае...

## XI

Снег, снег...

Насоўваюцца з поўначы, з краю лясоў, азёр і сосен, калматыя воблакі, навісаюць над горадам. У тры гадзіны цёмна, як ноччу. Свецяцца ў нечаканым змроку вулічныя ліхтары. З уключанымі фарамі праносяцца машыны.

З кожнай хвілінай узмацняецца вецер. Ён свішча ўсю ноч, сыпле снежнай мукой. Вастраверхія снежныя гурбы каля сцен, пад'ездаў, у дварах. Праязная частка вуліцы, па якой вольна гуляе вецер, аднак, голая, шэрая.

У Касцюшкі камандзіроўка газеты ў недалёкі ад Мінска раён. Мог бы ён у такую завіруху не ехаць, перачакаць. Схадзіць на работу, пачытаць кнігі ў бібліятэцы. Але невыносны сум, адзінота не даюць сядзець на месцы. Нейкая сіла гоніць яго ў незнаёмы прастор, пад абладу ветру і снегу.

У рэдакцыі Касцюшка лішне язык не развязваў, пра сваю бяду расказаў аднаму Чарняўскаму. Але атрымалася, як і ў мястэчку ці інтэрнаце: да вечара рэдакцыя ведала, што новы стыльрэдактар разыходзіцца з жонкай.

Касцюшка ідзе на вакзал. Мусіць прывезці матэрыял пра пачатак зімоўкі на жывёлагадоўчых фермах. Ён любіць такое вось, як цяпер, надвор'е. Каб пазбавіцца смутку, болю, хоча паглядзець на закіданы снегам лес, на дарогу ў полі, на вёску.

За апошні тыдзень становішча Касцюшкі ў рэдакцыі перамянілася. Ён болей не стыльрэдактар, пераведзен у літсупрацоўнікі. Мае цяпер уласны стол, які ў пакоі сельгасаддзела стаіць побач са сталом Чарняўскага і самога загадчыка аддзела Ермалайчыка, чалавека гаваркога, смяшлівага і — галоўнае — надзвычай таварыскага.

Касцюшка здагадваецца: не двухмесячным стыльрэдактарствам заслужыў перамяшчэнне, якое з'яўляецца фактычна павышэннем; у літсупрацоўніка заработак большы, і наогул ён, у параўнанні са стыльрэдактарам, асоба больш прыкметная, творчая: піша, друкуецца.

У адзін з тых дзён Касцюшка прыкмячае: асляпляльна прыгожая сакратарка, якая пускае ці не пускае да рэдактара наведвальнікаў, нясе пад пахай падшыўку абласной газеты, у якой нядаўна працаваў ён, Касцюшка. Каму нясе, навошта?

Яшчэ праз дзень Касцюшку выклікае рэдактар.

Рэдактар — прозвішча ягонае Лагун — ужо даўно, з першага мірнага года, падпісвае газету. Касцюшка некалі ўяўляў яго суровым, зацятым, поўным велічы богам, бо хто другі набярэцца адвагі даваць жыццё матэрыялам, у якіх падчас крытыкуюцца сакратары райкамаў, абкамаў і нават міністры?

Тады, калі Касцюшку прымалі на работу ў газету, рэдактар з ім асаблівай гаворкі не меў.

Цяпер іншая справа. Цяпер ён сядзіць у крэсле перад заваленым стусамі папер сталом рэдактара, глядзіць у яго бледнаваты, з вузкім, нібы клін, падбароддзем твар, у стомленыя сінія вочы.

— Мы тут параіліся,— гаворыць рэдактар, адводзячы позірк, не называючы тых, з кім раіўся,— і рашылі перакінуць вас на творчую работу. Вы друкавалі карэспандэнцыі, нарысы. Цяпер правіце чужыя матэрыялы. Несправядліва. Калі не пярэчыце, мы перавядзём вас у сельгасаддзел. Літсупрацоўнікам.

Касцюшка ад нечаканасці сумеўся. Друкавацца ў такой газеце — вялікі гонар. Але ён не зусім свабодны: павінен наведваць пасяджэнні кафедры, хадзіць на лекцыі па філасофіі, замежнай мове.

— Я аспірант, вучуся,— тлумачыць рэдактару.— Вячэрняя работа не замінала вучобе. Як цяпер будзе?

Позірк рэдактара прыхільны, добразычлівы.

— Мы думалі пра гэта. Знойдзеце час на вучобу. Хіба ў нас такі жорсткі рэжым? Раз ці два ў месяц куды-небудзь з’ездзіце. Напішаце карэспандэнцыю. Апрацоўваць матэрыял неабавязкова ў рэдакцыі. Дзень ці два сюды можна не з’яўляцца.

Што ж, пры такіх умовах Касцюшка згодзен працаваць у сельскагаспадарчым аддзеле. І вось яго першае рэдакцыйнае заданне.

Цягнік ідзе на поўдзень. Цягнік хоць пасажырскі, але падобны на рабочы. Старыя рыпучыя вагоны, прыпынак на кожнай станцыі, нават паўстанку. Вагоны не дужа запоўнены.

Касцюшка выбраў вольнае купэ, прытуліўся ў кутку, праз запыленае, з бруднымі падцёкамі-разводамі акно глядзіць, як гуляе па полі завіруха.

Цяпер толькі пачатак снежня, а ўражанне такое, нібы глыбокая зіма. Снег мітусіцца ў тэлеграфных дратах, нацягнутых наўзбоч чыгуначнага насыпу, і здаецца, што там мільгае невядома кім павешаная бясконца доўгая сетка. Вецер закручвае пасмы снегу, пераганяе з месца на месца, падымае з зямлі насустрач тым, якія, віючыся, ляцяць з неба. Праз белую каламуць ледзь-ледзь праглядваюць абрысы станцыйных будынкаў, дрэвы, кусты.

Бойку, сварку, калатнечу між людзьмі Касцюшка ненавідзіць. Уцякае ад іх як можа. А вось неспакой у прыродзе прымае ўсёй душой. Любіць навальніцу, завіруху, нават аднастайны асенні дождж, які, бывае, сеецца дзень і ноч. Так з малых гадоў. Колькі разоў у самую завіруху выбіраўся ён з дому нарэзаць маці бярозавых галінак на венікі. Ішоў чыгункай да кустоў, дубянеў на калючым ветры, але і асалоду меў. Схаваўшыся ў зацішак пад дуб, падоўгу слухаў, як на розныя галасы і тоны спявае ў разгалістых шатах неўгамонны зімовы вецер...

Шмат меў такіх вось захапленняў Касцюшка. З палавіны лета, калі ў спецыяльна агароджаны прасценак хлява прывозілі і натаптвалі сена, ён начаваў там да самай халоднай восені. Слухаў, як шапаціць па саламянай страсе дождж, як шуміць вецер, і лёгка, шчасліва засынаў.

Так, свіст ветру, шэпт дажджу, пабліск маланак, удары грому знаходзяць у ягонай душы прыемны зычлівы водгалас.

Наадварот, марозныя дні з рыпучым снегам, з карункамі інею на галінках дрэў, калі няма ветру, руху, калі паўсюдна як бы пануе мярцвяная белая зацятасць, ён пераносіць хваравіта. Каб можна было, носа б з дому не вытыркаў. Вядома, была яшчэ адна прычына не любіць мароз: у дзяцінстве не меў ён ні добрай вопраткі, ні абутку. Можа, таму ён любіць Якуба Коласа. Колас тонка, дасканала адчувае рух прыроды, яе жыццё, адметныя асаблівасці кожнай пары года.

Глухі, аднастайны боль не пакідае Касцюшку. Боль як бы тоіцца на дне душы, трымаецца там, нібы намёрзлая

ледзяная глыба. Жыве цяпер Касцюшка як бы ў двух вымярэннях. Можа размаўляць, адказваць на пытанні, нават усміхацца. Але ўвесь час ён як бы прыслухоўваецца да нечага, схаванага, стоенага ў ім самім, што не мае ні вобліку, ні назвы. Пакутлівыя адчуванні ні на хвіліну не выпускаюць яго са сваёй аблады. Ён толькі ў сне пазбаўляецца безвыходнага, халоднага суму, а прачнуўшыся, адразу на яго натыкаецца.

Пячэ душу абраза. Маргарыта вінавата, але прабачэння не просіць. Жыць з ім не збіраецца. Значыць, ён дрэнны, нягодны, нікчэмны. Як бы апошні на гэтым свеце чалавек.

Вяртаючыся вечарамі з рэдакцыі, Касцюшка з надзеяй кідае позірк на стол, што стаіць у інтэрнацкім вестыбюлі. На гэтым стале да позняга вечара ляжаць пісьмы, чакаюць адрасатаў. Але Касцюшку пісьма няма. Нічога суцяшальнага не можа сказаць яму Маргарыта.

Схільнасць да летуценнасці цяпер як бы паварочваецца да Касцюшкі адмоўным бокам. Цяпер уяўленне падсоўвае яму пачварныя малюнкі Маргарыцінай здрады, яе сустрэчы з бясконцымі кавалерамі, якіх ён не ведае, ніколі не бачыў: яны толькі цені-здані хваравітай фантазіі. Ён адмахваецца ад гэтых малюнкаў, адбіваецца як можа, але цені-здані паўстаюць перад яго мысленным позіркам зноў і зноў.

Учора ён не вытрымаў, пазваніў дадому. Да тэлефона падышла маці. Нейкім ненатуральным, спалоханым голасам давала аднаскладовыя адказы, з якіх ён зразумеў, што Маргарыта дома, ведае, што звоніць ён, але да тэлефона падыходзіць не хоча. Ён яшчэ спытаў: ці плача яна? Маці адказала: чытае кнігу. Вось так. Сам ён, на жаль, кніг чытаць не можа...

Чыгунка, па якой цяпер едзе Касцюшка, вядзе на Гомель. Колькі разоў ён па ёй ездзіў? З мястэчка ў Гомель, з Гомеля ў Мінск. І назад. Калі скончылася вайна і Касцюшка дэмабілізаваўся, на першае месца адразу выступіла вучоба. Яна аказалася трохі не такой, пра якую ён марыў яшчэ да вайны. Да вайны ў Мінску быў КІЖ — Камуністычны інстытут журналістыкі. На фронце, далёка ад дому, ад Беларусі, трызніў пра гэты КІЖ Касцюшка.

Мінск вызвалілі, але КІЖ не аднавіўся. Замест яго ў складзе БДУ адкрыўся факультэт журналістыкі.

Вярнуўшыся пасля вайны ў мястэчка, Касцюшка паранейшаму песціў мару пра вучобу. Цяпер ужо ў БДУ. Тым часам думкі пра стацыянарную вучобу прыйшлося адкінуць. На дапамогу з дому ён не мог разлічваць, на адну студэнцкую стыпендыю ў разбураным, вынішчаным Мінску пратрымацца было цяжка. Ён усё-такі трошкі павучыўся на стацыянары: першы семестр на другім курсе. Пераканаўся, пабыўшы ў бесклапотным студэнцкім гурце, што і завочна можна вучыцца.

Завочная вучоба мае нават некаторыя перавагі перад стацыянарнай. Запамінаеш самае галоўнае, пераварваеш матэрыял самастойна. Значыць, цвярдзей стаіш на нагах.

Студэнты-стацыянарнікі толькі выкладчыкаў слухаюць ды экзамены здаюць. А ён па раёнах, па калгасах вандраваў, сёетое ведае з сапраўднага жыцця...

Пяць гадоў ён ездзіў па гэтай чыгунцы. З мястэчка ў Мінск, з Мінска — у мястэчка. Цяпер язда ў адзін канец. У Мінск. У мястэчка дарогі няма...

Касцюшка нарэшце вылазіць з цягніка. Белай каламуццю ахутана станцыя раённага гарадка, куды ён прыехаў. Вакзал някідкі, мізэрны: драўляная будыніна, абшаляваная дошкамі, пафарбаваная ў зялёны колер. Усе чыгуначныя службы месцяцца пад адным дахам: начальнік станцыі, дзяжурны, білетная каса, таварная кантора.

Холадна, зябка. Дарэмна ён у завіруху паехаў. З нябачнага, затканага свінцова-шэрымі воблакамі неба сеецца снежная мука. Яе падхоплівае, круціць звілістымі пасмамі вецер, пахапкам рассцілаючы па зямлі, раўняючы і не могучы зраўняць.

Прабірае да касцей вецер. Касцюшка апранут у ватняе паліто, крыссе якога ледзь не дасягае пят. Але цёплага каўняра на паліто няма, і зімовую шапку Касцюшка не купіў. Дый на нагах звычайныя лёгкія туфлі.

Вуліцы раённага гарадка закіданы снегам. Розных памераў і формы гурбы з касымі, рухомымі грэбнямі намецены ля парканаў, веснічак, падступаюць да самых акон нізкіх, крытых гонтай дамкоў, па дахах якіх, перакатваючыся з аднаго на другі, як бы шугаюць белыя снежныя прасцірадлы.

Шмат малых драўляных гарадкоў адкрыў для сябе Касцюшка за гады вандровак па заданнях рэдакцыі. І хоць раней

было Палессе, а цяпер Міншчына, самы цэнтр Беларусі, воблік такіх паселішчаў не асабліва між сабой розніцца. Чымсьці глыбока стоеным, няўлоўным раённыя гарадкі, пасёлкі падобны адзін на другі.

Візіты ў такія вось гарадкі Касцюшка пачынае з таго, што ўладкоўваецца ў гасцініцу. Затым ідзе ў рэдакцыю раённай газеты, райкам, райвыканкам. Родныя браты-газетчыкі наводзяць карэспандэнта на цэль. Даюць дакладную даведку: дзе што ёсць, куды варта паехаць, каб сабраць прыстойны матэрыял.

Але ў гэтым гарадку план адразу ламаецца. Пакуль Касцюшка брыдзе па замеценай снегам вуліцы ад станцыі да невялікай плошчы, вакол якой месцяцца галоўныя раённыя ўстановы, парадкам дубянее ад холаду. Таму проста не можа абмінуць мураванага дамка з шыльдай «Чайная». Паблізу чайной стаіць прысыпаны снегам «казёл» з брызентавым верхам, некалькі іншых машын. Вопытны карэспандэнт бярэ гэта пад увагу.

Касцюшку шанцуе з першай хвіліны. У чайной цёпла і не вельмі людна. За столікамі людзі ў зашмальцаваных ватоўках, паддзёўках. Хутчэй за ўсё шафёры, машыны якіх стаяць на вуліцы.

Касцюшка садзіцца за столік, за якім ужо двое сядзяць, напаўголаса між сабой размаўляючы. Калі падыходзіць афіцыянтка, ён заказвае расольнік, катлету, сто пяцьдзясят грамаў гарэлкі і кухаль піва. Трэба першым дзелам пагрэцца.

З дваіх, што сядзяць за столікам, адзін, відаць, шафёр, бо нічога не п’е, апранут у зашмальцаваную ватоўку, шыя абвязана шэрым шалікам, на галаве лётчыцкі шлем з раменнымі вушамі.

Другі, шырокі ў плячах, каржакаваты, мабыць, ягоны начальнік: пыжыкавую шапку зняў, крыссе паліто з бабровым каўняром расхінуў, палыквае малымі глыткамі піва.

Калі афіцыянтка прыносіць гарэлку і закуску, Касцюшка, перш чым выпіць, падымае шклянку, прамаўляе, звяртаючыся да суседзяў, «за ваша здароўе», чым відавочна схіляе іх на свой бок.

Ад выпітай гарэлкі ён хутка саграваецца. Прыемна шуміць у галаве. Цяпер зусім не цяжка завесці з суседзямі знаёмства. Той, што ў пыжыкавай шапцы, заатэхнік райсельгасаддзела, гаспадар зашмальцаванай ватоўкі, як і меркаваў Касцюшка, калгасны шафёр.

Заатэхнік едзе ў калгас падмяняць калегу, які захварэў і ляжыць у бальніцы.

Касцюшку цюкае: раённага заатэхніка ў калгас з дрэннай жывёлагадоўляй не пашлюць. Яшчэ колькі калгасаў наогул абыходзяцца без заатэхнікаў. Сюжэт будучай карэспандэнцыі сам просіцца ў рукі.

— Вы каго-небудзь чакаеце? — пытае Касцюшка.

— Яго старшыня на пленуме райкама,— заатэхнік паказвае на шафёра.— Яшчэ раз прыедзе па старшыню. Пленум усё адно рана не скончыцца. Тавары на базе райспажыўсаюза мы забралі. Можам ехаць.

Машына, значыць, паўтаратонка.

Але Касцюшка ўсё адно кліча афіцыянтку, заказвае па сто грамаў гарэлкі і па кухлі піва сабе і заатэхніку.

Выпіваюць. Закусваюць. Касцюшка называе сябе, просіць падкінуць у калгас.

Шафёра ён не здагадаўся як-небудзь пачаставаць, таму той не згаджаецца.

— У кабіне не памесцімся. Ехаць амаль гадзіну. Як вам у такую завіруху ў кузаве сядзець?

Касцюшка парадкам падпіў, стаіць на сваім. Наогул, ён як бы кідае выклік лёсу. Гатоў мёрзнуць, калець, абы забыць на бяду, на боль, які не сціхае ў душы.

Шафёр лезе ў кузаў, перастаўляе скрынкі. Робіць з іх як бы сховішча карэспандэнту.

І вось яны едуць. Калючы, пранізлівы вецер пачынае даймаць Касцюшку, як толькі выбіраюцца ў поле. Паліто нібыта на ваце, але адсутнасць каўняра, цёплай шапкі зводзіць на нішто намаганні карэспандэнта ўратавацца ад ветру. З дому ён не прывёз ні цёплай бялізны, ні валёнак, ні нават шарсцяных шкарпэтак. Выскачыў — як з пажару.

На полі белая каламуць. Не відаць ні неба, ні зямлі. Праз белую мітусяніну мільгаюць цёмныя купы дрэў, будынкі.

Дарогу ў некаторых мясцінах зусім занясло. Паўтаратонка натужна раве маторам, тузаецца, ледзь-ледзь прасоўваючыся наперад.

Вельмі хутка Касцюшка разумее, што зрабіў глупства. Хмель як рукой знімае. Ён цяпер дакарае сябе за неабдуманы ўчынак. Зрэшты, чаму ён паехаў? Хто гоніць яго ў шыю? Мог уладкавацца ў гасцініцы, перачакаць завіруху. Нікуды не ўцёк бы ад яго калгас. Ясна, ён Маргарыце хацеў адпомсціць. Знайшоўся гэткі самазрокшыся дзеяч. Маргарыта рада будзе, калі з ім што-небудзь здарыцца. Адразу спішуцца грахі.

Раптам Касцюшку працінае ўспамін: з ім ужо было такое! І, можа, з-за таго недарэчнага выпадку ён ажаніўся з Маргарытай...

Гэта было гады чатыры назад. Ён прыехаў у Клінск у сярэдзіне дня і, не жадаючы чакаць пасажырскага цягніка, які на мястэчка адпраўляецца позна ноччу, ускочыў на тармазную пляцоўку таварнага. Вецер быў, бадай, як зараз. Толькі без снегу. Паліто Касцюшка меў яшчэ горшае. Трафейная, пашытая ў Італіі ці Францыі для цёплай еўрапейскай зімы хламіда, якую ён у канцы вайны прыслаў у пасылцы дадому. Яна зусім не грэла.

Праехаўшы на адкрытай ветру тармазной пляцоўцы некалькі кіламетраў, ён прамёрз да касцей. Каб канчаткова не адубянець, пачаў скакаць, біцца плячом аб сценку вагона. Таварняк, як назло, не запыніўся ні на адной станцыі. Убачыўшы яго скокі, выкрунтасы, гучна зарагаталі на нейкім перагоне жанчыны-рамонтніцы.

Дарма для яго тая паездка не мінула. Схапіў сухі плеўрыт. Два ці тры месяцы пры дыханні было выразна чуваць, як штосьці шоргае ў левым баку. Як бы цёрліся між сабой дзве шорсткія дошчачкі.

Вось так. Плеўрыт ці хутчэй тое, што за ім пачалося, мелі прамое ўздзеянне на адносіны Касцюшкі з Маргарытай. За зімой прыйшла вясна, ён паступова перастаў адчуваць болі, шоргат у левым баку і нават забыў на свой плеўрыт.

Вясной яго на некалькі дзён выклікалі ў рэдакцыю. Супрацоўнікі газеты праходзілі флюараграфію. Медагляд Касцюшкі не датычыў, ён да апарата рэдакцыі не належаў,

але, паколькі знаходзіўся ў надпрыпяцкім горадзе, далі накіраванне на рэнтген і яму.

Урач-рэнтгенолаг на прадаўгаватай, з чарнільным штампам тубдыспансера паперцы намаляваў Касцюшку карціну нават горшую, чым хвораму на сухоты загадчыку сельгасаддзела Сакольскаму. Абодва лёгкія ў суцэльных плямах, што ўказваюць на хваробу.

Паперку Касцюшка парваў. Хворым сябе не адчувае, то навошта будзе тлуміць галаву непатрэбнымі думкамі? Нешта ў душы, аднак, засталося. Магчыма, то быў прытоены страх перад грознай хваробай, якая вось-вось можа насцігнуць, пакласці ў пасцель.

У той вечар Касцюшка сустрэўся з Маргарытай. Яна была незвычайна ласкавая, уважлівая. Заглядвала яму ў вочы, відавочна да яго хінулася.

Яна пазвала яго да сябе на кватэру. Пакінула начаваць.

Ён, вядома, зразумеў, што Маргарыта не дзяўчына. Але дапытвацца не стаў. Усё, што было да яго, як бы не мела для яго значэння.

Праз месяц Маргарыта сказала, што зацяжарала. Яны адразу пайшлі ў загс і запісаліся. Нават бацькоў не папярэдзілі, бо запіс рабілі ў надпрыпяцкім горадзе.

Падазрэнне прыйшло пазней.

На рэнтген Касцюшка хадзіў у сярэдзіне красавіка: добра запомніў той дзень. Лічыў: іхняе з Маргарытай дзіцё народзіцца ў студзені. Яна сама так лічыла. Але роды наступілі нечакана, і ўжо ў пачатку снежня Касцюшка стаў бацькам...

Успамінаючы, як яны з Маргарытай пажаніліся, Касцюшка прыходзіць у шаленства. Усё жыццё ён быў недаваяркам, не могучы адрозніць чорнае ад белага. Гэтак даць сябе абкруціць! Не дадумаўся нават зазірнуць у каляндар, вылічыць, што дзіцё не яго. Баяўся жыцця, хаваў, як страус, галаву пад крыло. Дзіва што яго не любіла Маргарыта. Ніякая дзяўчына, жанчына не палюбіць такога цюхцяя.

Праз некаторы час Касцюшка пачынае думаць пра сябе з большай паблажлівасцю. Ён начытаўся кніг і глядзеў на жыццё, на свет праз ружовыя акуляры. Нават вайна з яе жахамі, страшнымі злачынствамі, людаедствам фашыстаў не пахіснула яго гэтага погляду. Летуценнік, Дон-Кіхот!..

З цяжкасцю разгінаючы адубянелыя ногі, Касцюшка ўстае, адной рукой прытрымліваючы, каб не зляцела, кепку, другой стукае па жалезным версе кабіны. Прабегшы метраў сотню, паўтаратонка спыняецца.

Абмінаючы, пераступаючы скрынкі, Касцюшка дабіраецца да борта, трымаючыся непаслухмянымі рукамі за яго край, нагамі намацвае задняе кола грузавіка, нарэшце становіцца на засыпаны снегам дол. Ногі нібы гумавыя, зусім не трымаюць. Ён так замёрз, што не адчувае ўласнага цела. Шафёр і заатэхнік, якія выскачылі з кабіны, спалохана на яго глядзяць.

Ён пойдзе сам, ледзь вяжучы абветранымі губамі словы, прамаўляе Касцюшка. Нават трохі, каб сагрэцца, прабяжыць. Вёска, відаць, недалёка.

Але шафёр з заатэхнікам у голым полі Касцюшку не пакідаюць. Падсаджваюць у кабіну, уціскаюцца самі. У кабіне паўтаратонкі траім сапраўды не павярнуцца. Рычаг пераключэння хуткасці апынуўся між нагамі карэспандэнта. Але тым не меней шафёр у лётчыцкім шлеме дастае да яго, варочае, і машына коціцца насустрач снежнай замяці.

Не паспеў Касцюшка ў машыне адагрэцца, як прыехалі ў вёску. Завіруха трохі супакойваецца. Хаткі ў вёсцы ахайныя, большая палавіна з новага лесу, толькі яны неяк бязладна, без парадку раскіданы па заснежаным прасторы. Нібы хутаркі, якія Касцюшка бачыў у вайну ў Літве.

Паўтаратонка супыняецца насупраць сельсавета. Яго складзены з бярвення, з высокім ганкам будынак бакавой сцяной павернуты да вуліцы. На гэтай доўгай сцяне тры ці нават чатыры акны.

— У сельсавеце пакой для прыезджых,— гаворыць заатэхнік.— Ідзіце грэйцеся. Няхай сторож запаліць у грубцы. Я таксама прыйду начаваць.

Пакоік тым часам ужо напалены. Цёпла ў ім, добра — як у бога за пазухай. Ля супрацьлеглых сценак стаяць два вузкія жалезныя ложкі, засланыя шэрымі, пад колер салдацкага шыняля, коўдрамі, ёсць маленькі столік, дзве табурэткі. У гэты пакоік Касцюшку адразу пасяліў рухавы чарнявы сакратар сельсавета, як толькі ўбачыў, што карэспандэнт дашчэнту прамёрз і адубянеў.

Вось, значыць, як шанцуе Касцюшку. Пакой для прыезджых — фактычна гасцініца. Яшчэ нідзе, ніколі не бачыў такой раскошы карэспандэнт. Ва ўсякім выпадку, у сельскай мясцовасці.

Прыхінуўшыся спіной да цёплай грубкі, з паўгадзіны пастаяўшы, Касцюшка пачаў адагравацца і ўжо з прыемнасцю думаў, як нап'ецца гарачага чаю (калі ёсць гасцініца, то і чай знойдзецца) і ляжа спаць.

У гэты час у пакоік завітвае сакратар сельсавета. Хлапчына сімпатычны, таварыскі, размаўляе з Касцюшкам як са старым знаёмым, пабліскваючы пры гэтым насмешлівымі шэрымі вачамі.

Як карэспандэнт адважыўся ў такую завіруху сесці ў кузаў? Хіба вельмі пільная справа? І як два ёлупы, шафёр і заатэхнік, не пасадзілі яго адразу ў кабіну?

Касцюшка не мае рахункаў ні да шафёра, ні да заатэхніка. Шафёр якраз не хацеў яго браць. Добра, што добра канчаецца. Каб ехалі ў кабіне ўтрох, фактычна не бачачы ў замяці перад сабой дарогі, магло б горш скончыцца...

Сакратар сельсавета запрашае Касцюшку на абед і не тоіць задавальнення, калі ён адмаўляецца. Вартаўнік нагрэе гарбаты, гаворыць сакратар, а там прыедуць з раёна, з пленума два старшыні — калгаса і сельсавета — і нешта прыдумаюць.

З Касцюшкам штосьці адбываецца. Наступае нейкі пералом. Раней ён крыўдзіўся, абражаўся, калі, прыязджаючы ў вёску, не атрымліваў запрашэння на начлег, пачастунак ад старшыні калгаса ці ад брыгадзіра. Хоць такіх выпадкаў было няшмат: мясцовая ўлада з карэспандэнтамі лічыцца. А цяпер Касцюшка ні да кога не хоча ісці. Можа, таму, што ёсць пакоік для прыезджых і ён можа жыць, ні ад каго не залежачы.

Наогул, ён цяпер цягнецца да незалежнасці. У ягонай лейтэнанцкай сумцы, прывезенай яшчэ з фронту, паўбуханкі хлеба, ёмісты кавалак каўбасы. Гэтага яму хопіць і на заўтра. Дык навошта ісці на абед да чулага, прыветлівага сакратара сельсавета, у якога не надта вялікі заработак і жонка якога наўрад ці ўзрадуецца чужому чалавеку?

Пачынае цямнець. Апрануты ў залатаны паўкажушок, з выцвілай шапкай-аблавушкай на галаве, дзед-вартаўнік

прыносіць у пакоік запаленую лямпу, а яшчэ праз паўгадзіны — закураны чайнік і вышчарбленую жалезную кружку. Касцюшку дзед тлумачыць, што дзяжурыць ноччу пры тэлефоне, грэе сабе чай, а калі ёсць прыезджыя, то ім таксама грэе.

Болей нічога Касцюшку не трэба. Галоўнае — мае свабоду. Два ці нават тры дні пажыве ў пакоіку, паходзіць, паглядзіць на калгасныя справы. Нават думкі пра Маргарыту цяпер, здаецца, яго менш прыгнятаюць.

Сагрэўшыся чаем, Касцюшка апранае палітончык і выходзіць на вуліцу. Віхура зусім супынілася, вісіць над аснежанай белай зямлёй зорнае неба з паўбоханчыкам месяца на ўскрайку. На сінявата-белай роўнядзі раскіданы купкі цёмных хатак з нияркімі аганькамі ў вокнах. Электрычнасці ў калгасе яшчэ няма.

Многа разоў начаваў Касцюшка ў такіх вось вёсачках, і заўсёды душа яго рвалася ў мястэчка, пад дах роднага дома. Усё-такі ён не вясковец. Горадам мястэчка не назавеш, там, як і ў вёсцы, драўляная забудова, не замошчаныя каменем вуліцы, каровы, свінні, галасістыя пеўні на панадворках. Але рух жыцця іншы. Няма вось гэтай затоенай цішыні, пачуцця закінутасці, адарванасці ад вялікага свету. Бо ёсць чыгунка, электрычнасць, вячэрнія сеансы кіно, чалавечыя постаці, галасы на вуліцах.

Але цяпер Касцюшка нават у думках не рвецца ў мястэчка. Няма болей роднага гнязда...

Назаўтра Касцюшка сустракаецца са старшынёй калгаса, заклапочаным, яшчэ даволі маладым мужчынам, які відавочна не прыдае значэння візіту карэспандэнта.

Касцюшка са старшынёй ідзе ў канцылярыю калгаса: яна займае някідкі з выгляду сялянскі дамок. Як і ў сельсавеце, тут лад і парадак: асобны пакоік старшыні, асобны для аднавокага, абутага ў падшытыя лямцам валёнкі бухгалтара, які з раніцы адчайна ляскае на лічыльніках, нават залька для пасяджэнняў з пастаўленымі наўзбоч сцен крэсламі ёсць.

Не часта пабачыш такое ў асяродках сельскага кіраўніцтва. Касцюшка міжволі поўніцца павагай да маладога старшыні калгаса, які параіў пагаварыць з людзьмі, а сам знік разам

з учарашнім заатэхнікам, што так і не прыйшоў начаваць у сельсавет.

Касцюшкам цікавіцца толькі старшыня сельсавета, немалады, шыракатвары, апрануты ў перашытую з шыняля паддзёўку. Распытвае, як карэспандэнт спаў, снедаў, раіць зазірнуць у краму, куды прывозяць хлеб, цукар, іншы раз нават каўбасу. Старшыня сельсавета запэўнівае: сагрэць чай для карэспандэнта можна ў любы момант.

Вёска называецца Ляскі, калгас — «Камінтэрн». Такую назву калгас атрымаў, відаць, у трыццатыя гады, калі да звычайных мясцін, паселішчаў дапасоўваліся гучныя, сусветнага маштабу паняцці і назвы.

У другіх калгасах Касцюшка спісваў старонкі блакнота мноствам фактаў, лічбін, апытваў даярак, даглядчыц, загадчыкаў фермаў, брыгадзіраў — мноства людзей. У Лясках ён нічога гэтага не робіць. Ходзіць па вёсцы, па калгасным двары, зазірае ў грамадскія хлявы, свірны. Яму трохі дзіўна, што людзі ў раскіданай вёсачцы як бы жывуць пасярод прыроды. Сізыя купы лазнякоў з аднаго боку і цёмная града сасоннікаў з другога ўшчыльную падступаюць да вясковых хатак і грамадскіх будынкаў.

Так, у гэтай вёсачцы Касцюшка як бы нырнуў у суладдзе спакою. Душа патрохі адаграваецца, адпачывае. Спакой, які навяваюць малюнкі вясковай зімы, вядома, адносны. Ён раз-пораз перабіваецца трывожнымі думкамі пра бяду, якую Касцюшка як бы носіць у сабе самім. Няма куды ад гэтай бяды схавацца.

Касцюшка ловіць сябе на думцы, што ніколі не расказваў Маргарыце пра такія, як цяпер, паездкі. Яе гэта не цікавіла. Не цікавіла палітыка, вострыя артыкулы ў газетах, новыя кнігі і спрэчкі, якія вакол іх узнікалі. Ён многа чытаў, абдумваў убачанае за час сваіх бясконцых вандровак, але з Маргарытай думкамі не дзяліўся. Яна іх не прымала. Свядома, шчыра адварочвалася ад усяго, што было звязана з ягонай работай, ніколі не чытала заметак, карэспандэнцый, якія ён друкаваў у газеце, не цікавілася, як ён вучыцца, якія здае прадметы. Ад дамашняй работы, гаспадаркі, побыту яна таксама ўцякала.

Ён цяпер бачыць: іх звязваў толькі ложак.

Ён, вядома, вінават. Бярог свой душэўны спакой, раўнавагу. Не хацеў згадваць, да чаго прывядзе такое суіснаванне. Дзеля спакою — іншай прычыны не назавеш — прапускаў міма ўвагі тое, што прапускаць было нельга. Бо нават пры ім Маргарыта цягнулася да другіх мужчын, якія чым-небудзь ёй падабаліся. Ва ўцехах трапяткога, паспешлівага кахання бачыла галоўную радасць жыцця.

Старшыня калгаса — яго завуць Васіль Ціханавіч, прозвішча Дрозд — на трэці дзень, на развітанне, заве карэспандэнта на вячэру. Да сябе ў хату. Зажытак у старшыні не вельмі заможны: два невялікія пакоікі, засланы белым даматканым абрусам стол, часы-ходзікі на сцяне, канапка з праваленым сядзеннем.

Быў Дрозд да нядаўняга часу майстрам на лесаўчастку. Райкам перакінуў на калгас. Старшыня ўсяго гады на два ці тры старэй за Касцюшку. Фактычна чалавек яго пакалення. Быў у партызанах, затым на фронце.

Прыезджы заатэхнік і старшыня сельсавета, якіх таксама заклікаў да сябе Дрозд, відаць, не першы раз у ягонай хаце. Не зважаючы на карэспандэнта, гавораць пра недахопы гаспадаркі, абмяркоўваюць раённыя справы, нават трохі абсмейваюць раённых кіраўнікоў.

Касцюшку падабаецца жонка старшыні. Чорненькая, з гнуткай, як у змейкі, паставай, яна здаецца аж залішне прыгожай. Яна настаўніца, вучыцца завочна ў Мінскім педінстытуце. Выпіўшы шклянку гарэлкі, адчуваючы прыемнае кружэнне ў галаве, Касцюшка хоча як-небудзь звярнуць на сябе ўвагу прыгажуні. Улавіўшы момант, ён гучна паведамляе, што не толькі працуе ў рэдакцыі, а і з'яўляецца аспірантам універсітэта, ведае некаторых аспірантаў педінстытута: абедзве навучальныя ўстановы размешчаны побач.

Ягоныя словы не робяць на чарнявую змейку ніякага ўражання. Закаханымі вачамі глядзіць на свайго старшыню, і, акрамя яго, няма для яе нікога на свеце. Вось так: аднаму шчасце даецца поўнай мерай, другога абмінае зусім.

## XII

Ёсць нешта ўтульнае, дамашняе ў малюнку зімняга горада. Асабліва вечарам і на такіх, амаль ускраінных, вуліцах, як Маскоўская. Прыкіданыя снегам камяніцы здаюцца ніжэйшымі, цесныя гарадскія дворыкі поўняцца дзіцячымі галасамі, павабна, прынадна струменяць святло ў цёмна-сіняе вячэрняе сутонне бязладна раскіданыя квадрацікі вокнаў.

Ад вуліцы Маскоўскай, ледзь не прылягаючы да насыпу чыгункі, адыходзіць другая — Льва Талстога. Невядома, па якой прычыне імя славутага пісьменніка наканавана гэтай ціхай, ледзь не мястэчковага выгляду вуліцы з соннымі драўлянымі дамкамі, якія ў вячэрні час дружна выпускаюць са сваіх цагляных комінаў шызыя слупы дыму. Ледзь не пры кожным такім дамку яблыневы сад.

Касцюшку асабліва ўражваюць голыя зімовыя сады з цёмнымі, густа пераплеценымі галінамі дрэў, што праглядваюць з-за дашчаных парканаў. У сінявата-шэрым паўзмроку вечара выразна выдзяляюцца чорныя сукі-галіны вершалін. Здаецца, дрэвы ўздымаюць у неба свае рукі, аб нечым просяць.

Нечакана наступаюць маразы. Не са свістам ветру, снежнай крупкай, якая б'е ў твар, перапыняе дыханне, а маўклівыя, зацятыя, калі, здаецца, усё навакол застывае і мярцвее. Іней на трамвайных дратах, на выпетраных былках, якія сям-там вытыркаюцца між занесеных снегам руін, на брывах сустрэчных. Белая пара з рота, нерухомыя дымы з комінаў на драўлянай вуліцы Льва Талстога.

Касцюшка купляе на базары зімовую шапку-аблавушку, не новую, але досыць ахайную. Галаве цяпер цёпла. Але мёрзнуць у лёгкіх туфлях ногі, не надта грэе доўгае паліто з адвіслымі лацканамі-штрыфлямі. У туфлі Касцюшка падкладвае паперы, нацягвае на ногі дзве пары шкарпэтак.

Сум, які ахоплівае Касцюшку ў гэтыя панылыя, мярцвяныя дні, пераходзіць усе магчымыя межы. Жыццё здаецца горка-безнадзейным. З дваццаці шасці пражытых гадоў дзесяць трэба выкрасліць. Усё, што звязана з Маргарытай. Бо яна была хлуслівай, двурушнай не толькі ў гэтую апошнюю восень,

а і тады, калі толькі з ім пазнаёмілася, дала пачытаць кнігу «Мужчына і жанчына», пісала рэдкія лісты на фронт, калі прыходзіла на ўмоўленыя спатканні. Усё добрае, прыгожае, што ён пеставаў у душы, не больш, чым міраж, фальш, падман. Нічога добрага не было. Прыгожыя адчуванні, пачуцці ён проста выдумаў. Маргарыта не мае да іх дачынення.

І ўсе-такі ён чакае ліста ад Маргарыты. Прагна, настойліва. Увесь гэты месяц, запоўнены снегам, марозам, страшэннай адзінотай. Ліст гэты ўяўляецца бальзамам, збаваннем ад пакуты, якая, не перастаючы, агнём пячэ душу.

Замест ліста ў адзін з тых зімовых дзён прыходзіць позва ў народны суд.

Да суда яшчэ цэлы тыдзень. Народны суд будзе іх з Маргарытай мірыць. Дзеля захавання сям'і, у інтарэсах нармальнага выхавання сына. Сына Касцюшка ўспамінае ледзь не кожнай гадзіны. Але ўсё адно з Маргарытай не прымірыцца. Дзеля чаго? Каб яна зноў заводзіла каханкаў, шукала любоўнай уцехі? Калі Маргарыта хоча волі, няхай будзе вольнай. Так будзе лепей. Дзеля яго, для яе, для сына...

Маразы пякуць. Нават вуліцы прыкметна апусцелі: хто можа з гараджан, сядзіць дома. Халоднае, пераўвільготненае паветра спірае дыханне, выціскае з вачэй слязу, якая тут жа замярзае.

Касцюшка на працягу ўсіх гэтых няўтульных, панылых дзён стараецца пазней затрымацца ў рэдакцыі. Вычытвае карэктуру, апрацоўвае матэрыялы, ахвотна дзяжурыць па нумару нават па-за чаргой.

Ён цяпер сядзіць у адным пакоі з вясёлым, смяшлівым Ермалайчыкам, які загадвае сельскагаспадарчым аддзелам. Працаваць з такім загадчыкам лёгка: не павысіць голасу, ніколі не зняважыць. Часта заглядвае ў сельгасаддзел пісьменнік Чарняўскі, які ўвогуле працуе дома.

Касцюшка ўсё болей робіцца сваім сярод супрацоўнікаў газеты. Цікавых людзей тут многа. Ёсць нават журналіст, які ў акупацыю, у гэтым самым Доме друку, застрэліў рэдактара фашысцкай газеты. Гэта Алесь Кандрусевіч, які цяпер працуе разам з Касцюшкам. У ягоным абліччы, здаецца, нічога гераічнага няма: высокі, белавалосы, з блакітнымі дзіцячымі

вачамі. Вельмі памяркоўны, мяккі па характары, Кандрусевіч аднак жа і прывезенага з Германіі рэдактара-нацыяналіста ў ягоным кабінеце кокнуў, і здолеў выбрацца з Дома друку, трапіць у партызанскі лес.

Узяўшы кароткі адпачынак, у дзень суда Касцюшка прыязджае ў мястэчка. Марозу няма, лопнуў нарэшце мароз. Дзьме цёплы заходні вецер, капае са стрэх. Маргарыта па-ранейшаму жыве разам з Касцюшкавай маці, братам, сястрой, але трымаецца нібы чужая. Нават не павіталася з Сяргеем. Выглядае злоснай, надзьмутай, хоць твар спакутаваны, пакрыты белымі, нібы пух, валаскамі.

У суд Сяргей і Маргарыта ідуць рознымі дарогамі. Ён — праз станцыю, яна — галоўнай местачковай вуліцай. Залька, у якой адбываюцца судовыя пасяджэнні, шчыльна забіта. Цікаўных — хоць адбаўляй.

Тым часам Касцюшка не задавальняе іхнюю прагу. Мірыцца не хоча і аб прычынах разводу гаворыць вельмі коратка. Не сышоўся з Маргарытай характарам, таму жыць з ёй не хоча, не можа.

Маргарыта на пытанне суддзі, ці жадае скасаваць шлюб з Касцюшкам, адказвае, што не жадае.

Прымірэння не адбылося: суд можа вынесці толькі такую пастанову.

Але вось па ўласным жаданні падахвочваецца сведчыць Вера Бяляўская, недалёкая Касцюшкава суседка, якая жыве ля моста, ля павароту вуліцы на поле. Змізарнелая, неахайна апранутая Вера ўстае, пачынае гаварыць. Яна сама на ўласныя вочы бачыла, як па вечарах паблізу яе хаты Маргарыта спатыкалася са Стаходам. Стаялі, цалаваліся, затым ішлі ў поле. Навошта ноччу ісці ў поле?

Досыць малады, з разумным тварам суддзя махае рукамі. Садзіць Бяляўскую на месца. Такія падрабязнасці суду не патрэбны. Увогуле ніякія сведкі не патрэбны. Народны суд толькі прымірае. Разводзіць будзе абласны.

Універсітэт адзначае трыццацігоддзе. Заняты няўдачамі, згрызотамі асабістага жыцця, паездкамі ў мястэчка, частку ўрачыстасцей Касцюшка прапускае.

Але яшчэ працягваецца юбілейнае свята. У корпусе біялагічнага факультэта, найлепшым з адрамантаваных будынкаў універсітэцкага гарадка (у ім, акрамя аўдыторый, размяшчаецца рэктарат, бібліятэка, актавая зала), наладжана выстаўка. На паліцах пад шклом кнігі выкладчыкаў універсітэта.

Кніг даволі многа, прысвечаны яны розным навукам. Найбольш кніг выдадзена яшчэ да вайны, у трыццатыя і нават дваццатыя гады. Не дзіва, бо пад дахам універсітэта ў першыя гады пасля яго адкрыцця разам працавалі медыкі, грамадазнаўцы, эканамісты, тэхнолагі, спецыялісты лясной справы. Пазней, падгадаваўшы навуковыя сілы, яны адгалінаваліся ад універсітэта, стварыўшы, бадай, ці не ўсе ВНУ, якія ёсць у беларускай сталіцы.

Асобна абсталяваны дзве фотавітрыны. Першая паказвае найбольш заслужаных прафесараў, дацэнтаў, выкладчыкаў і нават студэнтаў — пераважна былых, якія вылучаліся выдатнай вучобай, актыўнай грамадскай дзейнасцю, занялі віднае месца ў жыцці.

На другой фотавітрыне выкладчыкі і студэнты-воіны. Тыя, што жывуць, працуюць ва ўніверсітэце. Зняты ў ваеннай форме, з ордэнамі, медалямі. Паказаны і некаторыя з тых, якія з вайны не вярнуліся — у сціплых пінжачках, кепках, са значкамі «Варашылаўскі стралок», ГТО, ГСО на штрыфлях.

Касцюшка скончыў універсітэт і можа пацвердзіць, што ў ім працуе нямала цікавых людзей. Іх партрэты ёсць у вітрыне. Некаторыя з выкладчыкаў, чые лекцыі ён слухаў, жывуць у інтэрнаце па Маскоўскай, так што ён сёе-тое ведае нават пра бытавы, будзённы бок іх жыцця.

Безумоўна, выдатнай фігурай сярод выкладчыкаў з'яўляецца дацэнт Вігдароўскі, які чытае старажытнагрэчаскую, старажытнарымскую, а таксама сярэдневяковую літаратуру. Невысокага росту, танклявы, шчуплы, Вігдароўскі валодае гучным, добра пастаўленым голасам і нават некаторымі акторскімі якасцямі.

На Касцюшку, які пераступіў парог студэнцкай аўдыторыі ў першы мірны год і, што такое навучанне ва ўніверсітэце, не ведаў, Вігдароўскі зрабіў незвычайнае ўражанне. Можа, таму,

што гаварыў пра рэчы, дагэтуль Касцюшку невядомыя. Хоць і лічыў сябе начытаным студэнт-завочнік, але пра гігантаў старажытнай Элады Эсхіла, Сафокла, Эўрыпіда нават не чуў, меў самае цьмянае ўяўленне пра пісьменнікаў, якія пісалі на лацінскай мове — Лукрэцыя Кара, Петрарку, Авідзія.

Талент у Вігдароўскага відавочны: пра далёкія, даўно мінулыя часы расказвае, як пра сённяшні дзень, і не проста расказвае: спрачаецца з вучонымі, якія не так, як ён сам, глядзяць на старажытных пісьменнікаў, некаторых высмейвае, не надта лагодна абыходзіцца нават з вядомымі гістарычнымі асобамі. Жыве на лекцыях Вігдароўскі: смяецца, радуецца, сумуе, абураецца, заражаючы сваім настроем студэнтаў.

Вігдароўскі — штатны ўніверсітэцкі выкладчык, які прыехаў з Масквы ці Ленінграда і абсталяваўся ў Мінску. Але ёсць вучоныя, якія жывуць у Маскве, а ў Мінск толькі наязджаюць чытаць лекцыі. Адзін з такіх прафесар Бастун, які вядзе курсы рускай літаратуры першай і другой паловы дзевятнаццатага стагоддзя. Бастун і выглядам адметны: страшэнна тоўсты, караткагогі, з шырокім тварам і вялікай, нібы ў мядзведзя, галавой. Касцюмы Бастун носіць яшчэ шырэйшыя, чым ён сам: так што да яго можна дапасаваць выраз Гогаля, які штаны свайго героя параўноўвае з Чорным морам.

Бастун — бліскучы выкладчык. Мала сказаць, што ён дасканала валодае агромністым матэрыялам, які назапасіла руская літаратура мінулага стагоддзя, ні ў якія канспекты не зазірае, цытуе па памяці вершы і прозу Пушкіна, Лермантава, Гогаля, Тургенева, ён яшчэ мае сваё стаўленне да кожнага з пісьменнікаў і да іх літаратурных герояў. Бастун яўна аддае перавагу героям актыўнага дзеяння і не любіць летуценнікаў, ідэалістаў, рамантыкаў.

Паводзіны Лаўрэцкага з рамана Тургенева «Дваранскае гняздо», асабліва той момант, дзе ў невясёлым роздуме герой прыхінаецца да купчастай ліпы, абнімае яе, Бастун падаў так, што аўдыторыя гадзіну прарагатала.

Экзаменуе Бастун строга. Асабліва завочнікаў. Завочнае аддзяленне ён называе кароткатэрміновымі курсамі па сканчэнні ўніверсітэта, апраўдваючы гэтым сваю празмерную прыдзірлівасць на экзаменах.

Касцюшка ўдзячны лёсу, што здаваў экзамен Бастуну. Так здарылася, што, пакрывіўшы сумленнем, ён мог гэты экзамен і не здаваць. Прывабная, пышнавалосая аспірантка, якая экзаменавала завочнікаў па рускай літаратуры першай палавіны XIX стагоддзя, памылкова паставіла Касцюшку адзнаку і за другую палавіну.

Касцюшка пачаў ужо захапляцца філасофскімі прадметамі, і, як на шчасце, Бастун на экзамене даў яму пытанне па эстэтыцы Чарнышэўскага. Завочнік пераказаў слова ў слова, што гаварыў на гэтую тэму сам выкладчык. Бастун, відаць, рашыў, што студэнт вызубрыў канспект. Пачаў капаць глыбей. Адчуўшы, аднак, што студэнт сам настойліва раздумвае над не зусім яснымі пытаннямі, стараецца ў іх разабрацца, знайсці нейкія адказы, прафесар прыйшоў у незвычайнае захапленне. Не толькі перагартаў заліковую кніжку Касцюшкі, паставіў пяцёрку, пацікавіўся, як здае ён экзамены па астатніх прадметах, а стаў хваліць яго ва ўсіх аўдыторыях, куды прыходзіў чытаць лекцыі. Касцюшка пажынаў славу.

Пазней студэнты дакапаліся, што ў маладосці, у сярэдзіне дваццатых гадоў, прафесар Бастун сам рабіў памылкі, і нават немалыя. Услед за сваім настаўнікам, вядомым тэарэтыкам РАППа Пераверзевым, паўтараў, што змест у літаратуры справа другасная, на першым месцы стаяць вобразы і вобразнасць, разумеў мастацкі вобраз як голую ілюстрацыю класавага паходжання пісьменніка, ідэалогіі і палітыкі. Тое, аднак, было даўно, і з таго далёкага часу прафесар Бастун мог упаўне перакавацца. Ды і выкладчык ён выдатны. А што болей трэба?

Аспірант-географ Даніла Гулугай выдумлівае пра Бастуна неверагодныя гісторыі. Нібыта, каб сагнаць лішнюю вагу, стаў аднойчы пасціцца прафесар, дзень нічога не еў, але пад вечар не вытрымаў. Купіў адразу два кілаграмы каўбасы і дзве бутэлькі таннага яблычнага віна. Назаўтра раніцай зноў пайшоў па каўбасу...

Другая гісторыя (Гулугай прысягае, што бачыў усё на ўласныя вочы) датычыць паходу Бастуна ў гарадскую лазню. Заплаціў прафесар за ванну, гадзіну прасядзеў, чакаючы чаргі, а дачакаўшыся, і не мыўся, бо з-за сваёй таўшчыні не здолеў у ванне памясціцца…

Гулугаю язык не завяжаш.

Яшчэ адзін цікавы выкладчык жыве ў інтэрнаце па Маскоўскай — дацэнт Шулер. Аспіранты яго мала ведаюць, бо ва ўніверсітэце ён чытае лекцыі толькі завочнікам, пастаянна працуе ў педінстытуце. Цэлы месяц у апошняе перад экзаменамі лета Шулер чытаў філолагам саракагадзінны курс па гісторыі рускай мовы. Заняткі вяліся ў школе, якая рамантавалася: усюды гліна, вапна, сляды пабелкі. Але студэнты ахвотна штодзённа наведвалі гэтую школу, бо прапусціць лекцыю Шулера было проста грэшна. Ходзячы з кута ў кут, пакалыхваючы мажным станам, штохвілінна прычэсваючы рэдкія рудыя валосікі на амаль лысай галаве, Шулер тварыў цуд. Пра паходжанне беглых гукаў, ера, вялікага і малога юса расказваў, нібы пра падарожжа ў дзівосную, упершыню адкрытую краіну. Вось што азначае дасканалае веданне прадмета і закаханасць у навуку, якой чалавек прысвячае жыццё!

Біёлагі, у чыім корпусе наладжаны фотавітрыны і кніжная выстаўка, самі не ўдарылі тварам у гразь. Якраз да гэтага моманту прымеркавалі адкрыццё заалагічнага музея. Ён размешчан на другім і трэцім паверхах біякорпуса. Некаторыя са змешчаных у зашклёныя вітрыны экспанатаў выстаўлены проста на прасторных лесвічных пляцоўках. Экспанаты — нібы кавалкі жыцця прыроды: вось, падпільнаваўшы зайца, прагна ўпілася кіпцюрамі ў ягоную скуру сава; з хмызнякоў высоўвае драпежную морду воўк; ашчацініўшы спіну, рые зямлю лычам з магутнымі ікламі бадзяга дзік. Выстаўлены чучалы амаль усіх птушак, звяроў, якія водзяцца на Беларусі.

Шмат можна пабачыць у музеі. Не дарма ядуць хлеб біёлагі.

Прысвечаны юбілею ўрачысты сход адбываецца ў тэатры оперы і балета. Прамоў, віншаванняў шмат, а ўзнагарод малавата.

Нехта з аспірантаў пускае чутку: нібыта выклікалі рэктара наверх, пыталі, у чым адчувае ўніверсітэт асабліва вострую патрэбу.

— Неабходна паставіць трыццаць новых тэлефонаў,— нібыта адказаў рэктар.

Рэктар — сівы, лабаты дацэнт-грамадазнавец — сядзіць у цэнтры прэзідыума, паблісківаючы вялікімі, у рагавой аправе акулярамі. Сваю доўгую нудную прамову ён ужо зрабіў. Як вучоны рэктар нічым не вызначаецца. Як арганізатар — таксама. Адгарадзіўшыся сакратаркамі, спасылаючыся на занятасць, запіраецца ў сваім кабінеце, як у крэпасці, мала каго да сябе падпускаючы. На сходах выступае рэдка, гаворыць суха, нецікава, па паперцы.

Касцюшка памятае, як адзначалі дваццаціпяцігоддзе ўніверсітэта. Было гэта пяць гадоў назад. Стаялі закураныя, ледзь падлатаныя каробкі хімічнага і біялагічнага карпусоў. Болей-меней прыстойны выгляд на тэрыторыі ўніверсітэцкага гарадка меў толькі будынак фізмата, узведзены як памяшканне рэальнага вучылішча яшчэ ў мінулым стагоддзі. Яго масіўныя, метровай таўшчыні сцены вытрымалі выпрабаванні вайной: нямецкую і белапольскую акупацыі ў грамадзянскую вайну, яшчэ раз нямецкую — у Айчынную. Усе акупанты, пакідаючы горад, палілі яго, руйнавалі. Асабліва лютавалі гітлераўцы: вынішчылі Мінск дашчэнту. А вось будынак фізмата, у ліку вельмі нямногіх у горадзе, уцалеў.

У гэтым памяшканні, у невялікай, утульнай, з надзвычай высокай столлю зальцы выступаў перад студэнтамі Якуб Колас.

Тады як бы супалі два юбілеі: дваццаціпяцігадовы — універсітэта і саракагадовы — творчай дзейнасці вялікага паэта.

Яблыку не было дзе ўпасці: столькі набілася студэнтаў. Студэнты, выкладчыкі шчыльна сядзелі не толькі на лаўках, а і на сталах, падаконніках, стаялі, забіўшы ўсе праходы, вольныя прамежкі.

Касцюшка памятае свой тагачасны настрой: вайна скончылася, але жыць цяжка, надзвычай цяжка. Радасць цераз край не б’е. Хутчэй, наадварот.

Як бы ў пацвярджэнне ягоных думак гэта самае сказаў Якуб Колас. Выгляд меў стомлены, змізарнелы. Нагадаў пра руіны, рэзрух, нястачу, беднае студэнцкае жыццё. Памянуў жонку, якая год назад памёрла, нарэшце заявіў, што зайздросціць ім, студэнтам. Горад адбудуецца, сказаў, раны залечацца, а

студэнты валодаюць неацэнным дарам — маладосцю, будуць гаспадарамі новага цудоўнага жыцця.

Ціхім, слабым голасам паэт прачытаў верш і астатнюю частку вечара маўкліва прасядзеў, апусціўшы прыкрытыя набраклымі павекамі вочы ў дол.

Надрукавана замалёўка Касцюшкі. Называецца «Зазімак». Матэрыял змешчан на відным месцы: паўпадвальчыкам на трэцяй старонцы. Фактычна невялікі нарыс.

Шэсць гадоў друкуецца Касцюшка, але ўсё адно кожны новы матэрыял сустракае з хваляваннем. Тым болей, што замалёўка змешчана ў вядомай газеце, яе шмат хто можа прачытаць.

Не проста пісаў замалёўку Касцюшка. Ім ужо даўно валодае жаданне навучыцца перадаваць другім, даносіць да іх той настрой, пачуццё, якое ахоплівае яго самога ў апісаных абставінах і часе.

Ён дабіраўся да Ляскоў у снежную віхуру, моцна замёрз. У сельсавецкім пакоіку для прыезджых, як і наогул у вёсцы, яму было добра і ўтульна. Кіраўнікі ў калгасе, сельсавеце падабраліся добрыя, дбаюць пра гаспадарку.

Калі Касцюшка пісаў замалёўку, памятаў нават пра чорную змейку, жонку старшыні калгаса, якая гэтак закахана глядзіць на свайго абранніка.

Вядома, нічога гэтага ў замалёўцы няма. Ёсць толькі апавяданне пра тое, як у калгас прыехаў заатэхнік з раёна, каб замяніць таварыша, які захварэў і лёг у бальніцу. Нічога болей і не трэба, бо зусім ясна, што калгас далёка не апошні, калі адзін месяц не можа абысціся без такога спецыяліста, як заатэхнік.

Замалёўка неблагая. Але яшчэ не здолеў Касцюшка, няўдалы пісьменнік, перадаць настрой спакою, цішыні, якім спавіта вёска вечарам і з якім суладны шэрыя купы хатак, дрэў, сцяна сасонніку, перарваны, раскіданы ланцужок агнёў на сіне-цёмнай аснежанай прасторы.

Касцюшка даўно думае пра пісьменніцтва. Ён і ў газету працаваць пайшоў, і філалагічны факультэт скончыў, каб стаць бліжэй да гэтай справы. Ён назапашвае ў памяці словы, якія чым-небудзь падабаюцца, запамінае найбольш яркія

выразы, выслоўі, звароты. Праўдзівей, яны самі запамінаюцца, бо душа Касцюшкі заўсёды раскрыта насцеж для ўсялякіх, нават самых нязначных, уражанняў.

Ён ужо даўно адчувае, што словы ў мастацкім творы не проста стаяць адно каля другога, а ёсць нейкі іх парадак, дысцыпліна, нячутная музыка, якая іх аб'ядноўвае. Адкуль і чаму музыка? Касцюшка не ведае. Магчыма, з ідэі, зместу, настрою той ці іншай з'явы. Як у песні, бо песні бываюць розныя і ў залежнасці ад зместу па-рознаму пяюцца.

Іншы раз Касцюшку здаецца, што кожная часцінка зямлі, кожнае месца, нават кожны новы дзень маюць свой настрой і характар. Усё тое, што акаляе чалавека з малых год, вельмі шмат гаворыць ягонаму сэрцу. Пісьменнік павінен усё гэта адчуць, перадаць у слове.

Касцюшка пакуль што не пацвердзіў свае здагадкі практыкай. Дык, відаць, пішучы заметкі, карэспандэнцыі, нават нарысы, не вельмі пацвердзіш. Газета — не літаратура. Тым часам і ў сучаснай літаратуры шмат такога, што не хіліць да сябе сэрца.

Касцюшку здаецца, што некаторыя пісьменнікі, нават вядомыя, пішуць не пра тое жыццё, якое бачаць, якое ёсць навакол, а якое хочуць бачыць. Прыхарошваюць, прычэсваюць жыццё, выдумліваюць герояў.

Ён сам паспрабаваў напісаць па такой мерцы апавяданне і адразу спатыкнуўся.

Апавяданне называецца «Інтэрнацыянал». Доўга пісаў яго Касцюшка. Бясконца правіў, дабаўляў новыя сцэны, эпізоды. Нарэшце перадрукаваў на машынцы і адважыўся паказаць адказнаму сакратару газеты Барыскіну, які сам піша вершы і лічыцца ў рэдакцыі найбольш спрактыкаваным літаратарам.

Апавяданне Касцюшка выдумаў цалкам. Змест яго такі. Партызанскі атрад трапіў у нямецкае акружэнне. Два дні змагаўся, выдаткаваў патроны. Выйсця, здаецца, не існавала. Але ў апошні момант камісар зрабіў немагчымае. Заспяваў «Інтэрнацыянал», падняў партызан на апошні адчайны рывок. Спяваючы, ідучы на ворага ў поўны рост, партызаны нарэшце выбавіліся са смяротэльнага кальца.

Рудаваты, насмешлівы, дабрадушны Барыскін як ваенны журналіст прайшоў вайну, сяды-тады друкуецца не толькі

ў абласной, а і ў мінскіх газетах. Прачытаўшы апавяданне, паклікаў Касцюшку да сябе ў кабінет.

— Ты бачыў калі-небудзь такога камісара? — спытаў Барыскін.

Не, такога камісара Касцюшка не сустракаў. Камандзіры, нампаліты абодвух пяхотных палкоў, у якіх ён служыў, былі звычайныя людзі. Залішне звычайныя. Нават нельга ўявіць, што яны здольны на апісаныя ў апавяданні ўчынкі. Але, з другога боку, жыць нельга, не тое што пісаць, калі не кіравацца высокім, выключным, усім тым, што не часта ў жыцці здараецца...

Барыскін параіў апавяданне дапрацаваць. Але Касцюшка болей за яго не ўзяўся. З цягам часу зразумеў, што на выдумцы, няхай сабе прыгожай, моцны твор ён пакуль што напісаць не зможа. Рукапіс валяецца недзе ў паперах, і Касцюшка нават не робіць спробы яго адшукаць.

З лета сорак трэцяга года Касцюшка быў у баях, трапіў у суседні з Курскай дугой участак фронту, але калі ён марыць пра апавяданне ці аповесць, якія калі-небудзь напіша, то думкамі нязменна пераносіцца ў падпольнае, партызанскае асяроддзе. Колькі цікавых гісторый расказаў яму старэйшы брат Валодзя! Кожную з гэтых гісторый можна пакласці ў аснову апавядання ці нават аповесці.

На фронце тым часам справы былі звычайныя. Салдат выконваў, што загадваюць. Лёс наступлення, удалага бою, нават атакі вырашалі дзясяткі, сотні, нават тысячы людзей.

Раз у тыдзень сумесна з членам рэдкалегіі Касцюшка дзяжурыць па нумару: чытае, правіць яшчэ мокрыя газетныя палосы. Бывае, газета падпісваецца спачатку ў друк, затым у свет позняй ноччу, і тады ў інтэрнат ён з'яўляецца пад раніцу. У такія часіны яму нават лягчэй: безупынны клопат захоплівае цалкам, і ён амаль не думае пра Маргарыту.

Схільнасць да летуценнасці, да лунання ва ўяўным, выдуманым свеце, уласцівыя Касцюшку, цяпер не ўзнімаюць, не ўзвышаюць ягонага настрою, пачуццяў, а яшчэ болей прыгнятаюць іх. Маргарыту ён уяўляе цяпер толькі ў непрывабным святле: вось, крадучыся, нібы злодзей, стоячы за вуглом бальніцы, яна выглядае свайго Стахода, даганяе, кідаецца яму на шыю, прагна цалуе...

Гэтыя ўяўныя малюнкі прыносяць лішнія пакуты, але адначасова спрыяюць таму, што вобраз Маргарыты дзень за днём усё болей выпальваецца з душы.

Увогуле пасля суда, разводнай справы, якая з народнага пайшла ў абласны суд, Касцюшку як бы стала лягчэй. Маргарыта яму болей не жонка. Яна не можа, як раней, ганьбіць яго за ягонай спіной. Ён не хоча яе бачыць і не хутка пабачыць. Нават па выкліку суда не паедзе. Паспее з судом. Пра Маргарыту ён думае штохвілінна, абраза пячэ душу. Падсвядома ён чакае ад былой жонкі ліста, у якім яна чыстасардэчна пакаецца, папросіць даравацъ віну і ўсё забыць. Даруе ён ёй? Ён не ведае...

У другое дзяжурства Касцюшкі рэдакцыйная сакратарка кладзе перад ім на стол другую і трэцюю палосы газеты адразу. Дзяжурны чытае і вачам не верыць: праз усе дзве паласы цягнецца вялікі падвальны артыкул са шматзначным загалоўкам: «Аб адной блытанай і шкоднай кнізе».

Гаворка ў газетных падвалах ідзе пра кнігу прафесара Дуднікава «Матэрыя і мысленне». Пра таго самага Дуднікава, які столькі папсаваў крыві Касцюшку на дзяржаўных экзаменах. Вось, значыць, як бывае! Дуднікаў яшчэ ў сіле, яшчэ вырашае чалавечыя лёсы, літаратурныя справы, а меч над ім ужо занесен. Не ведае, небарака, што заўтра сам паляціць у прорву.

Першае пачуццё, якое агарнула Касцюшку,— жаль да Дуднікава. Жорстка падчас жыццё абыходзіцца з людзьмі. Спачатку ўзнімае на недасяжную вышыню, потым бязлітасна скідае ўніз. Нешта добрае ёсць у Дуднікаве. Ён не злапамятны, не носіць за пазухай камень, забывае крыўды. Калі што папросіш, ідзе насустрач. Зазнаўся, вядома. І моцна зазнаўся.

Касцюшка нават намерваецца пагаварыць з рэдактарам. Можа, варта пакуль адкласці артыкул, не друкаваць? Але зараз жа адкідвае свой намер. Рэдакцыйныя артыкулы памерам два газетныя падвалы так проста не пішуцца. Ідэя аб іх напісанні, надрукаванні выспявае не заўсёды ў сценах самой рэдакцыі...

## XIII

У навагодні вечар сыпле рэдкі, дробны сняжок. Трапляючы ў паласу святла ад вулічных ліхтароў, сняжынкі мітусяцца, нібы дробныя белыя матылькі. У розных кірунках крочаць па вуліцы парачкі, гаманлівыя групкі, нават адзінокія асобы спяшаюцца на свае навагоднія вечарынкі.

Вечарынка наладжана і ў рэдакцыі. Мужчыны з'явіліся ў новых касцюмах, пры гальштуках пад беласнежнымі каўнерыкамі сарочак, у бліскучых вастраносых туфлях. Але нават пры гэтым бляску жанчыны іх ушчэнт зацьмілі. Якіх толькі не ўбачыш на іх убораў! Сціплыя сакратаркі, стэнаграфісткі, машыністкі са сваімі новымі прычоскамі, далікатнымі, празрыстымі, лёгкімі, як дым, бальнымі сукенкамі, пышны ніз якіх цягнецца па падлозе, зусім не падобны на саміх сябе ў звычайныя буднія дні.

Нібы белыя чайкі, носяцца яны па доўгім рэдакцыйным калідоры, засцілаюць абрусамі сталы, расстаўляюць талеркі з закускамі.

Мужчыны тоўпяцца каля насценгазеты, спецыяльны навагодні нумар якой толькі што скончыла маляваць, друкаваць на машынцы рэдкалегія. Гэтых у большасці сваёй ужо не вельмі маладых людзей, якія выпускаюць адну з найбольш аўтарытэтных, паважаных у рэспубліцы газет, цяжка здзівіць самадзейным мастацтвам.

Штодзень, знемагаючы ад натугі, прыносіць паштальён у рэдакцыю шчыльна напакаваную канвертамі, бандэролямі сумку. У гэтых канвертах, бандэролях вершы, паэмы, апавяданні, нават пачаткі аповесцей, раманаў бясконцых аўтараў, якія загарэліся жаданнем паспрабаваць свае сілы ў літаратуры. Некаторыя аўтары вельмі нецярплівыя, прагнуць зараз жа ўбачыць свой твор надрукававым, абяцаючы ў адваротным выпадку скардзіцца ў самыя высокія інстанцыі.

Але не вельмі спалохаеш бітых газетных ваўкоў! Самадзейная літаратурная прадукцыя, нібы па канвееры, размяркоўваецца на дзве палавіны: аповесці, раманы з дадаткам літаратурных парад якога-небудзь пісьменніка адсылаюцца іх аўтарам, меншыя аб'ёмам творы, за выняткам вельмі

нямногіх, якія ўсё-такі знаходзяць месца на газетнай паласе, ідуць у рэдакцыйны архіў.

А вось цяпер загадчыкі аддзелаў, літсупрацоўнікі, чытаючы насценгазету, рагочуць. Кранулі іх зацятыя ў барацьбе з графаманамі сэрцы рэдакцыйныя пісьменнікі і мастакі. Вялікі, двухаршынны ліст насценгазеты спярэшчан малюнкамі і навагоднімі матэрыяламі. Малюнкі своеасаблівыя: твары герояў заметак, фельетонаў, вясёлых вершаваных чатырохрадкоўяў, так сказаць, рэальныя, бо выразаны з фатаграфій супрацоўнікаў газеты. Усё астатняе дамалявана.

Выключаючы рэдактара і яго намесніка, нікога не пашкадавалі рэдакцыйныя сатырыкі. Вось адказны сакратар газеты Віталій Багуцкі прадстаўлен у выглядзе жабрака, што сядзіць пад дзвярамі свайго кабінета з працягнутай рукой: «Можа, падорыце, ваша ягамосць, хоць адзін прыстойны загаловачак?»

Сам Багуцкі, высокі, плячысты, з вялікай кучаравай галавой, член Саюза пісьменнікаў, аўтар дзвюх п’ес, якія ідуць на сцэнах тэатраў, чытае разам з усімі насценгазету і бяскрыўдна пасміхаецца.

Непасрэдны Касцюшкаў начальнік, загадчык сельгасаддзела Ермалайчык, намаляваны бедным селянінам. Сее Ермалайчык з сявенькі збажыну, але ўсходы мізэрныя, рэдкія каласкі, ніцыя сцяблінкі. Ззаду з косамі стаяць сумныя супрацоўнікі аддзела: няма чаго рэдакцыйным аграрыям касіць.

Састаўлены са звычайных пісьмовых сталоў, агульны банкетны стол накрыт у самым вялікім пакоі рэдакцыі. Ён ледзь не ломіцца ад розных гатункаў мяса, рыбы, халадцу, вінегрэтаў, яблык, груш, вінаграду, розных фасонаў бутэлек з віном і гарэлкай. Тосты дасціпныя — вясёлыя, смешныя,— і ўпершыню за поўныя тугі, роспачы тыдні Касцюшка весялее душой. Навошта ён гэтак кідаецца ў адчай? Хіба на Маргарыце клінам сышоўся свет? З таго часу, як стала вядома, што Касцюшка разыходзіцца з жонкай, ловіць ён на сабе цікаўныя, дапытлівыя позіркі рэдакцыйных супрацоўніц, і нельга сказаць, што позіркі гэтыя зняважлівыя. Наадварот, у некаторых з іх свеціцца цеплыня і шчырая зацікаўленасць.

Наогул Касцюшка рад, што трапіў у рэдакцыю менавіта гэтай газеты. Норавы тут у вышэйшай ступені высакародныя.

Між супрацоўнікамі пануе добразычлівы настрой і нават дружба. Яны з'яднаны, згуртаваны гадамі сумеснай работы, стварылі добры клімат, традыцыі.

За сталом з левага боку ад Касцюшкі Саша Рагоўская, пляменніца загадчыка сельскагаспадарчага аддзела Ермалайчыка. Тыдзень назад начальнік Касцюшкі пазнаёміў яго са сваёй сваячкай: па нейкай патрэбе яна прыходзіла да дзядзькі ў рэдакцыю. Саша працуе інжынерам у праектным інстытуце, жыве з малодшай сястрой аж на ўскраіне горада.

Чымсьці Саша падабаецца Касцюшку. Прыгожай яе не назавеш: худзенькая, чарнявая, з густа засеяным вяснушкамі тварам. Упрыгожваюць Сашу вочы: цёмна-арэхавага колеру, яны здаюцца задуменнымі і глыбокімі, як азёры.

Саша клапоціцца пра суседа: падкладвае яму на талерку закуску, раз-пораз чокаецца чаркай, пранізліва зазірае ў вочы.

Пасля шматлікіх вясёлых тостаў захмялелыя супрацоўнікі рэдакцыі падымаюцца з-за стала, ідуць у суседні пакой, дзе стаіць упрыгожаная ёлка і дзе можна патанцаваць. Да позняй ночы ідзе сустрэча Новага года.

Пасля вечарынкі Касцюшка падахвочваецца праводзіць Сашу дамоў. Трамваі ў такі час не ходзяць, ды і жыве дзяўчына ў раёне, куды гарадскі транспарт яшчэ не сягае — на Грушаўцы.

Доўга ідзе Касцюшка са сваёй спадарожніцай. Калі лічыць ад Дома друку, то Сашына кватэра размешчана на процілеглым канцы горада. Цёмная, ахутаная светла-шэрым паўзмрокам Грушаўка прываблівае Касцюшку адразу. Гэта нават не вуліца, а цэлы пасёлак, які не вельмі адрозніваецца выглядам ад мястэчак, малых гарадкоў, да якіх прывык Касцюшка на Палессі. Тут рыпучы драўляны тратуар, густа засаджаныя садамі, дрэвамі двары, дамы, дамкі і хаціны пераважна драўлянай забудовы. Пеўні спяваюць і сабакі брэшуць на Грушаўцы. Ліхтароў тут няма, і, як у звычайнай вёсцы, можна глядзець на цёмнае неба, засланае воблакамі, у прагалах між якімі выбліскваюць рэдкія зоркі.

Спачатку Касцюшка расказвае пра сябе, потым — Саша. Пра свой узрост дзяўчына не гаворыць, але яна старэйшая за Сяргея гады на тры ці нават на чатыры. Вайна застала Сашу

ва ўральскім горадзе: там яна вучылася ў політэхнічным інстытуце. Замужам не была.

— Зойдзем да мяне,— гаворыць Саша, як толькі яны дасягаюць нізкага, падобнага на барак драўлянага катэджыка — такімі будынкамі застаўлен увесь пераважна драўляны канец Грушаўскай вуліцы.

Вось так проста: зойдзем, і ўсё. Сяргей нерашуча заходзіць. У Сашы невялічкі пакойчык, у якім ложак, стол, два крэслы. Яна жыве разам з сястрой, але сястры на гэты раз няма. Паехала на радзіму, на Аршаншчыну.

Сяргей мала ведае жанчын, любоўнымі ўцехамі, якія не вядуць ні да якіх абавязкаў, ён не захапляўся. Таму разгубіўся, застаўшыся адзін на адзін з Сашай у яе пакойчыку. Ды і ночы амаль не засталося: якія-небудзь дзве ці тры гадзіны.

Саша развітваецца з Касцюшкам даволі абыякава, як бы нават з нейкім расчараваннем. Гаворыць, што едзе ў камандзіроўку і цэлых два тыдні яе не будзе. А ён ужо светлым днём вяртаецца ў свой інтэрнат і нявесела думае, што яго сяброўка, відаць, увесь час жыве вось такімі выпадковымі, нервовымі сустрэчамі. А яму дзеля інтымных адносін трэба добра пазнаёміцца з жанчынай, многа пра яе ведаць, адчуваць, што хінецца яна да яго ўсёй душой. Перайсці такі парог не лёгка...

Кафедра літаратуры налічвае пяць-шэсць выкладчыкаў і некалькі аспірантаў.

За восень Касцюшка толькі аднойчы, калі зацвярджалі ягоны індывідуальны план, завітаў на кафедру. Трэба, аднак, бываць там часцей. Пра гэта выразна нагадвае Касцюшку загадчык кафедры прафесар Ерусалімчык, напаткаўшы яго на вуліцы.

Прафесар Ерусалімчык, навуковы кіраўнік Касцюшкі, чалавек відны. Не толькі становішчам, але і фігурай, паставай. Высокі, з вялікай, трохі выцягнутай галавой, якую ўпрыгожвае такая ж буйная, колеру пшанічнай саломы чупрына, медзведзяватай паходкай, яўнай добразычлівасцю, якую выпраменьвае яго вузкаваты твар, сінія, як васількі, вочы, ён запомніцца кожнаму, з кім бы ні спаткаўся. Прозвішчам Ерусалімчыка падпісваюцца шмат якія крытычныя артыкулы, што з’яўляюцца ў літаратурных часопісах. Яшчэ да вай-

ны пачало мільгаць гэтае прозвішча. Можна нават сказаць, што Ерусалімчык адзін з галоўных аўтарытэтаў па пытаннях літаратуры. Прытым як старажытнай, так і самай навейшай, пазначанай апошнімі гадамі.

У друку часта крытыкуюць Ерусалімчыка за памылкі, але колькасць артыкулаў ад гэтага не змяншаецца.

Тым часам студэнты не надта хваляць Ерусалімчыка. На экзаменах добры, лішне не прыдзіраецца, але чытае лекцыі сумна, нецікава, мухі дохнуць на ягоных лекцыях. Злосныя языкі плятуць пра скупасць зусім нябеднага прафесара, які роднаму брату, студэнту філфака, ніколі не дасць рубля.

Студэнтам можна верыць і не верыць. У самога бога знойдуць недахопы. Касцюшка, усё часцей сутыкаючыся з Ерусалімчыкам, не знаходзіць нават палавіны тых хібаў, якія яму прыпісваюць. Чалавек Ерусалімчык добры, нават абаяльны. Лекцыі сапраўды чытае не надта, затое да студэнтаў, аспірантаў ставіцца з выключнай прыхільнасцю. Ён шмат піша, не баіцца першы сказаць пра пісьменніка, творчасць якога другія крытыкі замоўчваюць.

Касцюшка рашае сур'ёзна заняцца навукай. Слабых мясцін у яго падрыхтоўцы хоць адбаўляй. І справа не ў пасобных пытаннях, якія ён, магчыма, горш, чым студэнты-стацыянарнікі, засвоіў, а ў чымсьці больш істотным.

У год сканчэння ўніверсітэта Касцюшка перажыў душэўны крызіс. Іначай ён не можа назваць той стан духу, які апанаваў яго мінулагодняй восенню і з якога ён марудна, хваравіта-пакутліва выходзіў.

Пачалося з дробязі. У восеньскі вечар ён сядзеў перад грубкай, глядзеў, як палаюць у ёй сухія бярозавыя дровы. З дзяцінства любіў ён вось гэтак сядзець, глядзець на агонь, чытаць кнігу і думаць. Іншы раз ён нават лямпу не запальваў.

На гэты раз ён чытаў газету. Нішто з міжнародных паведамленняў не радавала. Над светам як бы павісаў прывід трэцяй сусветнай вайны — атамнай. Выключна дрэнна развіваліся падзеі на карэйскім фронце. Амерыканскія войскі, высадзіўшы дэсант, імкліва захоплівалі Паўночную Карэю.

Назіраючы, як прагна языкі агню ліжуць дровы, Касцюшка раптам падумаў: што такое само па сабе вось гэтае полымя,

якое суправаджае ўсялякі працэс гарэння? Са школьных гадоў ён памятае: гарэнне ёсць бурнае акісленне рэчыва, злучэнне яго з кіслародам, выдзяленне цеплавой, светлавой энергіі, пераход рэчыва ў іншы стан. Ну, а сам агонь, полымя — што такое? Адказу ён не меў. А ў яго ж — універсітэцкі дыплом! Што ён тады наогул ведае, калі не можа вытлумачыць прыроду звычайных, простых рэчаў, вядомых чалавеку змалку?

Ён, вядома, стаміўся. За пяць пасляваенных гадоў не меў ніводнага месяца адпачынку. Ездзіў за кошт адпачынку на свае сесіі. Знясілены ўшчэнт не вельмі ўдалым ходам экзаменаў за ўніверсітэт, Касцюшка згубіў душэўную раўнавагу, стаўшы як бы мішэнню для мноства пытанняў, якія цэлым роем нараджаліся ў яго ўзбуджанай, хваравітай свядомасці.

Пытанні, на якія ён не мог даць адказу, узнікалі перад ім і раней. Напрыклад, пра бясконцасць матэрыі ў прасторы і часе. Ён шмат думаў над гэтым, другімі так званымі праклятымі пытаннямі, спадзеючыся калі-небудзь знайсці на іх адказ.

Але цяпер ягоны стомлены, перанапружаны мозг, у якім узбуджэнне яўна пераважала над тармажэннем, як бы патрабаваў неадкладнага вырашэння ўсіх супярэчлівых, нікім яшчэ не высветленых пытанняў, што стаяць перад чалавекам ад самых першых яго крокаў на гэтай зямлі. Што такое жыццё? Чаму яно зарадзілася ў далёкія, адсунутыя на мільёны гадоў назад эпохі і не зараджаецца ў новых формах цяпер? Увогуле, што такое матэрыя і па якіх законах з яе ўзнікае дух, у прыватнасці, чалавек са сваёй свядомасцю, імкненнямі, дапытлівым розумам?

Касцюшка пачаў баяцца ночы. Днём ён мог адцягнуць увагу ад надакучлівых пытанняў работай, бытавым клопатам. Ноч разгортвала іх зноў. Абліваючыся халодным потам, ён шукаў хоць якія-небудзь адказы на тое, на што адказу не было. Ён лічыў, што пачынае вар’яцець.

Маргарыта, пахрапваючы, спіць, ён ляжыць побач, ломіць галаву, каб вызначыць сэнс бясконцасці свету, і як можа адмаўляе бясконцасць, бо, на яго думку, у адваротным выпадку жыццё не будзе мець сэнсу. Калі свет бясконцы, то хіба знойдзеш у ім што-небудзь сталае, цвёрдае? Што значыць

у бясконцым свеце маленькая планета Зямля, а тым болей жыццё, якое на ёй узнікла? Жыццё з усёй яго гісторыяй, мастацтвам, наогул духоўным набыткам?..

Даўно праспявалі другія, трэція пеўні. Касцюшка ўсё не спіць. Нарэшце ён прыходзіць да высновы, што ў свеце ўсё ж ёсць сталы парадак. Сонца ўсходзіць і заходзіць на адным і тым жа месцы. Тысячы гадоў ззяюць у небе мірыяды зорак, і, ведаючы іх размяшчэнне, знаходзяць правільную дарогу мараходы і розныя падарожнікі. Пры бясконцасці, бязмежнасці свету наўрад ці дзейнічаў бы закон прыцягнення, усеагульны, усёмагутны закон, якому падпарадкоўваецца ўсё жывое і нежывое.

Супакоіўшыся, Касцюшка нарэшце засынае. Пад самую раніцу.

Нікому не можа расказаць Касцюшка, што з ім адбываецца. Нават Маргарыце. Яна яго проста не зразумее. Яна, вядома, бачыць, што ён не спіць, пакутуе, але, як заўсёды, яе гэта мала кранае.

Аднойчы Касцюшка застаецца начаваць у рэдакцыі і пра свае разумовыя згрызоты расказвае намесніку рэдактара Бакунчыку, з якім, нягледзячы на рознае службовае становішча, у даволі блізкіх адносінах. Бакунчык паходзіць з Оршы, да вайны вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, на фізічным факультэце, але ў канцы вайны, ужо служачы ў арміі, ажаніўся, і пра далейшую вучобу прыйшлося забыць.

Бакунчык разумны, разважлівы, але ў той жа час трохі верхагляд. Пісаць не ўмее, акрамя сумных перадавых, якія, відаць, патрошку перадзірае з другіх газет. Тым часам трымаецца на паверхні, камандуе, загадвае, крытыкуе другіх, і рэдактар з ім лічыцца. Лысы ў трыццаць пяць гадоў, з вузкім, маршчыністым тварам, на якім выдзяляецца вялікі, загнуты, нібы люлька, нос, Бакунчык мае надзвычай востры і спрытны язык. Сваім скрыпучым голасам, штохвілінна хіхікаючы, ён заўсёды пляце які-небудзь анекдот. З такой манеры паводзін намесніка рэдактара ніхто не здзіўляецца. Бо, як было сказана, галаву на плячах Бакунчык таксама мае, валодае ў дадатак адменным мастацкім густам, памяццю: гадзінамі можа дэкламаваць Блока, Ясеніна, Янку Купалу. У газетнай справе

добра кеміць намеснік рэдактара: адразу скажа, чаго не хапае ў нарысе, карэспандэнцыі.

Адна бяда: запівае намеснік рэдактара. Прыкладваецца да бутэлькі нават на рабоце. Папярэджанні, вымовы не дапамагаюць.

Дык вось Бакунчыку пра начныя з самім сабой дыскусіі адважыўся расказаць Касцюшка. Паспадзяваўся на ўзаемаразуменне.

Намеснік рэдактара з задавальненнем ашчэрыў жоўтыя конскія зубы:

— Хутка ты кусацца пачнеш! Будзеш гыркаць і гаўкаць.

Сказаў Бакунчык нібы жартам, але Касцюшка пакрыўдзіўся. Няма каму нават паскардзіцца. А што да Бакунчыка, то здзіўляцца не трэба. Хто ён? Недавучаны студэнт, таму, відаць, зайздросціць універсітэцкаму дыплому.

Выбавіўся Касцюшка з душэўнага заняпаду кнігамі. Прачытаў «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм» Леніна, «Анты-Дзюрынг», «Дыялектыку прыроды» Энгельса. Кнігі лепей, чым брашуры, падручнікі, дапаможнікі па філасофіі, якімі ён раней карыстаўся, даюць адказ на балючыя пытанні.

У кнізе Леніна Касцюшка адкрыў для сябе прывабны, захапляльны, магутны свет. Галоўнае: не адзін ён, няшчасны завочнік, перахварэў на хваробу, выкліканую недахопам ведаў у сучасным, які імкліва развіваецца і змяняецца, свеце.

Сутнасць матэрыі, яе ўзаемадзеянне з духоўным пачаткам, які з матэрыі нараджаецца, без яе не існуе, яшчэ не выяўлена, і аканчальна, можа, ніколі не будзе выяўлена.

Ленін знайшоў геніяльны адказ для вызначэння матэрыі. Яна — філасофская катэгорыя для вызначэння аб’ектыўнай рэальнасці, што існуе незалежна ад чалавечай свядомасці. Ніхто ніколі не абвергне гэтае вызначэнне.

Касцюшка, здаецца, асабіста разумее, чаму Ленін напісаў «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм». Іменна ў мёртвы, безвыходны час пасля паражэння першай рускай рэвалюцыі такая кніга была асабліва патрэбна. Усім: тэарэтыкам і практыкам.

Адносна ўзаемаадносін матэрыі і духу шэсць тысяч гадоў спрачаюцца філосафы. І колькі яшчэ будуць спрачацца? Па меры далейшага пранікнення фізікаў у таямніцы матэрыі

яна сапраўды як бы знікае, ператвараючыся ў розныя формы энергіі, распадаючыся на найдрабнейшыя, няўлоўныя з пункту гледжання цвёрдага рэчыва часцінкі, якія адначасова, як, напрыклад, святло, можна назваць хвалямі. Ленін прадбачыў: фізікі пойдуць яшчэ далей, адкінуць ранейшыя меркі, якімі матэрыя вызначалася як рэчыва, як нешта пэўнае ў фізічных якасцях. Дык вось вам: матэрыя — філасофская катэгорыя для вызначэння аб’ектыўнай, незалежнай ад нашай свядомасці рэальнасці. І ўсё. Такое вызначэнне не пахіснуць ніякія новыя адкрыцці.

Але чаму Ленін гэтак настойліва аддзяляе матэрыю ад свядомасці, гэтак зацята ваюе за сцвярджэнне аб’ектыўнага існавання навакольнага свету? Чалавек — частка прыроды і сам прырода. Ісціна бясспрэчная. Але для Леніна, вялікага рэвалюцыянера, гэта, відаць, і палітычнае пытанне. Пасля паражэння рэвалюцыі, калі захісталіся ўсе ранейшыя ўяўленні, трэба было даць адназначныя грунтоўныя адказы на сутнасць падзей. У тым ліку філасофскія адказы. Бо ўсялякае паражэнне скідае з п’едэстала ранейшых багоў, старую веру, інакш кажучы, ідэалогію і палітыку.

У тых, што яднаюць матэрыю і дух, навакольны свет можа вынікаць толькі з суб’ектыўнай свядомасці. Ні аб якой аб’ектыўнай рэальнасці яго існавання не можа быць гаворкі. Значыць, і аб рэвалюцыі не можа ісці гаворка, аб строгіх, няўхільных жалезных законах, якія абумоўліваюць яе прыбліжэнне...

Касцюшка задаволен, што з усёй сур’ёзнасцю адолеў «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм». Ён як бы нават ганарыцца, што ў нейкай меры перахварэў на тую самую хваробу, што славутыя фізікі, людзі з імёнамі. Хіба тое, што ён перажыў, перапакутаваў, не назавеш крызісам ведаў? Скончыў універсітэт і спалохаўся, што нічога не ведае.

Цяпер агонь у грубцы Касцюшку не спалохае. Полымя — плазма, накшталт той, сонечнай. Але плазма плазмай, а найбольш думае Касцюшка пра літаратуру. Мастацкі твор нараджаецца талентам. Таленавіты пісьменнік не толькі змест адчувае, а і форму. Можна звычайна расказаць займальную, страшную, смешную гісторыю, і яна не будзе асабліва

ўражваць. А вось возьмецца за гісторыю пісьменнік, і здарыцца цуд.

Значыць, у форме сэнс мастацтва? Так, у форме, якую трэба надаць пэўнаму зместу. Без зместу няма формы. І наадварот. Бо калі не ўмееш пісаць, не можаш па-мастацку вызначыць тое, што маеш у душы, сэрцы, загубіш самую выдатную тэму. Нязграбна напісанае апавяданне, аповесць выклікае толькі злосць.

Дык вось у той час, калі ён займаўся высокімі матэрыямі, Маргарыта шукала іншай уцехі. Хоць, можа, таксама прагнула суладнасці, прыгажосці? На свой манер. Да каго папала не пайшла. Маргарыціны кавалеры, якіх ведае Касцюшка і аб якіх здагадваецца, мужчыны, на знешні выгляд, ніштаватыя. Вызначаюцца галоўным чынам добрым здароўем і бесклапотнасцю.

У гэтым месцы Касцюшкавы разважанні пераходзяць у пачуцці. Не, не можа ён прызнаць, што яго сапернік Віктар Стаход лепшы за яго. Ніколі, нізавошта не прызнае!..

## XIV

Нарэшце вярнулася з камандзіроўкі Саша. Ён прыйшоў да яе, адразу адчуўшы: чакала яго. У новым пярэстым халаціку, накінутым на сінюю блузку, пасвяжэлая, пажвавелая за камандзіроўку, яна падабаецца Сяргею нават больш, чым на навагоднім вечары. Тоненькая, далікатная, гнуткая яшчарка.

Сяргей прынёс бутэльку віна, каробку цукерак. Саша ставіць на стол два ці тры невялікія графінчыкі з настойкамі, талерку з марынаванымі баравічкамі, з нарэзаным тонкімі скрылікамі вясковым салам. Гаспадыня Саша адменная. Мае прыпасы, умее аздобіць стол.

Сяргей застаецца начаваць. Выправаджваючы яго пад раніцу з пакоя, Саша хінецца да яго, горача шэпча на вуха:

— Не разумею, чаму твая жонка пайшла да другога. Мабыць, ненармальная. Ты да яе не варочайся. Слухай, ніколі не варочайся!..

Ужо ў дзвярах, папраўляючы на шыі Касцюшкі шарф, гулліва пацепваючы пад пярэстым халацікам худымі, вузкімі плячамі, Саша як бы нават скардзіцца:

— Хоць гадзіну пасплю. А то буду носам кляваць на рабоце. Прыходзь перад выхадным. Каб назаўтра выспацца.

Жаночае прызнанне Касцюшка атрымлівае. Дрэнна ва ўсёй гэтай гісторыі адно. Як толькі Сяргей завітаў да Сашы, яе сястра, таўставатая, круглатварая дзяўчынка гадоў пятнаццаці, узяла пасцель, якая ляжала згорнутая на канапцы, падалася за фанерную перагародку да суседкі. Што думае гэта дзяўчынка пра сваю сястру, пра яго самога, нікчэмнага начнога кавалера?..

Заняткі ў аспірантаў два разы на тыдзень: па філасофіі і замежнай мове. Лекцыі па дыялектычным і гістарычным матэрыялізме чытае дацэнт Кацюшын, невысокі, круглатвары мужчына гадоў сарака. Становішча Кацюшына высокае: кіруе навукова-даследчым інстытутам, з'яўляецца членам-карэспандэнтам Акадэміі навук. Тым часам лекцыі яго не надта выдатныя, нічога новага ў параўнанні з універсітэцкім курсам не даюць. Ды і чытае сумна, сухімі штампаванымі фразамі, раз-пораз зазіраючы ў парудзелы канспект.

Як чалавек Кацюшын, аднак, неблагі. Мяккі характарам, памяркоўны. Аспірантаў не прыціскае, не робячы вывадаў з таго, ходзіць хто на ягоныя лекцыі ці не.

Па замежнай мове навучанне адмысловае. Лекцый няма. Замест іх аспіранты ходзяць на кансультацыі і здаюць знакі. Знакі — літары, коскі, працяжнікі, усё тое, з чаго складаецца замежны тэкст. За месяц трэба здаць тысяч дваццаць — трыццаць знакаў, гэта значыць перакласці некалькі старонак тэксту.

Сівая, з грубаватым маршчыністым тварам выкладчыца нямецкай мовы — прозвішча яе Снядэцкая — выдзяляе Касцюшку для перакладу раман Генрыха Мана «Der Untertan» («Вернападданы»). Тэкст цяжкі, складаны, запасу слоў па нямецкай мове, якім валодае Касцюшка, каб чытаць раман, не хапае.

Выйсце ён знаходзіць такое. Бярэ ў бібліятэцы пераклад «Вернападданага» на рускую мову, чытае рускі і нямецкі тэкст адначасова, запамінае незнаёмыя словы, выразы. Затым ідзе здаваць знакі. Вядома, гэта не самы лепшы шлях вывучэння замежнай мовы, але па-другому Касцюшка не можа. Не стае часу.

Апошнія тры-чатыры месяцы вайны і амаль год пасля вайны Касцюшка служыў у Германіі, у ваеннай камендатуры. Там меў магчымасць чытаць розныя нямецкія паперы, сутыкацца з жывымі немцамі. Нямецкай мовай ён авалодаў настолькі, што там, у Германіі, амаль без слоўніка чытаў нямецкія кнігі. Асабліва зацята ён накінуўся на Кнута Гамсуна, невядомага для сябе нарвежскага пісьменніка, якога адкрыў, лечачыся ў шпіталі. Гамсун выдатна піша: лірычна, мякка, усхвалявана.

У Германіі Касцюшка спецыяльна заняўся нямецкай мовай, яшчэ раз уважліва прачытаў граматыку, якую заўсёды насіў у сумцы. Штодзённа сустракаючыся з людзьмі, ён нават стаў размаўляць па-нямецку. Цяпер фактычна забывае мову. Ён яшчэ здолеў зрабіць пярэпалах сярод аспірантаў на ўступных экзаменах, на гадзіну раней астатніх здаўшы выкладчыцы свой пераклад з часопіса «Новое время», але калі прызнавацца сабе самому, то веды па нямецкай мове не набывае, а губляе.

Аспіранты розных спецыяльнасцей у першы год навучання займаюцца разам. Іх ва ўніверсітэце чалавек трыццаць. Палавіна — дзяўчаты. Харошыя, сімпатычныя дзяўчаты, толькі вось хлопцы, занятыя кнігамі, экзаменамі, мала на іх звяртаюць увагі.

Аспіранткі збіраюцца наладзіць вечарынку. Новы год мінуў, але хіба мала іншых святочных дат? Прыбліжаецца дзень Савецкай Арміі, якраз мужчынскае свята. І ў гэты дзень вырашана сабрацца на кватэры Аліны Зямцовай, ціхмянай, худзенькай аспіранткі-хімічкі, з вялікімі, як бы здзіўлена-спалоханымі сінімі вачамі.

Сярод аспірантак выдзяляюцца тры, якія асабліва завіхаюцца дзеля вечарынкі. Надзя Мурамцава, дзюбаценькая, з прыемнымі вяснушкамі на вузкім твары, займаецца на кафедры філасофіі. Яе можна было б нават лічыць сімпатычнай, каб не бялеса-сінія, нерухомыя, як у барана, вочы і доўгая жылістая шыя.

Затое астатнія аспіранткі — Нэля Сілівончык і Тэна Гурунц — яўна заслугоўваюць мужчынскай увагі. Нэля з кафедры мовы, бадай, найбольш прыгожая і зграбная. Яна гараджанка, мінчанка, на чысты лоб спадае пасмачка русявых

валасоў, шэрыя хітраватыя вочы пастаянна праменяцца смехам. Паклоннікаў Нэля сабе знойдзе, у гэтым няма сумнення, а вось аб тым, ці высветліць хоць адно пытанне з мноства тых, якія ў беларускім мовазнаўстве чакаюць вырашэння, трэба яшчэ моцна падумаць.

Тэна Гурунц — высокая, тоненькая, стройная, як таполя, з маленькім, чарнявым, нібы вытачаным тварыкам, відаць, армянка па паходжанні. Яна старэйшая за астатніх дзяўчат. Займаецца на кафедры фізіялогіі раслін. Нібы адбітак самоты, перажытага гора застыў у цёмных вачах Тэны. Адкуль гэты сум? Хто ведае. Можа, каханы загінуў на вайне, можа, іншая прычына.

Аспіранткі, якія вучацца разам з Касцюшкам, дзяўчаты не вельмі маладыя, выключаючы хіба Нэлю Сілівончык. Дзесяцігодкі паканчалі да вайны, па пяць гадоў аддалі вучобе ва ўніверсітэце. Так ці інакш закранула аспірантак сваім чорным крылом вайна.

Вечарынка не надта вясёлая. Усе з розных кафедраў, факультэтаў. Знаёмы між сабой мала. Застолле таксама асабліва не зблізіла. Выпілі, паспявалі, патанцавалі пад патэфон.

Ёсць штосьці шчымліва-сумнае, журботнае ў малюнку такога вось зборышча не зусім маладога веку хлапцоў і дзяўчат. Першае каханне, незабыўнае, прамяністае, якое абпальвае маладое сэрца яшчэ ў школе ці інстытуце, даўно мінула. Няўжо ў гэтых аспірантаў, аспірантак, як і ў Касцюшкі, яно паблякла, згарэла, пакінуўшы ў душы горыч і расчараванне?

Ва ўніверсітэцкіх аспірантаў, аспірантак было пяць гадоў стацыянарнай вучобы. Хто ведае, чаму яны засталіся адзінокія. Бо калі хлопец мае сяброўку, а дзяўчына кавалера, на халасцяцкую вечарынку яны не пойдуць.

## XV

Пасля месяца-двух разгубленасці Маргарыта пакрысе супакойваецца, прыходзіць да раўнавагі. Што ў яе жыцці здарылася? Нічога асаблівага, калі мець на ўвазе, што мужа яна не любіла і замуж пайшла без ахвоты. Дзяўчатам трэба выходзіць замуж. Пайшла і яна. Вядома, Сяргей ёй не брыдкі.

Яна нават ганарылася, што ён прыгожы, асабліва з твару, што на яго, зайздросцячы ёй, заглядваюцца другія жанчыны. Яшчэ ў ім падабалася, што не дробязны, аддае свае заработкі, не дапытваючыся, як і на што яна іх траціць. Заметкі, нарысы, якія ён друкаваў у газеце, яна ставіла не высока, а вось ягоным почыркам перад медсёстрамі пахвалялася: літарка ў літарку глядзіцца ім напісанае. Па яе просьбе Сяргей перапісваў для яе графік дзяжурстваў, і лісток з графікам яна насіла з сабой заўсёды.

Так, ён добры, прыгожы, разумны. Аднак яна не любіць яго. Нават прыхільнасці не адчувае. Ні разу з мужам не перажыла яна, не адчула таго, што з Віктарам, з Аркадзем, якія па-сапраўднаму падабаліся. Мужчына павінен несці ў сабе загадку, тайну, схаваную сілу, якую жанчына ловіць нутром, страшыцца і цягнецца да яе. Сяргей залішне ясны, звычайны, часамі разгублены і слабы. Пра што думае, тое гаворыць. Не, такія мужчыны ёй ніколі не падабаліся...

Праўда, сёе-тое ў характары Сяргея Маргарыту ў апошні час бянтэжыць. Ніколі яна не думала, што ён пакажа цвёрдасць, упартасць. Зацяўся, і не сагнуць. У глыбіні душы Маргарыта спадзявалася, што Сяргей даруе любую яе віну, бо любіць яе, мае сям'ю, якую не адважыцца разбурыць.

Маргарыта не лічыць, што зрабіла што-небудзь асабліва дрэннае. Усе так жывуць. То муж сагрэшыць, то жонка, то, помсцячы адно другому, абое кідаюцца ў любошчы, аднак жа жывуць, сем'і не рушаць.

З дзяцінства глядзіць Маргарыта на пабочныя любоўныя ўцехі як на рэчы звычайныя. Часамі ёй здаецца, што, жэнячыся, выходзячы замуж, людзі наўмысна прытвараюцца, пускаюць у вочы пыл другім людзям, каб адгарадзіцца прыдуманай заслонай сям'і, а далей жыць, як хочацца і як прыйдзецца.

Бацька Маргарыты старэй за маці на дзесяць гадоў, і, відаць, помнячы гэта, маці мела каханкаў. Нават ад дачкі не надта таілася. Апошнім яе абраннікам быў загадчык райздрава Магілеўчык, высокі, руды, насаты яўрэй, даволі брыдкі з твару. Ён заўсёды прыязджаў, калі бацька прымаў хворых. Маці шкварыла яечню, ставіла на стол графінчык гарэлкі, потым ішла з насатым у спальню, замыкаючыся на ключ.

Прыходзіў бацька, і пачастунак працягваўся. Як бы нічога такога не здарылася. За сталом размаўлялі, смяяліся, часамі нават трохі спявалі. Як пры звычайным застоллі, калі ў дом прыходзіць госць.

Ці здагадваўся бацька, што маці вядзе амуры з насатым Магілеўчыкам? Мабыць, здагадваўся. Але выгляду не падаваў. Тым болей, што Магілеўчык як загадчык райздрава меў сілу. У хуткім часе бацьку, аднаго з усіх медработнікаў раёна, узнагародзілі ордэнам «Знак пашаны». У перадваенны час гэта была вялікая ўзнагарода.

Ва ўсёй гэтай гісторыі Маргарыту абражала адно: матчын каханак залішне брыдкі з твару. Сама яна ніколі б такога не пацалавала. Яшчэ дзівілася Маргарыта, што маці, звычайна лянівая, сонная, азызлая і распаўнелая ад бясконцага ляжання на канапе, у справах кахання выяўляла незвычайны спрыт.

Пасля народнага суда, які не прымірыў Сяргея і Маргарыту, а справу аб скасаванні іхняга шлюбу паслаў на далейшы разгляд у суд абласны, Маргарыта ўсё болей пераконваецца, што спачуванне ўрачоў, медсясцёр, наогул знаёмых местачкоўцаў на яе баку. Гэта радуе, прыдае сілы.

Першай падае Маргарыце руку дапамогі Ізольда Апанасаўна. Заклікаўшы яе да сябе ў кабінет, галоўны ўрач дае сякія-такія абяцанні: перавядзе з цягам часу на больш высокую стаўку, выдзеліць вясной сотак дзесяць — пятнаццаць пад бульбу.

Маргарыта разумее захады Ізольды Апанасаўны. Пасля саладжава-прыгожанькага фельчара, які збег ад сваёй стараватай палавіны ў невядомым кірунку, Ізольда Апанасаўна тварам у гразь не ўдарыла, здолела сябе рэабілітаваць. У суседнім з мястэчкам пасёлку аўдавеў дырэктар саўгаса. І вось года не прайшло, як гэты дырэктар, высачэнны, дужы, пузаты мужчына гадоў пад пяцьдзясят, зрабіўся мужам Ізольды Апанасаўны. Трэцім па ліку. Месца знайшлося. Стаў былы дырэктар саўгаса загадваць падсобнай гаспадаркай бальніцы.

Даказала Ізольда Апанасаўна: стаіць на цвёрдым грунце. Не пахіснеш ніякімі нечаканасцямі. Тым болей, што новы муж адразу пачаў будаваць для сям'і дом. Не дом — палац. Будзе ў ім восем ці нават дзевяць пакояў.

Зусім зразумела: разводная справа Маргарыты не свеціць Ізольдзе Апанасаўне. Кідае цень на бальніцу, нават на яе самую. Што гэта за бальніца, якія ў ёй урачы, медсёстры, калі паводзяць сябе чорт ведае як?

Ізольда Апанасаўна размовы пра Маргарыту, Віктара Стахода стараецца прыглушыць. Выдумка, глупства — тлумачыць, каму можа. Муж Маргарыты завёў у Мінску каханку, ды, можа, яшчэ з кватэрай, таму валіць з хворай галавы на здаровую.

Стахода Ізольда Апанасаўна ўладкоўвае загадчыкам фельчарска-акушэрскага пункта ў вёсцы, размешчанай за восем кіламетраў ад мястэчка. Падалей ад размоў. Намякае яму: высылка будзе нядоўгай. На год, самае большае на два. Як толькі патухне пажар, ён вернецца ў раённую бальніцу.

Высылка Віктара Стахода балюча б’е па Маргарыце. Яна ўсё-такі мела на яго надзею. Можа, таму так легкадумна ва ўсім прызналася мужу. Яна тады і такі ход падзей дапускала: чым горш, тым лепей. Калі ад яе адвернецца муж, то і Віктара можа пакінуць жонка. Яму тады застанецца адно: прыхінуцца да яе. Дый не яна першая пачынала іх адносіны. Хіба ён не дамагаўся яе, прытым з такой настойлівасцю, якая паказвае, што яна яму па-сапраўднаму падабаецца?

Тым часам нядаўні каханак не праяўляе да Маргарыты ніякай прыхільнасці. Ненарокам сустрэўшыся, адварочваецца ці робіць выгляд, што не заўважае.

Да Віктара прыязджала жонка — яна яшчэ вучыцца ў інстытуце, і да яе нейкім чынам дайшлі чуткі пра паводзіны мужа. Але на развод студэнтка не падала, і што вынікла між ёй і Віктарам, Маргарыта не ведае.

Пасля суда Маргарыта перабіраецца на прыватную кватэру. Сына адвозіць да бацькоў у Міхалавічы. Як і раней, ходзіць у бальніцу, на дзённыя і начныя дзяжурствы, толькі цяпер з другога канца мястэчка.

Большасць людзей, якіх Маргарыта ведае, раяць ёй ні ў якім выпадку не саступаць Сяргею, не каяцца ў памылках. Гэтак яе зняважыў! Калі нават што было, то ўсё адно не мае права гэтак зневажаць маці свайго сына. Хіба такі святы сам?

Маргарыта слухае гэтыя суцяшальныя размовы ахвотна. Яны як бы ствараюць грунт яе невінаватасці, незаслужанай

крыўды, абразы. Усё болей поўніцца яна злосцю на Сяргея. Ну, памылілася, спатыкнулася. Хіба сама яму пра ўсё не расказала? Хацела прыхінуцца да Сяргея як да абаронцы, свайго выратавальніка, які развяжа ўсе вузлы, супярэчнасці, а ён раструбіў пра яе памылку на ўвесь свет. Каму яна такая цяпер патрэбна? Разводніца!..

Думкі блытаюцца, мітусяцца. Настрой Маргарыты мяняецца ледзь не кожнай гадзіны. Іншы раз хочацца, каб вярнуўся да яе Сяргей. Дзесяць гадоў любіў! У канцы вайны яна сышлася з Аркадзем Вярбілам, занятая думкамі аб ім, Сяргею амаль не пісала, але ён ад яе не адступіўся. Не адрокся! Рознае пра яе гаварылі і тады. Папярэджвалі. Ён сам перадаваў. Але калі чалавек любіць, то ні на што не глядзіць.

У адносінах з Сяргеем Маргарыта ніколі першая не ішла на прымірэнне. Яна і цяпер будзе так трымацца. Калі знаёмыя асцярожна спраўляюцца пра Сяргея, Маргарыта з выклікам адказвае: «На каленях будзе поўзаць. Прасіць і маліць. А я яшчэ падумаю...»

Мінае месяц, другі.

Сяргей тым часам не падае аб сабе ніякага знаку. Маргарыта атрымлівае позву з абласнога суда: разбор справы аб скасаванні шлюбу прызначан на канец студзеня. Са злосцю, лютасцю выбіраецца Маргарыта ў надпрыпяцкі горад. Яна выкрые, зганьбіць, змяшае з зямлёй свайго нарачонага, а разводу не дасць! Не, яна яму так лёгка рукі не развяжа. Не на тую натрапіў! Прыкідваецца нявінным анёлам, Божай авечкай, а на самай справе двурушнік і хлус. Нягоднік! Як і ягоная маці, якая віжавала за кожным яе крокам, а потым нашэптвала на вуха любімаму сынку...

У абласным горадзе, у цемнаватай зале абласнога суда, са сценак якога не толькі вісяць шкуматамі абдзёртыя шпалеры, а месцамі і тынк адвальваецца, злосць Маргарыты пакрысе спадае. Сяргей па выкліку не з’явіўся.

Суд пераносяць яшчэ на месяц.

Яна і другі раз, у самым канцы зімы, паехала ў горад, ужо нават хочучы пабачыць Сяргея, такога ўпартага і як бы зусім ёй незнаёмага.

Ён не прыехаў і на гэты раз.

Маргарыта не ведае, што рабіць. Ні адна з яе надзей не спраўджваецца.

Мястэчка тым часам паступова забывае гісторыю, што прыключылася з Маргарытай і новым урачом, які, прыехаўшы ў бальніцу, у першы месяц работы з галавой рынуўся ў вір кахання. З урача нават патроху пасміхаюцца: слабы той воўк, што цягае авечак з вёскі, побач з якой мае логвішча. Доктар, называецца! Столькі жанчын прыходзяць на прыём. Не мог знайсці сярод іх разводку ці ўдаву? Колькі хочаш такіх. Ніякага гуку не было б...

Чым далей, тым брыдчэй паводзіць сябе Віктар у адносінах да Маргарыты. Час ад часу паяўляючыся ў мястэчку, ён у першую чаргу запыняе Сяргеевых знаёмых. Спадзяецца, відаць, што перададуць ягоныя словы па адрасу, таму валіць на Маргарыту мох і балота. Маўляў, сама павісла на шыі, і каб яго не было, павісла б на другім. Апраўдваецца, цюцька.

Але на паклон да Сяргея Маргарыта ўсё адно не пойдзе. Ні за што на свеце! Ніколі не дачакаецца ён такога ад яе прыніжэння.

Бацькі падтрымліваюць Маргарыту. Вядомыя ў раёне людзі, заслужаныя дактары, яны абураны тым, што іхнюю дачку зняважыў сын звычайнага стрэлачніка. Нават незамужняя сястра, маўклівая, з бяльмом на воку, што вучыцца ў тэхнікуме ў Запарожжы і акалічнасцей справы не ведае, раіць Маргарыце не здавацца. «Трымай хвост моркаўкай і не саступай мужу»,— піша ў лісце.

Час ідзе. Ніхто Маргарыце не прапаноўвае ні рукі, ні сэрца.

Усё выразней, глыбей адчувае Маргарыта адзіноту. Цяжэй за ўсё ноччу: ніхто не скажа ласкавага слова, не прытуліць, не пагладзіць.

У бальніцы з нагоды свят — Дня Савецкай Арміі, Міжнароднага жаночага дня — наладжваюцца вечарынкі ў складчыну. Жанчыны прыходзяць на іх з мужамі. Мужчыны ахвотна танцуюць з Маргарытай, гавораць ёй кампліменты. Жанчыны кідаюць на яе ў такія хвіліны зняважлівыя, поўныя нянавісці позіркі.

Першым здаецца бацька. У адзін з сумных зімовых прыездаў Маргарыты ў Міхалавічы падсаджваецца да яе, гладзіць

па галаве. «Калі хочаш жыць як чалавек, дачка, едзь у Мінск,— гаворыць.— Прасі, каб Сяргей дараваў. Будзе бацька твайму сыну. Павініцца павінна ты. Лепшага, чым Сяргей, не знойдзеш. Такім мужам можна ганарыцца, а ты чорт ведае чым займалася...»

Аднак умешваецца маці. «Як яна паедзе? Калі той дурань заўпарціцца, што тады? Людзі пальцамі будуць паказваць...»

Ніколі яшчэ Маргарыта не бачыла такім узрушаным бацьку. Пабялеў з твару, вочы загарэліся шалёным агнём. Маларослы, выпетраны, як цявіна, з нейкай незвычайнай сілай ён аберуч хапіў распоўзлую, азызлую маці, кінуў, як шчэпку, на канапу. «Ты вінавата,— сказаў на дзіва спакойна.— Маці павінна навучаць дачок, а чаму ты навучыла? Вадзіла ў дом гэтага Магілеўчыка, другіх. Думала: вельмі ты пранěклівая і я нічога не бачу. Усё бачыў. Дык траіх дзяцей як было кінуць? Цягнуў ярмо. Ты мне за ўсё жыццё сарочкі не памыла, гузіка не прышыла. Дачка хацела, як ты, пражыць...»

Бацька, грукнуўшы дзвярамі, выскачыў з дому.

Але бацька ёсць бацька. Пад вечар ён аціх, супакоіўся і ўжо болей не настойваў, каб Маргарыта ехала ў Мінск.

З гнеўнай бацькавай прамовы Маргарыта зразумела адно: Сяргей мае абавязкі перад сынам. Значыць, пакуль не адбыўся суд, трэба дзейнічаць.

Маргарыта ідзе ў райкам партыі да першага сакратара Журавенкі.

Чорны, як жук, круглы, шустры Журавенка прымае яе ветліва. Аднак, уважліва выслухаўшы, нічога добрага не абяцае:

— Ваш муж зняўся з партыйнага ўліку. Разглядаць яго персанальную справу не можам. Дый не было падстаў разглядаць. Па нашых звестках, вы з новым урачом, якога перавялі ў Дуброву, знаходзіліся ў любоўнай сувязі. Трэба было і вам думаць пра сына...

Даведзеная да адчаю маўчаннем Сяргея, стоенымі насмешкамі, двухсэнсоўным становішчам, Маргарыта праз месяц другі раз ідзе да Журавенкі. На гэты раз яго тон яшчэ болей рашучы.

— Ніхто не будзе караць камуніста, калі жонка яму здраджвае,— заяўляе.— Хопіць, што вы яго пакаралі. Райкам не мае

сігналаў наконт амаральных паводзін вашага мужа. Астатняе — справа суда...

Ратунку няма. Ніхто не збіраецца вяртаць Сяргея ў сям’ю да сына. Маргарыта вырашае напісаць яму ліст.

Пісьмо піша ад імя сына. Змест яна даўно склала ў галаве. «Дарагі татачка, маці зрабіла памылку, пакрыўдзіла цябе. Я тут ні пры чым. Таму, прашу цябе, татачка, мяне не кідай...»

Маргарыта чакае адказу з нецярпеннем. Раней абыякава ставілася да лістоў, якія пісаў ёй Сяргей. Цяпер хвалюецца. Нават дні лічыць.

Нарэшце на імя Маргарыты прыходзіць грашовы перавод. На бланку перавода ні слова ад Сяргея.

Яна рашае, што дастаткова пацярпела, адпакутавала. Мала за восень, зіму перанесла абразы, знявагі, насмешак, мала пабалела яе сэрца? Віктар адвярнуўся, Сяргей не хоча пісаць... Многа пра сябе думаюць. Пражыве яна і без іх! На яе век мужчын хопіць.

Маргарыта кватаруе ў хаце, дзе кватаравала, калі канчала дзесяцігодку. Хата належыць дзвюм сёстрам-настаўніцам — Марыі Захараўне і Зінаідзе Захараўне Варанецкім — праўдзівей, іх старэнькай маці. Марыя Захараўна незамужняя, Зінаіда нядаўна выйшла замуж, прыняла прымака, разведзенага механіка, які працуе ў МТС. Шустры, сімпатычны механік даўно кідае на Маргарыту прыязныя позіркі. Да апошняга часу яна на гэтыя позіркі не адказвала. Цяпер падумае...

Сёстры-настаўніцы, на думку Маргарыты, як жанчыны вельмі няўдалыя. Марыя Захараўна — вялікага росту, з шырокімі мужчынскімі плячамі, ходзіць, высока падымаючы ногі, як салдат у страі. Зінаіда Захараўна яшчэ горшая. Росту яна звычайнага і фігурай ніштаватая, але галава нібы прылеплена да тулава: шыі няма, і з твару вельмі брыдкая. Не ад харошага жыцця ажаніўся механік з Зінаідай Захараўнай: развёўся з жонкай і не было дзе ў мястэчку прыткнуцца.

У адзін з тых зімовых вечароў Марыя Захараўна і Зінаіда Захараўна затрымаліся ў школе. Механік — яго, як на смех, завуць таксама Віктарам — калупаўся ў радыёпрыёмніку. Маргарыта накінула на плечы паліто, выйшла на двор. Адразу ўслед за ёй выскачыў механік. Ён знайшоў яе за ха-

тай, прыхінуў да сябе, стаў ліхаманкава цалаваць. Яна не працівілася.

— Прашу цябе: будзь асцярожны,— шапнула, адчуваючы, як ахоплівае цела прыемная стома.— Навучыся сябе трымаць. Ты ж не хочаш, каб мяне адсюль выгналі...

## XVI

У інтэрнат на Маскоўскай перасяляюць аспірантаў з Нямігі, Віцебскай. Збіраюць у адно месца. Цяпер па цемнаватым калідоры з папкамі, партфелямі пахаджваюць бывалыя хлопцы, некаторыя з якіх ва ўніверсітэце пачалі вучыцца яшчэ да вайны, прайшлі па яе крывавых дарогах і засталіся жывыя. Яны паспелі здаць экзамены кандыдацкага мінімуму, напісалі або заканчваюць напісанне дысертацый. Некалькі выпадкаў абароны кандыдацкіх дысертацый ужо адбылося.

Ёсць перамены ў Касцюшкавым пакоі. Жэня Гуль, які спецыялізуецца па дыялектычным матэрыялізме, пераводзіцца на завочнае навучанне. Дзве акалічнасці абумовілі такое ягонае рашэнне: па-першае, Гуль жэніцца, па-другое, яму прапаноўваюць пасаду дырэктара школы, якая размешчана недалёка ад Мінска. Узрушаны, радасны Гуль прыносіць дзве паўлітэркі, круг каўбасы, частуе таварышаў, затым, падхапіўшы свой абшарпаны, напалавіну пусты чамадан, без асаблівай скрухі пакідае аспіранцкі пакой.

Пазней пачынаецца незвычайнае. Гулева месца ў пакоі займае маскоўскі аспірант, фактычна Касцюшкаў зямляк Майсей Каваль. Высокі, чорны, трохі прыгорблены, новы жылец смела заходзіць у памяшканне, стрымана вітаецца і, не назваўшы сябе, пытае, які ложак свабодны.

Касцюшка, вядома, адразу пазнае Майсея, старэйшага сына пуцейскага майстра Каваля, які пасля вайны выехаў з іхняга мястэчка ў суседні чыгуначны гарадок. Пазнае і нават трохі страшыцца: як пойдзе іхняе сумеснае жыццё? Майсей, як і ў далёкія гады дзяцінства, як бы нясе на вузкім, з жорсткім паглядам бялеса-сініх вачэй твары зацятасць і ганарлівую пагарду да навакольнага.

Касцюшка рашае з дружбай да Майсея не навязвацца. Тым болей, што асабіста яны амаль не знаёмы. Калі Касцюшка

вучыўся ў пятым ці шостым класе, старэйшы Каваль быў у дзявятым, пахаджваў з рослымі, як дубы, выпускнікамі дзесяцігодкі і на такую драбязу, як Сяргей, не звяртаў увагі. Але ён быў заўзяты кніжнік, і на гэтым грунце сякое-такое знаёмства ў Сяргея з ім было: шнырачы па местачковых бібліятэках, ён часта заставаў там высокага, няскладнага хлопца, які поркаўся ў расстаўленых па полках кнігах. З Мішам, братам Майсея, сяброўскім, шчырым хлопцам, нават з твару прыгажэйшым за старэйшага Каваля, Сяргей вучыўся ў адным класе.

Скончыўшы перад вайной дзесяцігодку, Майсей паступіў у Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры. Назва інстытута нават палохала Касцюшку сваёй шматзначнасцю і высокім гучаннем.

Майсей правучыўся ў Маскве год. У саракавым годзе, калі ў інстытутах увялі плату за навучанне, а стыпендыю давалі толькі выдатнікам, ён дамоў не вярнуўся. Альбо добра вучыўся, альбо ў майстра хапала капіталаў, каб трымаць сына ў Маскве.

Прыехаў ён да бацькі, калі пачалася вайна, ды так і застраў на станцыі. Ад старэйшага брата Валодзі Касцюшка ведае: у акупацыі разам з малодшым братам працаваў Майсей у рамонтнай брыгадзе, ездзіў разам з гэтай брыгадай на чыгуначную ветку, якая вяла на Хвойнае: пасля асабліва ўдалых партызанскіх налётаў яе трэба было рамантаваць, вызваляць ад жалезнага лому. Маскоўскі студэнт стараўся не выдзяляцца, насіў завэдзганую спяцоўку з сіняй парусіны і асаблівай цікавасці да сябе не выклікаў.

Але далей здарылася неверагоднае. У канцы сорак другога года ветку на Хвойнае пераходзіў са сваім войскам Каўпак. Рамонтную брыгаду, якая ў гэты час на ветцы працавала, каўпакаўцы з ходу захапілі і маладзейшых рамонтнікаў улілі ў сваё войска: ім былі патрэбны спецыялісты.

Так Майсей і ягоны брат Міша сталі каўпакаўцамі, удзельнічалі ў славутым паходзе на Карпаты, аж да нафтавых радовішч Пярэмышля і Драгобыча дайшлі. Недзе там загінуў Міша. Майсей шчасліва вярнуўся з Карпат у самым канцы вайны. Зноў стаў вучыцца ў Маскве.

Пра яго гаварылі: скончыў Маскоўскі ўніверсітэт, стаў вялікім чалавекам. І вось вялікі чалавек вынырнуў з невядомасці ў інтэрнаце на Маскоўскай, выклікаўшы ў Касцюшкі супярэчлівыя пачуцці.

Акрамя туга напакаванага жоўтага партфеля, у Майсея няма ніякіх рэчаў. З першай хвіліны ён паводзіць сябе дзіўна. Зняўшы і паклаўшы на ложак даўгаватае, з чорным каракулевым каўняром паліто, ён бярэ тумбачку, якая стаіць у галавах ложка, аберуч трымаючы перад сабой, выносіць у калідор. Там, грукаючы ў фанерныя сценкі, выбівае з тумбачкі рэшткі Гулевага дабра.

Справа з тумбачкай на гэтым не скончана. Здабыўшы ў каменданта малаток, Майсей прыладжвае прабойчык, зашчэпку, каб льга было тумбачку замыкаць. Намочаным ручніком старанна працірае яе, засцілае палічкі газетамі. Нарэшце выкладвае з тоўстага партфеля прынесеныя рэчы, па парадку размяшчаючы іх у тумбачцы.

Нічога асаблівага ў маскоўскага аспіранта няма: мыла, зубная шчотка, шклянка, кубак. Але вось выцягнуты з партфеля некалькі ёмістых, з завязанымі тасёмкамі папак, якія Майсей кладзе на самы ніз тумбачкі. Ясна: гэта ягоная дысертацыя і ён не хоча, каб хто-небудзь торкаў у яе нос.

Павесіўшы на тумбачку маленькі бліскучы замочак, Майсей замыкае сваё дабро, а ключык хавае ў кашалёк. Затым ён перасцілае ложак, вешае ва ўмураванай у сценку шафе паліто, і толькі тады пачынае знаёмства з астатнімі аспірантамі:

— Кавалёў,— называе сябе Майсей, па чарзе паціскаючы рукі Казюку, Мардасаву і Касцюшку, якія на той час сядзяць у пакоі.

Вось так, значыцца: з Каваля Майсей вырабіўся на Кавалёва.

Касцюшку Майсей пазнае.

— Мы з табой амаль землякі,— кідае коратка.— Ты якога года навучання?

— Першага.

— Я, брат, трэцяга. Праўдзівей, чацвёртага. Даўно трэба было б канчаць гэтую бурсу, а я ўсё вучуся. Канца не відна.

Расказваць пра сябе падрабязней Майсей не хоча. Распранаецца, кладзецца на ложак і, адвярнуўшыся да сцяны, хутка засынае.

Паспаўшы і са сну памыўшыся, Касцюшку Майсей сёетое пра сябе расказвае. Ён пераверўся ў Мінск, бо напісаў дысертацыю пра партызанскі рух. Хоча апрабіраваць яе тут, у партызанскай рэспубліцы.

Былы масквіч тоіцца, шмат чаго недагаворвае, але нават з яго скупых, цьмяных намёкаў Касцюшка разумее: дрэнна ў Майсея з жонкай. Яе бацька не то прафесар, не то нават акадэмік. Тым часам муж не можа абараніць нават кандыдацкую дысертацыю.

Назаўтра Майсей прыносіць даволі абшарпаны чамадан. Не адчыняючы, запіхвае яго пад ложак. Так ён робіцца жыльцом пакоя. Як і ўсе астатнія, раніцай устае, п’е чай, укінуўшы ў жоўты партфель адну ці дзве папкі, знікае да вечара.

Пра сябе лішняга па-ранейшаму не гаворыць. У другіх таксама ні аб чым не дапытваецца.

Зіма снежная. Шумяць вятры, намятаючы за доўгія ночы гурбы снегу на гарадскіх вуліцах. Дворнікі, расчышчаючы праходы і падыходы да дамоў і двароў, пачынаюць шоргаць сваімі драўлянымі лапатамі з поўначы.

Касцюшка раз у тыдзень, а то і часцей, завітвае на Грушаўку. З Сашай у яго роўныя, дружалюбныя адносіны. Яна мяккая, далікатная, хіліцца да яго як жанчына. Добрая была б жонка, каб ён здолеў яе палюбіць. Але Саша пра сябе нічога не расказвае, як бы начыста адразаючы ад Касцюшкі сваё папярэдняе жыццё. А ён іменна на гэтым памешан. Яму здаецца, што жанчына, якая захоча стаць яго жонкай, выкладзецца як на споведзі, сальецца з ім у адну нераздзельную істоту. Ён таксама раскрыецца перад ёй да дробязей. З гэтай жанчынай у яго будуць аднолькавыя думкі, жаданні, сяганні...

Пасля таго, як Касцюшка стаў хадзіць да Сашы, боль у душы сцішыўся, прытух. Але ўсё адно ён думае пра Маргарыту. Саша гэта адчувае, іншы раз нервуецца: «Ты не павінен вяртацца да той нікчэмнай медсястры,— гаворыць яму.— Яна табе не жонка. Звычайная мярзотніца. Ні адна прыстойная жанчына ад такога, як ты, не пойдзе...»

Кафедра літаратуры — гэта перш за ўсё яе загадчык Іван Давыдавіч Ерусалімчык. Адразу пасля вайны ён стаў прафесарам. Ні доктарскай, ні нават кандыдацкай дысертацыі Іван Давыдавіч не абараняў, званне яму прысвоілі за, так сказаць, сумарны ўклад у навуку. Ходзяць чуткі, што Ерусалімчык пабойваецца за свой высокі тытул, бо некалькім такім, як ён, прафесарам прапанавалі абараняць дысертацыі і вучоных званняў пазбавілі.

Але, калі строга разбірацца, Івану Давыдавічу баяцца нечага. Ён аўтар шматлікіх артыкулаў, брашур, яго імя значыцца сярод аўтараў падручнікаў, праграм па літаратуры, укладальнікаў хрэстаматый.

Акрамя Ерусалімчыка, на кафедры кандыдаты навук Касянкоў і Шыбуртовіч, два саракагадовыя, невысокага росту мужчыны, чымсьці нават знешне падобныя адзін да другога, яшчэ два-тры маладыя выкладчыкі і некалькі аспірантаў.

Памятаючы наказ Ерусалімчыка, Касцюшка прыходзіць на пасяджэнне кафедры. Тым болей, што на ім намечана абмеркаванне дысертацыі маладой выкладчыцы Гаварушкі. Тэма ў Гаварушкі цікавая: «Ідэі і характары паэмы Якуба Коласа “Сымон-музыка”».

З беларускіх пісьменнікаў Касцюшка, бадай, найбольш любіць Якуба Коласа і сам не супраць узяць тэму дысертацыі па яго творчасці.

Сорамна прызнацца, але «Сымона-музыку», як і «Палескія аповесці» Якуба Коласа, Касцюшка прачытаў толькі пасля вайны. У перадваенны час гэтыя кнігі немагчыма было дастаць ні ў адной з мястэчковых бібліятэк. Іх, відаць, рэдка і невялікімі тыражамі выдавалі, а попыт быў агромністы.

Касцюшка не проста прачытаў, а, можна сказаць, праглынуў гэтыя нячытаныя кнігі, як толькі ўбачыў у бібліятэцы першае пасляваеннае выданне ў шэрай, не вельмі выразнай вокладцы. Яны яго зачаравалі. Чым? Так проста не адкажаш.

Даўно цягнецца Касцюшка да пісьменнікаў, кніг, у якіх жыццё паказваецца не аднalінейна, не толькі ў бытавой сваёй плыні, а паўстае як бы ахутаным загадкавай таямнічасцю, прывабнымі, яшчэ не даследаванымі чалавечым розумам далямі. У кожным добрым творы ёсць недагаворанасць,

шматзначнасць карцін, малюнкаў, якія надаюць чароўнасць, фантастычнасць напісанаму.

Паэма «Сымон-музыка» з ліку такіх вось твораў. Рамантычна прыўзнятая, падобная на казку, яна поўная філасофскай задуменнасці, разваг пра сэнс, загадкі жыцця. Хоць па стылю надзвычай празрыстая, лірычная, лёгка, з захапленнем чытаецца.

Гаварушка — маладая, чарнявая, сімпатычная выкладчыца, завяршыла апошні раздзел дысертацыі і цяпер дакладвае аб яе змесце на кафедры. Тое, аб чым гаворыць, для Касцюшкі навізны не мае. Пра Якуба Коласа пасля вайны пішуць шмат, і Гаварушка не выбіваецца з пракладзенай другімі крытыкамі агульнай каляіны.

Іншы раз Гаварушка нават папракае Якуба Коласа за недастатковую сацыяльную актыўнасць героя паэмы, няспеласць ягоных сацыяльных, палітычных поглядаў. Як бы погляды можна набыць, купіць на базары, нібы вопратку.

Хвароба часу. Касцюшка адчувае: пры такім разглядзе мастацкага твора многае ў ім агрубляецца, губляецца. Твор бачыцца як ілюстрацыя да гісторыі, і толькі з гэтага боку ацэньваецца яго вартасць.

Літаратура, вядома, не можа не адлюстроўваць гістарычнага, сацыяльнага бегу часу. Але час гэты, змест мусяць выяўляць непаўторныя чалавечыя характары, духоўныя сяганні герояў, багаты, шматфарбны свет, які акружае чалавека. Літаратура — перш за ўсё паэтычнае бачанне свету. Таму важна не толькі тое, пра што расказвае пісьменнік, а і тое, як ён расказвае.

Тым болей нельга з такімі меркамі падыходзіць да паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка». Бо твор гэты пра самыя вытокі мастацтва, пра загадкавасць, неразгаданасць свету, жыцця, нават пра тое, што мастацтва само па сабе з’яўляецца загадкай.

Ніводнага слова пра ўсё гэта Гаварушка не сказала. Яна кончыла даклад і даволі спакойным позіркам абвяла зальку, у якой сядзяць знаёмыя загадчык кафедры, кандыдаты навук, выкладчыкі, аспіранты. Памяшканне кабінета літаратуры, у якім адбываецца пасяджэнне кафедры, даволі ўтульнае:

некалькі сталоў, пастаўленых у два рады, два акны, шкафы з кнігамі ля сцен, паўзверх іх партрэты вядомых пісьменнікаў.

Па ўсім відаць: прафесар Ерусалімчык загадзя ўхваліў дысертацыю Гаварушкі, і цяпер застаецца падвесці вынікі абгаварэння, рэкамендаваць дысертацыю да абароны, аформіўшы ўсё гэта пратаколам.

— Пытанні ёсць? — пытае прафесар Ерусалімчык.

Пытанняў няма.

Выступаюць кандыдаты навук: спачатку Касянкоў, затым Шыбуртовіч. Гавораць не шмат, у цэлым ухваляюць дысертацыю, робячы Гаварушцы па адной-дзве бяскрыўдныя заўвагі.

Зноў наступае цішыня.

— Запісвайце ў пратакол,— просіць прафесар Ерусалімчык, звяртаючыся да чарнявай, даволі прыгожай сакратаркі.— Будзем падводзіць вынікі.

У гэты момант падымае руку Касцюшка.

— Давайце,— дазваляе прафесар.

Касцюшка, калі яму прыходзіцца выступаць, стараецца гаварыць памяркоўна. Ён навучыўся гэтаму за час сваёй працы ў газеце. Лягчэй за ўсё бяздоказна адмаўляць, адвяргаць. Ён, вядома, пісаў і наскрозь крытычныя матэрыялы, у тым ліку фельетоны, якія без згушчэння фарбаў наогул немагчыма напісаць. Але то фельетоны.

Тым не меней дысертацыю калегі Касцюшка крытыкуе залішне жорстка. Можа, згрызоты асабістага жыцця паўплывалі на яго гэтае выступленне, на сам тон гаворкі, бо нічога не сказаўшы пра вартасць работы, ён адразу накідваецца на яе недахопы. А можа, проста набалела Касцюшку: ён любіць літаратуру, шмат думае пра яе і стараецца выказаць гэтае перадуманае і набалелае.

Паэма Якуба Коласа дае ключ для разумення таго, як узнікае мастацтва, гаворыць Касцюшка, што такое яно наогул. Паводле Коласа, мастацтва — адкрыццё свету. Кожны новы твор мусіць адкрываць у жыцці новае, неразгаданае. Мастак робіць адкрыцці самастойна, бо ўражанні, вобразы ён чэрпае непасрэдна з жыцця, а не з тэорый, вычытаных з кніг. Другая справа, што тэорыя дапамагае мастаку лепей арыентавацца ў жыцці, у безлічы разнастайных, супярэчлівых фактаў, з'яў.

Далей Касцюшка ўжо адкрыта крытыкуе дысертацыю калегі.

«Сымон-музыка» — твор філасофскі, рамантычны, напісаны мовай метафары, алегорыі. Дысертантцы трэба першнаперш уважліва прачытаць паэму, выявіць усё багацце яе філасофскага зместу, улічыць жанравую прыроду. Нельга пра паэму пісаць як пра твор рэалістычны і нават бытавы, бачыць у вобразах-сімвалах псіхалагічныя характары. Работу трэба грунтоўна перапрацаваць.

Кандыдаты навук Касянкоў і Шыбуртовіч нават раты параскрывалі ад здзіўлення і нечаканасці.

Прафесар Ерусалімчык дапытлівым позіркам абводзіць зальку.

— Запішыце крытычныя заўвагі аспіранта Касцюшкі,— загадвае сакратарцы.— Сярод іх ёсць слушныя думкі.

У заключным слове па дысертацыі Гаварушкі прафесар самым сур’ёзным чынам улічвае заўвагі дагэтуль нікому не вядомага аспіранта.

Гаварушка, з аднаго боку, крыўдзіцца на Касцюшку. З другога — як бы нават трохі яму ўдзячна. Адчувае, відаць, што над дысертацыяй папрацаваць яшчэ трэба і што рабоце, якую афіцыйныя апаненты будуць чытаць і крытыкаваць, гэта пойдзе толькі на карысць.

— Пабачым, як сам будзеш абараняцца,— не вельмі злосна гаворыць Гаварушка.— Думаеш, у цябе недахопаў не будзе?

Кандыдаты навук Касянкоў, Шыбуртовіч паціскаюць Касцюшку руку, віншуючы з удалым выступленнем.

— Не памыліўся я, што адкапаў цябе ў палескіх балотах! — выгуквае прафесар Ерусалімчык.— Смелыя думкі выказваеш.

На хвіліну задумаўшыся, прафесар пытае:

— Ты часам не трапляў у вёску Міхалавічы? Яна ад Дняпра кіламетраў трыццаць.

— Трапляў. Добра яе ведаю,— Касцюшка здзіўлен і ўзрушан.

— Доўгая такая, раскіданая. На пяску стаіць?

— На пяску.

Пераканаўшыся, што і ён, і аспірант гавораць пра тыя самыя Міхалавічы, прафесар прыходзіць у незвычайнае захапленне:

— Браток ты мой! Нездарма, відаць, мы з табой сутыкнуліся. Я ў Міхалавічах пачынаў работу. У дваццаць трэцім годзе. Пасля культасветных курсаў паслалі загадваць хатай-чытальняй. Ну і дзюра гэтыя твае Міхалавічы. Ледзь уцёк адтуль...

## XVII

Калі грымнула рэвалюцыя, Івану Ерусалімчыку было дзесяць гадоў. У іх раскіданай, з дзвюма перакрыжаванымі вуліцамі вёсцы, размешчанай на пясчанай няўдобіцы, памешчыка ці якога-небудзь прыкметнага буржуя не знайшлося, а самыя багатыя людзі — пайшчыкі паравога млына, уладальнік ваўначоскі, сядзелец з манапалькі — прывязалі да лацканаў пінжакоў чырвоныя банты і таксама стаялі на вуліцы, насупраць манапалькі, з мураванага ганка якой прамаўляў прысланы з Гомеля камісар у выцертай, шараватага колеру скуранай тужурцы. Камісар быў худы, няголены, з запалымі чорнымі шчокамі, але гаварыў зычна, прыгожа, кідаючы ў натоўп важкія словы:

— Далоў памешчыкаў і капіталістаў! Фабрыкі і заводы — рабочым, зямля — сялянам! Няхай жыве свабода!..

Вяскоўцы гучна білі ў далоні, некаторыя нават плакалі.

Івану дужа падабаліся хмельныя дні, бясконцыя сходы, зборышчы, якія захліснулі іхнюю Рагазоўку. Вёска была глухая, лясная, яе абмінула чыгунка, нават бальшак, але, паколькі не так далёка знаходзіўся Гомель і нават Магілёў, навіны сюды даляталі хутка.

У Магілёве бальшавікі скінулі царскага галоўнакамандуючага Духоніна, а ў Быхаве, куды Іван разам з бацькам аднойчы ездзіў прадаваць сплеценыя з ліпавага лыка лапці, у хмурай, складзенай з чырвонай цэглы будыніне турмы сядзелі пад замком царскія генералы.

Бальшавікоў Іван уяўляў агромністымі людзьмі-асілкамі, якія нічога не баяцца і ўсё могуць зрабіць. Тым часам

у Рагазоўку з'явіўся ўласны бальшавік, матрос Цярэшка Кашавараў.

Цярэшка, які прыехаў з Петраграда, насіў чорны бушлат, паласатую цяльняшку, бесказырку са стужкамі, трохі расчараваў Івана. Ён быў нізкага росту, камлюкаваты, з някідкім, пабітым воспаю тварам, на якім выдзяляўся вострый, нібы спіца, нос.

Цярэшка адзін толькі раз выступіў перад мужыкамі, астатні час бавіў з прыгожай пападзянкай, возячы яе на рысорнай таратайцы.

Ён мала пакрасаваўся з паповай дачкой: у суседніх паветах успыхнуў мяцеж Доўбар-Мусніцкага, насоўваліся немцы, і ён зноў рушыў на вайну.

На час Іванавага дзяцінства, юнацтва выпала імперыялістычная, затым грамадзянская вайна, шмат перамен, пераваротаў, таму вучыцца яму прыйшлося мала. Школа размяшчалася ў іхняй хаце, у другой палавіне.

Да рэвалюцыі заняткі вёў поп на пару з Іванавым бацькам: школа называлася царкоўнапрыходскай; а пасля рэвалюцыі — адзін Іванаў бацька. Сапраўдным настаўнікам ён не быў: араў, касіў, вазіў з лесу дровы, як і астатнія мужыкі. Але ў свой час скончыў гарадское вучылішча, лічыўся ў Рагазоўцы грамацеем, за кожнага вучня, па пастанове вясковага сходу, атрымліваў пуд жыта ў год.

Пасля школы, якая размяшчалася ў бацькавай хаце, Іван фактычна нідзе не вучыўся. То немцы прыходзілі, затым уцякалі з Гомеля, то белы афіцэр Стракапытаў падняў мяцеж, то белапалякі прыбліжаліся.

Тым часам рэвалюцыя раскатурхала, разбудзіла сяло. Сходы, зборышчы як пачаліся ў сямнаццатым годзе, так і не спыніліся ўсе гады, пакуль Іван падрастаў. Сходы заканчваліся танцамі. Вясёлы, з рыпам гармоніка, гулкім грукатам бубна, тлум падабаўся Івану болей, чым надакучлівыя, бясконцыя спрэчкі пра зямлю і парадак, гаспадаранне без паноў і памешчыкаў. Ён рана навучыўся выдыбаць полькі, вальсы, пакручвацца каля дзяўчат.

Жыццё нарэшце выкіравала на мірную каляіну: па пуцёўцы валаснога камітэта камсамола Іван паехаў у Гомель на

культасветныя курсы. Вучыўся там шэсць месяцаў. Пасля курсаў агітпрап акругі паслаў яго загадваць хатай-чытальняй у Міхалавічы.

На першым часе Міхалавічы Івану нават спадабаліся. Шырокая, узгоркаватая раўніна лашчыла вока мяккімі танамі краявідаў, асабліва прывабных у асеннюю, багатую колерамі і фарбамі, пару. Раўніна нібы ў карункавым вянку лесу: з паўночнага і паўднёвага боку — сасновага, з захаду — змешанага, лісцвянага. У паўднёвым напрамку, адразу за вясковымі агародамі, пачынаецца разлеглы балотны прастор з бясконцымі круглымі купамі лазнякоў на даляглядзе. Доўгая, з адной вуліцы вёска таксама спадабалася: хаты хоць і няроўнай, не надта прыгожай забудовы, але амаль усе новыя, вуліца шырокая, як бы спецыяльна распланаваная.

Іван Ерусалімчык — хлопец вясёлы, добразычлівы. Час, які супаў з яго маладымі гадамі, таксама вясёлы. Паўгода, праведзеныя ў Гомелі, праляцелі як у ружовым сне. Слухачы культасветных курсаў, разам са студэнтамі ляснога і педагагічнага тэхнікумаў, рабфака, кожнага тыдня наладжвалі сходы, дыспуты, якія заканчваліся танцамі, шэсцем па вуліцах са спевамі, музыкай духавога аркестра, кастрамі на стромкіх берагах Сожа.

Востра ў тыя авеяныя подыхам рэвалюцыі дні абмяркоўвалася пытанне: будзе каханне вольным, як птушка, незалежным ад дробязнага мяшчанскага разліку ці зноў, як пры старым рэжыме, замкнецца ў межах аднастайна-нуднага, будзённага сямейнага побыту.

Іван стаяў за свабоднае каханне. Ён ужо меў кароткую, часовую сувязь з некалькімі дзяўчатамі, жанчынамі, і такі парадак рэчаў яму дужа падабаўся. Наперадзе як бы вынікала прывабная, іскрыста-радасная любоўная бясконцасць. Кожная жанчына — адметны, асобны, не падобны на іншы свет. Раней ханы ды розныя шахі збіралі, трымалі гарэмы, валодаючы імі аднаасобна. Цяпер кожны працоўны чалавек мае права на шчасце, радасць, асалоду, на тое, каб смакаваць жыццё ў самых разнастайных варунках і праявах.

Жыццё ў Міхалавічах тым часам ідзе не вельмі цікава. Вёска раз'яднаная, бо складаецца з адных перасяленцаў.

Перад Першай сусветнай вайной царская казна пачала прадаваць пясчаныя, неўрадлівыя, нікім не заселеныя землі. Вось так на пясчанай выспе ўзніклі Міхалавічы. Сюды прыехалі людзі з розных валасцей, акруг суседняй Украіны.

Пясчаная няўдобіца корміць слаба. Ні адзін двор не можа намалаціць столькі хлеба, каб яго хапіла на ўвесь год. Навасельцы косяць сена, збіраюць, сушаць грыбы, ягады. Навакольны лес дае і прамы заработак. Міхалаўцы  гоняць смалу, шкіпінар, дзёгаць, паляць вугаль.

Выдатна расце бульба на сыпучых міхалавіцкіх пясках. Вяскоўцы нават уласны гатунак бульбы выводзяць, прадаюць суседзям. Яго ў навакольных вёсках так і называюць «міхалавец». Бульба сопкая, разварыстая, надзвычай прыемная на смак.

Светлы, абклееныя на сценках плакатамі, пакой хаты-чытальні размешчан у памешчыцкім доме. Тут пачатковая школа, сельсавет. Прасторны, з трохскатным дахам, шматлікімі вокнамі памешчыцкі дом з доўгай, нібы зялёны калідор, ліпавай алеяй самы прывабны ў Міхалавічах.

Хоць беднае, затое вясёлае сяло Міхалавічы! Наўзбоч ляжыць пясчаны шлях, па якім рыпяць-калыбаюцца сялянскія вазы з дубовай клёпкай, дрывамі, з наваленымі вышэй драбін мяшкамі жыта, аўса, грэчкі — на станцыю ці на млын у мястэчка. Памахваюць галовамі, хвастамі, адбіваючыся ад надаедлівай заедзі, махнатыя конікі, паныла клыпаюць валы.

У тым месцы, дзе шлях найбліжэй падыходзіць да Міхалавіч, высіцца стадола абымшэлай, крытай дранкай карчмы, якая цяпер называецца манапалькай, пры ёй штосьці накшталт заезнага двара.

У заезным двары можа размясціцца тры, самае большае чатыры фурманкі. Але вядома: у Міхалавічах пусцяць начаваць ледзь не ў кожную хату і баба або дзеўка пад бок ляжа. Пастаў толькі пляшку гарэлкі на стол і чаго-небудзь закусіць. Ва ўсім заскарузлым, патрыярхальным наваколлі, якое цвёрда трымаецца дзедаўскага звычаю, толькі тут ды яшчэ ў недалёкай Няхамавай Слабадзе сустрэнеш такія норавы. Чаму так? Можа, таму, што міхалаўцы не толькі людзі бедныя, але і наезджыя, сабраныя з усяго свету. Тут брат брата альбо

бацька сына не прысароміць: яшчэ не паспелі нарадзіцца, вырасці на гэтай пясчанай зямлі, пусціць у яе карэнне.

У той год, калі Ерусалімчык з’явіўся ў Міхалавічах, паблізу сяла пракладвалі чыгунку, праўдзівей, ветку-аднапутку, якая на местачковай станцыі адгаліноўвалася ад двухкалейнай чыгункі Жыткавічы — Гомель і вяла да багатых хлебам і лесам прыдняпроўска-прыпяцкіх раёнаў.

Сотня ці болей грабароў, якія возяць з кар’ераў баласт, гравій на насып чыгункі, жывуць у Міхалавічах, п’юць, гарланяць песні, гуляюць у карты, бавяць ночы з мясцовымі жанчынамі.

Ерусалімчык на першым часе шчыра ўзяўся за работу. Навыпісваў газет, выставіў на спецыяльна зробленых падстаўках прывезеныя з агітпрапа кніжачкі. Пачаў арганізоўваць хор і наогул мастацкую самадзейнасць.

Толькі не суджана было гэтым планам здзейсніцца. П’яны, хмельны разгул захапіў паступова самога загадчыка хатычытальні. Красунь у Міхалавічах хоць адбаўляй, самі цягнуцца да Івана, хлопца з выгляду прыгожага, стройнага, са сталым заработкам. Адбівацца ад жанчын Іван не можа. Такое ў яго сэрца. Сувязі з красунямі прыводзяць да таго, што, не прабыўшы ў Міхалавічах нават год, Іван з сяла ўцякае.

Іванаў пакойчык размяшчаецца побач з пакоем чытальні. Тут жа, у памешчыцкім доме, кватаруе сям’я фельчараў, якія, відаць, толькі пажаніліся, бо дзяцей яшчэ не маюць.

Іван пачынае паглядаць на жонку фельчара, маладзейшую за мужа гадоў на дзесяць ці нават болей. Яна яўна заахвочвае ягоныя прызыўныя позіркі, і хутка Іван як сыр у масле купаецца. Млявая, паўнацелая, з вялікімі валовымі вачамі фельчарка не толькі спатыкае маладога хлопца гарачымі абдымкамі, а яшчэ яечню яму шкварыць і кладзе на развітанне што-небудзь у кішэню. Як жа яе завуць? Ізольда, Матыльда, Амалія?.. Нешта ў гэтым родзе.

Ад зняцця з пасады, дрэннай характарыстыкі, ганьбы выратавала Івана яго здаровая сялянская натура. У час зразумеў, што трэба з Міхалавічамі развітацца.

Пагаварыў са старшынёй сельсавета, і той яго падтрымаў.

Пенсію, як у тыя гады называлі заработную плату, службоўцам плацілі нерэгулярна: раз у тры-чатыры месяцы. Калі, з'явіўшыся ў акругу, Іван палучыў ледзь не дзвесце рублёў новымі чырвонцамі, калі прыкінуў, што за гэтыя грошы здолее цэлы год вучыцца, рашэнне пакінуць Міхалавічы яшчэ больш умацавалася.

Іван пакіраваў у Растоў. Чаму іменна ў Растоў? Таму, па-першае, што гэта багаты хлебны край і там лягчэй пражыць. Па-другое, у Растове жыў дзядзька, родны бацькаў брат, і мог пры выпадку сім-тым дапамагчы.

Растоў прыйшоўся Івану даспадобы. Вялікі, шумны, зялёны горад, нават прыгажэйшы, чым Гомель, і рака большая за Сож — Дон. За час сваіх вандровак па-за домам Іван пераканаўся, што ўмее жыць без бацькі. Чым бацька паможа? Пакладзе ў торбу бохан хлеба, крышан сала. Глупства гэта. Трэба грошы. Грошы падымаюцца ў цане. За іх усё купіш.

Упершыню ў жыцці Іван прыстойна апранаецца: купляе новы пінжак, штаны, кашулю, чаравікі. На першым часе жыве ў дзядзькі, які робіць на чыгунцы таварным касірам, затым, паступіўшы на рабфак, перабіраецца ў інтэрнат.

На рабфаку Іван вучыцца не хоча. Не шмат возьмеш на рабфаку, не больш, чым на культасветных курсах, якія ён закончыў. Іван меціць вышэй — ва ўніверсітэт. Канчаецца лета, якраз ідуць прыёмныя экзамены.

Іван адважна кідаецца ў бой. Яму здаецца: грунт мае дастатковы, каб паступіць на гістарычна-філалагічны факультэт. Не ўлічвае ён, аднак, важнай акалічнасці: здаваць пры паступленні ва ўніверсітэт трэба не толькі гісторыю, літаратуру, грамадазнаўства, а ўсе прадметы, якія выкладаюцца ў школе другой ступені. З фізікі, хіміі, матэматыкі Іван амаль нічога не ведае, таму правальваецца з трэскам.

Тым часам не бывае ліха без дабра. Экзамен па рускай літаратуры прымае прафесар Валошын, маладжавы, з прыемным мужна-суровым тварам, першай сівізной у чорных, як смоль, валасах. На просьбу прафесара прадэкламаваць які-небудзь вывучаны на памяць верш, Іван зычна, з пафасам, як вучылі на курсах, чытае паэму «Тарас на Парнасе». Ведае яе з дзіцячых год: бацька прынёс некалі ў хату выдадзеную на дрэннай шорсткай паперы кніжачку.

Сваім чытаннем ён зачароўвае прафесара. Валошын бачыць у ім талент.

Івана залічваюць ва ўніверсітэт, даюць стыпендыю. Валошын кожнага тыдня заклікае яго да сябе. Жыве ў невялікай кватэрцы з трох пакояў, па сценах застаўленых кніжнымі стэлажамі.

Іван добра латаецца каля апекуна. Тады, калі ідзе да яго на кватэру, спецыяльна нічога не есць, цалкам пакладаючыся на прафесарскія харчы. Сям'я прафесара невялікая: ён ды ціхмяная, ветлівая жонка. Замужняя дачка жыве ў другім горадзе.

Час бяжыць імкліва. Аж у вушах свішча ад пранізлівага ветру перамен. Застаецца Івану толькі год павучыцца ў Растове, і будзе мець ён універсітэцкі дыплом. Але якраз у гэты апошні год вучобы адбываецца яшчэ больш радасная падзея. Прафесара Валошына запрашаюць у Мінск. Загадваць кафедрай у Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Спраўджваецца мара. Яшчэ калі вучыўся на культасветных курсах, пачуў, што ў Мінску адчыняецца ўніверсітэт. Але доступу туды яму не было: не ставала адукацыі. Дый ад накіравання на работу не мог ухіліцца. Цяпер іншая справа!..

Іван загарэўся ехаць у Мінск разам з прафесарам. Але той разважыў інакш. «Мусіш ведаць,— сказаў,— Данскі ўніверсітэт утварыўся з Варшаўскага. Перавандраваў у Растоў, калі да Варшавы падыходзілі немцы. Рэктарам Варшаўскага ўніверсітэта і маім настаўнікам быў прафесар Карскі, які болей чым хто зрабіў для вашай Беларусі. Вось цяпер я еду ў Мінск працягваць яго справу. Але табе туды рана. Тут універсітэт з традыцыямі. Канчай яго. Што там, у вашым Мінску, трэба яшчэ паглядзець...»

Праз год Ерусалімчык прыязджае ў Мінск. Валошын адразу залічвае яго асістэнтам на сваю кафедру.

Час Ерусалімчыка настае! Ён наведвае дыспуты, дыскусіі, розныя літаратурныя вечары. Сам піша некалькі вершаў, зычна іх чытае, нязменна выклікаючы воплескі. Дзяўчатам, маладым жанчынам, відаць, не менш, чым вершы, падабаецца стройная, дужая Іванава постаць, пшанічная чупрына, вясёлы бляск ягоных вялікіх шэрых вачэй.

Іван ласкавы, ветлівы, абаяльны, ніколі нічога сяброўкам сваім не абяцае, але і сілай, падманам іх кахання не дамагаецца. Як узыходзіць і заходзіць сонца, дзень змяняецца ноччу, лета зімой, так нараджаецца і знікае каханне. Ніхто аканчальна не вывучыў яго законаў, і ніхто не ў сіле гэтыя спрадвечныя, магутныя законы адмяніць...

У гэтыя напоўненыя хмельнай радасцю дні (універсітэцкі дыплом у кішэні, наперадзе пасада дацэнта, а можа, і прафесара) здараецца падзея, якая пераварочвае Іванава жыццё. Ва ўніверсітэце ён знаёміцца з Ірынай Галубец, буйнацелай, чарнявай, даволі прыгожай асістэнткай з суседняй кафедры гісторыі. «Цэлы анатамічны музей», — прыкладвае ён у думках да асістэнткі словы, вычытаныя, здаецца, у Тургенева. Асістэнтка захоплівае Івана адразу, і, лічачы сябе кавалерам, якому адмовы ў дзяўчат быць не можа, ён адважна рынуў у наступ. Але наткнуўся на штосьці такое, пра што нават ніколі думаць не думаў.

— Ты несур’ёзны чалавек,— правёўшы з Іванам некалькі вечароў, сказала асістэнтка.— Жанчыны, якіх ты ведаў,— дрэнь. Запомні: добрая дзяўчына з табой не пойдзе. Ты скачаш, як казёл, і разлічваеш, відаць, праскакаць жыццё. Тым часам падрыхтоўка твая не вельмі. Хоць маеш дыплом...

Асістэнтка ў тую хвіліну, калі гаварыла, чымсьці нагадвала вялікага махнатага чмяля: зумкае, звініць, але і ўкусіць можа.

Іван спатканняў з Ірынай не шукаў, адчуваючы, што яна сапраўды з ім не пойдзе. Ірына скончыла БДУ, веды мела сапраўды глыбейшыя, чым ён сам.

Абраза пякла Івана, і, каб неяк узвысіцца ў вачах асістэнткі, ён адважыўся занесці некалькі сваіх вершаў у часопіс. У рэдакцыі яго чакала новае расчараванне. Са жмака Іванавых вершаў смяшлівы сакратар рэдакцыі, сам паэт, выбраў толькі адзін. На вачах збянтэжанага аўтара скрэмзаў некалькі яго радкоў, замяніўшы іх на ўласныя, і толькі тады падпісаў у друк.

Гэты адзіны надрукаваны ў часопісе верш радасці аўтару не прынёс. Заўважыў яго толькі прафесар Валошын і бязлітасна раскрытыкаваў Івана:

— Я думаў, у цябе здаровы народны розум. А ты, выходзіць, звычайны верхагляд. Трэба вучыцца, працаваць, а ты глупствам займаешся.

Іван засеў за кнігі. Ніколі ён столькі не чытаў, не працаваў над сабой, як тыя тры гады, калі, ведаючы, што ёсць дзяўчына, якая па-сапраўднаму падабаецца, запала ў сэрца, у душу, ён не мог да яе падысці, паклікаць у кіно ці на які-небудзь дыспут. У яго, аднак, хапіла характару не помсціць упартай самаўпэўненай асістэнтцы, бо жанчын, якія не патрабавалі якога-небудзь асаблівага выдыбання, Іван знайсці мог.

Тады ж Ерусалімчык пачаў пісаць рэцэнзіі, артыкулы. Праўда, яго голас у тагачасным крытычным бязладдзі вызяляўся не асабліва. З грамады крытыкаў вынырнулі двое ці трое, якія бязлітасна разносілі шмат якіх пісьменнікаў, як бы бачачы сябе камандзірамі. Аднаго з гэтых крытыкаў — рухавага, кругленькага, нібы яечка, Зэліка Бандуса, які падпісваецца літаратурным псеўданімам Захар Фабрычны, выдае сябе за чыстага пралетарыя, крытыкуе адсталыя сялянскія настроі паэтаў і пісьменнікаў, Іван ведае нават някепска. Паходзіць Зэлік-Захар з блізкага ад Іванавай вёскі мястэчка, ён сын заможнага гандляра, і проста невядома, дзе і калі паспеў ён набрацца рабочай, пралетарскай загартоўкі.

Ерусалімчык трымаецца падалей ад Захара Фабрычнага. Ён не бачыць варожага ў тым, што паэты апяваюць родныя палі, лясы, дубровы, пішуць пра каханне. Рытмы будаўніцтва, гудкі заводаў, дымы фабрычных карпусоў зусім не адмяняюць паэзіі прыроды, птушынага шчэбету, песні салаўя. Маладых паэтаў, пісьменнікаў Іван падтрымлівае, як можа. Нават тых, якім ужо навешаны ярлыкі. За гэта крытыкуюць яго самога. Іншы раз нават жорстка.

Прафесар Валошын, які ўжо быў прафесарам, калі пачалася Кастрычніцкая рэвалюцыя, імкліва ўвайшоў у новую для сябе беларускую літаратуру. Можа, таму і ўвайшоў, што ведаў літаратуру рускую, меў кнігі пра Пушкіна, Гогаля, Лермантава, Някрасава, пра рускі рамантызм, рэалізм — кнігі гэтыя выходзілі ў Варшаве, Пецярбургу, Маскве. Цяпер ён піша артыкулы, нават кнігі пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча.

Мае прафесар Валошын у літаратурнай навуцы імя. Шчыра стараецца, як здаецца Ерусалімчыку, зразумець пафас новых дзён, да кожнай літаратурнай з’явы падыходзіць з маркай

перамен, якія ўнесла ў жыццё рэвалюцыя. Дый не бог ведае з якіх паноў паходзіць Валошын: бацька быў сельскім настаўнікам.

Тым часам Захар Фабрычны, іншыя крытыкі знаходзяць у яго артыкулах, навуковых працах процьму памылак. Чым далей, тым люцей насядаюць гэтыя крытыкі на прафесара. І вось ён ужо не загадвае кафедрай, а толькі чытае лекцыі ва ўніверсітэце, яго кнігі, артыкулы ніхто не асмельваецца друкаваць.

Час ідзе.

Іван такі дамагаецца пастаўленай мэты: Ірына Галубец, цяпер ужо не асістэнтка кафедры, а завуч паказальнай гарадской школы, выкладчыца гісторыі, аднаўляе з ім знаёмства.

— Ты маеш стрыжань у характары,— гаворыць Івану Ірына пры новай сустрэчы.— А гэта галоўнае. Ты не думай,— дадае яна, апусціўшы вочы і пачырванеўшы, як школьніца,— ты мне падабаўся і тады, калі я цябе толькі ўбачыла.

Яны пажаніліся. Меў шчасце са сваёй буйнацелай Ірынай Ціханаўнай Іван Давыдавіч. Нават усялякія зборышчы, дыспуты амаль перастаў наведваць. Ляцеў з лекцыі ці з бібліятэкі да жонкі, у іх някідкі, наняты ў драўляным доме на самай ускраіне горада пакойчык.

А прафесара Валошына тым часам арыштавалі.

Івана некалькі разоў выклікалі на допыт. Але як яго ні прыцiскалі, ні пагражалі яму, нічога дрэннага пра прафесара Валошына ён не сказаў. Ён бы сам сябе не паважаў, каб дзеля выратавання ўласнай шкуры абылгаў настаўніка.

Затое Захар Фабрычны і іншыя аж са скуры вылазілі, каб ачарніць вучонага. Наперабой працягвалі друкаваць артыкулы: пры ацэнцы мастацкіх з'яў Валошын не зыходзіць з класавых пазіцый, патурае класаваму ворагу, не хоча бачыць ідэйнага размежавання сіл у літаратуры.

Восенню сорак трэцяга года на станцыі Сходня пад Масквой аднаўляе работу БДУ. Студэнтаў мала, аўдыторыі, інтэрнаты, нават жытло выкладчыкаў размяшчаюцца ў двух-трох пахілых бараках, збудаваных для чыгуначнікаў-сезоннікаў.

У адзін з тых дзён схуднелая, са зморшчаным тварам жанчына знаходзіць у сасновым станцыйным пасёлку Ерусалімчыка. Сумную гісторыю чуе ён ад яе: у сорак другім годзе прафесара Валошына рэабілітавалі, выпусцілі з лагера, але, прыехаўшы ў ваенную Маскву, не здолеўшы атрымаць прадуктовых картак, ён памёр ад голаду...

Ерусалімчыка агортвае міжвольны страх: значыць, Валошын ні кропелькі не віноўны, калі, нягледзячы на вайну, на тое, што недалёка ад Масквы стаяць немцы, яго выпусцілі з турмы, цалкам вінаваты тыя, хто абылгаў старога прафесара. Ды ён і сам вінават, хоць зусім не хацеў чарніць Валошына. Трэба было абараняць старога прафесара! Даваць у зубы такім, як Захар Фабрычны. Чаму гэткія нягоднікі раптам адчулі свабоду, развязалі сабе рукі? Хто іх упаўнаважыў на злачынствы, каго яны прадстаўляюць?

Ерусалімчык цешыць сябе думкай, што Захару Фабрычнаму ў зубы ўсё-такі далі. Яшчэ перад вайной выключылі з партыі, выгналі з Мінска. Хоць замалая для яго гэта кара. Варта запраторыць падлюгу ў такую яму, каб ён век з яе не вылез. Столькі сумленных людзей загубіў!

У ваеннай Маскве Іван Давыдавіч дастае кнігі, працы Валошына, якія толькі можна дастаць. Перачытваючы іх, здзіўляецца рознабаковасці інтарэсаў прафесара. Выдатная асоба! З сучасных прафесараў, дацэнтаў, якія займаюцца літаратурай, ніводнага побач з ім не паставіш. Вядома, сфарміраваўся вучоны ў дарэвалюцыйных умовах, і на ягоных працах гэта адбівалася. Захарам Фабрычным было да чаго прыдрацца. Але прафесар сумленна служыў новаму часу.

Іван Давыдавіч пачаў вайну старшым палітруком, адступаў, трапляў у акружэнні, але вырабляўся з іх. У сорак другім годзе, калі другі раз здавалі немцам Растоў, яго цяжка параніла. Так ужо здарылася, што каля горада маладосці Івану Давыдавічу прыйшлося ваяваць.

У сорак трэцім годзе на станцыі Сходня пад Масквой аднавіў работу БДУ. Той памятнай восенню Ерусалімчыка адклікалі з арміі ў Маскву.

З болем у душы думае Іван Давыдавіч пра сваю Ірыну, малога сына, якія засталіся ў захопленым немцамі Мінску.

Часта піша жонцы, сыну лісты і складвае іх у камандзірскую сумку. Спадзяецца прывезці гэтыя лісты ў Мінск, аддаць жонцы.

Як неразумнае блазенства ўспамінае Іван Давыдавіч ранейшыя захапленні. Нічога з тых далёкіх заляцанняў нельга ўспомніць. Як хісткія цені паўстаюць перад мысленным позіркам твары, постаці жанчын, з якімі ён быў некалі блізкі, не выклікаючы ў душы ні добрых, ні благіх пачуццяў. Яму нецікава, што сталася з імі, як яны пайшлі па жыцці далей... А вось пра Ірыну Ціханаўну ён думае з часу іх расстання кожны дзень, тры доўгія гады, і думкі прыносяць радасць, трывогу, неспакой.

Шчасце зноў усміхнулася Ерусалімчыку: ён вярнуўся да жонкі, сына, стаў працаваць ва ўніверсітэце, які ў сорак чацвёртым годзе са Сходні пераехаў у Мінск.

## XVIII

Маразы паддаюцца. Дзьмуць то заходнія, то паўднёвыя вятры, сыплюць снегам, прыносяць адлігі. У поўдзень выглядае сонца, дае волю раўчукам, якія весела бягуць па бруку. Вечарам зноў бярэцца на прымаразак: раўчукі прыціхаюць, трашчыць пад нагамі тонкі, хрупасткі лядок. Паветра ўсё болей поўніцца празрыстасцю. Радуючыся цеплыні, усчынаюць шумную гамонку вераб'і. Седзячы на мокрых дрэвах, на ўсё горла каркаюць вароны. Подых прадвесня...

Запомніць Касцюшка гэтую зіму. Асабліва месяц снежань, траскучыя маразы, свае начныя вандроўкі пустым гулкім трамваем з нашчэнт абмёрзлымі вокнамі праз увесь горад: з рэдакцыі ў інтэрнат. Як ён чакаў тады ліста ад Маргарыты! Яна яго так і не напісала, адрабіўшыся некалькімі словамі, пасланымі нібыта ад сына. Цяпер яму ліст ад Маргарыты не трэба...

Рэдакцыя пасылае Касцюшку ў камандзіроўку. На гэты раз на Палессе, у Тураўскі раён.

У драўляны гарадок, размешчаны сярод лясоў і балот, ён дабіраецца, абмінуўшы местачковую станцыю: ёсць чыгунка, якая вядзе ў палескі край не праз Гомель, а праз Жлобін.

Дык вось Тураў, сталіца старажытнага княства, у якой шмат вякоў назад жыў і тварыў вядомы ва ўсёй Кіеўскай Русі хрысціянскі прапаведнік Кірыла Тураўскі.

Касцюшка ўжо быў у Тураве, калі працаваў у абласной газеце. Выгляд горада яшчэ тады яго расчараваў. Заняпала за вякі сталіца Палескага княства. За апошнія гады, праўда, у гарадку сёе-тое палепшылася, але сваім выглядам ён мала адрозніваецца ад звычайнай вёскі. Крывыя, вузкія вулачкі, шэрыя хаткі, некаторыя з якіх пакрыты струхлелай саломай. А можа, тысячу гадоў назад якраз такімі і былі гарады? Бо старажытнасцю ў Тураве пахне. Гарадок акружае высокі земляны вал, насыпаны людзьмі. Побач шырокая Прыпяць, на многія кіламетры балотная дрыгва, якая перашкаджала ворагам захопліваць і руйнаваць горад, хоць яго шмат разоў захоплівалі і руйнавалі. Нават у апошнюю вайну значную частку Турава спалілі фашысты.

Пойменныя надпрыпяцкія землі добра родзяць. Касцюшка і цяпер прыязджаў па матэрыял аб падрыхтоўцы тураўскіх хлебаробаў да веснавой сяўбы.

На адваротным шляху абмінуць роднае мястэчка Касцюшку не ўдаецца. У Мінск на нараду едзе пажылы задуменны сакратар райкама, на райкамаўскім «газіку» ён падвозіць карэспандэнта да Жыткавіч, маленькай непрыкметнай станцыі, якая некалі была прыгранічнай. З Жыткавіч да Мінска цягнік ідзе праз Гомель.

Стаяць ахутаныя перадвясенняй сінечай лясы, круглыя шары балотных хмызоў, мільгаюць у акне вагона адноўленыя на скорую руку станцыйныя будынкі, шэрыя някідкія хаткі прылеглых да чыгункі вёсак. Не першы раз едзе Касцюшка па гэтых мясцінах. Але цяпер навакольныя краявіды асабліва ўзрушваюць і хвалююць.

Местачковую станцыю праязджаюць ноччу. Мільгае мястэчка раскіданымі ланцужкамі агнёў, цёмнымі лавамі хат, дрэў, складскіх будынкаў. Поезд стаіць на станцыі адну-дзве хвіліны і кранаецца далей.

Яшчэ ніколі не было, каб вось так, як цяпер, Касцюшка праехаў з ходу родную станцыю. Але пакуль што ён не можа тут сысці, пабыць у мястэчку хоць адзін дзень. Калі

так зробіць, то толькі растрывожыць боль у сэрцы, боль, які пакрысе пачынае прытухаць.

Дый ніхто яго не чакае ў мястэчку. Маці, брату, сястры ён проста напіша ліст...

Усялякія зімы былі ў Касцюшкі. У дзяцінстве ён мёрз, бо не меў добрай вопраткі і абутку. На фронце прыходзілася начаваць проста на снезе, падаслаўшы яловых лапак. Але то быў іншы холад. Тады ён мёрз толькі целам. У гэтую зіму — целам і душой.

Зноў і зноў успамінае Касцюшка абмёрзлыя, заінелыя вокны напаўпустога начнога трамвая, якім дабіраўся з рэдакцыі на вуліцу Маскоўскую, халодныя зімовыя зоркі, што няласкава блішчэлі ў чорным зімовым небе, цёмны, змрочны вестыбюль інтэрната, на стале якога так і не паявілася пісьмо ад Маргарыты.

Касцюшка як бы прачынаецца ад цяжкага сну, і вясна азначае канец зледзянелай душэўнай адзіноты. Што-небудзь ды здарыцца ў вясёлую зялёную пару...

Усё часцей задумваецца Касцюшка над сваёй будучыняй. Трэба актыўней брацца за вучобу. Цярплівыя людзі ў гэтай самай аспірантуры, як і наогул ва ўніверсітэце. Паўгода ён патраціў на асабістыя перажыванні, згрызоты, вучобай, навукай займаўся зусім слаба, а яго нават не папракнулі.

З ныццём, капаннем у душы трэба канчаць. Маргарыта таго не варта, каб столькі пра яе думаць. Начытаўшыся ў дзіцячыя, юнацкія гады кніг, ён проста выдумаў Маргарыту. Загарэўся ад першага позірку, які яна на яго кінула. Местачковы Дон Кіхот мусіў знайсці сваю Дульцынею Табоскую. Каб Маргарыта жыла ў мястэчку і каб у вайну ён не быў адарваны ад Маргарыты, такое б, відаць, не здарылася. Не ўдалося б яму ахінуць вобраз Маргарыты вэлюмам таямнічасці, загадкавасці. Ведаў бы яе самую, яе бацькоў, і казка вельмі хутка разбурылася б... Хоць хто можа наперад сказаць?

Загадвае аспірантурай аспірант апошняга года Мікалай Савоська. Невысокага росту, з румяным, як у дзяўчыны, тварам, на якім, нібы валошкі ў жыце, ззяюць прамяністыя сінія вочы, ён з першага позірку ўражвае душэўнай мяккасцю, далікатнасцю, як бы нават дзіцячай бездапаможнасцю. З усімі

аспірантамі Савоська вітаецца за руку, вядзе панібрацкія размовы. Дазваляе, хто б ні папрасіў, адпачынкі, ад'езды дадому, як у выпадку з Касцюшкам, закрывае вочы на заработкі, пабочную службу.

З нядаўняга часу Савоська перабраўся ў інтэрнат на Маскоўскую, і цяпер аспіранты ведаюць нават пра інтымны бок ягонага жыцця. Як цень, ходзіць за Мікалаем сябар і напарнік Даніла Гулугай. У Данілы, аспіранта-географа, не толькі прозвішча смешнае — смешны сам: на вузкім, высахлым тварыку пастаянна праменяцца злым, нядобрым смехам цёмныя мігатлівыя вочкі, нос загнуты, як у драпежнай птушкі, на доўгай шыі ходзіць вялікі, з кулак, кадык.

Даніла блукае за Мікалаем як прывязаны, вадой, здаецца, не разальеш дружбы, але, на хвіліну адарваўшыся ад таварыша, ён зараз жа пачынае яго высмейваць.

Часам завітвае Даніла ў пакой Касцюшкі. Душачыся смехам, пырскаючы праз рэдкія зубы слінай, таропка апавядае пра любоўнае заляцанне Савоські. Збоку яно сапраўды здаецца смешным, нават недарэчным.

Савоська закахаўся ў афіцыянтку, якая працуе ў кафэ, куды ходзяць абедаць аспіранты. Кафэ ў паўпадвальчыку амаль насупраць інтэрната. Касцюшка ведае афіцыянтку: прыгожая, з вялікімі задуменнымі вачамі, гнуткай, стройнай паставай.

Даніла выскаляецца:

— Прыйшлі да яе на кватэру, а там вясёлая кампанія. Трое ваенных. П'яныя ў дыміну. Яна ў аднаго вусатага на каленях сядзіць і на гітары іграе. Ведаеце, што сказаў Савоська пасля таго, як разам з ваеннымі выпіў і дадому пайшоў? Сказаў, што толькі высакародная душа можа так любіць музыку і так на гітары іграць...

Пры кожным візіце да суседзяў з'едлівы географ выкладае новыя падрабязнасці Савоськавых заляцанняў. Ён хіхікае, выскаляецца, як бы не хочучы бачыць, што таварыш трапіў у бяду.

Тым часам Савоська не на жарт закахаўся ў легкадумную, разбэшчаную дзяўчыну. Што з гэтага будзе? Як папярэдзіць мяккага, шчырага Савоську ад неразумнага кроку, які — гэта для ўсіх відавочна — скончыцца бядой?

Тое, што адбываецца з Савоськам, нагадвае Касцюшку яго ўласнае яшчэ не зусім сталае юнацтва, перадваенную вясну, першыя крокі збліжэння з Маргарытай.

Тая вясна была ранняя. Ужо ў канцы сакавіка вызваліўся ад снегу, падсох пясчаны і шырокі, як майдан, школьны двор. Стомленыя за зіму школьнікі з вясёлымі выгукамі выбягаюць на вялікім перапынку з класаў, радуюцца нечаканай цеплыні, празрыстай сінечы паветра, размаітым вострым пахам, ад якіх, здаецца, кружыцца галава.

Хлопцы-старшакласнікі звычайна захопліваюць турнік і ўсе трыццаць хвілін, да самага званка, выхваляюцца адзін перад другім практыкаваннямі. Касцюшка таксама завіхаецца на турніку. Свой шлях ён ужо прадумаў. Будзе паступаць у ваеннае вучылішча. Лепш за ўсё ў авіяцыйнае. Ён даўно чытае кнігі пра лётчыкаў, пра ролю авіяцыі ў будучай вайне. Праўда, Касцюшка рана скончыць дзесяцігодку: у няпоўныя сямнаццаць гадоў. Але год як-небудзь ён пераб’ецца.

Касцюшка ўжо рабіў спробу паступіць у лётную школу. Восенню, калі ён толькі пайшоў у дзясяты клас, у газетах паявілася аб’ява, што ў Мінску адкрываюцца спецыяльныя сярэднія школы, куды бяруць толькі выдатнікаў вучобы. Школы маюць ухілы: артылерыйскі і авіяцыйны. Пасля іх заканчэння можна адпаведна паступаць у артылерыйскае ці авіяцыйнае ваеннае вучылішча.

Навучанне, утрыманне ў спецыяльных сярэдніх школах за кошт дзяржавы.

Касцюшка занёс заяву ў ваенкамат з просьбай паслаць яго ў школу з авіяцыйным ухілам.

Тыдні праз два яго паклікалі ў ваенкамат і сказалі, што ён спазніўся з заявай: набор у спецыяльныя школы закончыўся.

У апошнюю перад вайной вясну ён пазнаёміўся з Маргарытай. Іменна яна дала яму пачытаць кнігу дарэвалюцыйнага выдання «Мужчына і жанчына», за якой палявалі многія старшакласнікі.

Вось якія кнігі чытала сямнаццацігадовая Маргарыта! Але ён быў жаўтароты верабей і нічога дрэннага ў гэтым не бачыў. Дый не мог убачыць. Не так быў выхаваны. На жыццё глядзеў высока, праз ружовыя акуляры, свядома адварочваю-

чыся ад усяго нізкага, благога, незразумелага ў ім. Для яго толькі наступала пара ўздыханняў, трызнення, узвядзення каханай дзяўчыны ў абсалют дасканаласці і прыгажосці.

Вось такое цяпер пачынаецца ў Савоські. Няўжо ніхто яму ніяк, нічым не дапаможа? Відаць, гэта проста немагчыма. Бо і Касцюшка, зрэшты, мог задумацца, чаму Маргарыта захапляецца такімі, як яму дала, кнігамі, дрэнна вучыцца, мяняе кавалераў? Касцюшка ні аб чым тады не задумваўся, не хацеў верыць чуткам пра паводзіны Маргарыты, якія да яго так ці іначай даходзілі.

Касцюшка спецыяльна ідзе ў кафэ, каб яшчэ раз зірнуць на афіцыянтку, у якую закахаўся Савоська. Няма слоў, прыгожая афіцыянтка: хваля пышных валасоў спадае на спіну, на сціплы белы халат, вочы вялікія, шэрыя, кожнай хвіліны праменяцца пераменлівым, павабным бляскам, твар шыракаваты, круглаваты, але зноў жа прыгожы, прывабны, кожнае імгненне новы.

Афіцыянтка тым і жыве, што як бы купаецца ў хвалях увагі, схілення перад яе чарамі мужчынскай часткі кафэ. А Савоська хоча загнаць прыгажуню ў аднастайны сямейны побыт. Відаць, думае: будзе сядзець нарачоная, іграць на гітары і чакаць яго з бібліятэкі.

Як многа цяпер бачыць, разумее Касцюшка. Але якой вялікай цаной за ўсё гэта заплочана!..

У адзін з тых дзён Касцюшка наўмысна заводзіць з Савоськам размову наконт свайго лёсу, жонкі, якая, нават месяца не счакаўшы пасля ад’езду мужа ў Мінск, падшукала сабе каханка. На ўсякія размовы загадчык аспірантуры ідзе ахвотна, а тут проста з прагнасцю ловіць кожнае Касцюшкава слова.

Але варта Касцюшку зрабіць асцярожную заўвагу наконт прыгожай афіцыянткі, паклоннікаў, якія вакол яе ўвіваюцца, як Савоська робіцца глухі і сляпы:

— Што тут такога? Прыгожай жанчыне заўсёды гавораць кампліменты.

Так, пройдзе Савоська праз усе кругі пекла. Не міне...

У чым прычына? Можа, у тым, што рамантычныя, узвышаныя натуры поўны ўдзячнасці да тых, хто першы, няхай сабе мімаходзь, звяртае на іх увагу, абуджае душу да кахання.

Касцюшка не здолеў пераступіць праз каханне да Маргарыты. Не дараваў бы сабе, каб з ёй не сышоўся. Траплялiся другія дзяўчаты, прыгажэйшыя, разумнейшыя, лепшыя, чым яна. Ён гэта адчуваў, нават разумеў. Але нічога з сабой не здолеў зрабіць.

Няўжо ўсё паўторыцца з наіўным, па-дзіцячаму шчырым, даверлівым Савоськам? Касцюшку, калі пазнаёміўся з Маргарытай, не было поўных сямнаццаці. Загадчыку аспірантуры пад трыццаць...

Дзьмуць заходнія вятры, гоняць па небе шэрыя, калматыя воблакі, з’ядаюць апошні снег. Зледзянелыя, чорныя ад сажы гурбы снегу хаваюцца па канавах, раўках, цёмных кутках двароў. У парках і скверах наперабой гарланяць, вітаючы радасныя для сябе перамены, вароны. Вераб’і трашчаць за вокнамі, ледзь пачынае днець.

Вясна, вясна...

Некалькі дзён ідуць цёплыя дажджы, змываюць з шэрай памаладзелай зямлі апошні зімовы друз. То ў адным, то ў другім месцы шэрага гарадскога абсягу зелянеюць лапікі зялёнай муравы. Аднойчы высока ў небе над горадам ляцелі з выраю птушкі — буслы ці нават журавы.

Касцюшка ўсё часцей задумваецца аб будучым жыцці. Да Сашы на Грушаўскую вуліцу ходзіць радзей, яго візіты ўсё меней прыносяць радасці ёй і яму. Ён памыляўся, калі думаў, што Саша нічога ад яго не хоча, не патрабуе. Хоча, хоць услых не гаворыць. Яна, відаць, разлічвала, што адагрэе яго, разбудзіць ад душэўнай здранцвеласці, прыхiлiць да сябе. Саша мяккая, разумная, з чулай душой. Касцюшка яшчэ не сустракаў такой павабнай, далікатнай жаноцкасці, якая ўвасоблена ў Сашы. У той жа час слабая яна, вельмі слабая. Згінаецца пад ветрам жыццёвых абставін то ў адзін, то ў другі бок. Як тонкая рабіна з вядомай песні. Дзе толькі тыя дубы, да якіх прыхiналася адзінокая рабіна?

У адным Саша не разумее Касцюшку: нічога яму не расказвае пра сваё папярэдняе жыццё. Яна старэй за яго, жыла наводдаль ад дому, у разгар ваеннага ліхалецця скончыла інстытут. Мужчыны ў яе жыцці, вядома, былі. Тых нябачных, нязнаных мужчын не можа дараваць Сашы Касцюшка. Такі ў

яго душэўны стан. Здрадай Маргарыты ягоны гонар прыніжан іменна ў гэтым пункце, і на чысціні, цнатлівай недатыкальнасці жанчыны, якую тая, на яго думку, мусіць прынесці мужчыне, ён памешан. Ён прагне напаткаць дзяўчыну чыстую, святую, з незаплямленымі першароднымі пачуццямі. Ці захоча такая дзяўчына, маладая і чыстая, кінуцца на шыю яму, не зусім маладому, ужо аднойчы жанатаму,— пра гэта Касцюшка не думае.

Час ідзе, паўгода Касцюшка аспірант, а яшчэ нават тэму дысертацыі не вызначыў. Сапраўды, пра што будзе пісаць? Ніколі не быў ён такі расхлябаны, раскіданы.

Ерусалімчык, вядома, паблажлівы і ліберальны. Свайго аспіранта не прыцiскае. Дык самому трэба думаць! Не паступаў жа ён у аспірантуру дзеля таго толькі, каб ездзіць па рэдакцыйных камандзіроўках і пісаць карэспандэнцыі? Ён уладкаваўся ў рэдакцыю, каб мець лішні заработак, падтрымліваць сям'ю. Якая ў яго цяпер сям'я? Сотню-паўтары сыну ён можа нават са стыпендыі паслаць. Маргарыта няхай скача, як хоча. Сама выбрала такое жыццё.

Экзамены ў маі, чэрвені. Калі шчыра прызнавацца, Касцюшка іх не надта палохаецца. Па філасофіі трэба перачытаць дробныя працы, буйныя, такія, як «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм» Леніна, «Анты-Дзюрынг» і «Дыялектыка прыроды» Энгельса, ён ведае, можна сказаць, дасканала. Не было шчасця, дык няшчасце памагло. У часіны ўпадку духу ратаваўся, шукаў адказы на пытанні, якія тады перад ім востра паўставалі, у гэтых кнігах. Таму штудзіраваў класікаў марксізму як мае быць.

За літаратуру трэба па-сур'ёзнаму брацца, асабліва за Купалу і Коласа, беларускіх пісьменнікаў мінулага стагоддзя.

Брашуры, нават некаторыя кнігі, якія Касцюшка чытае, рыхтуючыся да экзамену па філасофіі (ён будзе першы па ліку), здаюцца яму залішне бесклапотнымі. Ружовымі фарбамі малюецца пасляваеннае аднаўленне і асабліва жыццё вёскі.

Аднак у вёсцы, якую болей-меней ведае Касцюшка, яшчэ не хапае ні тэхнікі, ні адукаваных людзей. Жыццё да лепшага змяняецца там марудна. Вядома, зямлю спустошыла вайна, большая палавіна беларускіх вёсак спалена фашыстамі. Але і

часу пасля сканчэння вайны прайшло нямала. Былі гады нават вельмі ўраджайныя. Мінск, другія гарады, якія паспяхова адбудоўваюцца, маюць у дастатку хлеб, масла, каўбасу, іншыя прадукты. Вёсцы да гэтага далекавата.

Зямля — аснова, грунт, на якім расце астатняе багацце. Між тым нават у падручніку дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму, па якім Касцюшка будзе здаваць экзамен, пытанне аб узаемаадносінах горада і вёскі развязваецца ідэальна. Грані між горадам і сялом, маўляў, хутка сціраюцца, вось-вось ператворыцца драўляная, саламяная вёска з гразкімі вуліцамі, падслепаватымі вокнамі замшэлых хат у светлы, казачны горад...

Не ператворыцца! Нічога з неба не падае. Пройдуць многія гады, спатрэбіцца агромністая работа, каб змяніць нават знешні, даволі яшчэ непрывабны воблік сельшчыны. Тым часам карова, якая стаіць у калгасным хляве, яшчэ дае малака меней за тую, што ў індывідуальным карыстанні, і ўраджай на прысядзібным участку большы, чым на агульным масіве. Вядома, гэта датычыць адсталых калгасаў. Але многа, вельмі многа яшчэ такіх гаспадарак.

Вядома, галоўны рахунак Касцюшка выстаўляе літаратуры. Яна ўвасабляе грамадскае, народнае сумленне, павінна даваць адказы на ўсе вострыя, неадкладныя пытанні жыцця. Між тым твораў, якія б кранал, узрушвалі, глыбока западалі ў душу, у апошні час малавата. Вельмі падабаецца Касцюшку аповесць Валянціна Авечкіна «З франтавым прывітаннем», трылогія Алеся Ганчара «Сцяганосцы», з беларускай літаратуры — паэзія Аркадзя Куляшова. Ён нават артыкулы пра ўсіх гэтых пісьменнікаў напісаў і надрукаваў у абласной газеце.

Асабліва ўражвае Касцюшку паэзія Аркадзя Куляшова. Ён разумее: адносіны, якія паказвае паэт, напрыклад, паміж закаханым юнаком і дзяўчынай, рамантычныя, ідэальныя, больш, чым у жыцці, існуюць у душы самога паэта. Але калі паэт іх адчуў, здолеў так шчыра, лірычна, непасрэдна выявіць, значыць, яны жывуць!

Залішне святочнай паказваюць некаторыя пісьменнікі вайну. Нібы не было паражэнняў, адступленняў, не захопліваў вораг велізарных прастораў, не дайшоў да Волгі, Каўказа...

Няхай Касцюшка трапіў на фронт, калі вайна скіравала ў пераможны бок, але ён вайну бачыў. Усю: ад пачатку да канца. Капаў акопы, адступаў з Украіны разам з войскамі ў сорак першым годзе, галадаў. Наступаць таксама прыйшлося на Украіне. Летам сорак трэцяга пад Харкавам яго параніла. Першы раз. Другую рану ён атрымаў ва Усходняй Прусіі.

Можа, таму, што ён бачыў вайну, бачыў узрушаную вайной, апранутую ў шынялі, фуфайкі Расію, людское гора, што перакатвала цераз край, слёзы, пажары, бяздомных, беспрытульных, ён не можа абыякава чытаць газетныя фразы пра салдата-пераможцу, які нібыта прайшоў ад Сталінграда да Берліна. Няма такога салдата! Пад аўтаматным, кулямётным агнём, пад мінамі, снарадамі салдат добра калі пройдзе ў дні наступлення сотню вёрст. Вось ён, лейтэнант, камандзір пяхотнага ўзвода, да першага ранення прабыў на фронце сорак восем дзён (трыццаць дзён стаялі ў абароне), другі раз яго параніла яшчэ хутчэй — на шосты дзень наступлення. Уся ягоная вайна, калі лічыць толькі перадавую, заняла няпоўныя два месяцы. Месяцаў восем ён праляжаў у шпіталях, праблукаў па афіцэрскіх рэзервах. З многімі так было.

Усё часцей заглядвае Касцюшка ў Ленінскую бібліятэку. Ён любіць яе яшчэ са студэнцкіх дзён, калі перад здачай экзаменаў прыходзілася зрэдку сюды завітваць. Яго вельмі ўражвала агромністая чытальная зала, у якой адначасова, схіліўшы над кнігамі галовы, сядзіць, можа, тысяча студэнтаў. Нябачанае відовішча. Светлыя, цёмныя чупрыны, завіткі валасоў, сінія, чорныя, зялёныя касынкі, бясконцыя твары. Шасцяць паперы, нехта нячутнымі крокамі праходзіць між доўгай лавы сталоў, сёй-той падымае галаву і зноў апускае вочы ў кнігу.

Цяпер Касцюшка ходзіць у навуковую залу бібліятэкі. У ёй сабраны найбольш каштоўныя выданні. Тут ціха, утульна, нешматлюдна. Зала напаўкруглая, з вокнамі на дзве вуліцы, са стэлажамі наўзбоч сцен. У нядзелю чытачоў больш, чым у звычайныя дні. Але працаваць і ў нядзелю можна. Бібліятэкаркі ветлівыя, выпісаныя кнігі прыносяць хутка, акуратна.

Для сябе самога Касцюшка робіць адкрыццё: натыкаецца ў бібліятэцы на тоненькія зборнікі апавяданняў Кузьмы

Чорнага, якія выходзілі ў дваццатыя гады. Вось гэта пісьменнік! Даўно Касцюшка з такой асалодай не чытаў пра вёску, яе быт, норавы, сялянскія звычаі. Апавяданні не насычаны ніякімі асаблівымі падзеямі, усё ў іх звычайнае, знаёмае, выключна праўдзівае. Няхай бы сучасныя пісьменнікі хоць трохі павучыліся ў Кузьмы Чорнага, як пісаць пра вёску.

Бо вёска ў яго тоненькіх кніжачках — як жывая. Крыклівая, мітуслівая, адметная сваёй гаворкай, мноствам твараў, постацей, якіх не зблытаеш.

У навуковую залу амаль кожны дзень прыходзіць Майсей Кавалёў. Месца яго ў зацемненым кутку, адгароджаным шафай. Абкладваецца Майсей падшыўкамі газет, стусамі кніг, часопісаў і сядзіць між іх — як у цясніне.

Увогуле ён даволі кампанейскі, з людзьмі сыходзіцца лёгка. Толькі месяц мінуў, як паявіўся ў Мінску, а ўжо мае нямала знаёмых. Хіліцца да яго стройная, павабная бібліятэкарка, якая амаль заўсёды дзяжурыць у навуковай зале.

У інтэрнаце Майсей з Касцюшкам трымаліся адзін ад другога на адлегласці, а сутыкнуўшыся ў бібліятэцы, разы два пагаварыўшы, імкліва зближаюцца. З прыемнасцю стаяць у калідоры ля акна, кураць, расказваюць кожны пра сябе. Пачуўшы, што Касцюшка збіраецца пакідаць рэдакцыю, каб засесці за дысертацыю, Майсей хмурнее.

— Ці варта? Я вот напісаў дысертацыю, і што толку? Займей становішча ў газеце, атрымай кватэру, тады можна думаць і пра дысертацыю.

Гаворачы з Касцюшкам, Майсей як бы вылазіць з ракавіны, у якую пастаянна хаваецца, робячыся звычайным, даступным. Яго зацятасць ад неўладкаванасці жыцця, рушэння планаў, думае Касцюшка. Майсею амаль трыццаць гадоў, з жонкай, якая засталася ў Маскве, адносіны — па ўсім відаць — дрэнныя, дысертацыя не закончана. Дысертацыю пра партызанскую барацьбу, якую намерыўся асвятліць Майсей, абараніць цяжка. Сама ідуць спрэчкі. Спрачаюцца між сабой партызанскія важакі, камандзіры, з боем прымаюць самую бяскрыўдную публікацыю. Ды і ў тэарэтычнай думцы наконт партызан няма нічога цвёрдага, усталяванага.

Тым часам тэрмін аспірантуры ў Майсея канчаецца. Ён здолеў яго працягнуць, бо з трох аспіранцкіх гадоў два працаваў у камітэце камсамола, на выбарнай пасадзе. Але і дадатковага года не хапіла.

Настрой прабуджэння, адраджэння моцна трымае Касцюшку ў сваёй абладзе. Спрыяюць гэтаму апавяданні Кузьмы Чорнага, якія ён прагна чытае, глытаючы адзін тоненькі зборнік за другім. Апавяданні напісаны даўно, у дваццатыя гады, на іх змесце, стылі як бы ляжыць водсвет вялікіх зрухаў, перамен, якія дакляравала рэвалюцыя. Вялікі быў час — прыгожы, рамантычны! Агромністыя надзеі абудзіліся ў сэрцах людзей, надзеі, якія межавалі з казкай і фантастыкай.

Побач з інтэрнатам на Маскоўскай — вялікі, пафарбаваны ў светла-блакітны колер гандлёвы павільён. У горадзе многа такіх вось часовых будынін, прыстасаваных пад магазіны, цырульні, майстэрні.

Вяртаючыся з бібліятэкі, Касцюшка бачыць каля павільёна некалькі гараджан, апранутых у цёплыя паліто, у валёнках. Ён дзівіцца: мінулі часы, калі па прадукты з вечара выстройвалася чарга. Амаль сем гадоў прайшло, як скончылася вайна, і каўбасы, масла, цукру ў горадзе хапае.

Ён пытае, дзеля чаго людзі намерваюцца выстаяць ноч, і ў адказ чуе: за пшанічнай мукой. Прыбліжаецца Вялікдзень, каталіцкі, за ім праваслаўны, а белай мукі на булкі цяпер вольна не купіш. Вось так, значыць. Блізка Вялікдзень. У дзяцінстве, дый пазней, Касцюшка любіў гэтае свята, няхай сабе рэлігійнае. З Богам ён рахункаў не меў, ёсць Бог ці няма — над гэтым асабліва не задумваўся, а вось пакаштаваць на Вялікдзень кілбас, шынкі, іншых прысмакаў — любіў душой і целам.

Ноччу Касцюшка прачынаецца ад пранізлівага крыку і грукату. Лямант нясецца спачатку з калідора, затым з вуліцы. У суседнім пакоі дзынкаюць разбітыя шыбы, штосьці падае, грыміць.

Сонныя аспіранты падхопліваюцца, нацягваюць штаны, апранаюцца. Праз дзве-тры хвіліны яны ўсе на вуліцы.

Цяжка адразу разабрацца, што робіцца. Лямант не сціхае. Каля акна пакоя, у якім жыве дацэнт Сытка, носіцца з

распатланымі валасамі жонка дацэнта, дзіка завываючы, шпурляе праз разбітае акно ў мужаў пакой каменне.

Хутка высвятляецца прычына начнога вэрхалу. Дацэнт Сытка з жонкай разведзены. Яна жыве асобна, у гэтым жа інтэрнаце, але ўсё адно пільна сочыць, хто завітвае да былога мужа. У гэтую ноч пільнасць разведзенай жонкі не прападае марна: яна своечасова вынюхвае, што ў пакой да мужа трапіла чужая.

Няма мяжы гневу і абурэння жанчыны, якая працягвае лічыць сябе жонкай блудлівага дацэнта! Яна прагне ўварвацца ў пакой да мужа, выдраць авантурыстцы яе бессаромныя вочы. Але дацэнт надзейна замкнуў дзверы знутры. Таму зняважаная жонка шпурляе каменне ў акно.

Дацэнта Сытку аспіранты не любяць. Збрыдзеў, калі яны былі яшчэ студэнтамі і калі ён чытаў ім нудныя, бесталковыя лекцыі па педагогіцы. Спецыяліст ён ніякі, а як чалавек — нахабнік і тарбахват. Нязменна ставіць сябе суаўтарам прац аспірантаў, якімі кіруе, ва ўласныя артыкулы не саромеецца перапісваць цэлыя старонкі са студэнцкіх дыпломных і нават курсавых работ.

Аспіранты дружна становяцца на бок былой Сыткавай жонкі: выламваюць з маставой, падносяць ёй каменне, якое яна працягвае адчайна шпурляць у пакой, нават парады даюць, як лепей вывесці на чыстую ваду крывадушнага дацэнта.

Сытка ідзе на хітрасць: выклікае па тэлефоне таксі, якое пад'язджае пад самы ганак інтэрната. Але, дзякуючы аспірантам, ход гэты былая жонка дацэнта своечасова разгадвае і прадухіляе: узброіўшыся двума вялікімі камянямі, становіцца паміж дзвярамі і машынай.

Пачынае світаць. Людзі з чаргі за мукой, што стаіць ля суседняга з інтэрнатам павільёна, таксама прыходзяць пад інтэрнат. Як і аспіранты, бяруць бок пакрыўджанай жанчыны. Каб не даць магчымасці знікнуць саперніцы, яны шчыльна акружаюць таксі.

Сытка ўсё-такі перахітрыў былую жонку і натоўп пад інтэрнатам. Выклікаў міліцэйскую машыну, якая ўехала на інтэрнацкі двор і праз чорны ход вывезла каханку дацэнта.

Касцюшка з Майсеем вяртаюцца з бібліятэкі. Вечар пасапраўднаму вясенні. Цёпла, добра. Сінявата-шэры паўзмрок хавае ад позірку адгароджаныя дашчанымі парканамі руіны, напаўразбураныя, абгарэлыя каробкі з цёмнымі праёмамі вокан, зарослыя быльнягом пустыры.

На адбудаванай частцы цэнтральнага праспекта, застаўленага чатырох- і пяціпавярховымі гмахамі, вытрыманымі ў строгіх, але прыемных для позірку лініях, вечарам людна і гаманліва. Густы натоўп запаўняе тратуары, бульвары, плывучы двума сустрэчнымі патокамі.

Ідучы поруч з Майсеем, Касцюшка ўспамінае мястэчка. Ён нібы зрокава бачыць мясціны, дзе стаіць пуцейская казарма, а побач ахайны, пафарбаваны ў жоўты чыгуначны колер дамок майстра, у якім да вайны і ў вайну жыў Майсей.

Ёсць некалькі куткоў у мястэчку, якія Касцюшка асабліва любіць. Да іх належыць сядзіба пуцейскага майстра. Яна размешчана на пагорку, адкуль вачам адкрываецца прыгожы краявід. Сядзібу агінае ветка-аднапутка, якая вядзе да паўднёвых прыдняпроўска-прыпяцкіх раёнаў і ў гэтым месцы як бы ўгрызаецца ў пясчана-гліназёмныя горы і разразае іх, ідучы як па тунэлі. Першая ад мястэчка станцыя на ветцы-аднапутцы — Міхалавічы.

— З’ездзім у мястэчка,— гаворыць Касцюшка.— Успомнім даўняе, да бацькі падскочыш.

Майсей непрыемна, крыва ўсміхаецца.

— Што я там не бачыў? Ні рэчкі няма, ні блізкага лесу.

— Ты жыў там.

— Дзе я толькі не жыў! Можаш быць спакойны: у тваім мястэчку карэння не пусціў.

— Ты ў Каўпака радавым быў?

— Бяры вышэй. Выбіўся ў камсоргі роты.— Майсей раптам мяняе тон.— Увогуле добра, што такім шляхам трапіў у партызаны. Забраў ён нас да сябе — і як камень у ваду. Бацька застаўся жывы, сям’я. Мішы шкада. Ты, здаецца, з Мішам вучыўся?

— Вучыўся.

— Загінуў Міша пад самым Драгобычам. Калі дарваліся да нафтавых вышак.

— Абавязкова было партызанам ісці на Драгобыч?

— На тое, брат, вайна. У апошняй вайне нафта іграла першаступенную ролю. Яшчэ большае, думаю, меў наш паход значэнне агітацыйнае. Куркулям, нацыяналістам, усялякай сволачы паказвалі кулак. Не забывайце, маўляў, Савецкая ўлада жыве, яна тут!

— У мястэчку была падпольная група. Мой брат Валодзя ў яе ўваходзіў. Валодзя гаварыў, што і цябе хацелі ў групу ўцягнуць...

Майсей зноў нядобра крывіць вусны:

— Знайшліся патрыёты! Ты быў на фронце, не ведаеш... Майго бацьку спецыяльна пакідалі на станцыі. Органы НКВД. Паколькі я застраў у бацькі, то схаваўся пад яго крыльца. Выконваў яго заданні і на такую драбязу, як твой брат, не звяртаў увагі.

Праз хвіліну Майсей пытаецца:

— Твая кабеціна з Міхалавіч?

— З Міхалавіч.

— Праклятая, брат, дзірка Міхалавічы. Асінае паліцэйскае гняздо. Страшна падумаць: дало сто паліцэйскіх і ніводнага партызана. Амаль з кожнага двара паліцай. Каўпак, як дазнаўся пра кодла, хацеў акружыць і вынішчыць. Часу пашкадаваў: трэба было перапраўляцца праз Прыпяць.

— У Міхалавічах людзі прыезджыя,— гаворыць Касцюшка.— Сабраныя са свету. Традыцыі не стварылі, каранёў, як сам ты ў мястэчку, не пусцілі.

— Люмпен-пралетарыят называецца. З вясковым ухілам. Я, брат, думаў пра гэта. Нават у дысертацыі спрабаваў напісаць. Матэрыял маю. Ходзячы з Каўпаком, шмат чаго пабачыў! Толькі вёска на вёску не прыходзіцца. Вядома, большасць да партызан хілілася. Але траплялiся галадранцы, што да немцаў душой прыкіпелі. Як Міхалавічы. Чаму так?

Адказу Касцюшка не мае. Прыезджымі людзьмі заселена недалёкая ад Міхалавіч Няхамава Слабада, гэтак жа размешчаная на пясчанай балотнай няўдобіцы. Але адтуль у паліцыю ніводны чалавек не пайшоў.

## XIX

У нядзелю Касцюшка з Сашай вяртаецца з кіно. Вуліца Грушаўская звініць дзіцячымі галасамі. Дзяўчаткі-школьніцы паскідалі палітончыкі, склалі іх у акуратную кучку, намалявалі класы: пераскокваюць на адной назе з клеткі ў клетку, падбіваючы пры гэтым наском туфелькі круглыя каменьчыкі. Адчайна галёкаючы, хлапчукі ў тупіковым завулку ганяюць мяч.

У некаторых дамках адчынены фортачкі, нават вокны: нясецца адтуль патэфонная музыка, зыкі песень. Вуліца Грушаўская адзначае выхадны дзень.

Касцюшка чуе за сабой голас:

— Пастой!

Ён спыняецца, з недаўменнем глядзіць, як подскакам прыбліжаецца да яго каравы, зморшчаны, з зарослым густой шчэццю тварам чалавечак.

Позна здагадваецца Касцюшка, што незнаёмы ў дыміну п'яны і ад яго можна ўсяго чакаць. Пакуль гэта да яго даходзіць, здараецца бяда: каравы чалавечак дзіка вішчыць, падскоквае, б'е Касцюшку, размахнуўшыся, кулаком у зубы.

З рассечанай верхняй губы пырскае кроў. Касцюшка заціскае яе рукой, стаіць не зварухнуўшыся. У яго нават думка не ўзнікае даць нягодніку здачы.

Саша ўшчэнт абражана.

— Дагані і сатры п'янюгу ў парашок! — загадвае Касцюшку.— Нельга такому падонку даравацъ. Які ты будзеш пасля гэтага мужчына?

Тым часам Касцюшка даганяць п'янага не хоча. Не ў яго правілах біцца з п'янымі.

Ён падыходзіць да воданапорнай калонкі, абмывае скрываўленыя вусны. Рассечаная губа распухла, уздулася. Праводзіць Сашу з такой губой не выпадае, і, развітаўшыся з ёй, Касцюшка брыдзе ў інтэрнат. Адчувае: нізка ўпалі ягоныя акцыі ў Сашыных вачах. Няхай! Трэба было адразу даць здачы п'янаму дурню. Не знайшоўся ў патрэбны момант, а даганяць брыдка...

Мінае тыдзень, другі. Саша пра сябе не нагадвае. Раней часта звaніла ў рэдакцыю, паведамляла, якое ідзе кіно, дамаўлялася пра сустрэчу. Цяпер маўчыць.

Касцюшка таксама зацінаецца. Не звоніць Сашы на работу і не ідзе на Грушаўскую вуліцу.

Пачынаюцца кандыдацкія экзамены.

Касцюшку за май — чэрвень трэба здаць філасофію і нямецкую мову. З галавой улягае ён у работу.

Наконт рэдакцыі Касцюшка рашэнне прыняў: будзе развітвацца з рэдакцыяй. Трэба рабіць нешта адно: або, здаўшы экзамены, пісаць дысертацыю, або ездзіць па камандзіроўках. Але месяц-другі ён яшчэ ў газеце папрацуе, пойдзе ў канцы лета ў адпачынак і ў рэдакцыю болей не вернецца.

Цяпер ён кожнае раніцы прыходзіць у бібліятэку. Пакрыўся зялёным лісцем парк паблізу бібліятэкі, на клумбах жанчыны садзяць кветкі. Ён правільна зрабіў, што асноўныя філасофскія працы класікаў марксізму зацікаўлена вывучыў у студэнцкія гады. Цяпер ад гэтага палёгка: мае магчымасць пераключыцца на іншыя, меншыя аб'ёмам працы, некаторыя з якіх раней не чытаў.

Ён няшчасны завочнік, таму цвёрда ведае: з навукі трэба браць самае галоўнае. Квінтэсенцыю. Толькі найбольш грунтоўныя і глыбокія думкі застаюцца ў памяці.

Касцюшка набывае некалькі агульных сшыткаў і канспектуе кожны артыкул, які лічыцца ў экзаменацыйным спісе. Праўдзівей — пераказвае яго сутнасць. Такі спосаб дае магчымасць актыўна запамінаць матэрыял, бо, перш чым запісаць на паперу, Касцюшка яго абдумвае.

Перачытваючы Леніна, Касцюшка натыкаецца на перапіску правадыра з рэвалюцыянеркай Інесай Арманд, змешчаную ў адным з перадапошніх тамоў ягонага Збору твораў. Касцюшка дужа зацікаўліваецца зместам перапіскі. Інеса Арманд напісала брашуру, у якой прапаведуе свабоду кахання ў новым грамадстве, якое народзіцца ў выпадку перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі. Ленін такой свабоды не бачыць. Праўдзівей, ён за свабоду, за тое, каб людзі жаніліся, выходзілі замуж толькі па каханні. Але ў той жа час ён рашуча выступае супраць неперабарлівага, паспешлівага пачуцця, якое прыводзіць да часовых, легкадумных, нетрывалых сувязей. Бо ў выніку і такіх сувязей нараджаюцца дзеці, якіх трэба карміць, апранаць, выхоўваць...

Як заўсёды, довады ў Леніна важкія і доказныя.

Два, тры тыдні, не разгінаючы спіны, сядзіць Касцюшка ў Ленінскай бібліятэцы. Спісана пяць ці нават шэсць тоўстых агульных сшыткаў. Вечарам перад сном ён перачытвае канспекты.

Камісія, якая прымае экзамены, паважаная. Пяць чалавек, усе кандыдаты і дактары філасофскіх навук. Аднаго з дактароў філасофіі, камлюкаватага, дужага, з прыемным шырокім тварам Дарафеенку Касцюшка ведае. Слухаў ягоныя лекцыі перад сканчэннем універсітэта. Талкова чытаў лекцыі Дарафеенка. Касцюшка сам не спадзяваўся, што вядомыя літаратурныя крытыкі Бялінскі, Дабралюбаў, Чарнышэўскі, у кнігі якіх ён сяды-тады заглядваў, такія вялікія філосафы. Але Дарафеенка гэта выдатна давёў. Назубок ведае рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў.

Касцюшка ідзе на экзамен у ліку першых. Зусім не хвалюецца: асноўны матэрыял ведае, на дробязі можна на звяртаць увагі. Яму як аднаму з першых, хто падыходзіць да экзаменатараў, і пытанні трапляюцца грунтоўныя, якіх проста нельга не ведаць на экзамене па філасофіі.

Перамога поўная: пяцёрка!

Алег Мардасаў, які спецыялізуецца па гісторыі філасофіі і ўсю зіму і вясну пратырчэў у бібліятэцы, атрымлівае чацвёрку. Не здолеў Алег галоўнае адсеяць ад другараднага, знайсці пункты апоры, арыенціры, таму ледзь не патануў у моры матэрыялу.

Экзамен па нямецкай мове, на думку Касцюшкі, цяжкасці не ўяўляе. Ён слаба да яго рыхтуецца і па гэтай прычыне атрымлівае ад старой выкладчыцы ў прысутнасці другіх аспірантаў строгую вымову. Яна, вядома, бачыць, што газетны тэкст ён чытае больш-менш добра, вольна адчувае ў раздзелах «Вернападданага», якія праштудзіраваў са слоўнікам, але ў той жа час граматыкай не займаецца і пісьменна не пабудуе нават самы просты сказ.

— У вас пасіўныя адносіны да замежнай мовы,— справядліва гаворыць выкладчыца.— Вы не набываеце новыя веды, а губляеце тыя, што мелі...

Каб не псаваць Касцюшку фармуляр, адзнаку выкладчыца ставіць высокую.

Квітнее, буяе зеляніна.

За беганінай, мітуснёй, экзаменамі Касцюшка не заўважыў, што вясна мінула, убіраецца ў сілу лета. Дый заўважыць цяжка. У горадзе не кігікаюць кнігаўкі, не спявае салавей, зязюля не кукуе. Нават засеянага зоркамі неба над галавой не ўбачыш: перашкаджаюць вулічныя ліхтары.

Касцюшка прадзяжурыў у рэдакцыі ноч, а пад раніцу, калі газету падпісалі ў свет, рэдактар, зважаючы, што трамваі яшчэ не ходзяць, прыхапіў дзяжурных у машыну. Шафёр спачатку вязе рэдактара за горад, на дачу.

Вось толькі цяпер бачыць Касцюшка ў хісткай перадсвітальнай шэрані бярозы наўзбоч пыльнай калдобістай дарогі, купы дубоў на ўзлессі, зялёную лаву высокага жыта.

Ные душа.

Вечарам Касцюшка ідзе да Сашы. Месяц у яе не быў.

У пакойчыку ён не застаецца, просіць яе прайсціся.

Сашын катэджык амаль на ўскраіне Грушаўскай вуліцы. Яны праходзяць некалькі гоняў і выбіраюцца на засеянае жытам поле.

— У мяне пуцёўка,— гаворыць Саша.— Праз тыдзень паеду.

— Куды?

Нібы ўзрадаваная яго пытаннем, яна таропка расказвае. Фактычна ў яе не пуцёўка, а курсоўка. Паедзе ў Крым, у Ялту. Сталавацца будзе ў пансіянаце, а кватэру, праўдзівей кажучы, ложак, знайсці не цяжка. Ёсць знаёмая гаспадыня. Калі ехаць на поўдзень, то толькі цяпер. У сярэдзіне лета залішне горача.

Саша як бы запрашае Касцюшку з сабой. Яна пажвавела, павесялела. Толькі што Касцюшка адкажа? Калі тады, зімой, першы раз ішоў да яе, ні аб чым сур'ёзным не думаў. Быў абражаны другой жанчынай, у Сашы шукаў лекаў. Яна сапраўды вылечыла яго, вярнула веру, што ён не горшы за іншых мужчын. Чым ён ёй заплаціць? Каханнем не можа. Не палюбіў, не паспеў ён палюбіць Сашу. Хоць яна гэтага варта.

— Мне адпачынак не дадуць,— засмучана адказвае Касцюшка.— Графік зацверджаны. Мая чарга ў верасні.

— Я папрашу дзядзьку...

Вось яно як! Ён, значыць, памыляўся, калі думаў, што Саша таксама рада хоць на час прыгрэцца каля ягонага пляча.

— Будзе позва ў суд. На развод. Трэба ехаць. Тры разы я адкладваў.

Саша змаўкае. Усе дні іхняга знаёмства яна настойліва гаварыла, што ён павінен развітацца з Маргарытай. Цяпер як бы засмучаецца. Чаму?

Гадзіну ці болей вандруюць яны між лавы жыта, але добрай гаворкі няма. Касцюшка не падрыхтаваны да такой гаворкі. Саша мяккая, шчырая, гаспадыня адменная, яму было добра з ёй усе месяцы іхняга знаёмства, але ён ніколі не думаў пра яе як пра жонку.

Назаўтра нечаканасць. З вечара дзьме халодны сіберны вецер, насоўваюцца на горад з поўначы свінцова-чорныя хмары. Ноччу ідзе снег. Ён валіць густым мокрым хлоп’ем некалькі гадзін, зрабіўшы да раніцы зялёны горад прывідным, не падобным на самога сябе. Ад цяжару снегу абламваюцца галіны на шмат якіх таполях у скверы каля чыгункі. Дык гэта дрэвы, яны маюць перад снегам, ветрам сілу і моц. Як адчувае сябе пад снегам жыта на полі, якое сама выходзіць у колас? Бязладдзе, сканчэнне свету...

Тры дні мокрадзь, слізгота, але вецер сціхае, хмары рассоўваюцца, зноў свеціць, грэе сонца. Абламаныя галіны таполяў са сквера прыбіраюць. Лета зноў набірае сілу.

Аспіранты раз’язджаюцца. Як і ў студэнтаў, іхнія канікулы — два месяцы. Толькі, як у выкладчыкаў, называюцца адпачынкам.

Інтэрнат пусцее. Два ці тры дні Касцюшка жыве ў пакоі толькі з Майсеем. Вечарамі, пакуль заснуць, яны перагаворваюцца.

— Мы самаахвярнае пакаленне,— гаворыць Майсей.— Жывём для наступных пакаленняў. Угнойваем для іх глебу...

Падобныя словы Касцюшка чуў ад намесніка рэдактара абласной газеты, толькі не хочацца з імі згаджацца.

Майсей мусіць уладкоўвацца на работу. Нават з дадаткам, якога дамогся, ягоны аспіранцкі тэрмін скончыўся. Відаць, нават стыпендыі не палучае. Раніцай, перш чым выйсці з

пакоя, Майсей корпаецца ў кішэнях, старанна пералічвае медзякі і скамечаныя рублёўкі.

Касцюшка не вытрымлівае: дае Майсею ў якасці пазыкі дзве сотні, у кафэ на абед запрашае.

У кафэ, за столікам каля акна, сядзіць з бутэлькай піва загадчык аспірантуры Савоська, не зводзіць самотных вачэй з касіркі, што безупынна круціць ручку грымучага касавага апарата. Толькі тут Касцюшка заўважае, што стала касіркай афіцыянтка, у якую закаханы Савоська, пайшла на павышэнне. Прыгажуня спрытна выбівае чэкі, дае здачы, адорваючы кожнага, хто завітаў у кафэ, светлай чароўнай усмешкай.

Акрамя звычайных страў, што падаюцца на абед, Касцюшка заказвае яшчэ закуску і бутэльку каньяку. Трэба калі-небудзь і бедным аспірантам разгарнуцца.

П'янеюць Касцюшка з Майсеем надзіва хутка. Відаць, таму, што выпіваюць не часта і харчуюцца на ляту, як прыйдзецца.

Майсей паведамляе:

— Трэба ехаць у Маскву. Да нарачонай. Не хочацца ехаць. Хоць уцякай. Толькі куды ўцячэш?..

Ён раптам кладзе галаву на рукі, на стол і пачынае нячутна плакаць, толькі ўздрыгвае худая, трохі сутулаватая спіна.

Цяжкія мужчынскія слёзы. Касцюшка не суцяшае Майсея. Ні аб чым не распытвае. Даўно адчувае: жыве ён з жонкай, з яе славутымі бацькамі дрэнна.

Касцюшка наважыў загадзя паклапаціцца пра зіму. Купіў на базары дарагі каракулевы каўнер, разведаў адрас краўца, панёс перашыць сваё даўгаполае паліто з адвіслымі лацканамі.

Кравец, стары, павольны ў рухах яўрэй, з перавязанымі ніткай акулярамі на тоўстым, буйным носе, доўга здымае мерку, круціць, верціць Касцюшкам, нарэшце, грэбліва падціскаючы губы, гаворыць:

— З дрэннага матэрыялу тваё паліто. Не сукно, а бляха. Каўнер я прышыю, полы падкарачу. Выйдзе лапсярдак з каўняром.

Касцюшка пярэчыць:

— Чаму дрэнны матэрыял? Метр каштуе семсот рублёў.

— За шынельнае сукно семсот рублёў? — выгуквае абражаны кравец.— Які злодзей гэтак цябе надуў, хлопец? Цана твайму сукну ў базарны дзень сто пяцьдзясят рублёў за метр. Красная цана...

Касцюшка прыкусвае язык. Сукно на паліто купляла Маргарыта. Ездзіла спецыяльна ў Гомель. Гэта было два гады назад, і, значыць, ужо тады трэба былі Маргарыце грошы для патайных выдаткаў...

Праз дзень прыязджае ў Мінск з надпрыпяцкага горада Саша Залуцкі, новы, прызначаны на вобласць карэспандэнт газеты, у якой працуе Касцюшка. Зрэшты, ён нямала паспрыяў, каб іменна Залуцкага прызначылі карэспандэнтам.

Інтэрнат зусім пусты. Касцюшка запрашае Залуцкага нанач да сябе.

Круглатвары, з жорсткімі чорнымі вачамі Залуцкі для сваіх трыццаці гадоў, бадай, залішне таўставаты. Правая нерухомая рука вісіць, як бізун: на вайне куля карэспандэнта не кранула, руку страціў у мірны час, бо вельмі няўрымсліва насіўся на матацыкле і трапіў у аварыю.

У душы Касцюшка недалюблівае Залуцкага: ён грубы, выбуховы, залішне дае волю пачуццям, таму ніколі нельга з пэўнасцю сказаць, як павядзе сябе ў наступную хвіліну. І яшчэ залішне любіць Саша чарку, часта да яе прыкладваецца.

Але ёсць у Залуцкага іншыя якасці, дзякуючы якім ён лёгка знаходзіць сяброў. Ён шчыры, таварыскі, не церпіць фальшу і калі да каго прыхінаецца, то ўсёй душой.

Галоўнае — піша Залуцкі нядрэнна. Для карэспандэнцый, нарысаў знаходзіць адмысловыя факты, стараецца зграбна апрацаваць матэрыял.

Калі Касцюшка працаваў у абласной газеце, то вельмі зблізіўся з Залуцкім.

Залуцкі расказвае пра абласную рэдакцыю, надпрыпяцкі горад, з якім Касцюшка хутка год як разлучыўся. Справы ў рэдакцыі, у горадзе звычайныя, толькі вось людзі, накшталт ранейшага карэспандэнта, месца якога цяпер заняў Залуцкі, точаць на яго зубы.

Праз некалькі дзён Касцюшка сам едзе ў горад на Прыпяці. Прыйшла павестка з абласнога суда, чацвёртая па ліку. На

гэты раз з папярэджаннем наконт штрафу ў выпадку няяўкі адказчыка ў суд.

Без Касцюшкі вырасла высокая трава на лугах, сенажацях. На большай частцы яна ўжо пакошана, згрэбена ў копы, стажкі, якіх шмат стаіць на шырокім пойменным надпрыпяцкім лузе. Марудна і млява цячэ Прыпяць — як і год назад, як і пяць. Высока ў небе свеціць летняе сонца: неба тут, на Палессі, у параўнанні з Мінскам, вышэйшае, большае адчуванне шырыні, разлегласці, прастору.

У горад на Прыпяці Касцюшка прыязджае ў другой палавіне дня. Ён не хоча ісці ў рэдакцыю, пакуль не скончыцца судовая справа. Хоць ведае, што месца ў гасцініцы не знойдзе.

Касцюшка кіруе ў парк і ўпершыню бачыць размешчанае на самым беразе Прыпяці кафэ.

За год горад не змяніўся. Тыя самыя брукаваныя вулкі з прыземістымі каменнымі дамкамі, на другія паверхі якіх вядуць знадворныя драўляныя лесвічкі. Разлеглая плошча ў цэнтры з прымкнутымі да яе гандлёвымі радамі: раней у іх размяшчаліся купецкія лабазы. Усё гэта ахінаюць пакатыя шэра-зялёныя горы з сотамі дамкоў, хацін, раскіданых па касагоры.

Найбольш прывабна за Прыпяццю, зноў і зноў звяртае Касцюшка позірк на сенажаці. Аж да спавітага сінявата-белай наміткай смугі далёкага лесу цягнецца лугавы прастор, застаўлены бясконцымі стажкамі. Справа ад шашы-брусчаткі, па якой Касцюшка прыехаў у горад, вёсачка з цёмнымі, абвеянымі вятрамі хаткамі. Узабралася вёсачка на самы ўзлобак пагорка, схіл якога нават трава не пакрывае. Злева вісіць над ракой ажурная бязважка-лёгкая дужка чыгуначнага моста.

Летняя веранда кафэ прылягае да самай ракі. Тут людна. Наведвальнікі прыходзяць, садзяцца за маленькія столікі, выпіваюць кухаль піва, шклянку віна, похапкам з’ядаюць талерку баршчу, катлету і паспешліва знікаюць. Гэтак жыў і Касцюшка. Вечна спяшаўся. Шэсць гадоў працаваў у тутэйшай рэдакцыі, хадзіў па вуліцах, завітваў у гэты самы парк і нават не заўважыў, што на беразе Прыпяці ёсць летняе кафэ.

Прыехаўшы ў рэдакцыю, здаўшы матэрыялы, Касцюшка бег на злом галавы да часовага моста праз Прыпяць, дзе льга было ўладкавацца ў кузаў паўтаратонкі, даехаць да вакзала ў чыгуначным гарадку Клінску або, калі пашэнціць, нават да свайго мястэчка.

Вядома, за час работы ў рэдакцыі ён два ці тры разы быў у рэстаране, размешчаным таксама блізка ад Прыпяці, запрашаў туды таварышаў па рабоце. Яны выпівалі, размаўлялі, прыводзілі яго да моста. Ён заўсёды шкадаваў часу, не хацеў яго марна траціць, спяшаў вярнуцца ў мястэчка, да сваіх кніг, заняткаў, абавязкаў карэспандэнта, а пазней — да Маргарыты.

Не шмат ён дасягнуў сваёй паспешлівасцю, няўрымслівасцю. У горад, дзе прайшлі маладыя гады, прыехаў разводзіцца з Маргарытай, развітвацца з першым і пакуль што адзіным у ягоным жыцці каханнем.

Ён цяпер спакойны. Маргарыты для яго болей няма. Ён ад яе нічога не хоча, не чакае і ні на што не спадзяецца. Можа нават уявіць, што яе хто-небудзь абнімае, цалуе. Адчаю, хвалявання такія ўяўныя малюнкі не выклікаюць — толькі ціхі смутак.

Сярод тых, хто паабедаў, кіруе да выхаду, як бы мільгае раптам знаёмая постаць. Так і ёсць, Касцюшка бачыць Маню Варанецкую, рослую незамужнюю настаўніцу гадоў трыццаці. Маня жыве ў родным мястэчку разам са сваёй сястрой Зінаідай, якая таксама працуе настаўніцай, і маці. Да замужжа Маргарыта адзін час кватаравала ў Варанецкіх. Здаецца, кватаруе і цяпер.

Але Касцюшку гэта асабліва не займае. Ён успамінае другое. Пасля пятага класа яго ўзнагародзілі пахвальнай граматай, паслалі на экскурсію ў Мінск. Іхнюю раённую групу ўзначальвала Маня Варанецкая. Вучылася тады ў восьмым ці ў дзявятым класе. Кіраўніцай Маня аказалася надзвычай клапатлівай. Пільна сачыла, каб усе былі сытыя, нічога не згубілі, не згубіліся ў вялікім горадзе самі. Такім чынам разам з Маняй Касцюшка бачыў яшчэ даваенны Мінск, напалавіну драўляны, зусім не падобны на цяперашні.

Касцюшка пакідае веранду кафэ, калі на Прыпяці пачынаюць запальвацца першыя бакены. Планы Касцюшкі мяня-

юцца. Ён наважвае ісці ў рэдакцыю: там цяпер нікога няма, ніхто ні аб чым не будзе яго распытваць. Ён папросіцца ў вартаўніка пераспаць ноч на канапе. Павінен пусціць знаёмы вартаўнік.

Пры выхадзе з парку Касцюшка натыкаецца на Маню Варанецкую. Яе шырокі, густа засеяны вяснушкамі твар як бы збянтэжаны.

— Ты бачыў Маргарыту? — усхвалявана пытае.

— Не.

Маня расчаравана ўздыхае.

— Пойдзем да мяне. Да маіх гаспадароў. Я жыву ў іх, калі прыязджаю ў інстытут на сесію. Хата вялікая. Я табе на сене пасцялю, на гарышчы. Дом тут блізка, ля моста.

Касцюшка згаджаецца. Адчувае: Маня не проста заклікае на начлег. Штосьці недагаворвае. Можа, нават Маргарыта спынілася ў тым самым доме. Калі так, то нават лепш. Дамовіцца з Маргарытай. Каб не гаварыць лішняга, непатрэбнага на судзе.

Дамок, у двор якога ўваходзіць Маня, перадапошні перад мостам, знаёмы з выгляду. Колькі павандраваў тут Касцюшка, чакаючы спадарожных паўтаратонак! Не думаў ён тады, што прыйдзецца ў гэтым дамку начаваць перад тым, як суд скасуе яго няўдалы шлюб з Маргарытай.

Амаль насупраць двара, у які зайшоў Касцюшка, падымаецца па касагоры вуліца Пралетарская, на якой ён таксама быў. У падобным на гэты дамку Маргарыта кватаравала. Яна запрасіла яго да сябе, пачаставала, і ён застаўся ў яе начаваць. Яна паслала яму пасцель у бакоўцы, на тапчанчыку, а сама доўга да яго не ішла. Нібы аб нечым раздумвала, наўмысна бавячыся з гаспадарамі. Калі гэта было? Болей за чатыры гады назад, вясной, у красавіку.

Маня госця ў дом не вядзе. У сенечках паказвае на прыстаўленую да сцяны лесвіцу. Па ёй Касцюшка падымаецца на гарышча.

На гарышчы досыць светла, бо ёсць акенечка, з якога якраз відаць Пралетарская вуліца. Разаслана сена, прынесена падушка і коўдра-дзяружка.

Касцюшка распранаецца, кладзецца спаць. Ён ужо засынае, калі чуе: лесвіца злёгку парыпвае. Нехта па ёй падымаецца. Ён

расплюшчвае вочы і ў хісткім паўзмроку бачыць Маргарыту. Яна, відаць, чакае, што ён што-небудзь скажа. Але ён маўчыць, і яна нясмела каля яго прысаджваецца.

— Я бачыла цябе ў кафэ,— ціха гаворыць Маргарыта.— Ты сядзеў такі задуменны, прыгожы. Я любавалася табой, вачэй не магла адарваць. Дзе ты купіў такую сарочку? Яна табе вельмі да твару.

— Ты што — першы раз мяне ўбачыла?

— Ты паправіўся, пасвятлеў. Раней быў худы: скура ды косці.

— Дрэнна ты карміла.

Маргарыта пагладжвае яго па валасах. Ён сапраўды цяпер вельмі ёй падабаецца. Моцны, прыгожы. Яна раней лічыла яго нерашучым, слабавольным хлюпікам. Ён, выходзіць, зусім не такі...

Маргарыта чакае, што ён запросіць прылегчы побач. Але ён маўчыць. Яна перарывае маўчанне першая:

— Скажы што-небудзь.

— Не гавары лішняга на судзе. Дай развод. Жыць з табой не буду. Бачыш сама.

— Бачу,— яна ўсхліпвае, устае, падаецца прэч.— Дам развод,— гаворыць ужо на лесвіцы.

Назаўтра яны ідуць у суд. На вуліцы сустракаюць Маню. Яна паспела збегаць на базар, нясе ў авосьцы цыбулю, раннія агуркі... Маня ім усміхаецца, відаць, рашае, што Сяргей з Маргарытай памірыліся, паладзілі. Кожны б так рашыў. Ідуць па падмеценым гарадскім тратуары муж з жонкай, абое добра апрануты, маладыя, прыгожыя, спакойна, нават добразычліва між сабой размаўляюць.

Абласны суд недалёка ад крытага рынку, у аблезлым, са слядамі апалай тынкоўкі будынку. Унутраны выгляд суда нават горшы, чым знешні: змрочны доўгі калідор, пакой, у якім ідзе пасяджэнне, цёмны, брудны, з абшарпанымі сценамі.

«Суд ідзе!»

Усе ўстаюць.

Людзей у пакоі няшмат. Відаць, толькі тыя, якія прыйшлі вырашаць уласныя справы. На ўзвышэнні за сталом суддзя — немаладая жанчына са стомленым цемнаватым тварам —

і два засядацелі, трохі старэйшыя за Касцюшку хлопцы, мяркуючы па вопратцы — рабочыя.

Касцюшка адказвае коратка: просіць высокі суд развясці яго з былой жонкай, паколькі шлюб фактычна распаўся і ён не збіраецца яго аднаўляць.

Гэта ж гаворыць Маргарыта.

— Чаму вы разводзіцеся? — пытае ў Маргарыты суддзя.

— Я палюбіла другога.

Суддзя схамянулася, тарапліва апусціла вочы ў паперы. Хлопцы-засядацелі, якія да гэтага ляніва пазяхалі, усхапіліся, з цікавасцю глядзяць на Маргарыту.

Жанчына-суддзя вопытная ў разводных справах, небяспечных пытанняў болей не задае. Пытае: ці згодзен Касцюшка пакінуць малалетняга сына на выхаванне маці?

Маргарыта адвезла сына ў Міхалавічы да бацькоў. Наўрад ці будзе яго выхоўваць. Але так ці іначай дзяцей пакідаюць маці. Бліжэй дзеці да маці. Таму Касцюшка адказвае згодай.

Цяпер пытанне да Маргарыты. Ці мае яна маёмасныя, фінансавыя прэтэнзіі да былога мужа? Не, Маргарыта не мае такіх прэтэнзій. Усё падзялілі, як разыходзіліся. Грошы на ўтрыманне сына былы муж прысылае.

Суд адбывае на закрытую нараду. Нешта залішне доўга цягнецца гэтая нарада. Ледзь не цэлую гадзіну. Нарэшце суддзі выныраюць з бакавога пакойчыка, і стомленая, чарнатварая жанчына-суддзя пачынае чытаць прыгавор. У прыгаворы столькі нагрувашчана пустых казённых слоў, што зусім нельга зразумець, чаму Касцюшка і Маргарыта разыходзяцца. Суддзя яўна бярэ бок Маргарыты: у тым, што чытае, нават намёку няма, што сям’я распалася па яе віне.

Горад над Прыпяццю не надта вялікі. Былыя муж і жонка ідуць з суда, прыкідваючы, дзе б перакусіць, і зноў спатыкаюць Маню Варанецкую. Яна, відаць, ідзе ў педінстытут, на кансультацыю.

— Нас развялі,— паведамляе Касцюшка.

У Мані камянее твар. Яна настолькі збянтэжана, разгублена, што не можа гэтага ўтаіць. Махае рукой і, нічога не сказаўшы, ідзе прэч.

У някідкай, з бруднай падлогай чайной былыя муж і жонка абедаюць, нават выпіваюць, пасля чаго Маргарыта прапануе пакупацца.

Калісьці марыў Касцюшка, што яны з Маргарытай паедуць на поўдзень, дзе растуць пальмы, кіпарысы, дзе плешчацца Чорнае мора. Будуць купацца, любавацца бязмежжам вады, неба, плаваць на сіняй яхце пад белым ветразем. Не паедуць яны з Маргарытай да мора! Не марыла яна пра мора, белыя ветразі і не дачакалася часу, калі б яны змаглі гэта зрабіць...

Цёплы, сонечны дзень. Прыпяць ззяе цёмна-блакітным пераліўчатым люстрам.

Касцюшка з Маргарытай ідуць да моста, пераходзяць па ім на левы бок Прыпяці, кіруюць на пляж. Дзень будні, і людзей каля ракі не так многа. У Касцюшкі толькі тыя трусы, што на ім. Зрэшты, гэта не бяда, як-небудзь высушыць ён свае трусы.

Ні Касцюшка, ні Маргарыта плаваць не ўмеюць. Але яны выпілі, таму забылі пра асцярогу. Абое адважна кідаюцца ў раку. Праз хвіліну да Касцюшкі даносіцца прарэзлівы, спалоханы Маргарыцін голас:

— Сярожа, ратуй!

Маргарыта парадкам адплыла ад берага. Яна якраз там, дзе пачынаецца глыбіня. Мокрая галава Маргарыты то паяўляецца, то знікае пад вадой.

Не раздумваючы, Касцюшка кідаецца на дапамогу. Бязладна б'ючы рукамі, нагамі па вадзе, некалькі метраў праплывае. Але адразу адчувае: сілы яго пакідаюць. Пачынае тануць сам.

Няўдалых купальшчыкаў, аднак, заўважаюць. Да Маргарыты імкліва нясецца дзяжурная лодка-маторка. У ёй два маладыя хлопцы ў матроскіх цяльняшках. Яшчэ хвіліна, і хлапчына падхоплівае Маргарыту, уцягвае ў лодку. Касцюшка, нацяўшыся, боўтаючыся ў вадзе, выбіраецца на мелкаводдзе сам...

Начаваць Касцюшка ідзе ў рэдакцыю.

Ён спачатку дамаўляецца са старым яўрэем-вартаўніком, трохі глухаватым, што той адчыніць яму дзверы роўна ў дванаццаць гадзін ночы. Затым кіруе на вуліцу.

Самотны, развітальны настрой агортвае Касцюшку. Ён нядрэнна пражыў у гэтым горадзе: пісаў, друкаваўся, рэдакцыя адпускала яго на вучобу ва ўніверсітэт. Цяпер яму не часта прыйдзецца бываць у горадзе над Прыпяццю.

Шкада Касцюшку і Маргарыты. Мінулы дзень, які яны правялі разам, яе пакорлівасць, тое, што яны не сварыліся, не абражалі адно другога, паказвае, што вось гэтак мірна, ціха яны маглі жыць і ў будучым.

Аднак Касцюшка не хоча такога жыцця. У ім не будзе галоўнага: адчування радасці, самаахвярнасці, прыгожай тайны кахання, якое нібы выбірае людзей адно для другога, моцна, неразлучна звязвае, і пра што, калі нават каханне прытухне, можна ўспамінаць да скону дзён.

Касцюшка і раней дапускаў, што Маргарыта зналася з другімі мужчынамі. Само па сабе гэта не мела вялікага значэння. Гэта было да яго, а значыць, у нейкім іншым жыцці, да якога яму не было ніякай справы.

У гэтым мітуслівым, поўным сутычак, падазронасці, нянавісці свеце кожнаму чалавеку трэба другі чалавек, да якога можна прыйсці, расказаць аб згрызотах, паспавядацца душой. Чалавек гэты ўсё зразумее, суцешыць, сцішыць боль і пакуту. Такой павінна быць жонка для мужа і муж для жонкі!..

Вандруе Касцюшка па горадзе ў журблівым, самотным настроі. З далёкага, апошняга перад вайной года была для яго Маргарыта казкай, недасяжнай зоркай. Калі ён думаў пра яе, у грудзях нарастала асаблівае шчымліва-радаснае пачуццё. Толькі яна магла выклікаць гэты святочны незабыўны настрой, які межаваў з натхненнем. Ён пранёс думкі пра Маргарыту праз вайну, ростані, памятаў усе мясціны, дзе калі-небудзь з ёй сустракаўся. Над ім мелі ўладу лавачка на Вакзальнай вуліцы, дзе за тыдзень да вайны ён упершыню сядзеў з Маргарытай, местачковыя хаты, дзе яна кватаравала. Калі ён праходзіў міма гэтай лавачкі пад вярбой, знаёмых хат, у памяці міжвольна ўзнікаў вобраз Маргарыты.

Цяпер тайна знікла. Цяпер ён ведае, што і тады, калі Маргарыта дала яму пачытаць кнігу «Мужчына і жанчына», калі прахаджвалася з ім, нават тады, калі выйшла за яго замуж, яна лёгка, без асаблівых дакораў сумлення знаёмілася,

сустракалася, уступала ў сувязь з другімі мужчынамі. Яна, значыць, можа так. Ён не можа. Таму хоць знешне Маргарыта тая ж, тыя ў яе рукі, ногі, твар, пастава, Касцюшку яна непатрэбна. Казка скончылася. Ніякіх узвышаных, чароўных пачуццяў Маргарыта болей не выклікае...

Ён наогул дзівак, летуценнік. Усё жыццё яго цягне да асаблівага, выключнага, чаго, можа, наогул няма ў жыцці. У мястэчку і тут, у горадзе, ён любіць не ўсё, а толькі асобныя мясціны, якія чамусьці асабліва западаюць у душу. Любіць ён вось гэтую цэнтральную вуліцу горада, ахутаную вэлюмам шэрага паўзмроку. Ноч хавае ад позірку абшарпаныя сцены некалі белых дамкоў, іх вузкія дворыкі, таямнічымі, асаблівымі здаюцца рады тапаляў з абрэзанымі кронамі.

Колькі разоў крочыў Касцюшка вось гэтай апусцелай начной вуліцай да рэдакцыі, якая давала яму начлег. Цягнік прыбываў у Клінск гадзін у адзінаццаць. Яшчэ гадзіну ён траціў, каб на якой-небудзь выпадковай паўтаратонцы дабрацца да горада над Прыпяццю. Тут, у горадзе, рэдакцыя была яму родным домам. Ён любіць яе апусцелыя, прыціхлыя кабінеты, бо, бадай, у кожным з іх, паклаўшы пад галаў падшыўку газеты, акрыўшыся паліто, ён спаў на канапе, на стале або проста на падлозе.

Вярнуўшыся ў рэдакцыю, Касцюшка застае там Захара Гымзу, самага, бадай, блізкага чалавека з усёй газетнай грамады. Лёс літасцівы да яго: адзіноты ў гэтую ноч не будзе. Шырокі, тоўсты, з круглым безвалосым тварам, на якім заўсёды насмешліва паблісквацоь татарскія вочы-прорэзкі, Захар абслугоўвае суседні з былым Касцюшкавым «куст», у які ўваходзяць паўднёва-прыпяцкія раёны. Наогул, газета мае толькі двух уласных карэспандэнтаў, па гэтай прычыне Касцюшка сутыкаўся з Гымзам не толькі ў рэдакцыі, на розных нарадах і пасяджэннях, але і на дарогах ягоных раёнаў. Бо газетчык Захар добры, вынаходлівы, але піша не вельмі выдатна. Таму рэдакцыя не раз пасылала яму на дапамогу Касцюшку.

Захаравы раёны — жытніца вобласці. Газета ахвотна друкуе адтуль матэрыялы. Раёны гэтыя першыя пачынаюць хлебанарыхтоўкі і першыя іх заканчваюць. Газета прысвячае

звычайна падборкі або нават цэлыя палосы гэтым важным сельскагаспадарчым кампаніям. Звычайна ў час такіх кампаній Касцюшку і накіроўвалі на дапамогу Гымзу.

Яны з Гымзам нямала павандравалі па дарогах запрыпяцкіх раёнаў, шмат перагаварылі, расказалі адзін другому за гэты час, добра адзін другога вывучылі. Здараліся з імі розныя прыгоды, часам нават смешныя. І вось пасля года расстання сябры-таварышы зноў сустракаюцца.

Захар ведае, што быў суд і Сяргей развёўся з Маргарытай. Як ён да гэтага ставіцца? Звычайна ставіцца. Ён адразу бачыў, што з Маргарыты добрай жонкі не будзе. Чаму не сказаў? Хіба так проста скажаш? Каб ён сказаў хоць палавіну таго, што думаў, даўно б Касцюшка лічыў яго за ворага.

— Не бядуй,— суцяшае Захар.— Халастым не застанешся. Жаночага насення хапае...

Не рана ўжо: гадзіна ночы. Сябры разыходзяцца па пакоях. У апошні год работы Касцюшка начаваў у кабінеце адказнага рэдактара, размешчаным на другім паверсе. Ён і цяпер ідзе туды. У рэдактара вельмі прыдатная для начлегу канапа. Але і невыгоды ёсць. На сцяне, якраз над канапай, тахкае медным маятнікам старамодны гадзіннік у вялікай драўлянай скрынцы. Гучным разлеглым звонам адзначае гадзіннік кожную чвэрць гадзіны, і пад такую музыку не так лёгка заснуць. Толькі закрыеш вочы, пачнеш правальвацца ў забыццё, а тут звон.

Касцюшка, калі праводзіць ночы ў рэдактарскім кабінеце, гадзіннік спыняе, а пад раніцу пускае зноў.

На вуліцы насупраць рэдакцыі гарыць электрычны ліхтар. Ён не дасягае акон другога паверха, але ў пакоі ўсё адно светла. Можна выразна разгледзець завалены паперамі рэдактарскі стол, шафу ў кутку, шэрагі крэслаў наўзбоч сцен. Рэдакцыйныя лятучкі, нарады, усялякія іншыя пасяджэнні адбываюцца іменна тут, бо большага памяшкання рэдакцыя не мае.

Касцюшка і на гэты раз спыняе гадзіннік. Зняўшы і павесіўшы на спінку крэсла пінжак, кладзецца на канапу. Ён ведае: засне не хутка. Вельмі многае з ягонага жыцця сплялося, перакрыжавалася ў гэты дзень. Фактычна пачынаецца новы круг жыцця, і што падорыць ён Касцюшку? Ці сустрэ-

нецца на ягоным шляху жанчына, якая зразумее яго, ягоныя пакуты, стане сапраўднай сяброўкай, здольнай прайсці поруч з ім не толькі праз радасці, але і праз нягоды?

Касцюшку яшчэ не пакінулі летуценныя, рамантычныя мары. А можа, ягоная зацятасць, упартасць, засяроджанасць на адной думцы — недахоп душы? Бо сваёй будучай жонкай Касцюшка бачыць дзяўчыну прыгожую, разумную, якая для яго аднаго беражэ агонь сэрца і дзявочую цнатлівасць. Іншага ў асабістым жыцці ён не дапускае. Ягоная чэсць, мужчынскі гонар абражаны, утаптаны Маргарытай у гразь, і толькі сумленная, чыстая дзяўчына зможа ачысціць яго, вылечыць ад пакут.

Касцюшка не спіць. Думае пра сябе, сваю работу тут, у рэдакцыі. Шмат ён паездзіў, пабачыў і ведае навакольнае жыццё, якое шмат у чым разыходзіцца з ружовымі ўяўленнямі, вычытанымі з кніг. Але гэта не змяншае парывання да лепшага. Так, відаць, у кожнага чалавека. Ён удзячны рэдакцыі. Удзячны за тое, што дала магчымасць глыбей пазнаёміцца з жыццём, стаць на ногі і адчуць пад імі цвёрды грунт. Аддаўшы маладыя гады, запал газеце, ездзячы ва ўніверсітэт толькі на кароткія экзаменацыйныя сесіі летам і зімой, ён, няшчасны завочнік, адчувае сябе ў аспірантуры не намнога горш, чым студэнты стацыянара. Чаму так? Можа, таму, што найлепшая навука — жыццё.

Рэдакцыя — гэта людзі: розныя, не падобныя адзін на другога. Бадай, самы адметны ў рэдакцыі загадчык сельскагаспадарчага аддзела Вацлаў Сакольскі, у кабінеце якога начуе Гымза. Дзіўны гэты Сакольскі: ціхмяны, спакойны ў звычайных абставінах і няўрымслівы, шалёны, калі гутарка заходзіць аб рабоце.

Захару найбольш ад Сакольскага дастаецца, і тым не меней ён часцей за ўсё ідзе ў ягоны кабінет начаваць.

Сакольскі глухаваты і, можа, таму страшэнна крыклівы. Бывае, старонку за старонкай збірае ён Гымзавы допісы, спярэшчваючы іх бясконцымі праўкамі, найчасцей проста начыста перапісваючы, назапашваючы злосць на гультаяватага карэспандэнта. Па прыездзе Гымзы ў горад Сакольскі зазывае яго ў свой кабінет, даючы нарэшце волю гневу.

— Што ты тут пішаш? — адчайна лямантуе і, выхапіўшы з шуфляды стала стус рукапісаў карэспандэнта, шпурляе на падлогу. Лісткі разлятаюцца, засцілаючы ледзь не ўвесь не надта вялікі кабінет.— Дзе вывады, аналіз фактаў? Табе не ў рэдакцыі працаваць, а дзе-небудзь вартаўніком у лазні. Венікі прадаваць. Ніякай прысутнасці думкі! Безгалоўе... Дурнота!..

Сакольскі, аберуч учапіўшыся ва ўласныя, ужо радкаватыя русявыя валасы, галосіць, бегае па пакоі хвілін пяць, паступова, аднак, астываючы. Увесь гэты час Захар стаіць ля дзвярэй пакорлівы і прыніжаны.

Нягледзячы на прыпадкі істэрыі, загадчык аддзела чалавек дзелавы. Нясе ў рэдакцыі найбольшы цяжар. Дзіва няма: вобласць сельскагаспадарчая і абласная газета піша пераважна пра калгасы, саўгасы, сельскія раёны.

Насыціўшыся выглядам прыбітасці, які напускае на сябе Гымза, Сакольскі лагаднее.

— Пра рамонт трактараў у цябе што-небудзь ёсць?

— Знойдзецца, Вацлаў Сігізмундавіч,— лагодным, угодлівым голасам адказвае Захар.

— Наконт пратручвання насення?

— Пашукаем, таварыш загадчык.

Гымза весялее: час пакарання мінуў.

— Садзіся і пішы! Пойдзе адразу ў нумар.

На Касцюшку загадчык сельскагаспадарчага аддзела гэтак, як на Гымзу, не крычаў, але таксама паказваў уладу. Болей кепікамі, падколамі. У адным з матэрыялаў карову, ад якой надойваюць больш дзвюх тысяч літраў малака, Касцюшка назваў рэкардсменкай. Сакольскі ўхапіўся за памылку і дапякаў за яе карэспандэнта ледзь не цэлы год.

— У цябе што: каровы бар'еры бяруць? Скачуць у вышыню, бегаюць на дыстанцыі? Думаць трэба! Ва ўніверсітэце вучышся, а слова граматна напісаць не ўмееш.

Гымза начуе ў пакоі сельгасаддзела, бо на гэтай пазіцыі можа, відаць, лепей падрыхтавацца, каб пазбавіцца чарговага разносу Сакольскага. Завітаўшы ў пакой, Захар не кладзецца адразу спаць, а вывучае ўласныя матэрыялы загадчыка аддзела, размешчаныя па шуflядах стала ў акуратна зашнураваных, надпісаных зверху папках. Праз гадзіну-дзве За-

хар дасканала ведае, якіх матэрыялаў не хапае сельгасаддзелу. Пасля гэтага ён дастае са сваёй карэспандэнцкай сумкі адпаведныя запісы, падсоўваючы спярэшчаныя сваім разборлівым круглым почыркам лісткі пад шкло, што ляжыць на стале Сакольскага.

З гэтых запісаў Сакольскі чэрпае факты для розных надзённых карэспандэнцый, а таксама для перадавых артыкулаў, якія ён піша тры-чатыры на месяц. Пры наяўнасці такой багатай сыравіны, што ляжыць пад шклом, сэрца загадчыка сельгасаддзела лагаднее, а Захар у гэты дзень спакойна ходзіць па рэдакцыі.

Раніцай, гадзіны за дзве да пачатку работы, Захар прыходзіць у рэдактарскі кабінет да Касцюшкі.

Касцюшка весялее: зараз пачнецца спектакль.

Гымза сапраўды садзіцца за рэдактарскі стол і, дакладна імітуючы жэсты, нават голас рэдактара, як бы чытае натацыю, звернутую да самога сябе:

— Я вам што гаварыў, Гымза. Так работаць далей немагчыма. Абсалютна немагчыма. Якія вывады вы зрабілі? Вы зусім не думаеце пра інтарэсы газеты. Валочыцеся дзе папала па тыдні і болей, і мы не можам вас знайсці. Уласнага карэспандэнта не можам знайсці! Звонім раз, другі, трэці і не ведаем, дзе вы прападаеце. У міліцыю загадаеце званіць? Не марочце мне галаву. Ні ў якім саўгасе вы не былі. І не перабівайце, калі з вамі гаворыць адказны рэдактар. Хоць слухаць навучыцеся. Мы навялі спраўкі: вы да цешчы на Украіну ездзілі. П'янствавалі, бражнічалі там цэлы тыдзень. Апошні раз папярэджваю, Гымза: калі яшчэ паўторыцца такое, вы будзеце неадкладна звольнены. Запомніце гэта.

Касцюшка рагоча: Захар выдатны артыст. Мог бы выступаць на сцэне: талент пераўвасаблення відавочны. Шкада: нідзе не вучыўся Захар, адукацыю мае пачатковую.

Яшчэ ціха ў рэдакцыі. Рабочы дзень пачынаецца ў дзесяць гадзін. Захар арганізоўвае сняданак. Дзеля гэтага ён нават на вуліцу не выходзіць. Адчыняе акно і вылазіць на прасторны, агароджаны дашчаным тынам двор. У тыльным баку рэдакцыйнага дома ёсць абасоблены пакойчык, да якога прыбудавалі сенечкі і размясцілі невялікую краму. Дзеля таго, каб задавальняць патрэбы супрацоўнікаў газеты.

З крамніцай, тоўстай, насмешлівай Нахімай, у Захара найлепшыя адносіны. Харч, а таксама адну-дзве чацвярцінкі, Захар атрымлівае ў крэдыт, але і разлічваецца своечасова з дабаўкай невялікага працэнта. Тым болей, што Нахіма выдатна ведае, калі ў рэдакцыі дзень палучкі.

У мінулым такія пачастункі былі не зусім бескарыслівыя. Такім шляхам Захар падымаў Касцюшку творчы настрой, пасля чаго нязменна падсоўваў адну, а то і дзве карэспандэнцыі, якія Касцюшка мусіў апрацаваць. Касцюшка заўсёды дапамагаў Захару, за што той плаціў адданай, шчырай дружбай.

Паснедаўшы, калегі выходзяць на вуліцу. Ціхая, прыветлівая, з двух бакоў абсаджаная таполямі вуліца ў гэты ранні час нагадвае імклівую раку. Да пачатку работы застаецца некалькі хвілін, і тратуары проста запруджаны служылым людам. Горад невялікі, але ён абласны цэнтр, таму ў бясконцыя ўстановы, канторы, упраўленні спяшаюцца іх супрацоўнікі. Але вось паток паступова раствараецца ў сціплых цагляных, драўляных дамках, на сценах якіх прыбіта адна пад другой па некалькі шыльдаў.

Тады зноў наступае цішыня. Толькі чуваць з расчыненых вокан прысадзістых дамкоў трэск арыфмометраў ды раптам данясецца голас якога-небудзь інструктара, што ніяк не можа дазваніцца да дальняга, размешчанага не меней чым за сотню вёрст раёна.

Адвеку горад на Прыпяці славіцца сваім півам. Збудаваны яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, піваварны завод, высокая каменная труба якога дыміць у паўднёвым прадмесці, варыць піва і цяпер, і някепскае піва, бо ад двух выпітых адзін за другім кухляў лёгка кружыцца галава, пруцянеюць ногі, ведучы чалавека зусім не туды, куды ён імкнуўся да гэтага.

Піўныя ларкі адкрываюцца рана, раней, чым пачынаецца рабочы дзень, і чэргаў каля іх мала. Каштуючы піва, Гымза з Касцюшкам запыняюцца то каля аднаго ларка, то каля другога. Сёння яны могуць дазволіць сабе такую раскошу: Касцюшка ў камандзіроўцы, ніхто не ведае, што прыехаў у рэдакцыю Захар, апроч хіба вартаўніка, які даўно пайшоў дадому.

Касцюшка любіць вось так вандраваць з Захарам. Ён спакойна-насмешлівы, абыякавы да ўсяго і мудры. Даўно

пакінулі яго высокія сяганні, нічога ад жыцця ён не хоча, апроч як палучыць зарплату, які ні ёсць ганарар і найхутчэй пераслаць грошы жонцы, якая корміць дзяцей. Іх у Захара сямёра ці нават васьмёра. Ён лішне не п'е, можа курыць і не курыць, не наракае на лёс, калі прыходзіцца толькі адзін раз у дзень пад'есці. З выгляду падобен на калгаснага брыгадзіра: часта нязголены, у стараватым, зашмальцаваным пінжаку, цёмнай з прамым каўняром сарочцы, абуты ў разлезлыя ваеннага часу кірзавыя боты.

Супыняючыся ля піўных ларкоў, сябры дабрыдаюць нарэшце да прырэчнага кафэ, у якім, прыехаўшы ў горад, Касцюшка ўчора абедаў. Кафэ яшчэ зачынена, але буфет працуе. Касцюшка прыносіць два кухлі піва. Сябры садзяцца за столік, п'юць піва і глядзяць за Прыпяць.

Позірку, як і ўчора, адкрываюцца прыгожыя краявіды. Зарэчныя лугі, далёкія сасоннікі, цёмна-сіняя ў сонечных пералівах стужка ракі. Касцюшка ловіць сябе на думцы, што за шэсць гадоў работы ў рэдакцыі ён ні разу, як вось цяпер, не палюбаваўся надпрыпяцкім гарадком, пясчанымі гарамі, зарослымі арэшнікам, дубняком, ярамі, іншымі найбольш адметнымі мясцінамі. Бег, спяшаўся. Здавалася, самае лепшае наперадзе. Тым часам канчаецца маладосць, яму дваццаць сем гадоў, і нічога ён пакуль не дасягнуў, нават сям'і не мае.

— Што думаеш пра жанчын? — пытае Касцюшка ў Гымзы.

Захар пасміхаецца. Нічога асаблівага ён не думае. Усялякія ёсць жанчыны. Касцюшку проста не пашанцавала. Дый сам вінаваты. Разрываўся на часткі, вучыўся, друкаваўся ў кожным нумары. Што атрымаў? Высах у цявіну, схуднеў, збляжэў. Такія, як Маргарыта, жанчыны змізарнелых мужчын не любяць. Вот яго, Захарава, жонка ні за кім не пабяжыць. Некалі ёй. Трэба абмыць, абшыць, накарміць дзяцей. Дый няма капіталаў, каб каханку паўлітры ставіць. Ён, Захар, як і Касцюшка, вайну прайшоў, жонка тут жыла. Два гады пад акупацыяй, два гады пасля вызвалення. Як жыла? Ён у яе не пытаўся. Дзякуй, дзяцей гадавала. Думаеш, лёгка?..

Занятыя размовай, яны не заўважаюць, як падыходзіць Залуцкі.

— Вось вы дзе, супчыкі! — выкрыквае карэспандэнт, і, гледзячы на яго адутлаваты, з застылым жорсткім выразам твар, цяжка сказаць, што ён рады бачыць сяброў. Але трэба ведаць чалавека: Залуцкі задаволен. Бо нават калі ён смяецца, ягоны твар нікольկі не мякчэе.

— Думаў, на нагах не стаіцё, а ў вас цвярозыя размовы. Ну, я вам не таварыш...

Залуцкі ідзе да буфета і хутка вяртаецца, несучы ў руках паўшклянкі гарэлкі і талерку з кавалачкам смажанай траскі.

— Хочаце, закажу па адной. Да абеду я яшчэ крэдытаздольны.

— Дзякуй. Мы з Захарам прычасціліся. Калі ты яшчэ спаў. Ведаеш сам: Захар рана ўстае.

— У Нахімы напавер чацвяртушку ўзялі. Ведаю я вашы размахі.

Залуцкі выпівае, закусвае, і ягоны твар робіцца яшчэ хмурнейшы.

— Маю дзве навіны,— раптам паведамляе.— Захар вольны чалавек, можа яшчэ пацерціся каля Нахімы. А мы з табой паедзем у раён. Мусім аператыўна арганізаваць матэрыял пра пачатак жніва.

Касцюшка хмурнее. Зусім інакшыя меў планы. Марыў заскочыць у мястэчка, дзень-два пажыць у маці.

Другая навіна датычыць самога Залуцкага. Пазваніў галоўны рэдактар, выразна намякнуў, што збіраецца перакінуць карэспандэнта ў Магілёў. Абяцаў кватэру, усё іншае. Тым часам у Сашы ў горадзе ўласны дом, сад, агарод. Жонка курэй, нават падсвінка гадуе.

Захар пацвельваецца:

— Часта да шклянкі прыкладваешся. Маеш стаж. У Магілёве стаж трэба заработаць. Год ці два будзеш чысценькі. Пакуль разбяруцца.

Залуцкі злосна агрызаецца:

— Ты вот пісаць не ўмееш, двух слоў не звяжаш, а колькі ў газеце трубіш? Гадоў пятнаццаць. Даўно разабраліся, хто ты, аднак трымаюць. Каму бяда, што я чарку вазьму?

Гымза асабліва не крыўдуе.

— Аўтарытэт падмачваеш. Аўтарытэт павінен быць сухі. Як порах. Раз — і стрэліў. І каб ніхто пасля стрэлу не агрызнуўся. Маўляў, ваш карэспандэнт з п'яных вачэй не так, як трэба, напісаў.

— Ладна, хопіць сварыцца! — Залуцкі махае рукой.— Можна жыць і ў Магілёве. Пакуль кватэру знойдуць, пакуль тое ды сёе, год працягну тут. Я пабег, справы ёсць. Я табе вечарам пазваню,— ужо на бягу кідае Залуцкі Касцюшку.

У рэдакцыі ўсе без выключэння ведаюць, што Касцюшка развёўся з жонкай. Вестка, якая невядома якім шляхам дайшла да супрацоўнікаў, нікога не засмуціла. Наадварот, як здалося Касцюшку, машыністкі, сакратаркі, маладыя літсупрацоўніцы глядзяць на яго з яшчэ большай цікавасцю.

Не паспеў Касцюшка абысці аддзелы, павітацца з калегамі, якіх не бачыў амаль год, як яго кліча да сябе галоўны рэдактар.

Мікалай Цімохавіч Тужык — так завуць рэдактара — гэткі ж, як год назад, дзелавы, рухавы, бліскае жывымі цёмнымі вочкамі і начыста паголенай галавой.

— Расцеш, расцеш! — вітае ён былога супрацоўніка.— Можа, і правільна зрабіў, што ад нас уцёк. Мы ўважліва сочым за тваімі матэрыяламі. Не часта друкуешся, затое якасцю бярэш!

Рэдактар, здаецца, шчыра радуецца за Касцюшку. Бадай, так і ёсць. Ён чалавек неблагі, і Касцюшка ўсе гады работы ў газеце з ім добра ладзіў. Тужык трохі дагаджае вышэйшаму начальству, любіць, каб дагаджалі яму самому. Вось, бадай, і ўсе ягоныя недахопы. Але ў каго іх няма? Тым болей, што ў рэдактара добрае сэрца: можа накінуць ганарару, даць дзень ці два лішняга адпачынку ці яшчэ як-небудзь памагчы супрацоўніку.

— Напішы нам перадавую,— раптам прапаноўвае Тужык.— Пра задачы па ўборцы ўраджаю. Ты, здаецца, збіраешся з Залуцкім рабіць пра гэта карэспандэнцыю. Мабілізуйся, выкладзі думкі ў перадавой, лягчэй будзе напісаць карэспандэнцыю...

Затуліўшыся ў пакойчыку карэктараў, цэлы дзень маракуе Касцюшка над перадавой. Адпрацаваўшы шэсць гадоў у

абласной газеце, пісаў заметкі, нарысы, фельетоны, рэцэнзіі на кнігі і нават вершы. Перадавога артыкула яму не даручалі ніколі. Цяпер вось даручылі.

Калі ён нарэшце здае ў канцы дня матэрыял на машынку, яго кліча бухгалтарка Цыля Маршак.

— Ты цяпер вялікі начальнік, то распішыся за дармавыя грошы,— гаворыць тоўстая, даўно немаладая, але яшчэ незамужняя Цыля.— Хоць бы цукерак купіў. Шакаладных не хачу, хопіць ірысак ці падушачак.

Цыля дае Касцюшку канверт. У ім трыста рублёў. Такая плата за перадавы артыкул.

## XX

Назаўтра яны едуць з Залуцкім у раён.

Паспелая лава жыта, аўсоў, ячмянёў. Пыльныя прасёлкавыя дарогі. У хісткім летнім мроіве вынікаюць на палявым прасторы атуленыя прысадамі вёсачкі. У адным месцы камбайн плыве па збожжавым масіве, як карабель па моры, у другім — нерухома застыў, толькі пачаўшы хлебную паласу. Год стаяў камбайн на двары МТС і цяпер стаіць. Сям-там, паўзучы па полі, як вялікія стракозы, стракочуць жняяркі.

Каля многіх вёсак яшчэ ўзмахваюць сярпамі жанчыны-жнейкі. Белыя, сінія хусцінкі, кофтачкі. Жнейкі вяжуць снапы перавясламі, ставяць у кучкі. Малюнак асабліва блізкі, дарагі сэрцу Касцюшкі. Гэта ягонае дзяцінства, юнацтва. Але ў артыкуле, які ён мусіць напісаць, жнейкам будзе прысвечана не шмат месца. Асноўны націск на механізацыю ўборкі. Яна вырашае лёс ураджаю. Тым часам з механізацыяй справы не такія выдатныя. Шмат камбайнаў адрамантавана кепска, яны прастойваюць на ніве, не хапае кваліфікаваных камбайнераў, памочнікаў. Кузавы паўтаратонак дрэнна абсталяваны пад перавозку збожжа. Дарогі да складоў, зернясховішчаў засыпаны зернем...

Лічаныя дні пабыў Касцюшка ў абласным горадзе, у раёне, а ўражаннямі перапоўнена душа. Пачуццё такое, што нібы не разлучаўся ён з бліскучай, зіхатлівай стужкай Прыпяці, драўлянымі дамкамі на касагоры, роднай сельшчынай.

Мала яшчэ святочнага ў вёсцы. На скорую руку пастаўленыя на папялішчах хаткі з адным-двума акенцамі. У тых нешматлікіх вёсках, якія вайна шчасліва абмінула, не спаліла, выгляд часам нават горшы: пакрыўленае, збудаванае яшчэ дзядамі, прадзедамі жытло, зялёны мох на саламяных стрэхах. Але і там і тут акружаюць вёскі прыветлівыя зялёныя ляскі, пыляць калдобістыя дарогі, кудахчуць куры, галасіста кукарэкаюць пеўні, брэшуць сабакі.

Успамінаюцца знаёмыя радкі паэта:

Шчаслівая постаць наспелых пасеваў
За вёскай, на сонным лясоў рубяжы...

Хвалюе ўсё гэта, узрушвае да слёз...

Вярнуўшыся ў Мінск, Касцюшка два ці нават тры дні апрацоўвае матэрыял. Пад карэспандэнцыяй ставіць два подпісы: свой і Залуцкага. Разам ездзілі ў раён на райкамаўскім «газіку» па калгасах, начавалі, дзе прыйдзецца. Таму і матэрыял агульны.

Над Мінскам плыве гарачае ліпеньскае сонца. Спякота нясцерпная. Проста плавіцца асфальт. Ад чаду, дыму, пылу не прадыхнуць. Абедзенны перапынак у рэдакцыі — дзве гадзіны, і гэты благаславёны час Касцюшка выкарыстоўвае для адпачынку. Кіруе ў парк Чалюскінцаў. Там можна паляжаць пад кустом, паглядзець на траву, на зялёныя вершаліны сосен, часам нават хвілін колькі падрамаць.

Касцюшка прыходзіць на адно і тое ж месца ў паўднёвай частцы парку, побач з драцяной сеткай агароджы. Ён цяпер вольны. Не толькі таму, што з Маргарытай разведзен, не мае абавязкаў перад ёй, а ў чымсьці больш істотным, што закранае глыбока схаваныя патайныя куточкі душы. Як бы знікае з пачуццяў Маргарыта. Усё радзей усплывае ў памяці яе вобраз, а калі і ўсплывае, то не выклікае ні радасці, ні пакуты. Як бы не было Маргарыты. Столькі гадоў валодала душой Касцюшкі, цяпер знікае, як прывід.

Падлічыўшы, што Саша мусіць вярнуцца з Крыма, Касцюшка шыбуе на Грушаўскую вуліцу. Ён трохі крыўдуе на Сашу. Не азвалася за месяц ні лістом, ні нават паштоўкай.

Саша дома. У пярэстым халаціку, загарэлая, вясёлая і чужая. Касцюшка адчуў гэта адразу, як толькі сеў на старую, рыпучую канапу і паспрабаваў прыхінуць дзяўчыну да сябе. Там, на гарачым поўдні, відаць, зведала Саша другія абдымкі, ва ўладзе якіх яшчэ і цяпер. Таму ад Касцюшкавых ласкаў ухіляецца. Малайчына Саша. Хоць за тое, што не крывадушнічае. Зрэшты, яна нічым яму не абавязана. Звала з сабой...

Супрацоўнікі рэдакцыі ў адпачынках, і становішча такое, што Касцюшка можа пайсці ў адпачынак, як і наогул развітацца з рэдакцыяй, толькі ў верасні.

Ён цяпер у інтэрнаце адзін і па начах амаль не спіць: з нечуванай лютасцю накідваюцца на яго клапы. Калі ў пакоі жыло пяць чалавек, то гэтыя хіжыя стварэнні, відаць, адпаведна размяркоўвалі між сабой зоны дзеяння. Цяпер усёй талакой накідваюцца на аднаго. Ды і распладзіліся клапы за вясну і лета.

З мястэчка прыязджае Іван Яворскі, Касцюшкаў сябар. Два гады назад, ажаніўшыся, Іван перапыніў заняткі ў лесатэхнічным інстытуце, цяпер хоча аднавіцца на вучобе. Паколькі па ягонай спецыяльнасці завочнага аддзялення няма, Іван збіраецца перавесціся ў Ленінградскую лясную акадэмію. Іван расказвае местачковыя навіны. Не асабліва ўдаючыся ў падрабязнасці, паведамляе: Маргарыта з ранейшай кватэры сышла. Маладзейшая з сясцёр Варанецкіх нібыта абвінаваціла яе ў сувязі з мужам...

Вось так, значыцца. Не кідае Маргарыта ранейшых прывычак.

Каб уратавацца ад клапоў, Касцюшка з Іванам адцягваюць ложкі падалей ад сцен, ледзь не на самую сярэдзіну пакоя.

Ноччу абодва прачынаюцца амаль адначасова. Цела ў Касцюшкі ные ад нясцерпнага зуду: нібы па спіпе, руках, нагах яго адхвасталі крапівой. Касцюшка падхопліваецца, уключае святло. Жахлівы малюнак адкрываецца вачам. На яго і Іванавым прасцірадлах, якімі яны акрыліся, мноства рухомых цёмных кропак. Але як клапы трапілі на прасцірадлы? Касцюшка глядзіць уверх. Па столі таксама імкліва разбягаюцца ў розныя бакі цёмныя кропкі.

— Пікіруючыя бамбардзіроўшчыкі,— гаворыць Іван.— Нікчэмная гнусь, а таксама знаходзіць выйсце.

Да самай раніцы сябры не спяць.

— Ты, відаць, з сямейнымі справамі спяшацца не будзеш? — пытае Іван.— Націснеш на навуку.

Касцюшка пацвярджае:

— Болей не маю права на памылку. Бо сам сябе не буду паважаць. А навука не падвядзе.

— Правільна,— адабрае Касцюшкавы намеры Іван.

Іван паехаў, затое прыехаў з Масквы Майсей. Невясёлы, яшчэ болей змрочны, чым быў. Відаць, не паразумеўся з жонкай, з цесцем-акадэмікам.

У размовах з Касцюшкам Майсей часта, часцей, чым трэба, пахваляецца поспехамі ў жанчын. Касцюшка яго разумее: хоча апраўдаць свой гонар Майсей, які жонка ўтоптвае ў гразь. Толькі чаму ён не кіне тую жанчыну, якая зусім на яго не зважае? Дзяцей няма, нічым ён з ёй не звязан. Не разумее Касцюшка земляка...

У парку Чалюскінцаў Касцюшка сутыкаецца з прафесарам Ерусалімчыкам. У сіняй безрукаўцы, шортах, лёгкіх тапачках на нагах, прафесар нібы дэманструе свае фізічныя дасягненні, моцную спартыўную фігуру, запалы жывот, бронзавы загар.

— Толькі што вярнуўся з вёскі,— паведамляе прафесар.— Месяц каля Сожа праляжаў. А вы дзе адпачывалі?

Даведаўшыся, што Касцюшка толькі збіраецца ў адпачынак, прафесар раіць:

— Падумайце на адзіноце пра тэму дысертацыі. На адзіноце добра думаецца. Пачытайце кнігі прафесара Валошына. Знойдзеце ў іх цікавыя думкі.

Яны сядзяць на лавачцы, над якой з аднаго боку зацэментаванай паркавай дарожкі навісае стромкая крона таполі, з другой — ледзь чутна шасціць лісцем клён, і прафесар гаворыць словы, якія надоўга запамінаюцца Касцюшку.

— Пачатак жыцця — дрэва,— гаворыць Ерусалімчык.— Фактычна яно, як і другія расліны, стварае жывое жыццё. Астатняе — толькі надбудова над гэтым. Паглядзіце, якое мудрае дрэва! Лісце на кроне — нібы сапраўднае брацтва. Ліст ад ліста амаль нічым не розніцца. Няма лістоў багатых і

бедных, усе аднолькава атрымліваюць ад маці-зямлі і бацькі-сонца...

Нібы мовай міфа загаварыў прафесар.

Нават у гэтыя летнія дні Касцюшка заглядвае ў Ленінскую бібліятэку. Трэба рыхтавацца да экзамена па літаратуры, вызначанага на канец восені, і — прафесар гаворыць праўду — пра тэму дысертацыі падумаць.

Касцюшка як аспірант-літаратар дамагаецца допуску да перыёдыкі дваццатых — трыццатых гадоў, прачытвае некалькі артыкулаў прафесара Валошына. Сапраўды цікавая асоба гэты прафесар. Не ўсё, што напісаў, можа цалкам прыняць, але здаровых думак многа. Няма ў паміне ў працах прафесара пустой, напышлівай траскатні, рыторыкі, якой запоўнены шмат якія артыкулы пазнейшых крытыкаў.

Увогуле невясёлыя думкі агортваюць Касцюшку пасля таго, як ён знаёміцца з часопісамі дваццатых — трыццатых гадоў. У гэтых часопісах друкаваліся пісьменнікі, якіх ён ведае яшчэ па школьных хрэстаматыях. Некаторыя з іх былі пазней аб'яўлены ворагамі народа.

Касцюшка ніколі не верыў, што добры пісьменнік можа стаць ворагам народа. Дзе, калі, у якой літаратуры такое было? Можа, проста заблыталіся літаратары ў брудным палітыканстве, групавой барацьбе. Матэрыялы, змешчаныя ў часопісах дваццатых — трыццатых гадоў, грунт для такой думкі даюць. Як лаялі, выкрывалі адзін другога крытыкі і нават пісьменнікі ў дваццатыя і трыццатыя гады! Нават за малую частку тых грахоў, якія яны адзін другому прыпісвалі, былі варты самага суровага пакарання.

Касцюшку ўсё болей прываблівае думка напісаць пра паэзію Якуба Коласа. З Коласавымі вершамі, шырока прадстаўленымі ў школьных хрэстаматыях, ён знаёмы з дзяцінства. Многія з іх — «Ручэй», «Адлёт жураўлёў», «Асадзі назад», «Канстытуцыя», «Мужык» — ведае на памяць. Чаму яны і цяпер хвалююць?

Калі Касцюшка слухаў, як булькоча ручэй, ці назіраў за адлётам жураўлёў, то, здаецца, адчуваў тое самае, што паэт. Толькі паэт з такой вялікай сілай выказаў свае пачуцці, што другі чалавек успрымае іх як свае ўласныя. Значыць, паэзія

разліта ў наваколлі, у звычайных, нават будзёных праявах. Паэт умее яе знайсці, адчуць, выразіць так, як адчувае сам. Толькі што такое паэзія? Як яе вызначыць?

У парку Чалюскінцаў побач з Касцюшкам амаль заўсёды прымошчваецца мажная бялявая дзяўчына. Распранаецца да трусоў і ліфчыка, рассцілае дзяружку і нерухома ляжыць на сонцы, стараючыся загарэць. Але загар яе не бярэ. Касцюшка з-пад куста не вылазіць, увесь час хаваючыся ў цянёк, тым часам чорны, як цыган.

На другі ці трэці дзень між Касцюшкам і незнаёмкай паступова завязваецца размова. Дзяўчына ніштаватая з выгляду, яе прадаўгаваты твар трохі псуюць касаватыя вочы. Здаецца, яна ўвесь час адводзіць позірк, некага шукаючы.

Касцюшка яшчэ да вайны бачыў дзяўчат, якія з вёскі перабіраліся ў мястэчка, уладкоўваліся ў якой-небудзь канторы і, ашчаджаючы грошы на вопратку, уборы, жылі па кутках у старых бабуль, харчаваліся як прыйдзецца. Незнаёмка, здаецца, падобна да тых даваенных дзяўчат: акрамя бутэлькі ліманаду і перасохлага кавалка батона ў яе сумачцы нічога не бывае.

Дзяўчыну, відаць, нехта моцна пакрыўдзіў. Разважае пра жыццё груба, бессаромна і гэтым адразу адштурхоўвае ад сябе Касцюшку.

Раніцай цэнтральны праспект палівае спецыяльная машына, і ўмытыя, з кропелькамі вады на лісці дрэвы асабліва прывабныя. Здаецца, што сярод акуратных наваўзведзеных муроў шугае ў такія хвіліны зялёнае полымя.

Далей, далей адыходзіць вайна. Рэдка сустрэнеш на вуліцы дзяўчыну ў гімнасцёрцы, пілотцы, кірзавых ботах. Усё прыгажэй фасоны, ярчэй, разнастайней колеры, усё лепей апранаюцца жанчыны.

Едучы раніцай у рэдакцыю, Касцюшка спатыкае рознакаляровы паток гараджан, якія спяшаюцца на возера, за горад, у лес. Сярод жанчын, дзяўчат ёсць такія, што адразу прыцягваюць да сябе ўвагу. Ад гэтага яшчэ сумней, пакутлівей. Ён цяпер вольны, незалежны, ні пра каго не думае. Але пра яго таксама ніхто не думае.

Вяртаючыся ў адзін з тых дзён з рэдакцыі ў інтэрнат аўтобусам — пайшоў па цэнтральным праспекце аўтобус,— Касцюшка сустракаецца позіркам са светла-русявай дзяўчынай у белай з сінімі паскамі сукенцы, з кветкамі ў руках. Такім шчырым здаецца позірк яе шэрых задуменных вачэй, такой чыстай, цнатлівай сама дзяўчына, што ён рашае неадкладна з ёй пазнаёміцца. Дзяўчына нагадвае дзесяцікласніцу, якая прыехала паступаць у інстытут.

Незнаёмка выходзіць з аўтобуса, і тут жа, праціснуўшыся праз шчыльны натоўп, услед за ёй выскоквае Касцюшка. Ён ідзе ўслед за дзяўчынай, стараючыся што-небудзь прыдумаць, каб запыніць яе, пачаць гаворку. Але нішто не лезе ў галаву. Параўняўшыся нарэшце з дзяўчынай, Касцюшка асцярожна кранае яе за руку:

— Можаце пагаварыць са мной пяць хвілін? Я ўбачыў вас у аўтобусе і вельмі захацеў пазнаёміцца. Не бойцеся, я не зраблю вам нічога кепскага. Я аспірант, працую ў газеце,— ён называе сваё імя і прозвішча.

Дзяўчыну, здаецца, не вельмі здзіўляе намер Касцюшкі вось такім манерам з ёй пазнаёміцца. Яна спыняецца, усміхаецца, здзіўлена на яго глядзіць. Усмешка ў яе добрая, шчырая.

Так, яна згодна пагаварыць з Касцюшкам. Толькі не мае часу. Вельмі спяшаецца. Таму гаворка можа працягвацца сапраўды не больш пяці хвілін.

— Я за тры мінуты спраўлюся,— абяцае Касцюшка.— Калі не бачыце ў маёй асобе бандыта ці злодзея, скажыце, як вас завуць, дзе вы жывяце і ці можна да вас прыйсці.

Нечым Касцюшка дзяўчыне, відаць, падабаецца. Бо прыйсці да сябе дазваляе. Гаворыць, дзе жыве. Завуць яе Ліза Чаранкова, скончыла інстытут замежных моў, пакінута ў сваім інстытуце працаваць. Вось табе і дзесяцікласніца!

Махнуўшы на развітанне рукой, Ліза таропка стукае абцасікамі белых туфляў па асфальце.

Ён атрымаў дыплом два гады назад, Ліза — сёлета. Але яны належаць да розных пакаленняў. Ліза вайны, вядома, не бачыла.

Жыве Ліза блізка ад Маскоўскай вуліцы. Варта перайсці каменны мост над гулкімі, застаўленымі вагонамі пуцямі

тарнай станцыі, і ўбачыш з левага боку Першы Чыгуначны завулак. У гэтым завулку дом Лізы.

Ліза здаецца разумнай, далікатнай. Галоўнае, падабаецца Касцюшку. З першага позірку спадабалася. Зрэшты, бывае і такое каханне — з першага позірку.

Касцюшка прадумвае захады, як бліжэй пазнаёміцца з Лізай. У горадзе гастраліруе адзін з маскоўскіх тэатраў. Прагледзеўшы афішу, Касцюшка спыняецца на драме «Дні Турбіных». Ён чытаў раман М. Булгакава «Белая гвардыя», паводле якога напісана п'еса, і раман яму вельмі спадабаўся. Толькі як дастаць білеты?

Білеты на «Дні Турбіных» Касцюшка здабывае надзвычай лёгка. Загадчыца аддзела культуры рэдакцыі, пасівелая, немаладая жанчына, якая, здаецца, ніколі не выпускае з пальцаў цыгарэты, сама набіваецца з гэтымі білетамі.

Першы Чыгуначны завулак нічым асаблівым не ўражвае. Стаяць драўляныя, пафарбаваныя ў жоўты колер дамкі, з вузкімі дворыкамі, з працягнутымі ва ўсю іх даўжыню вяроўкамі, на якіх сушыцца бялізна.

Дворык Лізы Чаранковай выглядае ахайней астатніх. Па адзін бок драўлянага ганка расце пышны куст бэзу, па другі — звычайная груша з гронкамі яшчэ зялёных, не надта вялікіх грушак.

Касцюшку спатыкае Лізіна маці — вельмі падобная на дачку, толькі з пастарэлым, маршчыністым тварам, выцвілымі васількoвымі вачамі. З асобнага пакойчыка выходзіць Ліза, запрашае да сябе. Яна ў пярэстым халаціку, тапачках на босую нагу.

Пакойчык так сабе. Засланы танным настольнікам столік, пры ім два-тры старыя крэслы, пры сцяне ложак і сплеценая з лазовых дубцоў этажэрка. Абклеен пакойчык сіняватымі выцертымі шпалерамі, у многіх мясцінах парванымі. На этажэрцы пераважна падручнікі.

Ліза не без задавальнення прымае запрашэнне Касцюшкі пайсці ў тэатр. Тым часам асаблівых знакаў увагі да свайго кавалера не праяўляе. Наогул як бы не рада, што ён прыйшоў. На яго пытанні адказвае без ахвоты, двума-трыма словамі. Ні аб чым не распытвае яго і сама пра сябе не расказвае.

Не ведаючы, як і чым заняць госця, Ліза нарэшце падсоўвае яму фотаальбом. Сама выходзіць з пакоя. Сэнс у гэтым ёсць. У альбоме мноства фотакартак, на якіх Ліза знята ў разнастайных позах: у лесе ля вогнішча, у турысцкім паходзе, а найчасцей на пляжы, ля вады.

Невядомы фотааматар не шкадаваў плёнкі: вось Ліза сядзіць, ляжыць на пяску, вось гуляе з такімі ж, як сама, загарэлымі хлопцамі ў валейбол, плешчацца на хвалях...

Касцюшка перагортвае альбом, кладзе на стол. Увайшоўшы ў пакой і ўбачыўшы, што госцю няма чаго рабіць, Ліза дае яму ў рукі стус старых «Огоньков». Ён і «Огоньки» гартае, каб як-небудзь прабавіць час.

Яшчэ раз нагадаўшы пра тэатр, Касцюшка развітваецца. Ліза праводзіць яго да веснічак. Міма позірку аспіранта не праходзіць, з якой цікаўнасцю разглядваюць яго жанчыны, што сядзяць на суседнім ганку драўлянага, даўно не рамантаванага дамка, як не праходзіць і тое, што Лізе гэтая цікаўнасць яўна падабаецца.

Чыгуначны завулак у цэнтры горада, норавы, якія тут пануюць, не адрозніваюцца тым часам ад вясковых...

З Лізай Касцюшка спатыкаецца праз два дні ля будынка акруговага Дома афіцэраў, у якім ідуць спектаклі маскоўскага тэатра. Ліза ў новай белай сукенцы, з новай прычоскай і прыкметна лагаднейшая, чым мінулы раз.

Да спектакля яшчэ паўгадзіны. Касцюшка прахаджваецца з Лізай па заасфальтаванай дарожцы ўздоўж сквера, расказвае пра сябе, не абмінаючы факта, што быў жанаты і развёўся з жонкай.

Ліза слухае надзіва спакойна. Нішто яе не ўзрушвае, не засмучае.

Пачынаецца спектакль, і новае расчараванне чакае Касцюшку. Вось, значыць, чаму яму так лёгка дасталіся білеты. Ён правёў за чытаннем «Белай гвардыі» некалькі вечароў, поўніўся паэзіяй, ціхім жалем, смуткам, як бы разлітым між старонак кнігі. Ён нават зрокава ўяўляў гарбатую, замошчаную буйным каменем вуліцу, на якой стаяў стары дом Турбіных, параўноўваючы яе з падобнай вуліцай, якую бачыў у надпрыпяцкім горадзе ля самага моста цераз раку.

З дзеяння, якое развіваецца на сцэне, паэзія знікла. Замест маладых, стройных афіцэраў па сцэне расхаджваюць таўставатыя азызлыя дзядзькі з адвіслымі жыватамі, якія проста выпіраюць з-пад туга апаясаных мундзіраў. Яны размаўляюць з гэткімі ж бляклымі сяброўкамі, якіх не ратуюць ні грым, ні румяны. Толькі правінцыяльны, наіўны Ларыёсік, які ў дні рэвалюцыйнай віхуры завітаў у Кіеў, у сям'ю Турбіных, паводзіць сябе на сцэне бездакорна.

У перапынку Касцюшка вядзе Лізу ў буфет. Частуе ліманадам, цукеркамі.

Спектакль заканчваецца, калі на дварэ яшчэ светла. Сонца зайшло, яго нябачныя промні, аднак, яшчэ залоцяць берагі сіне-ліловага воблака на заходнім краі неба, адбіваюцца на пазалочаных крыжах старой царквы, што ўзносіць мурызваніцы каля пляца Волі.

Касцюшка праводзіць Лізу дахаты, і па дарозе яны пераважна маўчаць. Няма пра што гаварыць.

Каля веснічак Лізінага двара маладыя людзі развітваюцца. Летняя ноч спускаецца на горад. Яшчэ зычна перагукваюцца паравозы на таварнай станцыі, звіняць трамваі, шасцяць па бруку таксі, але жыццё замірае. Горад кладзецца спаць.

Пра наступную сустрэчу Касцюшка з Лізай не дамаўляецца. Навошта сустракацца? Наогул, першы і апошні раз ён дазволіў сабе вось такое знаёмства. Дзяўчыну трэба ведаць, а не хапаць на вуліцы толькі таму, што падабаецца яе твар і пастава.

Зрэшты, вялікі дзівак ён. Разлічваў напаткаць дзяўчыну чыстую, цнатлівую, якая ўвесь час, пакуль канчае дзесяцігодку, інстытут, толькі ўздыхае ды чакае суджанага. У Лізы былі, відаць, мары, захапленні, хлопцы, з якімі яна сябравала. Проста Ліза яшчэ не зрабіла свайго выбару. Таму такая асцярожная. Няма за што яе вінаваціць. Знаёміцца нікому не забаронена. Ён сам можа з кім хоча знаёміцца.

Лета канчаецца. Не толькі радыску, цыбулю прадаюць увішныя гарадскія жанкі, а і агуркі, памідоры, розныя ягады, грыбы. У сэрца Касцюшкі закрадваецца смутак: першы раз у жыцці вясну, лета ён правёў на камені, бруку. Не чуў птушыных галасоў, не бачыў травы, кветак.

Да Касцюшкі даходзіць вестка: ажаніўся загадчык аспірантуры Савоська. З той самай прыгожай касіркай-афіцыянткай. Эх, эх, бедны Савоська...

Пісьменнік Мікола Чарняўскі, які працуе ў рэдакцыі, яшчэ раз звяртае ўвагу на Касцюшку. Прапануе разам з ім паехаць на возера Нарач і сумесна напісаць нарыс пра жыццё рыбакоў. Гэта перамога. Прызнанне магчымасцей і здольнасцей Касцюшкі.

Касцюшка з Чарняўскім едуць на Нарач маршрутным аўтобусам. Аўтобусік малы, разбіты, скрыпучы. Вузкая стужка шасейкі-брусчаткі вышчарблена, на ёй мноства малых і вялікіх ямак. На ямах-выбоінах аўтобусік спатыкаецца, падкідваецца, дрыжыць растрэсеным жалезным корпусам. У адчыненыя вокны запаўзаюць шэрыя клубы дарожнага пылу.

Але мясціны выдатныя, і Касцюшка не можа адарваць позірк ад акна. Беразнякі, сасоннікі раз-пораз мяжуюцца з зялёнымі прагаламі балацянак, невялікімі пагоркамі палёў, застаўленымі мэндлікамі зжатай збажыны. Мільгаюць не надта багатыя вёсачкі: дрэва на сценах хат, вуглах пачарнела, на дахах збуцвелая, парослая зялёным мохам салома.

Назіраючы за дарогай, паселішчамі, полем, на якім камбайнаў, жняярак прыкметна меней, чым на Палессі, а болей жнеек з сярпамі, дзядзькоў у світках, шарачковых штанах, якія на конях возяць снапы, болей аднаасобных гумнаў, хлявоў, азяродаў, Касцюшка прыходзіць да думкі, што дрэнна ведае родны край. Тым часам ёсць у яго магчымасць пашырыць далягляд назіранняў. Па камандзіроўках газеты ён зможа ездзіць і пасля таго, як пакіне рэдакцыю.

Нарач паўстае агромністым серабрыста-сінім пры бляску сонечнага дня люстрам у зялёнай аправе вясковых ліпавых прысадаў, ледзь бачных на процілеглых берагах сасоннікаў. Мястра, Баторынка — азяркі меншыя, але яны нібы зліваюцца з Нараччу, ствараючы суцэльную вадзяную раўніну.

Край рыбацкі. На беразе возера на спецыяльных рагульках, калках развешаны сеці, стаяць абвеяныя вятрамі хлеўчукі, у якіх, відаць, захоўваюцца гэтыя сеці, але тут жа ў агародчыках буяе бульба, падымаюць жоўтыя галовы сланечнікі, а на

суседніх з вадой пагорачках, як і ў звычайных вёсках, стаяць мэндлікі жыта, аўса, ячменю.

Начуюць карэспандэнты ў хаце брыгадзіра рыбалавецкай брыгады. Назаўтра, калі на ўсходзе ледзь прабіваецца палоска зары, выходзяць з рыбакамі на лоўлю. Малюнак дзівосны. Возера яшчэ ў тумане, праразаючы яго, расцягваючы сець, усё далей адплываюць адна за другой лодкі. На першай лодцы Касцюшка, на другой — Чарняўскі. Кіруе лоўляй рыбы брыгадзір, у якога карэспандэнты начавалі. Ён ціхмяны, усмешлівы, лагодны характарам — звычайны беларускі дзядзька. З добрым тварам, мяккімі пшанічнымі валасамі, на якія насунута старамодная, з гузікамі наверсе, кепка.

Касцюшка ва ўладзе незвычайнага ўзбуджэння, узрушэння: ніколі, як вось цяпер, не плыў ён у лодцы разам з сапраўднымі рыбакамі і пісьменнікам. Хадзіў каля Князьвозера на Палессі, нават начаваў у прыбярэжнай вёсачцы, а на вадзе не быў.

— Наловім рыбы? — пытае Касцюшка.

Брыгадзір пасмейваецца.

— Трохі наловім. На юшку хопіць. З нашай лоўлі багатым яшчэ ніхто не стаў.

Узыходзіць сонца, туман распаўзаецца. Лодкі, апісаўшы круг, пачынаюць збліжацца. Гэта азначае, што сець расцягнута да астатку і цяпер рыбакі будуць яе падцягваць, выбіраць з вады, каб захапіць рыбу, якая ў сець трапіла. Прамежак паміж лодкамі яшчэ ёсць, і рыбакі малоцяць па вадзе драўлянымі качулкамі-боўткамі: рыбу, што намерваецца выскачыць з сеці, гоняць у яе назад.

Усё болей выбіраецца з вады сець. Рыбакі не спяшаюцца, выконваюць работу спакойна, паважна. Занятак захапляльны: Касцюшка нават не заўважае, што сонца паднялося высока, пачынае прыпякаць.

Нібы кіпіць вада над сеццю. Скача, бунтуе захопленая ёй рыба. Нарэшце сець выцягваецца, вывальваецца ў лодку, у якой брыгадзір, яшчэ адзін рыбак і Касцюшка. Рыбы пуды тры ці нават чатыры. Плоткі-краснапёркі, язі, ліны, найбольш шчупакоў — вялізных, зубатых. Нават некалькі доўгіх, нібы

вужы, вугроў трапілася. Улоў някепскі. Але і рыбакоў пяцёра. Калі падзяліць здабытак на кожнага, будзе не так многа.

Рыбакі малайцы. Разумеюць, што не проста так прыехалі да іх карэспандэнты вядомай газеты. Не паспелі Касцюшка з Чарняўскім памыцца, закурыць, павандраваць па беразе возера, застаўленага лодкамі, завешанага сецямі, як іх клічуць у хату брыгадзіра.

Хата стаіць пад вялізнай, нібы хмара, ліпай. Ад гэтага ў брыгадзіравым жытле нават трохі цемнавата. У першым пакойчыку вялікая печ, мыцельнік, кухонны стол. Гаспадар частуе карэспандэнтаў у другім, чыстым пакойчыку, у якім яны начавалі. Тут ложак з высока ўзбітымі падушкамі, фікусы, абразы ў кутку, цэлая выстаўка фотакартак на сцяне.

Вялікі дыпламат вясковы дзядзька! Разумее: возерам Нарач, рыбнай лоўляй карэспандэнты зацікавіліся не па сваёй ахвоце. Таму расказвае пра справы ўсяго калгаса, пра палyводства, жывёлагадоўлю.

На засланым белым абрусам стале рыба вараная, смажаная, вяленая, дзве бутэлькі гарэлкі. Рыбакі, што выязджалі на лоў, таксама з’явіліся да брыгадзіра. Нават прыфранціліся рыбакі, надзелі вымытыя сарочкі, суконныя, фабрычнага вырабу штаны.

Касцюшка ўдзячны лёсу, які падараваў яму паездку да гэтых сціплых і мудрых людзей. Ён з радасцю слухае іх нетароплівую размову, поўніцца пачуццём задаволенасці. Вось так трэба жыць, як гэтыя дзядзькі. Пераймаць, як ставяцца адзін да другога, як глядзяць на свет.

Вечарам Касцюшка з Чарняўскім прыбрыдаюць у прыазёрнае, з забрукаванай вуліцай, плошчай мястэчка, з якога на Маладзечна адпраўляецца аўтобус. Але позна яны тут з’явіліся. Раённае мястэчка дзённыя справы скончыла, у тым ліку тыя, якія датычаць перавозкі пасажыраў. Да наступнай раніцы аўтобуса на Маладзечна не будзе.

Чарняўскага, Касцюшку ніхто ў мястэчку не ведае, і, прытомленыя дарогай, яны кладуцца на прытаптаную мураву ў скверыку насупраць аўтобуснай пляцоўкі. Можа, трапіцца якая спадарожная машына.

З бліжэйшага дамка, пафарбаванага ў светла-зялёны колер, дзверы адчыняюцца проста на вуліцу. З іх выходзіць дзяўчына ці маладая жанчына, апранутая ў белую сукенку, у тапачках на босую нагу. Ідзе з вёдрамі ў руках да воданапорнай калонкі.

Чарняўскі з Касцюшкам разлягліся якраз насупраць калонкі. Дзяўчына зграбная, карэспандэнты адчуваюць сябе вольнымі казакамі, таму не прамінаюць выпадку зачапіць дзяўчыну. Яна, напаўняючы вёдры вадой, ахвотна ўступае ў размову. Аднёсшы вёдры ў хату, тут жа вяртаецца, запрашае карэспандэнтаў да сябе. «Аўтобус будзе толькі заўтра,— гаворыць.— Можаце ў мяне пераначаваць. Паслухаеце патэфон, пап’яце чаю...»

Касцюшка адчувае: яго перш за ўсё запрашае дзяўчына. Глядзіць на аднаго яго, не тоячы, што ён ёй падабаецца.

Ніколі ў жыцці вось гэтак адкрыта, не хаваючы пачуццяў, не хінулася да Касцюшкі жанчына. Ён паспеў разглядзець яе: сярэдняга росту, далікатны, трошкі прадаўгаваты твар, як бы чымсьці засмучаныя шэрыя вочы.

Ужо змрок павісае над мястэчкам. Касцюшка не супраць таго, каб застацца, пераначаваць у гарадку. Чарняўскі вагаецца.

Карэспандэты ўстаюць, кіруюць да светла-зялёнага дамка. У дом не заходзяць. Але гаспадыню, здаецца, задавальняе і такі ход справы. Яна адчыняе дзверы насцеж, выносіць два крэслы, запрашае гасцей садзіцца. У пярэднім пакойчыку заводзіць патэфон.

— Слухайце музыку. Я вам згатую гарбаты.

Вось так: лагодныя, на схіле лета прыцемкі ў прыазёрным мястэчку, парог чужога дома, які можна пераступіць.

Дзяўчына Касцюшку падабаецца.

— Давайце пераначуем,— просіць Касцюшка Чарняўскага.

Адна за другой мяняюцца пласцінкі. Музыка збольшага вядомая. Пад гэтыя мелодыі, песні Касцюшка рос, вучыўся ў школе, потым ваяваў.

Набліжаецца грузавік, і Чарняўскі падхопліваецца. Выскоквае на сярэдзіну вуліцы, размахвае рукамі. Але машына не спыняецца.

Ужо зусім цёмна. Касцюшка спадзяецца, што пісьменнік нарэшце супакоіцца. Да горада сто кіламетраў. Як у адкрытым

кузаве ехаць? Ноччу зябка, замерзнеш, пакуль дабярэшся да Маладзечна.

— Ідзіце піць чай! — запрашае гаспадыня.

У гэты момант яшчэ адзін грузавік рэжа фарамі цемру. Чарняўскі выскоквае яму наперарэз. Прабегшы метраў пяцьдзясят, машына спыняецца.

Адзін толькі момант вагаецца Касцюшка. «Дзякуй!» — крычыць дзяўчыне і бяжыць услед за таварышам. Яны разам прыехалі на возера і разам мусяць ад'язджаць.

Касцюшка ідзе да рэдактара з заявай аб звальненні. Нельга гнацца за двума зайцамі. Трэба выбіраць адно: работу ў газеце ці заняткі ў аспірантуры.

Рэдактар як бы нават трохі зняважан.

— Хіба вам у нас дрэнна? Вучыцеся, здаяце экзамены...

Касцюшка дзякуе. У рэдакцыі сапраўды ставяцца да яго вельмі добра. Лепей не трэба. Ён любіць газету. Аднак мусіць прасіць аб звальненні. Бо чакае яго наперадзе не менш адказная работа. Раздваенне немагчыма.

Рэдактар нарэшце ўсміхаецца, згодна ківае галавой.

# АСЕННІЯ МЕЛОДЫІ

*Раман*

## I

І вось Андрушкевіч зноў у Клінску. У маладыя гады ён ні разу не прыязджаў на сустрэчы партызан і падпольшчыкаў. Цяпер прыехаў.

Станцыя не змянілася. Па-ранейшаму перад вачамі аграмністы прасцяг рэек, стрэлак, крыжавін, асноўных і тупіковых пуцей. Па рэйках, марудна цягнучы па некалькі вагонаў, рухаюцца ўперад-назад манеўровыя цеплавозы. Фарміруюць эшалоны. Некалькі эшалонаў чакаюць адпраўкі.

Над цаглянымі закопчанымі будынкамі рэзерву машыністаў, пакгаўзамі, складамі навісаюць вялізныя, як хмары, шаты таполяў. Даўно пасаджаны дрэвы. Можа, сотню гадоў назад,

калі па гэтых лясных, балотных мясцінах пракладвалі чыгунку.

За гады адсутнасці Андрушкевіча шмат у чым зыначыўся чыгуначны гарадок. На ціхіх зялёных вуліцах, застаўленых драўлянымі дамкамі, паўсталі трох- і чатырохпавярховыя муры, складзеныя з суцэльных цэментовых блокаў. Адзін такі мур стаіць на месцы сядзібы Андрушкевіча, пад самым сасоннікам. У ім далі кватэру маці і адзінокай незамужняй сястры.

Праз усё жыццё свяціў і свеціць Андрушкевічу родны гарадок. Гадоў трыццаць назад меў ён толькі адну замошчаную каменем вуліцу, якая, выгінаючыся, нібы змяя, выводзіла на шашу, а адтуль да суседняга, значна большага горада на Прыпяці. Калі Андрушкевіч, стаміўшыся, не спіць, заўсёды паўстаюць перад ягоным мысленным позіркам малюнкі разлеглай станцыі, паравознага дэпо, дзе ён працаваў слесарам, дзве школы, у якіх ён вучыўся: драўляная, на паўднёвай ускраіне гарадка, і каменная, двухпавярховая, якую пабудавалі перад самай вайной.

Ён нібы ўвачавідкі бачыць іхнюю невялікую, дагледжаную хату, якой няма і якая ёсць, бо яна жыве ў ягоных успамінах, памяці. Да дробязей можа ён уявіць іхні сад, у якім раслі, пасаджаныя яго рукамі, некалькі яблынь і груш. Калі хату зносілі, а сад высякалі, рыхтуючы будаўнічую пляцоўку для шматкватэрнага дома, яблыні і грушы былі ўжо зусім старыя. Але пад цяжарам пладоў да самай зямлі звісалі іх каструбатыя, крывыя галіны.

Кожнай восені маці не ведала, што рабіць з такой процьмай яблык і груш. Пасылала пасылкамі сыну ў Мінск. За грошы, заплачаныя за перасылку цяжкіх, збітых з фанеры скрынак з антонаўкамі, слуцкімі бэрамі, можна было купіць, бадай, столькі ж садавіны на гарадскім базары, але маці не магла дапусціць, каб сын не пакаштаваў яблычка са свайго саду.

Сасоннікі пачыналіся ад самай Андрушкевічавай хаты. І цяпер яны далёка не адышлі ад чатырохпавярховай каробкі, у якой на трэцім паверсе кватэра маці і сястры. Тыя самыя хвоі з тоўстымі, дуплістымі камлямі, толькі, можа, таўсцейшыя, радзейшыя, сярод якіх напорна ўзвышаюцца цэментовыя, падобныя на агромністыя цыркулі слупы электраперадач.

— Сынок прыехаў,— маці нібы нямее ад шчасця.— Я тры дні жду. Вочы прагледзела...

Вось так, яму пяцьдзясят два гады, неўзабаве можа стаць дзедам, а для маці ўсё яшчэ сынок.

— Як там унучкі?

— Параслі ўнучкі. Саша скончыў вучылішча. Галя будзе паступаць у інстытут.

— Дай жа Бог.

Маці высахла, выпетрала, абдымаючы яе, цалуючы, ён поўніцца да яе пякучым жалем.

Сястра, распаўнелая, мажная, сустракае брата стрыманей, чым маці: не хліпае носам, не выцірае слёз. Але яна таксама ўзрушана.

— У нашай школе зрабілі выстаўку тваіх кніг. Дзве кнігі дала я — у бібліятэцы не было. У чацвёртай школе, дзе ты вучыўся, ёсць музей славы: фатаграфіі падпольшчыкаў, партызан. Твая — у самым цэнтры...

Сястра заўсёды гаворыць пра высокія матэрыі, палітыку, распытвае пра новыя кнігі, вядомых пісьменнікаў: выкладае ў школе літаратуру.

Вось так, значыцца — музей славы... Андрушкевіч ведае, што год ці два назад на сцяне новага каменнага вакзала, што, як даваенны, падступае да самага перона, павешана мемарыяльная дошка ў гонар падполля, якое дзейнічала на чыгуначным вузле. Дзіўна: злезшы з цягніка, ён зусім забыў пра дошку. Не пацікавіўся, дзе вісіць, як выглядае.

Маці ставіць на стол закуску, процьму бутэлек віна, якое вырабляе з яблык, груш сама, і якое — каб нават цэлы месяц сын у яе гасцяваў — ён не здолее выпіць. Расказвае маці навіны. Памерлі шмат хто з суседзяў, блізкія і далёкія сваякі: адыходзіць у нябыт цэлае пакаленне старэйшых, а часам ненамнога старэйшых за Андрушкевіча людзей.

Забываючы, што сын даўно пакінуў дом, суседскіх хлапчукоў-падлеткаў і малых дзяўчатак, што пры ім бегалі босыя, бадай, не пазнае і зусім не ведае моладзі, якая нарадзілася, вырасла пасля ягонага ад’езду, маці працягвае расказваць, хто з кім ажаніўся, хто разышоўся, хто добра жыве і хто блага...

Нарэшце маці спахопліваецца:

— Учора Скачок Іван быў. Прынёс кілаграм грэчкі. Пра цябе пытаў, калі прыедзеш. Мікалая Дарожнага не відно. І Кузьма, той, што без нагі, даўно не быў. Бывала, калі ні прыедзе да маці, то зойдзе і да нас. Пасядзіць, пагамоніць. Цяпер перастаў заходзіць. Бытта сэрца ў яго хворае...

Сястра паблажліва слухае, што гаворыць маці, устаўляючы ў яе апавяданне рэдкія словы.

Яна даволі відная тварам, зграбная паставай, а вось замуж не выйшла. Недзе і Андрушкевіч тут вінават. У інстытуце сястра закахалася ў разведзенага, які нават за нешта ў турме сядзеў, студэнта, намнога старэйшага за яе самую. Маці і ён тады рашуча паўсталі, не дазволілі выходзіць замуж за таго, як яны лічылі, прайдзісвета. Сястра паслухалася, але так і не спаткала другога чалавека, якога б здолела палюбіць... Сястра асцярожна распытвае пра літаратуру, пісьменнікаў, маючы на ўвазе, што брат, які жыве ў Мінску, болей пра гэта ведае. У яе пакоіку на паўсцяны стэлаж з кнігамі. Андрушкевіч дзівіцца: ёсць у сястры рэдкія, цікавыя кнігі, якіх ён, каб нават захацеў, не здолеў бы дастаць у Мінску.

Вечарам, калі Андрушкевічу сцелюць пасцель у пакоіку сястры, у яго такое адчуванне, што нібы зусім не было трохгадовага перапынку паміж апошнім ягоным ад’ездам з гарадка і цяперашнім прыездам. Маці гэтак жа скардзіцца на здароўе, п’е розныя лекі, не спіць начамі. Між тым нячутна, як мышка, блукае па двух невялікіх пакоіках кватэры, гатуе сняданні, абеды для сябе і немаладой незамужняй дачкі, якая кожны дзень, акрамя канікулаў, занята ў школе. Маці ведае, калі пачынаюцца перапынкі між урокамі, і па некалькі разоў на дзень звоніць дачцэ ў школу. Баіцца адзіноты.

Час нібы спыніўся ў ціхіх някідкіх пакоіках, якія сваімі вокнамі звернуты на недалёкія разложыстыя сосны.

Назаўтра з раніцы Андрушкевіч выбіраецца ў лес.

— Навошта табе лес? — пытае маці.— Лёг бы на канапу ды пачытаў. Ты малады любіў чытаць...

Ён не слухае маці. Не можа ёй нічога пра сябе расказаць. Бо ён прыехаў у родны гарадок не толькі дзеля сустрэчы з таварышамі. Ён мусіць разабрацца, што робіцца з ім самім. Яму здаецца: сасоннікі, зарослыя вераском выгары, па якіх

блукаў юнаком, падкажуць, што рабіць з сабой і з тым становішчам, у якое паміма волі і жадання ён трапіў. Бо даўно-даўно, яшчэ на зары жыцця, родныя сасоннікі, верасы нібы нашапталі казку, з якой ён рушыў у свет. Шмат чаго было ў той казцы, але асаблівае месца належала жанчыне, што мусіла сваёй асобай, сэрцам і душой асвятліць, абагрэць летуценні і парыванні юнака. Не спраўдзілася далёкая казка. І, можа, іменна таму ў жыццё Андрушкевіча на схіле ягоных дзён зноў прыйшла жанчына...

У прыгарадным лесе дол вытаптан, пабіт на ямкі, на кожным кроку абрыўкі газет, бляшанкі ад кансерваў, бутэлькі, сям-там, нібы манеткі, паблісквающь кружочкі бутэлечных коркаў. Часта тут збіраецца рабочы люд, каб затуліцца ў зацішку, выпіць, пагаварыць ад душы.

Нічога не папішаш. Чалавек жыве на зямлі, на неба толькі паглядае. Калі яму захочацца разгону, шырыні, высяў, ён прыходзіць у лес з сябрам, таварышам і з бутэлькай у кішэні. Андрушкевіч не вінаваціць людзей, якія вось такім шляхам ратуюцца ад будняў, згрызот, нягод жыцця. Вядома, калі донца бутэлькі не адзіны ратунак...

Андрушкевіч глыбей заходзіць у гушчу дрэў. Моцна перамяніўся лес з часу ягонай маладосці. Там, дзе былі маладыя пасадкі сасонніку, падняўся сапраўдны бор. Высока ўзмахнулі вершалінамі стройныя, меднастволыя, з гладкімі, нібы вытачанымі, камлямі сосны. І дол — як у бары: сухі, голы, толькі мясцінамі пакрыты чубкамі рэдкаватага верасу, нарасцю наздраватых імхоў-лішайнікаў.

Бор вымахаў па правы бок пясчанага калдобістага шляху і цягнецца на многія вёрсты аж да самай Галістрай Лужы. Па левы бок, у прамежку паміж шляхам і чыгункай, немцы ў акупацыю лес высеклі. Баяліся нападу партызан. Месца светлага, наскрозь прагрэтага сонцам баровага лесу з высознымі соснамі, рэдкімі між іх бярозамі, з травяністым, зарослым брусьнічнікам, чарнічнікам долам заняло чарналессе: бяроза, асіна, густы ляшчыннік. Па калена падняўся паўсюдна папаратнік.

Тут, між шляхам і чыгункай, быў лес Андрушкевічавага дзяцінства. Лес суніц, чарніц, першых грыбоў. Даўно яго

няма. Але дзіўна: вынішчаны светлы сасоннік папалам з бярэзнікам, які нічым не нагадвае цяперашняе чарналессе, як і родны дамок, сад, знікшыя вуліцы, найбольш жывуць у памяці, нават сняцца па начах...

Той лес ніколі не быў хмуры. Андрушкевіч памятае яго гадоў з шасці, калі прыязджалі з бацькам і дзедам забіраць бярозавік. Вялікая дубовая бочка, шчань, як яе называлі, злёгку замаскіраваная веццем, стаяла пад магутнай, з раскідзістым верхам бярозай. Пад суседнімі бярозамі такія ж бочкі, шчані, цабэркі блізкіх і далёкіх суседзяў.

Бочку з цяжкасцю ўздымаюць на воз, для раўнавагі абкладваюць сухастоем: можна падумаць, не бярозавік вязуць з лесу, а дровы. Каб пры яздзе па выбоінах і калдобінах сок з бочкі не выплёскваўся, яе верх шчыльна застаўляюць бярозавым веццем, на якім ледзь-ледзь праклёўваюцца зялёныя лісточкі.

З гэтага вецця бабка робіць венікі.

І яшчэ адзін звычай памятае Андрушкевіч. Калі бочка не зусім поўная, яе, паставіўшы на воз, даліваюць бярозавікам з суседскіх бочак. Беручы адтуль сок, стараюцца не пашкодзіць латáк, і наогул усё гэта за кражу не лічыцца. Як бы само сабой разумеецца, што суседзі зробяць тое самае, калі першыя прыедуць у лес.

Падросшы, Андрушкевіч з сябрамі-школьнікамі прыганяў у гэты лес схуднелых за зіму кароў. Па другі бок пясчанага шляху цягнецца такі ж баравы, папалам з бярозамі лес, які як бы ўпіраецца ў невялікае балотца. Як толькі сыдзе снег, па балотным куп'і прабіваецца першая трава — чорнагалоў. Каровы са смакам ядуць чорнагалоў. Хлопцы-дружбакі, стаміўшыся ад урокаў, бегаюць па лесе, палохаюць вавёрак, раскладваюць вогнішча, смажаць на ражончыках сала.

У сярэдзіне светлага баравога лесу вызначаецца, нібы востраў, кружок чарналесся: бярозы, асіны, вербы. Да гэтага часу памятае Андрушкевіч старую, ралістую, пабітую на дуплы ліпу, якая расла ўскрай кружка. У ліпу трапіла маланка, можа, нават шаравая, зламала, спаліла яе. Ад прыгожага купчастага дрэва застаўся толькі тоўсты, выпалены знутры і абдзёрты звонку камель. Здавалася, сярод лесу стаіць вялізных памераў бочка, збітая з белых клёпак.

У шматлікіх дуплах зламанай ліпы знаходзілі прыстанішча розныя птушкі, нават вавёркі, бясконца тукалі па яе белым, мяккім камлі сваімі моцнымі дзюбамі дзятлы, выдзёўбваючы новыя дуплы.

Так, лес дзяцінства Андрушкевіч добра памятае. У хмурыя дні, калі хаваецца сонца, асабліва ў дождж, ён не раз блудзіў у гэтым знаёмым да дробязей лесе. Каб зарыентавацца, заўсёды шукаў прыкметны, белы камель ліпы.

Паблізу Андрушкевіч зрэзаў свой першы баравік. Ён і цяпер добра памятае той момант. Яму было гадоў сем ці восем, і ён нарэшце ўгаварыў бацьку ўзяць яго ў лес па грыбы.

Цёплая, напоеная жнівеньскім туманам раніца. Яны з бацькам ідуць насыпам чыгункі. Сонца яшчэ не паднялося, ляжаць рэйкі з тоненькім налётам вільгаці на бліскучай паверхні, цемнаватыя шпалы, паабапал насыпу ззяе густа аздобленая срэбрам расы трава.

Перад лесам па абодва бакі чыгункі, нібы ганаровыя вартавыя, стаяць магутныя дубы. Андрушкевіч любіць дубы за іх велічнасць і прыгажосць. Здаецца, да самых аблокаў сягаюць іх разложыстыя кроны, у якіх у любое надвор’е шуміць вецер. Мінулагодняй восенню ён з хлопцамі прыходзіў пад дубы збіраць жалуды, і яны столькі іх назбіралі, што ледзьве данеслі дамоў.

Ужо зацвітаюць верасы, і ў ранішняй урачыстай цішыні бору перагукваюцца зычнымі галасамі жанкі: «Манё-о-о, Варко-о-о! Я тут...» Трохі прыцемнены з раніцы бор усё болей святлее. У поўдзень, калі яны з бацькам усё яшчэ выдыбаюць між сосен, бор ужо наскрозь пранізан сонцам, між дрэў як бы вісяць шырокія, светлыя, нібы ахутаныя ледзь прыкметнай сін採ватай смугой сонечныя палосы.

Бацька, як толькі завіталі ў бор, падымае баравік за баравіком. Ён падразае сваім кірпатым ножыкам карэнне пры самай зямлі, старанна ачышчае баравікі, кладзе ў лубянку.

Аляксей адразу трапляе ў паласу няўдачы. Над ім нібы смяецца, пацяшаецца лесавік, зачараваўшы яму позірк. Ён гадзіну ці болей ходзіць услед за бацькам, на ўсе вочы прыглядваецца да долу, нават расхінае рукамі верас, апалае лісце, але нічога не знаходзіць.

Поўны роспачы, адчаю, ён не ведае, што рабіць. Мільгае нават думка адбіцца ад бацькі, наўмысна заблудзіць у лесе, каб гэтым вытлумачыць сваю няўдачу. Ён праклінае ў думках лес, верас, баравую зямлю, якая нічога не можа яму падараваць. І ў гэты момант бачыць свой першы баравік. Ён сядзіць, шчыльна прытуліўшыся да камля сасны. Аляксей кідаецца да яго, забыўшы падрэзаць корань, вырывае з зямлі.

У той свой першы паход у лес ён толькі і знайшоў два баравікі...

Даўно тое было. Але ў душы сядзіць. Як часцінка дзяцінства, светлага і незаплямленага.

Тры гады назад, калі сын канчаў школу, Андрушкевіч прывёз яго з Мінска і прывёў у гэты самы бор. Было цёплае, з дажджамі, туманамі лета, чымсьці падобнае на тое, далёкае, калі сам Андрушкевіч упершыню выбраўся з бацькам па грыбы. Сын Лёня, не зважаючы на марудлівага бацьку, які бясконца прыглядваецца да зямлі, дрэў, старых спіленых пнёў, носіцца па лесе, як малады алень, і баравікоў, відаць, знаходзіць болей. Тады Андрушкевіч як бы зайздросціў сыну. Цяпер ён успамінае вандроўку з Лёнем з прыемнасцю. Новае, маладое мусіць перамагаць...

Гаспадары гарадка малайцы. Не кранулі лесу, які з усходу і поўначы ўшчыльную падступае да абсягу станцыі з яе шматлікімі пуцямі, пакгаўзамі, закапцелымі каробкамі паравознага дэпо, іншых чыгуначных службаў, з паўднёвага і заходняга боку — да будынін і казармаў пяхотнага вучылішча і былога ваеннага аэрадрома.

Тры гады назад побач з Андрушкевічам быў сын. Цяпер сын далёка, нават невядома дзе, бо, закончыўшы ваеннамарское вучылішча, плавае на падводнай лодцы. Між тым Андрушкевіч, вельмі немалады чалавек, займаецца глупствам. У такім сваім паважаным узросце закахаўся і нічога з сабой, з пачуццём сваім не можа зрабіць. Яго істота ўсеўладна запоўнена Ірынай, маладой лабаранткай, што працуе на кафедры, якой ён загадвае. Нічога між імі не было, акрамя абдымкаў, пацалункаў, ды і то толькі з боку яго, мужчыны. Можа, таму ў душы неразвеяны смутак.

На зары жыцця вандраваў Андрушкевіч па лесе з думкай пра жанчыну і цяпер вандруе. Як сказана ў мудраца: дзьмуць вятры з поўначы і поўдня, усходу і захаду і вяртаюцца вятры на ўласныя кругі. Хоць розніца між маладым і немаладым Андрушкевічам ёсць. Тая маладая асоба, пра якую ён марыў у юнацтве, была казкай, песняй — гэтак многа яна абяцала. Мары, летуценні, навеяныя прывабна-хісткім вобразам той далёкай дзяўчыны, так моцна сядзелі ў душы, што, здавалася, пра яе, створаную яго ўяўленнем асобу, ведае ўвесь лес: маладыя хвойкі, на іголках якіх вісяць срабрыстыя кроплі расы, аблітыя золатам у вераснёвы час бярозы, асіны, клёны, разлівы ружовых верасоў, шэрыя разлеглыя супесі, няўдобіцы, толькі злёгку пакрытыя наздраватымі мхамі...

Цяпер не тое. Цяпер у душы толькі нацятасць і горыч...

У другой палавіне дня, калі, зmoраны ляснымі вандроўкамі, невясёлымі развагамі, Андрушкевіч лёг на канапу і трохі задрамаў, у кватэру завітаў Іван Скачок.

Іванавы валасы напалавіну сівыя, хоць гэта не кідаецца ў вочы, бо ён русявы, нават бялявы. Пра тое, што сябар немалады, гаворыць густая сівая шчэць, што густа праступае на ягоным падбароддзі, скронях. Як заўсёды, Іван мала клапоціцца аб знешнасці і голіцца адзін раз у два ці нават тры дні. Хоць варта было б. Ён цяпер намеснік начальніка станцыі, мае справу з многімі людзьмі.

Цёмна-сіні чыгуначны сурдут, у які Іван апранут, таксама досыць заплямлены, гэтак жа як форменная з цэшкай шапка.

— Прывет,— Іван працягвае Андрушкевічу руку з такім выглядам, нібы яны толькі ўчора развіталіся.

Не мяняецца Іван. Шчыры, просты, іранічна-насмешлівы і надзвычай разумны. Толькі волі, настойлівасці яму трохі не хапае. Ажаніўшыся на чацвёртым курсе, ён кінуў чыгуначны інстытут і скончыў яго зусім нядаўна, маючы дарослага сына. Вядома, гэтым самым падпсаваў сабе кар’еру. Бясконца доўга працаваў дзяжурным па станцыі, і толькі тры ці чатыры гады назад яго прызначылі намеснікам начальніка станцыі.

— Павароты, крутыя пераломы,— пачынае Іван гаворку.— Хутчэй бы на пенсію. Пяць гадоў засталося...

— Намесніку начальніка станцыі лягчэй, чым дзяжурнаму? — пытае Андрушкевіч.

— Не лягчэй. На мне служба пагрузкі, абарот вагонаў. Думаеш, прымусіш калгас ці «Сельгастэхніку» разгрузіць вагон? Усе нервы парвеш...

— Ты нічога ў сваёй службе не перамяніў?

— Перамяніў. Добра, што позна інстытут скончыў. Новыя ідэі ўспрыняў. Тры лішнія стрэлкі з крыжавінамі паставілі і састаў фарміруем на пятнаццаць мінут хутчэй...

Такі Іван. Ідэй у яго хоць адбаўляй. Праўда, захапленні яго часта мяняюцца, не прыносячы асаблівага плёну.

У акупацыю, калі, стварыўшы падпольную групу, Андрушкевіч з таварышам працавалі ў пуцейскай брыгадзе, Іван майстраваў хімічныя ўзрывальнікі, самаробныя міны, нават нямецкія пячаткі вырэзваў з кавалка гумы. Добрыя пячаткі — з усімі патрэбнымі арламі, надпісамі...

— Ты наколькі прыехаў? — пытае Іван і, пачуўшы адказ, працягвае: — Мазурэнка прыляціць заўтра ці паслязаўтра. Рукапіс прывязе. Ён пазнаёміўся з ваенным журналістам. Журналіст мае доступ у ваенны архіў. Нашы радыёграмы перапісаў. Якія мы ў Маскву пасылалі. Ты наш гісторык і бяры лейцы ў рукі. Каму, як не табе, кнігу напісаць? Жыццё, брат, пражыта. Трэба бабкі падбіваць...

— Можа, будзе, як з той брашурай, што выйшла адразу пасля вайны?

— Не будзе. Не той час. Збяромся ў мяне. Багуна паклічам, Кузьму, Мікалая Дарожнага...

Андрушкевіч ловіць сябе на думцы, што не вельмі моцна кранаюць яго цяпер падпольныя справы. Душу ўладна апанавала другое. Пра што нікому не скажаш. Нават такому блізкаму чалавеку, як Іван. Андрушкевіч мала ведае Ірыну, аднак ягонай душой яна завалодала цалкам. І пазбавіцца ад навязлівага, як насланнё, пачуцця ён не можа. Ніколі б не паверыў, што так можа быць.

Іван пайшоў. У ягонай сям'і ўсё добра, гладка, ясна. Яшчэ ў інстытуце закахаўся ў прыгожую тэлефаністку. Праз месяц ці два прапанаваў ёй руку і сэрца. Сябры-таварышы спачатку цішком пасмейваліся над Іванавай жаніцьбай. Як жа,

ягонная Саша была на фронце, кавалераў мела ў збытку. Потым прыкусілі языкі хлопцы. Жонка з Сашы атрымалася неблагая. Можа, не такая рупная, увішная, затое вясёлая і прыгожая. На чужых мужчын вокам не кідала.

Адзін раз, яшчэ ў маладосці, Саша дамаглася пуцёўкі на курорт. Вясна, трэба садзіць бульбу, тым часам жонкі няма. Іван заклікае на дапамогу шуструю стрэлачніцу, пра якую вядома, што яна ахвотніца ўцех і вясёлага жыцця. Садзячы бульбу, стрэлачніца нават начаваць у Іванавай хаце застаецца. Нехта дае Сашы тэлеграму, яна кідае курорт, лячэнне, імчыць дамоў, імгненна выганяе вясёлую стрэлачніцу з хаты.

Якіх-небудзь другіх інцыдэнтаў на грунце кахання ў Івана з Сашай у далейшым не здараецца.

Сябры-таварышы Андрушкевіча любоўных згрызот не маюць.

З Кузьмой Галузам ён вучыўся ў настаўніцкім інстытуце ў суседнім з Клінскам горадзе над Прыпяццю. Ведае Андрушкевіч: не надта цнатлівы Кузьма ў любоўных справах. Вучыліся яны ў першыя гады пасля вайны, калі з хлебам і наогул з харчам было цяжкавата. Кузьма выйсце знаходзіць: заводзіць каханку, якая працуе прадаўшчыцай хлебнага магазіна. Шыракатварая, нізкаватая дзяўчына нічым асаблівым не вызначаецца. Тым часам любіць Кузьму шчыра, самаахвярна, старанна забяспечваючы яго хлебам.

Скончыўшы інстытут, Кузьма прадаўшчыцу забывае. Жэніцца з надзвычай прыгожай фельчаркай, армянкай па паходжанні. Вязе яе, гарадскую дзяўчыну, у вёску, куды яго прызначаюць настаўнікам. Нялёгка даводзіцца армянцы з аднаногім, суровым Кузьмой. Займеўшы чатырох дзяцей, усё па гаспадарцы робіць ды яшчэ ў бальніцу бегае. На службу.

Пра ляснічага Мікалая Дарожнага гаварыць не прыходзіцца. З маладых гадоў пакручваецца Мікалай каля дзяўчат. Мае ў гэтым вялікі спрыт, вопыт. Не кідае халасцяцкіх прывычак пасля жаніцьбы. Галоўнае, усё яму сыходзіць з рук. Пра тое, што такое пакуты кахання, Мікалай, мабыць, проста не ведае. Скаліць свае белыя, як часнок, зубы, лёгка сыходзіцца з жанчынамі, лёгка разыходзіцца...

Такі ж ахвочы да жаночага полу ягоны бацька. Мае ў адрозненне ад сына складную, зграбную фігуру, на вялікай, як у мядзведзя, галаве пышныя кудлы. Аднак незвычайны лайдак па натуры і з лайдацкага занятку жыве: з'яўляецца інструктарам раённай бальніцы па барацьбе з малярыйным камаром.

Цвіце, буяе разнатраўе. Сенакосная пара. На паўднёва-заходняй старане гарадка, якая называецца Валынскай і дзе жыве пераважна чыгуначны люд, хмельна пахне — аж кружыцца галава — мурожным сенам, высахлымі ляснымі, лугавымі зёлкамі. Дзіва няма: нягледзячы на вялікія цяжкасці, некаторыя чыгуначнікі ўсё яшчэ трымаюць кароў. Звозяць сена ў дворыкі, прыкрываючы ад дажджу стажкі, копкі толем, бляхай, поліэтыленавай плёнкай.

Копкі сена, сады, яблыні, вішні — усё гэта паступова знікае. Другім робіцца чыгуначны гарадок. Некалі станцыю ад застаўленых драўлянымі хацінкамі вуліц аддзяляў разлеглы голы прамежак: зарослая аерам, асакой балацявіна суседнічала з ладным, пакрытым толькі рэдкімі кусцікамі вербалозу россыпам жаўтапёсаў. Цяпер тут вырасла некалькі новых незнаёмых вуліц, забудаваных аднастайнымі трох- і чатырохпавярховымі блочнымі камяніцамі.

Гадоў адзінаццаць-дванаццаць назад, калі яшчэ быў жывы бацька і калі гэтак жа пасля трох- ці нават чатырохгадовай адсутнасці Андрушкевіч прыехаў у чыгуначны гарадок, з ім здарылася нават смешная гісторыя.

Ён не пазнаў родных мясцін і нават як бы ў іх заблудзіўся. Зусім інакш выглядала станцыя. Не было пабудаванага ў пасляваенныя гады на скорую руку драўлянага памяшкання вакзала, пахілай гасцініцы са шматлікімі вокнамі, пафарбаванымі белай фарбай аканіцамі, што стаяла насупраць вакзала на другім баку замошчанай круглым дзікім каменем вуліцы, іншых нізкіх драўляных будынкаў.

Доўгае, як адрына, памяшканне вакзала, да якога за пасляваенныя гады прывык Андрушкевіч, размяшчалася наводшыбе ад чыгуначных пуцей. Выйшаўшы на яго ганак, агароджаны драўлянымі балясамі, можна было бачыць увесь разлеглы абсяг станцыі. Адсюль тагачасныя пасажыры, якія больш

ездзілі таварнымі цягнікамі, сачылі, калі, на які пуць прыбывае ці ад’язджае таварны эшалон. Другіх будынін, якія б засланялі кругагляд, паблізу не было.

Новыя станцыйныя муры, розныя чыгуначныя службы, як у вялікім горадзе, стаялі на гэты раз упрытык да перона, на пуцях толькі пасажырскія вагоны. Гул таварных цягнікоў, іх гудкі, ляскат буфераў, свісткі сцэпшчыкаў — цяпер усё гэта было далёка, як бы за межамі пасажырскага вакзала.

Прайшоўшы па вуліцы, Андрушкевіч нават спалохаўся: ён мала што пазнаваў. Ад станцыі раней вяла забрукаваная буйным каменем шасейка, якая адначасна служыла вуліцай: стаялі з правага боку прысадзістыя абшаляваныя дамкі, а то і вясковага выгляду хаціны з дварамі, палісаднікамі, агародамі, і толькі на зломе шасейкі, у тым месцы, дзе яна робіць круты паварот, узвышалася некалькі трохпавярховых, складзеных з чырвонай цэглы будынін, у якіх жыў чыгуначны люд.

Цяпер замест шасейкі асфальт, наўзбоч вуліцы незнаёмыя шматпавярховыя блокі, з іх акон ліецца святло, чуваць галасы, музыка...

У яго тады заныла сэрца: горад яго маладосці зыначыўся, страціў свой дарагі, памятны твар. Абхадзіўшы ў наступныя дні гарадок, агледзеўшы новабудоўлі, Андрушкевіч пакрысе супакоіўся: старога, знаёмага было яшчэ ў Клінску болей, чым новага. Нават калгас яшчэ быў, займаючы цалкам драўляны, вясковага выгляду абсяг паселішча з яго заходняй старany...

Перамены Андрушкевіч бачыць і цяпер, але яны не такія кідкія, як у той памятны ягоны прыезд. То ў адным, то ў другім месцы ўзвышаецца незнаёмы цагляны дом ці ахайны, збудаваны з абчэсанага сасновага бярвення катэджык. Але знаёмага малюнка вуліц новабудоўлі не мяняюць, і Андрушкевіч рад гэтаму.

Андрушкевіч даходзіць да кінатэатра. Ён каменны, пабелены, стаіць на высокім падмурку. Да фасада кінатэатра падступае шырокая цэментовая лесвіца са шматлікімі ступенькамі.

Кончыўся кінасеанс, з тэатра вывальвае вясёлая маладая талака. Гэтых загарэлых хлопцаў, дзяўчат Андрушкевіч не ведае. Ніводнага і ніводнай з іх. Яны нарадзіліся, выраслі за

той час, калі ён з’ехаў з роднага гарадка... Імклiва змяняецца час. Некаторыя хлопцы iдуць у абдымку з дзяўчатамi, нават цалуюцца, не саромеючыся, не зважаючы на тое, што гэта бачаць другiя...

Ранейшага клуба, цi, як афiцыйна яго называлi, раённага Дома культуры, перабудаванага з царквы, няма. У той Дом культуры дружнай талакой хадзiлi Андрушкевiч i ягоныя сябры-таварышы. Даўно няма большасцi тых вясёлых хлопцаў-рагатуноў...

Яны, перадваеннае пакаленне, як бы свядома рыхтавалi сябе да вайны. Было ўсеагульнае парыванне — паступаць у ваенныя вучылiшчы. Паддаўшыся гэтаму ўсеўладнаму iмкненню, Андрушкевiч рашыў не канчаць дзесяцiгодку. Пасля дзявятага класа падаў заяву ў авiяцыйнае вучылiшча. Год правучыўся ў вучылiшчы ў далёкiм прыволжскiм горадзе, пачаў лятаць, бачыў сваё неба, прыгожую зялёную зямлю пад iм, ды здарылася непрадбачанае: пачало падводзiць сэрца. З вучылiшча яго адлiчылi.

Наступны балючы ўдар па ягоным рамантычным настроi нанесла вайна, прымусiўшы цверазей, практычней зiрнуць на жыццё. Вайна выдалася бязлiтасна жорсткая, крывавая i, як цяпер вiдаць, ледзь не дашчэнту выкасiла пакаленне Андрушкевiча. Бо яны, хлопцы, дзяўчаты дваццаць другога, дваццаць трэцяга, дваццаць чацвёртага гадоў нараджэння, ад узвышаных надзей, планаў, выпеставаных у маладых душах, не адступалiся, выгадваць, хiтрыць не ўмелi, лезлi першыя ў агонь, у самае пекла.

Тыя, што на вайне ўцалелi, будучага жыцця не ўяўлялi без горада, iнстытута, загадкава-ружовых даляў, якiя пасля гэтага адкрывалiся. Бо яшчэ да вайны iх так выхавалi. Узмужнелыя, загартаваныя школьнiкi, якiя вярнулiся з вайны, рынулiся ў вучобу, навуку, самасцвярджаючы сябе на гэтым шляху.

Андрушкевiч, як i яго аднагодкi, нават уявiць не мог, што не скончыць iнстытут, не паслухае прафесараў, не дакранецца да прывабна-жаданай таямнiцы, якая называецца вышэйшай адукацыяй.

Ён не меў атэстата: паступiўшы ў лётнае вучылiшча, страцiў год, не скончыў дзясяты клас, а калi вярнуўся ў

гарадок, пачалася вайна. Дзесяцігодку прыйшлося заканчваць пасля вайны. Дэмабілізаваўшыся ў першы мірны год з арміі, паступіўшы на работу ў рамонтныя майстэрні дэпо, ён адначасова заканчваў дзясяты клас. Хадзіў на заняткі для блізіру, раз ці два на тыдзень (вячэрняй дзесяцігодкі ў гарадку яшчэ не было), але атэстат атрымаў, нават з нядрэннымі адзнакамі.

Потым быў двухгадовы настаўніцкі інстытут у суседнім надпрыпяцкім горадзе, які на той час нават насіў тытул абласнога. Настаўніцкая праца, завочны ўніверсітэт у Мінску, напалавіну завочная аспірантура. Не шмат, вядома, ёсць выпадкаў, калі, абцяжараныя ўрокамі, педсаветамі, загнаныя, нібы коні-ламавікі, настаўнікі, тым болей завучы, займаюцца навуковымі вышукамі. Андрушкевіч займаўся.

Перавёўшыся з завочнай у стацыянарную аспірантуру, абараніўшы кандыдацкую дысертацыю, ён ужо болей як дваццаць гадоў жыве ў Мінску. Як некалі жартавалі зласліўцы, скочыў з ганка вясковай школы на ўніверсітэцкую кафедру.

## II

Андрушкевіч мае ступень доктара гістарычных навук, званне прафесара, загадвае ва ўніверсітэце кафедрай. Галоўнае: ён здолеў напісаць цэлую палічку кніг, падручнікаў, дапаможнікаў, яшчэ дзве ці тры сотні раскіданых па розных часопісах, газетах артыкулаў.

Калі ён іншы раз азіраецца на пражытыя пасля сканчэння аспірантуры гады, то нязменна бачыць сябе за кафедрай, на розных пасяджэннях, а ў вольныя ад чытання лекцый, пасяджэнняў, канферэнцый дні і гадзіны — у бібліятэцы ці за пісьмовым сталом. Нядаўна ён закончыў і здаў у друк кнігу пра вандроўкі славян у старажытную эпоху, пра якую марыў і якую пісаў фактычна ўсё жыццё. Увогуле, ён займаецца гісторыяй, прыбліжанай да сучаснасці, якая яшчэ не скончылася, творыцца на вачах і якую розныя аўтары трактуюць па-рознаму. І першую, і другую гісторыю пісаць надзвычай цяжка.

Ён даўно забыў, што можна проста, ні аб чым не думаючы, хадзіць, як вось цяпер, па вуліцах, рабіць вандроўкі ў лес,

бесклапотна ляжаць на канапе і чытаць кнігу. Толькі ў дзяцінстве, у юнацтве былі ў яго такія вольныя, залатыя дні, і, можа, таму ён любіць успамінаць дзяцінства і юнацтва.

Нават у час летняга адпачынку, калі ездзіць да паўднёвага ці паўночнага мора, ён не дазваляе сабе ніякіх раскошаў. Купаецца ў моры, ляжыць на пляжы толькі ў другой палавіне дня. Першую палавіну, апаласнуўшыся на світанні марской вадой, сядзіць за сталом.

Так пражыта жыццё. Ён на яго не наракае. Калі хочаш пакінуць хоць маленькі, малапрыкметны след у справе, якой займаешся, трэба без ваганняў аддаць гэтай справе жыццё. Ён так і зрабіў. Тым часам душа, сэрца як бы маюць уласныя рахункі. На схіле дзён Аляксей Іванавіч пачаў адчуваць, што чагосьці ў жыцці недабраў...

Перакос пачаўся яшчэ ў маладосці. Тут, у родным гарадку, у далёкія школьныя гады ён закахаўся ў адзіную дачку загадчыка раённай канторы «Заготзбожжа» Алімпіяду Збынеўскую, высокую, статную, з далікатным, па-жаноцку вытанчаным тварам, з гнуткай паставай, на якой рана акрэсліліся прывабныя формы жаноцкасці.

Ён вучыўся разам з Алімпіядай і, паехаўшы пасля дзявятага класа ў авіяцыйнае вучылішча, меў яе, як сярэдневяковыя рыцары, за даму сэрца. Так, ён жыў ва ўзвышаны, рамантычны час і сам адчуваў сябе рыцарам і рамантыкам. Не мела асаблівага значэння, што дама сэрца мала звяртала ўвагі на Андрушкевіча: ён нават не атрымліваў ад яе лістоў.

Ніколі ён не мог уявіць сабе твар Алімпіяды. Толькі на імгненне ў ягоных вачах паўставала яе гнуткая, танклявая постаць, сатканы са святла і ценяў далікатны твар, які вызначаўся іх зменлівай, пералівістай гульнёй, азараўся нейкай незвычайнай усмешкай, падобнай на тую, якую стагоддзі не могуць разгадаць аматары мастацтва, гледзячы на партрэт Моны Лізы. Так, вобраз Алімпіяды ўзнікаў на адзін кароткі міг і адразу расплываўся, развейваўся.

У сакавіку сорак першага года, за якія-небудзь тры месяцы да пачатку вайны, Андрушкевіча адлічылі з лётнага вучылішча і ён вярнуўся ў Клінск. Школьныя сябры-таварышы і дама Андрушкевічавага сэрца Алімпіяда тым часам канчалі дзясяты

клас. Ён жа ў сваім становішчы лічыў сябе няўдачнікам, адшчапенцам, чалавекам, якому нічога не ўдалося дасягнуць. Крыўдлівае, ганарыстае юнацкае сэрца! Андрушкевіч нібы зацяўся ў сваёй зняважанай годнасці. Сустрэч з сябрамі, нават з Алімпіядай, не шукаў. Паступіў у майстэрню паравознага дэпо, вяртаўся з работы чорны, замурзаны. Яго бацька працуе памочнікам машыніста, часта хварэе, і сям'я ледзь зводзіць канцы з канцамі.

У гэтым сваім становішчы Андрушкевіч як бы пачаў адчуваць мяжу, якая раздзяляе яго і Алімпіяду. Яе бацька не тое што яго: раённая кантора «Заготзбожжа» — не паравозная будка. Кіраўнік канторы, у сям'і якога толькі тры чалавекі, займае агромністую казённую хароміну. Адзін раз Андрушкевіч быў у доме Алімпіяды: пяць ці нават шэсць пакояў, цюлевыя занавескі на вокнах, пафарбаваная падлога.

Увялі плату за навучанне ў старэйшых класах сярэдняй школы і ў інстытутах. Алімпіяда на гэта не зважае. У яе бацькі хопіць грошай, каб плаціць за навучанне і трымаць дачку ў горадзе.

Андрушкевічу такія даброты не свецяць. Таму яго зусім не палохае думка стаць рабочым. У дзяцінстве ён нават марыў пераўзысці бацьку, стаць машыністам, вадзіць па сталёвых рэйках саставы, заламіўшы шапку казырком назад, як робяць машыністы, паблажліва пазіраць з вышыні паравознай будкі на ўсіх астатніх людзей, якія паяздоў не водзяць. Калі ён падрос, стаў юнаком, самалёт, што лунаў у паднебнай высі, пацягнуў да сябе мацней і ўладней, чым паравоз.

Пачаўшы працаваць у дэпо, Андрушкевіч стаў пазбаўляцца згрызотлівых думак. Ён увогуле любіць тэхніку, паравозы, паравознае дэпо, насмешлівых, языкатых дэпоўцаў, сам дух, які пануе ў рабочым асяроддзі.

Бацька слабы, нядужы, часта хварэе. Якраз бацька збіраецца злезці з паравоза, перайсці на лягчэйшую работу. Што ж, Андрушкевіч заменіць бацьку. Не здарыцца нічога дзіўнага. Не ўсім канчаць інстытуты. Зрэшты, памочнікам машыніста, машыністам не забаронена вучыцца далей, нават паступаць у інстытуты. Паездзіць на паравозе, прыгледзіцца, што да чаго, можа, нават грошай для далейшай вучобы трохі збярэ. Час

наступіў такі, што ў інстытутах не ўсім даюць стыпендыю. Ды яшчэ за вучобу трэба плаціць.

Згрызотлівыя думкі перапыняе вайна. Андрушкевічу васямнаццаць гадоў, але, паколькі ён не паспеў скончыць дзесяцігодку, у армію яго не бяруць. Ён ідзе ў ваенкамат, дамагаецца, што яго прызываюць разам са школьнымі таварышамі.

Каб Андрушкевіч быў пісьменнік, валодаў літаратурнымі здольнасцямі, ён напісаў бы кнігу, як яны, школьныя хлопцы, ішлі на вайну. Гэта была драматычная, нават трагічная дарога. Прызыўнікі з цэнтральных раёнаў Расіі, Сібіры, Закаўказзя, відаць, у поўнай меры не адчулі гаркоты першых дзён, месяцаў вайны. Адчулі яе найлепей хлопцы з Беларусі, Украіны, бо па іх вёсках, гарадах найперш пракаціўся бязлітасны вал фашысцкага нашэсця і барбарынскага руйнавання.

Зусім не такая пачалася вайна, як уяўлялі яе яны, жаўтадзюбыя патрыёты і рамантыкі, выхаваныя школай, кнігамі, ружова-прыгожымі даваеннымі кінафільмамі.

Ад іх гарадка да Бабруйска якая-небудзь сотня кіламетраў, і вось праз тыдзень пасля пачатку вайны фашысты на сваіх танках, тупарылых грузавіках, матацыклах дапялі да Бабруйска. Іх там, праўда, запынілі, на нейкі час нават адваявалі такія невялікія гарады, як Жлобін і Рагачоў.

Непадалёк ад чыгуначнага гарадка надзейна трымалі абарону бронецягнікі, яшчэ два месяцы загароджваючы немцам дарогу на Палессе з поўначы і ўсходу.

У Рэчыцы мост праз Днепр нашы ўзарвалі самі. Відаць, у выніку панікі. Таму калоне прызыўнікоў, у якую разам са школьнікамі ўліліся пажылыя дзядзькі, да Дняпра ды і пасля Дняпра прыйшлося ісці пешкі. Куды яны ішлі? Як значылася ў прадпісанні маладзенькага, які яшчэ нават не галіўся, лейтэнанта, што ўзначальваў калону, у Арол. У Арле іх мусілі ўзяць на ўлік і накіраваць каго куды трэба.

Паліць сонца, палавеюць жыты, ячмені, аўсы, залатым морам разліваецца пшаніца. Прызыўнікі ідуць, ідуць, падымаючы на прасёлкавых дарогах воблакі шэрага пылу. Вельмі часта ў небе паяўляюцца нямецкія самалёты. Наогул толькі яны і пануюць над бачным прасторам. Савецкіх самалётаў не відаць. Раздаецца ледзь чутны кулямётны пошчак, самалёты

кідаюць на месцы, дзе клубіцца шэры пыл, бомбы. Прызыўнікі ў гэты час дружна разбягаюцца па пшаніцы. Пранізлівы візгат бомбаў, якія чорнымі кропкамі аддзяляюцца ад самалётаў, выклікае цёмныя, здрадлівыя пачуцці. Хочацца ўціснуцца ў зямлю, зыначыцца, стаць непрыкметнай казюркай, якую ніхто не заўважыць, не кране. Паступова адчайны страх перад самалётамі, бомбамі знікае. Не, дзядзькі, хлопцы па-ранейшаму не пераносяць нахабнага, які раздзірае душу, візгату бомбаў, але гэтак адчайна, як раней, па полі не разбягаюцца. Яшчэ ніводная бомба не пацэліла прама на дарогу. Найбольш па полі, па пшаніцы, наводдаль ад дарогі пасля выбуху бомбаў уздымаюцца чорныя стаўбуры зямлі. Двух чалавек забіла, двух ці трох параніла якраз з ліку тых, хто на злом галавы падалей ляцеў ад дарогі.

Васямнаццацігадовым хлопцам Андрушкевіч бачыў Украіну. Бачыў залаты разліў пшаніцы, прысады зялёных вастраверхіх ясакараў ля белых хатак, жанок са збанкамі малака, сівавусых дзядоў у саламяных капелюшах, якія сумнымі вачамі праводзілі калону мабілізаваных. Вечарам, на заходзе сонца, прызыўнікі запыняюцца ў сёлах. Начуюць у клубах, у зачыненых,ператвораных у розныя склады цэрквах. Старшыні калгасаў не шкадуюць прызыўнікам арцельнага дабра. Выпісваюць бітонамі малако, сотнямі кілаграмаў агуркі, вырашчаныя ў цяпліцах памідоры.

Яны не даходзяць да Арла. Дзесяцікласнікаў, а разам з імі Андрушкевіча, ваенкамат невялікага раённага гарадка размяркоўвае ў ваеннае вучылішча. Вучылішча далёка, недзе ў Сярэдняй Азіі, і, пакуль афармляюцца службовыя паперы, прыходзіць іншы загад: уліць дзесяцікласнікаў у дывізію, якая выступае на фронт. Тут лёс раздзяляе Андрушкевіча з астатнімі школьнымі сябрамі, з Іванам Скачком, Кузьмой Галузам, іншымі знаёмымі хлопцамі.

Пачынаючы з верасня сорак першага года, Андрушкевіч у несупынных баях. За месяц ён парадкам спазнаў вайну, пачынае адчуваць сябе салдатам, найперш абавязак якога выконваць тое, што загадваюць. Фізічнай загартоўкі яму хапае: бывае, па пяцьдзясят вёрст выдыбае за суткі і стамляецца не болей, чым астатнія чырвонаармейцы.

Няшчасце спатыкае маладога салдата ў кастрычніку. Дывізія, у якую залічаны Андрушкевіч, у ліку іншых трапляе ў бранска-вяземскае акружэнне. Здараецца наогул неверагоднае: фронт стабілізаваўся, захапіўшы Смаленск, немцы з сярэдзіны лета таўкуцца на месцы. З Ельні, малога гарадка, размешчанага за Смаленскам, іх нават выбіваюць. І вось за лічаныя дні тыя самыя немцы, якім, здавалася, навучыліся даваць адпор, раптам захопліваюць Арол, Бранск, Вязьму, апынуўшыся ледзь не пад самай Масквой.

Некалькі дзён, пакуль ёсць боепрыпасы, дывізія зацята адбіваецца ў акружэнні. Увогуле яна стаіць насмерць. З кожным днём радзеюць шэрагі чырвонаармейцаў, камандзіраў.

Андрушкевіч — ротны мінамётчык. У хмуры восеньскі дзень рота займае пясчаны пагорак перад невялікай, хат на дзесяць — дванаццаць, вёсачкай, размешчанай у лагчыне.

Выконваючы загад камандзіра разліку, шчуплага, выпетранага, як цявіна, сяржанта з двума трохвугольнікамі на пятліцах, Андрушкевіч хутка выдаткоўвае запас мін. Чакае, як звычайна, што міны паднясуць. Але няма мін. Сяржанта таксама няма. Пабег па боепрыпасы і не вяртаецца...

Андрушкевіч высоўваецца з акопчыка і вачам не верыць. На пясчаны ўзлобак, кулдыбаючыся на варонках, узбіраюцца дзве нямецкія танкеткі. За імі рэдкі ланцужок нямецкіх пехацінцаў у заляпаных граззю зеленаватых шынялях, з каскамі на галовах.

Наша артылерыя, мінамёты маўчаць. Толькі зрэдку з адасобленых адзін ад другога акопчыкаў пастрэльваюць чырвонаармейцы. Як другі нумар мінамётнага разліку Андрушкевіч мусіць мець наган. Але ні нагана, ні вінтоўкі яму не выдалі. Вінтоўку ён падняў у лесе чужую. Цягаў на спіне цяжкую мінамётную пліту, у абедзвюх руках скрынкі з мінамі, на плячы вінтоўку.

Патронаў Андрушкевіч меў толькі пяць. Тых, што ў магазіне вінтоўкі. Ён вельмі хутка іх выдаткаваў і не ведаў, што рабіць далей. Вінтоўкай ён цяпер мог карыстацца хіба толькі як дубінай...

На брустверы акопчыка выбухае міна. Глушыць Андрушкевіча, раніць у руку. Цьмяна, як бы ў сне, чуе ён грымоты

бою. Над акопчыкам раве маторам, ляскае гусеніцамі танкетка. Заціскаючы правай рукой левую, з якой цячэ кроў, непрыемна збіраючыся ў рукаве, Андрушкевіч усім целам уціскаецца ў вузкі, цесны акопчык. Ад галавакружэння, паху крыві, бензіну яго ванітуе...

Незвычайная наступае цішыня, бо ні танкетак, ні стрэлаў не чуваць. Андрушкевіч зубамі разрывае індывідуальны пакет і як можа, не здымаючы гімнасцёркі, перабінтоўвае руку. У гэты час ён бачыць немца, які стаіць над акопчыкам, ківае закарэлым ад гразі пальцам, завучы да сябе Андрушкевіча. Немец малады, высокі, цемнатвары, апрануты ў плямісты маскхалат.

Калі Андрушкевіч вылазіць з акопчыка, немец, не звяртаючы ўвагі на параненую руку, б'е яго кулаком у сківіцу. Відаць, за тое, што бачыць у мінамётчыка вінтоўку, якая яму не паложана.

Потым немец здымае з галавы Андрушкевіча пілотку, бачыць прычоску. Твар яго суровее: прычоскі носяць толькі камандзіры. Але вельмі непрывабны выгляд Андрушкевіча: працёртыя на каленях штаны, завэдзганая гімнасцёрка, брудныя абмоткі, распоўзлыя чаравікі.

Малады немец нават весялее, калі пераконваецца, што перад ім звычайны, як ён сам, салдат.

— Ком! — загадвае ён, паказваючы на дарогу, якая віецца ў лагчыне, потым на свой «шмайсер».

Яшчэ праз некалькі хвілін Андрушкевіч бачыць групу з пятнаццаці — дваццаці байцоў, якіх вядуць па дарозе другія немцы. Гэта, відаць, чырвонаармейцы, што засталіся жывыя з іхняй роты.

У Андрушкевіча адразу наспявае план: уцякаць! Чаго б гэта ні каштавала. Ён бы, мабыць, ажыццявіў свой намер у першы дзень, бо невялікую іхнюю калону не надта пільнуюць. Дарога пятляе па засеяным буракамі полі, наўсцяж спаласаваным ярамі, перасохлымі прамоінамі ручаін. Аднак не стае сілы ў Андрушкевіча. Баліць рука, звініць у галаве. За два апошнія тыдні ён страшэнна стаміўся.

Пад вечар палонных падганяюць да чыгуначнай станцыі. Затым заганяюць у пакгаўз.

Сярод пажылых, разгубленых вязняў Андрушкевіч пазнае дзесяцікласніка Грышу Хамяка, маленькага, рухавага, як верабей, хлопца. Але няма больш рухавасці ў Грышы. У палоне ён цэлы тыдзень, і дух ягоны зломлен. Ні пра якія ўцёкі ён нават не хоча слухаць.

Палонных не кормяць, і яны на вачах трацяць сілу. Андрушкевіч ад свайго намеру — уцякаць — не адступае. Праз два ці тры дні частку палонных выводзяць капаць буракі. Андрушкевіча ратуе тое, што ведае чыгунку. Непрыкметна ён нырае пад вагон, пераскоквае цераз тармазную пляцоўку вагона, які стаіць на суседнім пуці, затым, адшукаўшы, паклаўшы на плячо кірку, спакойна выдыбае па чыгунцы.

Маладая чарнявая салдатка, што жыве паблізу станцыі, дае Андрушкевічу часовы прытулак. Пераапранае яго ў цывільную вопратку, прамывае моцнай самагонкай рану. Прапаў бы, мабыць, Андрушкевіч, каб не гэта чулая, спагадлівая душа. Бо рана на руцэ пачала гнаіцца.

Абмінаючы гарады, буйныя паселішчы, месяц дыбаў Андрушкевіч да Клінска. Усё ж дадыбаў.

Не ў аднаго яго такі лёс. Іван Скачок, яшчэ два-тры хлопцы з той рагатлівай талакі, якая выйшла з ваенкаматаўскага двара, прыбрылі ў гарадок. Акрыяўшы пасля доўгай пакутлівай дарогі, пачалі сыходзіцца, згаворвацца. Збіралі зброю, здабылі радыёпрыёмнік, слухалі Маскву, пускалі па гарадку перапісаныя ад рукі зводкі Саўінфармбюро.

У раёне на пачатку восені дзейнічаў партызанскі атрад, але доўга не ўтрымаўся. Некаторыя партызаны вярнуліся ў гарадок, здалі немцам зброю. Адзін з такіх, Сымон Баравік, каржакаваты, круглатвары хлопец, які разам з бацькам стаяў за прылаўкам леспрамгасаўскага магазіна, далучыўся да змоўшчыкаў. Невядома, чаму яго ўзялі ў атрад: нічым асаблівым Сымон не вылучаўся. Кончыў толькі шэсць класаў, нават у камсамол не ўступіў. Праўда, ён цягнуўся да сваіх больш адукаваных таварышаў, прагна глытаў гістарычныя раманы, якія даваў яму Іван Скачок, вялікі ахвотнік да чытання.

Каб мець сувязь з людзьмі, якія хоць трохі ведалі партызанскую справу, змоўшчыкі прынялі ў сваё кола Сымона Баравіка. Як цяпер разумее Андрушкевіч, гэта была іх найвялікшая памылка.

Вясной прыбрыў у гарадок Кузьма Галуза. Сябрам прызнаўся: здарылася з ім асаблівая гісторыя. З арміі яго адклікалі, накіравалі ў партызанскую школу, размешчаную пад Масквой. Ён там вучыўся тры месяцы, у канцы зімы з групай такіх, як сам, перайшоў праз дзірку ў фронце, якая ўтварылася паблізу Віцебска, на захопленую ворагам тэрыторыю. Не пашанцавала групе: немцы яе заўважылі, акружылі і фактычна знішчылі. Толькі двум ці тром партызанам удалося вырвацца з вогненнага кальца.

Кузьма рушыў у свой раён: на ўсялякі выпадак кожнаму з будучых партызан было дадзена і такое заданне. Ён ішоў з аўтаматам, гранатамі, але пры падходзе да Клінска зброю схаваў у лесе.

Партызанскага атрада ў раёне яшчэ не было, і Кузьма рашыў стварыць яго сам: прыйшоў у Клінск да былых сяброў-таварышаў па школе.

Андрушкевіч памятае, з якой прагнасцю распытвалі хлопцы Кузьму. Ён быў на савецкай зямлі да самага лютага месяца, ведае тое, пра што яны нават не здагадваюцца.

На жаль, Кузьма мала што мог расказаць. Іх вучылі гадзін па дванаццаць у суткі, ён страшэнна стамляўся, таму нават газеты не кожны дзень чытаў.

Тым часам паліцэйскія люта населі на Кузьму. Дзе быў, чаго з’явіўся? Звярыным нюхам адчувалі бобікі, што не так сабе завітаў у Клінск хмуры, з жорсткім, калючым поглядам вачэй хлапчына, які да вайны быў актыўным камсамольцам. Прагнучы ўбачыць маці, брата і сястру (бацька быў на фронце), не ведаў Кузьма, што з гарадка будзе не так проста вырвацца: за яго цяпер прыйдзецца адказваць сям’і.

Маладыя падпольшчыкі мелі цесную сувязь з капітанам-акружэнцам Багуном, які тайна пражываў у Клінску, рыхтуючы надзейных людзей для выхаду ў лес. Багун загадаў паслаць Кузьму ў паліцыю. Такі чалавек там асабліва патрэбен.

У пачатку лета сорак другога года непадалёк ад гарадка прызямлілася на парашутах група ваенных разведчыкаў на чале з другім капітанам — Мазурэнкам. Падпольшчыкі хутка ўстанавілі з ваеннымі людзьмі сувязь, і пачалася адчайна-рызыкоўная, смелая паласа іхняга жыцця...

## III

Дык вось так: усе пасляваенныя гады — а іх столькі прамінула — на зборы партызан Андрушкевіч не з’яўляўся. Былі на тое прычыны.

Калі адзначалася трыццацігоддзе вызвалення Беларусі, ён прыехаў у Клінск. Можа, расслабіўся, атрымаўшы Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета — пра яго ўзнагароджанне было надрукавана ў дзвюх ці трох газетах,— а можа, таму, што ў пяцьдзясят гадоў чалавек проста мусіць азірнуцца на пройдзены шлях.

У Мінску, з Ганаровай граматай пад пахай, Андрушкевіч рушыў да Быліча. Лясную вёску, размешчаную недалёка ад Клінска, дзе Быліч жыў у дзеда, Андрушкевіч добра ведае. Быліч Змітрок, як ён сам, быў партызанскі сувязны.

Быліч быў дома. Невысокага росту, з прыкметнымі залысінамі на русявай, без сівізны, галаве, трохі пукатымі шэрымі вачамі, ён, як заўсёды, сустрэў Андрушкевіча са спакойна-добразычлівай уважлівасцю. Праслужыўшы гадоў трыццаць у органах, выйшаў Быліч на пенсію і, маючы яшчэ ахвоту да дзейнасці, падзарабляў кадравіком у навуковым інстытуце.

Яны пасядзелі за сталом, і, дазнаўшыся, што Андрушкевіч збіраецца на сустрэчу былых партызан, Быліч падахвоціўся ехаць разам з ім.

Цягнік, у які яны селі, пасажырскі, марудны, усе без выключэння вагоны старога тыпу, на другіх чыгунках яны, мабыць, даўно спісаны, а на гэтай усё яшчэ служаць. Вагоны неміласэрна скрыпяць і рыпяць.

Вагон напаўпусты, Андрушкевіч з Былічам занялі асобнае купэ, разлёгшыся на ніжніх паліцах. У купэ пыльна, нягледзячы на тое што замутненае, з бруднымі падцёкамі акно зусім не адкрываецца.

Быліч пасля выпітай чаркі дрэмле, Андрушкевіч заснуць не можа. Не без унутранага хвалявання едзе ён у Клінск. У родным гарадку ён перажыў найвялікшы ўзлёт духу, і хоць пасля гэтага ўзлёту была цэлая паласа брыдот, час той паранейшаму свеціць і грэе, а ўсё дрэннае, што нахлынула пасля сканчэння вайны, пакрысе забываецца.

Магутнае, шчымліва-вострае пачуццё валодала Андрушкевічам у акупацыю. Ён хвіліны не мог пражыць, каб з халодным, адчайным сумам не ўспомніць, што па роднай зямлі ходзіць вораг, армія адступае і канца гэтаму адступленню не відаць. Перад болем, які сядзеў у сэрцы, нібы загнаны туды жалезны цвік, адступіла на задні план нават каханне да Алімпіяды. Тым болей, што да Андрушкевіча з прыходам немцаў Алімпіяда зусім не хілілася...

Лета сорак другога года, калі немцы рваліся да Сталінграда, на Каўказ, было асабліва пакутлівым для Андрушкевіча. Фашысты арыштавалі, расстралялі Сымона Баравіка, трымалі ў турме яго самога, і месяц ці два ім валодаў панылы, няўрымсліва-адчайны настрой.

Дзіўнае было тое лета. Здавалася, нават навакольныя лясныя абшары — сасцякі на сыпучых пясках, беразнякі, круглыя купы лазняку на балацянках, зарослыя травой лясныя сцежкі, па якіх шнырылі яны, партызанскія сувязныя з гарадка, былі прасякнуты стоеным адчуваннем таго, што на свеце ідзе агромністая вайна.

У нямым чаканні застылі лясныя вёскі — з крытымі дранкаю хатамі, саламянымі стрэхамі хлявоў. Узыходзіла сонца, і над сасоннікамі, над соннымі з выгляду аколіцамі трымцела няпэўная, з сіняватым адценнем смуга. Яна, здаецца, таксама сведчыла аб значнасці, неразгаданасці падзей, якімі ахоплен свет.

У чэрвеньскую ноч, калі ўскрай гарадка праляцеў савецкі самалёт — нямецкія мелі зусім іншы гул матора,— Андрушкевіч нават не здагадваўся, якую вялікую ролю адыгрывае гэта падзея ў ягоным жыцці. Тым часам гэта быў нібы знак лёсу.

У тую ноч Андрушкевіч сядзеў з Алімпіядай на лавачцы паблізу яе дома. Па ціхай, зарослай садамі вуліцы, на якой стаяў асабняк Збынеўскіх, патрулі не хадзілі.

— Савецкі,— радасна прамовіў Андрушкевіч, калі цёмны цень самалёта слізгануў зусім не высока над блізкім сасоннікам.

— Ну і што,— абыякава адказала Алімпіяда.— Дзе цяпер Саветы? Немцы кругом на тысячу вёрст. Летась наступалі, сёлета наступаюць. Ніхто іх не выганіць...

— Выганяць.

— Хто? Можа, партызаны? Што яны могуць зрабіць? Вот пасадзяць немцы нас, камсамольцаў, у вагоны, пагоняць у Германію. На катаргу...

Пазней Андрушкевіч дазнаўся, што разведчыкі, прызямляючыся, панеслі страты: адзін загінуў, завісшы на дрэве ўніз галавой, не здолеў выблытацца са стропаў парашута, другі ад групы адбіўся. З пяці чалавек засталося тры: два чорнавалосыя ўкраінцы — камандзір групы, каржакаваты, падлобісты капітан Мазурэнка і ягоны памочнік па дыверсіях, высокі танклявы і надзвычай маўклівы хлапчына, па спецыяльнасці інжынер-маставік, ды яшчэ бялявая, нізенькая, таўставатая нават пры дрэнным харчы радыстка-масквічка.

Атрад Багуна, які атабарыўся ў недалёкіх ад гарадка, атуленых балотам сасонніках, таксама чуў гул савецкага самалёта. Самалёт зрабіў два ці тры кругі над лесам, а назаўтра, разбіўшыся на групкі, партызаны абшасталі ўсё наваколле. Шукалі дэсантнікаў, савецкіх газет ці лістовак.

Доўга не маглі знайсці дэсантнікаў. Не было разам з тым вестак, што яны трапілі ў лапы да немцаў.

Як цяпер ведае Андрушкевіч, група не падала Маскве знаку аб прызямленні. Таму праз месяц у вакольным лесе паявілася другая група, пасланая на пошукі першай.

Немцы да лета паспелі пусціць чыгунку, але на першым часе не надта ўзброеныя мясцовыя партызаны вялікай шкоды ёй не наносілі. Не мелі ні мін, ні толу. Справа рушыла наперад, калі да партызан далучыўся дэсантнік Серада, кіраўнік групы з трох чалавек, якая шукала Мазурэнку. Перш чым далучыцца да партызан, Серада страціў двух сваіх таварышаў: яны падкладвалі на чыгунцы міну і самі на ёй падарваліся.

Залучыўшы да сябе Сераду, атрад Багуна разгарнуў плечы. Быў тол, і партызаны шпурлянулі пад адхон тры цягнікі — адзін за другім. Рэха тых выбухаў шырока разляглося. Да партызан сталі далучацца прымакі — былыя палонныя, акружэнцы, якія, перасядзеўшы халодную зіму пад цёплым дахам, успомнілі, што яны салдаты, што ніхто з іх не здымаў ваеннай прысягі і таму яны павінны ваяваць. Надзейныя хлопцы, дзяўчаты паявіліся ледзь не ва ўсіх вакольных вёсках. Яны

дакладна інфармавалі партызан пра кожны крок мясцовай улады.

Мазурэнка таксама па-сапраўднаму акрыяў, далучыўшыся да Багуна. Праўда, аўтаномію сваю захоўваў нават пасля таго, як атрад Багуна стаў брыгадай. Хутка меў Мазурэнка ўласны атрад. Капітан Мазурэнка і капітан Багун, якому ў сорак трэцім годзе Масква прысвоіла званне палкоўніка, мелі заўсёды асобныя буданы, зямлянкі, хоць размяшчаліся гэтыя часовыя лясныя прыстанішчы заўсёды па суседству.

Да разведчыкаў два разы прылятаў самалёт, скідаў боепрыпасы, сухары, цукар і нават такія далікатэсы, як каўбаса, кансервы, галеты. Партызаны пра такія цуды маглі толькі марыць.

У пачатку лета сорак другога года, дабіўшыся дазволу кіраўніка падпольнай групы Сымона Баравіка, Андрушкевіч уладкаваўся ўчотчыкам у кантору пуцейскага майстра. Гэта была найлепшая пасада для патайной работы, якую ён выконваў. Пуцейскія брыгады працавалі не толькі на чыгуначным абсягу Клінска, а і на бліжэйшых раз’ездах, станцыях. Таму Андрушкевіч, не выклікаючы асаблівага падазрэння, меў магчымасць адлучацца ў лес, на сустрэчу з партызанамі, Мазурэнкам ці яго людзьмі.

На пуцейскай ваганетцы ён найчасцей прыязджаў на станцыю Ратайка. Ахоўнікі на чыгунцы розныя. Усё лета сорак другога года пахаджвалі па рэйках славакі, іх змянілі мадзьяры, затым уладна запанавалі на ўсім прасцягу немцы, не давяраючы чыгунку саюзнікам.

У Андрушкевіча службовы пропуск з фотакарткай, і ахоўнікі, не чынячы перашкод, дазваляюць яму ездзіць, хадзіць па чыгунцы.

Паліцэйскага гарнізона ў Ратайцы няма. Можа, таму, што ў былой пуцейскай казарме стаіць ахоўная нямецкая рота.

Ратайку атуляе шматвярставы дубовы гай. Дубы магутныя, разлапістыя, здаецца, яны сваімі вяршынямі дасягаюць аблокаў. Магчыма, дубовы гай застаўся ад пары, калі на Палессі стала высыхаць створанае ледавіком так званае мора Герадота, пакінуўшы пасля сябе надзвычай прыдатную для дубоў глебу.

У дубах Андрушкевіч спатыкаецца з партызанамі толькі тады, калі трэба перадаць звесткі ці медыкаменты. Для сур'ёзнай гаворкі ёсць другое больш надзейнае, месца: сухі, меднастволы бор вярсты за чатыры ад станцыі па другі бок чыгункі, за непраходнай балацянкай. Слаўны партызанскі і горкі ваенны сорак другі год! Шчымліва-трывожны настрой валодаў Андрушкевічам. Немцы дасягнулі Волгі, Сталінграда, Каўказа, а тут, на палескай зямлі, шырыцца адпор ворагу. Нібы зрокава бачыць Андрушкевіч густыя, пасаджаныя пад шнур сасоннікі, куды партызаны прыходзілі на сустрэчу з ім, сувязным. Калі сустрэча зацягвалася, Андрушкевіч, баючыся нарвацца на засаду — іх немцы патаемна ад насельніцтва наладжвалі ў самых нечаканых месцах,— начаваў з партызанамі. Спалі на пясчаным доле, заслаўшы зямлю дзеразой, сасновымі лапкамі. Крычалі начныя птушкі, і праз густую навісь галін праглядвалі зоркі. Вось так тое лета, восень запомніліся. Ноччу грымелі на чыгунцы выбухі, раніцай узыходзіла сонца, млелі ў густой смольнай духмянасці сасоннікі на пясчаных пагорках.

У Ратайцы побач са станцыяй у старым, які, відаць, быў некалі школай, доме, размяшчаецца валасная ўправа. Служаць ва ўправе два антысавецкі настроеныя тыпы, якія, здаецца, пільна сочаць за Андрушкевічам, за яго частымі паходамі ў лес.

Старшыня воласці Цітарэнка, сярэдняга росту, круглатвары, з хітрымі вочкамі-проразкамі, тутэйшы прытоены куркуль. Ездзіць да немцаў у Клінск, выбівае з насельніцтва пастаўкі, але асабліва носа з воласці не вытыркае. Прыхапіўшы гектараў пяць падзеленай калгаснай зямлі, ірве на ёй жылы, стараючыся як найлепей урабіць.

Фінагент Курульчук, высокі маслакаваты стары, з белай, як у біблейскага прарока, барадой, асеў у Ратайцы за тры ці чатыры гады да вайны. Невядома, адкуль ён прыбрыў. Можа, нават быў у высылцы. У сямігодцы Курульчук выкладаў другарадныя прадметы: маляванне, чарчэнне, спевы. Але хутка стаў вядомы: арганізаваў добры школьны хор, які браў першыя прызы на раённай алімпіядзе ў Клінску.

Спатыкаючыся з Андрушкевічам, Курульчук ветліва размаўляе і заўсёды пытаецца, куды ён ідзе. Увогуле фінагент вандруе па вёсках, збірае падаткі, і з гэтым, зрэшты, можна мірыцца. Ні савецкія грошы, ні выпушчаныя Ровенскім банкам нямецкія карбованцы ніякай вагі не маюць. За іх ніхто нічога не купляе, не прадае. Але ў кожнай хаце, куды Курульчук забрыдае, ён бязлітасна лае савецкую ўладу, парадкі.

Гэтага даравацъ нельга. Як толькі пачаліся выбухі на чыгунцы, Цітарэнка дома не начуе, падціснулі хвасты паліцэйскія, старасты з навакольных вёсак. Некаторыя нават сталі набівацца на дружбу з партызанамі. Курульчук варожай дзейнасці не спыняе. Дыбае па вёсках, робячы выгляд, што ніякіх партызан не існуе, у кожным паселішчы аблівае гразззю партызан і камуністаў.

Яго, вядома, падпільнавалі. Але, прашыты трыма кулямі, Курульчук выкарабкаўся з лап смерці. Дапоўз да воласці, а там Цітарэнка паклаў яго на воз і завёз у Клінск, у бальніцу.

Праз два-тры месяцы Курульчук зноў чыкільгае па вёсках, яшчэ з большай лютасцю ганьбячы «бандытаў-партызан». Восенню, калі немцы дасягнулі Сталінграда, ваявалі ў самім горадзе, партызаны другі раз ловяць Курульчука. На гэты раз выканаўцы прысуду не прамахваюцца. Быў Курульчук на свеце і няма яго. Як скрозь зямлю праваліўся...

У тую восень грыбамі, смалой-жывіцай пахнуў бор, падаконнікі вясковых хат гарэлі чырванню памідораў, а стрэхі прыгрэбнікаў, хлявоў былі наўсцяж закладзены жаўтабокімі гарбузамі...

Яшчэ праз год нічога гэтага не стане: немцы нашчэнт выпаляць вакольныя вёскі, а тыя, што ўцалеюць, сатрэ фронт, які ў гэтых мясцінах будзе стаяць восем месяцаў.

Дзіўнае супадзенне. На станцыі Ратайка ў купэ, дзе размясціліся Андрушкевіч з Былічам, заходзяць высокі, мажны мужчына ў саламяным капелюшы на сівых валасах і яшчэ болей мажная, нават залішне распаўнелая, круглатварая жанчына. Прыгледзеўшыся, Андрушкевіч пазнае іх: Сцепукі. Яны з Ратайкі, іхняя хата стаяла пад самымі дубамі. Сцепукі зналіся з партызанамі, некалькі разоў да іх завітваў, прынасячы звесткі для партызан, Андрушкевіч.

Андрушкевіч вітаецца, называе сябе, але Сцепукі не пазнаюць былога сувязнога.

— Многа людзей прыходзіла да нас,— гаворыць сам Сцяпук.— Сувязных з лесу і з горада...

— На сустрэчу партызан едзеце?

Сцепукі пераглядваюцца.

— Не на сустрэчу. Шыферу дастаць. У нас нават партызанскай спраўкі няма. Навошта яна! Памагалі, калі трэба было. Дажылі да пенсіі без спраўкі.

Цікавасці да збору партызан былыя сувязныя не праяўляюць ніякай. Нават, як здаецца Андрушкевічу, пераглядваюцца з насмешлівымі агеньчыкамі ў вачах.

У Клінск цягнік прыбывае вячэрнім сутоннем. Вакзал новы, шчыльна да перона падступаюць муры станцыйных будынкаў.

З цягніка такіх, як Андрушкевіч і Быліч, злазіць чалавек шэсць. Гасцей сустракае начальнік штаба злучэння Багун, маленькі, мітуслівы, увесь як лунь сівы. Ён у старым, залішне прасторным для яго выпетранай фігуры палкоўніцкім мундзіры, пашытым краўцом Лейбам Кацманам яшчэ ў партызанскія часы, з цэлым іканастасам ордэнаў і медалёў, што звісаюць ледзь не на крыссё мундзіра. Багуна суправаджаюць яшчэ трое былых партызан, якія з часу вызвалення атабарыліся ў гарадку. Але толькі адзін Багун па чарзе з кожным прыезджым абдымаецца, цалуецца, выціраючы брудноватай насоўкай слёзы.

Не маюць, аднак, у гарадку ўлады былыя партызаны. Не хапіла ў іх сілы нават гасцініцу заказаць для запрошаных гасцей. На начлег прыезджыя мусяць уладкоўвацца як могуць.

Сябры-таварышы рушылі да Андрушкевічавай маці. Перагукваюцца на станцыі глухімі, нібы надрыўнымі, гудкамі цеплавозы, лязгаюць буферамі саставы. Вісіць над гарадком срабрысты боханчык месяца, свецяць бляклыя — мажа, з-за вулічных ліхтароў — зоркі.

Доўга брыдуць Андрушкевіч з Былічам малазнаёмымі, адбудаванымі пасля вайны вуліцамі, пакуль не дабіраюцца да дамка Андрушкевічавай маці ў прадмесці гарадка, на мяжы з цёмнай сцяной сасонніку. Тады яшчэ на гэтым месцы

чатырохпавярховай каробкі не пабудавалі. Яблыневы сад тоне ў начным змроку. Старыя яблыні здаюцца цёмнымі купамі.

Маці сцеле пасцелі начлежнікам у застаўленым фікусамі зальчыку. Госцю адводзіцца ложак з высокай гарой падушак, сын кладзецца на канапцы. Ведае маці: сын на мяккім спаць не любіць і падушка яму трэба толькі пад адно вуха. Фортачка адчынена ў сад: у пакой плыве густы, востры пах сасновай смалы, яблык, сырой зямлі, глуха даносяцца гудкі цеплавозаў, каманды дзяжурнага па станцыі, якія той аддае па гучнагаварыцелі.

Святы чалавек Быліч: у вагоне спаў і тут спіць. Пасапвае сабе. Андрушкевіч заснуць не можа. З вялікім узрушэннем, нацятасцю нерваў звязан кожны ягоны прыезд у гарадок...

Яны з Былічам усталі, мыюцца з рукамыйніка на двары, Андрушкевічава сястра, стоячы на ганку, трымае ў руках чысты ручнік. Андрушкевіч выцірае рукі і твар адным канцом ручніка, Быліч — другім.

Маці выставіла на стол некалькі пузаценькіх графінчыкаў з яблычным вінам і настойкамі, нарэзала на талеркі сухой, дамашняга вырабу каўбасы, вяндліны. Сын прыязджае рэдка, і маці, як толькі можа, хоча сыну, які на гэты раз прыйшоў з госцем, дагадзіць. Але лішне раскашаваць Андрушкевіч з Былічам не могуць: хутка пачнецца партызанскі мітынг.

Праз паўгадзіны з трошкі вясёлым шумам у галаве сябрытаварышы ідуць да плошчы, дзе мае адбыцца мітынг. Будынкі райкама партыі і райвыканкама ў новым раёне. Стаяць насупраць адзін другога, з двух бакоў як бы падпіраючы забрукаваную гранітнай брусчаткай прамавугольную плошчу. Пасярэдзіне пляца невялікая мураваная трыбуна.

Ля трыбуны чалавек пятнаццаць—дваццаць. Мала, вельмі мала партызан. Пасівелі галовы, пастарэлі, зморшчыліся твары, апусціліся плечы былых лясных салдат, але ўсё адно Андрушкевіч пазнае амаль усіх. Абнімаючыся, цалуючыся з кожным, хто прыйшоў або прыехаў на гэты не надта шматлюдны партызанскі збор, Андрушкевіч расчульваецца да слёз. Так, на плошчы сабраліся баявыя сябры, з якімі ён трапляў у небяспечнае і нават адчайна-безвыходнае становішча: разам выбаўляўся з бяды, з нямецкіх пастак, засад, блакад, не еў

па некалькі дзён, плакаў, калі хавалі забітых таварышаў. Ён некалі шчыра лічыў, што ніколі не скончыцца іхняе баявое братэрства, бо столькі разам перадумана, перагаворана, перажыта.

Так, ледзь не ўсіх, хто стаіць на плошчы, Андрушкевіч ведае. Вядома, па былых справах. Большасць асела ў гарадку, жыве тут з памятнага зімовага дня, калі чатыры ці пяць атрадаў, якім удалося злучыцца з часцямі Чырвонай Арміі, вызвалілі гарадок. Падлячыўшыся да таго часу ў вайсковым шпіталі, Андрушкевіч таксама прыйшоў у родны гарадок пераможцам...

І тады быў мітынг.

Па пясчанай плошчы перад драўляным, доўгім, як стадола, будынкам райвыканкама горда маршыруюць партызанскія роты, здзіўляючы жыхароў, вайскоўцаў незвычайнасцю вопраткі і ўзбраення. Мундзіры многіх армій мільгаюць у партызанскіх радах. Пастаўленыя на колы ад жняярак, пераварьваючыся ў калдобінах, коцяцца па замёрзлым грудзе гарматы-саракапяткі, прыклады многіх вінтовак самаробныя, хоць і старанна адпаліраваныя, пафарбаваныя якой-небудзь фарбай.

На прасторным, абсаджаным па баках старымі разлапістымі ліпамі двары райвыканкама гудзе-калышацца вялізны тысячны натоўп. Людзі запрудзілі прылеглыя вуліцы, двары.

Дзе цяпер тыя людзі?

Вядома дзе. Ішла вайна, і большасць партызан прызвалі ў армію. Некаторыя партызанскія роты трапілі на фронт, нават не паспеўшы атрымаць вайсковае абмундзіраванне. Яшчэ амаль уся Беларусь ляжала пад акупацыяй. Наступленне тым часам замаруджвалася, выдыхалася. Фронт стабілізаваўся. Баі ішлі пераважна дзеля паляпшэння пазіцый, заваявання новых плацдармаў. Штурмуючы безыменныя вышыні, балотныя выспы, многа палягло ў тых баях адчайна-смелых партызан...

Андрушкевічу пашанцавала. Яго накіравалі ў запасны полк.

Для аднаўлення разбуранай ворагам гаспадаркі ў гарадку пакінулі чалавек дзвесце. Камандзіры, хто меў і нават не меў цывільнай спецыяльнасці, былі прызначаны на пасады загадчыкаў шматлікіх раённых устаноў. На плошчы збольшага

і сабраліся тыя, хто здолеў да пенсіі ўтрымацца на высокіх у раённым маштабе пасадах...

Між тым пачынаецца мітынг. На трыбуне раённыя кіраўнікі, з партызан адзін Багун. Першым прамаўляе сакратар райкама партыі, яшчэ малады хлопец, з інстытуцкім значком на лацкане шэрага моднага касцюма. Сакратар, па ўсім відаць, нарадзіўся пасля вайны. Пра партызан ведае з кніг, з таго, што, можа, бацька ці маці расказалі.

Наступны прамоўца — Багун. Ад ордэнаў, медалёў суцэльны бляск на ягоных запалых грудзях. Чытае Багун старэчым дрыжачым голасам па паперцы, блытае словы, і ўражанне ад яго прамовы невялікае.

Апошніх слоў Багуна наогул ніхто не слухае, бо ўсе глядзяць на каржакаватага чорнавалосага чалавека, наўсцяж на бартах пінжака абвешанага ўзнагародамі,— ён якраз падыходзіць да трыбуны. Гэта Мазурэнка, камандзір дэсантнай групы, якая некалі спусцілася на парашутах на тутэйшую лясную, балотную зямлю. Ордэнаў, медалёў, розных значкоў у Мазурэнкі нават болей, чым у Багуна.

Андрушкевічу прыемна, што прыехаў Мазурэнка. Бо ён, а не Багун ягоны фактычны камандзір. Чыгуначныя падпольшчыкі, дапамагаючы Багуну, болей працавалі на разведчыкаў.

У каржакаватай, залішне раздабрэлай жанчыне з залацістабелымі валасамі, якая плыве побач з Мазурэнкам, Андрушкевіч не адразу пазнае радыстку Аню Стральцову, маскоўскую камсамолку, хоць і ў дні сваёй маладосці яна была кругленькая, тоўсценькая і кацілася па зямлі, нібы мячык. Родам Аня са Смаленшчыны, з Дарагабужскага раёна, і беларуская мова нават у яе палескім варыянце была ёй не чужая: разумела, нікога не перапытваючы.

Прыезд Мазурэнкі як бы прыдае партызанскаму збору большую вагу. Гэта ўсе адчуваюць. Багун, сяк-так кончыўшы прамову і не захоўваючы ніякага этыкету, матляецца з трыбуны і вісне на шырокіх грудзях Мазурэнкі. З несхаванай павагай глядзяць на шчодра адоранага ўзнагародамі партызана-разведчыка райкамаўскія хлопцы.

З Мазурэнкам усе вітаюцца па-брацку: абнімаюцца, цалуюцца. Толькі здорава здалі баявыя арлы. Галіліся рана, похап-

кам, таму ва ўсіх ужо цяпер, калі дзень ідзе толькі к палавіне, на падбароддзі, запалых шчоках, худой, выпетранай шыі праступае сівая шчэць.

Андрушкевіч памятае: у вайну, у лясныя гады Мазурэнку шанавалі не надта. Партызаны шкамуталі чыгунку, кідалі пад адхон нямецкія эшалоны, а Мазурэнка пры дапамозе сувязных, якія сядзелі на чыгуначных станцыях, лічыў эшалоны, тэхніку, выяўляў воінскія часці, якія рухаліся на фронт, і перадаваў звесткі ў Маскву пры дапамозе тоўсценькай радысткі Ані, якая штодзённа па разу, нават па два і тры выходзіла ў эфір, адстукваючы тэлеграмы на партатыўнай радыёстанцыі «Северок». Тым часам за спіной Мазурэнкі стаяла большая сіла, чым за ўсім партызанскім злучэннем: да разведчыка два разы прылятаў самалёт, скідаў цюкі з толам, магнітнымі мінамі, вінтоўкамі-бясшумкамі, сухой каўбасой, кансервамі.

Частка дабра перападала партызанам, ды і людзі Мазурэнкі, у тым ліку сувязныя, не сядзелі склаўшы рукі, удзельнічалі ў дыверсіях, і даволі значную колькасць скінутых пад адхон эшалонаў, раструшчаных вагонаў, узарваных рэек, ваяк Гітлера, якія так і не даехалі да фронту, капітан-разведчык з чыстым сумленнем паказваў у рэляцыях высокаму начальству як вынік уласнай дзейнасці.

Служба ў Мазурэнкі намнога шырэй адкрыла Андрушкевічу вочы на размах патайной барацьбы, якая ішла ў гарадах, мястэчках, прылеглых да чыгункі вёсках. Шматлікія групы падпольшчыкаў, што складаліся пераважна з моладзі, здабывалі для разведчыкаў, партызан розныя звесткі, дакументы, праводзілі дыверсіі, наводзілі лясных хлопцаў на цэль, забяспечвалі іх медыкаментамі, соллю, іншымі неабходнымі прадметамі.

Шмат яны, змоўшчыкі, пераправілі ў лес медыкаментаў. Да падпольшчыкаў далучыўся доктар Князюк, які добра імітаваў дружбу з немцамі і дзякуючы гэтаму надзейна, грунтоўна дапамагаў партызанам.

Летам сорак трэцяга года да падпольшчыкаў сталі даходзіць глухія чуткі: між партызанскімі начальнікамі няма ладу. Нібыта пачынаецца грызня за пасады. Нават штосьці горшае творыцца ў лесе.

У адзін з паходаў у лес Андрушкевіч прынёс Князюку заданне здабыць у немцаў эфектыўныя лекі супраць венерычнай хваробы. Вось, значыць, якія кулі адліваюць у буданах. Інакш як распустай гэта не назавеш.

Хлопцы задумваюцца — і раптам як азарэнне: ці не самі немцы сеюць беспарадак сярод партызан? Факты выплываюць: маці і дачка Снядэцкія, якія адчайна гулялі з немцамі, салдатамі, афіцэрамі, нечакана ўцяклі ў лес. Як, чаму? Адкуль у гэтых прыемных ва ўсіх адносінах кабет нарадзіўся патрыятызм?

Пра вясёлых маці і дачку падпольшчыкі паведамляюць партызанам і хутка пацвярджэнне атрымліваюць: легкадумныя асобы сапраўды падасланы немцамі...

Так, сотні, тысячы людзей, маладых, пажылых, нават старых, памагалі партызанам, былі іх вачамі, вушамі, кармілі, апраналі, падтрымлівалі чым маглі, і без гэтай падтрымкі, калі глядзець глыбей, не было б ніякага партызанскага руху. Дзе цяпер тыя людзі? Колькі было б на плошчы народу, каб прыйшла, прыехала хоць палавіна тых, хто памагаў Багуну, Мазурэнку, шматлікім атрадам, брыгадам! Вядома, пастарэлі тыя людзі, некаторыя адышлі з жыцця, але яшчэ шмат і такіх, хто ходзіць па зямлі.

Тым часам пасля вайны, перамогі не надта добра зрабілі з многімі такімі людзьмі. На ўсю краіну прызналі адну падпольную арганізацыю — «Маладую гвардыю» ў Краснадоне. Ды і то, відаць, толькі таму, што пра яе напісаў славуты пісьменнік Аляксандр Фадзееў.

Пасля кровапралітнай, нечувана цяжкай вайны, у мірны час, калі можна было спакойна ва ўсім разабрацца, невядома кім узведзеная мяжа аддзяліла Багуна, Мазурэнку, іншых партызанскіх камандзіраў ад іх шматлікіх памочнікаў, чым далей, тым болей адсякаючы звяно за звяном...

Гадоў дзесяць назад спахапіліся. Сталі правяраць, прызнаваць падпольныя групы. Некалькі афіцыйных папер атрымаў Андрушкевіч: просім пацвердзіць дзейнасць аднаго, другога. Ён пісаў, пацвярджаў, адчуваючы, што робіцца гэта позна і крыўда ў душы людзей так ці інакш застаецца. Як засталася ў яго самога...

Пасля мітынгу складчына, на якую народу сабралася трохі болей, чым стаяла на плошчы перад трыбунай. Сядзяць былыя партызаны за даўжэзным, накрытым цыратай сталом, у бруднаватым, падобным на склад, памяшканні сталовай мясакамбіната, прамаўляюць тосты, адзін перад другім спавядаюцца. Гамоняць увесь вечар і ноч.

Андрушкевіч сядзіць побач з Іванам Брандыбам. З тым самым Брандыбам, якога ведала ад вялікага да малога ўся брыгада. Нельга было не ведаць. У свае васямнаццаць гадоў вымахаў Іван як магутны дуб. У яго не толькі рост — усё астатняе большых памераў, больш прыкметнае, чым у звычайных людзей: рукі, ногі, галава, плечы, нават вочы — ледзь не па яблыку.

За шырокімі, як шафа, плячамі насіў Іван амуніцыю разведчыкаў: радыёстанцыю «Северок», батарэі сілкавання, скрутак дроту, які, калі яго закідвалі на дрэва, станавіўся антэнай. Мазурэнка настолькі прывык да Брандыбы, што пры прыбліжэнні фронту ў ліку нямногіх узяў яго з сабой. Групе было дадзена заданне: перабрацца далёка на захад, за Буг, на тэрыторыю Польшчы.

Пасля вайны, паступіўшы ў чыгуначную міліцыю, Брандыба пускае карані ў Клінску. Не толькі сабе дамок збудаваў, а і радні пасабіў — побач з яго агародам пляц роднага брата, трохі далей — сястры.

Назаўтра Багун збірае кампанію ва ўласным доме. У трохі зацененым, абстаўленым таннай мэбляй пакоі сядзяць ледзь не ўсе тыя людзі, якія ўчора прыходзілі на мітынг. На стале няма ні выпіўкі, ні закускі.

Андрушкевіч ведае: Багун часта вось так збірае паплечнікаў. Вырашаюць пытанні, звязаныя з тым, каму з былых партызан як і чым трэба дапамагчы.

Багун падымаецца, пачынае гаварыць:

— Свята правялі. Наступнае — праз год. Будзе круглая дата Перамогі. А цяпер паедзем у Няхамаву Слабаду. Каля яе спусціўся на парашуце друг наш баявы, таварыш Мазурэнка. Людзі з Няхамавай Слабады ўсю раніцу звоняць, хочуць пабачыць таварыша Мазурэнку, якому памагалі ў суровы час. Адтуль блізка да першай стаянкі нашага атрада. Пабудзем там. Не трэба забываць наш лес...

Урачыста, як на мітынгу, гаворыць Багун.

Дыхнула ў твар даўнім, знаёмым, партызанскім. Багун заўсёды вось такі. Не камандуе, не загадвае — заклікае, пераконвае. Шырынёй душы, вялікасцю сэрца з’яднаў брыгаду, як пасля вайны яднаў людзей у тых асяродках, куды яго накіроўвалі на працу. З Багуном надзейна: кожны адчувае, ведае, што няpraведнага кроку ён ніколі не зробіць...

Самы вялікі сярод былых партызан начальнік — дырэктар мясцовага саўгаса. Дзякуючы яму да Багуновага дома на ўскраіннай, не замошчанай каменем вуліцы пад’язджае стары, разбіты аўтобусік. І вось імчыць аўтобусік, грукаючы на выбоінах, да Няхамавай Слабады...

У Няхамавай Слабадзе — пясчанай, раскіданай, прылеглай да самай шашы вёсцы — партызаны праводзяць рэшту дня і ноч.

Кульгавы ляснік Міцуль, які першы напаткаў у лесе Мазурэнку, памагаў яму ў цяжкае лета сорак другога года, наладзіў пачастунак намнога багацейшы, чым быў учора ў сталовай мясакамбіната. Успамінаюць мінулае. Спяваюць песні. Тыя песні таксама, якія складзены пра партызан:

Ой, бярозы ды сосны, партызанскія сёстры,
Вас ніколі ў жыцці не забыць...

Андрушкевіч не можа ўтрымаць слёз, якія самі набягаюць на вочы. Мокрыя вочы ў Багуна, у Мазурэнкі, у лесніка Міцуля, у лесніковай жонкі і яе сястры, якія некалі прыбягалі ў лес да разведчыкаў, прыносілі ім звесткі пра паліцаяў, немцаў і гаршчэчкі з цёплай стравай.

Раптам устае зяць лесніка, белабрысы, вузкатвары дзяцюк з жорсткімі бялеса-сінімі вачамі.

— Камандзір! — звяртаецца да Мазурэнкі.— Вось вы тут песні спяваеце, цалуецеся, прыгожыя словы гаворыце. А чаму ты, камандзір, раней не прыехаў? Мой цесць, цешча памагалі табе, жыццём рызыкавалі. А ў іх жа ніякай праўкі няма. Калі на пенсію ішлі, ім ваенныя гады нават у стаж не залічылі. Чаму ты не падумаў, камандзір?

Усталёўваецца няёмкая цішыня: зяць лесніка з бялесажорсткімі вачамі гаворыць праўду...

# IV

Як некалі падзеямі на фронце, партызанскімі, падпольнымі заданнямі, захоплен цяпер Андрушкевіч жанчынай. Так, жанчынай, маладой загадчыцай кабінета пры ягонай кафедры Ірынай Русецкай, якая, здаецца, першая зрабіла крок да іхняга збліжэння.

Трывожна-нацяты настрой валодае Андрушкевічам. Ён раней нават думкі не дапускаў, што ў такім, як ягоны, узросце можа гэтак уладна захапіць у палон жанчына. Можа, аказваецца. Ён трапіў як у пастку. Нічога з сабою не можа зрабіць. Думае толькі пра Ірыну, знаходзіць у ёй новыя і новыя якасці значнай асобы. Тым часам нічога між імі не здарылася. Можа быць, ніколі не здарыцца.

Андрушкевіч мала думае пра сустрэчу з Багуном, Мазурэнкам, былымі таварышамі. Душа цалкам апанавана новым пачуццём. Дзе пачатак гэтай плыні, якая падхапіла Андрушкевіча, нясе на сваіх хвалях, круціць, як у віры, не даючы магчымасці ні спыніцца, ні апамятацца? Ён адказаць не можа. Ён лічыў, што рамантычныя гісторыі здараюцца ў маладосці, калі чалавек стаіць на парозе жыцця, нічога пра жыццё не ведае, таму трапляе ў палон нявопытнага, сляпога пачуцця. Як трапіў ён, яшчэ ў школе захапіўшыся Алімпіядай. Але цяпер яму болей як пяцьдзясят, у яго дарослыя дзеці. Зноў вось прыйшло да яго тое самае адчайнае, хмельна-безразважнае захапленне жанчынай. Ён вельмі мала ведае Ірыну, тым часам пастаянна пра яе думае, развітаўшыся, марыць пра новую сустрэчу, старанна ўзважвае кожнае сказанае ёй слова.

У гэтым агні ён гарыць болей як два гады.

Калі мінулы раз ён прыязджаў у Клінск, не было яшчэ ні Ірыны, ні полымя, якое ахапіла душу. Ён быў вольны, свабодны. З ціхім смуткам думаў пра сваё сямейнае жыццё, якое, здаецца, не асабліва ўдалося, і, нягледзячы на гэта, ні да чаго асаблівага не імкнуўся.

У школьныя гады, калі Андрушкевіч закахаўся ў Алімпіяду, пачуццё было інакшае. Тады, у юнацтве, каханне абяцала ўсё. Радасці, здзяйсненні, перамогі. Цяпер нічога не абяцае. Іншы раз у душы ўспыхваюць шчымліва-трывожныя адчуванні.

Хіба магчыма вярнуць няздзейсненыя мары, парыванні? Жыццё пражыта, і навошта яму гэты позні, трывожны неспакой? Цяперашняе пачуццё не напаўняе, як у маладыя гады, дзівосным святлом, музыкай навакольны свет, а толькі трывогай, горыччу, адчуваннем чагосьці прывіднага, хісткага, што можа вось-вось знікнуць назаўсёды, паставіўшы яго перад безданню...

Дамок Івана Скачка на Валынскай старане. Вуліца цягнецца ўзбоч разлеглай станцыі. З другога боку яна, як і тая, на якой жыве маці Андрушкевіча, падпіраецца сцяной сасонніку, які ў гэтым месцы прыкметна адступіў, даўшы месца чарадзе камяніц, у якіх размешчаны прамысловыя прадпрыемствы, склады, арцелі.

Іванаў дом збудаваны з добрага сасновага цёсу, у ім чатыры ці нават пяць пакояў. Выгляд двара псуе пахілы хлеў з праваленым, крытым дранкаю дахам, яго перакошаныя дзверы, якія ўраслі ў зямлю і даўно не зачыняюцца. Перад фасадам дома, засланяючы яго ад сонца, вялізная, разгалістая ігрушадзічка. Мог бы вынаходнік Іван прывіць дзічку, і яна давала б якія-небудзь слуцкія бэры. Але рукі да ўласнай ігрушы ў яго не дацягнуліся.

Багун з часу папярэдняй сустрэчы яшчэ болей высах, схуднеў, прыкметна пасівеў. Здаў і бравы Мазурэнка. Толькі Аляксандра, Іванава жонка, яшчэ болей распаўнела, раздабрэла. Адкрыта-прыгожы яе твар свеціцца шчырай усмешкай. Добрая ў Івана жонка, добра з ім пражыла, двух сыноў вырасціла. Можа, хіба трошкі бесклапотная і ленаватая.

Кузьма Галуза на сустрэчу не з’явіўся. Мікалая Дарожнага і Базыля Чаплінскага Іван проста не запрасіў. Добра зрабіў.

Мазурэнка вымае з ёмістага партфеля некалькі бутэлек віна, ставіць на стол. Дзіва няма: у роднай Адэсе былы разведчык дырэктар вінзавода. Не звычайнага — эксперыментальнага. Па спецыяльнасці ён аграном, пасля вайны, пакуль не перавялі ў Адэсу, доўга працаваў дырэктарам вінаробчага саўгаса, меў нават уласную карову, гаспадарку.

Прыгожа размаляваную, цяжкаватую па вазе каробку з трункамі Мазурэнка працягвае Андрушкевічу.

— Вазьмі. Тут лепшае віно, якое ўмее рабіць Украіна. Кажуць, ты ў санаторый едзеш. Калі сустрэнеш прыгожую жанчыну, пачастуй...

Андрушкевіч унутрана халадзее. Няўжо хітры дырэктар што-небудзь пранюхаў? Ён ведае: Мазурэнка чалавек харошы. Разумны, душэўны. Андрушкевіч, прыехаўшы ў Адэсу, быў у яго доме, хадзіў па цэхах завода, якім былы разведчык кіруе. Нібы з блізкімі сябрамі размаўляе дырэктар з рабочымі. Пануе на заводзе, якім кіруе Мазурэнка, дух згоды і дабраты...

Пасля таго як пасядзелі за сталом, трохі выпілі, закусілі і нават паспявалі, Мазурэнка кладзе на стол папку. Звяртаецца да Андрушкевіча:

— Тут рукапіс кнігі. Ваенны журналіст напісаў. Падпалкоўнік. Ты паглядзі. Падпалкоўнік на вайне не быў. Ты нашы справы ведаеш, табе і карты ў рукі. Асабліва беражы блакнот. Падпалкоўнік малайчына, прабіўны. Дамогся, што яго пусцілі ў ваенны архіў. Спісаў нашы радыёграмы. Мяне самога ў той архіў не пусцілі б...

Радыёграмы... Гэта ў корані мяняе справу. З таго часу, як Андрушкевіч надрукаваў сваю кнігу «Бітва за Беларусь», прысвяціўшы дзве ці тры старонкі партызанскаму злучэнню, якім камандаваў Багун, партызаны ды і сам Мазурэнка нязменна заклікаюць яго на сустрэчы, разлічваючы на тое, што ён напіша кнігу пра іх дзейнасць. Толькі на дзіва мала памятаюць Багун і Мазурэнка пра вайну. На грунце іхніх апавяданняў Андрушкевіч здолеў напісаць толькі два-тры невялічкія артыкулы, якія надрукаваў у газетах.

Назаўтра дырэктар саўгаса на ўласных «жыгулях» вязе Андрушкевіча, Багуна і Мазурэнку ў Вярэмічы. Андрушкевічу непрыемна ехаць з гэтым дырэктарам. Ён, здаецца, сябруе з сястрой расстралянага немцамі Сымона Баравіка і добра ведае, як гэтая сястра ў кампаніі з іншымі родзічамі травіла пасля вайны Андрушкевіча...

Вярэмічы — сяло вялікае, прырэчнае. Яго можна нават назваць мястэчкам. Бо тут некалькі вуліц, наўкруг пясчанай плошчы паўсталі камяніцы. Партызаны пад камандай Багуна некалі наступалі на Вярэмічы, захапілі ледзь не ўсе вуліцы.

Але да камяніц не падступіліся і канчаткова разграміць гарнізон не здолелі.

Вярэміцкая гара строма навісае над Прыпяццю. На самай вяршыні гары альтанка. Далёка відаць з альтанкі лясное наваколле. Колькі пахадзіў па тутэйшых лясах Андрушкевіч. Ён і цяпер успамінае свае вандроўкі з радасцю і ціхім смуткам.

У Вярэмічах Андрушкевіч пачынаў педагагічную кар'еру. Ён скончыў гісторыка-філалагічны факультэт і прыехаў у Вярэміцкую дзесяцігодку. Двухгадовы настаўніцкі інстытут — не педагагічны, і лепшае размеркаванне цяжка ўявіць. Вярэмічы — паселішча значнае, некалі было раённым цэнтрам, мела розныя ўстановы, штотыднёвы базар. Пад бокам — Прыпяць, вакол сасновыя грыбныя бары, і да Клінска толькі дваццаць кіламетраў.

Андрушкевіч блукае па мястэчку, пазнаючы яго і не пазнаючы. Шмат вырасла новых камяніц, у якіх размешчаны магазіны, клуб, камбінат бытавога абслугоўвання. Нават пральня і атэлье па рамонту тэлевізараў ёсць.

Дырэктар саўгаса робіць выгляд, што выпадкова знайшоў пад сядзеннем «жыгулёў» бутэльку самагонкі. Выпілі, закусілі. Партызаны ўспамінаюць былое. Андрушкевіч сёе-тое запісвае ў блакнот. Збольшага ён ужо азнаёміўся з радыёграмамі Мазурэнкі, іншымі матэрыяламі ваеннага архіва, перапісанымі ў блакнот незнаёмым падпалкоўнікам-журналістам, і ягоная душа ўзрушана. Вядома, ён дапоўніць і перапрацуе рукапіс падпалкоўніка-журналіста.

У другой палавіне дня партызаны вяртаюцца ў Клінск. Андрушкевіч застаецца: многае ў ягоным жыцці звязана з Вярэмічамі.

Школа цяпер новая. Яна размешчана ў трохпавярховым, складзеным з белай цэглы будынку. На новым школьным двары паспелі вырасці дрэвы — бярозы, ліпы, клёны. Старая школа, з пясчаным дваром, трыма драўлянымі будынкамі, памятнымі таполямі, якія магутна разрасліся,— побач.

Парадак вуліц захаваўся, але шмат новых будынін — драўляных, цагляных, а ранейшыя, знаёмыя, пафарбаваны ў зялёны, сіні колер, так што іх не пазнаеш.

Грымяць, гудуць Вярэмічы: бясконцым патокам імчаць па галоўнай забрукаванай вуліцы, якая затым пераходзіць у

тракт, што вядзе ў паўднёвапрыпяцкія раёны, грузавікі, легкавыя машыны, цягачы з нагружанымі прычэпамі, трактары, іншы транспарт.

Андрушкевіч блукае па ўскраінных вуліцах, правулках, выходзіць на бераг Прыпяці, дзе сядзяць з вудамі рыбакі. Тут цішэй, утульней. Спакойна, павольна цячэ Прыпяць, і вада ў ёй, здаецца, не забруджана, хоць паблізу надпрыпяцкага горада пабудаваны нафтаачышчальны завод.

Даўно Андрушкевіч не быў у Вярэмічах: з таго часу, як ажаніўся з Тамарай. Тут ён з ёй пазнаёміўся. Адсюль яна пераехала да яго ў Мінск.

У Вярэмічах жыве Кузьма Галуза: перабраўся сюды з лясной вёскі. Прадаў там хату і купіў тут. Пасяліцца ў Клінску Кузьме не ўдалося: не здолеў у гарадку ўладкавацца ў школе.

Андрушкевіч і застаўся ў Вярэмічах, каб пабачыцца з Кузьмой. Не простыя тым часам цяпер між імі адносіны.

Нямецкі пісьменнік Рэмарк у сваіх кнігах расказвае, як сябры-таварышы захоўваюць братэрства, якое ўзнікла між імі на вайне, у мірны час. На жаль, між падпольшчыкамі, партызанамі такое братэрства ў большасці выпадкаў распалася. Можа, таму, што ў мірным жыцці не ўсе дамагліся аднолькавага становішча.

У акупацыю Андрушкевіч жыў вострым, усеўладным пачуццём, якое цалкам падпарадкавала ягоную істоту, дыктавала ўчынкі, паводзіны. Не было тады сяброў, болей між сабой з'яднаных, знітаваных, чым Андрушкевіч, Іван Скачок і Кузьма Галуза. Цяпер не тое. Іван мякчэйшы, далікатнейшы, з ім яшчэ не парваліся да канца ніці душэўнай сувязі, што цягнуцца з юнацкіх ваенных гадоў. Кузьма адышоў ад сяброў, адасобіўся, затаіўся. Здаецца, нават набраўся злосці.

Небяспека, якая вісела ў вайну над краінай, з'яднала школьных сяброў-таварышаў, мірнае жыццё, калі нікому з іх не пагражаў арышт, смерць, расстрэл — наадварот, раз'яднала. Вось так атрымалася.

Андрушкевіч спатыкае Кузьму Галузу на аўтобусным прыпынку. Злез Кузьма з аўтобуса, які, мінуючы Клінск, ходзіць да надпрыпяцкага горада.

Убачыўшы таварыша, Кузьма не радуецца, не здзіўляецца, а нават як бы змрачнее.

— Здароў,— вітаецца ён, ставячы на зямлю абшарпаны вялізны чамадан.— У Клінск збіраешся?

— Я да цябе прыехаў.

— Чаго да мяне ехаць? Нічога цікавага няма. Я ўжо на пенсіі. Па хваробе.

Гледзячы на дужую, мажную постаць Кузьмы, не скажаш, што ён хворы. Толькі твар залішне бледны, белы, зусім не крануты загарам.

Кузьма як бы нечага чакае. Да сябе не запрашае. Заўсёды такі быў: любіў праседжваць у таварышаў дні, вечары і нікога ніколі не зваў да сябе.

У пасляваенныя гады, яны, нікім не прызнаныя барацьбіты, найчасцей збіраліся ў доме Андрушкевіча. Наладжвалі складчыну. Кузьма ўносіў дзясятку, гэта значыць у пераліку на цяперашнія грошы рубель. Аднак напіваўся і наядаўся Кузьма за гэты рубель да адвалу. Аж пот выступаў на пакатым ілбе.

Так, любіў бесцырымонны, грубаваты Кузьма пагрэць рукі ля чужога цяпельца. Можа, таму, што нялёгка жыў. Моцна дапякалі яго за былое паліцэйства.

— Я да цябе прыехаў,— жорстка гаворыць Андрушкевіч.— Не круці, калі ласка, хвастом. Чаму ты ў Клінск не з'явіўся? Іван Скачок табе званіў...

— Многа гаворкі. Пойдзем да мяне...

Вось так, першы раз у мірным жыцці Андрушкевіч ідзе ў хату чалавека, які ў вайну быў найбліжэйшым таварышам і сябрам. Ён ведае: у Кузьмы чацвёра дзяцей. Вядома, ужо выраслі. Сіламі дзяцей, самаахвярнай жонкі-армянкі, не наймаючы пабочных работнікаў, ён пабудаваў хату ў вёсцы, потым прадаў яе і другую купіў у Вярэмічах, пераведшыся ў тутэйшую школу.

У адным адчувае віну перад Кузьмой Андрушкевіч. Не здолеў паспрыяць старэйшаму ягонаму сыну, які з залатым медалём скончыў дзесяцігодку, паступіць ва ўніверсітэт. Так здарылася.

— Што ў цябе ў чамадане? — пытае па дарозе Андрушкевіч.

— Прадукты. У горад ездзіў. Хіба ў нас што купіш...

Жытло ў Кузьмы някідкае. Звычайная сялянская хата, крытая дранкай. Яна нават не абшаляваная, не пафарбаваная, як суседнія. Пры хаце, засланяючы яе ад сонца, стаіць разгалістая вербалозіна.

Моцна здала Рэгіна, прыгожая армянка-фельчарка, з якой, скончыўшы настаўніцкі інстытут, Кузьма ажаніўся. Рэгіна — сірата, у Клінску жыла ў мясцовага дзядзькі-беларуса, які быў жанаты з роднай сястрой яе маці.

Дзіўна-прыгожай кветкай цвіла Рэгіна, і за Кузьму, відаць, пайшла, каб выбавіцца ад цётчынай залежнасці.

Па хаце бадзёра выдыбае чарнявы, з арліным носам хлапчук, з цёмнымі і вялікімі вачамі, як у маці.

Калі садзяцца за стол, калі Андрушкевіч расказвае пра Мазурэнку, рукапіс падпалкоўніка-журналіста, блакнот з радыёграмамі, Кузьма весялее. Як у маладыя гады, рагоча і, нягледзячы на хворае сэрца, чарку куляе.

Андрушкевіч разумее таварыша. Жыццё пражыў нялёгка. Хоць афіцыйна прызнана група, хоць яшчэ да яе прызнання прызначалі Кузьму завучам, нават дырэктарам школы, над ім усё адно як бы вісеў цень зняважы. Усё жыццё марыў Кузьма ўступіць у партыю, ды так і не ўступіў. Хоць, вядома, сам вінават. Жорсткі, калючы, грубы з падначаленымі. І пенсію Кузьме далі не як інваліду вайны.

Андрушкевіч начуе ў Кузьмы, харчуецца прывезенымі ім з горада кансервамі, аглядае новую школу, у якой цяпер два пакоі займае некалі арганізаваны ім археалагічны музей. Час летніх канікулаў, настаўнікі ў адпачынку, і нікога са знаёмых калег Андрушкевіч не спатыкае. Ды іх, відаць, мала засталося ў школе.

Апаўдня на «масквічы», які належыць ляснічаму Мікалаю Дарожнаму, прыязджае ён сам, а таксама Базыль Чаплінскі, у вайну падпольшчык, а цяпер, як і ўсе доўгія пасляваенныя гады, чалавек без пэўных заняткаў. Твар Базыля спярэшчаны маршчынамі, белабрысая змалку галава стала суцэльна белай. Ад некалі спартыўнай фігуры Базыля не засталося і звання: высахлы, выпетраны дзядок, які не голіцца, бо не расце барада, але па-ранейшаму рухавы і няўрымслівы. Не здолеў стварыць Базыль сям'ю: у маладосці спрабаваў жаніцца, але праз

два ці тры месяцы сумеснага жыцця жонка ад яго ўцякла. Кончылася тым, што Базыль прыстаў у прымы да немаладой кабеціны, у якой памёр муж, і цяпер мае дах над галавой і сяк-так перабіваецца.

Мікалай таксама змізарнелы, хоць яшчэ не зусім сівы. На чарнявым, някідкім, але сімпатычным твары буйна выдаецца пасінелы нос. Яшчэ цяпер мае Мікалай некрануты рад белых, як часнок, зубоў. Не губляе форсу і добрага гумо́ру Мікалай: на ім шчыгульны, падагнаны да шчуплай фігуры сіні касцюм, фетравы капялюш, да бляску начышчаны маленькія, нібы дзіцячыя, туфлі.

Нібы духам даўняй юнацкай дружбы павявае ў не надта багата абсталяванай хаце Кузьмы Галузы. Цяпер за сталом сядзяць звычайныя немаладыя мужчыны, прыгнечаныя рознымі клопатамі, нягодамі жыцця. Вось так, значыцца. Ва ўсім Клінску цяжка знайсці такіх смелых, адважных, вынаходлівых хлопцаў, якімі былі яны ў вайну. Яны дня не маглі пражыць адзін без другога. Цяпер гадамі не бачацца. Нават святочных віншаванняў адзін другому не шлюць.

Зрэшты, не так кепска яны пражылі жыццё. Калі Андрушкевіч напіша кнігу пра падполле, то назаве іх прозвішчы. Не зможа не назваць. Такім чынам увойдуць гэтыя непрыкметныя ў цяперашнім звычайным жыцці хлопцы ў гісторыю...

## V

Невялікая кніга-брашура пра Клінскае падполле ўжо была...

Калі ў часопісе стаў друкавацца раман Аляксандра Фадзеева «Маладая гвардыя», Андрушкевіч з прагнасцю накінуўся на яго. З нецярпеннем чакаў наступных нумароў. Чытаў, радаваўся: яны, мясцовыя хлопцы, дзяўчаты дзейнічалі не горш, можа, нават трохі лепей, з большымі, чым у падпольшчыкаў Краснадона, практычнымі вынікамі. Можа, таму, што на чыгуначным вузле з яго дзясяткамі эшалонаў, штодзённым салдацкім мурашнікам можна было шырэй разгарнуцца. Дух авантурызму жыў у душах падпольшчыкаў, ды яшчэ які дух!

Некаторыя героі «Маладой гвардыі» як бы нагадвалі людзей не Андрушкевічавага, а нейкага іншага пакалення. Потым Андрушкевіч здагадаўся: у сэрцы пісьменніка жыў водгалас таго, што сам бачыў і пералыў. Гэта было на Далёкім Усходзе, у гады грамадзянскай вайны, але істотна справы не мяняла. Аляксандр Фадзееў добра адчуваў пажар у душах, які выклікаецца варожым нашэсцем, няхай сабе душы гэтыя больш нагадваюць дарэвалюцыйных гімназістаў, вучняў рэальных вучылішчаў, чым школьнікаў саракавых — пяцідзясятых гадоў.

Андрушкевіч канчаў настаўніцкі інстытут, калі ў Клінску, праўдзівей, на чыгуначным вузле стаў час ад часу паяўляцца рухавы, кругленькі Марат Шульман, карэспандэнт камсамольскай газеты, якая выдаецца ў Мінску. Некалькі разоў ветліва напісанымі лістамі карэспандэнт запрашае да сябе Андрушкевіча. Сваёй пастаяннай рэзідэнцыяй на станцыі ён абірае вузкае, нібы калідор, напаўцёмнае памяшканне парткабінета. Сюды выклікае былых падпольшчыкаў, спісваючы сваім неразборлівым, размашыстым почыркам блакнот за блакнотам.

Шульман Андрушкевічу падабаецца. Хлопец роўных з ім гадоў, мяккі, смяшлівы і нос не задзірае ад таго, што працуе ў вядомай газеце.

— Каго ні спытаеш, кіраўніком падполля называюць цябе. Чыгуначнага майстра Глушко спецыяльна пакінулі на станцыі нашы органы. Вы з моладдзю, гэтак жа, як урачы, аграномы, астатняя інтэлігенцыя, далучыліся да майстра. Ён меў уладу на станцыі. Але кіраваў моладдзю ты? Правільна я гавару?

Карэспандэнт шчыра імкнецца разабрацца ў лесвіцы ўзаемадачыненняў, на якіх было заснавана падполле.

Андрушкевіч даказвае карэспандэнту, што ў падполлі мала думалі, хто над кім стаіць. Гэта не мела асаблівага значэння. Пасля вайны хлопцы між сабой умовіліся: у сорак другім годзе — у некаторай ступені гэта была праўда — кіраваў групай Сымон Баравік, у сорак трэцім — Кузьма Галуза. Вось такую стварылі яны пасля вайны версію...

У карэспандэнта добры нюх. Галоўнай фігурай сярод маладых быў, бадай, ён, Андрушкевіч. Лідарам падполля

сябры-таварышы таму аформілі Кузьму Галузу, што ён прыйшоў у гарадок са спецыяльным заданнем, дый яго паліцэйства трэба было апраўдаць. Усе пасляваенныя гады насіў Кузьма сумку, напакаваную рознымі даведкамі, пацвярджэннямі, іншымі дакументамі. У якія толькі арганізацыі ён не торкаўся. У райкам камсамола, райкам партыі, абкам камсамола. Але ніхто не хацеў бачыць кіраўніком падполля былога паліцая. Няхай сабе такога, які са спецыяльным заданнем перайшоў лінію фронту і праслужыў у паліцыі толькі тры месяцы.

Гэта была, вядома, памылка — выстаўляць арганізатарам падполля Кузьму Галузу. Вельмі вялікім быў напал нянавісці да нямецкіх прыслужнікаў у першыя пасляваенныя гады. Тым часам Андрушкевіч, Іван Скачок, астатнія сябры-таварышы шчыра хацелі дапамагчы Кузьму. Па сутнасці, пятнаццаць — дваццаць пасляваенных гадоў пайшло на тое, каб нарэшце стварыць Кузьму добрае імя.

У памятную восень, калі Андрушкевіч прыехаў працаваць у Вярэмічы, маладзёжная газета пачала друкаваць матэрыялы пра Клінскае падполле. Андрушкевічу належала ў іх віднае месца. Карэспандэнт, не таячыся, аддаваў яму лідарства. Яму і майстру Глушко. Іх двух бачыў галоўнымі героямі тых спраў, якія былі здзейснены ў гарадку і на чыгуначным вузле.

Малайчына карэспандэнт. Магчыма, у будучым стане пісьменнікам. У падзеях, якія ўсяго толькі вывучыў, адчувае сябе як рыба ў вадзе. Намацаў спружыны, механізм падполля, зразумеў унутраныя, душэўныя сілы, якія кіравалі людзьмі ў смяртэльна небяспечнай барацьбе.

Дзесяць газетных падвалаў заняў нарыс пра Клінскае падполле і друкаваўся амаль месяц.

Андрушкевіч пасля гэтых матэрыялаў як бы нават панавому стаў глядзець на самога сябе. Нешта ў ім Шульман разгадаў такое, пра што ён нават не здагадваўся.

Праз год ці трохі пазней у Мінску выйшла кніжачка-брашурка, якая называлася «Клінскія маладагвардзейцы». Яна мала чым адрознівалася ад таго, што было надрукавана ў газеце. Журналіст проста зграбней размеркаваў матэрыял, выкінуў паўторы, залішне падрабязныя апісанні.

Андрушкевіч лішне не радаваўся кніжачцы. Час ад часу ў душу закрадвалася смутная трывога. У кніжачцы ўсё праўда, але ці не зарана Шульман яе напісаў? Акрамя Аляксандра Фадзеева, ніхто другі падпольшчыкаў не праслаўляе, не спяшаецца афіцыйна прызнаваць іх дзейнасць, зацвярджаць арганізацыі. Ёсць, маўляў, «Маладая гвардыя», і хопіць...

Андрушкевіча тым часам прызначаюць завучам дзесяцігодкі, прымаюць кандыдатам у члены партыі. Ён паступае на завочную вучобу ва ўніверсітэт, ездзіць на сесіі ў Мінск.

Не тоячы захаплення, глядзяць на маладога, з мужным прыгожым тварам настаўніка цыбатыя, з першымі прыкметамі расцвітаючай жаноцкасці дзесяцікласніцы, маладыя настаўніцы.

Ужо тады заўважае Андрушкевіч, што на яго досыць прыязна, прыхільна паглядае выкладчыца рускай мовы і літаратуры Тамара Іосіфаўна Клімава. Адзіная з педагогаў школы, яна скончыла ўніверсітэт, і не абы-які — старадаўні, славуты, размешчаны ў прыволжскім горадзе. У тым самым, дзе было авіяцыйнае вучылішча і дзе цэлы год вучыўся Андрушкевіч. На першым часе гэтая акалічнасць не здавалася яму знакам лёсу. Тамара Іосіфаўна нічога для яго не значыла. Горад на Волзе, вучылішча ён успамінае з ціхім смуткам. Там ён узняўся ў сваё неба, з паднебнай высі бачыў белы горад і сінюю стужку вялікай ракі...

Тамара Іосіфаўна трохі вуглаватая, худаватая, са слаба развітымі жаноцкімі формамі. Прыгожай яе не назавеш. На цёмна-смуглявым твары толькі зрэдку прамільгне ўсмешка, і тады гэты твар здаецца далікатна-вытанчаным і нават прывабным. А так ён нясе на сабе адбітак зацятасці, жорсткасці і як бы нават драпежнасці. Рухі яе нервова-парывістыя, настрой часта мяняецца, адбіваючыся на твары пераважна задуменнай засмучанасцю. Усё гэта як бы гаворыць пра неспакойны характар настаўніцы, палымянасць, няўрымслівасць яе натуры.

Але ўніверсітэт, які яна закончыла,— сапраўды славуты, і прыходзіцца здзіўляцца, як такая рэдкая птушка заляцела ў глухаватую Вярэміцкую школу.

Між тым узаемная сімпатыя між Андрушкевічам і Клімавай пастулова ўсталёўваецца. Ён ёй аднойчы прызнаецца, што

вучыўся на лётчыка ў яе горадзе, і ўпершыню бачыць у яе вачах радаснае здзіўленне і як бы нават прыхільнасць да сябе. З гэтага моманту Тамара Іосіфаўна пастаянна ўсміхаецца Андрушкевічу, і ён усё часцей ловіць на сабе яе зацікаўленыя позіркі. Нярэдка так бывае: не вельмі заўважаеш жанчыну, але, калі пастаянна бачыш у яе вачах, усмешцы, у сказаных ёй словах прыхільнасць, міжволі сам пачынаеш глядзець на яе з сімпатыяй.

Штосьці падобнае намячаецца і ў Андрушкевіча з Клімавай. Аднак на першым часе іх адносіны далёка не заходзяць: на ўзаемна прыязных усмешках, позірках усё пакуль канчаецца.

Тамара Іосіфаўна негаваркая, засяроджаная на чымсьці сваім, глыбока схаваным. Лішняга слова не скажа і ніякага выразна акрэсленага знаку сваёй прыхільнасці не падасць. Тым часам, калі што скажа — не адступіць. Зацятая, строгая дзяўчына, якая ведае сабе цану.

Цягнучыся да Тамары Іосіфаўны, Андрушкевіч яе трохі пабойваецца. Ёсць прычына.

Нягледзячы на відавочныя дадатныя якасці маладой настаўніцы, па школе пра яе глуха вандруюць не зусім добрыя чуткі. Нібыта такая гордая, незалежная Тамара Іосіфаўна па той прычыне, што Клязьбіч, дырэктар школы, трымае яе пад сваім крылцам.

Чуткі пацвярджаюцца і не пацвярджаюцца. Клязьбіч сапраўды залішне ўважлівы да Тамары Іосіфаўны: адной з усіх настаўніц выдзяляе ёй школьны пакой побач са сваёй кватэрай, па яе жаданні вызначае, мяняе нагрузку і наогул аказвае ёй усялякія знакі ўвагі.

З другога боку, ніхто ніколі не бачыў Тамару Іосіфаўну і Клязьбіча разам. Тамара Іосіфаўна кіруе драматычным гуртком, і дырэктар іншы раз прыходзіць на заняткі гуртка. Але другія настаўнікі таксама бываюць на гэтых занятках.

Усе ведаюць, што дырэктар хацеў паставіць Клімаву, адзіную ў школе настаўніцу, якая стацыянарна скончыла ўніверсітэт, завучам. Тым часам Тамара Іосіфаўна рашуча адмовілася ад гэтай пасады. Матывавала адмову тым, што не ведае беларускай мовы.

Інстынктам Андрушкевіч адчувае: Клязьбіч не той чалавек, якім хоча здавацца. Патрабавальны, суровы, насмешлівы з вучнямі, з падначаленымі настаўнікамі, асабліва з тымі, хто не можа даць адпору, ён імгненна мяняецца, калі сутыкаецца з людзьмі, што маюць над ім хоць нейкую ўладу. Тут ён дагаджае, ліслівіць, стараецца спадабацца. Носіць у кішэні блакноцік, у якім нібыта запісана тысяча розных анекдотаў. Трапіўшы ў адпаведную кампанію, зазірнуўшы ў блакноцік, Клязьбіч са смакам расказвае анекдот на патрэбу моманту.

Лічыцца: у вайну Клязьбіч быў на фронце. У святочныя дні на штрыфелі акуратна адпрасаванага чорнага пінжака ён носіць медаль «За адвагу». Але ніхто ніколі не чуў ад увогуле гаваркога Клязьбіча апавяданняў пра фронт і вайну.

Жонка ў Клязьбіча някідкая: тоўстая, з пафарбаванымі ў медна-барвовы колер валасамі, з шырокім, непрыемным тварам.

Ходзяць чуткі: яна ажаніла Клязьбіча на сабе, калі ён меў толькі васямнаццаць гадоў і яшчэ нават настаўніцкі інстытут не скончыў. Азызлая, непрыветлівая, заўсёды пахмурная, жонка дырэктара сапраўды здаецца намнога старэйшай за свайго яшчэ ніштаватага мужыка.

Тамара Іосіфаўна Клімава добра вядзе ўрокі і шчыра аддаецца грамадскай справе. Драматычны гурток, якім кіруе, паставіў некалькі дробных п’ес, цяпер рыхтуе да пастаноўкі славутую п’есу Канстанціна Сіманава «Рускае пытанне», у якой удзельнічаюць вучні і настаўнікі. У час рэпетыцый да позняга вечара заседжваецца ў школе дырэктар. Можа, адсюль і чуткі пра яго асаблівыя адносіны да выкладчыцы рускай мовы і літаратуры. Але чуткі чуткамі, а Клязьбіч сапраўды лістам сцелецца перад Тамарай Іосіфаўнай...

Гром грымнуў у вясновыя экзамены...

Спачатку напаўшэптам, затым услых настаўнікі перадаюць адзін другому нечаканую навіну: кніжачка «Клінскія маладагвардзейцы», у якой размаляваны подзвігі Андрушкевіча, забаронена. Зачытаныя да дзірак, пашкамутаныя экзэмпляры забраны як са школьнай бібліятэкі, так і з сельсавецкай.

Маладыя настаўніцы глядзяць на Андрушкевіча спалоханымі вачамі. Вучні выгляду не паказваюць, але Аляксей Іванавіч усёй істотай адчувае іх дапытлівую насцярожанасць.

Тамара Іосіфаўна на чуткі пра паводзіны завуча ў вайну не рэагуе. Яна стала як бы нават больш уважлівай да Андрушкевіча. Упершыню менавіта ў тыя горкія дні ў ягонай душы варухнулася цёплае да яе пачуццё.

Здзіўляе Андрушкевіча і Клязьбіч. Ён чакае ад яго зласлівых роспытаў, кепікаў. Між тым дырэктар школы таксама не выяўляе ніякай варожасці да завуча, наадварот, як бы выказвае жаданне падтрымаць, дапамагчы.

Андрушкевіч едзе да Багуна — першага сакратара Клінскага райкама. Хто ведае яго лепей, чым Багун?

Багун — ён усё носіць пашыты ў партызанах палкоўніцкі мундзір — сустракае былога сувязнога і партызана ніякавата.

— Нічога не разумею, дарагі таварыш. Не ад райкама дзела ідзе. Нібыта нешта наблытана ў той кніжачцы. Не хвалюйся, разбяромся...

Праз тыдзень адбываецца пленум райкама, і Багуна з пасады першага сакратара здымаюць. Раён ён, аднак, не пакідае, пераходзіць на работу ў мясцовы прамкамбінат.

Дзіўнае творыцца на свеце. У газетах пішуць пра югаслаўскую кампартыю, што нібыта апынулася ва ўладзе шпіёнаў і забойцаў. Вядзецца кампанія супраць марганістаў-мендэлістаў — яе ўзначальвае славуты селекцыянер акадэмік Лысенка. Як звычайных шарлатанаў лаюць у газетах вучоных, якія займаюцца кібернетыкай, навукай дагэтуль невядомай...

У тое лета Андрушкевіч пераводзіцца ў Лужынецкую дзесяцігодку, размешчаную ў паўночнай, лясной частцы раёна. Падалей ад насмешлівых позіркаў, знявагі.

У Клінску паяўляецца Алімпіяда Збынеўская. Нечакана спатыкаецца з Андрушкевічам на вуліцы. Абое здзіўлены, нават узрушаны. Адкуль прыехала Алімпіяда? З Украіны, з Кіева. Яна не проста бавіла час у Кіеве. Скончыла ветэрынарны інстытут, мае дыплом. Як справы ў Андрушкевіча? Так сабе. Працуе ў школе. Цяпер перавёўся з Вярэміч у Лужынец. Чаму перавёўся? Проста так. Абрыдзела сядзець на адным месцы.

Андрушкевіч сустракаецца з Алімпіядай. Яшчэ і яшчэ раз. Чаму ён не адказаў на яе пісьмо, калі ляжаў у шпіталі? Крыўдаваў, таму не адказаў. За што крыўдаваў? За Дмухаўца. Не было ніякага Дмухаўца...

Андрушкевіч ведае: Дмухавец быў. Нават два Дмухаўцы было: старэйшы і маладзейшы. Сыны высланага на Салаўкі кулака, якім удалося з высылкі збегчы. Калі немцы занялі Клінск, Дмухаўцы на другі ці трэці тыдзень пасля іх з'яўлення нацягнулі на рукавы пінжакоў белыя павязкі паліцэйскіх.

Праз некалькі месяцаў Дмухаўцы пайшлі з паліцыі. Відаць, знайшлі другую, больш прывабную і менш небяспечную службу. Хоць да канца акупацыі Андрушкевіч не даўмеўся, дзе яны працуюць і з якога занятку ядуць хлеб.

Жылі Дмухаўцы па акупацыйным часе багата і заможна. Кожны захапіў па прасторным, пакояў на пяць-шэсць, асабняку, збудаваным з новага, якое яшчэ пахла смалой, бярвення. У харомінах, якія выраслі перад самай вайной, не доўга пажылі іх уладальнікі, найбольш відныя ў гарадку кіруючыя асобы.

Трэба аддаць належнае Дмухаўцам: мужчыны былі адменныя. Высокія, стройныя, шыракаплечыя. Малодшы яшчэ і тварам удаўся: пісаны прыгажун...

Дык вось пагаворвалі: з маладзейшым Дмухаўцом зляглася Алімпіяда.

Андрушкевіча ў гарадку яшчэ не было: выбраўшыся з палону, стараючыся не трапіць у лапы немцаў, паліцаяў, галодны і халодны, ён толькі брыў да Клінска.

Дабраўшыся да чыгуначнага гарадка, дачуўшыся пра сувязь Алімпіяды з паліцаем, Андрушкевіч пастараўся хутчэй з ёй сустрэцца і рубам паставіў пытанне: фашыстам прадалася?

Трымаецца Алімпіяда на дзіва спакойна:

— Ты мяне ад немцаў абароніш? Калі спытаюць пра камсамол, пра тое, што я нават членам школьнага камітэта была?

Пярэчыць Андрушкевічу няма як: сам у няпэўным становішчы. Уцёк з палону. Далей што?

У акупацыю Алімпіяда мала займае думкі Андрушкевіча. Душа захоплена другім: фронтам, партызанскай, тут, у тыле немцаў, дзейнасцю. У яго ні разу не ўзнікала думка прылучыць Алімпіяду да патайной арганізацыі, да якой належыць сам. Некаторыя школьныя дзяўчаты дзейнічаюць як актыўныя падпольшчыцы, памагаюць партызанам, рызыкуюць жыццём.

Алімпіяда далёкая ад гэтага: не цікавіцца ні становішчам на фронце, ні дыверсіямі на чыгунцы, гулкія выбухі якіх штоноч чуваць у гарадку. Яна жыве толькі для сябе.

Андрушкевіч не асуджае Алімпіяду. Яна як бы створана для зусім іншага жыцця, дзе няма вайны, акупацыі, арыштаў, допытаў, расстрэлаў. Пра дзяўчат, што гэтак жа, як ён, рызыкуюць жыццём, з якімі ён сустракаецца, перадаючы ім лістоўкі, газеты, ён амаль не думае. Бо ёсць Алімпіяда. Іншы раз яны зусім не наўмысна спатыкаюцца, размаўляюць, яна ўзрушвае яго. Хоць пра Дмухаўца Андрушкевіч не забывае...

У жніўні сорак трэцяга года яны, падпольшчыкі, наладжваюць на станцыі ў Клінску выдатны феерверк. Узрываюць склад з боепрыпасамі. Вядома, капітан Мазурэнка пасадзейнічаў. Даў радыёграму, адпаведныя каардынаты, і станцыю ў Клінску ледзь не гадзіну бамбіла савецкая авіяцыя.

Андрушкевіч пасля гэтай дыверсіі рушыў у партызаны. Сям’я перабралася ў вёску, адкуль родам маці. Нібыта ратуючыся ад бамбёжак.

А яшчэ праз месяц немцы прывезлі параненага Андрушкевіча ў Клінск. Партызаны наляцелі на прылеглы да гарадка саўгас, забралі некалькі соцень галоў жывёлы, сагнанай са спаленых вёсак. Андрушкевіча параніла ў жывот, і ён упаў у няскошаны авёс. Сцякаў крывёю. Партызаны яго не заўважылі, немцы, апамятаўшыся, знайшлі...

Андрушкевіча чакае немінучая смерць. Ратуе яго паніка, якая ўсчынаецца ў гэты дзень у гарадку. Савецкія войскі падыходзяць да Дняпра, у той дзень якраз фарсіруюць яго. Выбухі савецкіх снарадаў разлягаюцца, здаецца, у бліжніх ваколіцах. Мясцовая нямецкая адміністрацыя, разам з ёй паліцыя паспешліва грузяцца ў эшалон...

Андрушкевіча ніхто не пазнае. Няма каму пазнаваць. Немцы паклалі параненага партызана ў мясцовую бальніцу. Прыставілі салдата-вартавога. Відаць, каб падлячыць партызана і сёе-тое ў яго выпытаць. Але ў бальніцы дзейнічае адчайна-вынаходлівы, смелы доктар Князюк, які забяспечваў партызан медыкаментамі, бінтамі і з якім вельмі цесна звязаны Андрушкевіч.

Князюк ведае, што рабіць. Падпойвае спіртам немца-вартавога, садзіць у кузаў паўтаратонкі жонку, малога сына, пераносіць туды з дапамогай шафёра, таксама партызанскага сувязнога, захутанага ў транты Андрушкевіча. Маючы пропуск, кіруе Князюк у лес, да партызан.

Так заканчваецца гэтая, амаль дэтэктыўная, гісторыя.

Андрушкевіч лечыцца ў вайсковым шпіталі, бо партызаны ў хуткім часе злучаюцца з рэгулярнымі войскамі. Зімой, калі вызваляюць Клінск, ён атрымлівае месячны водпуск. На пачатку вясны ідзе ў армію.

Пасля вызвалення гарадка на Алімпіяду многія паглядаюць коса. У ліку іншых дзяўчат, пра паводзіны якіх ходзіць не зусім добрая слава, яе пасылаюць аднаўляць разбураны Данбас. Значыць, нездарма гаварылі пра Дмухаўца....

Яму прыйшлося вызваляць Беларусь, якая яшчэ ляжала пад акупацыяй. Ён прайшоў праз Бабруйск, Барысаў, Мінск, Баранавічы. Пад Брэстам яго параніла — трэці раз за вайну. Лежачы ў шпіталі, ён атрымлівае ліст ад Алімпіяды. Ліст асцярожны: як здароўе, ці не вельмі небяспечная рана?

На ліст ён не адказвае. Позна ўспомніла пра яго Алімпіяда.

Калі Андрушкевіч пасля сканчэння вайны дэмабілізаваўся, Алімпіяды ў Клінску не было. Ходзяць чуткі: вучыцца на Украіне. Ён не дапытваецца, у якім горадзе, інстытуце?

Сям'я Алімпіяды жыве ў тым жа прасторным доме, але ранейшай вагі не мае. Бацька працуе толькі прыёмшчыкам раённага «Заготзбожжа», якім да вайны загадваў. Не даравалі яму акупацыю, хоць пры немцах не вытыркаўся, паводзіў сябе ціха, непрыкметна.

Андрушкевіч усё-такі не ажаніўся з Алімпіядай. Працуе далёка, у Лужынцы, за паўсотню вёрст ад Клінска. Прыязджаючы ў гарадок, завітвае ў прасторны дом Збынеўскіх, вандруе з Алімпіядай па вуліцах, ходзіць з ёй у кіно. Яны абое нібы птушкі з перабітымі крыламі...

Тым часам здараецца нечаканае. З Украіны, з таго інстытута, дзе Алімпіяда вучылася, прыязджае выкладчык, і яна, нават не папярэдзіўшы Андрушкевіча, едзе з ім з гарадка.

Яны бачацца толькі праз год.

— Не крыўдуй, Аляксей,— не пазіраючы яму ў твар, прамаўляе Алімпіяда.— Не адна я вінавата. Ты ўсяго не ведаеш. Не трэба, каб ведаў. Калі-небудзь мяне зразумееш.

Ён доўга думае над словамі Алімпіяды, стараючыся разгадаць іх стоены, схаваны сэнс, але ні да чога не дадумваецца.

## VI

Справа з брашурай «Клінскія маладагвардзейцы» заглухае, не даўшы дрэнных вынікаў ні для пісьменніка Шульмана, які па-ранейшаму друкуецца ў маладзёжных газетах, ні для герояў ягонай кніжачкі. Іх толькі зняважылі і, не папрасіўшы прабачэння, пра ўсё паступова забыліся.

Андрушкевіча прымаюць у члены партыі. Ён вяртаецца ў Вярэмічы, зноў становіцца завучам.

Універсітэт ён канчае з такім бляскам, што яму прапаноўваюць аспірантуру.

Старажытная, няпісаная гісторыя захапляе Андрушкевіча. Відаць, спрыяе гэтаму Вярэміцкая гара, на якой завуч разам з вучнямі старэйшых класаў вядзе раскопкі. Колькі яны сабралі розных каменных прылад позняга палеаліту, мезаліту і неаліту таксама! Вярэмічы — гістарычная мясціна, адно з паселішчаў самых старажытных людзей на Беларусі.

Прапанову аб паступленні ў аспірантуру Андрушкевіч прымае. Толькі не адразу перабіраецца ў Мінск. Два гады вучыцца завочна, здае экзамены кандыдацкага мінімуму.

Вярнуўшыся ў Вярэмічы, Андрушкевіч як бы вяртаецца і да Тамары Іосіфаўны. Тоненькая нітачка ўзаемнай сімпатыі, што працягнулася між ім і настаўніцай рускай мовы, не парвалася. Наадварот, яна як бы стала нават мацнейшай, перарастае ў штосьці большае. Толькі цяжка, пакутліва перарастае...

Тамара Іосіфаўна папракае Андрушкевіча: кінуў школу, калектыў, у Клінску на вачах знаёмых настаўнікаў блукаў з нейкай легкадумнай асобай.

У Андрушкевіча таксама ёсць козыр: Клязьбіч. Хіба яна не цягнулася да Клязьбіча?

Тамара Іосіфаўна рашуча адмаўляе якую-небудзь сваю сімпатыю да Клязьбіча. Ён імпанаваў ёй як педагог, кіраўнік калектыву, і болей нічога.

Калі Андрушкевіч вяртаецца ў Вярэмічы, Клязьбіча ў школе няма. Ён і раён пакінуў, з'ехаўшы невядома куды. Між тым піянерважатая, муж якой канчае вайсковую службу і якога два гады няма дома, нараджае дзіця. Настаўнікі пасміхаюцца: вялікі зух Клязьбіч! Лёгка, спрытна падбірае ключы да жаночых сэрцаў...

Андрушкевіч таксама так думае. Часта спрачаецца з Тамарай Іосіфаўнай: не цэльная, маналітная натура Клязьбіч. Хутчэй наадварот. Проста валодае талентам пераўвасаблення. Умее пускаць пыл у вочы. Прыроджаную грубасць, нахабнасць выдае за цвёрдасць і прынцыповасць. Чалавек з двайным дном...

Амаль кожны дзень сварацца з-за Клязьбіча Андрушкевіч з Тамарай Іосіфаўнай. Але да вечара паспяваюць памірыцца.

Андрушкевіч цяпер займае пакойчык пры школе. Побач з пакоем Тамары Іосіфаўны. Бачыць на ўласныя вочы: жыве яна — як манашка. Ніхто да яе не ходзіць. Ні да кога не ходзіць яна.

Чаму Андрушкевіч пакідаў Вярэмічы? Не мог перанесці знявагі. Відаць, ганарлівы ён, эгаістычны. Пакутаваў з-за таго, што на яго навешан ярлык і што настаўніца рускай мовы пра гэта ведае. Значыць, ужо тады ён быў неабыякавы да яе. Можа, з-за яе з Алімпіядай пахаджваў. Бо Тамара Іосіфаўна вагалася, хісталася. Як бы нечага чакала. Як бы знаходзілася ў нейкім палоне, з якога не магла вырвацца. Калі б Тамара Іосіфаўна з такой, як цяпер, адкрытасцю пацягнулася да Андрушкевіча два гады назад, не пакідаў бы ён Вярэмічы...

Тады вагалася Тамара Іосіфаўна, цяпер вагаецца Андрушкевіч. Тое, што настаўніца рускай мовы сімпатызавала Клязьбічу, што каля яе, па чутках, пакручваецца нейкі шафёр, нават не галоўнае для Андрушкевіча. Ён прадчувае, што гісторыя, падобная на забарону брашуры, у ягоным жыцці можа паўтарыцца, і ён не ведае, як паставіцца да яго ў такім выпадку Тамара Іосіфаўна. Цяпер яна для Андрушкевіча ніхто, а як жонкай стане? Сама яна чысценькая, на яе не напішуць ананімку з палітычным абвінавачваннем, не зацікавяцца біяграфіяй. Андрушкевіч горды і вельмі баіцца, што менавіта ў гэтым пункце яго гонар можа быць зняважаны.

Пасля вяртання Андрушкевіча ў Вярэмічы і асабліва пасля таго, як ён скончыў універсітэт і паступіў у аспірантуру, Тамара Іосіфаўна рашуча змяняе адносіны да завуча. Нібы робіць выбар, адчуўшы, што Андрушкевіч іменна той чалавек, сумесна з якім яна згодна ісці па жыцці. Яна цяпер не тоячыся паказвае сваю да яго прыхільнасць, не баіцца прайсці з ім па вуліцы, нават у ягоны пакойчык завітвае.

У Андрушкевіча невялікі вопыт адносін з жанчынамі. Тое, што некалі Алімпіяда адчайна, ні на што не гледзячы, кінулася на шыю прыгожаму паліцаю Дмухаўцу і даволі абыякава ставілася да яго, Андрушкевіча, ён цяпер атаясамлівае з паводзінамі Тамары Іосіфаўны. Калі рвецца жанчына да мужчыны, значыць, вельмі яго любіць.

Тым часам Алімпіяда штосьці перавярнула ў душы Андрушкевіча. Прымусіла іначай, чым у маладыя гады, глядзець на жанчын, на жыццё. Ён непадобны на сябе ранейшага. Халодная гадзюка рэўнасці часта падымае галаву ў ягонай душы. Але ён не дае разгарэцца рэўнасці. Дзесяць разоў магла кінуць яго Тамара Іосіфаўна. Аднак не кінула. Значыць, ён ёй вельмі падабаецца...

Яна, відаць, бачыць, што ён заняты кніжнік, што, акрамя работы і сваіх навуковых вышукаў, нічога не хоча ведаць. Тут яна не памыляецца. У даваенныя, пасляваенныя гады некаторыя равеснікі Андрушкевіча залішне аддавалі ўвагу любоўным прыгодам, прыкладваліся да чаркі, шукалі іншай вясёлай уцехі. Ён пазбягаў вясёлых прыгод. Можа, гэта і цэніць у ім халаднавата-стрыманая і ў той жа час адчайна-рашучая Тамара Іосіфаўна. Хто ведае...

Паступіўшы ў аспірантуру, Андрушкевіч яшчэ болей завіхаецца каля Вярэміцкай гары, што навісае над Прыпяццю. Дзесяцікласнікі цяпер свабодна адрозніваюць каструбаватыя, ледзь кранутыя апрацоўкай прылады палеаліту ад адшліфаваных — з выдумкай і фантазіяй — тапароў, скрабкоў, наканечнікаў стрэл новай каменнай эпохі.

Андрушкевіч навучыў сваіх выхаванцаў многім іншым рэчам, якім сам навучыўся з кніг: як правільна весці раскопкі, апісваць, дакументіраваць знойдзены матэрыял, беражліва ставіцца да зямлі, што хавае ў сабе тысячагадовыя тайны.

Трапіўшы на пачатку педагагічнай кар’еры ў Вярэмічы і яшчэ раз туды вярнуўшыся, Андрушкевіч зразумеў, што мясціны, у якіх нарадзіўся, вырас, не абыдзены поступам гісторыі. Асабліва гісторыі вельмі даўняй, няпісанай, што датычыць старажытных плямён, народаў, пра якіх знойдзеш толькі скупыя радкі ў Герадота, Тацыта, Іярдана, арабскіх гісторыкаў. Астатняя гісторыя схавана ў зямлі. Пра гэтае схаванае могуць расказаць чарапкі, наканечнікі стрэл, сякеры ды яшчэ чалавечыя ўпрыгожанні, што бяруць пачатак з той самай пары, што і прылады працы, палявання, вайны.

Яшчэ слова, яго глыбінныя пласты могуць дапамагчы гісторыкам. Бо слова, аказваецца, можа перажыць жалеза, бронзу і нават камень.

Са старажытных пісьменнікаў Андрушкевіча найбольш натхняе Кірыла Тураўскі, блізкі зямляк, магутны голас якога ўжо тысячу гадоў назад разлягаўся па ўсёй прасветленай Усходняй Еўропе. Вось табе Палессе, лясная, балотная глуш!

Цяга да мінуўшчыны вынікла ў Андрушкевіча з вайны, з акупацыі, з выхвалення фашыстаў, што яны асаблівая, нардычная раса. Адсюль пачалася ягоная цікавасць да гісторыі плямён і народаў. Бо немцы, якіх Андрушкевіч бачыў у юнацтве, не проста ваявалі, перамагалі, хадзілі па вуліцах Клінска, ездзілі на аўтамабілях з тупымі, шырокімі радыятарамі, у эшалонах, якія цягнулі моцныя, з кароткімі трубамі і доўгімі тэндарамі лакаматывы, атрымлівалі на станцыях у свае алюмініевыя кацялкі варыва, пілі, елі, спявалі песні, вязаліся да жанчын, гэтыя немцы высока неслі свае галовы, самаўпэўнена, пагардліва глядзелі на ўсё тутэйшае, мясцовае, як бы валодаючы нейкім асаблівым правам быць гаспадарамі на чужой зямлі.

Пра вытокі вось такой нахабнасці, самаўпэўненасці, ваяўнічасці хацеў паболей ведаць Андрушкевіч. Вось чаму ён паступіў і скончыў гісторыка-філалагічны факультэт настаўніцкага інстытута, затым гістарычны — ва ўніверсітэце.

Невялікія докі былі выкладчыкі двухгадовага настаўніцкага інстытута, якія нават не мелі вучоных ступеняў. Але тое, што хацеў, Андрушкевіч ад іх узяў. Яму як гісторыку пазней вельмі прыдалося, што вывучаў фальклор, старажытны эпас

розных народаў, дакрануўся да таямніцы мовы, якая ў плыні сваёй маруднай зменлівасці гэтак жа, як выкапнёвыя чарапкі, стрэлы, тапары нясе подых сівых стагоддзяў.

Пачынаючы са студэнцкіх гадоў, Андрушкевіч робіць выпіскі з розных крыніц, у тым ліку з нямецкіх, пра рассяленне, вандраванне старажытных славянскіх плямён па вялікім еўраазіяцкім кантыненце, пра іх магчымую прарадзіму, больш-менш працяглае знаходжанне ў якім-небудзь адным месцы, сутычкі з другімі плямёнамі, агульнае жыццё, яднанне з імі, пра старажытную рэлігію, міфы, культуру. Кожная кніга пра гэта, якая трапляе яму ў рукі, прыносіць невымерную радасць. Ён, калі знаходзіць што-небудзь новае пра славян, індаеўрапейскую сям'ю народаў, пра яе магчымыя вандроўкі, мірныя ці ваяўнічыя сутычкі з суседзямі, адчувае сябе імянніннікам. Свята цягнецца некалькі дзён — пакуль не пазнаёміцца з кнігай, не вылучыць, калі яны ёсць, новыя звесткі і факты. Ён даўно пераконан, што гісторыя, у тым ліку старажытная, накладвае адбітак на наступны бег стагоддзяў. Ён шукае і пастаянна знаходзіць пацвярджэнне гэтаму.

Не ўсе настаўнікі апантаны ідэямі. Некаторыя добра адчуваюць сябе без гэтага. А ён не можа жыць без пошуку, пастаяннага роздуму і — галоўнае — без таго, каб не напісаць за тыдзень хоць дзве-тры старонкі. У мітусяніне школьных урокаў, пасяджэнняў, педсаветаў, дзейнасці агітатара, прапагандыста рабіць гэта нялёгка. Але ён робіць.

Вялікая справа ідэя-страсць! З таго часу, як яна пасялілася ў душы, Андрушкевіч зусім іначай глядзіць на жыццё, на свет. Нават жыве іначай. Раней гарады, мясціны, дзе прыходзілася бываць, мала што яму гаварылі. Ён можа ўспомніць малюнкі вуліц, плошчаў, сустрэчы з людзьмі, іх твары, жэсты, свой настрой у тыя хвіліны. Але гэта як бы плоскае аднатыпнае адлюстраванне, звычайны фатаграфічны здымак. Аб'ёмнае, калі можна сказаць так, глыбіннае бачанне тых самых гарадоў, мясцін пачалося з захаплення, адчування даўніны, схаванай у штодзённасці.

Калі, напрыклад, дзе што раскопваюць, Андрушкевіч падыходзіць да ямкі, глядзіць на пласты зямлі, можа беспамылкова сказаць, што на гэтай зямлі адбывалася дзвесце ці

трыста гадоў назад. Часцей нічога не адбывалася ў сэнсе гістарычным. Зямля сведчыць толькі, што па ёй некалькі тысяч гадоў назад прапоўз ляднік, наслаў пласты жвіру, гліны, розных супесяў, накідаў малога і вялікага камення, і за астатнія тысячагоддзі на ледніковай гліне і каменні нарасла неглыбокая скарынка шэразёму.

Вядома, і па такой зямлі скакалі на конях розныя заваёўнікі, свісталі пушчаныя з лукаў стрэлы, спачатку з каменнымі, пазней з жалезнымі наканечнікамі, яшчэ пазней бухалі гарматы, выпускаючы спачатку ядры, затым снарады. Трашчалі кулямётныя чэргі, гулі самалёты, танкі, разлягаліся выбухі бомбаў. Прагрэс знішчальнай тэхнікі відавочны.

І вось кропка. Атамная бомба, тэрмаядзерная зброя. У старажытнасці такога не было. Тут нічым не можа памагчы чалавеку гісторыя. Бо калі развяжацца вайна з такой зброяй, будзе катастрофа.

Такім чынам, ззаду суцэльныя войны, кроў. Заваёўнік змяняе заваёўніка. Наперадзе такога не можа быць. Бо наогул не будзе гісторыі...

Раскашуюць, адцвітаюць вяргіні, астры на клумбе перад вокнамі настаўніцкай. Па спецыяльна прывязаных нітках цягнуцца аж да другога паверха гірлянды белых, ружовых, сініх павіванцаў. У вярэміцкіх садах, якія з двух бакоў падступаюць да вуліц, круглай плошчы, размешчанай пасярэдзіне мястэчка, гнецца голле ад антонавак, пепінак, штрыфеля. Усюды пад яблынямі акуратна абструганыя жардзінкі, рагулькі падпорак.

Раніцай і вечарам, падымаючы воблакі пылу, па вуліцах брыдуць на пашу і з пашы статкі. Пыл паволі асядае на плятнях, парканах, на лісці яблынь, груш, трашчыць на зубах. Пыл і дым вісіць над вуліцамі ўвесь дзень, бо бясконца грукочуць трактары, імчацца аўтамашыны, матацыклы. Рыпяць вораты калодзежаў, грымяць жалезнымі ланцугамі вёдры, лецячы ў ацэментаваную прорву. На вуліцы, што ляжыць бліжэй да Прыпяці, ваду носяць з ракі.

У Вярэмічах, сярод будзённых спраў, урокаў, лекцый, пасяджэнняў, педсаветаў, бясконцых сварак і прымірэнняў з Тамарай Іосіфаўнай як бы пачынае праклёўвацца кандыдацкая дысертацыя Андрушкевіча. Яе накалыхвае, пестуе выдатны

вярэміцкі лес: бярэзнікі, сасоннікі, бясконцыя, з зялёным мохам, вераском па доле маладыя бары, якія цягнуцца ледзь не да самага Клінска.

Вандруючы з кошыкам па грыбных мясцінах, Андрушкевіч забрыдае аж да Цемраўшчызны, Церахоў, Імшання — вёсачак, размешчаных кіламетраў за восем—дванаццаць ад Вярэміч. Церахі, Імшанне немцамі не спалены, стаяць старасвецкія хаткі, пакрытыя дорам, хлеўчукі, адрынкі, пунькі, гумны з саламянай страхой. Азяроды, жураўлі над калодзежамі, сам абрыс, малюнак нясе на сабе выраз старасветчыны.

Вось на гэтай лясной, пясчанай, неўрадлівай балотнай зямлі, пад паўночным, не надта гарачым сонцам вякоў дзесяць — пятнаццаць назад пасяліліся продкі Андрушкевіча. Яны здабывалі тут свой хлеб, складалі песні, казкі, любілі лес, шэрую зямлю і любоў гэтую перадавалі нашчадкам.

Так з вандровак па вярэміцкіх мясцінах, роздуму пра арыйцаў, скіфаў, готаў, гунаў як бы вылушчваецца тэма пра родных палешукоў, нашчадкаў дрыгавічоў, драўлян, магчыма, часткова радзімічаў, што жылі ў тутэйшых лясах, балотах, сеялі жыта, ячмень, проса, палявалі на звяроў і хутчэй за ўсё далі назвы тутэйшым рэчкам, азёрам, шмат якім паселішчам. Як і плямёны, што былі тут раней: іранцы-скіфы, угра-фіны, балты.

Той дзень, калі з Мінска, з універсітэта прыходзіць афіцыйны загад аб пераводзе Андрушкевіча з завочнай у стацыянарную аспірантуру, запамінаецца яму асабліва. Папера сведчыць аб карэнным пераломе, які мусіць наступіць у ягоным жыцці.

Самотны, развітальны настрой валодае Андрушкевічам. Адчувае: пераступае праз новы, высокі парог, за якім невядомасць. Добра асвоеная школьная звычайнасць, мястэчковы побыт застаюцца ззаду. Што наперадзе?

Воблік будучага жыцця не вымалёўваецца перад ім нават у агульных абрысах. Але масты спалены: ён мусіць ехаць. Бо ўзяўся за справу, скончыць якую ў Вярэмічах немагчыма. Дысертацыю тут не напішаш.

Увесь дзень ён думае пра Тамару Іосіфаўну. Пра выклік з Мінска яна ведае, але на вочы не паказваецца. Хоць увогуле

ён сутыкаецца з ёй па некалькі разоў на дні. Нават калі няма заняткаў.

Тамара Іосіфаўна валодае дзіўнай здольнасцю адчуваць, дзе, у якім месцы ён у дадзены момант знаходзіцца. Не, яна не сочыць, не ходзіць за ім. Так атрымліваецца. Мястэчка невялікае, і кожны чалавек бачыць другога чалавека.

Тамара Іосіфаўна гордая, нават зацятая. Ведае, відаць, што ён неабыякавы да яе, і, можа, таму сваіх прыязных адносін да яго не тоіць. Жаніхоў яна можа знайсці. Нават лепшых, чым ён. Ва ўсякім выпадку, такіх, якія не хварэюць хваробай рэўнасці, бясконцай падазронасці да жанчын і не збіраюцца пакідаць Вярэмічы.

Андрушкевіч не хоча крыўдзіць Тамару Іосіфаўну. Яна яму падабаецца. Нават вельмі. Але ў Мінск ён мусіць ехаць адзін. Інакшага выйсця няма. Ён толькі даткнуўся да навукі і ўжо адчуў, што яна захоплівае чалавека цалкам. На ўсё астатняе не стае часу і сродкаў. Стыпендыя аспіранта зусім не тое, што зарплата завуча няхай сабе схаванай у глушы сярэдняй школы.

Тамара Іосіфаўна дзесьці стаілася. Андрушкевіч ідзе ў лес. Канец жніўня, і на бясконцых пясчаных выгарах, размешчаных на ўсход ад Вярэміч, цвітуць верасы. На пустой, нікчэмнай зямлі, паміж рэдкіх стромістых сосնаў нібы разліваецца сіне-ружовае возера. Андрушкевіч не ведае, не бачыў нічога прыгажэйшага за карціну, калі на калгасным полі цвіце лён, грэчка ці вось так на лясной няўдобіцы палымнеюць далікатным блакітна-ружовым агнём верасы.

Паветра напоўнена празрыстасцю схілу лета, падае з бярозы першы ліст, адцвілі шмат якія кветкі, і змаўкаюць птушкі. У такія дні ў прыродзе пануе ўрачыстасць, спакой, святая цішыня. Неба высокае, бясконцае, па яго бязмежным сінеблакітным прасторы плывуць статкі лёгкіх белых аблачынак.

Дзень па-летняму гарачы. На разлеглым прасторы выгараў добра думаць. Гэтае адчуванне Андрушкевіч ведае яшчэ з даваеннай пары. Грыбы па верасах трапляюцца рэдка, але, павандраваўшы па бясконцым абсягу, дзе на жоўта-шэрай супесі толькі зрэдку ўзвышаюцца адзінокія сосны ды кранутыя першай пазалотай бярозы, можна натрапіць на сям'ю

падасінавікаў, чашчавікоў, а калі пашанцуе на некалькі каптуроў немаладых убурэлых баравікоў — запоўніць кошык.

Аднаго такога высушанага ў печы баравіка хопіць, каб зварыць боршч, капусту, надаць страве добры смак і акрасу.

Непрыкметна блукаючы па верасах, Андрушкевіч дабрыдае да ваколіц Імшання. Вёсачка паказваецца купкамі саламяных стрэх хлявоў, гумнаў, з-за якіх праглядваюць такія ж някідкія, малыя, крытыя дорам хаткі.

У вайну Андрушкевіч прайшоў па дарогах Германіі, бачыў там зусім іншыя на выгляд вёскі: каменныя, мураваныя дамы з вастраверхімі дахамі, замкнутыя на манер падковы сялянскія двары з забрукаваным долам.

З таго часу выгляд роднай сельшчыны яго балюча ўражвае. Фашысты, лічачы сябе вышэйшай расай, мелі адным з доказаў сваіх людаедскіх тэорый вось гэту ўбогую, як дзе-небудзь у Індыі ці ў Афрыцы, сельскую забудову...

Цяпер Андрушкевіч іначай глядзіць на сельшчыну. Проста ў закінутых лясных вёсках яшчэ праглядваюць рысы побыту, характэрныя для ўсіх плямён, што некалі насялялі Еўропу. Толькі там, у Германіі, даўніна не захавалася, а тут, на лясной, балотнай зямлі, на яе час ад часу яшчэ можна натрапіць.

Вечарам Андрушкевіч ідзе да Тамары Іосіфаўны.

Вуліца, на якой стаіць школа, па схіле пагорка спускаецца ледзь не да самай Прыпяці. Добра ведае гэтую вуліцу Андрушкевіч. Хадзіў па ёй летам, зімой, восенню. Па-свойму яна нават прыгожая: наўзбоч узвышаюцца старыя ліпы, клёны, нават два ці тры каржакаватыя дубы расце. За звычайнымі парканамі, у палісадніках раскашуюць жоўтыя вяргіні, астры.

Пакоік Тамары Іосіфаўны па-жаночы ўтульны, прыбраны. Сама яна сядзіць за сталом, гартае кнігу. Выгляд яе засмучаны. Нібы ўсімі пакінута і адна на белым свеце.

— Паедзеш? — пытае Андрушкевіча.

— Паеду.

Па яе шчацэ непрыкметна паўзе слязіна.

— Можаш што хочаш думаць. Я цябе любіла. Ішла на ўсё. Купі мне пярсцёнак. Каб засталася пра цябе памяць...

Андрушкевічу перахоплівае дыханне. Іменна ў гэтую хвіліну ён адчувае ўсёй сваёй спакутаванай, недаверлівай душой,

што любіць гэтую не зусім зразумелую яму жанчыну, зацятую і адчайна рашучую.

Тамара Іосіфаўна, значыць, дапускае, што яны разыдуцца. Ён сам дапусціць такога не можа. Па тым, як ён кідаецца яе цалаваць, лашчыць, яна адразу адчувае, што рваць з ёй ён не збіраецца, што за дзень, калі яны не бачыліся, ён страшэнна засумаваў.

Тамара Іосіфаўна імгненна весялее: настрой у яе мяняецца кожную хвіліну.

Іменна ў час гэтага спаткання Андрушкевіч адчувае, што за час спрэчак, сварак, вось такіх імклівых прымірэнняў ён прыкіпеў душой да Тамары Іосіфаўны. Яму робіцца страшна ад думкі, што ён яе болей не пабачыць. Яна нібы пасялілася ў ягонай душы, захапіла яе і болей нікога туды не пускае.

У той жа час адчувае Андрушкевіч: ён прайграў штосьці істотнае ў сваіх адносінах з Тамарай. Усё-такі яна паставіла па-свойму, ні ў чым яму не прызналася, не адспавядалася...

Ён любіць Тамару. Цяпер гэта ясна яму самому. Каханне згладжвае, прымірае, прыводзіць да раўнавагі самыя жорсткія супярэчнасці. З такімі думкамі, засяроджаны і спакойны, Андрушкевіч едзе ў Мінск. Даўно тое было. Болей як чвэрць веку мінула...

Вярнуўшыся з Вярэміч у чыгуначны гарадок, Андрушкевіч яшчэ раз сустракаецца з сябрамі-таварышамі. Рукапіс ваеннага журналіста трэба сур'ёзна дарабляць. Іван Скачок, астатнія сябры-таварышы абяцаюць напісаць успаміны. Толькі не верыць Андрушкевіч абяцанням. Мае вопыт. Пад цяжарам штодзённага клопату цяжка намесніку начальніка станцыі або ляснічаму ўзяцца за пяро. Калі нават возьмуцца — поспех не гарантаваны. Кузьма Галуза ноч не спаў, спісаў сваімі вялікімі неразборлівымі літарамі вучнёўскі сшытак. Сшытак у Андрушкевіча. У ім высокія гучныя словы, агульныя разважанні і ніводнага факта, што можна змясціць у кнізе, якой чакаюць ад яго сябры-таварышы.

Андрушкевіч намячае план. Вярнуўшыся з гарадка ў Мінск, ён дзень-два пасядзіць у архіве, раздабудзе кніжачку «Клінскія маладагвардзейцы». Дзе-небудзь яна ёсць. З Ірынай пабачыцца. Ірына для яго цяпер самае галоўнае.

Ён прыязджае ў Мінск. Жонка на дачы. Дачка Галя адна ў кватэры, рыхтуецца да экзаменаў. Збіраецца паступаць у інстытут замежных моў.

Амаль усё ўдаецца Андрушкевічу: сядзіць у архіве, спісвае мноства картак аб дзейнасці атрада, брыгады, якімі камандаваў Багун, нават фотакопію брашуры «Клінскія маладагвардзейцы» робіць.

Толькі з Ірынай пабачыцца не шэнціць: захварэў хлопчык — і на кафедру яна не ходзіць. Па тэлефоне Ірына пацвярджае абяцанне прыехаць да Андрушкевіча на Балтыйскае ўзбярэжжа.

## VII

І вось пакой на шостым паверсе высознага курортнага дома, з якога адкрываецца від на мора. Сасна, якая расце пры самай сцяне дома, дацягваецца вершалінай толькі да пятага паверха і позірку не замінае. Але на прасцягу, якім курортная каробка са шкла і бетону аддзяляецца ад пясчанага пляжа і далей ад мора, цэлая грыва хвойніку, некаторыя сосны падняліся высока на ўдзірванелых пагорках, дзюнах і сваімі купамі-вершалінамі від на мора трохі засланяюць. Але тым не меней мора праз навісь галін відаць, і гэта добра. Што можна прыдумаць лепшае для адпачынку, чым сосны і мора?

Пакой, які дастаўся Андрушкевічу, называецца паўлюксам, дорага каштуе, хоць ніякай асаблівай раскошы тут няма. Сцены патрэсканы, сям-там абвалілася тынкоўка. У ванным пакоіку сыра і няўтульна, па сцяне бегаюць прусакі. Але ёсць ложак, стол, два крэслы, вузкая канапка і нават чорна-белы тэлевізар у кутку, і таму можна лічыць, што Андрушкевіч уладкаваўся някепска.

Расклаўшы рэчы, Андрушкевіч надзявае новую сарочку, павязвае гальштук.

Ён быў у гэтым санаторыі два гады назад, і нічога з таго часу асабліва не змянілася.

Гарадок, у якім знаходзіцца санаторый, Андрушкевіч таксама ведае, некалькі разоў прыязджаў сюды, калі на месцы санаторыя быў пансіянат — драўляныя двухпавярховыя катэджыкі.

Старых катэджыкаў не відаць, а выбудаваны на стромым пагорку, атулены высокімі клёнамі, ліпамі, пабелены звонку двухпавярховы дамок захаваўся.

Яго некалі называлі палацам арыстакратаў.

У тыя, досыць далёкія, гады каменны дамок прыкметна вылучаўся сярод прыземістых, пафарбаваных у жоўты ці зялёны колер драўляных катэджаў, якія належалі рыжскім багацеям і былі пабудаваны яшчэ ў буржуазныя часы.

Аднойчы Андрушкевіча пасялілі ў палацы арыстакратаў. Спачатку ён радаваўся. У драўляных катэджыках рыпучыя, крывыя лесвіцы, заўсёды чуваць, калі па іх хто падымаецца ці спускаецца. Чуваць таксама крокі ў суседніх і верхніх пакоях. Тут жа спакой, цішыня.

У Андрушкевіча пуцёўка на сорак восем дзён: на ўвесь выкладчыцкі адпачынак. І зрабіць ён хоча нямала: прывесці да ладу разрозненыя, напісаныя ў розны час раздзелы кнігі, якая называецца «Бітва за Беларусь» і якая стане пазней яго-най доктарскай дысертацыяй.

Лепшае месца, чым палац арыстакратаў, не знайсці. Мураваны двухпавярховы дамок стаіць наводшыбе, мае толькі чатыры пакоі: два на першым паверсе, два — на другім.

Пазней Андрушкевіч разумее: Бярковіч, хітры дырэктар пансіяната, абвёў яго вакол пальца. Усе сорак восем дзён адпачынку безупынна лье дождж. У палацы арыстакратаў паравое ацяпленне, якое летам не дзейнічае. Тут холадна, сыра, цёмна. Тым часам уладальнікі драўляных катэджыкаў паляць у грубках, грэюцца і гора не ведаюць.

Андрушкевіч садзіцца за стол, акрываючы плечы коўдрай, кашляе, глытае пілюлі ад прастуды. Марудлівая, нехлямяжая прыбіральшчыца ўшчэнт псуе яго цёплы, які ён вельмі любіць, світар. Ён даў ёй яго памыць, а яна, няўдаліца, усунула сінтэтыку ў чыгун, пракіпяціла і прынесла штосьці кашлатае, распоўзлае, годнае хіба толькі на анучы.

За тыя свае сорак восем дзён Андрушкевіч ні разу не пакупаўся. Мора халоднае, непрыветлівае, свінцова-цёмнае, пад колер цёмна-шэрых воблакаў, што паўзуць і паўзуць па непрыветлівым паўночным небе.

Андрушкевіч не крыўдуе на дажджлівае лета. Не шмат ён напісаў, старонак сорак, штосьці каля двух аркушаў. Але

то залатыя старонкі, яны з’ядналі, сцэментавалі раскіданую, разбэрсаную кнігу.

З дырэктарам пансіяната на наступнае лета Андрушкевіч люта пасварыўся. Невысока той ставіць яго і выдзяляе цёмны, змрочны, з рудымі падцёкамі і цвіллю на сценках пакойчык пад лесвіцай. Намнога горшы, чым у палацы арыстакратаў. Андрушкевіч тут жа адмаўляецца ад пуцёўкі, купляе білет на цягнік і не прыязджае ў пансіянат гадоў дзесяць. Да таго часу, пакуль не становіцца пансіянат санаторыем.

Ездзіў Андрушкевіч усе тыя гады на поўдзень: у Адэсу, Крым, на Каўказскае ўзбярэжжа Чорнага мора. Шмат што здабыў ён з тых паездак. Ён пісаў ужо, няхай сабе ў думках, кнігу аб блуканнях старажытных славян, і яго здагадкі як бы пацвярджаліся матэрыяльнымі доказамі. Ён аглядаў раскопкі старажытных гарадоў, паселішчаў, якіх па ўсім узбярэжжы Чорнага мора многа, вандраваў па мясцовых музеях. Як бы глытаў паветра старажытнасці.

Дырэктар Бярковіч з цягам часу віну ўсвядоміў. Можа, таму, што паходзіць з надпрыпяцкага гарадка, які суседнічае з Клінскам. Фактычна — зямляк. Тры ці чатыры разы праз знаёмых перадае Бярковіч Андрушкевічу прывітанні, як бы заклікаючы не помніць крыўды, прыязджаць у санаторый, дзе ён таксама дырэктар.

Заклікаў Бярковіч земляка вось у гэтую са шкла, жалезабетону дванаццаціпавярховую каробку, што вырасла на месцы драўляных катэджыкаў, пабудаваных, мабыць, яшчэ ў пачатку веку.

Андрушкевіч разумее Бярковіча, рухавага, прысадзістага, з рэшткамі сівых валасоў вакол шырокай круглай лысіны. На сваёй пасадзе ён гадоў трыццаць, і гэта значыць, што мае дырэктар талент. Ведае, як да каго, з якога боку падысці. Бо ў санаторый, што апякуецца прафсаюзам навуковых работнікаў, выкладчыкаў ВНУ і школьных настаўнікаў, прыязджае нямала зорак рознай велічыні і значэння. Кожнай такой зорцы трэба дагадзіць, выдзеліць адпаведны пакой, па густу месца ў сталовай і не толькі самому свяцілу, а і яго спадарожнікам — жонцы, сынам, дочкам, часам нават каханкам, якія прыязджаюць пад выглядам сакратарак і памочніц.

Захар Барысавіч як мае быць вывучыў табель аб рангах. Ён улагоджвае ў першую чаргу тых, ад каго залежыць яго ўласная пасада.

Ад Андрушкевіча Бяркові́ч не залежыць ні на кроплю. Аднак вось ужо другі раз выдзяляе пакой на шостым паверсе. Лічыцца: з шостага паверха пачынаецца ганаровае жытло. Ніжэй шостага паверха не селяць прафесараў, загадчыкаў кафедр, нават заслужаных дырэктараў сярэдніх школ.

Гарадок пакрысе мяняецца. Побач з санаторыем прыгожая пляцоўка з помнікам Леніну пасярэдзіне. Пляцоўку акружаюць клумбы кветак, зялёная мурава.

І станцыя новая. Раней была драўляная, пафарбаваная ў зялёны колер, з каморкамі-клеткамі білетнай касы, буфета, пачакальні. Цяпер — белакаменны двухпавярховы гмах з шырокімі лесвіцамі, прасторнымі заламі.

Лесвіцы незвычайныя: абстаўленыя па баках гафрыраванымі плітамі, яны як бы нагадваюць шырокія са звівамі калідоры. Наогул ва ўсім плане выразна мадэрнісцкай забудовы нібы чаргуюцца прамавугольнікі, квадраты з выпукласцямі і выгнутасцямі.

А так у гарадку, дзе размяшчаецца санаторый, нічога асаблівага няма. Другія гарадкі, што непарыўным ланцугом цягнуцца ўздоўж Балтыйскага ўзбярэжжа ледзь не да самай Рыгі, прывабней з выгляду: болей у іх зеляніны, дрэў, дзялянак сасонніку, бярэзніку. Лес, хоць пабіты на бясконцыя сцежкі, дарожкі, лесам застаецца: дорыць улетку цень, разматыя пахі, нават суніцы, чарніцы і грыбы.

Гарадкі адзін ад другога аддзяляюцца даволі падобнымі станцыямі. Большасць з іх засталіся, як былі: драўляныя, пафарбаваныя ў зялёны або жоўты колер. Праз кожныя пяць-шэсць хвілін на станцыях спыняюцца электрычкі, развозячы бясконцы паток курортнікаў і мясцовых жыхароў, што прыязджаюць з Рыгі адпачыць ля мора.

Зрэшты, гэта яшчэ не мора. Гэта толькі заліў, шырокая затока, і калі ўважліва ўгледзецца, можна ўбачыць яе далёкія, схаваныя за сінянатай павалокай смугі паўночны і паўднёвы абсягі берагоў. Але гэта, можа, нават лепш. У сонечны дзень затока ласкавая, ціхая, прыемна ў такі дзень ляжаць на раза-

сланай на пяску дзяружцы пад кустом вербалозу ці ракітніку, які ўсюды па ўзбярэжжы расце на пясчаным грэбені, за якім на вышэйшай тэрасе стаяць ужо сосны. Можна чытаць, думаць, глядзець на мора.

Андрушкевіч, раз-пораз падыходзячы да акна, кідаючы позірк на мора, раскладвае рэчы. Сарочкі развешвае ва ўмураваным у сцяне шкапчыку, электрабрытву, шкарпэткі, насавыя хустачкі хавае ў тумбачцы, што стаіць пры ложку, мыла, зубную шчотку, пасту кладзе на шкляную палічку над умывальнікам. Ён нядаўна заўважыў за сабой гэтую цягу да парадку, ахайнасці. Значыць, старэе.

Яшчэ дзесяць гадоў назад было зусім не так. Прыехаўшы на якое-небудзь новае месца, Андрушкевіч похапкам вешаў плашч, ставіў пасярэдзіне пакоя чамадан і з усіх ног кідаўся аглядваць незнаёмыя мясціны.

Старэе чалавек і хоча ведаць месца кожнай рэчы. Тым часам як бы жыве ў ягонай душы зусім адваротная сіла, здольная нашчэнт разбурыць усталяваны парадак, спакой, традыцыю...

Андрушкевіч найбольш любіць гадзіны, якія звычайна адводзіць для адпачынку ў пасляабедзенны час. Бо першую палавіну дня, якое б надвор’е ні было, які б настрой ім ні валодаў, ён сядзіць за сталом, піша ці крэмзае раней напісанае. Так павялося яшчэ з маладых гадоў, і спуску ён сабе не дае. Хіба што ў самым канцы пуцёўкі выдзяляе тры ці чатыры цалкам вольныя дні, у якія зусім не піша. Вызначае іх, так сказаць, для поўнага адпачынку.

Калі разважаць сур’ёзна, усё жыццё ён цягне двайную нагрузку. Чытае, як усе выкладчыкі, лекцыі, сумленна выконвае абавязкі, звязаныя са службай, пасадай, і ў дадатак займаецца гістарычнымі вышукамі. Ні адна з пасад, якія ён займаў, не прадугледжвала спецыяльны час на пісанне кніг. Час трэба знаходзіць. І ён знаходзіць, скарачаючы найперш уласны адпачынак, сон, розныя іншыя прыемныя рэчы, што ўпрыгожваюць чалавечае жыццё. Кніг напісаў ён нават трохі болей, чым некаторыя калегі, якія працуюць у навукова-даследчых інстытутах і дзе такая праца з’яўляецца непасрэдным службовым абавязкам.

Агледзеўшы будынак вакзала, Андрушкевіч кіруе да піўнога бара. Гэта яшчэ адна радасць ягонага курортнага бытавання. Гарэлкі, каньяку ён даўно не п’е, а кухаль піва дазваляе сабе штодня, выключаючы нядзелю, калі бар зачынены.

Гучнае слова — бар. Піва прадаюць у цесным напаўцёмным пакойчыку, дзе размешчаны два ці тры столікі і за прылаўкам стаіць апрануты ў белы халат дзябёлы дзяціна з шырокім тварам, пухлымі шчокамі, закасанымі па локаць валасатымі рукамі і вельмі незалежным выглядам.

Тым часам гэта даволі прывабнае месца. Людзі ў зашмальцаванай вопратцы, якія завітваюць сюды, адзін другога ведаюць, гадзінамі сядзяць за столікамі або стаяць з кухлем піва па кутках зальчыка, напаўголасу размаўляючы. На такіх залётных птушак, як Андрушкевіч, яны не звяртаюць ніякай увагі.

Дзябёлы хлапчына ў белым халаце заліхвацкі падстаўляе кухаль пад пругкі піўны струмень, паблажліва-абыякава ставіць яго перад наведвальнікам, гэтак жа абыякава бярэ грошы і мокрымі пальцамі, пакрытымі зверху рудымі валасінкамі, адлічвае рэшту.

Піва тут выдатнае: то чорнае, то светлае, то іншых гатункаў, назвы якіх Андрушкевіч не ведае. І прыкуска да піва ёсць, хоць не надта багатая: парэзаная на кавалкі стаўрыда, сялёдка, салёныя палачкі з пшанічнай мукі.

Ужо болей як шэсць гадзін. Сын Ірыны хварэе, і яна хутчэй за ўсё дома. Андрушкевіч ідзе на міжгародні перагаворны пункт. У гарадку два такіх пункты — з паўднёвага і паўночнага боку, і паўднёвы бліжэй да піўнога бара. Але Андрушкевіч кіруе да дальняга, паўночнага, які размешчан на мяжы з суседнім гарадком. Па дарозе ён трохі падумае, потым пазвоніць Ірыне.

Ірына — лабарантка, ці, як любіць сябе называць, загадчыца кабінета, прыдадзенага кафедры Андрушкевіча. Калі адзначалі яго пяцідзесяцігоддзе, узнагародзілі Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета рэспублікі, віншавалі, Ірына для яго яшчэ нічога не значыла. Не, не зусім так. Ужо тады яму было прыемна, што ў яго на кафедры такая прыгожая, маладая жанчына, якая, магчыма, прачытае надрукаваны ў газетах

указ аб узнагароджанні свайго загадчыка кафедры, а таксама змешчаны ва ўніверсітэцкай шматтыражцы артыкул, у якім пералічаны ледзь не ўсе яго кнігі.

Адзначаючы паўвекавы юбілей, Андрушкевіч нават думкі не дапускаў, што да яго, нібы ў далёкім юнацтве, прыйдзе пачуццё, якое захопіць цалкам, падпарадкуе сваёй уладзе, адбярэ волю да супраціўлення. Не шмат праляцела пасля юбілею дзён, а такое пачуццё з'явілася. Ірына стала значыць для яго вельмі многа. Ён думае аб ёй кожнай хвіліны, і гэтыя думкі, згадкі прыносяць ні з чым не параўнаную радасць, трапятанне сэрца. Смутак і боль таксама. Бо ўжо болей як два гады ведае Ірына аб ягоным да яе пачуцці. Але як бы гуляе з ім у хованкі.

У Андрушкевіча, мабыць, хапіла б сілы парваць з ёй, выкінуць з душы яе вобраз, каб яна яго зняважыла, відавочна адштурхнула. Але Ірына ахвотна прыходзіць на спатканні, якія ён звычайна прызначае ў вячэрні час у розных частках горада, прымае ягоныя пацалункі, абдымкі, нешматлікія прэзенты. Значыць, ён ёй таксама падабаецца. Яна прыгожая, відная, ведае сабе цану. За астатняе ён яе прабачае: ён старэйшы за яе ледзь не на пятнаццаць гадоў, а гэта нешта ды значыць. Ды і замужам Ірына, мае малога сына. Толькі гэтым вытлумачвае Андрушкевіч ваганні маладой жанчыны, якой ён гэтак бяздумна-адчайна захапіўся.

Але цярпенню, пакутам, мусіць, наступіць канец. Так здараецца, што, атрымаўшы пуцёўку ў санаторый, Андрушкевіч просіць Ірыну прыехаць да яго. На дзень, на два, на тыдзень — на колькі яна зможа. Бо горад, у якім ён жыве, працуе,— не самае лепшае месца нават для патайных спатканняў. Ён даўно выкладае ва ўніверсітэце, выступае на розных семінарах, канферэнцыях, нават па тэлебачанні двойчы выступаў, і яго ведаюць не толькі студэнты, а і некаторыя гараджане.

Ірына паабяцала прыехаць на Балтыйскае ўзбярэжжа. У яе ў недалёкім ад санаторыя навукоўцаў пасёлку нават гаспадыня знаёмая ёсць, у якой яна, прыязджаючы на адпачынак, наймае пакойчык. Трэба толькі напісаць гаспадыні, атрымаць згоду.

Яшчэ да ад'езду ў санаторый Андрушкевіч дазнаецца, што ліст ад гаспадыні Ірына атрымала. І адрас кватэры, дзе будзе жыць Ірына, Андрушкевіч мае. Толькі Ірына чамусьці

не напісала яго сама, а дала выразаную з паштовага канверта паску, на якой ён выведзен чужой, незнаёмай рукой.

Ад гарадка, дзе размешчан санаторый, да гарадка, дзе будзе жыць Ірына, пяць прыпынкаў электрычкі. Гэта недалёка: пятнаццаць, самае большае дваццаць хвілін язды.

І вось цяпер Андрушкевіч ідзе званіць Ірыне, спытае, калі яна прыедзе. Супярэчлівыя пачуцці валодаюць ім. У глыбіні душы нават тоіцца надзея, што Ірына не прыедзе. Здарыцца што-небудзь такое, што затрымае яе. Нашто яму на схіле дзён непатрэбныя згрызоты? Сын скончыў ваеннае вучылішча, дачка паступае ў інстытут, а іх ссівелы бацька кідаецца ў авантурныя прыгоды.

Дый у адносінах Андрушкевіча з Ірынай ёсць штосьці няяснае, няпэўнае, што яго нервуе, трывожыць. Загадчык кафедры мае невялікі пакойчык, адгароджаны тонкай сценкай, дзвярамі ад зальчыка пасяджэнняў кафедры, які адначасова з'яўляецца кабінетам гісторыі. Калі няма вячэрніх заняткаў, на паверсе, дзе кафедра Андрушкевіча, ціха, бязлюдна. У поўнай адзіноце сядзіць загадчык кафедры ў сваім пакойчыку: чытае, робіць выпіскі. Чамусьці Ірына ні разу не заскочыла да свайго загадчыка познім вечарам...

Затое днём, калі ў зальчыку сядзяць за кнігамі студэнты, нават выкладчыкі, яна завітвае ў кабінет Андрушкевіча нават залішне часта.

Для сябе гэты факт Андрушкевіч вытлумачвае тым, што Ірына любіць пакрасавацца. Ведаюць ва ўніверсітэце, што яе муж п'е, валочыцца за чужымі жанчынамі, таму ўвага з боку Андрушкевіча як бы падымае яе ў вачах знаёмых выкладчыкаў і студэнтаў. Гэткім манерам Ірына як бы самасцвярджае сваю асобу.

Калі б Андрушкевіч бачыў, што Ірына — звычайная лялька, круцёлка, якая прагне лёгкіх уцех, ніякіх адносін між імі не ўзнікла б. Тым часам Ірына на легкадумную ляльку не падобна. Кавалеры ўвіхаюцца каля яе аж занадта, але поспеху не маюць. Ірына мякка, ветліва адштурхоўвае іх аднаго за другім.

Андрушкевіч найчасцей размаўляе з Ірынай па тэлефоне. Калі вечарам ідзе з лекцыі, не прамінае зазірнуць у тэлефонную

будку, набраць знаёмы нумар. І тут жа чуе прыемны голас Ірыны. Яна заўсёды дома. Яшчэ не было выпадку, каб вечарам Ірына куды-небудзь сышла.

Пакой міжгародняй тэлефоннай станцыі няўтульны. Тут людна, тлумна. Перагаворныя кабіны размешчаны каля правай сцяны.

Андрушкевіч стаіць у чарзе, нарэшце заходзіць у кабіну. Ставіць у прораз тэлефона-аўтамата адразу дзве манеткі, набірае код Мінска, чуе доўгі перарывісты гудок, затым, хвалюючыся, пракручвае на дыску дамашні нумар Ірыны. Яе голас настолькі блізкі, выразны — нібы стаіць Ірына за суседняй сцяной...

— Калі прыедзеце? — пытае ён.

— Як толькі вы паехалі, пачаўся дождж,— гаворыць Ірына.— Проста ўсё залівае. Я яшчэ адпачынак не афарміла. Прыеду не раней чым праз тыдзень...

Голас у яе трохі глухаваты, як бы з галубіным вуркатаннем.

Значыць, праз тыдзень. Ад такога адказу Андрушкевіч трохі весялее. За тыдзень ён супакоіцца, паразважае над сваім становішчам, прывядзе да ладу думкі і пачуцці.

Апошні раз Андрушкевіч бачыў Ірыну тыдні два назад. Яны ходзяць у кіно на перадапошнія сеансы, выбіраючы кінатэатры на ўскраіне горада. Каб не наткнуцца на знаёмых. Для Андрушкевіча гэта адзіная магчымасць пасядзець з Ірынай, патрымаць у сваёй яе мяккую, далікатную руку, палюбавацца яе выразна акрэсленым арліным профілем.

Восенню і зімой, калі рана цямнее, яны вандруюць па ўскраінных глухаватых вулачках гарадскога прадмесця: Камуністычнай, Мопраўскай, Пралетарскай. Нягледзячы на гучныя назвы, вулачкі нават не замошчаны каменем, наўзбоч іх цягнуцца драўляныя парканы, местачковага выгляду дамкі з зачыненымі аканіцамі, праз якія прабіваюцца палоскі святла. Дамкі, бадай без выключэння, атулены яблыневымі садамі, і пад нагамі шасціць апалае лісце. Ірына бясконца гаворыць, расказваючы пра сябе, сяброўак, супрацоўнікаў кафедры, якой загадвае Андрушкевіч. Ён не ўдумваецца ў тое, што яна гаворыць. Яму проста прыемна ісці з маладой жанчынай, слухаць

яе меладычны голас, глядзець на старасвецкія дамкі, некаторыя з якіх напалавіну ўехалі ў зямлю, на парканы, коміны, цёмныя галіны дрэў, у якіх шастае вецер.

Андрушкевіч сам не можа дакладна сказаць, калі, з якога моманту пачалося ягонае збліжэнне з Ірынай. Яна на факультэце гадоў сем ці восем і, колькі ён памятае, заўсёды прыязна яму ўсміхаецца. Тым часам ён нават думкі не дапускаў, што ў яго, тады яшчэ сярэдняга веку мужчыны, могуць завязацца якія-небудзь адносіны з гэтай цыбатай, вельмі неблагой на выгляд маладой асобай з на дзіва добра развітымі жаночымі формамі. Позняй электрычкай ён вяртаецца з дачы, на якой, харчуючыся кансервамі, яечнямі, жыў цэлы тыдзень. Ён выпадкова забыў электрабрытву, як першабытны чалавек, зарос цёмна-сівой шчэццю, таму, прабраўшыся ў напаўпусты вагон электрычкі, ледзь не на самыя вочы насунуў капялюш і сеў у цёмным кутку вагона.

На наступнай станцыі ў вагон заходзіць нагружаная клумкамі і сумкамі Ірына, садзіцца побач з ім. Ён наўмысна адварочваецца ад лабаранткі, пазірае ў акно, за якім раз за разам мільгаюць ярка асветленыя станцыйныя пасёлкі. Яна ўсё-такі пазнае яго, радасна ўсклікае:

— Які вы цікавы! Ніколі не галіцеся! Барада вам вельмі пасуе.

Пазней, калі між імі ўстанавіліся болей-меней блізкія адносіны і калі Андрушкевіч у час трапяткіх спатканняў прыхінаў Ірыну да сябе, абдымаў, цалаваў, яна, забыўшы тыя словы, якія асабліва яго ўразілі, запалі ў душу, скардзіцца:

— Вы сёння зноў дрэнна пагаліліся. Барада колецца...

Андрушкевіч спатыкаецца з Ірынай два гады, звоніць ёй на кватэру, дамаўляецца аб сустрэчах. Ва ўніверсітэце яны бачацца часта, ледзь не кожны дзень — калі ён прыходзіць чытаць лекцыю ці праводзіць пасяджэнне кафедры. Ад супрацоўнікаў кафедры, асабліва ад жанчын, вядома, не ўхавалася, што ў загадчыка кафедры асаблівыя адносіны з лабаранткай. Іншы раз ён ловіць на сабе цікаўныя, запытальныя позіркі выкладчыц, але не прыдае ім значэння. Не выключана, што некалькі гадоў назад гэтыя самыя выкладчыцы перашэптваліся наконт ягонай жонкі, якая працуе ў Інстытуце ўдасканалення

настаўнікаў. Няхай цяпер цікаўныя кабеткі пачэшуць языкі наконт паводзін яго самога...

Ён ведае: Ірына дрэнна жыве з мужам, высачэнным дужым дзяцінам, трэнерам футбольнай каманды — ён аднойчы завітаў на кафедру. Дакладней, у яе няма ніякага жыцця з футбалістам, які некалі меў гучны поспех, а цяпер валаводзіцца з другараднай камандай, па месяцу не бывае дома...

Ірына расказала пра гэта сама, калі пасля памятнай электрычкі ён праводзіў яе на Старавіленскі тракт, дзе яна жыве ў панылым блочным доме. Ён яе не цягнуў за язык: магла пра сябе нічога на расказваць, як нічога не расказваў ён. Цяпер Андрушкевіч думае, што ў той момант Ірына проста хацела апраўдацца перад ім, бо не муж, а ён, чужы чалавек, валок яе цяжкія клумкі.

Тады падумалася другое: яна цягнецца да яго, бо падобна на птушку з перабітым крылом. Адчувае ў ім таварыша па няшчасці...

Відаць, ён памыліўся.

Дык вось — памятны выпадак — Андрушкевіч быў з Ірынай у кіно ў канцы чэрвеня, калі падыходзіла да канца экзаменацыйная сесія і ён, рыхтуючыся да адпачынку і ад’езду з горада, паспеў напісаць, а яна — перадрукаваць на машынцы справаздачу аб дзейнасці кафедры.

Дзесяць гадзін вечара, а светла, як днём. Перакінуўшы цераз руку плашч, Андрушкевіч вандруе вакол драўлянага, падобнага на стадолу кінатэатра. Стадола на ўскраіне горада, у раёне індывідуальнай забудовы, і да яе вядуць некалькі незамошчаных, пабітых у разводдзе на калдобіны вуліц з драўлянымі дамкамі, яблыневымі садамі, палісаднікамі, агародчыкамі.

Сады нядаўна адцвілі. Шаты дрэў усё болей набрыньваюць тугім цемнаватым зялянівам.

Ірына позніцца. Гэта яе прывычка. Колькі павандраваў ён па розных вуліцах горада, чакаючы яе на ўмоўленым месцы. Іншы раз яму здаецца, што Ірына вядзе з ім незразумелую, хітрую гульню. Нават на яе смуглявым, запамінальным твары як бы праглядвае рысачка драбнаты, хцівасці, халоднай

зацятасці. Але ўсё адно ён цягнецца да яе. Бо трапіў як рыба ў нерат і нічога не можа з сабой зрабіць. Калі Ірына нават гуляе з ім у хованкі, ён павінен давесці гульню да канца.

Жонкі няма. Жонка летнім часам часта начуе на дачы. Дачка Галя ночы праседжвае, здаючы апошнія экзамены за дзясяты клас. Сын далёка, дзесьці на Поўначы.

Дзеці раслі пры сямейных неладах, сварках, спрэчках. Апошнія гады іх фактычна даглядала адна Марыя Васільеўна, цешча, залатой душы чалавек.

Мінулым летам Марыя Васільеўна памерла. Няхай ёй будзе пухам зямля. Пакуль жыла на свеце Марыя Васільеўна, не толькі дзеці — ён сам адчуваў увагу і клопат.

Андрушкевічу здаецца: сын спецыяльна з'ехаў з дому. Адчуваў напружанасць, нават варожасць у адносінах між бацькамі. Горды, зацяты, маўклівы, відаць, ён моцна пакутаваў. Цяпер піша рэдкія пісьмы, скупа паведамляючы пра жыццё і службу.

Перадапошні сеанс скончыўся. Людзі вывальваюць з драўлянай стадолы, разбрыдаюцца па цёмных, ахінутых шатамі садоў вулачках. Невялікі натоўп на аўтобусным прыпынку.

З таго часу, як Андрушкевіч сустракаецца з Ірынай, пра жонку думае мала. Знікла рэўнасць да яе. Яна ў яго вачах як бы здрабнела, змізарнела, не выклікаючы да сябе ні добрых, ні благіх пачуццяў.

Дзверы ў кінатэатр зачыняюцца. Ірыны няма. Андрушкевіча поўніць злосць. Ён яшчэ пачакае пяць хвілін і пойдзе на аўтобусны прыпынак.

Нарэшце ён бачыць: да кінатэатра бяжыць Ірына. Яна ў лёгкім белым плашчыку, стройная, зграбная. Рухі яе ўражваюць грацыёзнасцю. Злосць Андрушкевіча імгненна знікае.

Яны трапляюць у залу, калі кінахроніка скончылася і пачынаецца фільм. Жанчына-вахцёрка, твару якой не відаць, узяўшы іх за рукі, вядзе ў апошні рад.

— Госці прыйшлі,— шэпча задыханая Ірына.— Ледзь выправіла. Таму спазнілася.

Андрушкевіч, узяўшы ў свае малую, мяккую руку Ірыны, глядзіць на экран. Тым часам нічога не бачыць, не чуе, не разумее. Ён не можа ўтаймаваць радасць ад таго, што пабач Ірына...

Калі яны выходзяць з кінатэатра, на вуліцы цёмна. У гэтай частцы горада толькі сям-там мігцяць рэдкія ліхтары. Таму можна ўбачыць зоркі на небе, паўбоханчык месяца, які спакойна вісіць над кварталамі аднаасобных дамкоў і садоў. Лётаюць, раз-пораз тыцкаючыся аб парканы, сцены дамкоў, дрэвы, майскія жукі. Трашчаць у траве цвыркуны, мільгаюць над яблынямі цёмнымі лёгкімі ценямі лятучыя мышы.

Нарэшце Андрушкевіч з Ірынай выбіраюцца на шырокую асветленую вуліцу, па якой яшчэ ходзяць людзі, шасцяць шынамі колаў таксі: жыццё ў вялікім горадзе замірае позна.

Ірына, як заўсёды, штосьці расказвае. Андрушкевіч слухае мала. Яму прыемна ісці з Ірынай і трохі трывожна.

Яна тым часам ні на што не зважае. Як бы нават ганарыцца, што ідзе побач з Андрушкевічам.

Яны ўжо на вуліцы, дзе стаіць дом, збудаваны для ўніверсітэцкіх выкладчыкаў. Каля гэтага дома Ірына спыняецца.

— Зойдзем у адну кватэру. Тут жыве мая сяброўка. Яе няма, паехала адпачываць. Пап’ём чаю...

Андрушкевіч уздрыгвае. Ён ведае гэты дом. Добра ведае. Бадай, атрымаў бы тут кватэру, каб не прыйшло ў парткам, нібы спецыяльна пасланае — якраз дзялілі кватэры,— брыдкае, бруднае пісьмо...

Ён не хоча ісці ў гэты дом, але ў яго не стае сілы адмовіцца. Што падумае пра яго Ірына?

Нарэшце яны заходзяць у кватэру — звычайную, двухпакаёвую, без вялікай раскошы абсталяваную. Ад Андрушкевіча не хаваецца, што, адчыніўшы дзверы, Ірына іх не замыкае, хавае ключ у кішэню плашчыка. Нібы чакае, што яшчэ хтонебудзь зойдзе.

Як бы ўтрапенне авалодвае Андрушкевічам. Два гады яны блукаюць з Ірынай па горадзе. Летам пахаджваюць па парках, скверах, дзе шмат лавак, зацішных мясцін. Неаднойчы ён запрашаў яе ў лес, дзе б яны маглі спакойна правесці час. Яна заўсёды рашуча адмаўлялася ад такіх запрашэнняў. І вось прыводзіць у чужы дом ды яшчэ дзверы не замыкае...

Тым часам, скінуўшы плашчык, Ірына ўключае на кухні чайнік, прыносіць у зальчык, ставіць на стол кубачкі, сподкі, вазачку з цукрам.

— Пачакай,— гаворыць Андрушкевіч.— Можа, я што лепшае знайду...

Гінуць дык гінуць! Андрушкевіч матляецца за дзверы. Яшчэ няма дванаццаці гадзін, і рэстаран, што на рагу вуліцы, побач з домам, не зачынен.

Андрушкевічу сапраўды шанцуе. За двайную плату ён здабывае бутэльку каньяку. Шустры афіцыянт, які, відаць, прывык да позніх візітаў, нібы спецыяльна хаваў бутэльку пад палой беласнежнага халата.

Ціха, спакойна на дварэ. У соннай нерухомасці застылі таполі. Высокія выраслі дрэвы. Калі дзялілі дом, іх не было. Відаць, гадоў пятнаццаць дрэвам. Андрушкевічу кватэры ў выкладчыцкім доме не далі, і з гэтага часу пачаліся яго нелады з Тамарай Іосіфаўнай.

Калі Андрушкевіч вяртаецца ў кватэру, Ірына разлівае па кубках чай.

— Пачакай,— гаворыць ён.— Вып’ем каньяку. Дастань чаркі.

Ірына зноў дзверы не замыкае. Гэта Андрушкевічу не падабаецца. Але ён маўчыць, адкаркоўвае бутэльку, налівае ў кілішкі каньяк. Калі яны чокаюцца з Ірынай кілішкамі, у яе вачах на імгненне як бы ўспыхвае прагавіты юрлівы бляск...

У гэты час з ціхім, ледзь чутным рыпам расчыняюцца дзверы. Ніхто, аднак, не заходзіць.

Твар Ірынін пунсавее, як макаў цвет.

— Прабач, забыла замкнуць дзверы,— яна падхопліваецца з канапкі.

— Знайшла кватэру,— Андрушкевіч спрабуе жартаваць.— Хіба не ведаеш, хто тут жыве?

— Знайдзі што лепшае. Мужчына павінен шукаць.

Ну што ж, ён зловіць яе на слове:

— Ты ездзіш у Прыбалтыку. Кожнае лета. Праз два тыдні паеду я. Прыедзь, калі ласка.

— Добра,— ледзь чутна і як бы спалохана згаджаецца Ірына.

У малым калідорчыку, ля дзвярэй, невялікі столік, на ім тэлефон. Андрушкевіч набірае нумар сваёй кватэры.

— Папа, гэта ты? — у трубцы чуецца голас дачкі Галі.— Хутка гадзіна ночы, а цябе няма. Ідзі дадому. Я адна баюся.

— Зараз буду дома. Трошкі пачакай, Галя.

Прачнуўшыся да ўсходу сонца, Андрушкевіч збіраецца на мора. Ён не прыдбаў спецыяльнай вопраткі, як шмат хто з курортнікаў: спартыўных штаноў з шырокімі генеральскімі лампасамі, моднай курткі ці світара, не мае нават лёгкіх пантофляў без заднікаў. Ён заўсёды бярэ з сабой ношаныя штаны, сарочку, на выпадак халадоў выцвілы шарсцяны джэмпер, плашч.

На гэты раз сарочку ён прывёз новую, спецыяльна купіў: яркую, спярэшчаную, нібы шахматная дошка, жоўта-зялёнымі клеткамі. Жонка пярэчыла, пакеплівала, але ён не здаўся. Нечым падабаецца яму сарочка, падобная на расквечаную палеткамі рознай збажыны летнюю ніву.

Санаторый чымсьці няўлоўным падобны на дарагі замежны атэль. Сцены, дзверы ў доўгім калідоры аздоблены пад дуб, на падлозе мяккія, нібы мох, тоўстыя зялёныя дываны. Па такіх у кавалерыйскіх са шпорамі ботах прайдзі — не пачуе ніхто. Два ёмістыя ліфты шастаюць нячутна, даволі хутка гасячы на паверхах чырвоныя вочкі-кнопкі выкліку.

Унізе, у вестыбюлі, высокі клас абслугоўвання яшчэ больш кідаецца ў вочы. Справа, за агароджаным невысокімі балясінамі сталом, днём і ноччу дзяжурыць апранутая ў белы халат кастэлянка, якая прымае і выдае ключы.

У дні, калі курортнікі ад’язджаюць ці прыязджаюць, за балясінамі побач з кастэлянкай дрэмле дужы, падобны ў сваёй форменнай вопратцы на генерала дзядзька. Мігам, толькі папрасіце, узнясе ён пры дапамозе ліфта вашы чамаданы хоць на сёмы, хоць на адзінаццаты паверх. Вядома, не шкодзіць аддзячыць за гэта дзядзьку якім-небудзь металічным рублём. Слізгануўшы па ягонай гладкай далоні, гэты рубель вокамгненна знікае ў кішэні расшытага залатымі галунамі сіняга сурдута.

У левым баку вестыбюля, ледзь не дацягваючыся раскідзістымі галінамі да столі, стаяць у драўляных кадках пальмы, пад імі — мяккія крэслы. Тут жа — абкладзенае дзікім каменем, штучнае, мініяцюрнае азярцо, у сіняй вадзе

якога шмыгаюць шустрыя рыбкі, а парослае зялёным імхом дно наўсцяж закідана сярэбранымі манеткамі. Відаць, ад'язджаючы, не хочучы затрымліваць выкліканае таксі, асобныя курортнікі не дабягаюць да мора і кідаюць манеткі ў гэта штучнае азярцо. Зрэшты, вада — усюды вада.

У левым кутку вестыбюля насупраць пальмавай раскошы немалады, сівы, але яшчэ рухавы дзядзька-пенсіянер прадае газеты. Газеты, часопісы на ўсе густы, ёсць нават зарубежныя. Купляй, чапляй на нос акуляры, садзіся ў мяккае крэсла пад пальмы, чытай.

Яшчэ ўчора вечарам Андрушкевіч атрымаў месца ў сталовай.

Каб трапіць у сталовую, трэба з вестыбюля падняцца на прасторную пляцоўку-тэрасу, адкуль дзверы, размешчаныя ў цэнтры, вядуць у два сумежныя залы сталовай. Уваход у кіназал — з левага боку пляцоўкі, правы абсяг тэрасы займае кафэ, якое працуе з паўдня да поўначы. Тут мелецца, варыцца кава, за танканогімі столікамі сядзяць дзяўчаты з падфарбаванымі вуснамі, густа падведзенымі вачамі і доўгавалосыя, даўно не стрыжаныя хлопцы. Безупынна курачы, заказваючы новыя кубачкі кавы, наведвальнікі кафэ або млява, напаўголасу размаўляюць, або наогул маўчаць.

Знешне санаторны будынак таксама ўражвае. Высока, намнога вышэй за сосны, дубы, берасты, якія растуць побач, узнеслася аграмадзіна са шкла і жалезабетону. Такіх будынкаў на ўзбярэжжы некалькі, і яны відаць здалёку, кіламетраў за пяць-шэсць. Заасфальтаваныя пляцоўкі, дарожкі, мноства лавачак, альтанак, звычайных калод, прыстасаваных для сядзення, нібы заклікаюць курортніка прысесці, адпачыць, паслухаць пераліvы птушыных галасоў, падыхаць вільготным марскім паветрам.

Адно дрэнна: побач вуліца-шаша, за ёй — чыгунка. Бясконцым цугам імчаць па вуліцы-шашы з адчайнай хуткасцю грузавікі, лёгкія «масквічы», «лады» з прыладжанымі на версе кабіны палаткамі, ложкамі-раскладанкамі, іншай маёмасцю, неабходнай для адпачынку. Праз кожныя восем—дзесяць хвілін, аглушаючы наваколле кароткімі гудкамі, праносяцца па чыгунцы электрычкі.

Не засумуеш.

Тым часам мора ёсць мора. Яно прыцягвае летам людзей, як квітнеючая ліпа пчол. Дзіва няма: мора — гаенне стомленасці і тое якраз месца, дзе можна набрацца сілы на ўвесь наступны год.

Каб прайсці да мора, трэба абагнуць левы вугал санаторыя, мінуць шэраг тоўстых, купчастых, з пакручанымі галінамі хвой, густыя зараснікі акацый, каліны, кусты з дробнымі жоўтымі кветкамі — назвы іх Андрушкевіч не ведае. Затым трэба спусціцца па рыпучых драўляных сходках да ўзбярэжжа.

Ля мора стаіць купка мужчын. Усе немаладога, прыкладна такога, як Андрушкевіч, веку, ёсць нават старэйшыя. Сонца вось-вось падымецца, на ўсходняй частцы небакраю барвее чырвоная палоска, прагалы неба, засланыя нерухомымі белымі аблачынкамі, у залатых водблісках. Над берагам мора, пранізліва крычучы, носяцца чайкі. Надаедлівыя, нахабныя, у пошуках харчу яны і па беразе выдыбаюць доўгім ланцугом, б’юцца, валтузяцца, падлазяць ледзь не пад ногі, губляючы ў вачах Андрушкевіча навеяны вядомай чэхаўскай п’есай воблік чыстых рамантычных птахаў.

Зябка, мужчыны ў світарах, нават пінжаках. Яны размаўляюць, пакурваюць. Наводдаль купка юнакоў перакідвае мяч. Гэтыя толькі ў трусах. Яшчэ праз хвіліну, агалошваючы наваколле гучнымі крыкамі, раскідваючы вакол срабрыстыя пырскі, некаторыя з іх нясуцца па мелкаводдзі ў напрамку буйкоў.

Сонца паказваецца з-за гарызонту, імгненна мяняючы выгляд зямлі і мора. Неба яснее, панылa-шэрае мора робіцца светла-сінім, вясёлым, нібы ўсміхаецца людзям сваёй зіхатлівай роўняддзю. Нават цяплей робіцца.

У мужчынскім гурце знаёмых няма, і такой акалічнасцю Андрушкевіч задаволен. Некалі на дзіва лёгка ён сыходзіўся, знаёміўся з людзьмі. Але шмат з таго часу сплыло вады. Цяпер, можна лічыць, ён адзінокі пустэльнік. Яму не сумна быць з самім сабой, і ён нават злуецца, калі хто парушае ягоны спакой. Можа, таму, што ён піша ці думае пра тое, што будзе пісаць. Вечна ён заклапочаны. Многа варыянтаў

перабірае розум, пакуль наткнецца на патрэбны. Адбываецца як бы азарэнне, іскрой успыхвае думка. Хто гарантуе вернасць вываду? Інтуіцыя, якая ў дадзеным выпадку нібы камертон. Яна ёсць у навуковым пошуку, і яна выбірае той варыянт, які найбольш мэтазгодны і гарманічны.

Працэс мыслення глыбока схаваны, стоены, таямніцы, законы яго канчаткова не выяўлены. Можа, ніколі не будуць выяўлены. Бо працэс пазнання навакольнага свету бясконцы.

Андрушкевіч ідзе ў мора. Ідзе павольна, бо вада халодная. Мелкаводдзе цягнецца метраў пяцьдзясят. Вада апальвае ногі. Высока падымаючы ногі, ён пераадольвае паласу зялёных водарасцей, якіх хваляй прыбівае да берага. Днём водарасці і вада ў гэтым месцы стануць цёплымі. Гэтак нагрэюцца. Цяпер халодныя, непрыемныя. Адно цешыць: пад нагамі цвёрды пясчаны грунт.

Мінуўшы паласу водарасцей, Андрушкевіч аблівае грудзі, плечы, шыю. Нарэшце ныраe ў ваду, пачынае плысці. Плыць трэба хвілін пяць, нават дзесяць, актыўна рухаючы рукамі, нагамі, і толькі тады прыйдзе прыемнае адчуванне: цела не адчувае холаду і яму прыемна ў вадзе.

З выглядам пераможцы глядзіць Андрушкевіч на бераг, на купку мужчын, з якіх пакуль ніхто не адважыўся сягнуць у мора. Яму здаецца, што на яго таксама ўсе глядзяць.

Такое адчуванне хутка мінае. Нырнуўшы ў ваду, дасягнуўшы глыбіні, з якой на паверхні відаць толькі галава, можна адгарадзіцца ад усяго свету. Андрушкевіч любіць мора. Яно астуджае галаву і прыкметна прыбаўляе сілы. Пасля ранішняга купання запасу бадзёрасці хопіць гадзіны на тры ці чатыры. Ён пасядзіць, папіша, потым зноў прыйдзе на мора. Падаслаўшы дзяружку, будзе ляжаць на пясчанай тэрасе, адгароджанай ад астатняга пляжа рэдкімі ракітавымі кусцікамі, глядзець на мора, слухаць размаітую гаману пляжа. Вялікі сэнс у такім вось адпачынку. Ён прыносіць з сабой кнігі, паспяваючы за тры ці чатыры гадзіны ляжання прачытаць толькі старонку ці дзве. Мноства праяў жыцця, якое ідзе на пляжы, захоплівае яго ўвагу. Яму цікаваназіраць за тымі, хто адпачывае, раздумваць: хто яны, адкуль прыехалі? Яго глыбока не закранаюць мімалётныя разважанні, якія, як аблачынкі на летнім небе, паяўляюцца і знікаюць.

Разы два ці нават тры ён забрыдае ў мора, плавае, глядзіць адтуль на пярэсты, мітуслівы бераг, затым, апрануўшыся, прыхапіўшы кнігі і дзяружку, ідзе ў свой пакой.

Вечарам ён робіць праходку па гладкім, утоптаным беразе мора, думае, разважае, успамінае...

## VIII

Пераехаўшы з Вярэміч у Мінск, Андрушкевіч уладкоўваецца ва ўніверсітэцкім інтэрнаце разам з двума такімі, як сам, аспірантамі, што набліжаюцца да завяршэння тэрміну навучання.

Ёсць у Мінску знаёмыя хлопцы, дзяўчаты з Клінска, якія заканчваюць інстытуты. Ёсць нават двое ці трое, што належалі да падполля. Тым часам жыццё іх разводзіць: узніклі новыя інтарэсы, імкненні. Дый падполле, здаецца, ніхто не збіраецца ўзаконьваць.

У газетах друкуюцца артыкулы, у якіх відныя прафесары, акадэмікі распрацоўваюць думкі, выказаныя Сталіным на дзевятнаццатым з’ездзе партыі, а таксама ў яго надрукаваных працах па пытаннях мовазнаўства і палітэканоміі.

Андрушкевіч ходзіць у Ленінскую бібліятэку, у навуковы зал, выпісвае процьму літаратуры, гартае, чытае, занатоўваючы ў агульны сшытак найбольш цікавыя думкі. Ён лічыць: яму пашанцавала. Пасля артыкулаў Сталіна, у якіх нашчэнт разбіта, адкінута прэч тэорыя Мара аб стадыяльным развіцці мовы як ненавуковая і антыгістарычная і дадзен прастор, стымул для развіцця занядбанага раней параўнальнага мовазнаўства, вецер як бы дзьме ў ветразі Андрушкевіча. Бо цяпер кожны гісторык можа браць параўнальны матэрыял, які яго хвалюе, з сумежных дысцыплін: мовазнаўства, літаратуры, археалогіі.

Упершыню Андрушкевіч востра адчувае: трэба брацца за замежныя мовы. З дапамогай тоўстага акадэмічнага слоўніка ён яшчэ сяк-так прадзіраецца праз нямецкі тэкст, хоць з цяжкасцю, але падступае да кніг на польскай, чэшскай мовах. Славістыка ў палякаў, чэхаў развіта някепска. Але ёсць яшчэ кнігі на французскай, англійскай мовах. Іх таксама трэба чытаць.

З халодным смуткам у душы прывыкае Андрушкевіч да горада. Вуліца, на якой размешчан інтэрнат, тым і добрая, што выводзіць да прадмесця, дзе ў акружэнні садоў, яблынь, груш, сліў, вішань, бэзавых кустоў стаяць местачковага выгляду драўляныя дамкі з аканіцамі, якія нанач зачыняюцца, з малымі акуратнымі дворыкамі, штабялямі напілаваных, наколатых дроў, злоснымі сабакамі ледзь не ў кожным двары.

Кожнага тыдня Андрушкевіч ходзіць у лазню ў прадмесці горада. У лазні прадаюць піва, і ён, закончыўшы мыцца, дазваляе сабе выпіць кухаль або нават два.

Інтэрнат, у якім жывуць аспіранты, студэнцкі. Два, а то і тры разы на тыдзень у вестыбюлі інтэрната студэнты наладжваюць танцы. Калі гадзін у адзінаццаць вечара Андрушкевіч вяртаецца з бібліятэкі, танцы ў самым разгары. Яму, перш чым дабрацца да свайго пакоя, прыходзіцца прабіваць дарогу праз шчыльны рухомы строй цікаўных хлапцоў і дзяўчат, што стаяць у інтэрнацкім вестыбюлі.

Студэнткі не абмінаюць увагай аспірантаў, старэйшых за іх самае большае гадоў на шэсць-сем. Заскокваюць у пакой патэльню пазычыць, прас, запалак папрасіць.

Знаёмствы пакрысе завязваюцца.

Напярэдадні Кастрычніцкіх свят Андрушкевіча запрашаюць дзяўчаты з суседняга пакоя. Ён не хоча псаваць з імі адносіны і запрашэнне прымае. Дый цікавасць бярэ: што за дзяўчаты вучацца на стацыянарным аддзяленні ўніверсітэта, аб чым думаюць, чаго хочуць?

Дзяўчаты амаль усе ладныя, буйнацелыя, адна ў адну (іх тут чатыры, тры — гісторыкі і адна філалагічка). Філалагічка чарнявая, дробненькая, мізэрная з выгляду і не надта прыгожая, затое надзвычай шустрая і смяшлівая. Як ні дзіўна, іменна яна мае жаніха, прыстойнага хлопца, што заканчвае політэхнічны інстытут і таксама запрошан у госці.

Палітэхнік сядзіць моўчкі, заклаўшы нагу за нагу, гэтак жа няўпэўнена, не ведаючы, з чаго пачаць гаворку, адчувае сябе Андрушкевіч. Затое трэці, сярэдняга росту, плячысты, з прыкметнай лысінай гісторык з першай хвіліны бярэ на сябе ролю лідара. Так яно, відаць, павінна быць, бо гісторык разам з дзяўчатамі вучыцца дый, мяркуючы па ўсім, у гэтым пакоі з'явіўся не першы раз.

Застолле небагатае, студэнцкае. Адчуваючы, што ў пакоі апроч афіцыйнага нейкае асабістае свята, Андрушкевіч прынёс бутэльку каньяку, каробку цукерак, і ягоныя дары адразу знаходзяць месца на стале разам з трункамі, што выставілі ад сябе дзяўчаты.

Закускі не ўражваюць. Вінегрэт, парэзаная на дробныя скрылікі каўбаса, адчыненая бляшанка рыбных кансерваў у таматным соусе. Тым часам Андрушкевіч памыляецца. Дзяўчаты — усюды дзяўчаты, няхай сабе студэнткі ўніверсітэта. Хутка з'яўляюцца катлеты, сялянская каўбаса, насмажаная гаспадынямі ў кухні, адзінай на ўвесь інтэрнацкі паверх, салодкі кісель, чай, кава, звараныя там жа.

Пачастунак наладжан у гонар высокай, статнай шатэнкі, млява-павольнай у рухах, з мілавідным круглым тварам, румянцам на белых шчоках, прыгожымі шэрымі вачамі, якую завуць Валянціна. Колькі імянінніцы гадоў, за сталом, само сабой, не гавораць, хоць Валянціна дзяўчына маладая, і не болей ёй як дваццаць два ці дваццаць тры гады. Справа зразумелая. Канчаючы ўніверсітэт, хочуць выйсці дзяўчаты замуж, і нават маладыя пабойваюцца за свой узрост.

Андрушкевіч, відаць, заклікан да дзяўчат па жаданні Валянціны. У той жа час ні словам, ні жэстам, ні позіркам сваіх прыгожых вачэй яна гэтага не пацвярджае. Сядзіць велічна, нібы мармуровая багіня, маўчыць, слухае тосты, якія наперабой, усхваляючы яе, прамаўляюць сяброўкі, запрошаныя хлопцы.

Найбольш выгуквае тостаў лысаваты гісторык з шырокім ілбом, вузкім падбародкам, з зеленаватымі, як у ката, вачамі. Як з мяшка, сыпле жартамі і наогул за словам у кішэню не лезе. Хлопец абыходлівы, з Валянцінай добра знаёмы і, відаць па ўсім, гарадскі. Хто яго на імяніны запрасіў? Відаць, таксама Валянціна. Такой гульні Андрушкевіч не разумее. Адразу зацінаецца. Пасядзеўшы для прыліку з гадзіну, развітваецца.

Ад Андрушкевіча не схавалася, што пры ягоным адыходзе прыгожы твар Валянціны хмурнее, затое прыкметна весялеюць астатнія студэнткі.

Інтэрнат новы. Невялікі пакой разлічаны на дваіх, але яшчэ не можа ўніверсітэт дазволіць такую раскошу сваім

студэнтам ці нават аспірантам. Аспірантаў у пакоіках па трое, студэнты жывуць па чатыры ці нават па пяць чалавек.

Хваля студэнтаў, што былі ўдзельнікамі вайны, бадай што схлынула. Цяпер такіх знойдзеш хіба сярод завочнікаў. Нават між аспірантаў трапляюцца хлопцы, найчасцей дзяўчаты, што непасрэднага дачынення да вайны не мелі.

У пакоі Андрушкевіча ўдзельнікі вайны. Трыццацігадовы чарнявы філосаф Гапейчык з худым, як бы вымачаным, тварам быў на фронце. Жалудовіч, другі аспірант, які вывучае хімію, пасвячаць другіх у сваю біяграфію не любіць. Аднак вядома, што ёсць у ёй нават гераічныя моманты. Жалудовіч быў на акупіраванай тэрыторыі ў складзе партызанскай спецгрупы, прысланай з-за лініі фронту. Відаць, з такой самай групай засылалі ў тыл Кузьму Галузу.

Хлопцы займаюцца кожны сваім і ў чужыя справы нос не торкаюць. Сутыкаюцца толькі раніцай ды вечарам. Астатні час бавяць у бібліятэках. Хоць пра Жалудовіча гэтага не скажаш. У бібліятэцы яго ніхто ніколі не бачыў. Ён жанаты, мае на раёне жонку, дзіцё, але, дарваўшыся да Мінска, свабоды, з галавой рынуў у вір любоўных пошукаў і прыгод. Жалудовіч не толькі днём не стыкаецца ў пакоі, а часта нават начаваць не прыходзіць.

Андрушкевічу і Гапейчыку ад гэтага толькі выгода. Двое ў пакоі зусім не тое, што трое ці чацвёра. Можна пагаварыць інтымна, даверліва, не баючыся, што нехта перакруціць словы, пераіначыць і — чаго добрага — павесіць на цябе ярлык.

Бясконцы абсяг размоў Андрушкевіча з Гапейчыкам: ад сучаснага палітычнага, эканамічнага, міжнароднага становішча да пытанняў абстрактных, адцягненых, такіх, як філасофія старажытнай Індыі, якой цікавяцца абодва аспіранты.

Тым часам Гапейчык не толькі цікавіцца. Ён прагне прасякнуцца самім светаадчуваннем старажытных індусаў, дзеля чаго займаецца ёгай. Не дзіва ўбачыць Гапейчыка, які, нібы Буда, падцяўшы пад сябе ногі, сядзіць на падлозе або, што яшчэ больш адменна, стаіць на галаве. Свірыд Іванавіч — так завуць Гапейчыка — даказвае, што пасля трох хвілін такога стаяння ён атрымлівае фізічную і разумовую зарадку на цэлы

дзень. Не дурныя былі, відаць, старажытныя індусы, якія выдумалі такую гімнастыку.

З усіх філасофскіх дысцыплін Гапейчык найглыбей вывучае логіку. Па характару ён максіміліст, рашэнняў, якія немагчыма пацвердзіць формамі логікі, не прызнае, таму рашуча адкідвае шмат якія вывады сучаснай фізікі, у прыватнасці, тэорыю Эйнштэйна.

Суседзі-аспіранты ведаюць слабасць Гапейчыка, таму ахвотна вядуць з ім дыскусіі. Як гэта — няшчасны бурсак, які палучае шэсцьсот восемдзесят рублёў стыпендыі і невядома яшчэ, ці напіша дысертацыю, раптам выступае супраць сусветна вядомага Эйнштэйна?

Гапейчык выступае. Варта толькі растравіць яго, распаліць, закрануць за жывое. На галаву беднага Эйнштэйна, няхай сабе славутага, сусветна вядомага, выліваюцца ў такім выпадку патокі адборнай лаянкі. Гаварыць пра тэорыю адноснасці спакойна Гапейчык не можа — крычыць. Незалежна ад таго, дзе вядзецца гаворка: у пакоі, на вуліцы або ў бібліятэцы.

— Шарлатанства выдаеш за навуку! — лямантуе ён, цярэбячы рукамі чорныя жорсткія валасы на палыселай, круглай, нібы гарбуз, галаве.— Ну, скажы, можа быць адначасна сухое і мокрае, белае і чорнае, птушка, якая лятае, і змяя, што поўзае? Глупства, праўда? А ў Эйнштэйна іменна так. Прамень святла, звычайны прамень, скажам, ад лямпы, ад сонца, ад сігарэты для яго адначасова хваля і цвёрдая часцінка. Ну, скажы, як гэта можа быць? Каза і ў той жа час карова? Глупства, праўда?..

Калі Гапейчыку пярэчаць, што эйнштэйнаўская тэорыя прызнана, прынята сусветнай навукай, мае выйсце ў практыку, практыкай пацвярджаецца, ён узвіваецца яшчэ вышэй.

— Што ты мне круціш мазгі! Мала было ў свеце шарлатанства? За што Джардана Бруна спалілі? Галілея распіналі за што? Што сцвярджаў Пталамей? Трыста гадоў верылі яму, пакуль не прыйшоў Капернік...

Сябе Свірыд Гапейчык бачыць, вядома, у лагеры такіх, як Капернік. Эйнштэйна — у процілеглым лагеры.

Гапейчык — выключэнне. Большасць аспірантаў маўчаць пра свае вышукі. Дый мала яшчэ вышукаў, якія б давалі практычнае выйсце, завяршыліся дысертацыямі.

Паўгода назад, калі Андрушкевіч толькі-толькі перавёўся з завочнай у стацыянарную аспірантуру, абараніў кандыдацкую дысертацыю загадчык ягонай кафедры Вікенцій Вастрабрамскі. Андрушкевіч у зале не быў, з некалькімі іншымі аспірантамі стаяў пад дзвярамі. Доўга не змаўкалі воплескі ў зале пасяджэнняў біялагічнага корпуса, калі камісія аб'явіла, што Вастрабрамскаму прысуджана вучоная ступень кандыдата навук. Дзіва няма: першая за мірны час дысертацыя, абароненая ў сценах універсітэта.

Андрушкевіч задаволен, што лёс яму зычыў займацца ва ўніверсітэцкай аспірантуры. Што-што, а гісторыю тут прадстаўляюць людзі з іменем. Адно імя прафесара Нікольскага што значыць. Паліцу кніжак напісаў, і якіх кніжак!

Яшчэ працуе ва ўніверсітэце прафесар Герцаў, якому Андрушкевіч здаваў новую гісторыю. Трэба прызнацца, кепска здаваў, паспадзяваўся на запас ведаў, дастатковых для тых заняткаў, якія вёў ён у школе. Аднак ягоная фраза наконт нацыяналізму, культ якога гадаваўся ў Германіі на працягу шматлікіх папярэдніх стагоддзяў, прафесару дужа спадабалася. Ён сам стаў развіваць думку ў гэтым напрамку і прагаварыў з паўгадзіны. Скончыўшы прамову, паставіў Андрушкевічу пяцёрку.

Побач з гэтымі славутасцямі ёсць шэраг выкладчыкаў, якія прафесарскіх тытулаў не маюць. Тым часам пішуць доктарскія дысертацыі і, відаць, у блізкай ці далёкай перспектыве зробяцца прафесарамі. Адзін з іх, дацэнт Мігай, з'яўляецца навуковым кіраўніком Андрушкевіча.

Максім Хвядосавіч — так завуць дацэнта — загадвае кафедрай старажытнай гісторыі і сярэдніх вякоў. Вывучае ўзаемаадносіны народаў, якія ў старажытнасці насялялі Апенінскі паўвостраў. Вядома, ад этрускаў, рымлян, італікаў да лясных балотных дрыгавічоў, радзімічаў, драўлян дыстанцыя далёкая, але дацэнт ухваляе намер Андрушкевіча пакапацца ў старажытнасці ўсходніх славянскіх плямён.

— Даю вам ідэю,— гаворыць аднойчы Максім Хвядосавіч.— Славяне, нават вашы палешукі, сутыкаліся з антычным светам. Са Старажытнай Грэцыяй, Рымам. На Дунаі жылі. Сутыкаліся не толькі як варвары, разбуральнікі...

То быў час, калі сцверджанне летапісу аб рассяленні славян па Дунаі ставілася пад сумненне і моцна аспрэчвалася.

Мігай даводзіў іншае. Славяне жылі па Дунаі, сцвярджае ён. Некаторыя там засталіся і сёння жывуць. Увогуле Дунай для славян — адна са шматлікіх міграцый. Уся старажытнасць запоўнена міграцыямі. Без сутыкнення славян з антычным светам, няхай сабе яго перыферыяй, мы не вытлумачым іх высокую культуру ў сярэднія вякі. Атрымаецца: Кіеўская Русь, адна з магутнейшых дзяржаў Еўропы, нібы з неба звалілася.

Мігай раіць чытаць мовазнаўчыя крыніцы, якіх пасля крытыкі Сталіным Мара становіцца ўсё больш. Ёсць словы, гаворыць ён, уласцівыя толькі славянам і хетам, славянам і кельтам, славянам і нашчадкам Рыма. Адкуль бы гэтыя словы ўзяліся, каб не было непасрэдных, блізкіх кантактаў народаў, у тым ліку славян, што жылі на прыдунайскай раўніне.

Пазней дацэнт Мігай наогул падахвочваецца быць навуковым кіраўніком Андрушкевіча. Вастрабрамскі, загадчык кафедры, на якую залічан Андрушкевіч, мусіць з гэтым згадзіцца, бо стары прафесар Нікольскі аспірантамі не кіруе і, апроч яго і дацэнта Мігая, няма ва ўніверсітэце другіх вучоных, якія б так глыбока заглядвалі ў старажытнасць.

Высвятляецца яшчэ адна прыемная акалічнасць: дацэнт Мігай сам паходзіць з Палесся. З палескага Прыдняпроўя. Ён высокага росту, бялявы, з вузкаватым, прадаўгаватым тварам, насмешліва-засяроджаны, павольны ў рухах і жэстах. Характарам Мігай вельмі спакойны і ўраўнаважаны. Ён ніколі не павышае голасу, нават калі, здаючы экзамен, студэнт пляце лухту. За гэты алімпійскі спакой, павольнасць у словах, рухах, жэстах некаторыя лічаць Мігая пасіўным і нават лянівым. Але гэта не так. За свае сорак пяць гадоў Мігай зрабіў нямала. Кніг яшчэ не мае, але надрукаваў шмат артыкулаў, некалькі брашур, ведае грэчаскую мову, латынь дый на ўсіх новых еўрапейскіх мовах чытае літаратуру. Усім гэтым ніколькі не пахваляецца.

Кнігі, якія чытаў Андрушкевіч, малявалі прафесараў, увогуле вучоных людзей як дзівакоў, непрактычных, даверлівых, адарваных ад жыцця. Але мяняюцца часы, мяняюцца і прафесары. Пад ранейшую мерку падыходзяць, бадай, толькі прафесары Нікольскі, Герцаў ды яшчэ дацэнт Мігай. Астатнім палец у рот не кладзі. Зусім сучасныя людзі! Наконт ведання замежных моў, уласных кніжак справа ў некаторых абстаіць слабавата, добрага ідэалізму, лібералізму таксама бракуе, затое яны не ўпускаюць свайго ва ўсім астатнім. Гучна, з пафасам чытаюць лекцыі, кладуць на лапаткі сваіх праціўнікаў, не саромеюцца нават заяву на калегу напісаць у вышэйшую інстанцыю. Часам ананімную, без подпісу.

У Мінску на галоўным праспекце здаюць дом для вучоных. Даўно пра гэты дом ідзе гаворка. Нарэшце наступае засяленне. Вядома, у лік жыльцоў трапляюць заслужаныя прафесары, дацэнты.

Малады кандыдат навук Вастрабрамскі таксама атрымлівае кватэру ў доме на галоўным праспекце.

Вастрабрамскі імкліва набірае вагу. Стаўшы кандыдатам навук, адразу зрабіўся загадчыкам кафедры, членам парткама. Выступае на сходах з прамовамі, гаворыць зычна, пераканаўча, нязменна заслугоўвае воплескі.

Андрушкевіч слухаў лекцыі Вастрабрамскага. Як педагог ён, бясспрэчна, здольны. Валодае словам, умее зацікавіць аўдыторыю, выдзеліць галоўнае, дзе трэба, рассмяшыць студэнтаў, зняць напружанасць.

Артыст Вастрабрамскі, і артыст някепскі. Нечым падобны да Клязьбіча, дырэктара Вярэміцкай школы. Іншы раз Андрушкевічу здаецца, што ў красамоўнасці, уменні паказаць у смешным святле таго, з кім ён не згодзен, увесь Вастрабрамскі. Бо глыбіні ў ягоных лекцыях няма. З трыццацігадзіннага курса, які ў свой час прачытаў завочнікам Вастрабрамскі, атрымаўся надзвычай тоненькі канспект. Не было чаго запісваць. Так і залік Вастрабрамскаму здавалі. Пытанне наконт той ці іншай гістарычнай даты — і адназначны кароткі адказ.

Прыйшоўшы ў бібліятэку, Андрушкевіч спярша праглядвае газеты. Ніколі не мінае газет «За прочный мир, за народную

демократию» і «Культура и жизнь», паасобныя артыкулы якіх вызначаюцца асаблівым радыкалізмам. Калі што крытыкуецца ў гэтых артыкулах, то з вялікім размахам, часам знішчаецца нашчэнт. Як бы ніхто да гэтага не заўважаў, не бачыў, не ацэньваў той ці іншай адмоўнай з'явы, даў ёй разрасціся да страшэнных памераў, і цяпер адно застаецца: вырваць зло з коранем.

Такі тон Андрушкевічу не падабаецца. Ён здаецца не гаспадарскім і як бы разлічан на знешні эфект, на імкненне зрабіць найбольшае ўражанне. Андрушкевіча іншы раз наведвае думка: менавіта так чытае свае лекцыі Вастрабрамскі. Бляск і выбух. Далей — што атрымаецца.

Але думкі свае Андрушкевіч трымае пры сабе. Хто ён, каб крытыкаваць прафесараў і кандыдатаў навук?

Некаторыя калегі, слухаючы палымяныя паведамленні Андрушкевіча пра скіфаў, сарматаў, гоцкае нашэсце, гунаў, якія, разбіўшы готаў, спрабавалі авалодаць старажытнай Еўропай, пацінаюць плячамі. Навошта яму сівая, забытая мінуўшчына? Што новае тут знойдзеш? Прайшло і быллём парасло...

Тым часам Андрушкевіч шчыра верыць, што гісторыя прысутнічае ў сучаснасці. У шматлікіх сваіх праявах, уплывах. Больш таго: на будучыню праецыруецца гісторыя. Што было, тое будзе. Гэта яшчэ Эклезіяст сказаў, біблейскі прарок... Гісторыя старажытнасці найлепш раскрываецца на замчышчах гарадоў ці такіх паселішчаў, як Вярэмічы. На Мінскім замчышчы — яго якраз трохі раскапалі — культурны пласт дасягае васьмі метраў, і гэтыя метры чорнай тлустай зямлі, перамешаныя з бітай цэглай і вуголлем, нядрэнна ілюструюць гісторыю горада за апошнюю тысячу гадоў: якія, калі прыходзілі сюды заваёўнікі, колькі разоў палілі горад, як жылі, працавалі і што елі тубыльцы места і нават як апраналіся, упрыгожвалі сябе мясцовыя красуні.

Без Вярэмічаў, Тамары Іосіфаўны праводзіць Андрушкевіч сваю першую зіму. Цяжка прывыкае ён да муру і залітых асфальтам вуліц. У адлігу вецер прыносіць з палёў і лясоў, якія акружаюць горад, пахі зямлі, мокрай прэлай травы, лісця. Ад гэтых пахаў кружыцца галава, нараджаецца жаданне вырвац-

ца з каменнага палону горада на разлеглы, вольны вясковы прастор.

Маршрут Андрушкевіча з інтэрната да Ленінскай бібліятэкі пралягае праз раён, дзе новае будаўніцтва вядзецца марудна. Агароджаныя дашчаным парканам будаўнічыя пляцоўкі за лета зараслі высокім быльнягом, выпетранае бадылле прабіваецца між штабялёў дошак, цэментовых пліт, грудаў пабітай цэглы, нават праз гурбы снегу. У праёмах узнятых сцен свішча вецер.

Міжволі цягнецца Андрушкевіч позіркам да мясцін, якія хоць чым-небудзь нагадваюць родны Клінск, Вярэмічы. Асабліва многа такіх мясцін каля Свіслачы, калі спускацца да яе па вуліцы, што прылягае да ракі. Уздоўж рэчкі разрасліся пышныя кусты вербалозу, крушынніку, падняліся асіны, бярозы, таполі, вольхі. У адлігу відаць: дол пад ім шчодра засланы апалым лісцем. На лугавіне, наўзбоч Свіслачы, лапікі зялёнай травы, якая і з-пад снегу вытыркаецца зялёнай, мяжуюцца з палосамі высокай парудзелай асакі. Калі ўздымаецца вецер, асака хвалямі прыхінаецца да зямлі: нібы вецер нябачным грэбенем расчэсвае яе рудыя пасмы і грывы.

Андрушкевіч сумуе па Вярэмічах, Прыпяці, абсягах саснякоў, размешчаных па бясконцых жаўтапёсах. Зімой на лыжах ён выбіраўся ў лес, шастаў па палянах, прасеках, зусім незнаёмых, урачыста-адчужаных пад белым аднастайным покрывам. Цяпер без яго стаяць закіданыя снегам, прыціхлыя вёсачкі, у якіх, на першы погляд, зусім замірае жыццё. Лясныя вылазкі як бы настройвалі Андрушкевіча на хвалю вечнасці: прырода нікуды не спяшаецца, паўтарае круг за кругам, і ў гэтым яе цярплівым, настойлівым шэсці як бы тоіцца найвышэйшая мудрасць.

З Тамарай Іосіфаўнай Андрушкевіч актыўна перапісваецца. Атрымлівае ад яе ліст, а то і два на тыдзень. Іншы раз ён успамінае Клязьбіча, свае бясконцыя з-за яго сваркі з Тамарай Іосіфаўнай і наважвае перапіску з ёй перапыніць. Калі рваць, то рваць рашуча. Ён цяпер на новым месцы, акружан новымі людзьмі, і само сабой павінна патухнуць тое, што выклікае ў душы пярэчанні і хістанні.

У адзін з такіх панылых дзён ён рашае не пісаць Тамары Іосіфаўне і не адказваць на яе лісты.

Гэта была памылка. Пасля тыдня зацятасці ён прачынаецца сярод ночы: прыснілася Тамара Іосіфаўна. Твар заплаканы, спакутаваны, паніклая, як у старой жанчыны, пастава. Наогул яна не падобна на самую сябе. Ні гарэзлівасці ў вачах, ні гордай зацятасці на твары.

Соннае трызненне, што прамільгнула на імгненне перад позіркам Андрушкевіча, узварушыла ўсю яго істоту. Столькі ў душы абудзілася замілаванасці, пяшчоты да Тамары Іосіфаўны, такой вялікай была радасць, што адносіны між імі не парваліся, што ўсё можна паправіць, працягнуць, што болей ён ужо не мог заснуць. Ён уключае святло (Гапейчык і Жалудовіч забурчалі, павярнуліся да сцяны і акрылі галовы коўдрамі), садзіцца пісаць ліст Тамары Іосіфаўне. Ён піша сваё пасланне ў стане вясёлай утрапёнасці, нястрыманай радасці. Думкі, пачуцці, якія выказвае, кантралюе не надта. Пісьмо атрымліваецца старонак на дзесяць. Каб раніцай пісьмо не перачытваць (жыве ў душы асцярога, што на цвярозы розум ён такі ліст Тамары Іосіфаўне не пашле), ён апранаецца, выходзіць на вуліцу, кідае пісьмо ў паштовую скрынку. І да самага світання блукае па вуліцах...

Тамара Іосіфаўна без цяжкасці разгадала пачуцці, якія валодалі Андрушкевічам, калі ён пісаў свой ліст. Яе адказ прыйшоў праз тыдзень, дыхаў светлымі, радаснымі пачуццямі. Як бы зусім не сварыліся яны, не кідалі адно другому ў твар крыўдных, абразлівых слоў, не думалі ў горкія хвіліны, што развітваюцца назаўсёды.

Вось такая Тамара. Халаднаватая, стрыманая, разважлівая ў звычайным жыцці. Калі поўніцца абурэннем, гневам, пачуццяў не хавае. Можа выбухнуць крыклівай лаянкай на вуліцы ці ў якім-небудзь другім месцы, не зважаючы на сведак. Абражаная, зняважаная, ходзіць панылая, змрочная, нібы асенняя хмара. Пры светлым настроі зноў становіцца ціхай, разважлівай, праменіцца радасцю. Жанчына, учынкамі якой перш за ўсё кіруюць пачуцці...

Лісты ад Тамары прыходзяць часцей і часцей. Яна не чакае, калі атрымае пісьмо ад Андрушкевіча: піша першая. Гэта яму падабаецца. Ад Алімпіяды, куды-небудзь ад’ехаўшы, ён амаль ніколі не атрымліваў лістоў. Тыя нешматлікія, якія яна

ўсё ж яму напісала, былі старанна абдуманыя, можа быць, нават перапісаныя начыста. Алімпіяда заўсёды насіла ў сабе тайну, нікому, нідзе, ні пры якіх абставінах яе не адкрываючы.

Тамара таксама стоеная. Скончыла ўніверсітэт, мела, вядома, знаёмствы з хлопцамі, тым часам ніколі пра гэта не расказвае. Слова пра вучобу ва ўніверсітэце з яе не выцягнеш.

Андрушкевічу блізкі, нават дарагі горад, у якім нарадзілася, вырасла Тамара. Горад ягонага юнацтва. Ён вучыўся там у лётным вучылішчы. Тамара тады бегала ў шосты ці сёмы клас. Магчыма, яна бачыла ў небе самалёт, якім кіраваў Андрушкевіч. Бо пробных вылетаў у яго было сем ці восем.

Дык вось Андрушкевічу вельмі цікава пачуць пра белакаменны горад на Волзе. Ён нібы частка ягонай душы. Як жыла ў ім Тамара, пра што думала, да чаго імкнулася? Але Тамара маўчыць. З гэтага пачынаюцца пакуты Андрушкевіча. Што яго чакае? Гэтак жа зацята маўчала, нічога не расказваючы пра свае захапленні, Алімпіяда. Але ён шмат чаго пра яе ведаў і, можа, таму не дацінаў роспытамі. Нават з такой думкай насіўся: захапленні Алімпіяды пачаліся, калі яго не было ў гарадку, таму не маюць да яго дачынення. Маюць! Ён адчувае: Алімпіяда, калі б ён быў болей настойлівы, выйшла б за яго замуж. Выканала б праграму-мінімум, бо дзяўчына не павінна заставацца адзінокай. Тым болей, што многія кавалеры не вярнуліся з вайны. Але што далей? Шукала б Алімпіяда ўцехі на старане, бо Андрушкевіча па-сапраўднаму не любіла. У яе ўсё-такі хапіла сумлення не выйсці за яго...

Такія жанчыны, як Алімпіяда, не выключэнне. Выходзячы замуж, ні пра якія абавязкі перад мужам, сям’ёй, нават дзецьмі не думаюць. Прагнуць новых захапленняў, уцех. Часта гэта канчаецца драматычна, нават трагічна.

Дык, можа, і Тамара гэтага хоча? Пры ўсёй сваёй стрыманасці, строгасці яна палымяная і пачуццёвая. Не простая яна, не ўсё ў ёй на паверхні. Артыстка. Валодае сабой і ўмее падпарадкаваць другіх свайму настрою.

Андрушкевіч бываў на ўроках Тамары Іосіфаўны. У тую пару, калі адносіны між імі яшчэ далёка не зайшлі. Настаўніца пры ім бянтэжылася, але ўсё адно вельмі хораша вяла ўрокі.

Пазней ён перастаў да яе хадзіць, парушаючы гэтым самым службовы абавязак.

Іншы раз ён запыняўся перад дзвярамі класа, у якім была Тамара Іосіфаўна. Клас жыў: то панавала ў ім затоеная цішыня, то раптам ён выбухаў узбуджанымі галасамі, смехам. Над усімі гэтымі размаітымі настроямі панаваў спакойны, разважлівы, з пералівамі адценняў і тонаў голас Тамары Іосіфаўны.

У такія хвіліны Андрушкевіч нават зайздросціў настаўніцы рускай мовы. У яго самога не заўсёды атрымліваліся добрыя ўрокі: часам былі сухія, перагружаныя матэрыялам, часам ён наогул не меў настрою, гаварыў нудна, казённа, залазіў у такую гушчэчу, дзе вучні, вядома, нічога не разумелі.

На сакавік пяцьдзясят трэцяга года Андрушкевіч плануе паездку ў Маскву, у Ленінскую бібліятэку. Аспірантам за тэрмін навучання адна такая камандзіроўка дазваляецца: на два, нават на тры тыдні.

У газетах тым часам друкуюць бюлетэні аб стане здароўя Сталіна. Нават думкі не дапускае Андрушкевіч, што можа здарыцца што-небудзь благое з правадыром. У душы цвёрда жыве надзея, што ніколі, ніякая бяда не закране гэтага вялікага чалавека сваім чорным крылом. І раптам смерць Сталіна...

Вестка Андрушкевіча аглушае. Нібы чымсьці цяжкім яго ўдарылі па галаве. «Як будзем жыць?» — раз-пораз узнікае вострая балючая думка. Адказу на яе Андрушкевіч не знаходзіць.

Разгублены іншыя аспіранты. На вуліцы, сабраўшыся ў купкі, размаўляюць між сабой нават незнаёмыя людзі. Міжволі паток людзей кіруе на Цэнтральную плошчу, пасярод якой, адліты з бронзы, узвышаецца магутны манумент правадыра. Да сярэдзіны дня плошча запаўняецца дарэшты. Як бы чакае натоўп, што нават мёртвы Сталін, сімвал якога высіцца на плошчы, падкажа адзіна правільнае рашэнне.

Не ва ўсе гады Андрушкевіч бездакорна верыў у Сталіна. Да вайны такое пытанне ў яго не ўзнікала. Ёсць Сталін — значыць ёсць, няхай кіруе, вядзе краіну ад перамогі да перамогі. У вайну, падчас адступленняў, паражэнняў, прэстыж Сталіна

пахіснуўся. Андрушкевіч неаднойчы чуў невясёлыя жарцікі, якія адпускалі акружэнцы, палонныя наконт геніяльнасці і дальнабачнасці правадыра.

Партызаны смехам, а то і ўсур'ёз называлі сябе «Язэпавымі сынамі». Але сыны гэтыя, што ўсмак пакаштавалі нягод ваеннага лёсу, часам не саромеліся выдаць, што сабралася горкага на душы, пра свайго вялікага, знакамітага бацьку.

Перамога такія гаворкі заглушыла, перакрэсліла. Андрушкевіч шчыра верыў, што Сталін вялікі і мудры чалавек. Ён апраўдваў цяпер усё, што ў час вайны выклікала сумненні і хістанні.

Сталіна ўрачыста хаваюць, выступаюць з прамовамі новыя кіраўнікі, і Андрушкевіч супакойваецца. Ленін таксама памёр, думае ён, але яго справу працягвалі вучні. Так будзе і цяпер.

Спазніўшыся на тыдзень супраць запланаванага тэрміну, Андрушкевіч едзе ў Маскву. Ён спадзяваўся ўбачыць узрушаную сталіцу, паслухаць, што, як гавораць пра Сталіна, і нават трохі расчараваўся, убачыўшы на вуліцах звычайных, заклапочаных людзей, якія спяшаюцца па сваіх справах, пра Сталіна не гавораць, не ўспамінаюць, як падалося Андрушкевічу, нават не думаюць.

Ён дрэнна ў Маскве ўладкоўваецца. У гасцініцы беларускага прадстаўніцтва месца такому чыну, як аспірант, не знаходзіцца. Не маючы вопыту, Андрушкевіч трапляе на вудачку махляроў. Абяцаючы кватэру, забраўшы наперад грошы, яны яго заводзяць у брудны катух, дзе сям'і чатыры чалавекі ды яшчэ трое такіх, як ён сам, бадзяг-пастаяльцаў.

Але, зрэшты, ён толькі начуе ў катуху.

У бібліятэцы Андрушкевічу, наадварот, шанцуе. Ён знаходзіць большасць кніг, якія намеціў прачытаць. Іх цэлая гара. Добра было б з некаторых выпіскі зрабіць. Але зусім відавочна, што часу не хопіць. Ён нават прачытаць выпісаныя кнігі не здолее.

Вяртаючыся сінім вясновым адвячоркам з бібліятэкі ў свой нялюбы катух, Андрушкевіч нечакана сутыкаецца з загадчыкам кафедры Вастрабрамскім. Той у сшытым па таліі шэрым дэмісезонным паліто, модным капелюшы, цёмных акулярах на прамым арліным носе.

— Наконт кнігі прыехаў,— паведамляе Вастрабрамскі, яўна радуючыся сустрэчы з Андрушкевічам.— Маскоўскі ўніверсітэт абяцае выдаць. Я ж тут аспірантуру канчаў. Крэмзаюць, аднак, рукапіс бязлітасна. З дзесяці аркушаў добра калі застанецца пяць.

Яны ідуць па вуліцы, і нечакана Вастрабрамскі запрашае Андрушкевіча ў кафэ.

— Зойдзем, кавы вып'ем. Ты, відаць, есці хочаш. Падмацуемся.

Калі яны, пастаяўшы ў чарзе, садзяцца за столік, Вастрабрамскі прызнаецца:

— Бачыў цябе ў бібліятэцы ўчора. Забягаў цытату праверыць. Сядзіш, аблажыўшыся кнігамі, нібы ў крэпасці, і свету белага не бачыш. Колькі засталося аспіранцкага часу?

— Паўтара года.

— Шмат напісаў?

— Ніводнай старонкі. Раблю толькі выпіскі.

— Слухай мяне, хлопец. Я трохі старэйшы. Маю вопыт і зычу табе дабра. Пра старажытных славян дысертацыю за паўтара года ты не напішаш. За пяць гадоў не напішаш. Твой Мігай скончыў аспірантуру — бог ведае калі, а дысертацыю абараніў толькі перад самай вайной. Ты талковы настаўнік, і я пакіну цябе на кафедры. Але, мабыць, ведаеш, колькі без кандыдацкай ступені зарабляе выкладчык. Ты, калі быў завучам, у два разы болей палучаў. Як будзеш жыць на такія грошы? Ды яшчэ ў горадзе?

— Я люблю тэму. Сябе не буду паважаць, калі ад яе адмоўлюся.

— Любі на здароўе. Хто табе забараняе? Збірай матэрыял, некалі кнігу добрую напішаш. Але пакуль напішы дысертацыю. Пра аднаўленне народнай гаспадаркі, напрыклад. Ці пра вызваленне Беларусі. Ты ж на фронце быў і пасля вайны бачыў, як ішло аднаўленне разбуранага. Вось і пішы. Зразумей: я хачу, каб аспірант маёй кафедры абараніўся. Буду тваім кіраўніком і, калі трэба, прасуну дысертацыю. Праз вучоны савет ва ўсякім выпадку...

Дзіўна: Андрушкевіч не вагаецца. Абяцае падумаць, але ўжо ведае, што згодзіцца з прапановай Вастрабрамскага. Бо

той мае рацыю. Пра старажытных славян толькі разгараюцца спрэчкі. Андрушкевіч нават не ведае, да якога лагера яму прыхінуцца. Бо ў адным і другім ёсць вучоныя, думкі якіх яму падабаюцца.

Ёсць яшчэ адна акалічнасць, якая прымушае Андрушкевіча прыняць прапанову Вастрабрамскага. Падсвядома ён адчувае: Тамары Іосіфаўне патрэбен толькі кандыдат навук. Выкладчыка, які будзе насіць пакамечаныя штаны з таннага матэрыялу і не здолее зарабіць грошай на прыстойны касцюм, яна адштурхне...

На другі дзень, не здаючы кніг пра старажытных славян, Андрушкевіч заказвае некалькі абароненых дысертацый па тэматыцы аднаўлення разбуранай вайной народнай гаспадаркі. Выпіскамі з гэтых дысертацый ён запаўняе тры тоўстыя агульныя сшыткі... Ён вяртаецца ў Мінск са шчаслівай думкай, што дысертацыю напіша. Няхай сабе на новую тэму...

Кафедра, якой кіруе Вастрабрамскі, ахвотна мяняе тэму дысертацыі Андрушкевіча. Да летніх вакацый, якія ў аспірантаў, як і ў выкладчыкаў, называюцца адпачынкам, Андрушкевіч піша першы раздзел дысертацыі. Раздзел перадрукоўвае старая машыністка-надомніца, нацюкаўшы болей за сотню старонак.

Дацэнт Мігай, пачуўшы, што Андрушкевіч памяняў тэму, паблажліва ўсміхаецца:

— Разумею, хочаце мець ступень. Магчыма, гэта правільна ў вашым становішчы. Старажытных славян, аднак, не кідайце. Маеце харошы задзел. Не забывайце Вярэміцкую гару,— такой метафарай канчае сваю нядоўгую прамову загадчык кафедры старажытнай гісторыі і сярэдніх вякоў дацэнт Мігай.

Першы раздзел дысертацыі Андрушкевіча, які абмяркоўваецца ў пачатку лета, нашчэнт разбівае аспірант трэцяга года навучання Ігар Клебановіч, рослы, лабаты, задзірысты, увогуле разумны і талковы. Дзіўна: Андрушкевіч не крыўдзіцца. Адчувае: дысертацыю напіша. Ідэй, фактаў мае аж залішне. Пакуль што не ўмее іх як трэба звязваць, падаваць, афармляць.

Упершыню за мірны час — з канца вайны мінула восем гадоў — Андрушкевічу не трэба здаваць экзамены. Кандыдацкі мінімум ён здаў, яшчэ жывучы ў Вярэмічах. Ён плануе паехаць у Клінск, у Вярэмічы, сустрэцца з Тамарай Іосіфаўнай. Дома, у шуфлядзе стала, ляжыць пачак патрончыкаў ад дробнакалібернай вінтоўкі. Вінтоўку ён выпрасіць у раённым ДТСААФе, паблукае па вярэміцкім лесе, пастраляе ў сасновыя шышкі.

Адчувае Андрушкевіч: другога такога лета не будзе. Скончыць аспірантуру — і яго адразу загрузяць лекцыямі. Да лекцый трэба рыхтавацца.

Пра Тамару Іосіфаўну ён думае з прыемнасцю. Толькі калі ўспамінае Клязьбіча, у душы зноў і зноў нарастае бунт. Выкладчыца рускай мовы як бы адчувае гэта. Цяпер шле лісты Андрушкевічу ледзь не кожны дзень, развейваючы яго змрочныя думкі, падазронасць. Наўрад ці будзе пісаць жанчына мужчыну так часта, калі яна абыякавая да яго.

Лета ў Клінску плыве ціхае, мяккае. Шасцяць разложыстымі шатамі тапалі наўзбоч станцыі, напоены пахам смалы, ігліцы, як бы дрэмле разамлелы недалёкі сасновы бор. Гэтую ідылію невялікага гарадка нават не парушае чыгуначная станцыя, на якой пыхкаюць парай, азываюцца гудкамі паравозы, ляскаюць буферамі саставы. Станцыйны гул як бы скрадваецца дрэвамі, садамі, блізкімі соснамі.

Аднак дома спакою няма. Рамантуе хату цётка, бацькава сястра, якая жыве разам з замужняй дачкой і зяцем. Таму яе сям'я з дваімі малымі дзецьмі перабралася да Андрушкевічаў. Жыве ў доме і матчына малодшая сястра, і таксама з дваімі дзецьмі: збіраецца разводзіцца з мужам, які беспрасыпна п'е. Чатыры рознага ўзросту пляменнікі гойсаюць па доме, па двары, бясконца б'юцца, лямантуюць.

Андрушкевіч нават у лес не можа сысці ад безупыннага ляманту: грыбоў яшчэ няма, а патрончыкі ад малакалібернай вінтоўкі з шуфляды стала зніклі: іх, па словах маці, хутчэй за ўсё выманіў праз пляменнікаў суседскі хлопец, неўгамонны звадыяш, на якім шкура гарыць.

У тыя дні да Андрушкевіча завітвае ягоны таварыш па школе і падполлі Іван Скачок, дзяжурны па станцыі. На ім

сіні чыгуначны, парадкам выцвілы і запэцканы касцюм, з расхлістаным каўняром сарочка. Відаць, толькі што закончыў Іван змену.

— Нічога не чуў? — пытае ён у Андрушкевіча.

— Што я павінен чуць?

— У нас быў партыйны сход. Чыталі пісьмо...

Сябры змаўкаюць. Штосьці новае пачынаецца ў жыцці пасля смерці Сталіна. Яно яшчэ акрэслена не вызначылася, як бы наспявае спадыспаду. Мусіць тым часам наспець. У адсталых калгасах нічога не даюць на працадзень, і мірыцца з гэтым нельга. І з тым, што занядбалі людзей, якія ў вайну ахвяравалі жыццём, таксама нельга мірыцца. Мінула дзесяць гадоў, як вызвалілі гарадок, а ўсё яшчэ не прызнана, не ацэнена дзейнасць падпольшчыкаў і наогул патрыётаў. Хоць справа відавочная, ляжыць на паверхні.

Спаць у хаце няма дзе, і Андрушкевіч начуе ў хлеўчуку. Сцены дзіравыя, ходзіць, шастае па хлеўчуку вецер. У выніку гарачым летам Андрушкевіч люта прастуджваецца. Надрыўна кашляе, шморгае носам, глытае пілюлі ад галаўнога болю. Нават з Тамарай Іосіфаўнай не выпадае пабачыцца.

Вылечыўшыся ад прастуды, Андрушкевіч піша Тамары Іосіфаўне ліст, і яна прыязджае ў гарадок. Хораша яны праводзяць той летні тыдзень: вандруюць па гарадку, сядзяць у бібліятэцы, ходзяць у кіно. У добрым, нават прыўзнятым настроі Андрушкевіч вяртаецца ў Мінск.

У Мінску для яго настае прыемны, у чымсьці нават паэтычны час. У пакоі ён адзін, прыціх парадзелы гаманлівы інтэрнат. Схіл лета, пачатак восені, багаты на змену фарбаў, тонаў: цямнее, затым паступова жаўцее ліст на старых ліпах, насаджаных на бібліятэчнай вуліцы, якая амаль строма спускаецца ўніз да Свіслачы. Над зарослай па берагах асакой абмялелай рэчкай ледзь не да самай вады спускаюць галіны разлапістыя вербалозіны. З іх падае жоўтае лісце, плыве ўніз па рацэ.

Кожны дзень прыходзіць Андрушкевіч у Ленінскую бібліятэку з нязнаным раней душэўным уздымам. Яму добра, натхнёна пішацца. Ён не чапае раскрытыкаваны першы раздзел,

як бы прадчуваючы, што галоўнае выказвае цяпер, калі прыкметна пасоўваецца наперад работа. Раскрытыкаваны раздзел Андрушкевіч скароціць, паменшыць. Ён прыкладзецца як бы ўступам да дысертацыі.

Андрушкевіч не баіцца абмеркавання. Спадзяецца на поспех. Так яно і атрымоўваецца. Члены кафедры, у іх ліку Клебановіч і Вастрабрамскі, раздзел аднадушна ўхваляюць. Клебановіч нават заяўляе, што дысертацыя фактычна напісана. Нават дружбы з Андрушкевічам шукае цяпер задзірысты, песімістычна-насмешлівы аспірант.

Клебановіч па аспіранцкім стажы на год вышэй за Андрушкевіча. Рыхтуецца да абароны дысертацыі. Тэма яго кідкая: расавая палітыка фашыстаў у гады акупацыі. Дысертацыя абмяркоўваецца на некалькіх кафедрах, таму Клебановіч бясконца перарабляе работу, каб дагадзіць шматлікім крытыкам.

Клебановіч з Мінска. Тут нарадзіўся, вырас. Першы год вайны правёў у гета. Тым часам маці, малодшая сястра і брат у гета не трапілі. Можа, бацька ў Клебановіча адзін, а ў сястры другі? Пра гета аспірант памоўчвае. Ахвотней расказвае, як яшчэ ў сорак другім годзе вырваўся з горада ў партызаны, трохі зняважліва пазіраючы на тых, хто прыйшоў у лес у сорак трэцім ці нават сорак чацвёртым.

Яшчэ ў партызанах рабіў Клебановіч запісы пра людаедства фашыстаў. Значыць, глядзеў наперад.

Увогуле Клебановіч шмат чытае, дасціпны, з інтэлігентнай сям'і. Ягоны бацька, які з сям'ёй не жыве, працуе адвакатам. На фронце ён быў ваенным юрыстам.

Ігар Міхайлавіч — так завуць Клебановіча,— бадай, болей літаратар, чым гісторык. У газетах, часопісах часта друкуе артыкулы, якія датычаць нядаўняй вайны. Ён і Андрушкевічу пасабіў надрукаваць артыкул пра аднаўленне разбуранай вайной гаспадаркі. За дзесяць старонак машынапісу Андрушкевіч атрымаў нечаканыя грошы. Ганарар, які нібы з неба зваліўся, роўны месячнай стыпендыі аспіранта.

## IX

Мінае паўгода.

З бібліятэкі Андрушкевіч вяртаецца ў інтэрнат са знаёмымі аспіранткамі. То з адной, то з другой. Жартуе, смяецца. Справы ідуць на лад, і гэта адбіваецца на ягоным настроі.

Нечакана ў Мінск прыязджае Тамара Іосіфаўна. Яна нават не паспявае пра свой прыезд напісаць, застае Андрушкевіча ў разгубленасці. Можа, нядобрае адчула Тамара Іосіфаўна, можа, хто напісаў, што ён пахаджвае з дзяўчатамі, але, завітаўшы ў бібліятэку, выклікаўшы яго ў калідор, яна з гарыччу гаворыць:

— Можаш рабіць, як хочаш. Як падказвае сумленне. Я не хацела гаварыць. Цяпер скажу. У нас магло быць дзіцё. Яшчэ летась. Калі ты толькі ад'язджаў...

На яе доўгіх вейках вісне празрыстая, нібы кропля расы, слязіна.

Андрушкевіч незвычайна ўзрушваецца. Хваля пяшчотнасці, удзячнасці, жалю да Тамары залівае грудзі. Дзесяць разоў магла пакінуць яго Тамара. Аднак не пакінула. Значыць, любіць. Не, ён не мае ніякага права адштурхнуць яе ад сябе. Як ніякая другая жанчына, хінецца да Андрушкевіча гэтая трохі дзівакаватая настаўніца. Ідзе на самыя цяжкія ахвяры. Калі ён пакіне яе, усё жыццё не будзе сябе паважаць. Над ім, як пракляцце, будзе вісець ягоны ганебны ўчынак, вечна нараджаючы згрызоты, дакоры сумлення.

Відаць, з-за Тамары лёгка развітваецца Андрушкевіч з дзяўчатамі, з якімі ў яго час ад часу завязваюцца знаёмствы. Хоць некаторыя прыгажэйшыя, зграбнейшыя, чым Тамара. Але знешняя прыгажосць яшчэ не ўсё. Няма ў знаёмых дзяўчат безразважлівай адчайнасці, самаахвярнасці, з якой хінецца да Андрушкевіча Тамара. Для яе ён нібы адзіны мужчына на свеце.

Тамара Іосіфаўна не проста з'явілася ў Мінск. Прыехала на курсы павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. На паўгода. Андрушкевіч адчувае: за гэтыя паўгода мусіць вырашыцца яго і Тамарын лёс.

Гэта па-свойму добры, нават выдатны час. Тамару Іосіфаўну ніхто не ведае, і яна шчыра клапоціцца пра Андруш-

кевіча. Часта завітвае ў інтэрнат, нават прыносіць што-небудзь з харчу. Яна хутка знаходзіць агульную мову з Гапейчыкам, Жалудовічам, і яны яе прымаюць як сваю. Яна нешматслоўная, зацятая, тым не меней кідае ім папрокі за мужчынскую неахайнасць, непрыстасаванасць да жыцця, і аспіранты на яе ніколькі не крыўдуюць.

У пачатку лета Андрушкевіч абараняе дысертацыю. Разам з ім абараняецца выкладчык гісторыі з désінстытута, пажылога веку, худы, высокі чалавек са спакутаваным маршчыністым тварам. У вайну ён быў камісарам партызанскай брыгады. Да той хвіліны, пакуль не зачытваюць пратакол тайнага галасавання, страшэнна хвалюецца партызанскі камісар, гэтак жа, як ягоная жонка, непрыкметная, выпетраная кабецінка, можа, нават трохі старэйшая за мужа.

Як пазней дазнаецца Андрушкевіч, у камісара ёсць ворагі, якія рабілі пад яго бясконцыя падкопы: пісалі ананімкі, зневажалі, пагражалі. На адкрытай абароне дысертацыі, аднак, вытыркнуцца не асмеліліся.

Камісар і яго жонка радуюцца. Дысертацыя абаронена, і гэта нешта ды значыць. У роўнай меры з Андрушкевічам яны плацяць за банкет, хоць гасцей з іх боку толькі два-тры чалавекі.

Да Андрушкевіча тым часам прывальвае ўся аспіранцкая грамада — чалавек дваццаць. Банкетаванне ідзе ў рэстаране «Беларусь». Аспіранты, не дужа сытыя і ўкормленыя, актыўна прамаўляюць тосты, дружна п’юць, з вялікім апетытам закусваючы далікатнымі рэстараннымі стравамі. Таму праз якія-небудзь паўгадзіны банкет пачынае выдыхацца: грамада прагне далейшага балявання, тым часам на сталах ні трункаў няма, ні закусак.

Выручае Тамара Іосіфаўна. Мае трохі грошай, умее размаўляць з рэстаранным начальствам, афіцыянткамі. Не паспелі перакурыць, як на сталах з’яўляецца новая закуска, выпіўка. На гэты раз больш простая, даступная, чым тая, якую заказвалі Андрушкевіч з камісарам. Але небагатым аспірантам, здаецца, яшчэ лацвей піць замест каньяку гарэлку, закусваць сялёдкай, таннай каўбасой, вінегрэтам.

Банкет працягваецца да поўначы.

У тое памятнае лета Андрушкевіч ідзе ў загс і запісваецца з Тамарай Іосіфаўнай. Яны едуць у Клінск, у Вярэмічы, забіраюць Тамарыны рэчы. У Мінску наймаюць пакойчык у старым драўляным дамку, што стаіць у тупіковым, наўсцяж засаджаным ліпамі і клёнамі завулку. Завулак спускаецца да Свіслачы. Адразу за агародамі цячэ ў гэтым месцы Свіслач, прыбярэжнае мелкаводдзе якой густа зарасло асакой і аерам.

Прыгожы, амаль сельскі пейзаж. Але праз раку праглядвае індустрыя: на процілеглым беразе размешчана ЦЭЦ. Тры ці чатыры высозныя трубы электрастанцыі круглыя суткі чухкаюць чорна-шэрым дымам, і пах вугальнага гару заўсёды адчуваецца на двары і нават у пакоіку Андрушкевічаў. Але ні ён, ні Тамара Іосіфаўна на такую дробязь не звяртаюць увагі.

Гаспадар дамка, высокі, трохі прысохлы, гаворкай, вопраткай, саламяным капелюшом — завуць яго Іван Лук'янавіч Шаўчук — падобны на звычайнага вясковага дзядзьку. Але ніякі не вясковец Іван Лук'янавіч: нарадзіўся, пражыў жыццё ў Мінску. І не абы-якое жыццё! У дваццатыя — пачатку трыццатых гадоў быў Шаўчук артыстам першага ў горадзе прафесійнага тэатра, які цяпер носіць імя Янкі Купалы. Іграў розныя, часам нават значныя ролі. Пастарэўшы, Іван Лук'янавіч ствараў аматарскія гурткі на заводах, фабрыках.

Цяпер ён на пенсіі. Трымае яго на свеце акрамя не дужа вялікай пенсіі прасторны, ледзь не паўгектара, агарод ды яшчэ кватаранты, якіх заўсёды пускае Іван Лук'янавіч у свой стараваты дамок.

Андрушкевічу, можна лічыць, шанцуе. Пасяліўся ў цікавага чалавека. Гэта нібы шчаслівы знак лёсу. Марудна, пакутліва прывыкае ён да горада. Мала грэюць душу каменныя муры, стамляе мітусяніна, шум на вуліцах.

Здараецца: насядзеўшыся ў бібліятэцы, начытаўшыся, узрушыўшыся, ён доўга не можа заснуць. Ён ведае, як супакоіцца. Трэба перанесціся думкамі ў родныя мясціны. Выкліканыя ва ўяўленні града сасонніку, што ледзь не ўшчыльную падступае да іхняга дома ў Клінску, зарослыя рэдкай шорсткай травой пясчаныя пагоркі, касагоры, на схілах якіх точаць свае норы лісы і барсукі, лясныя сцежкі, пошум хвой як бы прыносяць супакаенне.

Дом Івана Лук'янавіча, як і ўвесь надсвіслацкі завулак, нагадвае Андрушкевічу знаёмыя, блізкія сэрцу мясціны ў Клінску, Вярэмічах, надпрыпяцкім горадзе. У такіх мясцінах рабочы чалавек, які раней найчасцей паўставаў у вобліку рамесніка, жыве ў цесным яднанні з прыродай: стукае малатком, поркае шылам распоўзлы бот і ў той жа час есць бульбу, агуркі, памідоры з уласнага агарода, яблыкі з саду, які акружае ягоную сядзібу, а часам такі гараджанін яшчэ і карову трымае.

Пазней да Андрушкевіча прыходзіць думка: гэта — культура. Сталая культура беларускіх мястэчак, невялікіх гарадкоў, якая складвалася стагоддзямі, мае свой воблік, асаблівасці, традыцыі. Не адзін ён так думае, бо час ад часу з'яўляюцца кнігі, у якіх шмат прыкладаў драўлянага дойлідства, знаёмага з дзяцінства, апісанні рамёстваў, прылад працы, што нарадзіліся на гэтай лясной, балотнай зямлі.

Даспадобы Андрушкевічу завулак, у якім стаіць дамок Івана Лук'янавіча, старасвецкія ліпы, разгалістыя старыя клёны, бярозы, якія яго атуляюць. У рачной затоцы, на мелкаводдзі зелянее грыўка асакі, а чуць далей зараснікі трысьнягу, чароту, які нават тут, у горадзе, выпускае свае чорныя, як бы туга набітыя пухам галоўкі-каты.

Іван Лук'янавіч чалавек абыходлівы і далікатны. Слова крыўднага не скажа. Аднак мае хіб Іван Лук'янавіч. І хіб немалы.

Толькі цяпер Андрушкевіч пачынае заўважаць, што на таўставатым, трохі адвіслым носе Івана Лук'янавіча праглядвае мноства дробных, ледзь прыкметных жылак, якія надаюць яму сінявата-пунсовае адценне. Бо разы тры на дзень зазірае гэты нос у гранёную двухсотграмовую шклянку і ад усталяванага звычаю не адступае.

У нізкі драўляны дамок, у якім кватаруе Андрушкевіч, найчасцей завітвае Клебановіч. Рослы, рухавы, дасціпны, ён яўна падабаецца Тамары Іосіфаўне. Клебановіч яшчэ болей вырастае ў яе вачах пасля таго, як жэніцца са звычайнай, не вельмі кідкай студэнткай, з якой і знаёмы быў толькі паўгода. У Тамарыным настроі Андрушкевіч адчувае дакор сабе. Вось, маўляў, як робяць людзі. Не тое што ты. Чатыры гады валаводзіўся. Столькі крыві мне і сабе папсаваў...

Клебановіч у драўляным дамку не затрымліваецца. Іван Лук'янавіч, яго бясконцыя апавяданні пра першых беларускіх артыстаў, пра тэатр цяпер далёкіх ужо дваццатых і трыццатых гадоў яго не надта цікавяць.

Пасля дваццатага з'езда партыі прыкметна ажыўляецца дзейнасць навуковых часопісаў. Клебановіч выпісвае некалькі іх — «Вопросы истории», «Вопросы философии», «Советская этнография», і, знайшоўшы цікавы артыкул, прыносіць нумар часопіса Андрушкевічу. Артыкулы найчасцей датычаць скажэння гістарычнай праўды ў час панавання культу асобы. Клебановіч як бы адчувае сябе барацьбітом за тое, каб праўда аднавілася як найхутчэй, у найбольш поўным, усебаковым памеры. Андрушкевіч калегу падтрымлівае, хоць сам, вядома, далёка не такі, як ён, актыўны.

Ні дня без старонкі! Ніжэй гэтага мінімуму Андрушкевіч не спускаецца. Абараніўшы кандыдацкую дысертацыю пра аднаўленне народнай гаспадаркі рэспублікі, ён адразу бярэцца за новую тэму — «Бітва за Беларусь», якая, магчыма, стане доктарскай дысертацыяй. Ён, як кажуць, адчувае тэму душой: прайшоў па беларускай зямлі ад Дняпра да Буга, пры вызваленні Брэста быў паранены. Трэці раз за вайну.

Вядома, далёка не кожны дзень Андрушкевіч піша па старонцы. Бываюць тыдні, нават месяцы, калі рукапіс ляжыць у шуфлядзе стала без ніякага руху. Бо Андрушкевіч — выкладчык, а лекцыі — палон. Кожная лекцыя — двухгадзінны спектакль з адным артыстам, якім з'яўляецца сам выкладчык.

Прафесар ці дацэнт не толькі знаёміць студэнтаў з невядомымі для іх фактамі, падзеямі, выкладае, так сказаць, матэрыял, ён яшчэ прымушае іх жыць на лекцыі: думаць, рабіць параўнанні, успрымаць словы выкладчыка зацікаўлена ці раўнадушна, абыякава.

Таму выкладчык трошачкі акцёр. Ён павінен адчуваць аўдыторыю, умець чытаць па тварах, падабаецца яго лекцыя ці не, цікава студэнтам слухаць ці нецікава. Дзеля разрадкі выкладчык павінен умець у патрэбны момант пажартаваць, пусціць вострае, крылатае слоўца. Каб студэнты засмяяліся, павесялелі. Карацей, выкладчык жыве, іграе сваю ролю на лекцыі, хоць, вядома, не зусім так, як артыст у тэатры.

Лекцыі таму яшчэ палон, што на тыдзень іх выпадае тры, нават чатыры, і, прачытаўшы адну, назаўтра пачынаеш думаць пра другую. І баішся кожнай новай. Бо стаіш пры мнагалюддзі, на цябе глядзіць паўсотня ці нават сотня дапытлівых, часам нават крытычных маладых вачэй, твараў, галоў, якія кожнае тваё слова ўзважваюць. Не дай бог сарвацца, сказаць не тое, што трэба. Слова — не верабей, выпусціш — не зловіш...

Моцна трымаюць прафесараў, дацэнтаў, наогул усіх выкладчыкаў у полі сілавога прыцягнення іх непрачытаныя, але ўжо пазначаныя ў індывідуальным плане лекцыі. З тыдняў складаюцца месяцы, з месяцаў гады. Пад Новы год, пад першую заліковую сесію, яшчэ болей пад лета, пад студэнцкія канікулы, большасць выкладчыкаў выдыхаюцца дашчэнту. Ледзь ногі цягаюць па зямлі. Так стамляе выкладанне.

Выкладчыкі гістарычнага факультэта шукаюць разрадку. У Дзень Канстытуцыі — пятага снежня — наладжваюць складчыну. На трэцім паверсе фабрыкі-кухні ёсць невялікі ізаляваны зальчык, у якім яны заўсёды збіраюцца.

Добра ў тым зальчыку. Можна выпіць па кілішку, пагаварыць, нават парагатаць з дасціпных жартаў, якія выкладчыкі нібы спецыяльна прызапашваюць дзеля гэтага вясёлага дня.

Фабрыка-кухня атулена скверам. Дрэвы дасягаюць галінамі трэцяга паверха. У цёмных, голых вершалінах дрэў шуміць вецер. Панылая аднастайная песня ветру будзе цягнуцца праз усю зіму. І, збіраючыся ў Дзень Канстытуцыі, на пачатку зімы, выкладчыкі нібы набіраюць у запас бадзёрасці, радасці, прыемных уражанняў.

Прыходзіць на вечар з уласным акардэонам хімік Вася Сямацкі, жонка якога працуе на гістфаку лабаранткай. Сярэдняга росту, круглатвары, моцна складзены, Вася славуты ва ўніверсітэце тым, што быў на вайне лётчыкам, збіў некалькі нямецкіх самалётаў, а сам лятаў на самалёце, набытым за ўласныя грошы.

Так, так, за ўласныя. І ў вайну любіў Вася музыку, меў акардэон, чараваў сваімі мелодыямі вольнанаёмных дзяўчат, што служылі ў лётным гарадку. Тым часам калі паўстала пытанне аб матэрыяльнай дапамозе ваенна-паветраным сілам,

Вася не вагаўся ні хвіліны. Прадаў акардэон, зняў з ашчаднай кніжкі грошы, якія набеглі за тры гады камандзірскай службы, і купіў самалёт.

Справа не выдуманая ні на кроплю, бо ёсць у Васі дакумент, які пацвярджае сказанае: падзяка самога Сталіна. З надрукаваных на звычайнай машынцы некалькіх радкоў Вася фатаграфічным спосабам зняў копію і ахвотна яе ўсім паказвае. Дакумент сапраўдны. Подпіс Сталіна не падробіш.

Даўно спісан у запас ардэнаносны лётчык Сямацкі. Але вернасць паветраным сілам захоўвае. Носіць цывільнае паліто, касцюм, чаравікі, а лётчыцкую шапку з сінімі кантамі і вялікім залатым крабам не мяняе. Ходзіць у ёй зімой і летам.

Сямацкі на хімічным факультэце працуе намеснікам дэкана. Шмат прыгожых лабарантак, асістэнтак ёсць на гістарычным факультэце, і Вася любіць паіграць ім на акардэоне, як некалі іграў вольнанаёмным ваенным дзяўчатам, а калі надараецца магчымасць, то і патанцаваць з імі, нават затуліцца ў цемнаватым кутку.

Жонка Васіна, чорненькая, худзенькая, маўклівая, мужа не раўнуе. Сядзіць, з кім-небудзь размаўляе, закаханымі вачамі глядзіць на свайго абранніка, ад якога мае трое ці нават чацвёра дзяцей.

Ёсць яшчэ адзін цікавы чалавек, які прыходзіць да гісторыкаў на іх вечарынкі: прафесар Гопчанка з філалагічнага факультэта. Ягоная жонка, маўклівая, бялявая, кругленькая, працуе на гістфаку асістэнткай, так што Гопчанка, як і Вася Сямацкі, свае людзі сярод гісторыкаў.

Калі хто-небудзь хоць раз пабачыць прафесара Гопчанку, то, сустрэўшы на вуліцы або ў якім-небудзь другім месцы, абавязкова пазнае. Нельга не пазнаць чалавека, якому прырода, калі гаварыць пра ягонае аблічча, маштабы фігуры, аж залішне выдаткавала матэрыялу. Галава ў Гопчанкі, якая завяршаецца пышнай чорнай шавялюрай, разы ў два большая, чым у звычайных людзей, шырокія, як лава, плечы, разлеглы, як балея, у якіх жанчыны купаюць малых дзяцей, жывот. І твар у прафесара шырокі, нібы засланка, і на твары ўсё буйно́е: вялізны, падобны на конскі капыт нос, махнатыя, нібы шчоткі, бровы, па яблыку вочы.

Клебановіч, найвастрэйшы на факультэце зух, у час банкетаў нязменна нашэптвае знаёмым на вуха, што, каб пасерабрыць Гопчанку бровы, знайсці адпаведную шубу, валёнкі, падабраць на галаву патрэбны каўпак, мог бы атрымацца Дзед Мароз рэспубліканскага маштабу.

Але жарты жартамі, а Гопчанка — чалавек неблагі. Валодае роўным, добразычлівым характарам, ні на кога не накрычыць, не зняважыць. Працаваць з ім лёгка і добра.

На вечарынках Гопчанка добра есць, п’е. Тут Клебановіч з яго вострым язычком, бадай, мае рацыю: на тры квадратныя метры ўлева і ўправа ад таго месца, дзе сядзіць, стол паважаны прафесар спустошвае начыста. Не пакідае ні трункаў, ні закусак. Не зважае нават на тое, што з яго па гэтай прычыне адкрыта пакепліваюць суседзі.

Мінае год, другі...

Па-свойму нават утульна абсталёўвае Тамара Іосіфаўна іхнюю малую кватэрку. Сёе-тое набываюць яны з рэчаў. У іх ліку масіўная дубовая шафа, выробленая дрэваапрацоўчай арцеллю ў малавядомым заштатным гарадку. Шафу прывозяць на грузавіку і, паздымаўшы з петляў дзверы, з вялікай цяжкасцю ўсталёўваюць у пакоі. Увесь пажытак маладой сям’і лёгка змяшчаецца ў чэраве агромністай шафы, і яшчэ месца застаецца.

Андрушкевіч купляе ў дзень нараджэння Тамары Іосіфаўны — ён прыпадае на сярэдзіну верасня — радыёпрыёмнік «Беларусь»: ніштаватая па памерах, цяжкая па вазе, прыгожая на выгляд каробка, аздобленая пад колер арэхавага дрэва, займае адпаведнае месца — у кутку між ложкам і сталом. Тым часам у пакоіку застаецца толькі вузкая палоска вольнай тэрыторыі — абы прайсці.

Ноччу, калі Тамара Іосіфаўна, адвярнуўшыся да сцяны, спіць, Андрушкевіч садзіцца за стол. Іншага часу для пісання ў яго няма. Ён піша, курыць, і хутка пакойчык, нягледзячы на адчыненую фортку, напаўняецца дымам. Тамара Іосіфаўна прачынаецца, не надта падбіраючы словы, выгаворвае мужу. Ён спахопліваецца: вінаваты! Адчыняе дзверы ў калідорчык, затым уваходныя дзверы: няхай выходзіць дым...

Шчаслівы, блаславёны час! Андрушкевіч ходзіць у бібліятэку, чытае лекцыі, вядзе семінары, стомлены, вяртаючыся дадому, у зялёны тупіковы завулак, знаходзіць спакой, утульнасць. Жонка з усіх сіл стараецца яму дагадзіць, падняць настрой. Ён ведае, колькі гэта ёй каштуе, бо сама штодня ходзіць у Інстытут удасканалення настаўнікаў, куды ўладкавалася пасля курсаў на сталую работу, піша розныя планы, праграмы. Андрушкевіч бачыць: жонка сябе не шкадуе. Разам адпадаюць усе ранейшыя неспакойныя думкі, згрызоты, падазрэнні наконт Клязьбіча. Ён лічыць: знайшоў сямейнае шчасце...

Шчасце мусіць умацавацца: жонка чакае дзіцё. Трэба шукаць новую кватэру. Бо Іван Лук'янавіч, падпіўшы, пачынае спяваць нават ноччу. На малым падпітку напаўголасу мармыча народныя песні, узяўшы гарэлкі звыш меры, успомніўшы, што быў артыстам, прэтэндуе на оперныя партыі. Дзярэ казліным голасам, часта ўночы, аж сцены разлягаюцца. Проста нельга ўявіць, што іх дзіцё будзе слухаць гэтыя п'яныя канцэрты...

Шчасце зноў усміхаецца маладой сям'і. Андрушкевіч ведае ад маці, што ў Мінску жыве стрыечная сястра бацькі, цётка Мальвіна, якая даўно, задоўга да вайны, выйшла замуж за вучонага аграгнома і пераехала з Клінска ў Мінск. Цяпер гэтая незнаёмая цётка працягвае руку дапамогі. Дамок у яе горшы, чым у Івана Лук'янавіча, і на работу з вуліцы Лугавой, на якой ён стаіць, не так зручна дабірацца. Але ўсё-такі гэта жытло, тым болей, што цётка Мальвіна згодна саступіць малазнаёмаму пляменніку адразу два пакойчыкі.

Галоўнае — цётчын дом таксама стаіць ля Свіслачы, толькі трохі ніжэй па цячэнні.

Цётка Мальвіна — жанчына адметная. Мае болей як семдзесят гадоў, але не страціла цікавасці да жыцця, рухавасці. На бацьку мала падобна. Тым часам характарам яны блізкія. Чым далей жыве Андрушкевіч, тым болей пераконваецца, што ёсць у чалавечай прыродзе тое, што называюць пародай і што неабавязкова перадаецца дачцэ ад маці і сыну ад бацькі.

Два пакойчыкі, у якіх жыве Андрушкевіч з жонкай, выходзяць вокнамі на зялёныя агароды, што пахіла спускаюцца

да зарослай па берагах лазняком, крушыннікам Свіслачы. За рэчкай — лугавіна, на якой пасвяцца каровы, узаранае калгаснае поле. Часта выбаўляе Андрушкевіча гэты сельскі краявід ад згрызотлівых думак, неспакою, стомленасці. У пакоіках цёткі Мальвіны столь нізкаватая, і дубовую шафу, якую набыла маладая сям'я, паставіць немагчыма. Удзячныя кватаранты саступаюць яе Івану Лук'янавічу амаль задарма.

Андрушкевіч пабагацеў: у новай кватэры яны з Тамарай Іосіфаўнай ставяць прасторны гарнітур, стол, некалькі крэслаў. Галоўнае: жонка набывае для мужа мяккую, са спінкай канапку — якраз такую ён меў у Клінску, у бацькавым доме,— на якой не толькі сядзець прыемна, але можна прылегчы, пачытаць, адклаўшы кнігу ўбок, падумаць.

З акна пакойчыка, які Андрушкевіч абсталяваў пад кабінет (у ім стол, радыёпрыёмнік, канапка, этажэрка з кнігамі), адкрываецца від на зарэчныя далі. Там высяцца цэментовыя слупы-трохкутнікі электраперадач, паўстаюць нейкія муры, будыніны, але і сельскае яшчэ засталося: зараснікі трыснягу ля ракі, грыўка лесу, каровы, коні на бліжняй лугавіне.

Вузкаватая, замошчаная каменем толькі ў сваім пачатку вуліца Лугавая наўсцяж застаўлена драўлянымі, крытымі шыферам ці бляхай дамкамі. Некаторыя з іх збудаваны на дзве палавіны, маюць асобныя ўваходныя дзверы і ганкі. У дамках па пяць, нават па шэсць акон, аздобленыя разьбой ліштвы, пафарбаваныя ў белы або жоўта-руды колер аканіцы.

Летам тоне вуліца ў зяляніне садоў. Адным канцом яна ўпіраецца ў людны, гаманлівы тракт, другім выходзіць да вадаспада: у гэтым месцы Свіслач перагароджана плацінай і як бы ўтварае невялікае возера. Імчаць па тракце грузавікі, іншыя машыны. Ноччу, калі вулічны шум сціхае, чутно, як па рэйках грымяць цягнікі: паралельна з трактам пралягае чыгунка на Маскву. У дворык цёткі Мальвіны гул даносіцца прыцішаны, прыглушаны. Ён нават прыемны для слыху, бо не замінае слухаць ціліўканне вераб'ёў, буркаванне галубоў, якіх у горадзе становіцца ўсё болей.

Лугавая вуліца як бы нагадвае Клінск і Андрушкевічу надзвычай падабаецца. Ён быў бы не супраць атрымаць кватэру дзе-небудзь у гэтым раёне ці нават займець ва ўласнасць

драўляны дамок, якімі яна застаўлена. Тым часам ні тое, ні другое яму пакуль не свеціць. Выкладчыкам кватэры даюць рэдка, а дамок каштуе столькі, што нават кандыдату навук трэба не піць і не есці гадоў дзесяць, адно толькі збіраць, складваць у панчоху грошы.

Калі Андрушкевіч быў аспірантам, адзін з адбудаваных на галоўным праспекце горада прыгожых чатырохпавярховых дамоў засялялі вучонымі, пісьменнікамі, другімі выдатнымі асобамі. Там атрымалі кватэры кандыдат навук Вастрабрамскі, дацэнт Мігай, яшчэ два ці тры ўніверсітэцкія прафесары і дацэнты. Тое было даўно, цяпер універсітэт будуе ўласны дом пад кватэры выкладчыкаў, але канца гэтаму будаўніцтву не відаць.

Вось і сына мае Андрушкевіч.

Лёня шустры, буйнацелы і амаль не плача. Добра, што жонка працуе ў інстытуце метадыстам. На яе абавязку арганізоўваць сустрэчы настаўнікаў з рознымі выдатнымі асобамі, і яна можа часта адлучацца. Невядома, як бы яны даглядалі Лёню, каб Тамара Іосіфаўна не ўладкавалася ў гэты інстытут.

У Андрушкевіча тры-чатыры лекцыі на тыдзень. Днём ён звязан па руках і нагах. Вечарам, аднак, становіцца нянькай. Тамара Іосіфаўна вечарамі мусіць прысутнічаць на мерапрыемствах, якія арганізоўвае для настаўнікаў.

На цётку Мальвіну надзея слабая. Жыве немаладая, але ўсё яшчэ рухавая, моцная здароўем цётка сваім жыццём, і да пляменніка няма ёй ніякай справы.

Папівае цётка. Нават моцна. Ледзь не кожны дзень купляе паўлітру, ставіць на стол нагрэты самавар і пачынае банкетаванне. Іншы раз да яе завітваюць суседзі — адстаўны палкоўнік, каржакаваты, лысы мужчына з вялікім, нібы дуля, носам на азызлым твары, і гэткая ж нізкая, непрывабная з выгляду ягоная жонка.

Палкоўнік займае другую палавіну дамка з асобным уваходам, ганкам, якую ў свой час адкупіў у цёткі. Ён, відаць, разлічвае стаць поўным гаспадаром дамка, бо калі цётка на дзень ці два перапыняе бясконцы банкет, не купляе пітва, сам з'яўляецца з бутэлькай.

Цётка немаладая, і, падпойваючы яе, палкоўнік, відаць, песціць надзею, што хутка завалодае дамком, прылеглым да яго садам, агародам. Толькі моцна ён памыляецца. Цётка жылістая. Двух такіх палкоўнікаў перажыве. Вып’е бутэльку пітва, некалькі шклянак моцнага чаю — і хмелю ні ў адным воку. Яна амаль нічога не есць, трымаецца на адной гарбаце, але ўсё яшчэ шпарка ходзіць, робіць усё па гаспадарцы.

Іван Лук’янавіч, выпіўшы, спяваў, расказваў бясконцыя гісторыі пра сваю службу ў тэатры, часам, наракаючы на няўдзячны лёс, плакаў. Цётка Мальвіна не спявае, не плача, у яе заўсёды роўны, вясёла-насмешлівы настрой. Яе худое, нашчэнт выпетранае цела, цемнаваты, спаласаваны баразнамі маршчын твар, шэрыя слязлівыя вочы, здаецца, настолькі прасякліся спірытусам, што ніякі тлен ім не пагражае, нават у тым выпадку, калі яна памрэ.

Нягледзячы на цягу да пітва, цётка — гаспадарлівая. У сваім такім паважаным узросце не скардзіцца на здароўе. Не страціла цікавасці да вялікіх і малых падзей. Выпісвае газету «Труд», увесь дзень слухае радыё, выключаючы яго толькі нанач. Трымае вепрука, дзясяткі два курэй, нават карову.

Вось так — карова ў сталічным Мінску! Жывучы каля самага лесу, у раённым гарадку, пасля смерці бацькі Андрушкевічава маці і сястра карову прадалі. Няма як накасіць сена. Цётка Мальвіна сена накашвае. Праўдзівей, нажынае. З раніцы бярэ мяшок, серп, ідзе да рэчкі. Па берагах у мелкаводных затоках зжынае асаку, аер, розныя вадзяныя дудкі. Прыносіць траву ў дворык, сушыць на сонцы. Кожны дзень — тры мяхі.

У адзін пакоік сваёй чатырохпакаёвай палавіны дома цётка Мальвіна пускае халастых кватарантаў — хлопца ці дзяўчыну. Плату за кватэру з іх не бярэ. За гэта кватаранты пасабляюць цётцы ў садзе і агародзе. Сад у цёткі Мальвіны вялікі і багаты. Адстаўны палкоўнік не мае на яго ніякага права, бо сад пасадзіў муж Мальвіны, вучоны аграном, які ў час службовай камандзіроўкі выгледзеў цётку ў Клінску і прывёз у Мінск.

На пакатым схіле пасаджаны пад шнур яблыні, грушы, слівы, вішні, па мяжы — кусты агрэсту, парэчак, маліны. Аграном разумеў у сваёй справе: сад вырас выдатны.

З аднаго такога саду можна жыць. Цётка і жыве. Мае знаёмства з базарам, прадае садавіну, ягады. Кватарантаў таксама не крыўдзіць. Яблык, ігруш ешце колькі хочаце.

Тамара кожную вольную гадзіну памагае цётцы. Жыве з ёй душа ў душу. Часам і Андрушкевіч прыпрагаецца да гаспадаркі. Пілуе з кірпаносым кватарантам, які працуе недзе на заводзе, дровы, цягае ў падвал брыкет, абразае сухое суччa на дрэвах.

На яго штодзённым абавязку таксама нанасіць у запас вады. Калонка на вуліцы, метраў за дзвесце ад дамка, і сваю работу Андрушкевіч выконвае нават з прыемнасцю. Трэба прынесці самае меншае дзесяць вёдзер. Пяць разоў, несучы ў кожнай руцэ па вядры, шпацыруе Андрушкевіч ад калонкі да двара, і гэта найлепшая з раніцы зарадка.

У іх з Тамарай ёсць Лёня, іх хлопчык, які нарадзіўся, пражыў год жыцця ў зялёным цётчыным двары. Тамара бясконца корміць, мые, пястуе Лёню, і ён шпацыруе па ўсёй кватэры, заглядваючы ў самыя яе патаемныя закуткі. З васьмі месяцаў Лёня пачынае хадзіць, з дзевяці — гаварыць розныя словы, выкручваючы іх на свой манер, праяўляе пільную ўвагу да ўсіх вакольных прадметаў, да якіх можа дакрануцца ці пакаштаваць на смак.

Іншы раз вечарам Тамара ідзе на мерапрыемствы, якія арганізоўвае для настаўнікаў, і сын пад бацькавым доглядам. Андрушкевіч кладзецца на канапу, садзіць Лёню на жывот і як можа забаўляе яго гадзіну ці дзве, пакуль не пакладзе спаць. За гэты час прыходзіцца змяніць адну ці дзве падмочаныя Лёнем сарочкі. Калі сын спіць, бацька чытае ці рыхтуецца да лекцыі.

Жыццё ідзе заведзеным парадкам. Два катушкі-пакоікі Тамара зрабіла ўтульным сямейным гняздом. Адно дрэнна: ад работы далёка. Дый дарагаватая кватэрка. Але і цётцы Мальвіне таксама жыць трэба. Тым болей, што яна любіць павесяліцца.

Клебановіч часта завітвае і на Лугавую вуліцу. Ён таксама жанаты, хоць крок гэты, здаецца, для яго самога нечаканы. Сябраваў Клебановіч з даволі непрыкметнай, нічым не выдатнай студэнткай, і раптам яна апынулася ў далікатным

становішчы. Клебановіч як чалавек высакародны як толькі пра гэта даведаўся, пайшоў у загс і распісаўся са студэнткай.

Андрушкевіч з Клебановічам не маюць рознагалоссяў у асуджэнні культу асобы. Можна сказаць, і сышліся на грунце адмаўлення таго, чаму былі сведкамі, з чым унутрана не згаджаліся, не знаходзілі вытлумачэння.

Клебановіч ад узбуджэння аж гарыць. У горад вярнулася многа людзей, якія ў свой час былі несправядліва асуджаны, а цяпер рэабілітаваны. Калега пазнаёміўся з сім-тым з рэабілітаваных, прыйшоўшы да Андрушкевіча, часта пераказвае гісторыі, пачутыя ад іх. Знаёмых у Клебановіча шмат: сёння да аднаго ідзе, заўтра да другога. Чымсьці нагадвае ён нястомную пчалу, якая збірае мёд з самых розных кветак, не грэбуючы нават тымі, якія дрэнна пахнуць.

Абараніўшы кандыдацкую дысертацыю, Андрушкевіч піша кнігу пра вызваленне Беларусі ад фашыстаў. Стараецца расці як навуковец. Чытае лекцыі па савецкім перыядзе гісторыі, пра грамадзянскую вайну, нэп, пяцігодкі, Айчынную вайну, а таксама спецкурс пра раннія плямёны ўсходніх славян. Зрэдку ён друкуе артыкулы, перарабляючы, прыстасоўваючы дзеля іх адпаведныя старонкі і раздзелы сваёй кандыдацкай дысертацыі.

Зімой ён заняты толькі кнігамі і лекцыямі. Летам ходзіць на стадыён, на футбольныя матчы, «хварэе» за мінскую футбольную каманду, нават выразкі з газет робіць пра яе гульні на сваім стадыёне і ў розных другіх гарадах.

Тамара ва ўсім яму патурае. Бытавы клопат бярэ на сябе.

Другія выкладчыкі жывуць гэтак жа. Старых гісторыкаў засталося мала: акадэмік Нікольскі, прафесар Герцаў. Нікольскі ўжо вельмі стары, а Герцаў найбольш заняты ў акадэміі: кіруе там аддзяленнем грамадскіх навук.

Універсітэт мае даваенных кандыдатаў навук. Такіх, як Гелер, Фрадкіна, Мігай, Зямбіцкі. Дзякуючы ім існуе гістарычны факультэт. Але навуковай школы ўніверсітэцкія дый, здаецца, акадэмічныя гісторыкі не стварылі. Не магла скласціся такая школа, бо не было для гэтага спрыяльных умоў.

Са з’яўленнем Вастрабрамскага, пазней маладзейшых кандыдатаў навук, сярод якіх Клебановіч з Андрушкевічам,

прэстыж факультэта як бы ўзрастае. Усе без выключэння маладыя гісторыкі прайшлі вайну, сёе-тое пабачылі, перажылі, таму даволі крытычна глядзяць на сваіх папярэднікаў.

Асабліва вылучаецца Клебановіч. Выступае ён дзе толькі можа: на вучоных саветах, розных нарадах, канферэнцыях. Талент прамоўцы, палеміста мае Клебановіч выдатны. Няма ад яго ратунку абымшэлым кандыдатам навук, дацэнтам, асабліва тым, якія не толькі нудныя лекцыі чытаюць, а яшчэ спрабуюць друкаваць сваю прадукцыю. Колькі дутых, незаслужана вылучаных аўтарытэтаў спіхнуў у небыццё Клебановіч! Рэцэнзіі, якія ён друкуе ў газетах, часопісах, бязлітасныя. Уражваюць аргументаванасцю, вастрынёй думкі, дасціпнасцю стылю.

Час, звязаны з дваццатым, затым дваццаць другім партыйным з'ездам, прыкметна вылучае Клебановіча. Поспех ягоны сярод астатніх гісторыкаў відавочны і заслужаны. Ні ў каго з іх няма падобнай смеласці, адвагі, рашучасці.

Між тым студэнты лекцыямі Клебановіча не захапляюцца. Крытычнага пафасу, якім ён так добра валодае, відаць, не хапае, каб слухаць яго тры ці чатыры месяцы, пакуль чытае курс. Дый матэрыялам малады выкладчык валодае не вельмі дасканала.

Разумны Клебановіч выйсце знаходзіць: пераходзіць у акадэмічны інстытут. Там лекцыі чытаць не трэба і вольнага часу колькі хочаш.

Пасля дваццатага з'езда адкрываюцца дзверы для розных турысцкіх паездак. Клебановіч ахвотна ездзіць па зарубежных краінах, два ці тры разы яго накіроўваюць у працяглыя камандзіроўкі ў Польшчу, Германскую Дэмакратычную Рэспубліку, іншыя краіны, і ў выніку з'яўляецца яго кніга «Асяродкі смерці», пабудаваная на ўспамінах былых вязняў нямецкіх канцэнтрацыйных лагераў.

Кніга мае агромністы поспех. З невялікімі пераніцоўкамі яна часта перавыдаецца, нават перакладаецца на замежныя мовы. За «Асяродкі смерці» Клебановічу прысвойваецца ступень доктара навук.

Тым часам крытыкі ва ўдачлівага гісторыка паяўляюцца. Артыкулаў, накіраваных супраць ягонай працы, не пішуць —

ніхто не надрукуе такія артыкулы,— але кепікі, жарцікі пускаюць ядавітыя. Маўляў, як у творы славутага Гогаля, нарадзіўся новы Чычыкаў, які зарабляе капітал на мёртвых душах.

Дзіўна: Клебановіч надзвычай помслівы. Сваіх сапраўдных ці ўяўных праціўнікаў бязлітасна карае ў артыкулах, рэцэнзіях, якія часам друкуюць нават маскоўскія газеты і часопісы.

Вось так жывуць яшчэ адносна маладыя вучоныя людзі. Па чужых кватэрах, часам у згодзе, часам у спрэчках. Іншы раз Андрушкевіч з Тамарай завуць да сябе знаёмых, наладжваюць пачастунак. Самі ходзяць у госці. Тамара ўвачавідкі хінецца да Андрушкевіча ў кампаніях. Не крыўдзіцца, калі ён, валодаючы трывалым запасам гумару, жартуе з другімі жанчынамі або гаворыць ім кампліменты. Сама яна смяшыць другіх не ўмее. У кампаніях робіцца яшчэ больш маўклівай, зацятай.

## X

Непатрэбства вынікае на сёмым годзе сумеснага жыцця Андрушкевіча з Тамарай Іосіфаўнай. Па ягонай віне. Ён сам уласнымі рукамі разбурыў сваё шчасце...

Праз два гады пасля сына Тамара Іосіфаўна нарадзіла дачку. Чорненькую, з трохі касаватымі, як у сябе самой, вачамі. Яны яшчэ жывуць у цёткі Мальвіны, у двух адведзеных ім пакойчыках, ледзь не гадзіну трацячы на тое, каб дабрацца да цэнтра горада з ускраіннага зялёнага завулка. Вось-вось мусіць атрымаць Андрушкевіч кватэру, універсітэт заканчвае будаўніцтва шматкватэрнага дома.

Пуцёўку ў санаторый, на паўднёвы бераг Крыма Андрушкевіч купляе за поўны разлік. Дацэнтам як катэгорыі работнікаў з высокім заработкам трыццаціпрацэнтных пуцёвак не даюць. Нават за гэтую, якая не надта танна каштуе, прыйшлося змагацца: чарга на пуцёўкі вялікая.

Першы раз прыязджае ён у Крым, наогул у санаторый, і проста аглушаны ўбачанай раскошай. Пальмы, мора, сонца. Ляжы, купайся, дыхай паветрам, у якім змешваюцца размаітыя пахі гор і мора.

Ужо тады здароўе стала пагаршацца. Па начах ён глуха, адрывіста кашляе, абліваецца потам, адчувае нудны, надаедлівы, які часта паўтараецца, боль у паясніцы. Ён супакойвае сябе думкай аб ранах, атрыманых на вайне. Яму здаецца: яны час ад часу прачынаюцца, нагадваюць пра сябе, нібы заснулыя вулканы. Напрыклад, прабітае куляй правае лёгкае выклікае кашаль. Потым боль у параненых мясцінах заціхае.

Святочнае курортнае жыццё не збівае Андрушкевіча з тропу. Цвярозым розумам, атрыманым ад сваіх сялянскіх продкаў, ён бачыць хісткасць, прывіднасць гэтага жыцця і стараецца не трапіць у ягоны палон.

Ён не дае сабе адпачынку і калі ў які дзень не піша, то абавязкова чытае што-небудзь патрэбнае, прадугледжанае задумамі на будучыню.

Ён прывёз з сабой сваю першую кнігу «Аднаўленне» — фактычна кандыдацкую дысертацыю, з якой пасля адпаведнай перапрацоўкі, дапрацоўкі атрымаўся ладны томік, памерам каля пятнаццаці аркушаў. Ён памятае, з якім душэўным уздымам трымаў у руках сігнальны экзэмпляр «Аднаўлення» ў цвёрдай, з блакітнага ледэрыну вокладцы, які прыемна пах друкарскай фарбай.

Так, ён уклаў душу ў сваё тварэнне. Калі пісаў, нібы бачыў першыя пасляваенныя кароўнікі, цялятнікі, свінарнікі, што выраслі на папялішчах, памятаў, з якой гордасцю старшыні калгасаў паказвалі кожнаму новаму чалавеку гэтыя не надта выдатныя збудаванні. Духам дарагога для душы, памятнага адчування прасякнута яго кніга. Але калегі, якім ён кнігу падараваў, сустрэлі яе стрымана. Клебановіч, які ў свой час гэтак узносіў дысертацыю Андрушкевіча, робіць выгляд, што наогул кнігу не чытаў. Бог з ім, з Клебановічам! Хоць Андрушкевічу крыўдна. Ірвуцца сувязі з чалавекам, з якім ён, бадай, найбольш зблізіўся. За апошнія чатыры-пяць гадоў не было дня, каб яны не сустрэліся, не пагаварылі, не паказалі адзін другому які-небудзь новы цікавы артыкул, прысвечаны нядаўняму мінуламу.

І цяпер яны з Клебановічам глядзяць на культ асобы як на найвялікшае зло. Другая справа, што ў пражытых гадах, на якія нібы падае цень культу, Андрушкевіч знаходзіць

факты, падзеі, поўныя высокага пафасу, нават гераізму. Напісаў «Аднаўленне». Цяпер піша «Бітву за Беларусь». Само сабой зразумела: без адчування значнасці часу, подыху вялікіх, стваральных ідэй такія кнігі не напішаш. Клебановіч працягвае тэму фашысцкіх канцлагераў. Найвялікшая знявага чалавека, забойствы, кроў... Вядома, трэба пра гэта каму-небудзь пісаць. Але ці толькі да крыві, забойстваў, усеагульнага таталітарызму зводзіцца неспакойны і жорсткі дваццаты век?

Школьныя гады Андрушкевіча супалі з першымі пяцігодкамі, калектывізацыяй, індустрыялізацыяй, і ўсё, звязанае з гэтымі вялікімі падзеямі, усё, што пісалася ў газетах, аб чым гаварылі ў школе настаўнікі, ён прымаў у душу. Ён, вядома, бачыў чэргі па хлеб, мануфактуру, іншыя жыццёвыя непаладкі, але лічыў іх з'явамі часовымі і неістотнымі.

Пачынаючы з шостага ці сёмага класа, прыходзячы на ўрок, настаўнікі загадвалі іншы раз заклейваць у падручніках гісторыі, літаратуры партрэты камандзіраў грамадзянскай вайны, вядомых пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў.

Тое, што настаўнікі нічога не тлумачаць, стоена, нават палахліва маўчаць, узрушвае пачуцці, сее ў душы няясную трывогу. Сам для сябе Андрушкевіч вытлумачвае падзеі так: ідзе вострая барацьба, і не выключана, што некаторыя людзі, нават вядомыя заслужаныя асобы трапляюць на памылковы шлях. Арыштавалі ж на станцыі некалькіх машыністаў, кандуктараў, саставіцеляў: амаль усе яны пераехалі з тэрыторыі, што цяпер пад Польшчай. У арыштаваных за мяжой радня, і не выключана, што такім шляхам яны падтрымліваюць сувязь з варожым буржуазным светам, які — гэта вядома ўсім — рыхтуецца да вайны з першай у свеце сацыялістычнай дзяржавай.

Незразумелыя, у пэўнай меры трывожныя перадваенныя падзеі Андрушкевіч апраўдвае. Больш таго, іменна на гэты час прыпадае паласа ягонага душэўнага росквіту, юнацкага сягання думкамі, марамі ў прывабную даль, якая мусіць у хуткім часе адкрыцца. Не сляпы ён, бачыць: год ад года краіна ўздымаецца на новыя вышыні. Вось і хлеба ў крамах колькі хочаш, і цукру, і селядцоў, і час ад часу прыязджаюць у гарадок на пабыўку старэйшыя за Андрушкевіча хлопцы з дыпломамі тэхнікаў, інжынераў, з лейтэнанцкімі кубікамі на пятліцах новенькіх камандзірскіх гімнасцёрак.

З заходняга боку гарадка паміж шасейнай дарогай і чыгункай ляжыць гладкая раўніна калгаснага поля, якое засяваецца жытам, пшаніцай, ячменем. Прыемна глядзець на гэтае поле летам, калі пад лёгкім ветрам угінаецца зялёная лава жыта. Уражанне такое, што гэта не поле, а мора, на якім гуляюць-перакатваюцца няспынныя хвалі.

За полем ваенны аэрадром, адтуль, набіраючы вышыню, раз за разам узлятаюць самалёты з пяціканечнымі чырвонымі зоркамі на крылах. І душа адгукаецца на гэты штодзённы, які стаў звычайнасцю, малюнак звонкімі, вывучанымі на памяць радкамі:

Адважна і пільна ўзлятае высока,
Краіну сваю аглядае штодня,
І цешыцца сэрца, і цешыцца вока,
Якое раздолле, прастор, шырыня!..

Так, гэтыя радкі вельмі добра перадаюць настрой, які валодаў Андрушкевічам у перадваенныя гады. Ахоплены юнацкім парываннем, не скончыўшы дзесяцігодкі, ён падаецца ў лётнае вучылішча і вучыцца там болей чым год. Няхай з інструктарам, але ён бачыў сваё неба, сваю вышыню, з якой зямля здаецца яшчэ больш прыгожай і ўпарадкаванай.

Калі грымнула вайна, такія, як Андрушкевіч, хлопцы не хаваліся, не адседжваліся: на зямлі, на моры, у паветры добраахвотна, самаахвярна лезлі ў самае пекла. Яму не пашанцавала: трапіў у палон. Але і з палону такія, як ён, выбіраліся як толькі маглі. Вярнуўшыся ў захопленыя ворагам гарады, мястэчкі, сёлы, не сядзелі склаўшы рукі. Наладжвалі падполле, устанаўлівалі сувязь з партызанамі, ішлі ў лес.

Колькі яны, клінскія хлопцы і дзяўчаты, зрабілі адчайна-смелых дыверсій, як актыўна, бадай, кожны дзень рызыкуючы жыццём, дапамагалі дыверсантам-разведчыкам, партызанам.

Ён быў у падполлі, у партызанах, затым на фронце. З фронту прынёс два баявыя ордэны. За выдатныя справы, якія яны, партызаны і падпольшчыкі, тварылі ў тыле варожых войск на акупіраванай ворагам зямлі, ніякай узнагароды Андрушкевіч не атрымаў. І не толькі адзін ён — усе клінскія падпольшчыкі нічым не адзначаны.

Вайна не развеяла рамантычнага настрою, які валодаў Андрушкевічам. Хоць штосьці з ружовых уяўленняў пахіснулася, а жыццё стала паўставаць у больш рэальных зямных абрысах, са сваімі светлымі і цёмнымі бакамі. Хто пабачыў адступленні, акружэнні сорак першага года, акупацыю, наўмыснае, запланаванае вынішчэнне фашыстамі палонных, мірнага насельніцтва, выпальванне вёсак з усімі іх жыхарамі, са старымі і малымі, той не можа болей глядзець на свет яснымі, даверлівымі, як у дзяцінстве, вачамі. Пеpажыўшы ў маладыя, юнацкія гады смерць стольніх равеснікаў, Андрушкевіч выразна адчувае, што ў душы нешта абарвалася, закамянела. Душа не страціла здольнасці да жалю, спагады. Тым не меней Андрушкевіч лавіць сябе на адчуванні, што смерць немаладога чалавека, які пажыў на свеце, сёе-тое пабачыў, яго асабліва не ўражвае.

Ён чытаў Рэмарка, Хемінгуэя, іншых заходніх пісьменнікаў, якія добра намалявалі духоўна скалечанае, спустошанае пакаленне Першай сусветнай вайны. Пакаленне, якое, нагледзеўшыся жахаў вайны, бязмэтнага забойства, вынішчэння людзей, перастала верыць у якія-небудзь высокія ідэалы. Равеснікі Андрушкевіча, удзельнікі Другой сусветнай, якая была намнога люцейшая за Першую, вярнуліся з вайны другімі, зусім не падобнымі на герояў Рэмарка.

Іх мала засталося, вайна выкасіла іх рады бязлітасна, але ўцалелыя хлопцы, дзяўчаты Вялікай Айчыннай верылі шчыра, што пасля сканчэння вайны якраз і пачнецца эпоха міру і шчасця...

І вось культ асобы.

Асабіста для Андрушкевіча ўдар вельмі балючы. Можа, таму, што Андрушкевіч высока глядзеў на жыццё, апраўдваў усё. Цяпер, пасля асуджэння культу асобы, як бы перавярнуўся свет і ўсе ранейшыя аб ім уяўленні.

Тое, аб чым гавораць на сходах, пішуць у газетах, ён успрымае, як бы правяраючы на самім сабе, і, можа, па гэтай прычыне доўга, столькі гадоў не можа знайсці пункта апоры, душэўнай раўнавагі.

Агнём гарыць душа Андрушкевіча некалькі гадоў — ад дваццатага да дваццаць другога з’езда,— пакуль выкрываюц-

ца новыя і новыя факты злоўжыванняў у час панавання культу асобы ў жыцці краіны, у асабістых лёсах людзей.

Магчыма, неўтаймаванасць Андрушкевіча вынікае з асабістай крыўды, нанесенай забаронай брашуры аб клінскіх маладагвардзейцах. Хіба не выдатныя справы рабілі ён, яго-ныя таварышы, хіба не рызыкавалі адчайна сваімі маладымі галовамі — і якую, зрэшты, плату атрымалі? Каму гэта выгадна? Хто, што за гэтым стаіць?..

Душэўныя пакуты, якія перанёс Андрушкевіч пасля асуджэння культу асобы, чымсьці нагадваюць настрой, які ім валодаў у гады акупацыі. Тады таксама балела душа няспынным болем і нібы сядзеў у сэрцы загнаны туды халодны жалезны цвік. Цяпер тое самае...

Тым часам лекцыі ён чытае як раней, нічога з іх не выкідваючы, не правячы. Ніякі культ не ў стане зыначыць, адмяніць законы грамадскага развіцця. Розныя асобы па-рознаму ўпісваюцца ў гісторыю, але ствараюць гісторыю не адны яны.

Андрушкевіч гісторык, таму не павінен траціць галаву. Чаго толькі ў гісторыі не было! На жаль, пішацца яна крывёй, пакутамі, вынішчэннем чалавечых жыццяў.

На кнігу «Аднаўленне» перажыванні Андрушкевіча, звязаныя з культам асобы, амаль не паўплывалі. Можа, таму, што дысертацыя, з якой пазней вынікла кніга, пісалася да дваццатага з'езда. Тым часам Андрушкевіч яе дапрацоўваў і перапрацоўваў. Пасля з'езда мог сёе-тое ўнесці, дадаць. Нічога, аднак, не дадаў...

Тое, што вынікла ў крымскім санаторыі, нагадвала нібы спецыяльна наладжаны спектакль са старанна падабранымі акцёрамі. Нават думка ў Андрушкевіча ўзнікае: нехта помсціць яму за яго сумненні, ваганні, а галоўнае — за непрыхаваныя размовы, якія вядзе ён з многімі людзьмі, асуджаючы культ асобы. Ёсць, на жаль, на свеце людзі, якім гэтыя размовы не падабаюцца...

Першая нечаканасць: у санаторыі адпачывае Клязьбіч. Ён мала змяніўся за гады, калі яны з Андрушкевічам не бачыліся: рухавы, энергічны, напорысты. Толькі, можа, трохі больш маршчын з'явілася на выцягнутым цыганаватым твары, а ў

чорных, як смоль, валасах сям-там прабіваюцца празрыстыя ніці сівізны. Клязьбіч пахваляецца: працуе, як раней, дырэктарам школы, нават ордэн атрымаў, мае павагу ў начальства. Тым часам выпівае, пахаджвае з прыемнаю на выгляд жанчынай, маючы ў яе відавочны поспех.

Андрушкевічу лёгка ўявіць, што вось гэтак жа Клязьбіч бавіў час з ягонай Тамарай: мілаваў яе, абдымаў, цалаваў... Нездарма да апошняга часу яна яго ўспамінае. Лютая рэўнасць авалодвае Андрушкевічам. Ён прагне адпомсціць Тамары...

У хуткім часе на пасыпанай жвірам алейцы паяўляецца круглатвары дзюбаносы ўрач-хірург, а з ім дзве маладыя жанчыны: паўнацелая рыжавалосая мадонна і легкакрылы, танклявы, з вытанчаным далікатным тварыкам анёл, якога завуць Зінай. Зіна яўна хінецца да Андрушкевіча. Ён спатыкае яе, куды ні пойдзе. Нібы чыясьці рука загадзя напісала сцэнарый, па якім Андрушкевічу прыходзіцца дзейнічаць.

Ён, аднак, не губляе да канца галаву. Крайнюю мяжу не пераступае. З Зінай пахаджвае, размаўляе, і толькі. Але ў санаторыі ёсць мінчане, і яны бачаць, як універсітэцкі дацэнт, не тоячыся, штодзень выдыбае з чужой жанчынай. Ляціць з санаторыя ліст да Тамары ў Мінск, якая адна на чужой кватэры няньчыць дваіх малых дзяцей...

Андрушкевіч апраўдаўся б перад Тамарай, каб быў няшчыры і ўмеў трохі віхляць. Але нічога гэтага ён не ўмее ды, зважаючы на Клязьбіча, і не хоча рабіць.

Тамара Іосіфаўна рашае, што ён ёй здрадзіў.

Так пачынаецца ў сям'і Андрушкевіча разлад. Тамара зацінаецца, не размаўляе з мужам год ці нават болей. У дадатак да ананімкі, накіраванай Тамары, у адрас парткама прыходзіць ліст з Клінска, у якім Андрушкевіч абвінавачваецца ў непатрыятычных паводзінах падчас акупацыі.

Андрушкевічу паказваюць гэты ліст, і яго ахоплівае нястрымны гнеў. Пад ім стаіць подпіс Ангеліны Барвашчокавай, былой настаўніцы, немаладой дурнаватай кабеціны, якая з-за свайго звяглівага характару не здолела ўжыцца ні ў адной са школ гарадка. Падчас акупацыі яны, падпольшчыкі, нават хацелі знішчыць Барвашчокаву, бо былі факты, што яна даносіць немцам на мясцовых партыйцаў, актывістаў,

ваеннапалонных, якія прыляпіліся да той ці іншай адзінокай жанчыны ў якасці прымакоў. Некалькі чалавек па яе даносах арыштоўвалі, аднаго — гэта пэўна вядома — фашысты расстралялі. І вось гэтая брудная асоба асмельваецца абвінавачваць Андрушкевіча. Хто паклёпніцу прыгрэў, хто стаіць за ёй, водзіць пяром?..

Для праверкі фактаў парткам стварае камісію. Андрушкевіч наадрэз адмаўляецца даваць камісіі якія-небудзь тлумачэнні. Тым часам дзеляць кватэры ва ўніверсітэцкім доме, які нарэшце пабудавалі. Член камісіі гісторык Анучанка — дзяціна нягеглы з выгляду і навуковец вельмі слабы, працуе на адной кафедры з Андрушкевічам — нібы дурань з пісанай торбай носіцца з пісьмом Барвашчокавай. Тыцкае яго дзе трэба і не трэба. Сумнення няма: Анучанка сам хоча атрымаць кватэру. І атрымлівае. Андрушкевічу адмаўляюць...

У Тамары Іосіфаўны, наадварот, у гэты час нібы крыллі вырастаюць. Нібы помсцячы мужу, развівае шалёную энергію, бегае, звоніць і нарэшце атрымлівае кватэру ў сваім інстытуце. Двухпакаёвую. Андрушкевічу мусілі даць тры пакоі...

## XI

Тамара Іосіфаўна нарадзілася ў белым горадзе, які стаіць на беразе Волгі. Горад мае некалькі слабодак, якія цягнуцца ўздоўж вялікай ракі. Слабодка, у якой вырасла Тамара, называецца Татарскай, засаджана садамі, агародамі, бахчамі і як бы ляжыць на дне вялікага яра, па самым нізе якога пятляе маленькая рачулка, якая ўпадае ў Волгу. Адсюль, з яра, Волга здаецца звычайнай. Шырокая паласа вады, і ўсё.

Веліч і прыгажосць Волга набывае, калі Тамара глядзіць на яе завітаўшы ў белы горад або са стромага берага, што навісае над Слабодкай. Цяжка ўзабрацца на бераг. Трэба кіламетр ці болей падымацца ўгору, прадзіраючыся праз густыя зараснікі каліны, маларослага дубняку, арэшніку.

З берага-ўцёса адкрываецца прыгожая карціна на зарэчную стэпавую роўнядзь. Стэп розны ў розную пару года: страката-зялёны вясной, залаціста-жоўты летам, цёмна-шэры восенню і белы, як чысты абрус, якім заслан святочны стол, зімой.

Калі Тамары было гадоў шэсць ці сем, яна, узабраўшыся на ўцёс, убачыла на далёкім левым беразе прыгожага, нібы ў казцы, джыгіта. Увесь у белым, на белым кані, джыгіт, падняўшы над галавой залатую шаблю, імчыць па стэпе. Імчыцца наўзбоч ракі, і Тамара доўга не губляе яго з поля зроку. Яна яшчэ дзіцё, але ў той час і жанчына, і яна думае аб тым, што некалі, калі вырасце, стане дарослай, вось такі джыгіт прыедзе ў іхні двор, працягне ёй руку, пасадзіць на каня і памчыць разам з ёю ў невядомую, прывабную даль...

Многа разоў, нават калі яна падрасла, стала дзяўчынай, жанчынай, ёй сніўся белы джыгіт на белым кані.

Слабодка караскаецца па касагоры нізкімі хацінкамі-мазанкамі, збітымі з аполкаў хлеўчукамі, але Тамара жыве ў прыгожым, драўляным, са шматлікімі вокнамі доме, атуленым яблыневым садам, зарасніка дзікага малінніку. Сад адным бокам выходзіць да рачулкі, што ціха булькае па дне яра. Тамарынаму бацьку належыць палавіна дома — чатыры пакоі. Некалі ўсе восем пакояў дома займаў Тамарын дзед, купец, які гандляваў хлебам, скурамі, меў у дадатак завод па апрацоўцы скур. Дзед збяднеў яшчэ да рэвалюцыі і нават не здолеў адзінаму сыну, Тамарынаму бацьку, даць адукацыю.

Дзеда Тамара не памятае. А вось бабку, маўклівую, чарнатварую татарку, увешаную каралямі, маністамі, са шматлікімі срэбранымі, залатымі пярсцёнкамі на выпетраных тонкіх пальцах, бачыць нібы наяве. Бабка носіць чырвоныя штаны, сядзіць на дыване і вечна курыць выгнутую, нібы гусіная шыя, люльку. Тамара яе баіцца і амаль ніколі не падыходзіць.

Маці, настаўніца пачатковай школы, аднойчы прызналася, што бабчыны продкі вельмі знакамітыя. Нехта з іх дзве ці тры сотні гадоў назад валадарыў над усім прылеглым стэпавым краем. Гэта падабаецца Тамары, думка, што ў яе жылах цячэ асаблівая, ледзь не царская кроў, нараджае высокія сяганні і парыванні. Хоць ад астатніх, не надта багатых сямей Слабодкі Тамарына сям’я нічым не адрозніваецца. Бацька працуе то ў адной, то ў другой канторы, і чым далей, тым ніжэй спускаецца па службовай лесвіцы. Бацька паблажлівы, мяккі, мае вясёлы нораў, дасціпны язык, на высокае паходжанне продкаў не зважае і больш за астатніх дзяцей любіць Тама-

ру. Ад бацькавага нораву, характару Тамара штосьці ўзяла, хоць ні на бацьку, ні на маці знешне не падобна. Падобна, бадай, найбольш на маўклівую, зацятую бабку-татарку. Хоць зноў жа ў адрозненне ад шыракатварай скуластай бабкі твар яе далікатны, вытанчаны, і татарскага на ім — хіба цёмныя, трохі касаватыя вочы ды выразная смуглявасць.

Тамара, як усе дзеці Слабодкі, пасвіць гусей, качак, трохі пасталеўшы — коз. Коз у Слабодцы процьма. Дзякуючы козам, Тамара знаходзіць агульную мову з галасістай, крыклівай талакой равеснікаў і равесніц. Вельмі розная Тамара: то маўклівая, зацятая, як бабка-татарка, то раптам нападае на яе бяздумна-адчайная весялосць і рухавасць. Хлопцаў яна не баіцца і часта ўступае з імі ў бойкі. З хлопцамі яна і сябруе ахвотней, чым з дзяўчатамі.

Аднойчы Тамара прызнаецца: яе бабка — знакамітая царыца. Пачуўшы гэта, талака адразу дае мянушку шустрай касаватай дзяўчынцы — царыца Тамара. Дзяўчынка за такое празванне ніколькі не крыўдзіцца. Наадварот: яна нават ганарыцца.

Дзеці суседніх вулачак пачынаюць вайну за конскі каштан, які расце на ўзмежку агародаў. Самі каштаны горкія, есці іх нельга, затое на выгляд прыгожыя, іх прыемна трымаць у руках.

Войска сваёй вулачкі ўзначальвае Тамара, і два леты басота пад яе камандай валодае каштанам.

Белы горад, размешчаны на высокім, стромым беразе ракі, як магнітам прыцягвае слабадскіх хлапчукоў і дзяўчат. Школа ў Слабодцы ёсць: цагляная, пабудаваная яшчэ ў царскія гады. Клуба няма. Дзяцінства Тамары прыпадае на час, калі кіно — спачатку нямое, затым гукавое — рабілася ўсемагутным богам дзятвы.

Яшчэ апоўдні слабадская басота збіраецца ў гурт, горача абмяркоўваючы, якім манерам прабіцца ў рабочы клуб, размешчаны ў горадзе. Сваёй кемлівасцю, вынаходлівасцю, бясстрашшам Тамара часта выручае хлапчукоў, якім страшэнна хочацца паглядзець кіно, а грошай на білет няма.

Уверх, па касагоры, да цэнтра горада і назад поўзае чырвоны трамвайчык, які раніцай развозіць слабадскіх мужчын

па заводах, фабрыках, арцелях, а вечарам прывозіць назад. Яшчэ ў поўдзень слабадская басота, якая прачула пра цікавую кінакарціну, пачынае штурмаваць трамвайчык. Білетаў, вядома, зноў жа ніхто не купляе. Таму рэдка калі ўдаецца гурту праехаць разам у трамвайчыку. Тыя, што прыехалі раней, чакаюць таварышаў каля клуба — нізкай пляскатай будыніны, падобнай на склад.

Нарэшце, калі збяруцца, Тамара пачынае выпрацоўваць тактыку на вечар. Найчасцей хлопцы складваюцца па дзве ці тры капейкі і купляюць Тамары білет. Зайшоўшы ў клуб, яна непрыкметна здымае засоўку з уваходных дзвярэй. У клуб імгненна ўрываецца слабадская басота і, нібы гарох, рассыпаецца па зале. Кантралёр нават не шукае безбілетнікаў: справа безнадзейная. Яму застаецца толькі зашчапіць дзверы.

Сярод сяброўак Тамара таксама завадатарка. Яна шчыра сябруе з Раяй Татубаевай, дом якой блізка ад іхняга дома. Кругленькай, нібы мячык, Раі, адзінай дачцэ ў бацькоў, жывецца на свеце лепей, чым Тамары. Яна не пасе коз, не рве бацвіння, лебяды, пякучай крапівы, не сячэ гэтага корму для свінні ў карыце. У яе ёсць фабрычная лялька, у якой, калі кладзеш спаць, самі закрываюцца вочы. Тамара лялькі робіць сама, са шматкоў матэрыі сшывае ім пярэстыя, markerразнакаляровыя сукеначкі, хімічным алоўкам малюе вочкі, рот, звараным бураком фарбуе шчокі.

Дзіва няма: бацька Раін атрымлівае багата грошай, ён бухгалтар на вялікім заводзе. Тамарын бацька — касір рыбалоўчай арцелі. Ды яшчэ выпіць любіць. Сям’я часта жыве толькі на заработак маці-настаўніцы, бо захмялелага бацьку іншы раз прыводзяць дадому, узяўшы пад рукі, чужыя людзі.

Тамара з Раяй ідуць у школу адначасна, вучацца ў адным класе. Адразу выяўляецца, наколькі яны розныя па здольнасцях. Тамара хапае навуку на ляту, чытае буквар, нібы рэпу грызе, першая ў класе рашае самыя цяжкія задачкі і нават хлопцам падказвае. Рая да трэцяга класа бэкае па складах, на лета атрымлівае падрыхтоўку, і ў дзённіку ў яе двойкі ды тройкі.

Калі пачалася вайна, Тамара з Раяй якраз пераходзяць у сёмы клас. Цяжкі настае час. Горшага не прыдумаеш. Бацька,

брат ідуць у армію. Дома застаюцца тры жанчыны: маці, сястра Вольга і Тамара. Тамара самая маладзейшая ў сям'і, але дзякуючы сваёй практычнасці як бы замяняе бацьку і брата. Скончыўшы сямігодку, Тамара паступае на швейную фабрыку, шые салдацкія гімнасцёркі, фуфайкі. Затое картачкі лепшыя, чым маці-настаўніца, атрымлівае: па іх даюць не толькі хлеб і маргарын, а часам нават алей, селядцы, цукеркі-падушачкі.

Да сямнаццаці гадоў Тамара вылюднела ў ладную дзяўчыну. Яе смуглявы твар, прамы нос, трохі касаватыя вочы, гнуткая пастава відавочна сведчаць: вось такой у маладыя гады была бабка-татарка, у жылах якой цячэ ледзь не царская кроў.

Жаніхоў для нявест ваеннай пары няма. Дый не толькі жаніхоў. Вясной сорак другога наконт бацькі (па ягоных лістах сям'я лічыць, што ён ваюе ў Данбасе ці пад Харкавам) прыходзіць казённая з пячаццю паперка: прапаў без вестак. Восенню таго ж года ў сталінградскім агні гіне Тамарын брат Валодзя.

Маці ўшчэнт выбіваюць з каляіны гэтыя весткі. Яна безупынна плача, і яе хапае толькі на тое, каб схадзіць у школу, правесці заняткі, а вечарам сяк-так праверыць сшыткі.

Ад млявай, ціхмянай Вольгі карысць невялікая. Добра, што хоць уладкавалася ў шпіталь. Корміцца там, латаецца.

Верхаводзіць у сям'і Тамара. Дзіця прадмесця, яна з ранніх гадоў засвоіла яго жыццёвыя запаветы, норавы. Палец у рот Тамары не кладзі...

Яе хапае на ўсё. Выседжвае ў суцэльным ад стракатання швейных машынак гуле дзесяць гадзін, ірве па кустах траву (з трох коз засталася адна, але і яна корму патрабуе), назбіраўшы ў агародчыку агуркоў, накапаўшы радыскі, імчыць на базар. З картак не пракормішся, а яшчэ абувацца, апранацца трэба.

На гаманлівым, ваеннага часу базары Тамара як у добра зведанай, роднай стыхіі. Не саступае заядлым, якія жыццё прастаялі за прылаўкам, гандляркам і перакупшчыцам. Зацятая, ганарлівая, яна часам так адбрые суседку, што тая змоўкне, нібы язык праглынуўшы. За такіх, як сама, іншы раз заступаецца Тамара: хто прыходзіць на базар не доўгія рублі зарабляць. Цэны страшэнныя! Булка хлеба каштуе дзвесце рублёў — ледзь не месячную Тамарыну зарплату. Пра мяса,

масла не варта гаварыць. Прадаўшы агуркі, радыску, якуюнебудзь іншую зяляніну, маючы ў кішэні тры ці чатыры сотні рублёў, Тамара нават не заглядвае ў рады, дзе прадаецца мяса і масла. Не па яе грашах такая раскоша.

Бяруць у армію блізкага суседа Васю Грышкіна. Ён вучыўся разам з Тамарай, пасля сямігодкі падаўся на завод і вось, дасягнуўшы паўналецця, ідзе на прызыў. Чарнявы, павольны ў рухах, спакойна-разважлівы Вася дзеля таго, відаць, каб было каму з арміі пісаць лісты, паспрабаваў заляцацца да прыгожай лялькі Раі Тутабаевай. Але прыгажуня адштурхнула яго. Хлопцы, якія пахнуць мазутай, Раі не падабаюцца.

Вася перакідваецца да Тамары. Яна не асабліва крыўдуе, што не да яе першай ён прыхінуўся. Ходзіць да яе, значыць, яна яму падабаецца. Вася высокі, шыракаплечы, дужы. Такія хлопцы Тамары да душы. Такія не падвядуць. Вядома, Вася не джыгіт на белым кані, які мільгануў перад ёй у дзяцінстве. Але джыгіт толькі мара, казка, а Вася знаёмы, добры хлопец. Імклівага джыгіта, які іншы раз прыходзіць у дзявочыя сны Тамары, яна нават пабойваецца: можа звесці са свету...

Перад адпраўкай у армію Вася прыходзіць да Тамары развітацца. Палавіну ночы яны сядзяць на лавачцы, нават адважваюцца пацалавацца. За другую палавіну, запаліўшы лямпу-васьмярык, Тамара вышывае Васю кісет. Вася пакуль не курыць, але гэта не мае значэння. Ён ідзе на вайну і мусіць мець ад Тамары падарунак, каб хоць зрэдку яе ўспамінаць.

Атрымаўшы ад Васі некалькі лістоў-трохкутнічкаў, Тамара проста расцвітае. У яе ёсць жаніх! Дужы, моцны і з твару прыемны Вася, у руках якога спорыцца ўсялякая работа.

Няшчасце надараецца восенню, праз год пасля таго, як загінуў брат. Перастаюць прыходзіць ад Васі трохкутнічкі, і Тамара раз-пораз забягае да Васевай маці: ці не прыслаў сын ліст? І вось — пахавальная. У Тамарынай душы як бы нешта надламалася. Яе шчасце, не паспеўшы расцвісці, знікае як дым. У яе нават фотакарткі Васевай няма. Тамара адчувае сябе горкай удавой і ходзіць плакаць да Васевай маці...

Тым часам вайна хіліцца ў пераможны бок. Сталінград вызвален, а частка ваеннапалонных, якіх там захапілі, разбірае

завалы, якія ў горадзе засталіся пасля некалькіх налётаў нямецкай авіяцыі.

Няшчасце не ходзіць адно: неўзабаве зацяжарала Вольга. Сваё становішча выявіла позна, і ўжо нічога нельга зрабіць.

Тамара лютуе: як ты, няшчасная квактуха, такое дапусціла? Дзе твой розум, гонар?

Вольга, уставіўшы ў падлогу лупатыя вочы, толькі плача. Яна нават не ведае, хто бацька дзіцяці. Затое Тамара ведае.

У горадзе мноства шпіталяў, перасыльны пункт, запасныя палкі, і жаніхоў на ноч ці на дзве хоць адбаўляй. Вырваўшыся па звальніцельнай з казармы або проста збегшы са шпіталя, брындаюць такія жаніхі па горадзе, нават у Слабодку заглядваюць. І знаходзяць нявест...

Ёсць удовы, салдаткі, нават маладыя дзяўчаты трапляюцца, якія ахвотна бавяць час з залётнымі кавалерамі. Жыццё толькі адно! Таму трэба хапаць хоць мімалётныя, хуткаплынныя радасці, якія яно пасылае. Трэці год ідзе вайна, і кожны дзень гінуць тысячы маладых мужчын, хлопцаў. Невядома яшчэ, ці знойдзе дзяўчына, а тым болей маладая ўдава спадарожніка жыцця, а калі знойдзе, то якога? Тут жа хлопцы як на падбор, агонь мужчыны! Які-небудзь нездаляка нанач са шпіталя не збяжыць...

Такі час. Нявесты ваеннай пары, што жывуць у Слабодцы, і ў іх ліку Тамара і Рая Тутабаева, лёгка дапускаюць думку, што шмат каго з хлопцаў на вайне пазабіваюць і жаніхоў ім можа не хапіць. Забілі ж Васю Грышкіна, якога Тамара лічыла сваім жаніхом. Цяпер чакай, калі знойдзецца другі хлопец, і ці знойдзецца?..

Карацей, настрой, які валодае Тамарай, Раяй Тутабаевай, не гэтак моцна адрозніваецца ад настрою дзяўчат, якія ахвотна прымаюць заляцанні часовых кавалераў. На фабрыцы, дзе працуе Тамара, такіх дзяўчат аж зашмат. Яны ахвотна пахваляюцца сваімі прыгодамі, выдатнымі хлопцамі, салдатамі і камандзірамі, якія іх не забылі, пішуць пісьмы з фронту...

Тамара згодна на такую любоў. Калі яна палюбіць, калі чалавек па-сапраўднаму ёй спадабаецца, то яна ні на што не паглядзіць. Хіба мае значэнне, жанаты ён ці не жанаты, і хіба

пачуцці ўзнікаюць у загсе? Толькі не трэба паводзіць сябе так, як Вольга, якая нават бацькі свайго сына не ведае.

Тамара вельмі пераменлівая па настроі, характары. То маўкліва-зацятая, як бы засяроджаная на нейкай адной думцы, то раптам выбухне вогненнай радасцю, адчайнай рашучасцю. І яшчэ адной здольнасцю валодае Тамара: можа пагаварыць, знайсці агульную мову, прыстасавацца, падладзіцца да кожнага чалавека. Як бы ўлазіць у ягоную скуру. За выключэннем тых людзей, якіх не пераносіць, ненавідзіць. «Артыстка» — заве яе іншы раз млявая, маларухомая Вольга.

У хуткім часе Вольга нараджае сінявокага шустрага хлопчыка, і жыць тром адзінокім жанчынам як бы нават весялей. Нібы мужчына прыбавіўся ў доме.

Яшчэ праз нейкі час маці прыводзіць у дом кватаранта.

Малады, чарнавалосы, знешне падобны на цыгана настаўнік гісторыі вызначаецца незвычайнай рухавасцю, энергіяй. Завуць яго Вікенцій Львовіч Вастрабрамскі, і родам ён з Беларусі. Беларусь яшчэ пад немцамі, пасля сканчэння ўніверсітэта Вастрабрамскага накіроўваюць настаўнікам у Слабодку. Можна лічыць — у горадзе пакідаюць.

Вікенцій Львовіч выкладае ў школе не толькі гісторыю, а і іншыя прадметы, бо амаль усе настаўнікі-мужчыны ў арміі.

Тым часам жыць настаўніку няма дзе, і маці запрашае яго да сябе на кватэру.

Вікенцій Львовіч падабаецца Тамары з першага позірку. Ёй раптам становіцца вельмі цікава, як, чым ён жыве, да чаго імкнецца. Яна ловіць сябе на тым, што зусім не думае пра Васю Грышкіна, які загінуў на фронце, але праганяе згрызотлівыя думкі. Хіба яна вінавата, што Вася загінуў?

Жыццё ідзе. Настаўнік малады, і Тамара маладая. Яна толькі ўступае ў пару свайго дзявочага росквіту. Другая справа: Вікенцій Львовіч вучоны, тым часам Тамара скончыла толькі сямігодку. Але яна вельмі цікавіцца настаўнікам. Нават падглядвае часам, як ён мыецца ля прыбітага ля сцяны ў сенечках умывальніка, як прычэсвае перад люстэркам свае чорныя непакорныя валасы. Як можа, Тамара дагаджае настаўніку: прыносіць у пакойчык чай, патроху падкармлівае. Бо ён худы, калі ўважліва прыгледзецца, нават змізарнелы. Дзіва няма: жыве толькі з таго, што палучае па картках.

У канцы вайны, калі яна перакрочыла ўжо айчынныя рубяжы, вядзецца на чужой тэрыторыі, Вастрабрамскага прызываюць у армію. У Тамары ные душа. Вельмі баіцца за настаўніка. Між імі нічога няма, акрамя тоненькай нітачкі ўзаемнай сімпатыі, якая з боку настаўніка толькі зрэдку праяўляецца ў зацікаўлена кінутым на яе, Тамару, позірку ці прыемным слове, сказаным ёй. Тамара ўсё адно баіцца. Нібы руку і сэрца прапанаваў ёй Вастрабрамскі.

У хвіліны летуценнасці перад Тамарай нібы паўстае пабачаны ў дзяцінстве белы джыгіт на белым кані, які скакаў па заволжскім стэпе. Вікенцій Львовіч зусім не падобны да белага джыгіта; ён чорны цыган і, можа, нават на кані не ўмее ездзіць. Але калі Тамара пра яго думае, салодка замірае сэрца, нараджаюцца дзіўна-гарачыя, няўрымслівыя жаданні.

Вайна нарэшце канчаецца. Вяртаюцца з фронту салдаты. Не загінуў бацька — немцы пад Харкавам узялі ў палон, завезлі ў Германію, загналі ў шахты. Бацька страшэнна схуднелы, змізарнелы, ціхмяны, нейкі прыбіты, але гэта бацька, і Тамара як бы чэрпае шчасце поўнай мерай. Яна любіць бацьку болей, чым каго ў сям'і. Усю вайну клопат аб доме, маці, Вользе ляжаў на яе вузкіх плячах. Цяпер у дом вярнуўся гаспадар. Няхай бярэ лейцы ў рукі. Ёй трэба думаць пра сябе.

Радасць, як гора, ходзіць у пары. У хуткім часе дэмабілізуецца Вікенцій Львовіч Вастрабрамскі. Выкладае ў школе і па-ранейшаму кватаруе ў Тамарыным доме.

Аднойчы здараецца тое, чаго так доўга чакала Тамара. Вечарам яны з Вікенціем Львовічам, які яшчэ нават гімнасцёркі не зняў, ходзіць у ваеннай вопратцы, сядзяць у садзе, у старой альтанцы. Пахне спелымі яблыкамі, апалым лісцем, прывялай травой. Настаўнік нясмела кладзе руку на плячо Тамары, прыхінае яе да сябе. Божа, які агромністы агонь успыхвае ў яе душы, якім вялікім, багатым на фарбы, гукі робіцца свет! Яна можа падабацца такому чалавеку, як Вікенцій Львовіч! Гэтае адкрыццё як бы напаўняе Тамарыну душу нейкай урачыстай, іскрыста-радаснай музыкай...

Праўда, праз тыдзень ці два нешта нядобрае пачынаецца. У дом часцей, чым трэба, заскоквае Рая Тутабаева. Рая канчае дзясяты клас (у восьмым прасядзела два гады), пасля

дзесяцігодкі збіраецца паступаць у медыцынскі інстытут ці нават ва ўніверсітэт. Па-жаночы яна вельмі расквітнела, і хоць Тамара цяпер асабліва яе не любіць, мусіць прызнацца, што Рая намнога прыгажэйшая за яе. Ад гэтага ў душы нараджаецца трывога. Тамара стараецца сябе суцешыць. Рая недалёкая, пустая. Вучыцца на адны тройкі. Вікенцій Львовіч, здаецца, таксама ставіць ёй толькі тройкі.

Чым далей, тым болей пакутуе Тамара. Ёй здаецца, што Вікенцій Лывовіч болей, чым на яе, паглядвае на Раю. Нібы не хоча бачыць, як Тамара каля яго завіхаецца, стараецца дагадзіць, ловіць кожны яго позірк, слова.

З бацькам тым часам творыцца нядобрае. Відаць, прыніжаны палонам, ко́сымі позіркамі, з'едлівымі слоўцамі, якія кідаюць яму пры сустрэчы шматлікія ўдовы Слабодкі, ён яшчэ болей, чым раней, прыахвочваецца да гарэлкі. Ушчэнт співаецца бацька, і яго іншы раз прывалакваюць у дом як мёртвага.

Настаўнік кватэру пакідае. Не таму, што яму кепска, няўтульна. Клопат, якім акружае яго Тамара, наўрад ці знойдзе на якой-небудзь другой кватэры. Справа ў тым, што настаўніка запрашаюць на работу ва ўніверсітэт, у горад.

Пачынаецца першая мірная зіма. У голым веցці акацый, каштанаў, у парудзелым кустоўі дзікага вішанніку свішча халодны вецер. Тамара мерзне ў сваім куцым палітончыку, у разбітых, зношаных туфлях. Збірае грошы, каб купіць абноўкі. Цяпер яна можа траціць заробленыя на фабрыцы грошы на сябе.

Тое, што настаўнік, якому Тамара вельмі сімпатызуе, цяпер выкладчык універсітэта, наводзіць яе на новыя думкі. Па ўсіх прыкметах, не ў медыцынскі інстытут, а ва ўніверсітэт збіраецца паступаць Рая Тутабаева. Няшчасная троечніца будзе вучыцца ва ўніверсітэце. Што ж, пра паліто, туфлі Раі думаць не трэба. Бацька купіць. На вайне галоўны бухгалтар не быў, меў бронь, апранаў і апранае Раісу як ляльку.

Трэба дагнаць Раю, рашае Тамара. Яна яе за пояс заткне. Хіба не памятае, як вучылася школьная прыгажуня? Веды ў яе ў адну столку, з пятага на дзясятае.

Не пакідаючы фабрыку, Тамара паступае ў вячэрнюю школу. Адразу ў дзясяты клас. З раніцы едзе чырвоным трамвайчыкам на фабрыку, адпрацоўвае змену, вечарам бяжыць

у школу. У дзясятым класе такіх, як яна, вучняў палавіна. Выдзеліўшы з іх асобную групу, настаўнікі з імі паўтараюць матэрыял, пачынаючы з сёмага класа. Галава кружыцца: столькі даюць дамашніх заданняў! Паўночы Тамара не спіць, сядзіць над падручнікамі.

У яе тым часам нібы крылы вырастаюць. Адчувае: сілы хопіць!

На першым часе на ўроках алгебры, трыганаметрыі, хіміі Тамара амаль нічога не разумее. Механічна запісвае формулы, дакараючы сябе за легкадумнасць. Але адолеўшы, няхай у скарочаным выглядзе, раздзелы праграмы за восьмы, дзявяты клас, нібы ўзыходзіць на высокую гару. Як добра, ясна адсюль усё відаць!

У апошняй чвэрці Тамара становіцца лепшай вучаніцай класа. Далёка да яе Раі Тутабаевай, якая, нідзе не працуючы, заканчвае дзённую дзесяцігодку.

Ва ўніверсітэт яны паступаюць на гісторыка-філалагічны факультэт. Тамара здае ўступныя экзамены на пяцёркі, Рая — на тройкі. Але ў галоўнага бухгалтара вялікага завода ёсць, відаць, сувязі: Раю ва ўніверсітэт прымаюць.

Калі Тамара і закахалася ў Вікенція Львовіча Вастрабрамскага, то тут, ва ўніверсітэце, слухаючы яго лекцыі на першым і другім курсах. Ён чытае старажытную і сярэдневяковую гісторыю Русі і як чытае! Кожная лекцыя — нібы захапляльна задуманы і выкананы спектакль. Артыст адзін — выкладчык, затое роляў ён выконвае многа, умее пераўвасабляцца, бо пра кожнага выдатнага гістарычнага дзеяча ён расказвае па-асабліваму, нідзе ні кропелькі не паўтараючыся. Пазней Тамара здагадалася — Вікенцій Львовіч сам іграе гэтыя ролі: князёў, цароў, славутых военачальнікаў. Але як трэба ведаць матэрыял, адчуваць час, эпоху, каб ад сухіх, зрэшты, нудных, нецікавых старонак падручніка ўзняцца на такую бліскучую вышыню.

Можа б, гэтак адчайна не закахалася Тамара ў Вастрабрамскага, каб ён не кватараваў у яе доме і каб яна не ведала невядомых другім студэнтам падрабязнасцей ягонага жыцця. Многія студэнткі захапляюцца прыгожымі і разумнымі выкладчыкамі. Дзіва тут няма. Але гэтыя іх захапленні

мінаюць, як наогул мінае юнацтва, маладосць, пара рамантычных сяганняў, застаючыся ў душы прыемна-салодкім успамінам.

У Тамары яе захапленне не мінула. Яна памятае цяперашняга ўніверсітэцкага выкладчыка худым, змізарнелым, трохі няскладным хлопцам, у паношаным, з пацёртымі на локцях, кароткімі рукавамі пінжачку. Ён быў стрыманы, высакародны, хоць і жартаўліва-вясёлы. Вельмі неахвотна браў, калі Тамара прыносіла што-небудзь з яды, самаахвярна дапамагаў па гаспадарцы: імкнуўся аддзячыць за кожную драбніцу. Тамара памятае: у школе была нейкая ўрачыстасць і маці прапанавала настаўніку-кватаранту апрануць на вечар касцюм сына, які загінуў пад Сталінградам. Кватарант адмовіўся наадрэз.

Тамара ведае, што Вастрабрамскі з Беларусі. Вайна скончылася, але дадому ён не едзе. Можа, загінулі бацька, маці. Тамара з газет, радыё ведае, як лютавалі фашысты на захопленай зямлі. У вайну Вікенцію Львовічу ніхто не дапамагаў. Як мог, ён сам карміўся, апранаўся. Як жылі ў вайну людзі, у тым ліку студэнты, Тамара добра ведае.

Кожная лекцыя Вастрабрамскага — свята. З якім захапленнем, радасцю, асалодай слухае выкладчыка Тамара. Вядзе падрабязны канспект. Хоць за Вастрабрамскім многа не запішаш. Дзве-тры старонкі. Бо вельмі вялікае месца ў яго-ных лекцыях займаюць пачуцці, асабістыя адносіны да таго, пра што расказвае.

Тамара перачытвае ўсё з гістарычнай літаратуры, якую рэкамендуе выкладчык. Бліскуча адказвае Тамара на заліку, экзамене. Вікенцій Львовіч выдзяляе яе сярод астатніх студэнтаў. Хваліць перад усёй аўдыторыяй. Лепшай узнагароды ёй не трэба...

На трэцім курсе Вастрабрамскі ўжо не выкладае. Для заканчэння дысертацыі яго пасылаюць у Маскву. Ён вяртаецца адтуль праз два гады, калі Тамара вучыцца на пятым курсе. Студэнты гавораць, што вось-вось Вастрабрамскі абароніць дысертацыю і будзе кандыдатам навук.

Два гады адсутнічаў ва ўніверсітэце выкладчык гісторыі, але Тамара яго не забыла. Пасля таго як вярнуўся, дня не магла пражыць, каб яго не пабачыць. Кожны перапынак

выстойвала ў калідоры каля акна, якраз насупраць дзвярэй прафесарскай. Каб толькі зірнуць на Вікенція Львовіча. Гэта было як насланнё. Яна адчувала: нельга траціць дзявочай годнасці, гонару, але нічога не магла з сабой зрабіць.

Вастрабрамскі іншы раз выходзіць з прафесарскай. Убачыўшы Тамару, паблажліва ўсміхаецца. Перакідваецца з ёй двума-трыма словамі. Ён, відаць, адчувае, што яна ім не на жарты захапілася. Тым часам выгляду не паказвае.

Тамара вучыцца бліскуча. Яна, бадай, першая студэнтка факультэта. Рая Тутабаева на ранейшых рубяжах і ледзь цягнецца на тройкі. Кавалераў, аднак, у Раі хоць адбаўляй. Усе пяць гадоў ля яе пакручваюцца студэнты старэйшых, маладзейшых курсаў. Яна нібы плавае ў хвалях ўвагі. Прыгожая, нібы лялька, яна мае ў дадатак прыемны, меладычны голас, міла, прыветліва ўсміхаецца нават тым, на каго не звяртае ніякай ўвагі.

У Тамары кавалераў няма. Хлопцы нібы пабойваюцца пранізлівага позірку яе трохі касаватых вачэй, маўклівай зацятасці, якая можа нечакана выбухнуць адчайнай весялосцю і нават гарэзлівасцю.

Катастрофа выбухае напярэдадні выпускнога ўніверсітэцкага вечара. Тамара шые ў знаёмай краўчыхі светла-блакітную, якая вельмі пасуе да яе смуглявага твару, сукенку, абувае новыя туфлі, упершыню за жыццё ідзе ў парыкмахерскую, робіць завіўку. Яна з нецярпеннем чакае вечара, на якім ёй мусяць выдаць дыплом. Дыплом не звычайны, а чырвоны, з адзнакай. Такі дыплом на факультэце атрымлівае яна ды яшчэ выпетраны, высахлы хлапчына, худы, як палка, які за кнігамі свету белага не бачыць.

Няясная трывога некалькі дзён не пакідае Тамару. Можа, ідзе яна ад таго, што тыдзень ці нават болей на яе вочы не трапляюць ні Рая Тутабаева, ні Вастрабрамскі.

Перад пачаткам вечара аднакурсніцы, тоячы хітрыя ўсмешкі, паведамляюць Тамары, што Вастрабрамскі запісаўся з Раяй Тутабаевай. Ён пераводзіцца на работу ў Беларусь, у мінскі ўніверсітэт. З ім едзе Рая...

Праз тыдзень, дамогшыся пераразмеркавання, Тамара таксама едзе ў Беларусь.

# XII

Тое, што пачалося ў Вярэмічах і працягвалася ледзь не чатыры гады, Тамара Іосіфаўна не хоча ўспамінаць. Яна прыязджае ў мястэчка Вярэмічы, размешчанае каля ракі Прыпяць, як параненая, з перабітым крылом птушка, і першыя два гады не можа апамятацца. Яна жыве тым, што прывезла са свайго белакаменнага горада — крыўдай, абразай, утаптанымі ў гразь пачуццямі. Чым болей яна думае, тым выразней перад ёй вымалёўваецца нікчэмнасць таго, што здарылася. Няма сумнення, Вастрабрамскі і Раіса, асабліва ў апошні час, хавалі ад яе свае адносіны. Нездарма ў апошні год Раіса перабралася са Слабодкі ў горад, нават знайшла асобны пакойчык. Яе бацька мог заплаціць і за пакойчык. Вастрабрамскі — дробны, мізэрны чалавек, калі пацягнуўся да Раісы. Што ён у ёй знайшоў? Няўжо ўсе мужчыны такія? Тады яна ніколі не знойдзе чалавека, да якога б пацягнулася ўсёй істотай.

Чаму яна прыехала ў Беларусь? Вастрабрамскага не можа забыць? Не ведае яна. Сябе самую не ведае...

Андрушкевіч, завуч школы, больш другіх настаўнікаў кідаецца Тамары Іосіфаўне ў вочы. Ён выкладае гісторыю, яна — рускую мову і літаратуру. Мужны, нават чымсьці прыгожы твар, высокая стройная пастава, строгасць, цвёрдасць характару. Ён здаецца чалавекам адметным, якога на кожным кроку не сустрэнеш, і, як заўважае Тамара Іосіфаўна, падабаецца не толькі ёй. Але яна яшчэ ў палоне. Яшчэ не вызвалілася яе душа ад нядаўняга пачуцця да чалавека, які яе зняважыў, абразіў. Баліць, ные душа...

Па школе блукаюць глухія чуткі пра благія паводзіны завуча ў вайну. Тамара Іосіфаўна мала пра гэта думае. Завуч тым часам пераводзіцца ў другую школу.

Пасля таго як Андрушкевіч з’язджае са школы, у Тамары Іосіфаўны адбываецца незвычайнае спатканне. Яна сустракае шафёра мясцовага калгаса. Ледзь не абмірае: жывы Вася Грышкін! Даведваецца: завуць шафёра Раман Красоўскі, жыве ў Вярэмічах. Тыдзень ці два Тамара Іосіфаўна ва ўтрапенні. Не ведае, што рабіць. Цікавасць да шафёра ліхаманкава ўзрастае. Яна ледзь не штодзень праходзіць паўз калгасную

майстэрню і яшчэ два ці тры разы спатыкаецца з шафёрам. Памылкі няма: у Рамана, як у Васі, медзведзяватая пастава, павольныя, чымсьці нават прыгожыя рухі, і з твару вельмі падобен шафёр да загінуўшага Тамарынага жаніха...

Шафёр таксама сёе-тое заўважае. Ён зусім не супраць пазнаёміцца з маладой, нетутэйшага выгляду настаўніцай. Мужчын мала, іх пабілі на вайне. Цяпер і настаўніцы не грэбуюць шафёрамі, слесарамі, нават звычайнымі калгаснікамі.

Знаёмства, затым паспешлівае, хваравітае, хмельна-адчайнае збліжэнне...

Тамара Іосіфаўна не хоча, каб яе бачылі разам з Раманам. Але ёсць выйсце. Яна прыходзіць на развілак пыльнага шляху за мястэчкам, і ўжо тады пад’язджае Раман.

Яны ідуць у сасновы бор, парослы наздраватым мохамлішайнікам, дробным верасам, ці на высокі пясчаны бераг Прыпяці, ці на лугавіну ў пойме ракі, дзе трава сягае ледзь не ў рост чалавека. Іншы раз іх засцігае ноч. Тамара Іосіфаўна, падклаўшы далоні рук пад галаў, глядзіць на засеянае зоркамі неба, бяздоннае, загадкавае, якое здаецца трохі ніжэйшым, чым у раздольным стэпавым краі. Яна думае пра тое, што Вася Грышкін, калі ішоў на вайну, толькі і адважыўся яе пацалаваць. Так і загінуў...

Тры гады, як Тамара Іосіфаўна ў Вярэмічах. Жыццё ў мястэчку нібы застыла. Раніцай гоняць статак на пашу, вечарам прыганяюць. Мястэчка тоне ў пыле, які падымаюць каровы, машыны, звычайныя фурманкі. Тамара Іосіфаўна востра сумуе па горадзе, разнастайнасці, багацці гарадскога жыцця. Няхай жыла яна ў Слабодцы, у прадмесці, але, бадай, кожны дзень бачыла горад...

Цяпер яна ведае, чаму прыехала ў Беларусь. Здавалася ёй: Вастрабрамскі вельмі хутка разыдзецца з Раісай. Убачыць, хто яна, і ад яе ўцячэ. Бо Раіса — мяшчанка. Акрамя ўбораў, вышывак, падушак ні пра што іншае не думае. Памыліцца можа кожны мужчына...

Тым часам нічога благога з Раісай не здараецца. Гэта Тамара Іосіфаўна ведае з пісем, якія прысылае маці. Раіса жыве ў Мінску, нарадзіла сына. Нядаўна з мужам прыязджалі ў Слабодку. Прыгожая пара!..

Вяртаецца ў Вярэмічы Андрушкевіч. Тоненькая нітачка ўзаемнай сімпатыі, якая намецілася яшчэ да ад'езду завуча паміж ім і настаўніцай рускай мовы, не парвалася. Тамара Іосіфаўна нават думае пра знак лёсу, якім сталі для яе Вярэмічы і Андрушкевіч. Бо прыгожы завуч, аказваецца, вучыўся ў лётным вучылішчы, размешчаным у яе белакаменным горадзе, а цяпер скончыў мінскі ўніверсітэт, дзе выкладае Вастрабрамскі. Яго нават у аспірантуры пакінулі, і ён вучыцца ў ёй пакуль што завочна...

З усёй сілай сваёй рашучай, адчайнай натуры хінецца цяпер Тамара Іосіфаўна да Андрушкевіча. Адзін ён можа выбавіць яе з пыльнага, абрыдлага сяла, у якое яна трапіла па легкадумнасці.

Толькі Андрушкевіч сам на сябе не падобны. Нібы падмянілі яго. Вярнуўся са свайго добраахвотнага выгнання раўнівым, недаверлівым. Страшэнна раўнуе яе да ранейшага дырэктара школы Клязьбіча. Якія мужчыны сляпыя, невідушчыя!..

Тамара Іосіфаўна не вельмі дакарае Андрушкевіча. Яго рэўнасць, магчыма, выклікала яна сама. Два гады назад яна нічым не адказала на прыязныя позіркі завуча. Тады яна яшчэ думала пра Вастрабрамскага, яе душа была ў палоне... Цяпер яна вольная ад пачуццяў, якія заганяюць у палон. Навучылася...

У думках Тамара Іосіфаўна часам нават пасміхаецца з Андрушкевіча. Убіў сабе ў галаву, што напаткае цнатлівую, сардэчную асобу, якая, не зважаючы на тое, што мінае дзявочая пара, сядзіць, уздыхае і чакае такога, як ён, рыцара. Тым часам сам ён не анёл. Па чутках, ледзь не ажаніўся з верціхвосткай, якая ў вайну вешалася на шыю немцам. Нібыта нават пакаранне верціхвостка адбывала...

Не, не трапіць болей Тамара Іосіфаўна на любоўную вудачку. Нікому не дазволіць з сябе насміхацца. Яна вольная і незалежная. Скончыла ўніверсітэт, атрымлівае зарплату і, зрэшты, зможа пражыць, нават не выходзячы замуж...

Пасля таго як Тамара Іосіфаўна, выйшаўшы за Андрушкевіча замуж, пераязджае ў Мінск, жыве сямейным жыццём, ён болей не ўспамінае Клязьбіча. Уяўны вобраз саперніка развеяўся ў прасторы, знік як цень.

Тамара Іосіфаўна рада, што вярнулася ў горад. Няхай не ў родны, белакаменны, які стаіць ля вялікай ракі. Але Мінск, які адбудоўваецца пасля страшэннага разбурэння, таксама сімпатычны і нават прыгожы.

На дзіва проста адбылася сустрэча з Вастрабрамскім. Ён і яго Раіса, вядома, ведалі, што яна выйшла замуж за Андрушкевіча. Але ў рэстаран, калі выкладчыкі адзначалі Дзень Канстытуцыі, Вастрабрамскі прыйшоў адзін. Яна падышла да яго, ветліва павіталася, спытала пра Раісу. Ён чырванее, бляднее, выцірае беласнежнай хусцінкай (яна заўважыла гэта) узмакрэлы лоб. Вельмі хутка знікае Вастрабрамскі з банкету...

Што ж, яна яму хоць трошкі адпомсціла.

Была яшчэ адна вечарынка з нагоды Дня Канстытуцыі.

Снежань, дрэвы голыя, чорныя, у спляценні іх вершалін шастае халодны вецер. Праз навісь галін праглядваюць рэдкія зоркі, якіх у горадзе з-за бляску ліхтароў зусім не відаць. Зальчык рэстарана, у якім выкладчыкі гістарычнага факультэта адзначаюць Дзень Канстытуцыі, размешчан на трэцім паверсе. Ушчыльную да рэстарана прылягае скверык, засаджаны акацыямі, клёнамі, бярозамі. Дрэвы нібы паглынаюць шум, які даносіцца з шырокага праспекта, і ў зальчыку рэстарана ніякага шуму не чуваць.

У вестыбюлі рэстарана, распранаючыся, аддаўшы паліто Андрушкевічу, Тамара Іосіфаўна ўпершыню за апошнія пяць гадоў спатыкаецца з Раісай. Дзіўныя справы твае, вялікі Божа! Саперніца кідаецца да Тамары Іосіфаўны, як да роднай маці ці сястры, туліцца, хавае свой твар у яе на грудзях і плача. Што гэта значыць? Каецца Раіса ці штосьці іншае здарылася? І ўжо ні злосці няма ў Тамары Іосіфаўны да Раісы, ніякага іншага варожага, помслівага пачуцця, а толькі спагада, жаль...

Мінае яшчэ год, і зноў па ўсталяванай традыцыі выкладчыкі адзначаюць Дзень Канстытуцыі. Тыя ж дрэвы з шумам ветру ў галінах, цёмнае зімовае неба. Як і першы раз, Вастрабрамскі з'яўляецца на вечарынку без Раісы. Ён хмуры, нават злосны. Тамара Іосіфаўна таксама адчувае сябе няўтульна. У душу закрадваецца няпэўная, няясная трывога.

Андрушкевіч падпіў, круціць у вальсах, факстротах маладых выкладчыц. Тамара Іосіфаўна, шапнуўшы яму, што баліць галава, ідзе дамоў адна.

У скверы, як бы прадчуваючы нядобрае, яна не ідзе па абледзянелай ацэментаванай дарожцы, а затуляецца за куст бэзу. І адразу з рэстарана выскоквае Вастрабрамскі. На хаду абмотвае вакол шыі шарфік, зашпільвае паліто. Хуткім крокам выдыбае па дарожцы.

У Тамары Іосіфаўны салодка замірае сэрца: яе шукае Вастрабрамскі. Значыць, надзеі яе небеспадстаўныя. Разабраўся, значыць, Вікенцій Львовіч, хто такая Раіса. Са свайго патайнога сховішча Тамара Іосіфаўна, аднак, не паказваецца. Дакрочыўшы да праспекта, Вастрабрамскі вяртаецца назад. Нырае ў рэстаран. Тамара Іосіфаўна, як бы што страціўшы, ідзе на аўтобусны прыпынак.

Тыдзень ці два Тамара Іосіфаўна, прыйшоўшы ў інстытут, чакае тэлефоннага званка ці якога-небудзь іншага знаку ад Вастрабрамскага. Але ён маўчыць, ніякіх захадаў дзеля сустрэчы з ёй не робіць. Ну, што ж. Відаць, так і трэба...

Першыя гады яны з Андрушкевічам жывуць добра. Нават вельмі добра. З грашамі ў іх, праўда, скупавата. Але не ў адных грашах шчасце.

Тамара Іосіфаўна іншы раз папракае Андрушкевіча Алімпіядай, той самай верціхвосткай з Клінска, з якой ён ледзь не ажаніўся. Хоць, калі шчыра гаварыць, ёй да былой мужавай каханкі няма ніякай справы. Яна абыякавая да яе, успамінае невядомую, ніколі не бачаную асобу таму, што ўгадвае ў ёй ляльку, падобную да Раі Тутабаевай.

Болю няма, цяпер яна жыве побач з Вастрабрамскім і чым далей, тым болей успамінае яго толькі з ціхім смуткам. Яе хвалюе, радуе, што ён шукаў яе ў памятны снежаньскі вечар у скверы. Іншы раз у яе ўзнікае жаданне схадзіць на кватэру да Вастрабрамскага, паглядзець, як жыве яе саперніца з Вікенціем Львовічам. Але яна адганяе гэтае жаданне. Яна не ўпэўнена ў самой сабе і не хоча траціць тое, што мае. Андрушкевіч — і чалавек, і муж някепскі. У той дзень, калі яна спаткалася з Раісай, ад яе позірку не схавалася, што Раіса як бы нават з зайздрасцю глядзіць на яе абранніка.

Раіса жыве ў выдатным, прыгожым доме на шырокім праспекце. Тамара Іосіфаўна іншы раз праходзіць міма гэтага дома. Тым часам ні Раісы (яна працуе ў школе), ні Вастрабрамскага ні разу не спатыкае.

Яны з Андрушкевічам пакуль што туляцца на прыватных кватэрах. І першы, і другі дамок пры рацэ, мясціны нагадваюць Слабодку, дзе нарадзілася Тамара Іосіфаўна.

Работа, якой займаецца, падабаецца Тамары Іосіфаўне. У Інстытут удасканалення настаўнікаў на два-тры месяцы, нават на паўгода прыязджаюць людзі з глушы, якія мала што бачаць і кругагляд якіх трэба пашыраць. Яна арганізоўвае для іх выступленні пісьменнікаў, артыстаў, іншых выдатных асоб. І сама з цікавымі людзьмі знаёміцца.

Нараджаецца сын, праз два гады — дачка. Тамара Іосіфаўна адчувае сябе ў росквіце жаночай прывабнасці. Іншы раз яна ловіць на сабе зацікаўленыя позіркі незнаёмых мужчын, а мужчыны, з якімі яна разам працуе, адараюць яе кампліментамі. Гэта падабаецца, радуе, кружыць галаву. Тамары Іосіфаўне іншы раз здаецца, што яе жаночае шчасце наперадзе. Паўстае даўні, народжаны яшчэ дзіцячымі гадамі прывід белага джыгіта на белым кані. Дзе, калі яна сустрэне свайго сапраўднага джыгіта і хто ім будзе?..

Без яе віны бясхмарнае сямейнае жыццё канчаецца. Адна за другой выбухаюць дзве агідныя гісторыі. У той час, калі Тамара Іосіфаўна бегае на работу, няньчыць малых дзяцей, выбіваючыся з сіл, ахоўвае сямейнае гняздо, ёй здраджвае муж. Едзе на поўдзень, у санаторый, і — святы праведнік — знюхваецца там з нейкай новай нікчэмнай верціхвосткай. Яшчэ муж дадому не прыехаў, а да Тамары Іосіфаўны прылятае з санаторыя ліст без подпісу, у якім, аднак, падрабязна абмаляваны любоўныя прыгоды яе праведніка. Верціхвостка, якая так лёгка падкацілася да мужа, адразу паўстае ў вачах Тамары Іосіфаўны ў вобразе ненавіснай прыгожанькай лялькі, адной з тых, хто адбівае жаніхоў і пераманьвае да сябе жанатых мужчын.

Як лютуе Тамара Іосіфаўна, як пачынае ненавідзець Андрушкевіча! Яе, невінаватую, сумленную, распякаў за Клязьбіча, апаганіў гады іх знаёмства, збліжэння, якія маглі быць

зусім іншыя. Ён, відаць, і той невядомай Алімпіядзе дапёк. Нездарма ў апошнюю хвіліну перадумала і выскачыла замуж за другога. Хіжы тып, нягоднік! Гаварыў высокія словы пра каханне, вернасць, а сам за першай спадніцай, што матлянулася перад вачамі, пабег...

Бяда не ходзіць адна. У тыя дні, калі Тамара Іосіфаўна з усім імпэтам бурлівай натуры распякае Андрушкевіча за здраду, з чыгуначнага гарадка, дзе ён нарадзіўся, вырас, у парткам універсітэта прыходзіць ліст аб яго ганебных паводзінах падчас нямецкай акупацыі. Зноў як бы пачынаецца тое, што ўжо было некалькі гадоў назад у Вярэмічах. Толькі тады Тамара Іосіфаўна была вольная птушка. Цяпер жонка гэтага слізняка і нягодніка.

Можа, упершыню гэтак балюча, востра адчувае Тамара Іосіфаўна, як зняважан яе гонар, годнасць, жаночыя пачуцці. Вастрабрамскі, вядома, расказаў Раісе пра пісьмо ў парткам. Яна халадзее ад думкі, што яе саперніца задаволена пасміхаецца, цешыцца прыемнай для яе навіной.

Цяпер Тамара Іосіфаўна вінаваціць мужа нават за тое, за што раней хваліла. Так, ён прыстасаванец, хісткі, хліпкі чалавек. У Вярэмічах вёў раскопкі, збіраў каменныя тапары, нажы, наканечнікі стрэл. Пісаў дысертацыю пра старажытныя славянскія плямёны. Нечакана перакінуўся на зусім іншую тэму. За які-небудзь год напісаў і абараніў дысертацыю пра аднаўленне разбуранай вайной гаспадаркі. Якая гэта гісторыя?..

Тамара Іосіфаўна іншы раз робіць спробы чытаць артыкулы, якія даволі часта друкуе муж. Але ніколі ніводнага не можа дачытаць да канца. Напісаны яны невыразна, нудна, а галоўнае, пра тое, што даўно ўсім вядома.

Дасланым у парткам лістом займаецца член парткама Юрый Анучанка, які працуе на той жа, што Андрушкевіч, кафедры. Займаецца доўга, карпатліва, выязджае ў Клінск, апытвае розных людзей. Абвінаваўчы матэрыял не пацвярджаецца. Але хітры звер Анучанка! Праверку ліста расцягнуў на ўвесь той час, пакуль ва ўніверсітэце дзеляць шматкватэрны дом, які нарэшце пабудавалі. Можна так сказаць: кватэру, якую меўся атрымаць кандыдат навук Андрушкевіч, перахоплівае Анучанка, які нават не мае вучонай ступені.

Усе гэта бачаць, але маўчаць.

Змізарнеў, зблажэў Андрушкевіч. Ён зусім не падобны да таго адчайна-смелага хлопца, які паступаў у лётнае вучылішча, лятаў, на станцыі ў Клінску быў завадатарам, калі ўзрывалі агромністы нямецкі склад боепрыпасаў, выбавіўся з палону, з нямецкай турмы, паранены збег з нямецкай бальніцы. Ён цяпер спалоханы, прыніжаны, прыбіты. Такім здаваўся Тамары Іосіфаўне бацька, калі вярнуўся пасля вайны з палону.

Усё можа дараваць жанчына мужчыну, толькі не такую вось прыніжанасць, прыбітасць, рабскую пакорлівасць...

Разам з Тамарай Іосіфаўнай у Інстытуце ўдасканалення настаўнікаў працуе жонка Юрыя Анучанкі, шустрая чарнявая змейка з доўгім языком. Кожны дзень яна нашэптвае жанчынам інстытута, як ідзе разбор Андрушкевічавай персанальнай справы.

Дзіўнае жаночае сэрца. Юрый Анучанка вельмі непрыгожы, нават брыдкі з твару. Неразумны, не вельмі здольны, не скажа трапнага слова. Але ён як бы перамог Андрушкевіча, перахапіў ягоную кватэру, і Тамара Іосіфаўна цягнецца да яго. На чарговай вечарынцы ў Дзень Канстытуцыі танцуе з ім, прыязна, прызыўна яму ўсміхаецца. Разгарачаная, выходзіць з ім у сквер. Бавіцца там, бадай, гадзіну. Прыбіты, прыніжаны Андрушкевіч нічога не заўважае, без меры п’е. Чарнявая змейка, жонка Анучанкі, аднак, усё заўважае і разумее. Шалее ад злосці...

## XIII

Пляж як бы складаецца з дзвюх палавін. Па той, што ўпрытык прылягае да мора, вандруюць напаўапранутыя курортнікі, бухаюць у валейбольны мяч загарэлыя да чарнаты хлопцы і дзяўчаты, пішчаць, корпаюцца ў пяску дзеці. Бліжэй да крутога, абрывістага, наўсцяж засаджанага дрэвамі берага, якім канчаецца пляц санаторыя, пясчаная тэраса.

У пасляабедзенны час, пасядзеўшы дзве ці тры гадзіны за пісьмовым сталом, Андрушкевіч кіруе сюды. Вузкая пясчаная тэраса аддзелена ад астатняга шматлюднага і гаманлівага пляжа невысокімі і не надта густымі ракітавымі кустамі.

Андрушкевіч рассцілае пад кустом дзяружку. Ляжыць, чытае або проста глядзіць на мора. Разы са два ён выбіраецца купацца, паплаваўшы, стаміўшыся, вярнуўшыся пад ракітавы куст, іншы раз нават засынае.

Гэта адпачынак. Ён дае сілы не толькі на штодзённыя дзве-тры старонкі, а і на наступныя доўгія месяцы, якія будуць запоўнены бясконцымі сходамі, пасяджэннямі, лекцыямі і даволі рэдкімі, вольнымі ад службовых клапот днямі, калі можна сесці за пісьмовы стол.

Мора — сіне-шэрае, спакойнае, ляніва набягае на пакаты пясчаны бераг ледзь прыкметнай нячутнай хваляй.

Стаіць ліпень, і аж звініць узбярэжжа галасамі. Маладыя, з бронзавым загарам хлопцы і дзяўчаты гуляюць у мяч, перакідваюць яго, бухаючы іншы раз як у пустую бочку. Дзень гарачы, яшчэ і цяпер вандруюць па ўзбярэжжы распранутыя да трусоў, да бюстгальтараў, панталонаў мужчынскія, жаночыя фігуры. Ёсць сярод іх такія, што не выстаўляць, а, бадай, хаваць варта зыначаную за жыццё прыроду: тонкія, з набраклымі сінімі жыламі ногі, рукі, гусіныя шыі, распоўзлыя постаці, адвіслыя жываты, бёдры.

На беразе згрэбены ў кучы водарасці. Пейзаж псуе грузавік са спецыяльна абсталяваным кузавам, які вывозіць гэтыя кучы. Чырвоны шар сонца нарэшце навісае над морам. Вось-вось ён схаваецца за гарызонт. Але цемень не наступіць. Яшчэ доўга будзе панаваць над морам, пясчаным берагам светла-шэрая празрыстасць вечара і пачатку ночы.

Андрушкевіч вяртаецца ў пакой. Павячэраўшы, выходзіць на балкон, паўзверх соснаў, якія вершалінамі сягаюць шостага паверха, глядзіць на мора. Прыгожае, нібы казачнае ў гэтую часіну мора.

Добра пражыў апошнія гады Андрушкевіч. Вядома, добра ў сэнсе бытавым, бо ў душы панаваў пякельны разлад.

Пасля таго як ён атрымаў чатырохпакаёвую кватэру і памёр бацька Тамары Іосіфаўны, Марыя Васільеўна, маці жонкі, невысокая, рухавая, з задуменным маршчыністым тварам, пераехала да іх у Мінск. Цудоўнай душы чалавек Марыя Васільеўна. Добра раслі дзеці пад яе наглядам, ды і ён, Андрушкевіч, нібы ўваскрэс.

Апошні час ён стаў прыхворваць. Па начах душыць яго надрыўны кашаль. Цела пакрываецца ліпкім потам. Як можа лечыць яго markdown рознымі травянымі настоямі Марыя Васільеўна. Кашаль, аднак, не мінае.

Аднак і Марыя Васільеўна не ў сіле выбавіць Андрушкевіча ад душэўных пакут. Яны пачаліся даўно, і канца ім не відаць. Невыносным цяжарам навальваецца на Андрушкевіча адкрыццё, што яго Тамара, якую, нягледзячы на згрызоты, сумненні, што вынікалі да жаніцьбы, ён лічыў жанчынай высакароднай, ледзь не ідэальнай, здольна захапіцца другім чалавекам. Захапляецца, аднак. Тоіцца, хаваецца ад мужа, якога гэтак упарта дамагалася. Апошняе даводзіць Андрушкевіча да шаленства. Не ён за Тамарай хадзіў, угаворваў, упрошваў. Ён хістаўся, сумняваўся, яна яго супакойвала: так можна назваць іх адносіны да жаніцьбы. Сваёй адданасцю, самаахвярнасцю яна як бы перакрывала яму дарогу да другіх жанчын.

Вось яно, жаночае крывадушша, непастаянства, здрадлівасць. Другі раз спатыкае Андрушкевіча гэткая знявага. З Алімпіядай ён развітаўся хутка і рашуча: як тапаром адсек. Цяпер так не зробіш. У яго двое дзяцей, нейкае становішча, перспектыва. Развесціся з жонкай, пакінуць дзяцей — значыць перакрэсліць будучыню.

Тым часам крыўда, падазрэнне, рэўнасць асталяваліся ў ягонай душы моцна і надзейна. Той першы год, калі ён пачаў сумнявацца ў паводзінах Тамары, ён пражыў страшэнна пакутліва. Нічога не пісаў, дый лекцыі чытаў кепскавата. Аднойчы, люта пасварыўшыся з Тамарай, правёўшы бяссонную ноч, ён наогул не здолеў бы прачытаць лекцыю, каб не выратавалі студэнты. Прагаварыўшы хвілін пяць, ён адчуў, што ў роце перасыхае, язык не варочаецца, і ён толькі бязгучна разяўляе рот, як выкінутая з вады на бераг рыба. Чарнявы сімпатычны студэнт, які сядзіць за першым сталом і заўсёды ўважліва слухае ягоныя лекцыі, кідаецца па ваду.

Тамара на рабоце не затрымліваецца, сямейны спакой беражэ, але дома ходзіць задумлівая, панылая, паглыбленая ў самую сябе.

Падазрэнні то гаснуць, як бы затойваючыся на дне душы, то выбухаюць з новай сілай. Але яны хісткія, бяздоказныя, і

найчасцей Андрушкевіч лёгка іх адмятае. Можа, ён паводзіць сябе як страус, які пры набліжэнні пагрозы нібыта хавае галаву ў пясок. Але ў адваротным выпадку Андрушкевіч не здолеў бы нават дзень пражыць з Тамарай Іосіфаўнай...

У доме не спыняецца лаянка.

Аднойчы Андрушкевіч спатыкае Клязьбіча, размаўляе, дазнаецца, што ён ужо тры гады працуе ў горадзе дырэктарам прафесійна-тэхнічнага вучылішча. Як у маладыя гады, зноў апаноўвае Андрушкевіча лютая рэўнасць. Ён нібы на мяжы вар'яцтва і лічыць, што Тамара, як у Вярэмічах, спатыкаецца з Клязьбічам...

Горш за ўсё, што ад штодзённых допытаў, якія ўчыняе Андрушкевіч жонцы, яе папрокаў, слёз, лаянкі пакутуюць дзеці. Яны падрастаюць і ўсё пачынаюць разумець.

У адзін з тых пакутлівых гадоў, узяўшы адпачынак, Андрушкевіч едзе ў Форас, на самы паўднёвы рог Крыма. З вычытанага ён ведае: разгромленыя гунамі, акружаныя, падначаленыя іншым вандроўным народам, там тры-чатыры стагоддзі жылі рэшткі готаў і Форас быў накшталт іх неафіцыйнай сталіцы. У ягоных пакутах, сумненнях, развагах бярэ верх зусім цвярозая думка: трэба працаваць. Інакш — пагібель. Толькі штодзённае сядзенне за сталом, напісаныя дзве-тры старонкі прыбаўляюць вагі аўтару ды і на свеце трымаюць. Надрукаваныя кнігі, артыкулы не здрадзяць, не падвядуць. Яны заўсёды твае.

У Форасе размешчан не надта славуты санаторый, і Андрушкевіч без асаблівых цяжкасцей выбівае туды пуцёўку.

Цудоўную ён перажывае восень.

Цесная дарога віецца ўскрайкам гор, то аддаляючыся ад мора, то ўшчыльную да яго набліжаючыся. Выгляд будзённы і ў той жа час як бы святочны. Мора агромністае, светла-сіняе нават у гэтыя асеннія дні, бо яшчэ ярка ззяе ўжо нізкаватае сонца, дорачы зямлі цеплыню і гэтае незабыўнае, як бы нават трохі нерэальнае святло. Раз-пораз трапляюцца вінаграднікі, некаторыя агароджаны драцянымі сеткамі, па міжраддзях павольна ходзяць жанчыны з шырокімі белымі капелюшамі на галовах, кідаючы ў вялікія кашы то светлыя, з жоўта-медзяным адлівам, то цёмна-сінія, як бы ахінутыя белай дымкай гронкі вінаграду.

Горы маўклівыя, зацята-строгія, магутнымі стромымі аграмадзінамі ўзнікаюць адна за другой. На іх амаль няма расліннасці. Бясконца цягнецца шэры базальт, са шчылін якога зрэдку высунецца кусцік дроку з жоўтымі кветкамі. Трапляюцца яшчэ жорсткія, з калючкамі кусцікі, назвы якіх Андрушкевіч не ведае, зараснікі акацыі на скалах, што строма спускаюцца да мора, нізкарослыя сосны з круглымі шапкамі-вярхамі.

Рэдкія пасёлкі, санаторыі туляцца ўнізе, ля самага мора. У далёкім мінулым гэтыя паўдзікія голыя горы, якія аддзяляюцца ад мора толькі вузкай паласкай зямлі, прыдатнай для земляробства, відаць, не надта прываблівалі марскіх падарожнікаў, што паласавалі цёплы Понт Эўксінскі на сваіх галерах.

Былі на ўзбярэжжы Чорнага мора гарады старажытных грэкаў, рымлян — Ольвія, Херсанес,— яны ўзнікалі там, дзе можна было сеяць пшаніцу, гадаваць жывёлу, весці гандаль з вандроўнымі, яшчэ напаўдзікімі плямёнамі.

Форас — маленькі раскіданы пасёлак, над якім, як над усім узбярэжжам, навісаюць шэрыя маўклівыя аграмадзіны гор. Санаторыя фактычна няма: яго карпусы, лячэбніцы, падсобныя памяшканні толькі пачынаюць будаваць. У трох ці чатырох флігелях, размешчаных вакол напаўразбуранага палаца, знаходзяць прытулак курортнікі і ўся гаспадарка санаторыя.

Курортнікаў чалавек сорак: харчуюцца ў невялікім, нібы дамашнім, зальчыку, блукаюць па засаджаным платанамі, магноліямі, таполямі, акацыямі, дубамі парку. Стаіць лістапад, але яшчэ цёпла, сонечна, дрыжыць над узбярэжжам мора сінявататая намітка смугі. Некаторыя найбольш загартаваныя мужчыны і нават жанчыны яшчэ купаюцца ў моры.

Андрушкевіч не купаецца: прыехаў хворы, нямоглы. Начамі не спіць ад прыступаў удушлівага кашлю, вострым болем ные паясніца. Але сонца, цяпло, паветра, напоенае пахамі гор і мора, робяць сваю добрую справу. Праз тыдзень-два паясніца перастае балець і кашаль суцішаецца. Як і астатнія курортнікі, Андрушкевіч вандруе па парку, па марскім беразе, густа засыпаным галькаю.

Ён і сяброўку сабе падшуквае: з ліку жанчын, якія не купаюцца. Вясёлую, смяшлівую інжынерку з Харкава завуць

Надзя — яна толькі месяц назад выйшла замуж. Па ўсіх прыкметах, Надзя задаволена жыццём, мужам, работай на заводзе, з Андрушкевічам пахаджвае, каб як-небудзь прабавіць час. Ён падабаецца ёй як цікавы субяседнік. На чужых мужчын Надзя не глядзіць, любоўных прыгод не шукае.

У душы Андрушкевіча як бы нараджаецца зайздрасць да Надзі. Тым болей, што буйной фігурай, добразычлівасцю, нават тварам, голасам яна нагадвае Галю Машчынскую, яго аднакласніцу, якая ў адрозненне ад Алімпіяды ім цікавілася. Толькі ён, на жаль, на Галю зварачаў мала ўвагі: свет засланіла Алімпіяда.

Галя была на вайне, вярнулася ў Клінск, працавала ў райкаме партыі. Чамусьці яна не паступала ў інстытут. Ведаючы, што ён вучыцца на гістарычным факультэце і што студэнтам не хапае падручнікаў, Галя знайшла для яго два самыя патрэбныя. Сустракаючы Андрушкевіча на вуліцы, яна заўсёды запыняла яго, распытвала, як жыве, як ідуць справы. А ён з ёй нават у кіно не хадзіў.

Прыгожа-самавітая Галя не магла доўга хадзіць па Клінску незаўважанай. Гэта было ясна ўсім, толькі не Андрушкевічу. У сорак шостым ці сорак сёмым годзе з'явіўся ў Клінску незнаёмы маёр, які пазнаёміўся з Галяй, правёўшы з ёй некалькі вечароў, доўга не вагаўся: прапанаваў руку, сэрца, звадзіў у загс і звёз дзяўчыну некуды на Поўнач.

Вось такую, і, на жаль, не адзіную памылку зрабіў у сваім жыцці Андрушкевіч.

Пісем ад Тамары няма, адчужэнне паміж Андрушкевічам і ёй працягвае нарастаць. Штодзень пахаджваючы з Надзяй, Андрушкевіч адчувае, як усё болей вабіць яго гэта спакойнаўраўнаважаная, смяшлівая жанчына. У ягоным пачуцці, што так нечакана выбухнула, ёсць нават доля помсты Надзі: у яе ўсё добра, складна, правільна, а ён нібы ля разбітага карыта...

Цудоўнае надвор'е стаяла ў тую восень. Вабіць позірк, выклікае асаблівыя пачуцці нізкае, але гарачае сонца, сіняе неба і сіне-блакітнае мора.

Пахаджаючы з Надзяй па старым парку, дзе ўзвышаюцца, нібы пікі, завостранымі вершалінамі вечназялёныя кіпарысы, трапляюцца такія ж зялёныя лаўры, пальмы, Андрушкевіч

расказвае сяброўцы пра бясконцых насельнікаў паўвострава, што на працягу вякоў змянялі адны другіх. Нібы хвалі, што набягаюць на марскі бераг.

Паміж лаўраў, кіпарысаў трапляюцца дубы, таполі, іншыя дрэвы, што растуць на Поўначы. З іх ападае лісце, шасціць пад нагамі.

Надзю зацікаўлівае апавяданне пра готаў, ваяўнічы вандроўны народ, узгадаваны між суровых скал Скандынавіі. Пераплыўшы сцюдзёнае Паўночнае мора, перабраўшыся на кантынент, народ гэты ў многіх мясцінах Еўропы засноўваў дзяржавы, дынастыі. Але нідзе не замацаваўся, не пусціў глыбока каранёў.

Тут, у Форасе, была сталіца ўсходніх готаў, праўдзівей, тых нешматлікіх рэшткаў народа, якія ацалелі пасля нашэсця гунаў.

Гэта былі слабыя готы: яны падпарадкоўваліся, плацілі дань усім вандроўнікам, што захоплівалі Крым: печанегам, полаўцам, туркам, пакуль не растварыліся між тутэйшых плямён...

Надзя паехала, і адразу псуецца надвор'е. Па небе плывуць шэрыя, нудныя воблакі, хаваючы ў сваім хісткім мроіве вяршыні голых панылых скал. Льюць бясконцыя абрыдлыя дажджы. На Андрушкевіча нападае бяссонніца. Начамі ён выходзіць з дамка, стаіць на крытым ганку, слухае, як плюскоча дождж, шуміць вецер у вершалінах кіпарысаў, голых сухіх дубоў.

Ён думае пра Надзю, вобраз якой губляецца, раздвойваецца, паўстаючы найчасцей у знаёмым вобліку Галі Машчынскай. Ён падабаўся ёй, і яна магла стаць яго жонкай. Нават хацела гэтага Галя. Чаму ён яе адштурхнуў? Цяпер ён бачыць: іменна такая жанчына яму патрэбна. Ясная, празрыстая, без двайнога дна. Галю ён не заўважаў, бо была Алімпіяда. Ці ёсць тады сэнс у юнацкім каханні? Наогул у каханні?..

Андрушкевіч з галавой кідаецца ў працу. Там, у Крыме, пасля ад'езду Надзі Андрушкевіч пачаў пісаць кнігу пра ранніх славян. Не, ён не здрадзіў сабе, сваёй мары. Можа, нават добра, што тады, калі быў у стацыянарнай аспірантуры, перамяніў тэму дысертацыі. Што ён тады ведаў пра

старажытных славян? Пра іх суседзяў — грэкаў, фракійцаў, балтаў, готаў? Цяпер сёе-тое ведае. Ён проста любіць старажытных славян, далёкі старажытны свет, загадкавы, таямнічы. Карэнні сённяшняга жыцця ў тым далёкім свеце...

Ён пісаў сваю кнігу пра славян у выхадныя ды яшчэ ў тыя вольныя дні, калі студэнты здаюць экзамены ці іх пасылаюць на бульбу...

Будзь благаслаўлёна лясная спартыўная школа, размешчаная пад Мінскам у густым сасновым і яловым лесе! Школа ўяўляе ладны двухпавярховы дамок, збудаваны высокім начальнікам пад асабістую дачу. Начальніка з пасады знялі, падлічылі яго прыбыткі, выявіўшы, што ён мусіў гадоў дзесяць не есці і не піць, каб на ўласную зарплату ўзвесці двухпавярховую хароміну.

Такім шляхам дача адышла пад спартыўную школу. З другой палавіны снежня па першую палавіну студзеня, калі студэнты здаюць экзамены, сюды прыязджаюць адпачыць выкладчыкі.

У спартыўнай школе дванаццаць пакойчыкаў, і ў кожным з іх па два тыдні ці нават па месяцу жыў Андрушкевіч. Бегаў на лыжах ці проста так вандраваў па заснежаных сцежках, глядзеў на чыстыя зімовыя зоркі, дыхаў чыстым лясным паветрам і пісаў, пісаў свае старонкі...

## XIV

На трэці дзень знаходжання ў санаторыі Андрушкевіч спатыкае Яна Мітуся, калегу і таварыша па ўніверсітэце. Мітусь — сярэдняга росту, чарнявы, шчуплы. У адрозненне ад марудлівага Андрушкевіча, рухавы і шустры, як яшчарка. Бацька, дзед Мітуся былі дробныя шляхцюкі — не мелі ні гаспадаркі, ні адукацыі,— але нейкія прывычкі ён ад іх пераняў: надзвычай ахайна, шчыгульна апранаецца і наогул уважліва сочыць за знешнасцю.

Мітусь, як і яго жонка Сцепаніда Тарасаўна — вышэйшая за мужа і значна мажнейшая,— моваведы. Ён займаецца гісторыяй мовы, жонка — дыялекталогіяй. Гэта не перашкаджае ім пад прозвішчамі Я. Ф. Мітусь (Ян Францавіч)

і С. Т. Мітусь сумесна выдаваць і перавыдаваць падручнікі, дапаможнікі, проста кнігі, прысвечаныя самым розным пытанням мовазнаўства.

Андрушкевіч, убачыўшы таварыша, радуецца. Хоць і нейкі неспакой адчувае. Ён чакае Ірыну, спадзяецца, што яна завітае да яго ў пакой, і нізавошта не скажа пра гэта таварышу. Ян Францавіч яго проста не зразумее.

— Расцеш пераважна ўшыркі,— аглядваючы калегу, трохі насмешліва прамаўляе Мітусь.— Гвардзеец. Жывот вялікі, а вусоў няма.

— Гвардыя спісана, брат, у абоз. Нават ваенны білет адабралі.

Мітусь займаецца старажытнымі славянамі, і Андрушкевіч займаецца імі. Хоць калегі вывучаюць прадмет як бы з розных бакоў. Але пунктаў сутыкнення многа. Гэта ў нядаўнім мінулым нарадзіла такую іх блізкасць, якую нават цяжка ўявіць у мітуслівым гарадскім жыцці. Штодзень Андрушкевіч і Мітусь вандравалі адзін да другога, прыносілі фотакопіі артыкулаў, старых, рэдкіх і новых, навейшых кніг, якія цяжка дастаць і ў якіх ёсць хоць кропля новага пра старажытных славян.

З'яднала іх, аднак, не толькі гісторыя, а і любоў да прыроды, бясконцыя вандроўкі ў лес. Эх, лес, лес!.. Вялікае месца займае ён у жыцці Андрушкевіча і Мітуся таксама. Можа, таму, што абодва яны нарадзіліся, выраслі ў малых, ціхіх гарадках, з цяжкасцю прывыкалі да Мінска, які недзе з канца пяцідзясятых гадоў імкліва разварочваўся як індустрыяльны гігант.

Абмяркоўваючы кожную новую кнігу, артыкул, прысвечаныя старажытным славянам ці народам, з якімі славяне сутыкаліся за гісторыю,— готам, гунам, фракійцам, татара-манголам,— Мітусь і Андрушкевіч, бадай, ніштавата вывучылі прылеглыя да горада лясы — заслаўскія, слуцкія, лагойскія. Тым болей, што Заслаўе, Слуцк, Лагойск у не такім далёкім мінулым былі гарады знакамітыя.

Апошнія гады дружба Андрушкевіча з Мітусем паслабела. Цяжка адшукаць прычыну. Можа, у тым справа, што Андрушкевіч зрабіўся доктарам, прафесарам, Мітусь жа як

быў, так і застаўся дацэнтам. Можа, прасцей усё: з таго часу, як на Ленінскім праспекце вырас новы, у сучасным стылі гмах універсітэта, гісторыкі і філолагі праводзяць заняткі ў розных будынках. Між сабой не сутыкаюцца. Гісторыкі амаль не вывучаюць філалагічнай навукі, філолагі — гістарычнай.

Андрушкевіч пытае:

— Ты Дзюмезіля чытаў? Пра вярхоўных багоў індаеўрапейцаў. Кніга ў Парыжы выйшла. Яшчэ не перакладзена.

— У цябе ёсць? — Ян Францавіч загараецца.

— Ёсць.

— Што там новага?

— Дзюмезіль даказвае, што, ідучы ў Азію, Індыю, частка індаеўрапейцаў збілася з тропу і павярнула на Блізкі Усход. Дык вось табе: імёны біблейскіх багоў, нават назва Іерусаліма тлумачыцца індаеўрапейскай мовай.

— Братка ты мой! — Мітусь прыходзіць у незвычайнае захапленне.— Гэта ж сапраўднае адкрыццё! Закон Архімеда. Ты гэтай кнігі з сабой не прывёз?

— Не прывёз...

Калі Мітусь узрушваецца, узбуджаецца, то гаворка надоўга. Ён тады аж кіпіць: крочыць, размахвае рукамі, прыцягваючы да сябе ўвагу тых, хто праходзіць міма. Трэба супакоіць Мітуся, і Андрушкевіч робіць дыпламатычны ход.

— Ты са Сцепанідай Тарасаўнай прыехаў?

Твар Мітуся хмурнее.

— Занядужала Сцепаніда Тарасаўна. Дыябет. Кажуць, ён не вылечваецца.

— Ад дыябету не паміраюць,— супакойвае таварыша Андрушкевіч.— Добра, што сустрэліся. Паходзім, пагаворым...

Андрушкевіч нібы ўвачавідкі бачыць Сцепаніду Тарасаўну, буйнацелую, суровую з твару, уладную па характары, якую нязменна прывозіць у Прыбалтыку Мітусь. Ён нават трохі зайздросціць таварышу, у якога такое добрае грунтоўнае сямейнае жыццё.

— Пагаворым,— Мітусь весялее.— Пайду на пошту. Пазваню дадому. Калі не ўдасца, то хоць тэлеграму пашлю...

Апошні раз Андрушкевіч меў з Мітусем болей-меней працяглую гаворку ў Кішынёве, на канферэнцыі, прысвечанай

кімерыйцам, фракійцам і дакам. Мінуў з той сустрэчы год, і за гэты час Ян Францавіч таксама пакруглеў і патаўсцеў, а лысіна на яго круглай, як гарбуз, галаве яшчэ больш пашырыла абсягі, цалкам зліўшыся з высокім пакатым ілбом. Узрост бярэ сваё. Мітусю таксама пераваліла за пяцьдзясят.

Андрушкевіч рад сустрэчы. Мітусь весялун, умее іграць на акардэоне, спяваць пад гітару, пры выпадку можа чарку кульнуць. Той, хто не ведае Мітуся, можа прыняць яго за звычайнага гуляку, які найбольш любіць выпіўку, танцы, іншыя жыццёвыя ўцехі. Але гэта далёка не так...

Андрушкевіч думае пра тое, што адзін Мітусь вялікай небяспекі не ўяўляе. Калі б калега прыехаў з жонкай, прыйшлося б хадзіць да іх у госці, ездзіць у рыжскія тэатры і наўрад ці схавалася б ад праніклівага вока Сцепаніды Тарасаўны захапленне Андрушкевіча чужой маладой жанчынай...

Так, сапраўды, нічога кепскага не здарылася. Ірына прыедзе праз тры ці чатыры дні. Кватэра яе гаспадыні далёка — праз пяць прыпынкаў электрычкі ад ягонай станцыі. Ніхто з тых, хто адпачывае ў тутэйшым санаторыі, туды не забрыдае. Вядома, у Андрушкевіча ёсць намер запрасіць Ірыну да сябе. Яны дамовіліся, што яна прыйдзе да яго, як толькі прыедзе. Не будзе бяды, калі Мітусь нават убачыць Ірыну. Да мужчын, якія адпачываюць у санаторыі, часта прыходзяць чужыя жанчыны.

Назаўтра Мітусь з Андрушкевічам кіруюць у Рыгу.

Лета ў разгары. Міма чыгункі цягнецца рака, не вельмі шырокая, у нізкіх берагах, мільгаюць сасоннікі, бярозавыя пералескі, у прамежках між лесам поле, на якім палавее жыта, каласіцца ячмень, пшаніца, буяе ўсялякая зяляніна. Малюнкі звычайныя, будзённыя, але яны да болю кранаюць сэрца.

Андрушкевіч думае пра Клінск, пра таварышаў, якіх нядаўна пабачыў, пра блакнот ваеннага журналіста, які ён час ад часу гартае.

— Часта бываеш дома? — як бы ўгадваючы думкі Андрушкевіча, пытае Мітусь.— На сваім Палессі?

— Рэдка. Хоць мог бы часцей ездзіць. У маці асобная кватэра. Жыве з маёй сястрой. Сядзі, пішы...

Андрушкевіч міжволі задумваецца. Чаму ён рэдка ездзіць у Клінск? Ён любіць свой гарадок, перад яго мысленным позіркам, асабліва калі не спіцца, паўстаюць вуліцы, завулкі, разлеглая станцыя, лясы, якія акружаюць гарадок,— тыя малюнкі, якія ён запомніў, калі быў малады і якіх цяпер фактычна няма. Між тым бываць у Клінску яму балюча. Чаму? Можа, таму, што ў душы яшчэ не развеялася крыўда, якая пячэ з маладых гадоў. У Клінску ад яго адвярнулася Алімпіяда, нанёсшы першы ўдар яго ружовым ілюзіям. Найцяжэй, вядома, успамінаць тое, што натварылі фашысты. Па дарозе ў сасновы бор, куды любіць хадзіць Андрушкевіч, некалі быў бярозавы гаёк, вынішчаны цяпер дашчэнту. У тым гайку фашысты расстрэльвалі жыхароў гарадка, у тым ліку таварышаў Андрушкевіча.

Ягонай асабістай віны няма ў гэтым, але яму цяжка, вельмі цяжка праходзіць міма агароджанай невысокім парканчыкам, з някідкім каменным абеліскам магілы...

І яшчэ вярэдзяць душу пасляваенныя справы. Тое, як доўгі час абыходзіліся з падпольшчыкамі...

Мітусь між тым пахваляецца:

— Я часта езджу ў Агароднікі. Кожнага тыдня. Сяду ў «жыгулі», трохі пасвішча вецер у вушах — і дома. Чытаю, пішу...

Шчаслівы чалавек Мітусь. Абмінуў яго той вір, які гэтак адчайна, балюча круціў Андрушкевіча.

— У гарадку дом твайго бацькі?

— Мы былі бедныя. Вандравалі па чужых кватэрах. Свайго дома не мелі. Гэта я ў цешчын дом езджу. Яна завяшчала яго нам. Дамок мураваны. Рэчка блізка. Вада чорная, тарфяная, цёплая...

— Прызнайся, Ян Францавіч,— нечакана пытае Андрушкевіч,— калі ты закахаўся ў Сцепаніду Тарасаўну?

— Тут няма ніякай тайны. У восьмым класе.

— Ажаніўся з ёй і другія жанчыны цябе не вабяць?

— Не вабяць.

— Цяпер слухай, шчаслівы чалавек. Жонку ты любіш, прыязджаючы ў гарадок, яднаешся з тым, што любіў з дзяцінства. Са знаёмымі вуліцамі, дамамі, лесам, полем. Галоўнае —

з людзьмі, якіх памятаеш. Поўная гармонія. Тым часам гармонія — ураўнаважанасць супярэчнасцей. Калі хочаш — застыгласць. У цябе ўсё ёсць. Таму ты нічога не хочаш. Не раздвойваешся, не пакутуеш...

Твар Мітуся хмурнее.

— Ты д'ябал. Прыгнятаеш, давіш мяне. Таму я ад цябе ўцёк. Сам думаў пра гэта. Толькі ты памыляешся. Пакутую я, брат, страшэнна. Ад таго, што пішаш, пішаш і ніхто тваёй работы не заўважае...

Андрушкевіч змаўкае. Мітусь гаворыць якраз тое, што ў яго самога набалела. Нягледзячы на самаахвярнасць, адданасць кнігам, навуковым вышукам, штодзённай пісаніне, заоблачных вышынь Андрушкевіч таксама не дасягнуў. Радавы доктар навук, якога, акрамя студэнтаў гістфака, мала хто ведае. То ці варта гэтак зацінацца, быць гэтакім схімнікам? Маладосць мінула даўно, і што асаблівае ён бачыў? Пакутаваў, раўнаваў жонку. Невядома яшчэ: хто каму сапсаваў жыццё? Яму жонка ці наадварот?..

— Скажу табе вось што,— сумна працягвае Андрушкевіч.— Мы не эстрадныя спевакі, не славутыя пісьменнікі, у якіх бяруць аўтографы. Мы як земляробы. Тыя, што выконваюць свой штодзённы абавязак, кормяць нас хлебам, і ніхто іх за гэта асабліва не хваліць. Вот так трэба жыць. Падкідваць дровы ў цяпельца навукі. Каб яно не пагасла...

— Так-то яно так. Але калі якая-небудзь бяздарнасць кіруе разумным чалавекам, нават топча яго, то запяеш Лазара...

— Трэба трымацца.

— Вядома, трэба. Тым часам усе мы хібім. Падсвістваем тым, хто над намі. Ты таксама не анёл. Пачынаў з навукі, споўз у кан'юнктуру...

Андрушкевіч не крыўдуе.

— Так здарылася, брат. Ведаеш сам: да аспірантуры я працаваў завучам. Меў добры заработак. Вось чаму схібіў. Час жаніцца, заводзіць сям'ю. Дысертацыяй, аднак, не пахне. Што мог я тады напісаць пра старажытных славян? Нічога. Значыць, ні зарплаты, ні кватэры. Пакінуў да часу славян. Ты не быў на вайне, не разумееш. Тое, што я пісаў, было

мне таксама блізка. Я вайну прайшоў, бачыў, як пасля вайны падымаліся вынішчаныя вёскі, гарады, самую вайну бачыў...

— Я люблю тваю кнігу пра аднаўленне. І пра першую пяцігодку. Толькі працяг трэба. Напішы пра другую пяцігодку, пачатак вайны...

— На ўсё свой час. Цяжка, брат, гісторыкам, якія ўсутык ідуць за падзеямі. Босыя на вогнішчы. Магу пахваліцца. Кнігу пра старажытных славян нарэшце закончыў. Здаў у друк. Праз дваццаць пяць гадоў пасля таго, як пачаў пісаць...

Мітусь аж прысвіствае. Захоплена глядзіць на Андрушкевіча.

— Герой. Нездарма люблю цябе. Скажы: пра тое, што гаварылі з табой, ходзячы па лесе, напісаў?

— Напісаў. Кніга называецца «Славяне на Дняпры і Прыпяці». Але перш, чым гаварыць пра славян, напісаў, што ведаю пра ранніх індаеўрапейцаў, скіфаў, готаў... Пра тое, што ты мне падказаў. Кніга мае невялічкую прадмову. У ёй падзяка некаторым асобам. Табе, у прыватнасці, таксама...

— Дзякую,— Мітусь, як заўсёды, прыходзіць у захапленне.

У вокнах пачынаюць мільгаць высозныя закурэлыя трубы, цагляныя сцены заводаў, заводзікаў, двары, шчыльна застаўленыя бульдозерамі, скрэперамі, аўтамабілямі, трактарамі, вялізнымі драўлянымі коламі з намотанымі на іх рознай таўшчыні ніткамі кабелю. Дымы розных гатункаў падымаюцца ўверх, у сіняе бязвоблачнае неба.

Нарэшце электрычка, прыкметна прыцішыўшы ход, імчыць па жалезным мосце цераз шырокую Даўгаву. На рацэ, асабліва ля берагоў, мноства параходаў, параходзікаў, катараў, баржаў. Ужо відаць старажытныя вежы, плошчы, вузкія вулкі старой Рыгі.

На вакзале Андрушкевіч з Мітусем развітваюцца. Мітусь мае ад Сцепаніды Тарасаўны шэраг заданняў і адразу кіруе ў прылеглыя да станцыі вуліцы, дзе размешчаны магазіны.

Андрушкевіч такіх заданняў не мае, будзе вандраваць па кнігарнях.

Ён любіць Рыгу. Ёсць у ёй чужое, нямецкае, што нібы прынёс у горад каталіцкі біскуп Альбрэхт Мядзведзь, які бо-

лей як сем стагоддзяў назад заклаў на нізкіх балотных берагах Балтыкі горад. Але свайго, блізкага ў Рызе, бадай, болей, чым чужога. У малюнку вуліц, будынкаў, у самой душы горада. Бо балты бліжэй да славян, чым да якіх-небудзь іншых плямён.

Вось праз такія акуляры Андрушкевіч глядзіць цяпер на гарады, паселішчы, наогул на ўвесь белы свет. Нічога не папішаш — гісторык. Прафесія, як флюс, выпірае ў адзін бок.

Андрушкевіч кіруе ў букіністычны магазін, дзе купляюцца і прадаюцца старыя кнігі на замежных мовах. Рыга — асаблівы горад, тут часам натрапіш на кнігу, якую ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве не знойдзеш.

Горача ў Рызе, дымна. Асфальт вуліц нібы расплавіўся пад летнім сонцам. Нягледзячы на багатую зеляніну паркаў, сквераў, цяжка дыхаць.

Букіністычны магазінчык у невялікім напаўцёмным падвальчыку. Тут таксама горача, млосна. Людзей, аднак, многа. Выстаяўшы чаргу, як да гаючай крыніцы прыпадае Андрушкевіч да невялікай паліцы, на якой стаяць нямецкія, англійскія, французскія, польскія кнігі па гісторыі. Ён прадчуваў удачу, і прадчуванне не падвяло: натыкаецца на нямецкую кнігу, выдадзеную ў Дрэздэне ў пачатку мінулага стагоддзя і прысвечаную славяна-гоцкім адносінам.

Нечаканая радасць як бы робіць Андрушкевіча сляпым. Натрапляе на томік Герадота на нямецкай мове, на такі самы, які ён чытаў. Толькі ў новым, незнаёмым пераплёце.

Гарачыня, доўгае стаянне ў падвальчыку робіць сваё. У Андрушкевіча пачынае адчайна тахкаць сэрца. Ён проста палохаецца. Няўжо вярнулася арытмія, якую ён, здаецца, вылечыў яшчэ паўгода назад? Адклаўшы ўбок томік Герадота, Андрушкевіч паспешліва плаціць за кнігу пра славяна-гоцкія адносіны, паспешліва выскоквае з поўнага парнай, вільготнай задухі падвальчыка. Ён блукае, хаваецца ад гарачыні на зацененым баку вуліцы, потым шукае ценю ў парку, пад засенню дрэў. Сэрца пакрысе супакойваецца, уваходзіць у звычайны рытм. У Андрушкевіча раптам мільгае думка, што томік Герадота, які ён трымаў у руках, той самы, што ён чытаў. Здаецца, ён нават уласныя паметкі на палях бачыў. Толькі як знаёмы Герадот трапіў у рыжскі падвальчык?

Шырокая вуліца, якая прылягае да парку і ў якую нібы ўпіраецца вулка з размешчанай на ёй букіністычнай кнігарняй, аж гудзе ад патоку легкавых і грузавых машын.

Каб трапіць у кнігарню, трэба яшчэ раз перабрацца праз вуліцу. Кнігарня, аднак, зачынена на абед.

Абед у санаторыі Андрушкевіч страціў. Але на гэта не зважае. Трэба абавязкова купіць Герадота. Хоць бы дзеля таго, каб пераканацца, што гэта не той экзэмпляр, які ёсць у прыдадзеным кафедры кабінеце, якім загадвае Ірына.

Нарэшце букіністычны падвальчык адчыняецца. Томіка Герадота на тым месцы, дзе яго пакінуў Андрушкевіч, няма. Похапкам, баючыся, што зноў пачнецца бязладнае тахканне сэрца, шукае Андрушкевіч кнігу. Але не знаходзіць.

— Прадалі,— паведамляе Андрушкевічу чорненькая, з запалымі шчокамі прадаўшчыца.

Абед у санаторыі Андрушкевіч страціў, Герадота ўпусціў, затое купіў добрую пішучую машынку. На той жа вуліцы Падам’ю. У магазіне поўна пішучых машынак з алфавітам, заснаваным на кірыліцы. Можа, таму, што сама Рыга друкуе паперы лацінкай...

## XV

Прыязджае Клебановіч.

Ён, як заўсёды, іранічна-насмешлівы, абыякава-паблажлівы. Андрушкевіч ведае: Клебановіч — неблагі па натуры. Можна з ім сябраваць, пакласціся на яго можна. Ён калі што не прымае, то не прымае ўсур’ёз. Кампрамісаў не шукае. Якім бы грозным ні здаваўся працаўнік, якое б кіруючае становішча ні займаў, Клебановіч выступіць супраць яго, калі тое, што высокі таварыш робіць ці гаворыць, пярэчыць уяўленням гісторыка-публіцыста пра справядлівасць.

Разам з тым, як бы трохі аднабокі, залішне самалюбівы Клебановіч. Ніякай крытыкі не церпіць. Сябруе з такімі, як сам.

З юнацкіх гадоў адчуў найвялікшую несправядлівасць Клебановіч. Без ніякай віны, нічога не пабачыўшы на гэтым свеце, меўся прыняць смерць. Можа, таму ён так хваравіта рэагуе на кожнае слова, якое пярэчыць ягоным поглядам,

уяўленням, і так ахвотна сябруе з людзьмі, якія яго найлепш разумеюць.

Твар Клебановіча абветраны, загарэлы. Высокай фігурай, танклявым станам, запалым жыватом ён нагадвае юнака. Хоць на год старэйшы за Андрушкевіча.

— Чуў,— паведамляе Клебановіч,— Цярэшчанка загрымеў. Міністр асветы. Аказваецца, кнігі ягоныя тварыў апарат міністэрства.

Андрушкевіч трохі ведае Цярэшчанку. Тоўсты, прысадзісты, чырванатвары. Ходзіць нібы на дыбачках, нізка кланяецца, лісліва ўсміхаецца начальству. Пад выглядам політэхнізацыі школы адчайна скарачаў міністр у праграмах гадзіны на гісторыю, мову, літаратуру. Беларускую літаратуру пры ім у некаторых школах пачалі выкладаць па-руску...

Андрушкевіч штовечар ходзіць званіць Ірыне. Найчасцей з аддзялення сувязі, што на паўночнай ускраіне пасёлка. Хоць тут, на Балтыйскім узбярэжжы, цяжка гаварыць аб асобных пасёлках. Цягнуцца яны суцэльнай паласой, забудаваны аднолькавымі, пафарбаванымі ў жоўты колер летнімі, без печак і каміноў, дамкамі, наўсцяж атуленымі старымі ліпамі. Пасёлкі можна вызначыць толькі станцыямі, на якіх на хвіліну ці дзве спыняюцца электрычкі.

Да самай Рыгі чыгунка не адступае ад зялёнай курортна-санаторнай зоны. Па другі бок чыгункі рака Ліелупэ, тут яшчэ не надта шырокая, не паўнаводная, але цалкам прыдатная для таго, каб веславаць па ёй на лодках-пласкадонках ці байдарках. За ракой да далёкага сіняватага бору — разлогі сенажацяў. Нават нейкі застарэлы, з саламянымі дахамі будынін хутарок-мыза бачыцца ўдалечыні.

Нізкаватае, падобнае на вялікую драўляную каробку памяшканне пошты атулена разложыстымі ліпамі. Тут заўсёды людна, але перагаворных кабін некалькі, таму дазваніцца да Мінска лёгка.

Ірына, як заўсёды, дома.

— Добры вечар,— чуецца ў трубцы яе меладычны голас.— Я, мабыць, спазнюся. Яшчэ водпуск не аформіла, зарплату не палучыла. Дажджы ў нас. Дзень і ноч. Носа з дому не вытыркнеш.

Болей тыдня ходзіць Андрушкевіч на перагаворны пункт. Тым часам свой прыезд Ірына яўна адцягвае. Шукае розныя прычыны. Дзіўна: ён не вельмі гэтым засмучаны. Можа, таму, што адносіны з Ірынай няясныя, хісткія.

Два гады назад, калі яны сутыкнуліся ў электрычцы і ён нёс яе клумкі на Старавіленскі тракт, яна на момант раскрылася, а потым зноў, нібы смоўж, схавалася ў ракавіну. Можа, такое наогул уласціва цяперашнім маладым жанчынам.

На вачах Андрушкевіча тут, на пляжы, дзіўнае робіцца. Сёння знаёміцца хлопец з дзяўчынай, назаўтра яны ўжо ходзяць у абдымку. Ляжаць на адной дзяружцы, з бутэлькі па чарзе п’юць напітак...

Андрушкевічу здаецца: нават за тыдзень вось такога адпачынку хлопец і дзяўчына стамляюцца адно ад другога.

Ірына з іншага, чым Андрушкевіч, пакалення. Намнога за яго маладзейшая. Вядома, ёсць выпадкі, калі стараватыя дактары навук, прафесары яшчэ жэняцца з такімі, як яна, лабаранткамі, асістэнткамі. Другая справа: як потым жывуць?

Андрушкевіча жыццё крыўдзіла, зневажала, прыніжала. Можа, таму гэтак нечакана, раптоўна ўспыхнула яго гэта позняе, недарэчнае каханне. Але яно ўспыхнула, яно ёсць, ад яго нельга адбіцца. Дык вось ведайце, стараватыя, лысаватыя прафесары, дактары навук, вы, хто пражыў малады век, змагаючыся з рознымі нягодамі: захапленне жанчынай можа падкрасціся і ў ваш век, звязаць па руках і нагах, захапіць у палон! Захапленне адчайнае, у чымсьці драматычнае, у чымсьці смешнае...

Андрушкевічу трапляе на вочы надрукаваны ў газеце фельетон, у якім якраз высмейваецца пажылы прафесар, што развёўся са старой жонкай, ажаніўся з маладой і, паколькі жылой плошчы не мае, перагароджвае аднапакаёвую кватэру брызентавым полагам. Па адзін бок брызенту ранейшая жонка, па другі — дзядуля-прафесар з жонкай маладой...

Андрушкевічу шкада прафесара. Бо невядома, як паводзіла сябе яго дарагая палавіна ў свае маладыя гады. Калі яе муж яшчэ не быў прафесарам, горбіўся над кнігамі, ездзіў у доўгатэрміновыя экспедыцыі. Карацей, калі ён свету белага не бачыў, зарабляючы нялёгкі прафесарскі тытул. Можа, у

той час дарагая палавіна поедам ела мужа-няўдачніка, шукала лёгкай уцехі. І вось на старасці як помсту і адплату атрымала брызент...

Ледзь не тры тыдні мінае. Андрушкевіч звоніць Ірыне і нарэшце чуе ў тэлефоннай трубцы яе бадзёры голас:

— Заўтра выязджаю.

Ён не ведае, радавацца яму ці засмучацца. Пуцёўка фактычна канчаецца, знаёмых у санаторыі аж залішне.

Ён дае Ірыне адрас, тлумачыць, з якога боку зайсці ў высозны будынак санаторыя, як падняцца ў ліфце на шосты паверх. Гэта на той выпадак, калі ён не здолее прыехаць да Ірыны.

У той жа вечар Андрушкевіч садзіцца ў электрычку, едзе ў пасёлак, у якім мусіць спыніцца Ірына. Яна мае там знаёмую гаспадыню. У яе наймае пакойчык. Ірына нават восенню, зімой ездзіць у Рыгу, просячы Андрушкевіча адпусціць на два ці тры дні. Ён здагадваецца: да краўчых. Краўчыхі, шаўцы ў Рызе выдатныя, жонка таксама не раз кіравала туды заказваць сукенкі, касцюмы, туфлі, боцікі. Відаць, тое самае робіць Ірына. Хоць прыбыткі яе не надта. Але жанчын не зразумееш. Ірына апранаецца модна, не горш, а можа, нават лепей за Тамару. Значыць, грошы мае. Хоць муж п’яніца...

Пасёлак Андрушкевічу падабаецца. Ён аддзелен ад чыгункі вялікім квадратам сасняку, дол якога зарос бруснічнікам, чарнічнікам, ядлоўцавымі кустамі, а па пясчаных, засланых ігліцай пагорках — шэрым наздраватым імхом. Грыбныя мясціны. Разлеглы гонкі сасняк можна было б прыняць за сапраўдны бор, каб бязлітасна не крыжавалі яго бясконцыя сцежкі-дарожкі. Іх так многа, сцежак-дарожак, так шчыльна, добра яны ўтаптаны, што ў многіх мясцінах агалілася сасновае карэнне, скручанае, абабітае чалавечымі нагамі.

Пасёлак размешчан між сосен, якія растуць на дварах, агародчыках, проста на вуліцы. Правы бок пасёлка ахінае чарналессе — альха, рабіна, бярозы, гушчэча асінніку,— і праз гэты лес, відаць, таксама можна выбрацца да электрычкі.

Галоўная аздоба пасёлка — рака, якая агінае яго не ўздоўж, як астатнія прылеглыя да чыгункі пасёлкі, а ўпоперак. Рака ў гэтым месцы вельмі шырокая, паўнаводная. Ёсць лодачная станцыя, лавачкі на беразе ракі, альтанкі — мясціна выдатная.

Андрушкевіч лёгка, хоць ахінае зямлю серабрыста-шэры паўзмрок, знаходзіць вулачку, дом, куды прыедзе Ірына. Дом як дом. Невялікі дворык, палісаднік. Дзве ці тры старыя бярозы развесілі над ім шаты, пафарбаван ён не ў жоўты, як у другіх пасёлках, а ў сіні колер. Блакітна-сінія дамкі пад соснамі, бярозамі, таполямі, якіх тут большасць, як бы нараджаюць асаблівую ўтульнасць, ствараюць добры настрой.

Між тым мора ад пасёлка не так блізка. Па драўляных рыпучых дошках-сходнях трэба падняцца на пясчаную, зарослую соснамі гару, затым па пясчаным касагоры спусціцца ўніз. І яшчэ трэба парадкам ісці, правальваючыся нагамі ў пясок, па здрадлівых дзюнах, парослых толькі рэдкай шорсткай травой, пакуль дасягнеш мора.

Андрушкевіч у шчаслівым утрапенні. Ён прыходзіць да думкі, што сустрэча з Ірынай развяжа ўсе вузлы і супярэчнасці. Калі яны цяпер сыдуцца, то, магчыма, назаўсёды. Бо ёсць штосьці абразлівае ў іх сустрэчах. Вандруюць па цёмных правулках, крадучыся, абдымаюцца, цалуюцца. Нібы школьнікі. Такія сустрэчы не наталяюць голаду, які даўно пануе ў душы Андрушкевіча. Ён вяртаецца дадому з пачуццём яшчэ большай адзіноты...

Ірына не прыязджае. Штовечар напаўпустой электрычкай дабіраецца Андрушкевіч да сасновага пасёлка, крочыць борам, вандруе каля знаёмага дома...

Набягаюць здрадлівыя думкі. Ірыну ён ведае мала. То ці варта гэтак рызыкаваць? Ён немалады, і позна спадзявацца на шчасце. Цяпер у яго нейкае становішча, работа, павага калег. Што будзе тады, калі яны сыдуцца? Хіба лёгка далося яму тое, што мае?..

Тужліва-самотны і ў той жа час светлы, узнёслы настрой валодае Андрушкевічам. Сэрца жыве па ўласных законах, незалежных ад розуму, свядомасці. Ён любіць Ірыну, і з гэтым нічога нельга зрабіць. Між імі нічога не было, усё хістка, няпэўна, як бы ахутана туманам. Але ён кожнай хвіліны думае пра Ірыну. Прыдумвае словы, якія скажа ёй. Тым часам пры сустрэчы гаворыць зусім іншыя словы. Губляецца, бянтэжыцца, калі спатыкае Ірыну...

Ёсць штосьці безнадзейна-адчайнае ў гэтых позніх электрычках, якімі Андрушкевіч ужо некалькі вечароў ездзіць на спатканне з Ірынай. Ён ідзе на станцыю, калі яна пустая і калі Мітуся ці Клебановіча там не сустрэнеш. Лёгкая шэрань паўночнай ночы кладзецца на зямлю. У вокнах далёкага зарэчнага хутара-мызы запальваюцца агні.

На станцыі ўжо ўключаны электрычныя ліхтары, але святло іх мяккае, непрыкметнае, яно як бы рассейваецца, зліваючыся з вячэрняй хістка-празрыстай шэранню. Такая празрыстасць, калі, па сутнасці, не патрэбна асвятленне, будзе панаваць да самай паўночы.

Міма электрычкі праносяцца падобныя адна на другую станцыі-паўстанкі, сасоннікі, дачныя пасёлкі, надзейна прыкрытыя гушчэчай старых ліп, клёнаў і берастаў.

У дамку, дзе Ірына наймае пакой, ніякага руху. Нават святло не мільгае ў вокнах. Гэта трэці прыезд Андрушкевіча ў пасёлак між соснаў, і яму робіцца ніякавата. Узнёслы, нацята-святочны настрой, з якім ён, спатыкаючыся аб карэнне, ледзь не бяжыць праз цемнаваты бор, паступова знікае. Самае позняе Ірына мусіла прыехаць учора. Але няма яе. Не трымае слова.

Самотны, адзінокі блукае Андрушкевіч па вуліцах пасёлка, то справа, то злева абмінаючы блакітна-сіні вуглавы дом пад бярозамі якраз на скрыжаванні дзвюх вулачак. Ціха ў пасёлку. Санаторыяў, дамоў адпачынку, пансіянатаў тут няма, і ў блакітна-сініх дамках жывуць, відаць, толькі сталыя жыхары ды яшчэ тыя гараджане, хто мае ўласныя дачы.

Каля знаёмага вуглавога дома два шустрыя, у кароткіх штоніках хлапчукі перакідваюць адзін другому мяч. Андрушкевіч маўкліва назірае за гульнёй, потым, звяртаючыся да хлапчукоў, паказаўшы рукой на дом пад бярозамі, пытае:

— Вы не з гэтага дома?

— Я жыву тут,— неахвотна адказвае адзін з хлапчукоў, непрыхільна пазіраючы на Андрушкевіча. Ён, відаць, даўно заўважыў незнаёмага таўставатага дзядзьку, які ўжо трэці вечар блукае па вуліцы, не спускаючы вока з ягонай сядзібы.

— Да вас не прыехала кватарантка?

— Не прыехала.— Хлапчук з вуглавога дамка падхоплівае мяч, дае нейкі знак таварышу, і хлапчукі, падазрона аглядаючы Андрушкевіча, знікаюць за веснічкамі напаўцёмнага дворыка.

Значыць, няма Ірыны. Хлапчук хлусіць не будзе. Пуцёўка Андрушкевіча канчаецца праз пяць дзён. Па сутнасці, ён змарнаваў пуцёўку, чакаючы Ірыну і бясконца ёй звонячы. Болей званіць не будзе. Трэба мець гонар...

Андрушкевіч ідзе да ракі. Садзіцца на лавачку, якіх на ўзбярэжжы шмат. У ягоных грудзях яшчэ тоіцца кропелька надзеі, што Ірына прыехала. Можа, лягла спаць, і хлапчук раскажа, што пра яе пытаўся незнаёмы чалавек. Тады Ірына прыйдзе сюды. Мусіць адчуць, што іменна ў гэтым месцы ён яе чакае.

Над ракой святлей, чым дзе-небудзь у другім месцы. Рака адбівае колеры яснага, бязвоблачнага неба, на якім ледзь бачна паблісквающь зоркі. Мноства стракоз ці якіх іншых насякомых носіцца над вадой. Чаек не відаць і не чуваць. Мусіць, паснулі чайкі.

Раніцай нехта настойліва стукае ў дзверы Андрушкевічавага пакоя. Спаць ён лёг позна, не выспаўся, але пругка падскоквае з ложка. Можа, Ірына з'явілася?

На парозе, аднак, Ігар Клебановіч.

— Дзед памёр,— гаворыць Клебановіч.— Я ўчора вечарам цябе шукаў. Але ты таямніча знікаеш.

Не адразу да Андрушкевіча даходзіць сэнс сказанага Клебановічам. Дзедам завуць рэктара ўніверсітэта Антона Сямашку, сівога, шчуплага, шустрага, як верабей, і на дзіва шчырага пры сваёй пасадзе і становішчы.

Андрушкевіч збіты з тропу. Ніштo не паказвала, што Сямашка хворы. Але не пра Сямашку ў гэтую хвіліну ён думае. Думае пра Ірыну. Вось, значыць, чаму яна не прыехала. Ён стараецца прыдавіць у сабе радаснае, эгаістычнае пачуццё, але не можа...

— Паеду на пахаванне,— нечакана для самога сябе гаворыць Андрушкевіч.

Непаседлівы Клебановіч, які сваю справу выканаў, знікае. Ва ўніверсітэце ён не працуе і асаблівага дачынення да рэктара не мае.

Андрушкевіч узбуджана выдыбае па пакоі. Дзед харошы, справядлівы чалавек і многа для Андрушкевіча зрабіў. Фактычна першы заўважыў, ацаніў яго як навукоўца. Дапамагаў абараняць доктарскую дысертацыю, паставіў загадчыкам кафедры. Дзед і кватэру яму выдзеліў — прасторную, чатырохпакаёвую. Ён павінен прысутнічаць на пахаванні рэктара...

Андрушкевіч весялее. Ён паляціць на пахаванне рэктара, і тады адпадзе неабходнасць сустракацца з Ірынай. Так будзе лепей. Не трэба яму гэтая сустрэча.

Андрушкевіч ловіць сябе на прыкрым адчуванні віны перад Дзедам. Так, ён нават вельмі вінаваты, бо за дабро дабром не заплаціў. Заняты сямейнымі нягодамі, душэўнымі пакутамі, як бы адгарадзіўся ад усяго свету. Жыў з Дзедам у адным доме і ні разу яго ў госці не пазваў, ніводнай кніжкі не падараваў.

Апошнія год-два, сустракаючыся з Андрушкевічам, Дзед вітаўся даволі стрымана. Гаворкі з суседам не завязваў. Толькі цяпер, калі Дзед памёр, Андрушкевіч пачынае разумець, чаму той так сябе паводзіў. Дзед бачыў у ім эгаіста, самазакаханага чалавека, які думае толькі пра сябе.

З такой думкай пра яго Дзед памёр, і цяпер ужо нічога не зробіш і не пераменіш...

Андрушкевіч устае, складвае рэчы ў чамадан. Білет на самалёт ён дастане: мае пасведчанне ўдзельніка вайны.

Спусціўшыся на ліфце ў вестыбюль, Андрушкевіч заварочвае ў сталовую. Снеданне яшчэ не скончылася, і варта выпіць хоць шклянку кефіру. Тым часам ён заўважае на стойцы, за якой сядзіць немаладая, але яшчэ досыць рухавая кастэлянка, доўгі ланцужок раскладзеных пісьмаў.

Міжволі ён падыходзіць да стойкі, бачыць адрасаваную яму паштоўку і аж уздрыгвае ад нечаканасці. Паштоўка ад Ірыны. У ёй яна прызначае яму спатканне на сённяшні вечар...

Ірына, значыць, прыехала ўчора ці нават пазаўчора. Можа, яшчэ раней. І вось такім спосабам кліча яго да сябе. Не да сябе нават — у рэстаран. Рэстаран на паўдарозе між станцыяй і сасновым пасёлкам.

Не гэта галоўнае. Галоўнае: ён, як дурань, тры вечары блукаў каля яе дома. Дзе яна была?

Не, Андрушкевіч не паедзе на спатканне. Многа пра сябе думае Ірына. Ён не дазволіць гэтак з сабой абыходзіцца.

У задуменнасці вандруе Андрушкевіч каля мора. Дзень харошы, сонечны. На пахаванне рэктара позна ляцець. Калі нават яго сёння будуць хаваць...

Няўрымслівыя пачуцці валодаюць Андрушкевічам. Пасля абеду, нервова пахаджваючы па пакоі, ён то рашае ехаць да Ірыны, то адмяняе рашэнне. Вершалінай сасна дацягваецца да акна ягонага пакоя. Праз навісь галін відаць бяскрайняя роўнядзь заліва. У розных пунктах люстраной вадзяной роўнядзі бачны сілуэты параходаў. Некаторыя, відаць, катаюць па моры курортнікаў, два ці тры стаяць на месцы: ловяць рыбу.

Калі ўважліва прыгледзецца, можна ўбачыць процілеглы бераг заліва, белыя будынкі, ахутаныя хісткім марывам смугі. Пасёлка Ірыны не ўбачыш. Ён, як санаторый Андрушкевіча, па гэты бок заліва. Кіламетраў за сем ці восем адсюль.

Чым бліжэй вечар, тым болей нервуецца Андрушкевіч. Устае з ложка, падыходзіць да акна. Недзе на другім канцы ўзбярэжжа, у сасновым пасёлку, яго чакае Ірына. Паглядвае, як ён, на гадзіннік, нервуецца. Можа, зусім не нервуецца? Здолела ж пражыць два ці нават тры дні, не падаўшы аб сабе знаку.

Калі стрэлкі гадзінніка, нібы падзяліўшы напалам цыферблат, паказваюць шэсць гадзін, Андрушкевіч раптам супакойваецца. Цяпер нічога не пераменіш. Нават нейкая помслівая радасць апаноўвае яго. Успамінаюцца радкі паэта: «Чем меньше женщину мы любим, тем легче нравимся мы ей».

Час ад часу нейкая сіла нібы падхоплівае Андрушкевіча, ён забывае пра гонар, годнасць, усялякую ўнутраную перасцярогу, наважваючыся ехаць у размешчаны між сосnaў пасёлак.

Галоўнае — прыехала Ірына. Ад гэтага нібы мяняецца, набываючы стоены шматзначны сэнс, усё навакольнае: мора, сосны, пясчаны пляж, ракітавыя кусцікі, пад якімі ён адпачывае. Пакутуючы, нібы ад зубнога болю, згараючы ад нецярпення ўбачыць Ірыну, поўнячыся ціхай радасцю ад таго, што ён яе ўсё-такі ўбачыць, Андрушкевіч перамагае сябе. Да Ірыны не едзе. Вячэраць не ідзе. Спіць надзвычай дрэнна...

Так мінае дзень.

Назаўтра з самай раніцы Андрушкевіч пачынае рыхтавацца да сустрэчы з Ірынай. Апранае новую сарочку, павязвае лепшы, які ў яго ёсць, гальштук. Ідзе ў цырульню, падстрыгаецца, голіцца. Ён прывёз з сабой партфель: прыстойны, з сапраўднай скуры і даволі ёмісты. Яго падаравалі супрацоўнікі кафедры свайму загадчыку ў дзень ягонага пяцідзесяцігоддзя. Цяпер з прыгожым партфелем Андрушкевіч з'явіцца перад Ірынай. І не проста з'явіцца. У будынку санаторыя побач са сталовай ёсць кафэ, а ў ім сёе-тое можна набыць. Тым болей, што чарнявая зграбная афіцыянтка заўсёды Андрушкевічу ўсміхаецца.

Андрушкевіч кладзе ў партфель бутэльку каньяку, каробку цукерак, яшчэ сёе-тое, прыкідваючы ў думках, як яны сядуць з Ірынай за стол. Не трэба рэстаран! У яе пакойчыку яны будуць нібы першыя людзі на зямлі. Ён — Адам, яна — Ева. Ён нарэшце скажа ёй словы, якія так доўга носіць у душы. Многае залежыць ад таго, як яна прыме гэтыя словы. Магчыма, па-новаму пойдзе ягонае жыццё...

Мужчына не можа паўстаць перад жанчынай без кветак. Непадалёк ад станцыі шуміць-гамоніць невялікі базарчык, дзе прадаюць кветкі.

З букетам руж, паўнаватым партфелем садзіцца Андрушкевіч у электрычку. Пачуцці нацятыя, неспакойныя.

Толькі вячэрнія электрычкі пустыя ці напаўпустыя. Днём звычайна перапоўнены. На лаўках шчыльна сядзяць пасажыры і нават на праходах, у тамбурах стаяць. Многія, як Андрушкевіч, у руках трымаюць кветкі — астры, глыдыёлусы, ружы; у сетках, сумках, кошыках — маладую бульбу, парніковыя агуркі, радыску і нават грыбы. Электрычка кіруе на Рыгу. У горад, на свае кватэры, вяртаюцца ўдзельнікі садова-агародных таварыстваў, вязуць дары лета, якое ў самым разгары. Пры паглядзе на грыбы ў Андрушкевіча сэрца пачынае ныць. Даўно не быў ён у лесе.

Злезшы з электрычкі, ідучы знаёмым борам па шчыльна прыбітых сцежках, на якіх раз-пораз вытыркаецца абшморганае падэшвамі карэнне, Андрушкевіч пачынае нервавацца.

Нараджаецца думка, што ён не застане Ірыну дома. Што яму тады рабіць? Кветкі, дапусцім, падорыць гаспадыні. А далей?

Вось і вуліца знаёмая, і дом. І хлапчукі тыя самыя выгульваюць на рагу вуліцы.

Андрушкевіч на гэты раз нічога ў хлапчукоў не распытвае. Дамок мае два ганкі, і ён узыходзіць на левы, атулены бэзавымі кустамі, што бліжэй да паркана. Адчыняе ўваходныя дзверы, заходзіць у вузкі калідорчык. У калідорчыку яшчэ двое дзвярэй. Андрушкевіч, злёгку пастукаўшы, адчыняе левыя...

О, вялікі цуд! На канапцы, падгарнуўшы пад сябе босыя ногі, сядзіць Ірына, гартае ілюстраваны часопіс. Яна ў простым, сінім з белай крапінкай халаціку, распушчанымі русявымі валасамі. Якая яна мілая, свойская, звычайная! Такой Ірыны Андрушкевіч яшчэ не бачыў, бо, ідучы на кафедру ці на сустрэчу, яна вельмі старанна апранаецца.

Але што гэта? За столікам, прысloненым да акна, сядзяць адно насупраць другога дзяўчынка гадоў пятнаццаці і хлапчук, з твару вельмі падобны на Ірыну. Гуляюць у карты.

Ірына, здаецца, не вельмі хвалюецца. Андрушкевіч, аднак, настолькі разгублены, што не ведае, што рабіць. Нешта мармычучы, падае Ірыне букет, партфель ставіць на падлогу, прыхіляючы да сценкі.

— Саша, Віталік, ідзіце пагуляйце,— загадвае Ірына.— Асабліва не баўцеся. Каб праз гадзіну былі тут.

Дзяўчынка з хлапчуком, стараючыся не глядзець на Андрушкевіча, вышмыгваюць за дзверы.

— Пляменніцу прывезла,— гаворыць Ірына.— Каб Віталіка глядзела...

Вось, значыцца, як. Ірына ў санаторый да Андрушкевіча не завітала, ды яшчэ зрабіла так, што і ён не можа да яе зайсці.

— Я цябе ўчора чакала,— гаворыць Ірына, паводзячы сябе так, як бы нічога не здарылася.— Дзве гадзіны хадзіла каля рэстарана. Мела напарніка па няшчасці. Мужчына таксама некага чакаў...

— Чаму так позна прыехала? Мая пуцёўка канчаецца. Праз тры дні.

— Ледзь вырвала адпачынак. Дэкан пасадзіў у прыёмную камісію. Дажджы ў нас. Нешта страшнае...

Настрой у Андрушкевіча падае. Не такой, зусім не такой ён уяўляў сустрэчу з Ірынай.

Ён садзіцца на канапку, прыхінае Ірыну да сябе. Але яна вызваляецца з ягоных абдымкаў.

— Пахадзі па вуліцы. Пакуль апрануся.

Андрушкевіч паказвае на партфель.

— Я сёе-тое прывёз. Думаў — пасядзім, пагаворым. Вып’ем па кілішку. Без сведкаў.

Ірына ўсміхаецца, паказвае на акно:

— Дык ёсць жа сведкі.

— Чаму да мяне не зайшла? Як дамаўляліся...

— Ну, карай, вінавата... Так стамілася, што двое сутак адаспацца не магла. Мы ў камісіі па дванаццаць гадзін сядзелі.

Андрушкевіч выбіраецца на вуліцу. Значыць, Ірына спала тыя вечары, калі ён вандраваў каля яе дома.

Як заўсёды, Ірына збіраецца марудна. Андрушкевіч разоў пяць мерае крокамі вулачкі, на скрыжаванні якіх стаіць сіні дамок, брыдзе да рэстарана, вяртаецца назад. Ірыны няма. Нарэшце лёгкай, пругкай паходкай яна выскоквае з двара. Андрушкевіч вачам не верыць: на канапцы сядзела звычайная маладая жанчына, свойская, знаёмая. Тут недаступная прыгажуня, модна, нават шыкоўна апранутая: белыя, у абцяжку штаны, такі ж пінжачок, аздоблены залатымі ланцужкамі, якарамі, званкамі, выдатна падкрэсліваюць лёгкасць, стройнасць Ірынінай фігуры і ў той час адцяняюць акруглую развітасць, павабнасць яе жаночых форм. Як з такой красуняй раўняцца Андрушкевічу, немаладому, парадкам атлусцеламу, з прыкметным жыватом, што выпірае з-пад пінжака.

— Я вынесу партфель,— нерашуча гаворыць Ірына.

Андрушкевіч спрабуе жартаваць:

— Цукеркі забяры і пітво. Вып’еш з пляменніцай. Партфель я потым забяру.

Па драўляных сходках Андрушкевіч з Ірынай падымаюцца на пясчаны, зарослы соснамі пагорак, за якім па такіх жа сходках можна спусціцца на пляж і далей да мора. Між сосен мільгаюць павільёнчыкі, у якіх прадаюць напіткі, піва, стаяць столікі, за якімі можна пасядзець, наталіць прагу, адпачыць. Ля аднаго, затым ля другога павільёнчыка Андрушкевіч

запыняецца, бярэ па гліняным кубку піва — тут такая мода — сабе і Ірыне, садзіцца за столік. Сонца ідзе на схіл, але яшчэ горача, і Андрушкевіч у ахвоту п'е халаднаватае піва. Ірына да кубкаў нават губамі не датыкаецца. Яна як бы кагосьці чакае і відавочна нервуецца.

Нарэшце з атуленага соснамі пагорка яны спускаюцца на пляж. Не праходзяць і паўсотні крокаў, як Ірыну запыняе рослы, дужы, яшчэ досыць малады чалавек, з шырокім прыемным тварам, густа зарослым рудаватым шчаціннем. У хлапчыны перавешана праз плячо спартыўная, туга напакаваная сумка, і ён яўна некуды спяшаецца.

— Ты тут! — ускліквае Ірына.— Я думала, будзеш пазней. Я пазаўчора прыехала.

Ірына настолькі збянтэжана, што як бы зусім забывае пра Андрушкевіча. Як бы няма яго тут. Аднак недарэчнае становішча, у якое трапіў Андрушкевіч, добра разумее рудаваты хлапчына.

— Яшчэ пабачымся,— гаворыць ён, паспешліва адыходзячы і махаючы Ірыне рукой.— Я тут да канца месяца.

Дурань, лае сябе ў думках Андрушкевіч. Набраў у галаву лухты. Чаму гэтая прыгожая цыбатая птушка павінна хінуцца да тоўстага старога дзядзькі, калі ёсць вось такія маладыя мужчыны ці хлопцы?

— Хто ён? — пытае пра хлапчыну Андрушкевіч.

— Проста знаёмы. Мінулым летам быў тут.

Ірыне яўна нецікава хадзіць па беразе мора, ціхага, спакойнага, якое зіхаціць-пераліваецца ў святле перадвячэрняга негарачага сонца. Па драўляных сходках яны зноў падымаюцца на сасновую граду.

— Пойдзем у рэстаран,— гаворыць Андрушкевіч.— Высвятлім адносіны. Мы маглі з табой размінуцца. Я чамадан склаў. Сабраўся на пахаванне рэктара.

— Рэктар цяжка хварэў,— гаворыць Ірына.— Памёр, значыць...

Навіна яе не ўзрушвае. Пасля спаткання з рудаватым хлапчынам Ірына неяк пацішэла, звяла, зніякавела. Андрушкевіч адчувае яе настрой, губляючыся ў здагадках, чаму ён так нечакана змяніўся.

— Табе наш сустрэчны знізіў тэмпературу,— гаворыць Андрушкевіч.

— Нічога не знізіў,— Ірына пачынае злавацца.

Рэстаран на той жа вуліцы, што і сіні дамок, дзе Ірына займае пакойчык, толькі бліжэй да станцыі. Яго не раз абмінаў Андрушкевіч, калі крочыў з электрычкі ў пасёлак ці вяртаўся назад. Выгляд рэстарана недарэчны: доўгая, накшталт казармы, аднапавярховая будыніна, размаляваная ў жоўтыя і чырвоныя квадраты. Але з расчыненых вокнаў даносіцца разнагалосая музыка: выводзіць тонкія рулады саксафон, гудзе кантрабас, узвівы скрыпкі зліваюцца з млявым голасам акардэона, глуха бухае турэцкі барабан.

Унутраны выгляд рэстарана лепшы, чым вонкавы. Стыль мадэрн: танканогія столікі, аздобленыя пад колер дубу сцены, рамантычны паўзмрок.

Рэстаран, відаць, з-за досыць ранняга часу не запоўнен і на палавіну. Андрушкевіч лёгка знаходзіць у сярэдзіне залы незаняты столік, і яны з Ірынай кіруюць да яго.

Колькі чакаў гэтай хвіліны Андрушкевіч! Ён цяпер адзін на адзін з Ірынай, ніхто іх не ведае, не назірае за імі, і нарэшце мусіць канчаткова высветліцца тое, што злучыла, звязала іх дваіх, прымушаючы шукаць сустрэч вось ужо трэці год. Нібы настае зорная часіна Андрушкевіча! Як уцеху, узнагароду за пакуты лёс паслаў яму Ірыну. Яна яго апора, будучыня...

Афіцыянт падыходзіць да іхняга століка. Андрушкевіч аддае меню Ірыне: што піць, есці мусіць выбіраць жанчына. Ірына, аднак, ініцыятывы не праяўляе: прабегшы вачамі надрукаваныя на машынцы назвы закусак, блюд, напіткаў, маўкліва перадае меню Андрушкевічу.

Няхай будзе так... Ён пачастуе Ірыну на свой густ. Першы раз ён з ёй за такім вось сталом. Ён заказвае лепшае, што, на яго погляд, ёсць у меню, бутэльку дарагога каньяку, цукеркі, каву, марожанае.

Ірына прыкметна ажыўляецца, весялее.

— Табе да твару гэтая сарочка,— гаворыць.— І гальштук.

Андрушкевічу прыемныя гэтыя словы.

Яны для яго гучаць так, нібы яна сказала, што ён прыгожы і малады.

Афіцыянт прыносіць у прыгожым графінчыку каньяк, расстаўляе чаркі, талеркі, раскладвае відэльцы, нажы. На стале чорная і чырвоная ікра, тонкімі скрылікамі нарэзаныя вяндліна, балыковая асятрына, масліны, грыбы.

Яны чокаюцца і выпіваюць. Каб трохі сп'янець, развязаць язык, Андрушкевіч зноў налівае кілішкі. П'е сам і прымушае выпіць Ірыну.

Дзіўна, у галаве пашумлівае, абуджаецца апетыт, але харошая гаворка не завязваецца. Андрушкевіч штосьці пытае, Ірына аднаскладова адказвае, і такое ўражанне, што яна зусім не рада, што з ім спаткалася.

Ніколі, як цяпер, не мелі яны магчымасці вось гэтак сядзець, глядзець адно другому ў вочы, не асцерагаючыся наткнуцца на знаёмых. Тады проста не было магчымасці шчыра, сардэчна пагаварыць. Цяпер такая магчымасць ёсць. Але ніякай гаворкі не атрымліваецца.

Пасля зычнай, гучнай музыкі, пад якую, не дзелячыся на пары, выдыбае ледзь не ўвесь зал, аркестр пачынае іграць штосьці павольнае, задумлівае. Андрушкевіч падае Ірыне руку. Хоць яны першы раз выйшлі ў круг, у іх добра атрымліваецца. Яна і ён адчуваюць музыку і лёгка, зладжана, нават прыгожа танцуюць.

Настрой Андрушкевіча прыкметна павышаецца. Не трэба ніякіх слоў, тлумачэнняў. Каханне нараджаецца без гаворкі. Яно як вось гэтая музыка, якая яднае Ірыну і яго, нараджае іх суладныя рухі, як бы злівае дзве іх істоты ў адну. Музыка, як каханне, размаўляе без слоў...

Андрушкевічу прыемна адчуваць руку Ірыны на сваім плячы, трымаць сваю руку на яе падатлівым стане, бачыць, як гараць у яе вачах аганькі ўдзячнасці і задавальнення, любавацца яе стройнай, з прыкметамі выразна развітай жаноцкасці фігурай.

— Ты мог зусім не надзяваць пінжак,— гаворыць, прыхінуўшыся да яго, Ірына.— Горача...

Ён адчувае яе тугія, маладыя грудзі, усю яе, даверлівую, падатлівую, аддадзеную яму.

— Ноччу не так цёпла,— гаворыць ён.— Можа, мы трохі павандруем. Каля мора ці каля ракі.

Яны нарэшце знаходзяць агульную мову. Вечар цудоўны! Такі якраз, пра які ён марыў доўгія месяцы. Стаміўшыся ў танцы, яны ідуць да свайго століка, садзяцца, адпачываюць, аддыхваюцца, гледзячы адно на другога вясёлымі вачамі, выпіваюць яшчэ па кілішку. Затым зноў ідуць у танец. Не глядзяць — старамодны ён ці мадэрны. Андрушкевіч адразу авалодвае прыёмамі сучасных танцаў. Бо, аказваецца, ніякіх прыёмаў няма. Стварай іх па ўласным жаданні, выдыбай, як можаш. Галоўнае — рытм, тэмп, хуткасць. Сам гары агнём і з вогненнага кола не выпускай сяброўку!

Андрушкевіч у захапленні. Добрыя танцы. Добрыя тым, што ніхто ні за кім не сочыць, не назірае, не крытыкуе. У чалавека ёсць цела, і гэтым целам ён распараджаецца сам. Музыка дае толькі намёк на яго прыродную, якую ён носіць у сабе, свабоду.

Андрушкевіч, аднак, не да канца траціць уладу над сабой. Нейкі ўнутраны голас як бы папярэджвае: не раскісай, не распускай нюні!..

Вечар добры, вогненны, шчаслівы, але, як і ўсё на зямлі, ён мае канец. Калі Андрушкевіч з Ірынай выходзяць з рэстарана, над сасновым пасёлкам вісіць ахутаная лёгкай шэранню ноч. У гэтай шэрані абрысы дрэў, будынкаў не знікаюць, не губляюцца, а толькі як бы набываюць мякчэйшыя, расплывістыя абрысы.

На ўзбярэжжы ракі мноства лавачак, і на адну з іх садзяцца Андрушкевіч з Ірынай. За ракой, за грэбенем далёкага лесу барвее неба — у тым месцы зайшло сонца. Гадзін праз пяць-шэсць яно паявіцца з другога канца пасёлка, і з гэтага прыходзіцца толькі здзіўляцца.

Над ракой рэдкім дымком віецца туман, яе шэра-сінюю роўнядзь паласуюць лодкі, імкліва носяцца над вадой серпакрылы. Суцэльным полагам вісіць над ракой машкара. Таму, відаць, і птушкі мітусяцца.

— Ты мой ідэал,— раптам гаворыць Ірына, і Андрушкевічу трохі дзіўна ад гэтых слоў. Ніколі яна яго не хваліла, не ўзвышала. Ён пра свае да яе пачуцці гаварыў, і ў адказ на ягоныя словы яна толькі чырванела, сарамліва ўсміхаючыся.

Андрушкевіч прыхінае Ірыну да сябе, цалуе. Яна не працівіцца, падатлівая, як ніколі.

Няхай будзе бласлаўлёна часіна, калі маладая прыгожая жанчына нарэшце сказала Андрушкевічу словы прызнання. Доўга ён іх чакаў. Дзеля іх, дзеля гэтага цудоўнага вечара, які падаравала яму жыццё, можна ісці на самыя цяжкія ахвяры...

Тым часам Андрушкевіч пачынае трывожыцца. Лавачак ля ракі многа, бадай, на кожнай сядзяць парачкі, але толькі вакол лавачкі, на якой сядзіць ён з Ірынай, пачынае кружыць п'янаватая кампанія. Хлапцоў у кампаніі пяць ці шэсць, яны ўсё часцей праходзяць міма Ірыны і Андрушкевіча. Пройдуць некалькі крокаў і зараз жа вяртаюцца назад. Нарэшце спыняюцца перад лавачкай.

— Дай закурыць, бацька,— падступаючы да Андрушкевіча, патрабуе каржакаваты белабрысы хлапчына, у якога ўвесь час рухаюцца шырокія сківіцы. Такое ўражанне, нібы ён штосьці жуе.— Ты, мабыць, курыш дарагія цыгарэты. Такую маладую кралю адхапіў...

— Я не куру,— кідае Андрушкевіч, устаючы.

Ірына таксама адчувае небяспеку, устае, спалохана глядзіць на п'яную кампанію.

Не згаворваючыся, яны ідуць ад ракі на вуліцу, на якой стаіць дом, у якім Ірына кватаруе.

Кампанія, не адступаючы, выдыбае за імі.

Перад веснічкамі Андрушкевіч запыняе Ірыну.

— Ідзі да сябе. Заўтра прыходзь на пляж. Дзе былі сёння...

Андрушкевіч зусім не дрыжыць перад нахабнымі малакасосамі. Што яму зробяць? У ім як бы прачынаецца партызанскі сувязны, які, абмінаючы нямецкія, паліцэйскія патрулі, патайныя пасты, нават ноччу прабіраўся да партызан, разведчыкаў-дэсантнікаў. Ён наўмысна не прыспешвае крок. Ідзе па тратуары, выкладзеным цэментаванымі плітамі, не азіраецца. Па вуліцы яшчэ вандруюць людзі, і п'яная погань не адважыцца да яго прычапіцца. Наперадзе лес, балотнае чарналессе, праз якое Андрушкевіч, сышоўшы з электрычкі, да пасёлка не хадзіў. Але гэта не істотна. Лес — яго стыхія. Лесу ён не баіцца.

Андрушкевіч заварочвае ў завулак, які выводзіць да чарналесся. Па абодва бакі завулка — агароды, аддзеленыя адзін ад другога парканам-частаколам. Андрушкевіч выдзірае з пар-

кана частаколіну — няхай даруе гаспадар агарода,— бярэ ў абедзве рукі. Кампанія нерашуча спыняецца. Тоўсты дзядзька, аказваецца, можа за сябе пастаяць.

Андрушкевіч праходзіць міма будыніны, на двары якой турнікі, брусы, іншыя спартыўныя прылады. Відаць, нейкая спартыўная база. Кампанія яўна разгублена. Стаіць на месцы. Андрушкевіч тым часам сягае ў лес. Тут ён у бяспецы. Баяцца малакасосы лесу.

Цёмны нізкі лес цягнецца доўга. Толькі хвілін праз дваццаць вынырвае Андрушкевіч на прагал, з якога відаць насып чыгункі і прыземісты, па-летняму лёгкі будынак станцыі.

## XVI

Галя падымаецца па лесвіцы, спыняецца на пляцоўцы. Худзенькая цыбатая істота з бліскуча-чорнымі, трохі вузкімі ў разрэзе вачамі, цёмна-русымі валасамі, па-хлапечы падстрыжанымі. Галі сямнаццаць гадоў. Яна паступае ў Інстытут замежных моў. Тым часам нагадвае дзяўчынку-сямікласніцу. Толькі ростам высокая. Акселератка.

Галя забыла ключ. На дачы. Яна наогул не збіралася ў горад, рыхтуецца да экзаменаў. Так здарылася, што яна прыехала.

Яшчэ на вуліцы Галя заўважыла фургон, на якім механік Раман звычайна пад'язджае да іхняга дома. Ён вылазіць з кабіны, скідае сіні запэцканы халат, застаючыся ў сінім старамодным касцюме. Бярэ ў рукі скрыначку з інструментам, ідзе ў дом.

Маці выклікае Рамана дзеля рознага рамонту. Ён мяняе краны, устаўляе ў вокны шкло. Нават паркет новы паклаў.

Раман гады два ці тры прыходзіць. Яшчэ калі была жывая бабка, пачаў да іх завітваць. Аднойчы маці прызналася, што Раман хацеў узяць яе замуж. Яна жыла тады ў вёсцы, працавала ў школе. Яшчэ не пазнаёмілася з бацькам.

З таго часу Галя не любіць Рамана. Тоўсты мядзведзь. Вочы нахабныя. Заўсёды тхне ад яго мазутам.

Галя не ідзе ў кватэру. Чуе за дзвярамі галасы. Раман нешта рамантуе. Галя хвіліну вагаецца, потым спускаецца

па лесвіцы. Яна пасядзіць у альтанцы, пачакае, калі выйдзе механік.

Дзіўныя ў яе бацькі. Маці добрая, бацька добры. Тым часам бясконца высвятляюць між сабой адносіны. Нібы ім па васямнаццаць гадоў. Забываюць, што маюць дарослых дзяцей. Проста смешныя бацькі…

Нарэшце Раман з чамаданчыкам у руках ідзе па двары.

Галя зноў падымаецца па лесвіцы. Маці разгубленая, ціхмяная. Сустракае дачку з вінаватай усмешкай.

Галя спяшаецца. Зайшоўшы ў ванную, таропка пераапранаецца. У поліэтыленавы мяшок кідае ручнік, прасцірадла, вялікі грабянец, купальную шапачку.

— Куды ты? — пытае маці.

— У Светкі дзень нараджэння. Пір будзе на дачы. Там вада, Мінскае мора. Пакупаемся.

— Экзамены на носе. Што будзе, як правалішся?

— Не правалюся. Я толькі на адзін вечар.

— Дачу замкнула?

— Замкнула.

— Прыязджай дадому. Кватэра пустая. Ніхто не перашкодзіць вучыць.

— Добра, мама.

Штосьці няяснае, нядобрае, як бы тайны знак перасцярогі варушыцца ў душы Тамары Іосіфаўны. Насупраць ночы ехаць да сяброўкі? Глупства. Блазенства. Але яна маўчыць. У яе няма сілы адгаварыць дачку, забараніць ёй ехаць на чужую дачу...

Тамара Іосіфаўна наводзіць парадак на кухні, пераціраe падлогу. Шукае занятку рукам. Бо на душы трывожна, неспакойна.

З трывожна-зацятым настроем кладзецца Тамара Іосіфаўна ў пасцель. Але заснуць не можа. Усчынаецца вецер, гойдае веццe ліпы, што дацягваецца сваёй вершалінай да акна на чацвёртым паверсе. Ад гэтага на сцяне, тварам да якой яна ляжыць, у шэра-празрыстым сутонні позняга ліпеньскага вечара снуюцца ўперад-назад цёмныя хісткія цені.

Тэлефонны званок раздаецца а першай гадзіне ночы. Тамара Іосіфаўна звычайна тэлефон выключае, але на гэты раз

не выключыла. Дрыжачы, нібы ад холаду, бяжыць Тамара Іосіфаўна ў прыхожую. У тэлефоннай трубцы чужы, незнаёмы голас:

— Прыязджайце ў клініку. Няшчасце з вашай дачкой...

— Што здарылася? — задыхаючыся, адчуваючы, як перасыхае ў роце, ломкім голасам пытае Тамара Іосіфаўна.

— Яна тапілася. Выратавалі рыбакі. Прыязджайце...

Клініка не так далёка ад дома. Вецер не сціхае, глуха шуміць у вершалінах старых вербаў, якія ў гэтым месцы горада стаяць пры вадзе, на беразе Свіслачы. Не сваімі нагамі падымаецца Тамара Іосіфаўна ўверх па вуліцы. Яна ўся ва ўладзе страху, адчаю, скрозь мітусяніну пачуццяў, думак, ні на адной з якіх яна не можа засяродзіцца, выразна прабіваецца адно: у тым, што загінула дачка, вінавата яна. Толькі яна, бо яна — маці. Не ўтрымала дачку ад недарэчнай паездкі. За грахі бацькоў плацяць дзеці. Сын мог вучыцца ў інстытуце. Жыць у родным доме. Між тым з’ехаў. Жаўтароты, не моцны здароўем верабей...

Двор клінікі ахутан цёмным шатром старых дрэў. Нават неба не відаць. Сярод цёмнай зеляніны злавесна праглядваюць пабеленыя звонку сцены бальнічных карпусоў. Вецер нібы патрохі сціхае. Спіць клініка. Свецяцца толькі рэдкія вокны.

З цяжкасцю знаходзіць Тамара Іосіфаўна прыёмны пакой. Пажылая шыракатварая, апранутая ў белы халат, шапачку доктарка глядзіць на яе спалохана.

— Гэта я вам званіла,— доктарка не падымае вачэй ад папер і, як здаецца Тамары Іосіфаўне, гаворыць залішне ветліва.— Ваша дачка ў рэанімацыі. Наглыталася вады...

У рэанімацыі? Значыць, яе Галя паміж жыццём і смерцю. Тамара Іосіфаўна мярцвее. Мільгае думка пра помсту. Ёй помсціць неба і зямля...

Тамара Іосіфаўна не верыць у Бога. Толькі ў далёкім дзяцінстве была ў царкве. Між тым у сваіх думках яна нібы складае малітву: «Божа, даруй сваёй неразумнай авечцы. Не забірай дачку. Яна зусім не вінаватая. І я не вінаватая. Такое жыццё...»

Апанаваная ўтрапеннем, страхам, Тамара Іосіфаўна не заўважае, як у пакой уваходзіць урач. Ён малады, і ў яго прыемны чарнявы твар.

— Не хвалюйцеся,— гаворыць ён, звяртаючыся да Тамары Іосіфаўны.— Быў шокавы стан. З яго мы вашу дачку вывелі. Будзе жыць. Яна цяпер спіць. Няхай спіць. Два хлопцы, што былі з вашай дачкой у лодцы, загінулі. Не даплылі да берага...

Нястрымная, дзікая радасць апаноўвае Тамару Іосіфаўну. Так, гэта яна выратавала Галю. Яна адна. Два ці тры леты пасылала дачку да сястры, на Волгу. Галя ў Волзе навучылася плаваць. Хто ўмее плаваць у Волзе, на Мінскім моры не загіне. Няхай нават у навальнічную ноч...

З такім настроем Тамара Іосіфаўна вяртаецца дамоў, кладзецца спаць. Шмат непрыемнага, згрызотлівага, жудаснага сплялося ў гэты дзень. Але найгоршае ззаду. Галоўнае — жывая яе Галя.

Чамусьці яна ўспамінае бацьку. Перад смерцю з ім адбылася дзіўная перамена. Ён падбадзёрыўся, нават адчайна піць перастаў. Аказваецца, не проста быў у палоне бацька. Належаў да падпольнай арганізацыі, якая дзейнічала ў шахце, шкодзіла, як магла, немцам. Да яго нават нямецкія антыфашысты прыязджалі, і пра іх сустрэчу з бацькам пісала гарадская газета...

Заснуць Тамара Іосіфаўна не можа. Таблеткі — яна іх праглынула адразу дзве — не памагаюць. За тое, што загінулі два хлопцы, якія сядзелі ў лодцы разам з дачкой, знаёмыя і незнаёмыя людзі абвінавацяць яе. Яна — маці, мусіла дачку навучаць...

Тамара Іосіфаўна сябе не дакарае. Так склалася жыццё. Ад яго не ўцячэш. Як ад самой сябе...

Яна думае пра Андрушкевіча. Муж ён неблагі. Вельмі неблагі. Цяпер яна ведае: нічога ў мужа не было з верціхвосткай, якая падлазіла да яго на курорце. Колькі, аднак, папсавала тая верціхвостка крыві! З таго моманту якраз і пайшло наперакос іхняе з Андрушкевічам жыццё. Андрушкевіча яна любіла. Ва ўсякім выпадку, ён быў у яе душы. Яна да яго цягнулася. Потым як бы згубіла яго. І нікога не знайшла. Ад гэтага на душы пуста...

Забыўшыся пад раніцу кароткім нервовым сном, Тамара Іосіфаўна прачынаецца з нясцерпным галаўным болем. Глытае таблетку анальгіну, апранаецца, падыходзіць да вялікага

люстра, што стаіць у прыхожай побач з тэлефонным столікам. Уключыўшы святло, глядзіць на сябе. Жахаецца ад таго, што бачыць. У люстры зацята-злосны, выпетраны і зусім непрыгожы твар. Цяпер яна вельмі падобна да бабкі-татаркі. Адзінока і горда сядзела бабка ў сваім катушку, курыла выгнутую, нібы гусіная шыя, люльку, ні на хвіліну не забываючы, што ў яе жылах цячэ ледзь не царская кроў...

Тамара Іосіфаўна купляе дзве банкі соку, некалькі пачак пячэння, дарагіх цукерак. Ідзе ў клініку.

У другой палавіне дня яе пускаюць да дачкі. У малым вузкім пакойчыку, з пафарбаванымі да палавіны цёмна-зялёнай фарбай сценамі, ляжыць доўгая, худая, як верацяно, збянтэжаная, змізарнелая тварам Галя. Убачыўшы адна другую, маці і дачка плачуць...

Андрушкевіч правёў неспакойную ноч. Назаўтра, накупляўшы напіткаў, едзе да Ірыны. У рэстаран ён не пойдзе. Не да твару прафесару, загадчыку кафедры бавіць час у рэстаране з падначаленай лабаранткай. Але пабыць з Ірынай на пляжы, пакупацца ў моры ніхто яму не забароніць.

Ён знаходзіць Ірыну на пляжы. Яна яўна ўстрывожана.

— Да мора прыязджаюць жулікі,— гаворыць Андрушкевічу.— Чысцяць у людзей кішэні. Асабліва ў тых, хто падвыпіў. Мяне гаспадыня папярэдзіла...

Андрушкевіч пасміхаецца.

Упершыню ён бачыць Ірыну ў купальніку, і яе выгляд як бы нават трохі яго расчароўвае. У марах, летуценнях ён, як Дон Кіхот Дульцынею, узнёс Ірыну пад аблокі, надзяліў рысамі незямной красы, прыгажосці. Між тым яна звычайная жанчына. Як ён сам, пачынае старэць.

Ён распранаецца. Ад яго не хаваецца: прыхільна Ірына глядзіць на яго. Нават як бы з прызыўным бляскам у вачах. Як тады, калі запрасіла на чужую кватэру...

Дзень сонечны, нават гарачы. Мора лагоднае, ціхае. Зрэдку перакідваючыся словамі, яны ляжаць, загараюць, затым ідуць у мора.

Ірына плавае не надта, таму далёка яны не заплываюць.

Праз колькі часу Андрушкевіч высвятляе: Ірына не адна. Паблізу, крокаў за дваццаць, ляжаць яе сын з пляменніцай!

Сыну, бесклапотнаму шыракатвараму хлапчуку, з бялесасінімі вачамі, маці, відаць, дала наказ: не паказвацца на вочы. Гадзіну ці дзве хлапчук церпіць. Але далей не вытрымлівае: раз-пораз шастае да маці, выцягвае з пяску бутэлькі з напіткам, якія прынёс Андрушкевіч.

Андрушкевічу непрыемна. Праз супярэчлівую мітусяніну пачуццяў упершыню акрэсліваецца выразная думка: навошта яму Ірына? У яе муж, сын, у яго сын і дачка. Відаць, ад неўладкаванага жыцця сям'і, сварак, знявагі ягоны сын пасля дзесяцігодкі падаўся ў ваенна-марское вучылішча. Каб атрымаць незалежнасць, хутчэй мець свой хлеб. Цяпер плавае на падводнай лодцы. Дадому піша рэдка. Ягоныя кароткія лісты падобны да тэлеграм: «Жыву нармальна. Служба звычайная...»

Андрушкевічу аж горка робіцца. Асабліва цяпер, калі раз-пораз шастае па напітак чужы хлапчук.

Ірына, відаць, адчувае настрой Андрушкевіча. Не ведае, аднак, чаму ён гэтак раптоўна пагоршыўся.

— Давай сёння ў прыморскі рэстаран пойдзем,— просіць.— Ён адсюль відаць. Там, кажуць, вельмі прыгожа...

Столькі ласкі ў яе голасе, даверлівасці, просьбы.

Аднак Андрушкевіч нават слухаць пра рэстаран не хоча.

— Раз на раз не прыходзіцца. Учора пашанцавала. Што будзе сёння?

— Рэстаран пры самым пляжы. Столькі там людзей.

Андрушкевіч непахісны. Не пойдзе ён ні ў прыбярэжны, ні ў які іншы рэстаран. Ён наогул, калі запрашаў Ірыну да мора, пра рэстараны не думаў. Спадзяваўся на інтымную сустрэчу. Ірына, аднак, ад такой сустрэчы ўхіляецца.

Мора, здаецца, кіпіць. Столькі боўтаецца ў ім купальшчыкаў. Сонца хіліцца на спад. Але пляж яшчэ шуміць, гамоніць.

Нездаволеныя адно другім, Андрушкевіч з Ірынай разыходзяцца. Заўтра сустрэнуцца на гэтым месцы.

Дзіўны настрой валодае Андрушкевічам. Нібы развітваецца ён з чымсьці дарагім, прыгожым, што мільганула на імгненне сіняй птушкай, паманіла за сабой, а цяпер знікае. Можа, гэта спявае сваю развітальную песню яго позняе няўдалае каханне...

Вечарам Андрушкевіч заглядвае ў блакнот падпалкоўніка-журналіста. Блакнот ёмісты, у яго перапісаны з ваеннага архіва радыёграмы, якія пасылаў у Цэнтр, у Маскву капітан Мазурэнка. І ваенная прысяга яго, Андрушкевіча, перапісана. Ён даваў яе капітану яшчэ ў сорак другім годзе. Добрая ўстанова архіў! Хавае, раскрывае тое, што можа быць забыта або нават паказана навыварат. Была ў Клінску невялікая група хлопцаў, дзяўчат, што адчайна, рашуча змагаліся з ворагам. І не забыты гэтыя хлопцы і дзяўчаты...

Малайчына журналіст. Дапяў у ваенны архіў, які знаходзіцца ў горадзе Падольску. Андрушкевічу нават думка ў галаву не прыходзіла, што можна туды трапіць.

Толькі не ведае падпалкоўнік вайны, асабліва іхніх падпольных, партызанскіх спраў, і над тым, што ён напісаў пра Мазурэнку, ягоных памочнікаў, трэба папрацаваць. Андрушкевіч папрацуе. Будзе кніга, і кніга вельмі неблагая...

Познім вечарам, праходжваючыся каля мора, Андрушкевіч сутыкаецца з Клебановічам. Прыемныя светла-шэрыя змрокі ахінаюць узбярэжжа, роўнядзь марскога заліва. Яшчэ чайкі крычаць, яшчэ з гікам, распускаючы вакол сябе фантаны пырскаў, паасобныя адважныя купальшчыкі нясуцца ў мора.

— Каля Русецкай пакручваешся,— падколвае Клебановіч.— Хочаш злавіць за хвост жар-птушку. Не зловіш, брат. Наш з табой цягнік даўно адышоў...

Андрушкевіч ніякавее.

— Я выпадкова сустрэў Русецкую. Расказала пра пахаванне рэктара.

Ён свядома хлусіць. Але іншага ратунку няма.

— Бачыў, як ты па рэктары сумуеш. Ляжыш з падначаленай на залатым пяску. Толькі скажу табе: халодная птушка Ірына. Хітрая, разважлівая. Проста так загараць з табой не будзе.

— Хто я ёй?

Голас Клебановіча поўніцца злосцю:

— Загадчык кафедры. На сёе-тое пры патрэбе можаш закрыць вочы. Ты ведаеш, што яе муж п’яніца? Дамашнія рэчы прапівае. Падушкі з дому выносіць. Ірына тым часам дачу будуе. Каменную, з верхнім і ніжнім пакоем. Як прафесары, дактары навук...

Вогненнай успышкай у памяці: паўпадвальчык у Рызе на вуліцы Падам'ю, томік Герадота на нямецкай мове, які Андрушкевіч трымаў у руках. Першая старонка, на якой інвентарны нумар, пячатка, вырвана. Акадэмік Нікольскі, іншыя выдатныя прафесары завяшчалі факультэту ўласныя бібліятэкі. Тысячы тамоў. Хто, як улічвае тыя кнігі?

Андрушкевіча раптам пранізвае здагадка.

— Скажы чэсна,— пытае ён, гледзячы ў шэрыя насмешліва-пранізлівыя вочы Клебановіча,— у цябе з Русецкай нічога не было?

— Калі было, то быллём парасло. Больш я табе нічога не скажу. Думай сам...

Не разышліся, значыць, да канца дарогі Андрушкевіча і Клебановіча. Яны яшчэ могуць быць сябрамі-таварышамі.

У новым святле паўстае Ірына. Сапраўды птушка з перабітым крылом. З усіх сіл мосціць уласнае гняздо. Варта было сёння звадзіць яе ў прыморскі рэстаран. Няхай бы застаўся ёй прыемны ўспамін...

Андрушкевічу аж млосна робіцца. У юнацтве закахаўся ў Алімпіяду, цяпер, на схіле дзён,— у Ірыну. Няўжо каханне падобна на доўгатэрміновы аванс, выдадзены за адну толькі прывабную знешнасць? Сляпое пачуццё накшталт інстынкту? Калі так, то каханне — пачуццё падманлівае, здрадлівае. Да светлых вышынь не выводзіць. Ва ўсякім выпадку, у жыцці Андрушкевіча здарылася так...

Яму шкада Тамары. Зняверыўшыся ў Алімпіядзе, ён раўнаваў Тамару без падставы. Парадкам падпсаваў жыццё ёй, сабе. Цяпер Андрушкевіч ведае: нічога не было ў Тамары з Клязьбічам, з Вастрабрамскім, які — Марыя Васільеўна часта расказвала — кватараваў у Тамарыным доме. Тамара, відаць, таму закахалася ў Вастрабрамскага, што блізка яго бачыла. Дзіва няма: акцёр Вастрабрамскі выдатны. Дробязь, глупства, але з гэтага вынікла бяда: спачатку ён помсціў Тамары, потым Тамара — яму...

Назаўтра ва ўмоўленым месцы Андрушкевіч Ірыну не знаходзіць. Нядзеля, да мора на адпачынак прыехала многа рыжан. Пляж ушчыльную заслан купальшчыкамі, якія

падстаўляюць пад сонца спіны ці жываты. Можа, Ірына не бачыць яго?

Гадзіну ці болей вандруе па ўзбярэжжы Андрушкевіч. Ірыны няма. Прадчуванне, значыць, спраўдзілася. Учора была іх развітальная сустрэча. Нездарма балела сэрца. Яно яшчэ доўга будзе балець. Бо ён у Ірыну закахаўся. Ён абдымаў яе, цалаваў, нібы ўласнае, адчуваў яе пругкае цела, па-дзявочаму малыя грудзі, тугія крутыя бёдры. Адарваць гэта ўсё ад сябе — нібы рэзаць па жывому...

Ён думае пра тое, што Ірына прыехала да яго, і таму ён мусіць кампенсаваць яе выдаткі. Ён ведае: у летні час Ірына забірае пішучую машынку з кабінета і нясе дадому. Штосьці камусьці бясконца друкуе. Ён ёй гэта дазваляе. Цяпер ён зробіць штосьці лепшае.

Андрушкевіч ідзе на станцыю, садзіцца ў электрычку, вяртаецца ў санаторый. Бярэ пішучую машынку, якую купіў у Рызе. Яна добра запакавана ў кардонную скрынку. З гэтай скрынкай Андрушкевіч паяўляецца ў сасновым пасёлку. Жыве ў ягонай душы надзея, што ён застане Ірыну дома. Ён з ёй пагаворыць, і ўсё між імі высветліцца...

Ірыны дома няма. Толькі збянтэжаная пляменніца з шыракатварым хлапчуком, сынам Ірыны. Андрушкевіч ставіць пакунак на падлогу.

— Для Ірыны,— гаворыць.— Яна дала мне грошы, і я купіў ёй пішучую машынку. Перадайце ёй маё прывітанне...

Ён выходзіць з дворыка, глядзіць на светла-блакітны дом пад летнімі разгалістымі бярозамі, ля якога столькі вечароў праблукаў. Невыносна баліць сэрца. Бывай, Ірына!.. Болей я табе не пазваню. Ніколі не прызначу спаткання. Чаго б гэта мне ні каштавала...

Вярнуўшыся ў санаторый, у свой пакой, Андрушкевіч знаходзіць на падлозе падсунутую пад дзверы паперку. Выклік на тэлефонныя перагаворы. На тую якраз станцыю, адкуль ён столькі разоў званіў Ірыне.

Да прызначанага ў паперцы часу застаецца паўгадзіны. Якраз вячэра пачынаецца, і вочка ліфта цяпер пастаянна чырвонае: ліфт заняты. Андрушкевіч збягае з шостага паверха ў

вестыбюль, прыбаўляючы кроку, імчыць па парку. Затым па гулкай, прылеглай да санаторных асабнякоў вуліцы.

Ён паспявае ў патрэбны момант. Падаўшы ў акно даведак дзюбатай белабрысай дзяўчыне-тэлефаністцы паперку-выклік, не паспеўшы аддыхацца, ён чуе яе голас, узмоцнены мікрафонам:

— Андрушкевіч! Гаварыце з Мінскам. Чацвёртая кабіна...

Голас Тамары ўражвае Андрушкевіча незвычайнай, даўно не чутай цеплынёй, пакорлівасцю, даверлівасцю:

— Аляксей, калі прыедзеш? Я сумую па табе...

— Заўтра выязджаю. Пераначую ноч і выязджаю.

— Мы не маладыя, Аляксей. Трэба шанаваць адно другога. Болей аднаго цябе ў санаторый не пушчу...

— Дома ўсё ў парадку? — пытае Андрушкевіч, уражаны тонам размовы з жонкай і няяснай трывогай, што расце ў душы.

— Цяпер у парадку. Не хвалюйся. Страшнае было ўчора. Наша Галя ледзь не ўтапілася. На Мінскім моры. Выратавалася сама. Даплыла да берага...

— Дзе Галя? — адчайна крычыць ён у трубку, адчуваючы, як нямеюць рукі, ногі, сціскаецца сэрца і зусім прападае голас.

— У бальніцы,— голас жонкі мяккі, трапяткі, вінаваты.— Абсалютна ніякай небяспекі. Не хвалюйся. Галю я іду забіраць. Пазванілі з бальніцы...

Зняможаны, ён кладзе трубку на рычаг і выходзіць з кабіны. Дрыжаць рукі, ногі, кружыцца галава. Ён не паедзе — паляціць у Мінск. Знойдзе таксі — і ў аэрапорт! Зараз жа. Ён удзельнік вайны і па сваім пасведчанні здолее дастаць білет на самалёт нават у самую апошнюю хвіліну.

## ЗАВЯРШАЛЬНЫЯ АБСЯГІ БУЙНАМАШТАБНАЙ ПРОЗЫ

У гісторыю беларускай літаратуры Іван Навуменка ўвайшоў як пісьменнік, што плённа працаваў у розных празаічных жанрах на працягу ўсяго творчага жыцця. 80-я гады мінулага стагоддзя былі часам завяршэння доўгай карпатлівай работы над рускамоўнай аповесцю «Капитан Степь уходит в разведку» (1982), раманамі «Летуценнік» (1983) і «Асеннія мелодыі» (1987). Розныя паводле мастацкіх спосабаў адлюстравання рэчаіснасці, творы цесна звязаны паміж сабой не толькі храналагічна. Разгледжаныя ў кантэксце ўсёй спадчыны пісьменніка, яны фарміруюць цэласнае ўяўленне пра шляхі эвалюцыі майстэрства празаіка, ілюструюць агульналітаратурныя тэндэнцыі развіцця нацыянальнага мастацтва слова.

Як сведчаць архіўныя матэрыялы, творчая задума дакументальнай аповесці пра партызанскі і падпольны рух на Палессі ў час Вялікай Айчыннай вайны ўзнікла яшчэ ў сярэдзіне 1960-х гадоў. Перапіска з землякамі, таварышамі па падпольнай барацьбе, а таксама ліставанне з суаўтарам, вядомым украінскім журналістам Віктарам Іванавічам Мамантавым паказваюць, якая вялікая праца папярэднічала выхаду кнігі пра ваеннага разведчыка, вядомага партызанскага камандзіра Фёдара Сяргеевіча Манзіенку.

Дакументальная проза даследуе гістарычныя падзеі і з’явы грамадскага жыцця на падставе дакументаў і строга арыентавана на дакладнасць і абгрунтаванасць, фактычную праўдзівасць, рэальнасць падзей і асоб. У ёй зводзіцца да мінімуму творчы вымысел, адсутнічаюць выдуманы сюжэт, адвольныя аўтарскія меркаванні

і тлумачэнні. Выключную ролю ў дакументалістыцы адыгрывае якасць адбору і эстэтычная ацэнка фактаў, паказаных у гістарычнай перспектыве. Усе гэтыя якасці характэрныя і для аповесці «Капитан Степь уходит в разведку», перадумовамі для напісання якой былі падзеі літаратурнага і грамадска-палітычнага жыцця краіны.

Вялікая Айчынная вайна адразу пасля свайго завяршэння прыцягнула выключную цікавасць з боку пісьменнікаў-дакументалістаў як у нацыянальнай, так і замежнай літаратуры. З’явілася вялікая колькасць твораў, у якіх асэнсоўваўся трагічны духоўны вопыт народаў. З цягам часу дакументальная проза стала надзвычай разнастайнай па тэматыцы і формах, што спалучаюць хронікі падзей і рэпартажы з біяграфіямі гістарычных асоб і герояў Вялікай Айчыннай вайны. Нягледзячы на вялікую папулярнасць жанру, не ўсе творы лёгка знаходзілі дарогу да чытача. Прайшоў не адзін пасляваенны год, пакуль подзвігі герояў-падпольшчыкаў і партызан былі ацэнены па заслугах. Пра тое, як прабівала сабе дарогу праўда пра вайну ва ўмовах таталітарнага рэжыму, І. Навуменка неаднойчы пісаў у мастацкіх творах як перад, так і пасля з’яўлення аповесці «Капитан Степь уходит в разведку». Пакінуць нашчадкам праўдзівае сведчанне эпохі аўтар лічыў сваім пісьменніцкім і чалавечым абавязкам: «Маё пакаленне (нарадзіўся я ў 1925 годзе) было сведкам і ўдзельнікам такой грандыёзнай падзеі, як Вялікая Айчынная вайна. «Блажен, кто посетил сей мир в его минуты роковые»,— як сказана ў паэта… Вось гэта — галоўная падзея ў маім жыцці. Я ўдзельнічаў у падпольных справах, быў у партызанах, быў на фронце. Пасля вайны ездзіў шэсць гадоў па калгасах, бачыў аднаўленчую работу. Так што ўражаннямі жыццёвымі я дзесьці быў нават перапоўнены, і пра многае хацелася расказаць. Пра вельмі многае… (…) … Бачыў я і акупацыю, нашэсце ворагаў, бачыў самую вялікую ў свеце вайну, бачыў героіку і трагізм яе. Тут нават каб не меў ніякіх літаратурных здольнасцей, трэба было расказаць аб перажытым»[1]. На думку рэцэнзента аповесці, доктара гістарычных навук А. Хацкевіча, менавіта праўдзівасць і дакладнасць у адлюстраванні подзвігу барацьбітоў з фашызмам ёсць найвялікшай вартасцю твора: «Достоинством рецензируемой книги является то, что в ней приводится большое количество фамилий советских патриотов — командиров и политработников партизанских отрядов и соединений, рядовых партизан, бесстрашных подпольщиков и

[1] Навуменка, І. Літаратура — гэта самапазнанне: (Інтэрв’ю) / Зап. У. Аніскoвіч // ЛіМ.— 1979.— 28 верас.— С. 5.

простых советских людей, которые формально не состояли в списках партизан, но активно участвовали во всенародной борьбе, всячески помогали армейским разведчикам»[1].

У размове пра аповесць нельга абысці ўвагай дакументы з сямейнага архіва дачкі пісьменніка Валерыі Іванаўны Навуменка. Сярод іх ёсць ліст В. І. Мамантава да беларускага калегі, датаваны 16 мая 1979 года, дзе ў скупых радках адлюстраваліся непазбежныя, зусім не творчага характару складанасці ў працы над кнігай, з чым абодва аўтары вымушаны былі лічыцца: «Дорогой Иван Яковлевич! Адрес московский, куда посылать на рецензию рукопись: 103160, Москва, К-160. Главному военному цензору Генштаба ВС СССР. Как только рукопись пошлют, срочно пишите мне. Я буду звонить товарищам. Очень важно, чтобы издательство написало, что все, касающееся партизан, о которых идет речь в повести, завизировано в Белоруссии. Особенно фамилии все и, в частности, Фриги, инженера и его помощников. Когда я посылал свой вариант, они строго к этому подходили. Ну, вот пока и все. Буду ждать известий. Большой привет от Степи. С уважением Виктор». Пра тое ж гавораць і матэрыялы, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва: на прыкладзе нешматлікіх фрагментаў чарнавога машынапісу аповесці (варыянт выдання 1982 года) добра бачны фактаграфічны характар правак (выкраслены прозвішчы, падрабязнасці навучання разведчыкаў, асобныя эпізоды і г. д.).

Аповесць «Капитан Степь уходит в разведку» пісалася тады, калі ў І. Навуменкі ўжо быў багаты творчы вопыт. Лёсы, падзеі і факты, адлюстраваныя ў аповесці, знайшлі мастацкае ўвасабленне на старонках ваеннай трылогіі. Пра гэта ў шматлікіх працах гаварылася не толькі літаратуразнаўцамі: у 2011 годзе ўбачыла свет брашура краязнаўцы В. А. Сяргеевай «Гістарычная аснова ваеннай трылогіі Івана Якаўлевіча Навуменкі: прататыпы герояў». Сам аўтар ва ўспамінах пра баявую маладосць і сустрэчы былых партызан пісаў: «Застаецца дадаць, што Фёдар Сяргеевіч — мой партызанскі камандзір, стаў прататыпам вобраза Мазурэнкі, які праходзіць праз усю трылогію: “Сасна пры дарозе”, “Вецер у соснах” і “Сорак трэці”»[2]. Як стала вядома з перапіскі суаўтараў аповесці,

---

[1] Хацкевич, А. Центр вызывает на связь / А. Хацкевич // Вечерний Минск.— 1982.— 13 окт.— С. 3.

[2] Навуменка, І. Там, на Палессі / І. Навуменка // ЛіМ.— 1975.— 21 сак.— С. 14.

галоўны герой прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы кнігі да друку, удакладняючы паасобныя факты. Паводле сведчанняў І. Навуменкі Ф. С. Манзіенка часта прыязджаў у Беларусь, у 1974 годзе быў запрошаны на ўрачыстасці, звязаныя з 30-годдзем вызвалення Мінска і прысваеннем яму ганаровага звання горада-героя, разам з пісьменнікам наведаў Хатынь і іншыя мясціны, якія расказваюць пра перанесеныя нягоды і баявую народную славу.

Актуальныя пытанні, закранутыя ў аповесці, багаты дакументальны матэрыял, што склаў яе аснову, выклікалі нязменную цікавасць і пазней, пры далейшай працы І. Навуменкі над мастацкімі творамі. Яны знайшлі водгук і ў двух апошніх раманах — «Летуценнік» і «Асеннія мелодыі», напісаных амаль адначасова з аповесцю (другое выданне «Капитан Степь уходит в разведку», дапоўненае главой «Польскі рэйд», выйшла ў 1986 годзе).

Згаданыя раманы — творы з шырокай праблематыкай, скіраваныя на дэталёвае вывучэнне духоўнага жыцця інтэлігенцыі. Сам аўтар у размове пра іх заўважаў: «Мы часам забываем, што мы ўжо далёка не тыя беларусы, якімі былі, скажам, пяцьдзясят гадоў назад. І беларусы, як і іншыя нацыі, краіны, сталі народам адукаваным, інтэлігентным. (…) Але гэтая інтэлігентнасць, вытанчанасць прынесла і свае праблемы, нават у каханні… (…) Нежаданне працаваць, нейкая інфантыльнасць да позняга часу — у значнай ступені выдаткі таго, што мы сталі інтэлігентнымі. Узраслі запатрабаванні, а аддачы паменшала. Залішне шмат ва ўзаемаадносінах матэрыялізму замест харошага ідэалізму»[1]. Унутраны свет асобы, складаны працэс змены духоўных арыенціраў у грамадстве, супярэчнасці паміж абранымі ідэаламі і новымі жыццёвымі рэаліямі па-мастацку даследаваліся І. Навуменкам і раней, але ў раманах атрымалі новае гучанне ў кантэксце новага часу.

Творы адразу былі заўважаны крытыкай. У водгуках на раман «Летуценнік» рэцэнзенты падкрэслівалі важнасць закранутых праблем. У артыкуле «Свет летуценнасці і дзеяння» Л. Ламека напісала: «Здавалася б, вельмі прыватная гісторыя жыцця і нешчаслівага кахання журналіста Сяргея Касцюшкі, якая легла ў аснову рамана, паступова вырастае да сацыяльнай і маральнай праблемы — праблемы ўзаемаадносін у сям’і, а шырэй — праблемы ідэйных, духоўных і маральных каштоўнасцей асобы ў сучасным

---

[1] Навуменка, І. Час абуджае думку творцаў: (Інтэрв’ю) / Зап. А. Марціновіч // ЛіМ.— 1986.— 11 крас.— С. 5.

свеце»[1]. Называючы раман «Летуценнік» своеасаблівым працягам «Інтэрната на Нямізе», А. Марціновіч заўважыў, што перад героем пастаўлены пытанні быційнага парадку: «У жыцці галоўнага героя рамана — Сяргея Касцюшкі куды часцей, чым у Міколы Кавалюка, надараюцца сітуацыі, калі неабходна адразу, не задумваючыся, даць адказ на спрадвечнае пытанне “быць ці не быць?”»[2].

Увага крытыкаў заканамерна засяродзілася на двух цэнтральных вобразах, якія з пункту гледжання рэалізацыі мастацкай задумы атрымалі розныя ацэнкі.

Л. Ламека лічыць вобраз Сяргея Касцюшкі прынцыповай удачай: ён «раскрыты мастаком глыбока і псіхалагічна пераканаўча. Драматычна напружаныя, змястоўныя эпізоды выяўляюць высакародную, летуценную, паэтычную душу Сяргея, раскрываюць абаяльнасць яго натуры, шчодрасць пачуццяў, дзейсныя, захопленыя адносіны да жыцця. І. Навуменка дакладны, пранiклiвы ў аналізе перажыванняў героя. Ён тонка адчувае ўсе нюансы яго настрою, улаўлівае ход думкі, дае правільную матывіроўку паводзін». Вобраз Маргарыты выклікае заўвагі, бо гераіня «паказваецца толькі ў адной іпастасі: яе захапленнях, любоўных уцехах. Чытач, па сутнасці, не бачыць, як яна працуе, ставіцца да людзей, маленькага дзіцяці і г. д. У рамане зусім мала эпізодаў, якія выяўляюць адчуванні, пачуцці гераіні. Маргарыта хутчэй схема, чым паўнакроўны рэалістычны мастацкі вобраз. Да таго ж схема, намаляваная амаль спрэс чорнай фарбай. Рэдкія агаворкі накшталт «у Маргарыты добрае сэрца», «душа нібы жывое срэбра» істотнай папраўкі не ўносяць»[3].

А. Марціновіч быў у сваіх меркаваннях не такім катэгарычным: «Раман «Летуценнік» значны найперш тым, што ў ім прыадкрываецца, называецца сваімі сапраўднымі імёнамі тое прыстасавальніцтва, якое — будзем справядлівымі — найбольш дае аб сабе знаць сёння. Дзеля атрымання пэўных матэрыяльных выгод сёй-той гатовы пайсці на кампраміс з сумленнем, здрадзіць каханню, апраўдаць гэтую здраду тым, што, маўляў, чалавек жыве на свеце адзін раз. Увасабленнем падобнага практыцызму — ваяўнічага, наступальнага, а правільней за ўсё — агрэсіўнага — з’яўляецца Маргарыта. Яна як

---

[1] Ламека, Л. Свет летуценнасці і дзеяння / Л. Ламека // ЛіМ.— 1985.— 15 лют.— С. 6.

[2] Марціновіч, А. Памяць маладых гадоў / А. Марціновіч // Полымя.— 1986.— № 4.— С. 211.

[3] Ламека, Л. Свет летуценнасці і дзеяння.— С. 6.

быццам не з тых цяжкіх пасляваенных гадоў, а з куды больш блізкага часу. (…) Праўда, вобраз Сяргея ўсё ж псіхалагічна больш выразны. Менавіта псіхалагічна, бо і ў паказе паводзін Маргарыты, ацэнцы яе ранейшага і цяперашняга жыцця шмат праўдзівых назіранняў. Але ўся гэтая праўда, у якую верыш, падзяляючы аўтарскія думкі, разам з тым падаецца крыху публіцыстычна. Хацелася б сямтам і некаторага «прасвятлення» ўчынкаў»[1].

П. Дзюбайла таксама пісаў пра неадназначнасць вобразаў. Ён заўважаў, што ў рамане «вельмі часта падкрэсліваецца непрыстасаванасць да жыцця, летуценнасць героя», якая, калі меркаваць па паводзінах Сяргея, не ўласціва яму ў такой высокай, як заяўлена аўтарам, ступені. Разам з тым «Касцюшка — сімпатычны герой. Сімпатычны непрыманнем фальшу, пошласці. Ён верыць у людзей, у іх сумленне, маральную чысціню…» Другі цэнтральны вобраз, антыпод галоўнага героя, на думку даследчыка, заўваг не выклікае: «Маргарыта зусім інакш, па-мяшчанску глядзіць на сямейнае жыццё. (…) І гэта псіхалагічна тонка і глыбока раскрыта пісьменнікам»[2].

У юбілейным артыкуле да 85-годдзя пісьменніка В. Жураўлёў пачаў размову пра вобразы рамана «Летуценнік» у кантэксце ўсёй творчасці празаіка: «З героем, што прыкладае старанні і намаганні ў любых абставінах жыцця не страціць чалавечую годнасць, пісьменнік уваходзіў у літаратуру і не расставаўся з ім да канца сваёй творчай дзейнасці. Адначасна з гэтым ён не абмінае ўвагай і персанажа, які не ўмее, не жадае ці проста духоўна не падрыхтаваны паставіць сябе пад вымяральна-ацэначны кантроль агульначалавечых крытэрыяў і не спрабуе ўнікнуць у тое, што яго ўнутраная свабода ва ўсякай, нават вельмі асабістай і далікатнай сферы, дзе яму быццам бы ніхто не мае права чыніць перашкод, так альбо іначай закранае лёс іншых людзей»[3].

Агульнапрызнана, што да І. Навуменкі ў гісторыі беларускай літаратуры ніхто так паслядоўна і маштабна не выкарыстоўваў прыём раскрыцця сацыяльна-псіхалагічнага характару герояў праз пачуццё кахання. У новым рамане сфера інтымных дачыненняў наагул стала самадастатковым прадметам і аб’ектам аналізу. На

---

[1] Марціновіч, А. Памяць маладых гадоў.— С. 211.

[2] Дзюбайла, П. К. У пошуках духоўных каштоўнасцей: Беларуская проза сёння / П. К. Дзюбайла.— Мінск, 1987.— С. 50.

[3] Жураўлёў, В. Гуманістычны лад мастацкай і літаратуразнаўчай думкі / В. Жураўлёў // Полымя.— 2010.— № 8.— С. 119.

думку В. Жураўлёва, яе мастацкае даследаванне ў творы носіць палемічны характар: «…пісьменнік выкарыстоўвае вельмі шырокую сістэму мастацкай аргументацыі (звяртаецца нават па дапамогу да вучэння Фрэйда) у вытлумачэнні таго, што ўсякі націск на закаханага (закаханую) — у чымсьці мяжуе са злачынствам. Бо пачуццё, калі яно яшчэ моцнае і глыбокае, звычайна прымушае халодны рацыяналістычны разлік пацясніць свае пазіцыі. Правамерна нават зрабіць дапушчэнне, што гэты раман І. Навуменкі — своеасаблівая, палемічная рэакцыя на творы, дзе тонкая, чуйная і ранімая эмацыянальна-пачуццёвая сфера інтымнага жыцця чалавека часта выступае ў жорсткіх межах халоднай логікі і ўсёведнай рацыяналізацыі. Як паказвае аўтар, тут далёка не ўсё ўкладваецца ў формулы, схемы строга і матэматычна выверaных разлікаў і прадпісанняў. А таму і ацэнкі нашы аб чалавеку (і асабліва ацэнкі крытычныя) павінны быць у дадзеным выпадку вельмі ўзважанымі і асцярожнымі. Тэкстам і падтэкстам мастацкага слова сцвярджаецца думка аб тым, што сама прырода надзяліла глыбокае і шчырае пачуццё досыць шырокімі правамі і паўнамоцтвамі ў свабодным выбары сваіх уласных, не падлеглых вонкаваму ўціску мадэляў і форм выяўлення»[1]. Такі ракурс аналізу рамана высветліў і неадназначнасць вобраза Маргарыты Асмалоўскай. Галоўная гераіня, мяркуе літаратуразнавец, трапляе ў поле крытычнай аўтарскай думкі не з-за сваіх паводзін, няўдалых спроб знайсці асабістае шчасце і вырвацца з «нуднай сямейнай будзённасці»: «Трывожыць і насцярожвае ў яе характары і паводзінах нешта іншае, а менавіта тое, што ўсе гэтыя няпростыя, часта складаныя і драматычныя з'явы жыцця безбалесна слізгаюць па паверхні яе душы і не пакідаюць там «ніякага следу» і запытальна-аналітычнага водгуку. Выхад з такога інфантыльнага стану бачыцца пісьменніку ў асабістых імкненнях і намаганнях чалавека выйсці на шлях узаемаўзгодненай сустрэчы з агульналюдскім вопытам, у якім скандэнсавана духоўная энергія тысячагоддзяў і закладзена крэда найважнейшых жыццёвых арыентацый»[2].

Аўтар рамана абірае галоўным героем прадстаўніка таго пакалення, якое пісьменнік добра ведае і шмат пра яго піша. Адсюль — шматлікія параўнанні і цесная ўзаемасувязь з іншымі творамі, на якіх традыцыйна засяроджваюцца даследчыкі прозы І. Наву-

---

[1] Жураўлёў, В. Гуманістычны лад мастацкай і літаратуразнаўчай думкі.— С. 119.

[2] Тамсама.— 119—120.

менкі. «Чытаючы раман «Летуценнік» міжволі спрабуеш правесці паралель з лёсам Сяргея Каліноўскага з рамана «Смутак белых начэй». І. Навуменка зрабіў правільна, што змясціў гэтыя два творы пад адной вокладкай, бо тое, аб чым расказваецца ў «Смутку белых начэй», з'яўляецца як бы перадгісторыяй «Летуценніка». Пісьменнік, па сутнасці, стварае адну вялікую кнігу «сваёй маладосці», расказваючы пра юнакоў дваццаць пятага, дваццаць шостага гадоў нараджэння. Не спяшаючыся, звяртаецца зноў і зноў да перажытага, да таго матэрыялу, які не забываецца»[1],— напісаў А. Марціновіч, які небеспадстаўна лічыць, што такія абагульненні і сцверджанні пра ўнутраную блізкасць твораў грунтуюцца, апрача ўсяго іншага, і на відавочным супадзенні асобных эпізодаў і сюжэтных хадоў.

На момант з'яўлення «Летуценніка» беларускае літаратуразнаўства і крытыка мелі ў сваім актыве шэраг грунтоўных работ, прысвечаных адметным рысам творчасці празаіка. Сёння можна смела канстатаваць: на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў не слабее цікавасць да вывучэння спецыфікі навуменкаўскага аўтабіяграфізму. У кнізе П. Дзюбайлы на прыкладзе рамана гэта з'ява даследавалася як фактар уплыву на структурную арганізацыю твора: «Гэты раман І. Навуменкі, відаць, найбольш аўтабіяграфічны. Ён стане ў адзін рад з такімі творамі, як «Сасна пры дарозе», «Інтэрнат на Нямізе», «Замяць жаўталісця». У іх паказаны адзін тып чалавека ў розны час, у розных абставінах. Гэты чалавек вельмі блізкі аўтару не толькі па жыццёваму вопыту, біяграфічных дадзеных, але і па ўнутранаму тэмпераменту, характару, па духоўнаму жыццю. Гэта выяўляецца і ў лірызацыі апошніх раманаў І. Навуменкі. Нярэдка ў рамане «Летуценнік» апавяданне ад трэцяй асобы пераходзіць у апавяданні ад першай асобы ў форме «я-героя». Часта зноў і зноў па законах успамінаў і псіхалагічных асацыяцый пісьменнік звяртаецца да адных і тых жа падзей у жыцці героя, да адных і тых жа думак і перажыванняў, паглыбляючы і пашыраючы іх, што прыводзіць часам да паўтарэнняў, складваецца ўражанне сюжэтна-кампазіцыйнай раскіданасці твора. Аднак тут трэба ўлічваць, што гэта лірызаваны твор, для якога магчыма іменна такая арганізацыя матэрыялу»[2]. Быццам бы знарочыстая непаслядоўнасць у пабудове маштабных празаічных твораў І. Навуменкі не раз прыцягвала ўвагу рэцэнзентаў. У кожным канкрэтным

[1] Марціновіч, А. Памяць маладых гадоў.— С. 212—213.

[2] Дзюбайла, П. К. У пошуках духоўных каштоўнасцей.— С. 48—49.

выпадку гэты спосаб арганізацыі тэксту дапамагаў вырашаць пэўную мастацкую задачу. На думку А. Марціновіча, у рамане «Летуценнік» ён «працуе» на раскрыццё характару чалавека, глыбокае пранікненне ў псіхалогію герояў: «Прасочваючы жыццё дваццацішасцігадовага маладога чалавека, пісьменнік пачаргова як быццам «змешвае» часавыя пласты, пераносячы дзеянне то ў гады вайны, то ў пасляваенны час. Тым самым дасягаюцца найбольшая пераканаўчасць і праўдзівасць, ствараецца магчымасць лепш высветліць, «хто ёсць хто». Адкрываецца і тое, што знаходзіцца як бы на паверхні, і тое, што схавана недзе глыбока ў душы»[1].

Для І. Навуменкі стала традыцыяй знаёміць чытача са сваімі новымі творамі яшчэ да іх выхаду асобнай кнігай ці ў зборніку. Публікацыі ўрыўкаў на старонках перыёдыкі суправаджаліся аўтарскімі анатацыямі, дзе акрэслівалася кола праблем, узнятых у аповесці ці рамане. Гэтыя кароткія заўвагі маглі быць цікавымі як для чытача, так і прафесійнага крытыка. Так, урыўку з рамана «Летуценнік» папярэднічалі наступныя радкі: «Я напісаў раман «Летуценнік», у якім спрабую расказаць пра чалавека майго пакалення, былога франтавіка, які прыехаў вучыцца ў Мінск, пястуе ў душы творчыя надзеі, планы, нямеючы перад загадкай мастацтва і перажываючы тым часам цяжкую драму, што напаткала яго на пачатку маладога жыцця»[2]. І. Навуменка, які змог паспяхова рэалізавацца як крытык і літаратуразнавец, лічыў сябе перш за ўсё пісьменнікам, і пытанні творчага характару мелі для яго надзвычай важнае значэнне. На гэты аспект даследчыкі прозы звярнулі ўвагу не адразу, хоць у рамане «Летуценнік», як, дарэчы, і ў некаторых папярэдніх творах, дадзеная тэма распрацавана досыць падрабязна. Літаратура — гэта той цудоўны свет, дзе галоўны герой шукае адказы на хвалюючыя пытанні, дзе бярэ пачатак і знаходзіць прытулак яго летуценнасць, дзе нараджаюцца новыя мары і сяганні. Урэшце і ў абмалёўцы, у характарыстыцы самога героя шмат літаратурнага, што трапна заўважыў П. Васючэнка: «Надзвычайная ўражлівасць, рэфлексіўнасць прыносяць герою-летуценніку турботы, якія можна параўнаць з тымі згрызотамі, ад якіх пакутуюць літаратурныя рамантычныя персанажы пры кантакце з асяроддзем — нячулым, часам бязлітасным у дачыненні да такіх

[1] Марціновіч, А. Памяць маладых гадоў.— С. 212.

[2] Навуменка, І. Зімовае сутонне / І. Навуменка // ЛіМ.— 1984.— 24 лют.— С. 8.

самотнікаў. Невыпадковыя літаратурныя сімпатыі Касцюшкі: ягоны ўлюбёны пісьменнік — Якуб Колас, літаратурны персанаж — Сымон-музыка. У сваёй інтэрпрэтацыі Коласавай паэмы «Сымон-музыка» пры абмеркаванні чужой дысертацыі Касцюшка выказвае шэраг тонкіх меркаванняў пра метафарычную прыроду паэмы і далікатны духоўны свет яе лірычнага героя»[1]. На працягу ўсёй творчасці І. Навуменка заставаўся верным свайму герою — рамантыку і летуценніку — і па-мастацку даследаваў яго характар у розных абставінах, ракурсах, часавых вымярэннях. На новым жыццёвым этапе, як падкрэслівае даследчык, «летуценнасць, мройлівасць душы Сяргея Касцюшкі ўжо не вытлумачваюцца «калектыўнай» характарыстыкай пакалення, якое выгадоўвалася ў атмасферы 1930-х гг. пад уплывам пэўных ідэалаў, мараў, уласцівых тысячам маладых людзей. Касцюшка з яго шчодрым уяўленнем, ранімасцю, душэўнай чуйнасцю — хутчэй неардынарны, чым тыповы вобраз…»[2].

Услед за «Летуценнікам» свет пабачыў раман «Асеннія мелодыі», як казаў пра яго І. Навуменка, у пэўнай ступені працяг папярэдняга твора. Крытыка адгукнулася на яго хутка і актыўна, уразіўшы рэзка супрацьлеглымі ацэнкамі. Некаторыя артыкулы, як, да прыкладу, рэцэнзія С. Запрудскага, прымусілі калег па цэху звярнуць увагу і на праблемы літаратуры, і на праблемы самой крытыкі. Аналізуючы сітуацыю ў кантэксце найважнейшых тэндэнцый тагачаснага літаратурнага працэсу і пагаджаючыся з некаторымі заўвагамі, Т. Грамадчанка падкрэсліла, наколькі важна пры аналізе рамана падбіраць максімальна адпаведныя яму літаратуразнаўчыя падыходы і інструментарый, улічваць спецыфіку ўзаемадачыненняў аўтара і героя, разглядаць твор як вынік рэалізацыі мастацкай задумы пісьменніка, не дапускаючы аднабаковых трактовак, перадузятага стаўлення і, безумоўна, паважаючы асобу творцы. Як і можна было чакаць, крытычныя баталіі разгарэліся вакол вобраза галоўнага героя, у сувязі з чым даследчыца заўважыла: «Магчыма, крытыку было б цікавей мець справу з яркай, арыгінальнай асобай, пра якую кажуць, што хапае зоркі з неба. Аднак І. Навуменка паказаў іншы тып вучонага і чалавека. І паставіўся да свайго героя з разуменнем і шкадаваннем, што ўяўляецца зусім заканамерным у кантэксце творчасці

---

[1] Васючэнка, П. Іван Навуменка / П. Васючэнка // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 т.— Мінск, 2001.— Т. 3.— С. 708.

[2] Тамсама.

пісьменніка»[1]. Адмаўляючы прысутнасць у творы аўтарскай зададзенасці на становучасць галоўнага героя, яна заключае: «І. Навуменка ставіў за мэту паказаць чалавека, а не становучага героя, які, да таго ж, па няпісаных літаратурных канонах павінен пакутаваць, цярпець (гэтага чакае ад героя «Асенніх мелодый» крытык). Але калі ў Андрушкевічу бачыць першае, а не другое — чалавека, а не становучага героя,— то над ягонымі перажываннямі ўжо наўрад ці захочацца іранізаваць»[2].

У водгуках на раман «Асеннія мелодыі», як і ў выпадку з «Летуценнікам», згадваюцца іншыя, так ці інакш сугучныя яму творы. Да прыкладу, А. Марціновіч называе апавяданне «Асфальт» і аповесць «Замяць жаўталісця», дзе героі патрапляюць у падобную сітуацыю. Гісторыя, што адбываецца з галоўным героем, па словах крытыка, банальная, але «даследуючы сям'ю як мікраячэйку грамадства, пісьменнік, аднак, не замыкаецца на пытаннях бытавога плана, а глядзіць на яе ў кантэксце ўсёй шматграннасці жыцця, калі чалавек тысячамі ніцяў павязаны і з іншымі людзьмі, і з грамадствам»[3].

Аднак Аляксей Андрушкевіч толькі на першы погляд паўтарае папярэдніх герояў-інтэлігентаў прозы І. Навуменкі. У дадзеным выпадку, як справядліва адзначае П. Васючэнка, «можна сцвярджаць пра тыпалагізацыю вонкавай біяграфіі, але не пра мадэль унутранага біяграфізму»[4]. Драматызм у раскрыцці духоўнага свету героя ўзмацняецца, бо «рэфлексіі Андрушкевіча, смутны «восеньскі» настрой, з якім ён аглядаецца на мінулае і ўзіраецца ў сучаснасць, ідуць ад усведамлення не толькі няпоўнай самарэалізацыі, але і аб'ектыўнай немагчымасці такой самарэалізацыі»[5]. Пісьменнік паказвае душэўны стан не толькі аднаго чалавека, у цэнтры яго ўвагі — грамадскія працэсы, якія фарміруюць духоўнае аблічча эпохі. «Вязкі, руцінны побыт робіць фікцыяй і тыя праявы асабістага, інтымнага жыцця, якія калісь герою здаваліся нязменнымі, канстантнымі.

---

[1] Грамадчанка, Т. К. Крытыка і літаратурны працэс / Т. К. Грамадчанка // Праблемы сучаснай беларускай крытыкі.— Мінск, 1996.— С. 65.

[2] Тамсама.— С. 70.

[3] Марціновіч, А. «…Каб было чэсна» / А. Марціновіч // Літаратура і мастацтва.— 1988.— 25 сак.— С. 6.

[4] Васючэнка, П. Іван Навуменка.— С. 709.

[5] Тамсама.

Размыванне канстантаў — адна з маральных хваробаў XX ст.— бачыцца пісьменнікам досыць выразна і перадаецца праз дэталізаваны, атамізаваны побыт»[1],— піша П. Васючэнка.

Раманы «Летуценнік» і «Асеннія мелодыі» займаюць асобнае месца ў творчасці І. Навуменкі. Згаданыя вышэй даследаванні — нямногае з таго, што было і будзе пра іх напісана. У вырашэнні мастацкай звышзадачы твора не абыходзіцца без карпатлівай працы над усімі складнікамі яго мастацкай сістэмы, у вывучэнні гэтага складанага працэсу — без падрабязнага шматаспектнага аналізу. У прозе І. Навуменкі наагул і ў двух яго апошніх раманах у прыватнасці яшчэ шмат чаго патрабуе вывучэння і ўдакладнення. Тут для сучаснай навукі аб прыгожым пісьменстве з яе шырокімі магчымасцямі ў пераасэнсаванні вядомых твораў у кантэксце актуальных праблем сённяшняга дня застаецца шмат нявысветленага.

*Інеса Баўтрэль*

---

[1] Васючэнка, П. Іван Навуменка.— С. 709—710.

# КАМЕНТАРЫІ

VII том Збору твораў І. Навуменкі склалі рускамоўная аповесць «Капитан Степь уходит в разведку» (1982, 1986), раманы «Летуценнік» (1983) і «Асеннія мелодыі» (1987). Творы былі апублікаваны пры жыцці пісьменніка. Раман «Летуценнік» друкаваўся ў зборніку «Летуценнік; Смутак белых начэй» (1985), раман «Асеннія мелодыі» — у зборніку «Асеннія мелодыі» (1987). У двухтомніку «Выбраныя творы» (1995) аповесць і раманы не публікаваліся. Аповесць «Капитан Степь уходит в разведку» выходзіла асобнай кнігай двойчы: у 1982 г. і ў дапрацаваным і дапоўненым варыянце ў 1986-м.

Творы друкуюцца ў храналагічным парадку, датуюцца па прыжыццёвых выданнях, аўтографах і машынапісных крыніцах.

За асноўны тэкст прыняты прыжыццёвыя публікацыі ў часопісе «Полымя» і прыжыццёвае другое кніжнае выданне аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (1986). Крыніцы асноўнага тэксту ўказваюцца ў каментарыях да кожнага твора. Пры наяўнасці аўтографаў і машынапісаў падаюцца іх апісанні.

Для ўзнаўлення дакладнага аўтарскага тэксту твораў, удакладнення іх датавання і напісання каментарыяў выкарыстаны наступныя крыніцы:

**1. Матэрыялы, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ):**

а) фрагменты аўтографаў раманаў «Летуценнік» і «Асеннія мелодыі»;

б) фрагменты машынапісаў аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» і рамана «Летуценнік».

**2. Матэрыялы, якія захоўваюцца ў сямейным архіве дачкі пісьменніка В. І. Навуменка:**

а) асабовая справа Манзіенкі Ф. С. пад нумарам 422, складзеная ва Упраўленні кадраў і навучальных устаноў пры Савеце народнай гаспадаркі Чарнаморскага эканамічнага раёна УССР;

б) арыгіналы і копіі фотаматэрыялаў, якія з'яўляюцца дакументальным сведчаннем падзей з ваеннага і пасляваеннага жыцця герояў аповесці «Капитан Степь уходит в разведку»;

в) ліст І. Навуменкі да М. Белага 2 сак. 1965 г.;

г) ліст В. Мамантава да І. Навуменкі 16 мая 1979 г.

**3. Прыжыццёвыя выданні твораў Івана Навуменкі:**

а) кнігі «Капитан Степь уходит в разведку», 1982, 1986;

б) зб.: «Летуценнік; Смутак белых начэй», 1985; «Асеннія мелодыі», 1987.

**4. Прыжыццёвыя публікацыі ў перыядычным друку:**

а) часопісы: «Полымя», 1984, № 5; 1987, № 6;

б) газеты: «Звязда», 1974, 17, 18 чэрв.; 1984, 4 крас.; «ЛіМ», 1984, 24 лют.; 1987, 15 мая.

У выніку зверкі тэкстаў з аўтографамі і прыжыццёвымі выданнямі выпраўлены памылкі друку. Творы публікуюцца паводле правіл сучаснай арфаграфіі з захаваннем характэрных асаблівасцей мовы І. Навуменкі.

У раздзеле «Каментарыі» прыводзяцца звесткі па гісторыі напісання аповесці і раманаў, называюцца крыніцы тэкстаў, апісваюцца (пры наяўнасці) аўтографы і машынапісы.

Выяўленыя ў працэсе зверкі розначытанні тэксту носяць пераважна моўна-стылёвы характар. Розначытанні і варыянты падаюцца ў каментарыях асобным падраздзелам пад назвай «Варыянты і розначытанні».

Прыведзены звесткі пра пераклады твораў на іншыя мовы.

## 1982

### «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 3)

Друкуецца паводле кнігі «Капитан Степь уходит в разведку», 1986. Пад тэкстам дата не пазначана.

Упершыню — асобнай кнігай у 1982 г. Пад тэкстам дата не пазначана.

Выходзіла асобнай кнігай двойчы. Выданне 1986 г. дапоўненае.

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваецца няпоўны тэкст чарнавога варыянта машынапісу з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 61, арк. 1—23). На матэрыялах дата не ўказана.

Рускамоўная аповесць «Капитан Степь уходит в разведку» напісана ў суаўтарстве з вядомым украінскім журналістам і пісьменнікам Віктарам Іванавічам Мамантавым (нар. 1937), пяру якога належаць кнігі «Ветер подул в пустыню» (1979), «Лизавинские тополя» (1980), «Этого не забыть» (1985), «Рассвет встречаю первым» (1986), «Неспокойный месяц» (1988), «Пароль — “Аист”» (1990), «Мотив судьбы» (1991) і інш.

У сямейным архіве дачкі пісьменніка В. І. Навуменка захоўваецца ліст В. І. Мамантава да І. Я. Навуменкі, датаваны 16 мая 1979 г. Ён раскрывае характар творчага супрацоўніцтва пісьменнікаў і пацвярджае актыўны ўдзел у падрыхтоўцы рукапісу галоўнага героя дакументальнай аповесці Фёдара Сяргеевіча Манзіенкі. Сказанае выразна ілюструе наступны ўрывак з ліста:

«Дорогой Иван Яковлевич!

Телеграмму Вам выслали. Теперь просим учесть уточнения.

I. Заголовок хорош. Но если учесть, что в тексте на стр. 53 капитан Быстров говорит (8-я строка снизу):

— Семь месяцев от вас никаких известий.— то, видимо, он не подойдет. Может быть, тут не называть точно срок. Сказать просто: Долго от вас… А то ведь (…) так долго радиограммы не летели.

Федор Сергеевич говорит, что «Крот» прибыл к ним намного раньше, летом. И не радисты партизанские рацию отремонтировали, а «Крот» и Аня. (В моей рукописи более точно этот момент дан.) Но если оставить время, то не называть месяц. В полушубке и в октябре можно было быть. То же, что партизаны отремонтировали «Северок», надо убрать.

Федор Сергеевич дописал в конце стр. 53 фразу (его) последнюю: Думаю, что допущена ошибка, что нам не дали запасной радиостанции и запасной радистки.

На стр. 54 слово сухих заменить на анодных. (…)

Предлагаем заголовки:

1. За линией фронта
2. Иду на явку…
3. В Белорусском Полесье
4. Все это было…»

Ідэя напісання аповесці ўзнікла задоўга да з'яўлення самога твора. У лісце да земляка і таварыша па падпольнай барацьбе М. Белага ад 2 сак. 1965 г. І. Навуменка паведамляў: «Ад Манзіенкі я пісьма не палучаў. Яго адрас даў мне Рэпіч. (…) Манзіенку я яшчэ не пісаў. Што мне яму напісаць? Хіба папрасіць, каб даў матэрыял, якога не ведаем мы з табой, і які можна будзе выкарыстаць у кнізе. Адным словам, гэтага пытання я яшчэ не вырашыў. Летам я быў у Адэсе, каб ведаў, што там жыве Манзіенка, зайшоў бы да яго. (…) Калі ў яго ёсць матэрыял, багаты матэрыял, можа калі-небудзь удалося б напісаць кніжачку» (падкрэслена аўтарам.— *І. Б.*). Значна пазней, 17 і 18 чэрв. 1974 г. на старонках газеты «Звязда» надрукаваны аповед І. Навуменкі пад загалоўкам «Агнём гартаваныя», прысвечаны падзеям, адлюстраваным у аповесці:

«Далей у глыб часу адыходзяць гады Вялікай Айчыннай вайны, даражэйшыя робяцца ўспаміны пра падзеі таго часу, пра іх удзельнікаў. Чалавеку, які сустрэў вайну ў трыццацігадовым узросце, сёння за шэсцьдзясят, ды і той, хто прылучыўся да яе ў свае юначыя сямнаццаць-васямнаццаць, таксама не малады. І ў таго, і ў другога жыццё, як кажуць, зроблена, абодвум можна азірнуцца на пройдзеныя шляхі-дарогі.

Хочацца расказаць пра адну такую падзею, якая аб'яднала трыццацігадовых і сямнаццацігадовых, пра шырокую плынь, у якой зліліся рэкі і ручайкі. Я пісаў аб гэтым у апавяданнях, раманах, але то былі мастацкія творы са значнай доляй домыслу і вымыслу. Цяпер жа — толькі факты.

Летам 1942 года паблізу вёсачкі Ізбынь, якая ляжыць ля чыгуначнай веткі Васілевічы — Хойнікі, на поўдні Палесся, спусцілася дэсантная група з пяці чалавек. Зямлі шчасліва дасягнулі чацвёра. Камсамолец Ваня, якога і ўзялі дзеля таго, каб наладжваў сувязі з мясцовай моладдзю, завіс уніз галавой між дзвюх старадрэвін і забіўся.

Мала хто ведаў пра гэтую падзею. На світанні месца высадкі выявіла нямецкая «рама» — разведвальны самалёт — і хутчэй за ўсё таму, што на дрэвах завісла некалькі парашутаў з грузам, якія былі добра відаць зверху. Хутка прыляцелі яшчэ тры «рамы», лес пачалі бамбіць. У той жа дзень і назаўтра лес прачасалі нямецкія гарнізоны, тэрмінова выкліканыя з Васілевічаў і Хойнікаў, знялі парашуты з дрэў, у адным з патайных месцаў знайшлі піянерскі сцяг — відаць, схавалі яго тут піянеры якой-небудзь з навакольных школ. Гэты сцяг паслужыў для фашыстаў прыклёпам,

каб пахваляцца насельніцтву, што спушчаная з самалётаў вайсковая часць знішчана нашчэнт. Такія былі пушчаны чуткі.

Час быў суровы. Немцы пачалі сваё летняе наступленне сорак другога года, ірваліся да Варонежа, Сталінграда, на Каўказ. Для тых нямногіх, хто займеў сувязь з дэсантнікамі, падзея гэта мела агромністае значэнне. Калі ў такія цяжкія дні камандаванне знаходзіць магчымасць пасылаць у глыбокі тыл сваіх людзей, то, значыць, там, за фронтам, вераць у перамогу і робяць усё магчымае дзеля яе.

Раскажам напачатку пра дэсантнікаў. Узначальваў групу капітан Фёдар Сяргеевіч Манзіенка. Чарнявы, памяркоўны, дваццацідзевяцігадовы крапак, ён не быў кадравым ваенным. Перад арміяй, вайной працаваў у камсамоле на Адэсчыне, найбольш у палітаддзелах МТС, скончыў Адэскі камвуз. У кадравую армію прыйшоў у 1939 годзе, маючы пасля чарговай службы і збораў ваенную спецыяльнасць — сапёра. Але хутка і ў арміі стаў палітруком, перад вайной служыў у штабе Адэскай ваеннай акругі.

У Адэсе ўбачыў палітрук першыя нямецкія бомбы, пажары на любімай Дэрыбасаўскай вуліцы, адсюль быў пасланы на фронт камісарам сапёрнага батальёна, удзельнічаў у баях, адступаў, узрываў масты на Дняпры — каб не дасталіся ворагу.

Для перафарміроўкі сапёрны батальён быў перакінуты аж у Казань. Тут, у казанскіх лясах, Фёдара Манзіенку выклікаў для гутаркі генерал. Ён гаварыў аб зусім іншай, чым сапёрная, службе, прасіў згоды. Манзіенка згадзіўся — ён прывык рабіць так, як загадвалі камсамол, партыя. Пачалася спецпадрыхтоўка. Гэта было ў студзені 1942 года.

Займаліся па чатырнаццаць гадзін у суткі. Выкладчыкамі былі людзі, якія не па кнігах ведалі, што такое варожы тыл, сувязі.

Праз паўгода, у пачатку лета, Манзіенка трапляе ў Маскву. Над горадам віселі аэрастаты паветранай абароны, вечарамі вуліцы зацямняліся. На дахах дзяжурылі жанчыны. Пражэктары лавілі нямецкія самалёты, якім удалося прарвацца, і зенічкі білі па іх.

У запасным палку, які размяшчаўся пад Масквой, капітан Манзіенка падбіраў сабе людзей. Першага выбраў высокага, стройнага, падобнага на немца Уладзіміра Офмана, які някепска ведаў нямецкую мову. Офман быў масквічом, да вайны працаваў мастакомафарміцелем на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы. У Маскве ў яго засталіся бацька, маці і жонка. Офман атрымаў клічку «Ласкавы».

Другім, на кім спыніўся выбар Манзіенкі, быў Іван Маскаленка, у нядаўнім мінулым інжынер авіязавода. Камандзір групы разлічваў, што гэты кірпаты, круглатвары, чорнавалосы хлопец — сапраўдны ўкраінец — пасля закідкі ў тыл займецца падрыўной справай.

Сам Манзіенка быў «Стэп». Спачатку капітан, затым маёр «Стэп».

Васемнаццацігадовага масквіча камсамольца Ваню ўзялі за энергічны, смелы характар. У дадатак да ўсяго ён лёгка мог сысці за школьніка ці пастушка.

Група мусіла мець радыстку. Ёю стала Аня Паўлава, таксама камсамолка-масквічка. Шмат хто з маскоўскіх камсамолак, калі толькі пачалася вайна, ірваўся на фронт. Некаторыя з іх пажадалі стаць радысткамі. На курсах радыстак і вучылася Аня.

Аню Паўлаву капітан «Стэп» выбраў не толькі за тое, што яна мела найлепшыя поспехі ў радыёсправе. Два разы ён прайшоўся па шарэнзе, у якой выстраіліся дзяўчаты-курсанткі, і нарэшце яго позірк спыніўся на маленькай бялявай дзяўчынцы, якая, як і Ваня, таксама лёгка магла сысці за якую-небудзь школьніцу.

Такім чынам група была сфармавана. Трэба было яе сяму-таму навучыць.

Вывучалі ўласцівасці ўзрыўчаткі, розныя міны, спосабы і сродкі канспірацыі, сувязі з насельніцтвам. Вывучалі на карце раён ад Гомеля да Варшавы. Мелася на ўвазе, што група будзе рухацца наперадзе фронту, не менш чым за трыста кіламетраў.

Выкладчыкі паведамлялі будучым дэсантнікам усё, што вядома было пра раён іх дзеяння: пра абстаноўку ў Гомелі, Мазыры, Жлобіне, Брэсце, Ковелі. Было вядома, што ў тых мясцінах ёсць партызанскія атрады, групы, якія не маюць сувязі з цэнтральным штабам, камандаваннем. У задачу дэсантнікаў уваходзіла аб'ядноўваць такія групы, звязваць атрады з Масквой, выяўляць патрыётаў, падпольшчыкаў.

Яшчэ раней падрабязна вывучаліся па тапаграфічнай карце васілевіцкія, калінкавіцкія балоты і лясы. Потым, калі група спусцілася на месца, гэта вельмі спатрэбілася.

Ляцелі ў варожы тыл. Прыцемкам падняліся з падмаскоўнага аэрадрома. Вопыту скакаць з парашутам з самалёта не меў ніхто, за выключэннем камандзіра, які ў свой час трэніраваўся ў скачках з вышкі.

Праз колькі хвілін Масква знікла з краявіду. Праз дзве гадзіны перасеклі лінію фронту. Па самалёту білі зеніткі, на зямлі была відна вогненная паласа, сполахі пажараў.

Прыціхлыя, засяроджаныя сядзелі дэсантнікі на металічных лавачках. Было холадна. Самалёт нарэшце стаў патроху зніжацца, мільгнула вузкая лінія нейкай рачулкі, чыгуначны насып. Зрабілася цяплей. У тры гадзіны раніцы пачулася каманда: «Падрыхтавацца!»

Скакалі ў адны дзверы, груз выкідвалі праз другія. Бачылі, што пад імі лес. Першы скочыў Ваня, затым радыстка, трэці — капітан, нарэшце Офман і Маскаленка.

Манзіенка, калі выскачыў з самалёта, сачыў за іншымі парашутамі — была якраз тая часіна, калі ноч канчаецца, але світанне яшчэ не наступіла. На ляту капітан падцягваў стропы, каб наблізіцца да парашута радысткі. Балюча ўдарыў яго каробкай па лобе перавешаны праз шыю аўтамат, сарваў шапку.

Камандзір завіс паміж трыма вольхамі. За плячамі акрамя парашута было болей за сотню кілаграмаў грузу. Разгайдаўшыся, прыстаў нарэшце да большага дрэва, падрэзаў зверху стропы — ад аднаго дрэва адстаў. Затым адхіснуў лямку з грудзей. Парашут цягнуў уверх. Нарэшце капітан падрэзаў усе стропы, пакінуўшы толькі лямку, на якой сядзеў.

На зямлі Манзіенка пачаў падаваць умоўныя знакі — заквакаў жабай. Пачуў адказ. Хутка знайшоў радыстку. Яна адна з усіх апусцілася на паляну.

Вандруючы па лесе, капітан з радысткай пачулі стогн. Пакуль знайшлі месца, адкуль ён даносіўся, было позна. Ваня вісеў уніз галавой мёртвы. Пахапкам пахавалі таварыша…

Маскаленка нагадаў пра сябе стрэлам з пісталета. Нават спачатку спалохаліся гэтага стрэлу. Маскаленка таксама вісеў уніз галавой. Але яго удалося выратаваць. Капітан прымацаваў фінку да жэрдкі, каб абрэзаць стропы, радыстка нанасіла, паслала на зямлі вецця — мякчэй будзе падаць. Інжынер плюхнуўся ў лунку з вадой — побач якраз быў выварацень.

Валодзі Офмана, колькі ні шукалі, не знайшлі.

Да ўсходу сонца ўдалося сабраць і закапаць частку парашутаў. Нарэшце над лесам нудна зазвінела «рама»…

Падзеі далей развіваліся такім парадкам.

Адчуўшы, што іх выявілі, дэсантнікі кінуліся прэч. У лясной гушчэчы напаткалі дзеда. Сядзеў і драў лазу на лапці.

— Ты чуў, што страляюць? — спыталі ў яго.

— Тут заўсёды страляюць,— абыякава адказаў дзед. — Патронаў у хвашыстаў хапае. А вы хто такія? — пацікавіўся ён.

— Партызаны, з Масквы,— адказаў Манзіенка.

Дзед не паверыў.

Паказалі яму новенькія аўтаматы, далі выпіць спірту.

Дзед расказаў дэсантнікам, дзе яны знаходзяцца. Капітан выняў з планшэткі карту. Спусцілі дэсантнікаў не зусім там, дзе намячалася. Трэба было выходзіць з небяспечнай зоны.

— Павядзеш нас, дзед! — загадаў Манзіенка.

Стары пачухаў патыліцу.

— Можа аблава быць. Калі мяне засцігнуць у лесе, хату спаляць і бабу заб'юць. Сябе я не шкадую…

Аднак павёў.

Дэсантнікі перасеклі чыгуначную ветку з Васілевічаў на Хойнікі і паглыбіліся ў лес. Капітан на карце адзначаў маршрут. У поўдзень спыніліся ў густым сасонніку непадалёк ад шашы з Мазыра на Гомель. Блізка адсюль была і чыгунка Калінкавічы — Гомель.

Быў ужо надвячорак. Стары павесялеў — правёў гасцей з Масквы стоенымі ляснымі сцежкамі, і ніводная жывая душа іх не ўбачыла.

— Дайце яшчэ выпіць,— папрасіў ён на развітанне.— Калі нарвуся на немцаў, скажу — самагонку піў у сваяка…

Дзед быў з вёскі Ізбынь. Дэсантнікі распыталі, як знайсці дзедаву хату, паабяцалі абавязкова яго наведаць…

Пераначавалі ў лесе. Непрыемнасць здарылася назаўтра. Трэба было паведаміць у Цэнтр, што прызямленне не надта ўдалае — адзін чалавек загінуў, другі адбіўся. Але, разгарнуўшы «Севярок», паставіўшы антэну, радыстка з жахам выявіла, што радыёстанцыя не працуе. Аня палічыла напачатку, што парушаны кантакты. За дзве гадзіны яна разабрала і зноў сабрала анодныя батарэі, праверыла іх. Батарэі былі спраўныя, але вынік той самы: «Севярок» не працаваў. Горшую няўдачу цяжка было прыдумаць. Запасной радыёстанцыі група не мела. А без сувязі разведчык як без рук.

Манзіенка, аднак, не разгубіўся. Ён ведаў, што рана ці позна бяду паправяць. Трэба было разгортваць справу, дзеля якой дэсантную групу скінулі ў варожы тыл.

Першымі, з кім звязаліся дэсантнікі, былі жыхары вёскі Глінная Слабада Ліда Сямёнаўна і яе муж Іван Данілавіч Шумак, сястра Ліды Марыя Сямёнаўна Судас, іх суседка Ефрасіння Міхайлаўна Пырко.

Кола людзей, якія дапамагалі дэсантнікам, пакрысе пашыралася. Пражыўшы два-тры месяцы ў Васілевіцкім лесе, Манзіенка ўжо добра ведаў, што трэба рабіць і ў якім напрамку засяродзіць намаганні. Асноўным клопатам была чыгунка Калінкавічы — Гомель. Трэба было ведаць, якая тэхніка, воінскія часці перавозяцца па ёй,

адкуль, куды накіроўваюцца. Ад Калінкавічаў да Васілевічаў — суцэльны лес. Падыходы да станцый добрыя. Задача была ў тым, каб на ўсіх станцыях — у Калінкавічах, Галявіцы, Нахаве, Васілевічах, Бабічах — мець сваіх людзей.

У Нахаў кожная паасобку схадзілі Ліда Шумак і Фрося. Адна-вілі на станцыі свае знаёмствы. Праз нейкі час стала вядома, што дэсантнікам згодны дапамагаць нахаўскія настаўніцы Вера Абрамава і Таццяна Голубева.

Групу Манзіенкі між тым расшукваў Цэнтр. Праз два месяцы паблізу Нахава была высаджана новая група з трох чалавек. Але лёс яе склаўся нешчасліва. Двое дэсантнікаў, падкладваючы міну пад рэйкі, падарваліся на ёй. Трэці — Грыша Серада далучыўся да Манзіенкі.

Восенню нарэшце знайшлі Валодзю Офмана, які адбіўся ад групы летам, у час прызямлення. Здарылася гэта так. У хату да Івана Шумака завітаў чорны, зарослы партызан. Папрасіў памыць бялізну. Вось тут жонка лесніка Ліда Сямёнаўна і заўважыла: шкарпэткі ў партызана такія самыя, што і ў Манзіенкі.

У той час, калі прызямлілася група Манзіенкі, у навакольных лясах дзейнічаў Калінкавіцкі партызанскі атрад, арганізаваны Кузьмой Бакуном, разгортвалі сваю чыннасць даманавіцкія партызаны, у вёсках, мястэчках на хвалі патрыятычнага супраціўлення акупантам узнікалі падпольныя групы і арганізацыі. Дэсантнікі вельмі хутка пераканаліся — памочнікаў хопіць. Моладзь гарэла жаданнем барацьбы. За самыя складаныя заданні браліся маладыя падпольшчыкі станцыі Нахаў — Мікалай Пырко, Аня Буцэнка, камсамолец з вёскі Замосце Міхаіл Рэпіч.

Рэкі, ручайкі мусілі зліцца ў адну магутную плынь. Так яно і здарылася.

Група Манзіенкі далучаецца да Калінкавіцкага атрада. Камандаванне пасылае на Палессе трэцюю дэсантную групу на чале з капітанам «Кратом» — Анатолем Іванавічам Яфімавым. Капітаны «Стэп» і «Крот» шчасліва сустрэліся, Манзіенка нарэшце атрымаў новую радыёстанцыю, наладзіўшы да гэтага часу трывалую сувязь з падпольшчыкамі Калінкавічаў, Нахава, Васілевічаў.

Асабліва плённы ў Манзіенкі быў сорак трэці год. Дзякуючы радыёстанцыі ён звязаў калінкавіцкія і іншыя палескія атрады і брыгады з Цэнтральным штабам партызанскага руху. На Палессе сталі прылятаць самалёты, прывозілі партызанам узбраенне, тол, боепрыпасы.

Тады, у памятным сорак трэцім, радыстка Аня Паўлава разам са сваёй напарніцай Наташай Кармаковай (яна прыляцела пазней) штодня, а то і па некалькі разоў на дзень адстуквала разведданясенні для Цэнтра. Пра фашыстаў, ва ўсякім выпадку, пра тое, што перавозілі яны па чыгунцы Калінкавічы — Гомель, Цэнтр ведаў усё. Свае вушы і вочы Манзіенка меў на кожнай станцыі.

Неўзабаве зладжанай бездакорнай работай вызначыліся падпольшчыкі з Васілевічаў.

Можа, таму, што ў іх была група, якая да пачатку сорак трэцяга года набыла немалы вопыт. Васілевіцкая арганізацыя ў асноўным складалася з камсамольцаў-школьнікаў. У яе ўваходзілі Анісім Белы, Іван Доўжык, Кацярына Навуменка, Мікалай Пінчук, Васіль Грыцкін. Пазней далучыліся аграном Даніла Драпеза, урачы Віктар Казюк, Канстанцін Горбар і іншыя.

Анісіма Белага фашысты ў сорак другім годзе расстралялі. Яго замяніў Мікалай Белы. Дзеля канспірацыі ён уладкаваўся працаваць настаўнікам у Нахаўскай школе. Ён быў бясстрашны, гэты бялявы юнак. Па два, а то і па тры разы на тыдзень вандраваў з Нахава ў Васілевічы, пераносіў падпольшчыкам міны, тэрмітныя шарыкі. Манзіенку — разведданясенні, медыкаменты. Апрача таго, што васілевіцкія падпольшчыкі з вялікай пільнасцю сачылі за чыгункай, не абмінаючы ніводнага эшалона, які кіраваўся на фронт, ніводнай воінскай часці, яны ўчынілі шэраг дыверсій.

У сорак трэцім годзе Фёдар Манзіенка меў ужо ўласны атрад. Яго штаб заўсёды размяшчаўся побач са штабам Палескага партызанскага злучэння.

Для бітвы пад Курскам, летняга наступлення Чырвонай Арміі дэсантнікі, партызаны, падпольшчыкі Палесся добра папрацавалі. Яны не толькі скідвалі пад адхон эшалоны, грамілі варожыя гарнізоны, чынілі іншыя дыверсіі, а і разгадвалі ваенныя тайны, захады ворага. Былі выпадкі, калі па здабытыя партызанамі дакументы спецыяльна прылятаілі самалёты з Масквы. За дзейнасць на Палессі Фёдар Манзіенка быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

Добра дзейнічаў і капітан «Крот». Так добра, што ўсталяваў радыёстанцыю ў акупіраваным фашыстамі Мазыры.

Шмат каго са сваіх баявых сяброў, памочнікаў Фёдар Манзіенка, цяпер заслужаны дырэктар аднаго з буйнейшых адэскіх вінзаводаў, успамінае добрым словам. У першую чаргу калінкавіцкіх і васілевіцкіх партызан — Кузьму Міхайлавіча Бакуна, Мікалая Дзьячэнку, Івана Смарыгу, Васіля Караткевіча, Панкрата Алісейку, Рыгора

Аўдзейчука, Настассю Лаўшук, партызанаў свайго атрада Анатоля Таркова, Міхаіла Крота, Мікалая Цішкевіча, Міхаіла Рэпіча, Івана Баяна, сувязнога Якава Краўцова. Без іх былі б немагчымыя тыя ці іншыя справы, якія бліскуча ажыццявіў атрад Манзіенкі.

Цэнтру спатрэбіліся нямецкія грашовыя знакі. Было вырашана здабыць іх у Калінкавіцкім банку. На аперацыю папрасіўся Анатоль Таркоў са сваёй жонкай Ленай. Ён добра ведаў калінкавіцкіх падпольшчыкаў. З іх дапамогай Таркоў прабраўся ў банк. У выніку два мяшкі нямецкіх грошай былі адпраўлены на «дугласе» Цэнтру.

У вёсачцы Варашылаў жыў цудоўны дзед Якаў Кандратавіч Краўцоў. Ён дапамагаў усім атрадам, якія дзейнічалі ў наваколлі. Дэсантнікаў таксама не абмінуў увагай. Гэта ён даў прытулак Уладзіміру Офману, калі той адбіўся ад групы, яму іншы раз прыносіў звесткі з Васілевічаў Мікалай Белы.

Пасля Палесся ў Манзіенкі былі новыя дарогі, баявыя справы, якія прывялі яго аж у Польшчу. Пра гэта расказана ў кнізе Героя Савецкага Саюза І. М. Чорнага «Данные достоверны», якая выдадзена ў 1968 годзе ў Маскве.

У гэтыя дні, напярэдадні 30-й гадавіны з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, мы са словамі ўдзячнасці ўспамінаем усіх тых, хто, не шкадуючы жыцця, змагаўся супраць ворага на нашай беларускай зямлі. У групе Фёдара Манзіенкі былі людзі розных нацыянальнасцей — рускія, украінцы, казахі, грузіны. Сваім партызанскім подзвігам яны ўпісалі свой радок у слаўную старонку непахіснай дружбы, баявога яднання народаў нашай неабсяжнай Радзімы.

Амаль паўтара года пад камандаваннем Палескага партызанскага злучэння, пад кіраўніцтвам Палескага падпольнага абкама партыі дзейнічала ў лясах, гарадах, пасёлках, на чыгуначных станцыях група «маёра Стэпа» — Фёдара Сяргеевіча Манзіенкі, якая перарасла затым у атрад № 14. Яна аказала вялікую дапамогу савецкаму камандаванню, з’яўляючыся на Палессі яго вушамі і вачамі, справе вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў.

За апошнія гады Фёдар Сяргеевіч Манзіенка некалькі разоў прыязджаў на Палессе. Наведаў ён і Глінную Слабаду, яе жыхароў, якія так клапатліва прытулілі дэсантнікаў, рызыкуючы жыццём, дапамагалі ў цяжкую часіну. Многія з тых, хто так самаахвярна змагаўся з ворагам, жывыя.

З гонарам, з радасцю баявыя паплечнікі ўспамінаюць мінулыя дні».

С. 3:

*Цэнтр* — Цэнтральны штаб партызанскага руху (ЦШПР) — ваенна-аператыўны орган па кіраўніцтве партызанскім рухам на акупаванай тэрыторыі СССР у Вялікую Айчынную вайну. Утвораны 30 мая 1942 г. пры Стаўцы Вярхоўнага Галоўнакамандавання Чырвонай Арміі паводле пастановы ЦК ВКП(б) і Дзяржаўнага Камітэта Абароны. Дзейнічаў да 13 студз. 1944 г. (7 сак. 1943 г. расфарміраваны, 17 крас. 1943 г. адноўлены). Начальнік штаба — першы сакратар ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнка.

С. 4:

*Бранск* — цэнтр Бранскай вобл. Расіі.

*Белгарад* — цэнтр Белгародскай вобл. Расіі.

*Рацыя «Север»* — савецкая пераносная караткахвалевая радыёстанцыя, якая шырока прымянялася ў часы Вялікай Айчыннай вайны.

*Гітлераўцы* — салдаты нямецкай арміі пад камандаваннем Адольфа Гітлера (сапр. Шыкльгрубер Адольф; 1889—1945) — фашысцкага дыктатара Германіі ў 1933—1945 гг., правадыра (фюрара) Нацыянал-сацыялісцкай партыі з 1921 г., рэйхсканцлера з 1933 г. Палітычны курс Гітлера прывёў да развязвання Другой сусветнай вайны. Паводле Нюрнбергскага працэсу (1945—1946) Адольф Гітлер прызнаны галоўным нацысцкім ваенным злачынцам. Паводле афіцыйнай версіі скончыў жыццё самагубствам.

*Фашысты* — салдаты нямецкай арміі, прыхільнікі і паслядоўнікі ідэалогіі ваяўнічага шавінізму і расізму, якая імкнецца да знішчэння дэмакратыі, устанаўлення рэжыму жорсткай рэакцыі і развязвання захопніцкіх войнаў.

С. 6:

*Москва оставалась фактически прифронтовым городом: в Гжатске, Вязьме — немецко-фашистские войска.*— Тут і далей згадваюцца падзеі бітвы пад Масквой 1941—1942 гг.— адной з вырашальных вайсковых аперацый у Вялікую Айчынную вайну. Складалася з двух перыядаў: наступленне нямецка-фашысцкіх войск на Маскву і абарончыя баі Чырвонай Арміі (30 верас.— 4 снеж. 1941 г.), контрнаступленні (5 снеж. 1941 г.— 20 крас. 1942 г.) савецкіх войск і іх дзеянні па разгроме германскай групы армій «Цэнтр». У ходзе маштабнага наступлення гітлераўцы наблізіліся да Масквы на адлегласць 25—30 км. 27 і 29 лістап. савецкія войскі нанеслі моцныя контрудары па праціўніку, а 5-6 снеж., не маючы колькаснай переваги ў сілах і сродках, перайшлі ў контрнаступленне. 7—10 студз. 1942 г. контрнаступленне пад Масквой перарасло ў агульнае наступленне

савецкіх войск на асноўных стратэгічных напрамках ад Ленінграда да Чорнага мора, у ходзе якога нямецка-фашысцкія войскі адкінуты на 150—400 км, вызвалены Маскоўская і Тульская вобл., многія раёны Калінінскай, Смаленскай, Разанскай і Арлоўскай абл. У бітве ўпершыню з пачатку Вялікай Айчыннай вайны савецкія войскі дасягнулі буйной перамогі над вермахтам. Германская армія панесла першае адчувальнае паражэнне, што стала пачаткам павароту ў Другой сусветнай вайне, былі канчаткова пахаваны яе спадзяванні на «маланкавую вайну» (бліцкрыг); Гжацк (з 1968 г.— Гагарын) — горад у Смаленскай вобл. Расіі. З 8 кастр. 1941 г. да сак. 1943 г. акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі; Вязьма — цэнтр Вяземскага раёна Смаленскай вобл. Расіі. З 7 кастр. 1941 г. да 12 сак. 1943 г. акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У перыяд бітвы пад Масквой 1941—1942 гг. пад Гжацкам і Вязьмай адбываліся жорсткія баі Чырвонай Арміі з фашысцкімі войскамі.

*...на родной одесской земле...* — маецца на ўвазе Адэская вобл.— вобласць на паўднёвым захадзе Украіны. Утворана 27 лют. 1932 г. Цэнтр — г. Адэса, буйны міжнародны порт на Чорным моры. У сямейным архіве дачкі пісьменніка В. І. Навуменка захоўваецца асабовая справа Ф. С. Манзіенкі, дзе ў лістку па ўліку кадраў і аўтабіяграфіі ўказана, што галоўны герой дакументальнай аповесці нарадзіўся 8 лют. 1912 г. у г. Галаванеўск Кіраваградскай вобл. Тыя ж і многія іншыя дакументы справы сведчаць: усё даваеннае і пасляваеннае жыццё Ф. С. Манзіенкі было цесна звязана з Адэсчынай і яе сталіцай.

*Камвуз* — скар.: камуністычная вышэйшая навучальная ўстанова — назва вышэйшых партыйных навучальных устаноў у СССР у 1920—1930 гг.

*МТС* — скар.: машынна-трактарная станцыя — дзяржаўнае прадпрыемства ў СССР, якое ажыццяўляла абслугоўванне і рамонт трактароў, камбайнаў і іншай сельскагаспадарчай тэхнікі і давала яе ў арэнду калгасам. МТС пачалі працаваць у канцы 1920-х гг., скасаваны ў 1958 г.

*Камісар* — тут: у перыяд 1918—1942 гг.— палітычны кіраўнік воінскай часці.

*Днепр* — рака ў Расіі, у Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абл. Беларусі і ва Украіне; трэцяя паводле даўжыні і плошчы басейна рака Еўропы пасля Волгі і Дуная, упадае ў Чорнае мора.

С. 8:

*Всесоюзная академия земледелия имени К. А. Тимирязева* — маецца на ўвазе Маскоўская сельскагаспадарчая акадэмія імя

К. А. Ціміразева (сёння — Расійскі дзяржаўны аграрны ўніверсітэт — МСГА імя К. А. Ціміразева) — вядучая найстарэйшая аграрная ВНУ Расіі, заснаваная ў 1865 г. пад Масквой, у Пятроўскім-Разумоўскім; Ціміразеў Клімент Аркадзевіч (1843—1920) — расійскі навуковец у галіне батанікі і фізіялогіі раслін, адзін з заснавальнікаў расійскай навуковай школы фізіёлагаў раслін, тэарэтык дарвінізму. Член-карэспандэнт Пецярбургскай акадэміі навук (1890), Расійскай акадэміі навук (1917).

*ЦК ВЛКСМ* — скар.: Цэнтральны Камітэт ВЛКСМ, вышэйшы кіруючы орган Усесаюзнага Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі паміж з'ездамі.

*...Ленинград — в жестокой блокаде.*— Ленінград — горад на паўночным захадзе Расіі, на ўзбярэжжы Фінскага заліва і ў вусці ракі Нявы. Заснаваны ў 1703 г. Пятром I і названы ў яго гонар Санкт-Пецярбургам. У гады Першай сусветнай вайны перайменаваны ў Петраград. Пасля смерці У. І. Леніна ў 1924 г. названы Ленінградам. З 1991 г. носіць ранейшую назву — Санкт-Пецярбург. Ваенная блакада горада нямецкімі, фінскімі і іспанскімі войскамі ў час Вялікай Айчыннай вайны доўжылася з 8 верас. 1941 г. па 27 студз. 1944 г. (блакаднае кальцо прарвана 18 студз. 1943 г.).

*Серьезные трудности создались и под Харьковом.*— Харкаў — цэнтр Харкаўскай вобл. Украіны. Акупаваны 24 кастр. 1941 г. Наступальная аперацыя савецкіх войск пад Харкавам у маі 1942 г. скончылася акружэннем і амаль поўным знішчэннем сіл Чырвонай Арміі.

*Фашисты наступали в Крыму, заняли Керчь, штурмовали Севастополь.*— Крым — паўвостраў у паўночнай частцы Чорнага мора. Абмываецца на ўсходзе Азоўскім морам і Керчанскім пралівам. У Вялікую Айчынную вайну — месца жорсткіх бітваў з нямецкімі захопнікамі; Керч — горад-порт на беразе Керчанскага праліва. Акупаваны 16 лістап. 1941 г. Крывапралітнымі баямі суправаджалася Керчанска-Феадасійская дэсантная аперацыя (25 снеж. 1941 г.— 2 студз. 1942 г.), праведзеная савецкімі войскамі з мэтай авалодання Керчанскім паўвостравам (гэта ўсходняя частка паўвострава Крым) і стварэння ўмоў для поўнага вызвалення Крыма. У выніку аперацыі Керчанскі паўвостраў, захоплены ў лістап. 1941 г. часцямі вермахта, да 2 студз. 1942 г. поўнасцю заняты Чырвонай Арміяй. Аднак 8 мая 1942 г. нямецка-фашысцкія войскі перайшлі ў наступленне, і ўжо 20 мая савецкі плацдарм быў ліквідаваны; Севастопаль — горад на паўднёвым захадзе Крымскага паўвострава, на беразе Чорнага мора. У чэрв.— ліп. 1942 г. гарнізон Севастопаля, абарона якога

працягвалася з 30 кастр. 1941 г., чатыры тыдні супрацьстаяў нашмат большым сілам праціўніка.

*Прыпяць* — рака ў Брэсцкай і Гомельскай абл. Беларусі, Валынскай, Ровенскай і Кіеўскай абл. Украіны, правы прыток ракі Днепр.

С. 9:

*Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка* (*рус.* ВСХВ) — выстаўка, якая дзейнічала ў 1939—1941 і 1954—1958 гг. У 1939—1941 гг. яна стала аглядам дасягненняў буйной высокамеханізаванай сацыялістычнай сельскагаспадарчай вытворчасці напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны. Была арганізавана ў Маскве (Астанкіна), на плошчы больш за 140 га, дзе пабудавалі больш за 250 павільёнаў і аранжарэй, высадзілі вялікую колькасць раслін, заклалі экспанатныя пасевы.

*«Советский писатель»* — выдавецтва Саюза пісьменнікаў СССР. Заснавана ў 1934 г. у Маскве. Выпускала кнігі як рускіх савецкіх пісьменнікаў, так і пісьменнікаў усіх іншых рэспублік СССР у перакладзе на рускую мову.

С. 10:

*...сдала нормы на все оборонные значки, в том числе по санитарной обороне.*— маюцца на ўвазе значкі, якія пацвярджалі паспяховую здачу нарматываў па адпаведных праграмах ГПА («Гатоў да працы і абароны»), ЮВС («Юны варашылаўскі стралок»), ВС («Варашылаўскі стралок»), ППХА («Гатовы да проціпаветранай і процihімічнай абароны»), ГСА («Гатоў да санітарнай абароны»).

*Смаленшчына* — вобласць на захадзе еўрапейскай часткі Расіі. Утворана 27 верас. 1937 г. На захадзе і паўднёвым захадзе мяжуе з Беларуссю. Цэнтр — Смаленск.

*Завод «Красный богатырь»* — завод па выпуску гумовага і гумова-тэкстыльнага абутку, фармавых і нефармавых вырабаў, заснаваны ў Маскве ў 1887 г. Назву «Красный богатырь» атрымаў у 1923 г.

С. 11:

*Лі-2* — савецкі ваенна-транспартны самалёт, вытворчасць якога была пачата ў 1942 г. у Ташкенце на базе пасажырскага самалёта ПС-84 (1939), створанага, у сваю чаргу, на аснове ліцэнзійнай вытворчасці амерыканскага Douglas DC-3.

С. 13:

*Фоке-вульф FW-190* (*ням.* Focke-Wulf FW-190 «Würger») — нямецкі аднамесны аднаматорны паршнявы знішчальнік-манаплан,

які быў на ўзбраенні гітлераўскай авіяцыі ў час Другой сусветнай вайны.
С. 15:

*Саўінфармбюро* (Савецкае інфармацыйнае бюро) — інфармацыйна-прапагандысцкае ведамства ў СССР, утворанае пры Савеце Народных Камісараў 24 чэрв. 1941 г. Асноўнай задачай бюро было складанне зводак для радыё, газет і часопісаў аб палажэнні на франтах, партызанскім руху, працы ў тыле ў час Вялікай Айчыннай вайны. Ліквідавана пастановай ЦК КПСС ад 5 студз. 1961 г.

*На юге фашисты рвались к Воронежу, старались захватить Донбасс, бои шли уже в большой излучине Дона.*— Варонеж — цэнтр Варонежскай вобл. Расіі. У ліп. 1942 г. правабярэжная частка горада акупавана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Шэсць з паловай месяцаў у Варонежы ішлі бесперапынныя баі. Горад вызвалены 25 студз. 1943 г.; Данбас — Данецкі вугальны басейн, на тэрыторыі Днепрапятроўскай, Данецкай, Луганскай абл. Украіны і Растоўскай вобл. Расіі, адна з найважнейшых паліўна-энергетычных баз Еўропы; Дон — рака ў еўрапейскай частцы Расіі, упадае ў Таганрогскі заліў Азоўскага мора, утварае дэльту.
С. 16:

*«Правда»* — масава-палітычная газета, асноўны штодзённы друкаваны сродак масавай інфармацыі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, найбольш уплывовае савецкае выданне. Заснавана У. І. Леніным. Першы нумар выйшаў 5 мая 1912 г. у Пецярбургу. З 1918 г. выдаецца ў Маскве. З крас. 1997 г. выходзіць у якасці органа Камуністычнай партыі Расійскай Федэрацыі.

*Стараста* — пасада, якую ўвялі акупацыйныя нямецкія ўлады на тэрыторыі Беларусі для адміністрацыйнага кіравання вясковым насельніцтвам.
С. 17:

*Славакі* — тут: салдаты акупацыйных славацкіх войск. Паводле ваеннага дагавору паміж Славакіяй і Германіяй (жн. 1939 г.) славацкія войскі ў Другую сусветную вайну ўдзельнічалі ў ваенных дзеяннях супраць Польшчы і СССР.

*Жандармерыя* — палітычная паліцыя. У час нямецка-фашысцкай акупацыі 1941—1944 гг. на тэрыторыі Беларусі налічвалася 10 жандармерскіх акруг.

*СД* (*ням.* SD скарачэнне ад Sicherheitsdienst des Reichsführers SS — служба бяспекі рэйхсфюрара СС) — служба бяспекі і палітычнай разведкі (шпіянажу) унутры СС, якая дзейнічала ў межах Нацыянал-сацыялісцкай партыі (НСДАП) у час дыктатуры

гэтай партыі ў Германіі. Заснавана ў 1931 г. Г. Гімлерам як служба разведкі, з верас. 1932 г. называлася СД.
С. 20:

*Гебітскамісарыят* — установа акупацыйнай улады на чале з гебітскамісарам (*ням.* Gebietskommissar) — службовай асобай, якая ажыццяўляла адміністрацыйныя функцыі на акупаваных нацысцкай Германіяй тэрыторыях. Паводле іерархічнага статусу гебітскамісар прыраўноўваўся да кіраўнікоў раённых адміністрацый у самой Германіі.

*Фашисты рвались к Волге, на Кавказ.*— Волга — рака ў еўрапейскай частцы Расіі, адна з самых вялікіх рэк на зямным шары, найбуйнейшая ў Еўропе; Каўказ — тэрыторыя паміж Чорным, Азоўскім і Каспійскім морамі ад Кума-Маныцкай упадзіны да паўднёвай часткі Армянскага нагор'я. У межах Каўказа частка Расіі, Азербайджан, Арменія, Грузія, частка Турцыі і Ірана; бітва за Каўказ 1942—1943 гг.— адна з найбуйнейшых бітваў Вялікай Айчыннай вайны, што ўключае шэраг абарончых і наступальных аперацый савецкіх войск з 25 ліп. 1942 г. па 9 кастр. 1943 г. паміж ракой Дон і перадгор'ямі Вялікага Каўказа. Падзяляецца на два перыяды: абарончы (з ліп. 1942 г. да пачатку студз. 1943 г.) і наступальны (з пачатку студз. да кастр. 1943 г.). Падчас абароны Каўказа савецкія войскі скавалі значныя сілы праціўніка і нанеслі яму вялікія страты. Гэта не дазволіла захопнікам у лістап. 1942 г. перакінуць сілы пад Сталінград, дзе пачалося контрнаступленне Чырвонай Арміі. Былі сарваны маштабныя планы ворага авалодаць вялікімі паліўна-энергетычнымі рэсурсамі, устанавіць непасрэдную сувязь з турэцкай арміяй і тым самым стварыць перадумовы для ўварвання на Бліжні і Сярэдні Усход.
С. 23:

*Варашылаў Клімент Яфрэмавіч* (1881—1969) — савецкі партыйны, дзяржаўны і ваенны дзеяч. Маршал Савецкага Саюза (1935).

*Чырвоная Армія* (Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія (РСЧА)) — афіцыйная назва Савецкай Арміі ў 1918—1946 гг. З'яўлялася асноўнай часткай Узброеных сіл Савецкай дзяржавы, у склад якіх таксама ўваходзілі Ваенна-марскі флот, пагранічныя і ўнутраныя войскі.

*Жытомір* — цэнтр Жытомірскай вобл. Украіны. У Вялікую Айчынную вайну двойчы (з 9 ліп. 1941 г. да 13 лістап. 1943 г. і з 20 лістап. да 31 снеж. 1943 г.) быў акупаваны нямецка-фашысцкімі войскамі. Канчаткова Жытомір вызвалены 2 студз. 1944 г.

*Абвер* (*ням.* Abwehr) — орган ваеннай разведкі і контрразведкі Германіі ў 1919—1944 гг. У 1935—1944 гг. абвер узначальваў адмірал Ф. В. Канарыс. У 1944 г. у складзе галоўнага ўпраўлення імперскай бяспекі, падпарадкаванага Г. Гімлеру. У Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі 4 разведвальныя, 3 дыверсійна-тэрарыстычныя і 9 контрразведвальных груп, спецыяльная аператыўная група «Мінск», а таксама асобныя падраздзяленні разведвальных і контрразведвальных органаў абвера «Зондэрштаб-Р», «Інгвар», «Цэпелін».

С. 25:

*ЦК КП(б)Б* — скар.: Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі, вышэйшы калектыўны кіруючы орган паміж з’ездамі.

*Герой Савецкага Саюза* — ганаровае званне ў СССР у 1936—1991 гг., найвышэйшая ступень адзнакі за асабістыя ці калектыўныя заслугі, звязаныя са здзяйсненнем гераічнага подзвігу. Зацверджана пастановай ЦВК СССР ад 16 крас. 1934 г.

С. 26:

*...с двадцать пятой годовщиной Октября!* — маецца на ўвазе дзяржаўнае свята ў СССР — гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 г. Адзначалася ў дзень здзяйснення Кастрычніцкай рэвалюцыі штогадова 7 лістап. (25 кастр. паводле старога стылю) і 8 лістап.

С. 27:

*Кіраваградская вобласць* — вобласць у цэнтральнай частцы Украіны, цэнтр — г. Кіраваград.

С. 28:

*Оўруч* — горад у Жытомірскай вобл. Украіны.

С. 29:

*Палессе* — гісторыка-культурная і фізіка-геаграфічная вобласць на тэрыторыі Палескай нізіны. Размяшчаецца на поўдні Беларусі і поўначы Украіны, часткова ахоплівае тэрыторыі Люблінскага ваяводства Польшчы і Бранскай вобл. Расіі.

*...речь И. В. Сталина на торжественном заседании в Москве, на котором он произнес знаменитые слова: «И на нашей улице будет праздник!»* — Сталін Іосіф Вісарыёнавіч (сапр. Джугашвілі; 1878 (паводле афіцыйных звестак 1879) — 1953) — савецкі палітычны, дзяржаўны, ваенны і партыйны дзеяч. Генеральны сакратар Цэнтральнага Камітэта Усесаюзнай Камуністычнай партыі (бальшавікоў) з 1922 г. З канца 1920 — пачатку 1930-х гг. і да самай смерці аднаасобна кіраваў Савецкай дзяржавай. У загадзе

народнага камісара абароны І. В. Сталіна № 345 ад 7 лістап. 1942 г. былі наступныя радкі: «Вораг ужо адчуў аднойчы сілу ўдараў Чырвонай Арміі пад Растовам, пад Масквой, пад Ціхвінам. Недалёка той дзень, калі вораг зазнае моц новых udараў Чырвонай Арміі. Будзе і на нашай вуліцы свята!»

С. 30:

*...об окружении вражеских войск в районе Сталинграда.*— Сталінград — у 1925—1961 гг. назва г. Валгаграда на паўднёвым усходзе еўрапейскай часткі Расіі (да 1925 г. меў назву Царыцын); 17 ліп. 1942 г. пачалася Сталінградская бітва — адна з найбуйнейшых бітваў Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай войнаў. Складалася з абарончай (17 ліп.— 18 лістап. 1942 г.) і наступальнай (19 лістап. 1942 г.— 2 лют. 1943 г.) аперацый савецкіх войск. У кастр.— лістап. 1942 г. Стаўка Вярхоўнага Галоўнакамандавання і Генеральны штаб разам з камандаваннем франтоў распрацавалі план аперацыі па акружэнні і знішчэнні групоўкі ворага ў раёне Сталінграда пад кодавай назвай «Ураган». Пасля жорсткіх баёў 23 лістап. кальцо акружэння замкнёна. У «кацёл» трапілі 4-я і 6-я нямецкія арміі, значная колькасць спецыяльных і дапаможных часцей і падраздзяленняў — усяго каля 330 тыс. чалавек.

С. 32:

*Хальт! (ням.)* — Стой!

*Зондэркаманда* (*ням.* Sonderkommando — спецыяльны атрад) — назва шэрагу фарміраванняў спецыяльнага прызначэння ў нацысцкай Германіі. Першапачаткова адносіліся да атрадаў СС, якія выконвалі асобыя заданні і місіі па знішчэнні людзей.

С. 33:

*Воласць* — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка, падраздзяленне ўезда ў сельскай мясцовасці Расіі і ў СССР да раянавання. Падзел на воласці ўведзены і ў час Вялікай Айчыннай вайны на акупаваных тэрыторыях.

*Управа* — тут: назва органа мясцовага кіравання ў час нямецка-фашысцкай акупацыі 1941 — 1944 гг.

*Бургамістр* — начальнік гарадской управы ў некаторых краінах Еўропы і ў XVIII — XIX стст. у Расіі, а таксама на акупаванай нямецкімі войскамі тэрыторыі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

С. 36:

*Лімонка* — ручная супрацьпяхотная асколачная граната Ф-1. Выпускалася ў СССР, была распрацавана на аснове французскай асколачнай гранаты F-1 мадэлі 1915 г. У паходжання размоўнай

назвы шмат версій, сярод іх — вонкавае падабенства да цытрусу і падабенства ў будове да англійскай сістэмы Лемана.
С. 37:

*...попытки 6-й армии генерала Паулюса вырваться из окружения окончились провалом.*— Паўлюс Фрыдрых (1890—1957) — нямецкі военачальнік, генерал-фельдмаршал (1943). Са студз. 1942 г. камандаваў 6-й арміяй на Усходнім фронце і ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва наступленнем на Сталінград. Акружэнне 6-й арміі вермахта пад камандаваннем Ф. Паўлюса было завершана савецкімі войскамі 23 лістап. 1942 г. 31 студз. 1943 г. генерал здаўся ў палон савецкім войскам з часткай сваёй арміі.

*Потерпела поражение и рвавшаяся к берегам Волги на выручку своих войск танковая армия Гота.*— 12 снеж. 1942 г. армейская група «Гот» у складзе часткі сіл 4-й нямецкай танкавай і 4-й румынскай армій перайшла ў наступленне з мэтай дэблакаваць войскі ў акружэнні, але пацярпела цяжкае паражэнне.
С. 39:

*Ялец* — горад у Ліпецкай вобл. Расіі.
С. 44:

*Зыслаў* — востраў сярод балот у Любанскім раёне, дзе ў Вялікую Айчынную вайну размяшчаўся цэнтр па кіраўніцтве партызанскім рухам Мінскай вобл. У 1969 г. на востраве адкрыты мемарыяльны комплекс.

*Языковіч Фёдар Міхайлавіч* (1903—1943) — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў патрыятычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. З лістап. 1942 г.— упаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Палескай вобл., з лют. 1943 г.— першы сакратар Палескага падпольнага абкама КП(б)Б, камандзір Палескага партызанскага злучэння. Загінуў у баі.

*Вялікая зямля* — так партызаны ў Вялікую Айчынную вайну і жыхары Ленінграда ў час блакады (1941 — 1944) называлі савецкі тыл, неакупаваную тэрыторыю краіны.
С. 45:

*...в сорок первом участвовал в боях под Смоленском...* — Бітва за Смаленск працягвалася з 10 ліп. па 10 верас. 1941 г. Горад быў акупаваны нямецкімі войскамі 16 ліп. 1941 г.

*Казлоў Васіль Іванавіч* (1903—1967) — дзяржаўны дзеяч БССР, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. Герой Савецкага Саюза (1942), генерал-маёр (1943). З ліп. 1941 г.— першы сакратар Мінскага

абкама КП(б) Б, з сак. 1942 г. і камандзір Мінскага партызанскага злучэння.

*Мачульскі Раман Навумавіч* (1903—1990) — партыйны і дзяржаўны дзеяч Беларусі. Герой Савецкага Саюза (1944), заслужаны работнік культуры БССР (1980). У кастр. 1942 г.— маі 1943 г. выконваў абавязкі камандзіра Мінскага партызанскага злучэння, са жн. 1943 г.— камандзір партызанскага злучэння Барысаўска-Бягомльскай зоны.

С. 46:

*Советские войска громили врага в Донбассе…* — Рэгіён быў поўнасцю вызвалены ў час Данбаскай наступальнай аперацыі войск Паўднёва-Заходняга і Паўднёвага франтоў 13 жн.— 22 верас. 1943 г.

*Чарнігаў* — цэнтр Чарнігаўскай вобл. Украіны. Акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 9 верас. 1941 г. Вызвалены 21 верас. 1943 г. у выніку Чарнігаўска-Прыпяцкай аперацыі.

С. 47:

*…в связи с введением в нашей армии общих воинских званий…* — у 1942—1943 гг. у Чырвонай Арміі праведзена ўніфікацыя воінскіх званняў.

С. 52:

*Пціч* — рака ў Мінскай, Магілёўскай і Гомельскай абл., прыток ракі Прыпяць (басейн Дняпра).

С. 53:

*Чэкіст* — той, хто служыць у ЧК (*рус.* ВЧК — Всероссийская чрезвычайная комиссия), надзвычайнай камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй, сабатажам і спекуляцыяй — органе дзяржаўнай бяспекі ў СССР у перыяд 1917—1922 гг., які спалучаў функцыі спецслужбы і праваахоўнага органа.

*…два дня назад нашим войскам пришлось оставить Харьков.*— Контрнаступленне гітлераўцаў у сак. 1943 г. мела вынікам паўторную здачу горада. У жн. 1943 г. Харкаў канчаткова вызвалены ў ходзе Харкаўска-Белгарадскай аперацыі савецкіх войск.

С. 54:

*«Казбек»* — марка савецкіх папярос, якая выпускалася ленінградскім прадпрыемствам «Табактрэст», пазней — Бійскай тытунёвай фабрыкай. Назва паходзіць ад назвы вяршыні Бакавога хрыбта ў цэнтральнай частцы Вялікага Каўказа, у Грузіі.

*Унеча* — цэнтр Унечскага раёна Бранскай вобл. Расіі.

*ЧАН* — часці асобага прызначэння, ваенныя атрады, якія ствараліся пры партыйных арганізацыях для дапамогі савецкім

органам у барацьбе супраць контррэвалюцыі. Арганізацыя ЧАН adносіцца да пачатку 1918 г. Расфарміраваны на працягу 1924 г.

*Шчорсаўскія атрады* — атрады пад камандаваннем героя грамадзянскай вайны М. А. Шчорса (1895—1919).

*Балахоўцы* — салдаты арміі генерала Станіслава Нікадзімавіча Булак-Балаховіча (сапр. Балаховіч Станіслаў-Мар'ян; 1883—1940) — ваенна-палітычнага дзеяча беларускага паходжання, былога царскага афіцэра. У 1920-я гг.— адзін з ваенных кіраўнікоў войска БНР, затым служыў у польскім войску.

С. 56:

*...из тодтовской организации.*— Арганізацыя Тодта (*ням.* Organisation Todt) — ваенна-будаўнічая арганізацыя ў Германіі часоў Трэцяга рэйха. Названа па імені Фрыца Тодта, які ўзначаліў яе 18 ліп. 1938 г. У час вайны на акупаваных тэрыторыях атрады арганізацыі займаліся рамонтам мастоў, аўтамабільных дарог і чыгункі.

С. 59:

*Шайтан* — у мусульманскай міфалогіі: злы дух, сатана.

С. 62:

*Бои в кубанских плавнях, под осажденным нашими войсками Новороссийском.*— Кубань — рака ў еўрапейскай частцы Расіі, у Карачаева-Чаркесіі, Стаўрапольскім і Краснадарскім краях, Адыгеі, упадае ў Цямрукскі заліў Азоўскага мора. Кубанню называюць і найважнейшы збожжавы рэгіён Расіі — стэпавыя раёны Прыкубанскай нізіны, што раскінуліся на поўнач ад ніжняга цячэння ракі Кубань; плаўні — парослыя водалюбівай расліннасцю нізкія берагі рэк і астраўкі, якія затапляюцца ўвесну; Новарасійск — горад у Краснадарскім краі Расіі, порт на беразе Цэмескай бухты Чорнага мора. У час Вялікай Айчыннай вайны большая частка горада акупавана фашыстамі. Ноччу 4 лют. 1943 г. на поўдзень ад горада, у раёне Мысхака (пазней — «Малая зямля») высадзіўся марскі дэсант, які захапіў плацдарм і ўтрымліваў яго 225 дзён да поўнага вызвалення горада 16 верас. 1943 г.

С. 64:

*Кіеў* — сталіца Украіны. Бітва за Кіеў працягвалася з 7 ліп. да 26 верас. 1941 г. Горад быў вызвалены савецкімі войскамі 6 лістап. 1943 г.

С. 67:

*Курская бітва* — адна з вырашальных вайсковых аперацый у Вялікую Айчынную вайну. Адбылася ў ліп.— жн. 1943 г. у раёне Курскага выступу (дугі), які ўтварыўся ў выніку наступлення савецкіх войск. Баі праходзілі на тэрыторыі сучасных Курскай, Арлоў-

скай, Белгародскай, Бранскай і Калужскай абл. Расіі, Харкаўскай і Сумскай абл. Украіны. Аперацыя складалася з двух этапаў: абароны (5—23 ліп.) і контрнаступлення (12 ліп.— 23 жн.) савецкіх войск; Курск — горад у Расіі, цэнтр Курскай вобл., на рацэ Сейм і яе прытоку Тускар. Курск быў акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі з 3 лістап. 1941 г. па 8 лют. 1943 г.

С. 68:

*Беразіна* — рака ў Беларусі, у Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай і Гомельскай абл., правы прыток Дняпра.

С. 72:

*Мадзьяры* — тут: салдаты венгерскіх акупацыйных войск. Венгрыя ў вайну з СССР уступіла 27 чэрв. 1941 г.

С. 73:

*Інтэндантцва* — ваенная ўстанова, якая займаецца вайсковай гаспадаркай і забеспячэннем воінскіх часцей.

С. 75:

*Таманскі паўвостраў* (Тамань) — паўвостраў у Перадкаўказзі, у Краснадарскім краі Расіі; абмываецца на поўначы Азоўскім морам, на поўдні — Чорным.

*«Цэнтр»* — група армій (*ням.* Heersgruppe), аператыўнастратэгічнае аб'яднанне сухапутных войск фашысцкай Германіі, якое дзейнічала на цэнтральным участку савецка-германскага фронту (у асноўным на тэрыторыі Беларусі) у 1941—1944 гг. у Вялікую Айчынную вайну; найбольш моцная з утвораных таксама ў чэрвені 1941 г. груп «Поўдзень» і «Поўнач», прызначаных для нападу на СССР.

*Карачаў* — цэнтр Карачаўскага раёна Бранскай вобл. Расіі.

*Эсэсаўская дывізія* — дывізія ў складзе войскаў СС, якія ўзніклі на аснове СС (SS — скар. ад *ням.* Schutzstaffeln — ахоўныя атрады) — ваенізаваных фарміраванняў Нацыянал-сацыялісцкай германскай рабочай партыі. Часці войск СС бралі ўдзел як у ваенных дзеяннях, так і ў карных аперацыях. Згаданая ў аповесці дывізія атрымала назву ад горада Варшава, сталіцы Польшчы.

С. 76:

*Бярдзічаў* — горад у Жытомірскай вобл. Украіны.

С. 82:

*Вермахт* (*ням.* Wehrmacht) — афіцыйная назва ўзброеных сіл фашысцкай Германіі ў 1935—1945 гг.

*«Тыгр»* — нямецкі цяжкі танк часоў Другой сусветнай вайны, распрацаваны ў 1942 г. фірмай «Хеншэль» пад кіраўніцтвам Э. Адэрса.

*«Фердынанд»* — нямецкая цяжкая самаходна-артылерыйская ўстаноўка перыяду Другой сусветнай вайны класа знішчальнікаў танкаў. Распрацавана ў 1942—1943 гг. нямецкім канструктарам Ф. Поршэ, у гонар якога і была названа.

*«Пантэра»* — нямецкі сярэдні танк часоў Другой сусветнай вайны, распрацаваны фірмай MAN у 1941—1942 гг. як асноўны танк вермахта.

С. 89:

*Гестапа* (*ням.* Gestapo; скар. ад Geheime Staatspolizei — тайная дзяржаўная паліцыя) — палітычная паліцыя Трэцяга рэйха ў 1933—1945 гг.

*Геносэ* (*ням.* Genosse) — таварыш.

С. 91:

*Арол* — цэнтр Арлоўскай вобл. Расіі.

С. 96:

*Взяты Орел и Белгород.*— Арол і Белгарад вызвалены савецкімі войскамі 5 жн. 1943 г.

*Калінінщчына* — Калінінская (з 1990 г.— Цвярская) вобл. Знаходзіцца ў цэнтры еўрапейскай часткі Расіі, утворана 29 студз. 1935 г. Цэнтр — г. Калінін (з 1990 г. — Цвер).

*Арлоўшчына* — Арлоўская вобл. Расіі. Утворана 27 верас. 1937 г. Размешчана ў цэнтральнай частцы Сярэднярускага ўзвышша. Цэнтр — г. Арол.

С. 97:

*Левітан Юрый Барысавіч* (1914—1983) — расійскі дыктар радыё. Народны артыст Расіі (1973). Народны артыст СССР (1981). З 1931 г. працаваў на Усесаюзным радыё. Чытаў найбольш важныя афіцыйныя паведамленні, у тым ліку ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны.

С. 98:

*Каўпак Сідар Арцёмавіч* (1887—1967) — украінскі дзяржаўны дзеяч і военачальнік, адзін з арганізатараў партызанскага руху ва Украіне ў Вялікую Айчынную вайну. Двойчы Герой Савецкага Саюза (1942, 1944), генерал-маёр (1943). Камандаваў Пуціўльскім партызанскім атрадам, злучэннем партызанскіх атрадаў Сумскай вобл. (са студз. 1944 г.— 1-я Украінская партызанская дывізія імя Каўпака), быў членам падпольнага ЦК КП(б)У. Узначальваў 5 рэйдаў партызан па нямецка-фашысцкіх тылах, у тым ліку ў 1942—1943 гг.— з бранскіх лясоў па тэрыторыі Гомельскай, Палескай, Пінскай, Валынскай, Ровенскай і Жытомірскай абл. У студз. 1943 г.

на возеры Чырвонае (Жыткавіцкі раён) партызаны Каўпака разам з беларускімі партызанамі стварылі аэрадром.

С. 99:

*...Австрия — порабощена фашистами.*— Германскія войскі акупавалі Аўстрыю 12 сак. 1938 г. 13 сак. быў апублікаваны закон, згодна з якім Аўстрыя абвешчана адной з зямель Германскай імперыі пад назвай «Остмарк».

С. 100:

*...несколько номеров газеты «Правда» с речью И. В. Сталина на Красной площади в Москве 7 ноября 1941 года.*— 7 лістап. 1941 г. на Краснай плошчы ў Маскве адбыўся ваенны парад у гонар 24-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Падкрэсліваючы надзвычайную важнасць падзеі, насуперак традыцыі правядзення параду з прамовай выступіў сам І. В. Сталін. Тэкст выступлення шырока распаўсюджваўся перыядычным друкам, пра парад быў зняты фільм «XXIV-й Октябрь. Речь И. В. Сталина» (рэжысёр Л. Варламаў, 1941 г.).

С. 113:

*Корасцень* — горад у Жытомірскай вобл. Украіны.

С. 114:

*Азарычы* — канцэнтрацыйны лагер, створаны ў пачатку сак. 1944 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Азарыцкім раёне Палескай вобл. як жывая заслона на шляху наступлення Савецкай Арміі. 18—19 сак. 1944 г. вязні былі вызвалены савецкімі войскамі.

*Германскі рэйх* — варыянт ад Трэці рэйх, Трэцяя імперыя (*ням.* das Dritte Reich) — пашыранай у 1933—1945 гг. неафіцыйнай саманазвы нацысцкага рэжыму ў Германіі. На думку нацыстаў, створаная імі дзяржава была пераемніцай гістарычных традыцый Свяшчэннай Рымскай імперыі (962—1806) і Германскай імперыі (1871—1918).

С. 119:

*...наши «петляковы».*— Пе-2, савецкія пікіруючыя бамбардзіроўшчыкі часу Другой сусветнай вайны. Самалёт распрацаваны пад кіраўніцтвам расійскага авіяканструктара У. М. Петлякова (1891—1942).

*Іванава* — цэнтр Іванаўскай вобл. Расіі.

С. 123:

*Чырвоны Крыж* — міжнародны гуманітарны рух, заснаваны ў 1863 г. Уключае добраахвотныя таварыствы дапамогі ваеннапалонным, хворым і параненым воінам, іншым ахвярам вайны.

У мірны час яны аказваюць дапамогу пацярпелым ад стыхійных бедстваў, у шэрагу краін праводзяць мерапрыемствы па прадухіленні захворванняў.

С. 126:

*Чырвонае возера* (Князь-возера, Чырвонае Палессе) — возера ў Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобл., у басейне Прыпяці, за 19 км на паўночны ўсход ад г. Жыткавічы, каля в. Ляхавічы. Трэцяе паводле плошчы возера ў Беларусі.

С. 128:

*Ковель* — горад у Валынскай вобл. Украіны.

*Седльцы* — горад у Мазавецкім ваяводстве Польшчы.

*Люблін* — адміністрацыйны цэнтр Люблінскага ваяводства ў Польшчы.

*Заходні Буг* (Буг) — рака на тэрыторыі Украіны, Беларусі і Польшчы, левы прыток ракі Нараў. У сярэднім цячэнні праходзіць па Брэсцкім Палессі і Прыбугскай раўніне, дзе на значным працягу памежная. Упадае ў Зягжынскае вадасховішча на рацэ Нараў (Польшча).

*...эмигрантское лондонское правительство...*— польскі ўрад у эміграцыі створаны 1 кастр. 1939 г. у Францыі прэзідэнтам Польшчы У. Рачкевічам пасля інтэрнавання ў Румыніі польскага ўрада, які пакінуў Польшчу ў выніку разгрому і акупацыі краіны Германіяй у верас. 1939 г. Знаходзіўся напачатку ў Францыі, з чэрв. 1940 г.— у Лондане. Пасля стварэння ў чэрв. 1945 г. у Польшчы ўрада нацыянальнага адзінства вядучыя заходнія краіны перасталі прызнаваць урад як прадстаўніка Польшчы, але ён намінальна працягваў існаваць у Лондане да свайго афіцыйнага роспуску ў снеж. 1990 г.

*Ленінская партыя* — назва Камуністычнай партыі Савецкага Саюза (КПСС) па імені расійскага і савецкага палітычнага, дзяржаўнага дзеяча, дзеяча міжнароднага рабочага руху, арганізатара і кіраўніка Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., аднаго з ініцыятараў стварэння СССР Уладзіміра Ільіча Леніна (сапр. Ульянаў; 1870—1924).

С. 129:

*Владава* — горад у Люблінскім ваяводстве Польшчы.

С. 130:

*Парчаў* — горад у Люблінскім ваяводстве Польшчы.

*Хэлм* (Холм) — да 1999 г. цэнтр былога Хэлмскага ваяводства Польшчы. З 1999 г. у складзе Люблінскага ваяводства.

С. 133:

*Армія Людова* (АЛ; Armia Ludowa — народная армія) — узброеныя партызанскія і падпольныя фарміраванні Польскай рабочай партыі ў час Другой сусветнай вайны. Створана дэкрэтам Краёвай Рады Нарадовай ад 1 студз. 1944 г. на базе Гвардыі Людовай. На польска-беларускім памежжы супрацоўнічала з савецкімі партызанамі, якія дзейнічалі ў Беларусі. Увесну 1944 г. для каардынацыі дзеянняў Арміі Людовай з войскамі Чырвонай Арміі створаны пры ваенсавеце 1-га Беларускага фронту Польскі партызанскі штаб. Атрады арміі дапамагалі наступаючым савецкім войскам, вызвалілі некалькі польскіх гарадоў. Камандаванне Чырвонай Арміі перадавала Арміі Людовай кантроль над вызваленымі польскімі тэрыторыямі. 21 ліп. 1944 г. дэкрэтам Краёвай Рады Нарадовай Армія Людова аб'яднана з Польскай арміяй у СССР у адзінае Войска Польскае.

*Ваяводства* — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Польшчы.

*Армія Краёва* (АК; Armia Krajowa — армія краіны) — падпольная ваенная арганізацыя, якая дзейнічала ў 1942—1945 гг. на акупаванай фашысцкай Германіяй тэрыторыі Польшчы і частцы былога СССР (Украіна, Беларусь, Літва). Падпарадкоўвалася польскаму эміграцкаму ўраду ў Лондане. У палітычных адносінах будавалася на аснове «надпартыйнасці», тэорыі «двух ворагаў» — Германіі і СССР. Эміграцкі ўрад і кіраўніцтва арміі ўзнялі 1 жн. 1944 г. Варшаўскае паўстанне, якое было жорстка задушана гітлераўцамі. Армія Краёва распушчана 9 студз. 1945 г. эміграцкім урадам.

С. 135:

*Ордэн Чырвонага Сцяга* — ордэн СССР, ганаровая дзяржаўная ўзнагарода. Уведзены ў 1924 г. Да 1930 г. быў найвышэйшым ордэнам краіны.

С. 138:

*Лукаў, Дэмблін, Бяла-Падляска* — гарады ў Люблінскім ваяводстве Польшчы.

С. 144:

*«Месершміты»* — нямецкія самалёты, распрацаваныя канструктрам В. Месершмітам (1898—1978).

*«Юнкерсы»* — самалёты, распрацаваныя нямецкай авіябудаўнічай кампаніяй «Junkers & Co», заснаванай Х. Юнкерсам (1859—1935).

С. 146:

*«— Одессу освободили!»* — Адэса вызвалена ад нямецка-фашысцкіх акупантаў 10 крас. 1944 г.

*Пацёмкінская лесвіца* — бульварная лесвіца да мора, архітэктурнае збудаванне ў стылі класіцызму, помнік архітэктуры першай паловы XIX ст. і адна з галоўных славутасцей Адэсы.

*Дэрыбасаўская* — адна з цэнтральных вуліц Адэсы і адна з галоўных славутасцей горада.

*Акшэя, Квіш* — населеныя пункты ў Люблінскім ваяводстве Польшчы.

С. 147:

*Двадцать второго июня / Ровно в четыре часа / Киев бомбили, нам объявили, / Что началася война…* — радкі з вядомай песні часоў Вялікай Айчыннай вайны. Словы напісаны паэтам Барысам Кавынёвым на музыку папулярнага вальса Ежы Пецярбургскага «Сіняя хусцінка». Твор з'явіўся ў самым пачатку вайны (у перыяд з 22-га па 29 чэрв. 1941 г.). Існуе мноства тэкстаў на гэты матыў, але асноўных варыянтаў два: першапачатковы, у якім апісваецца мабілізацыя, і варыянт, мяркуючы па змесце, пачатку 1942 г., дзе паказваюцца баявыя дзеянні да бітвы пад Масквой.

С. 149:

*Кракаў* — адміністрацыйны цэнтр Малапольскага ваяводства Польшчы. Быў вызвалены савецкімі войскамі 19 студз. 1945 г.

С. 150:

*Вішніцы* — населены пункт ў Люблінскім ваяводстве Польшчы.

С. 152:

*Ла-Манш* — праліў паміж мацерыковай часткай Еўропы (Францыя) і востравам Вялікабрытанія. Злучае разам з пралівам Па-дэ-Кале (Дуўрскі праліў) Паўночнае мора з Атлантычным акіянам.

*ФАУ* (*ням.* V ад Vergeltungswaffe — зброя пакарання) — кіравальная ракетная зброя далёкага дзеяння (крылатая і балістычная ракеты). Створана ў нацысцкай Германіі ў гады Другой сусветнай вайны.

*Сталёва-Воля* — горад у Падкарпацкім ваяводстве Польшчы.

*…ракеты используются против Англии.*— абстрэл Лондана ФАУ вёўся з 13 чэрв. 1944 г.

*Вісла* — найвялікшая рака Польшчы, найбольш працяглая рака басейна Балтыйскага мора.

С. 156:

*В направлении Витебска, Орши начал наступление Третий Белорусский фронт.* — Віцебска-Аршанская наступальная аперацыя праходзіла 23—28 чэрв. 1944 г. У ходзе аперацыі з удзелам партызанскіх брыгад вызвалены многія беларускія гарады, у тым

ліку Віцебск (26 чэрв.) і Орша (27 чэрв.), савецкія войскі выйшлі на раку Бярэзіна і стварылі ўмовы для наступлення на Мінск і тэрыторыю Прыбалтыкі.

*Генерал армии Черняховский ведет войска.*— Чарняхоўскі Іван Данілавіч (1906—1945) — савецкі ваенны дзеяч. Генерал арміі (1944). Двойчы Герой Савецкага Саюза (1943, 1944). З крас. 1944 г. камандуючы войскамі 3-га Беларускага фронту, якія разам з 1-м Прыбалтыйскім фронтам ажыццявілі Віцебска-Аршанскую аперацыю 1944 г., а з 1-м і 2-м Беларускімі франтамі — Мінскую аперацыю 1944 г., стварылі мінскі «кацёл»; вызвалілі Віцебск, Оршу, Барысаў, Мінск, Ліду, Вільнюс і іншыя населеныя пункты.

*Усходняя Прусія* — герцагства Прусія, якое ўзнікла ў 1525 г. на частцы земляў Тэўтонскага ордэна, захопленых немцамі ў прусаў (адсюль назва), у 1618 г. аб’ядналася з Брандэнбургам. Аб’яднаная дзяржава атрымала назву Прусія, былое герцагства стала лічыцца Прусіяй Усходняй. У 1947 г. Усходняя Прусія ліквідавана, землі адышлі да СССР (пазней — Расіі), Літвы і Польшчы.

С. 159:

*Уршулін, Саснавіцы, Новы і Стары Ажэхаў, Воля Верашчынская* — населеныя пункты ў Люблінскім ваяводстве Польшчы.

С. 161:

*У-2* — мнагамэтавы аднаматорны двухмесны біплан, створаны пад кіраўніцтвам расійскага авіяканструктара М. М. Палікарпава (1892—1944) у 1927 г. Адзін з самых масавых самалётаў у свеце. Пасля смерці Н. Н. Палікарпава самалёт У-2 перайменаваны ў гонар стваральніка ў По-2.

С. 162:

*Іл-2* — баявы самалёт, распрацаваны пад кіраўніцтвам С. У. Ільюшына. Гэта першы савецкі серыйны штурмавік (1939), найбольш пашыраны ў Вялікую Айчынную вайну (выраблена больш за 36 тысяч).

С. 164:

*Крэмль* (Маскоўскі Крэмль) — старажытная частка, галоўны грамадска-палітычны і гістарычна-мастацкі комплекс цэнтра Масквы, месцазнаходжанне вышэйшых органаў дзяржаўнай улады СССР. З 1991 г. рэзідэнцыя прэзідэнта Расійскай Федэрацыі.

*Швернік Мікалай Міхайлавіч* (1888—1970) — савецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1958). У 1944—1946 гг. першы намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР і Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета РСФСР,

Старшыня Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР (1938—1946).

*Имя Ф. С. Манзиенко... вписано в Белорусскую Советскую Энциклопедию.*— У Беларускай Савецкай Энцыклапедыі ў шостым томе (Мінск, 1972) змешчаны персанальны артыкул пра Ф. С. Манзіенку аўтарства М. Р. Рэпіча.

С. 165:

*«Наш позывной — свобода»* — кніга Т. А. Строкача, выйшла ў Кіеве ў 1966 г.

*Гвардыя Людова* (Gwardia Ludowa) — узброеныя падпольныя і партызанскія фарміраванні Польскай рабочай партыі ў 1942—1943 гг. у Другую сусветную вайну. Створана 6 студз. 1942 г. Атрады гвардыі дзейнічалі супраць фашысцкіх акупантаў у Люблінскім, Жэшаўскім, Кракаўскім, Келецкім ваяводствах, у Сілезіі, Лодзі і іншых месцах. 1 студз. 1944 г. на базе Гвардыі Людовай створана Армія Людова.

*«Трыбуна люду»* (*пол.* Trybuna Ludu — «Народная трыбуна») — сродак масавай інфармацыі Польскай аб'яднанай рабочай партыі (ПАРП), адна з найбуйнейшых газет ПНР. Афіцыйна закрыта пасля самароспуску ПАРП.

С. 166:

*ПНР* — Польская Народная Рэспубліка. У снеж. 1989 г. сейм прыняў сучасную назву дзяржавы — Рэспубліка Польшча.

Варыянты і розначытанні:

Другое выданне // *першае выданне*

С. 63:

[25—26] Трудно без руки. А жить надо. Приходится подрабатывать. Мыло продает, сахарин. // Теперь пенсию получает. Правда, небольшая она, не проживешь. Приходится подрабатывать.

[30—31] ходит по деревням, кое-чем приторговывает // получает назначенную немцами пенсию

С. 67:

[24—26] У выданні 1982 г. раздзел «Тревожная весть из Василевичей» завяршаецца сказам «И труд этот так же необходим Родине, как самоотверженная, героическая борьба тех, кто лицом к лицу с врагом сражается на переднем крае, на фронте».

С. 78:

[28] торговлю буду продолжать. // торговлей займусь.

С. 126:

[9] потеряна. // потеряли.

С. 127:

[15] У першым выданні раздзел «Через все преграды» меў наступны працяг, які пазней у змененым выглядзе стаў пачаткам главы «Польский рейд»:

«Дули холодные ветры — предвестники зимы. Небольшой, хорошо вооруженный отряд Федора Манзиенко двигался к Червоному озеру болотами, неезжеными лесными дорогами, минуя деревни. Так было безопаснее.

В середине ноября прибыли к озеру. Командир партизанского соединения Черный, увидев усталого, но подтянутого командира отряда, спросил приветливо:

— Чего мрачнее тучи?

— Боялся опоздать, Иван Николаевич. Теперь вот спокойно на душе. Успели, — ответил Манзиенко и улыбнулся. Его широкое обветренное лицо подобрело.

Черный пригласил Федора Сергеевича в землянку, отдал распоряжение устроить людей. Сели за стол. Иван Николаевич сообщил своему новому заместителю, что путь их лежит в Польшу. Пробраться туда следовало скрытно. Центр приказал избегать соприкосновения с противником: враг не должен знать маршрута движения разведчиков, которым предстояло организовать непрерывную разведку немецко-фашистских войск в Бресте, Ковеле, Люблине… Особо ставилась задача срыва перевозок по магистрали Брест — Ковель.

— Работа знакомая. Справимся, товарищ командир, — сказал Манзиенко, когда Черный ввел его в курс дела.

— Справимся, Федор Сергеевич. Непременно. Иначе нельзя. Центр верит нам,— ответил Иван Николаевич и развернул на столе, сбитом из неоструганных досок, карту: — Давай-ка маршрут рассмотрим повнимательнее.

Решили весь путь следования в Польшу разделить на два этапа. Первый — до деревни Сварынь, что раскинулась у Западного Буга, на нашей территории, второй пролегал уже по чужой земле.

Снежной ночью, когда небо заволокли облака, отряд двинулся в сторону Сварыни. Были тревожные многокилометровые марши, встречи с партизанами, внезапные схватки с оккупантами. Более месяца длился этот переход. Дней пять люди отдыхали, приводили себя в порядок.

В конце января Черный пригласил Федора Манзиенко и Михаила Гору, своих заместителей.

— Пойдете в Польшу с группами,— распорядился он.

Командир немного помолчал, прошелся по комнате.

— Крупных фашистских гарнизонов на вашем пути нет,— вводил Черный разведчиков в обстановку. — Однако будьте осторожны. В отдельных селах могут быть гарнизоны врага.

— Постараемся проскочить, как приказано: на глаза гитлеровцам не попадаться, — пообещал Манзиенко.

— На ночевках часовых выставляйте надежных.

— И об этом не забудем,— ответил Гора.

— Ну, тогда до встречи на польской земле!

— До встречи!

Позади остались ставшие близкими сердцу полесские места. За полтора года Манзиенко свыкся, сжился с ними. Здесь он приобрел опыт борьбы с врагом. Здесь появилось у него столько друзей».

С. 164:

[31] У першым выданні раздзел «Судьбы людские» быў апошняй часткай главы «Огненное лето».

[35] участников боев // героев тех далеких огненных лет

С. 165:

[6] командованию… // командованию, являясь на Полесье его глазами и ушами…

[7—8] партизанские командиры. // прославленные партизанские командиры.

[18] Пасля сказа-абзаца «О подвигах Федора Сергеевича рассказывала “Правда”» ў першым выданні быў наступны абзац:

«Конец сорок третьего, весну и лето сорок четвертого года отряд Манзиенко провел в парчевских лесах, в Польше. Были такие же напряженные, как и в Белоруссии, схватки с гитлеровцами. Так же, как и там, на Полесье, разведчики добывали ценные данные о вражеских войсках, вносили свой вклад в нашу Победу».

[35] У першым выданні абзаца, які пачынаецца словамі «Федор Сергеевич в послевоенные годы побывал в Польше», не было.

С. 166:

[12—14] Иван Васильевич Змушко, разведчик Анатолий Тарков, заместитель Манзиенко Владимир Оффман. // Иван Васильевич Змушко и разведчик Анатолий Тарков.

[16] в родной Одесской области. // на родной Одесчине.

[17—18] Умер в 1983 году, похоронен в Одессе. // В настоящее время — персональный пенсионер. Живет в Одессе.

[19] поселились радистки // поселились Владимир Оффман, радистки

[29] работал // работает

[31] он на пенсии и живет // трудится

[32] соратники по борьбе встречаются // соратники по борьбе с фашистами встретились

[34—35] Леонидом Волковым и другими партизанами // и другими партизанами

С. 167:

[1—2] Заключны фрагмент апошняга раздзела, які пачынаецца словамі «Память о боевых подвигах участников Великой Отечественной войны» ў першым выданні адсутнічае.

## 1983

### Летуценнік (с. 167)

Друкуецца паводле часоп. «Полымя», 1984, № 5. Пад тэкстам дата не пазначана.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1984, № 5.

Уваходзіў у зб. «Летуценнік; Смутак белых начэй», 1985. Пад тэкстам: 1981—1983.

Раман пераклаў на рускую мову П. Навуменка (зб. «Мечтатель», 1987).

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваюцца фрагменты розных чарнавых варыянтаў рукапісу-аўтографа (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 15—21, агульн. кольк. арк.— 650) і фрагменты чарнавога варыянта машынапісу з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 22, арк. 1—58). На матэрыялах дата аўтарам не ўказана.

С. 167:

*Кастрычніцкія святы* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 580).

*За шэсць гадоў, якія мінулі з часу сканчэння вайны...* — маецца на ўвазе Вялікая Айчынная вайна (1941—1945).

*Канструктывізм* — кірунак у еўрапейскім авангардным мастацтве і архітэктуры 1920—1930-х гг., заснаваны на сцвярджэнні адзінства эстэтычнай вартасці і сацыяльнай функцыянальнасці твора, атаясамліванні яго вобразнай сістэмы, структуры і будовы (канструкцыі).

С. 168:

*...у надпрыпяцкім горадзе...*— гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 577).

*Палессе* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 580).

*Тапчан* — шырокая лаўка, звычайна са спінкай, для сядзення або спання.

С. 171:

*...яшчэ да рэвалюцыі.*— маецца на ўвазе Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г.— узброенае звяржэнне Часовага ўрада і прыход да ўлады ў Расіі партыі бальшавікоў.

С. 173:

*Белае мора* — унутрымацерыковае мора Паўночнага Ледавітага акіяна, на паўночным захадзе еўрапейскай часткі Расіі.

С. 175:

*Карэйская вайна 1950—1953 гг.*— баявыя дзеянні на Карэйскім паўвостраве паміж войскамі Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі (КНДР, Паўночная Карэя) пры падтрымцы Кітая і СССР з аднаго боку і ўзброенымі сіламі Рэспублікі Карэя (РК, Паўднёвая Карэя) пры падтрымцы ЗША і 15 іншых краін пад эгідай Савета Бяспекі ААН з другога. Падставай для вайны паслужылі памежныя канфлікты на лініі падзелу Карэі па 38-й паралелі паўночнай шыраты, якая склалася пасля Другой сусветнай вайны. Вайна ішла з пераменным поспехам і з чэрв. 1951 г. стала пазіцыйнай. 27 ліп. 1953 г. мірныя перамовы завяршыліся падпісаннем двухбаковага перамір'я.

С. 176:

*Дыямат* — скар.: дыялектычны матэрыялізм — адна з форм матэрыялізму, заснаваная на дыялектычным метадзе пазнання рэчаіснасці з'яў і працэсаў прыроднага свету. Заснаваны ў XIX ст. К. Марксам і Ф. Энгельсам; Маркс Карл (1818—1883) — нямецкі мысліцель, грамадскі дзеяч, рэвалюцыянер, адзін з заснавальнікаў марксізму; Энгельс Фрыдрых (1820—1895) — дзеяч германскага і міжнароднага сацыялістычнага і рабочага руху; тэарэтык сацыялізму, адзін з заснавальнікаў марксізму.

*«Капітал»* (1867) — галоўная праца К. Маркса па палітычнай эканоміі, якая ўтрымлівае крытычны аналіз капіталізму.

С. 177:

*«Видно, без внимания обращается с человеком человек...»* — радок з песні «В жизни так случается» (словы М. Лабкоўскага, музыка В. Салаўёва-Сядога) у выкананні акцёра кіно і эстраднага спевака, народнага артыста РСФСР М. Н. Бернэса (1911—1969).

*Талстой Леў Мікалаевіч* (1828—1910) — рускі празаік і публіцыст.

*Чэхаў Антон Паўлавіч* (1860—1904) — рускі празаік і драматург.

С. 180:

*Вільчык* — верхні стык двух бакоў страхі; канёк.

С. 181:

*Маскоўскі ўніверсітэт* — Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя М. В. Ламаносава — найстарэйшая і найбуйнейшая вышэйшая навучальная ўстанова Расіі, адзін з цэнтраў сусветнай навукі. Заснаваны паводле задумы і плана М. В. Ламаносава ўказам імператрыцы Лізаветы Пятроўны ў 1755 г.

*Ажаеў Васіль Мікалаевіч* (1915—1968) — рускі савецкі пісьменнік. Аўтар рамана «Далеко от Москвы» (1948; Дзяржаўная прэмія СССР, 1949) аб працоўных подзвігах савецкіх людзей, якія пабудавалі ў гады Вялікай Айчыннай вайны нафтаправод у глухой тайзе. Паводле рамана створаны аднайменны фільм (1950) і опера І. І. Дзяржынскага (1954).

С. 183:

*Чацвёрка, пяцёрка* — добрая і выдатная адзнакі ў школе і ВНУ пры 5-бальнай сістэме ацэнкі ведаў, якая дзейнічала ў СССР, а таксама ў Беларусі да 2003 г., калі была ўведзена 10-бальная сістэма.

С. 184:

*Гарус* — баваўняная тканіна палатнянага перапляцення з двухбаковай набіўкай.

С. 185:

*Паўтаратонка* — грузавая аўтамашына грузападымальнасцю ў паўтары тоны.

С. 186:

*Куйбышаў* (да 1935 г. і з 1991 г.— Самара) — цэнтр Куйбышаўскай (з 1990 г.— Самарскай) вобл. Расіі.

*...ў невялікім прыволжскім гарадку.*— гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 579).

*Дон-Кіхот* — галоўны герой рамана «Хітрамудры гідальга Дон-Кіхот Ламанчскі» (1615) іспанскага пісьменніка эпохі Адраджэння М. дэ Сервантэса Сааведры (1547—1616).

*Дульцынея* — увасабленне «дамы сэрца» і рыцарскага ёй служэння; вобраз з рамана «Хітрамудры гідальга Дон-Кіхот Ламанчскі» М. дэ Сервантэса Сааведры.

С. 193:

*...яго прынялі ў партыю.*— маецца на ўвазе ўступленне ў КПСС — Камуністычную партыю Савецкага Саюза.

*Першая сусветная вайна* (імперыялістычная вайна; 1914—1918 гг.) — імперыялістычная вайна паміж аўстра-германскім і англа-франка-расійскім (Антанта) блокамі, выкліканая абвастрэннем супярэчнасцей паміж галоўнымі капіталістычнымі краінамі за перадзел ужо падзеленага свету, за ўмацаванне свайго панавання ў свеце і занявольванне іншых народаў.

*Другая сусветная вайна* (1939—1945 гг.) — самая вялікая і кровапралітная вайна ў гісторыі чалавецтва. У яе была ўцягнута 61 дзяржава, больш за 80% насельніцтва Зямлі, ваенныя дзеянні ішлі на тэрыторыі 40 краін, а таксама на марскіх і акіянскіх прасторах. Пачалася ў выніку абвастрэння барацьбы паміж найбуйнейшымі дзяржавамі за перадзел зон уплыву, што склаліся пасля Першай сусветнай вайны. Вайна пачалася нападам 1 верас. 1939 г. гітлераўскай Германіі на Польшчу. Скончылася 2 верас. 1945 г. падпісаннем акта аб капітуляцыі Японіі.

*Хірасіма* — горад у Японіі, на паўднёвым захадзе вострава Хансю, адміністрацыйны цэнтр прэфектуры Хірасіма. У Другую сусветную вайну горад падвергнуты атамнай бамбардзіроўцы (6 жн. 1945 г.) амерыканскай авіяцыяй. Ад выбуху загінула больш за 200 тыс. чалавек, многія памерлі ад хвароб, звязаных з радыяцыяй. Горад адбудаваны, на месцы выбуху ўзведзены мемарыяльны комплекс Міру. З 1959 г. у Хірасіме адбываюцца міжнародныя канферэнцыі аб забароне атамнай зброі.

*Нагасакі* — горад у Японіі, на захадзе вострава Кюсю, адміністрацыйны цэнтр прэфектуры Нагасакі. У канцы Другой сусветнай вайны на Нагасакі 9 жн. 1945 г. скінута амерыканская атамная бомба. Была разбурана трэць горада, каля 75 тыс. чалавек забіты і паранены. З 1956 г. у Нагасакі адбываюцца міжнародныя канферэнцыі аб забароне атамнай зброі.

С. 194:

*...нібы бурлакі на вядомай карціне...* — маецца на ўвазе карціна «Бурлакі на Волзе» (1870—1873) расійскага жывапісца і графіка І. Я. Рэпіна (1844—1930).

*Эсэсаўцы* — салдаты войскаў СС. СС — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 585).

С. 196:

*...юнраўская каўбаса...* — маецца на ўвазе дапамога, атрыманая ад ЮНРРА (ад *англ.* United Nations Relief and Rehabilitation Administration) — Адміністрацыі дапамогі і аднаўлення Аб'яднаных Нацый, міжнароднай арганізацыі (1943—1947), створанай у Вашынг-

тоне 44 дзяржавамі-ўдзельніцамі антыгітлераўскай кааліцыі з мэтай аказання дапамогі насельніцтву краін, якія вызваліліся ад нямецка-фашысцкай і японскай акупацыі. Беларусь далучылася да ЮНРРА ў жн. 1945 г. Дапамога ажыццяўлялася прадуктамі, медыкаментамі і іншымі рэчамі.

С. 199:

*Кіраў Сяргей Міронавіч* (сапр. Кострыкаў; 1886—1934) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Першы сакратар Ленінградскага абласнога камітэта ВКП(б), член Палітбюро ЦК ВКП(б). Застрэлены супрацоўнікам Інстытута гісторыі ВКП(б) Л. В. Нікалаевым 1 снеж. 1934 г. у Смольным, дзе размяшчаўся Ленінградскі абкам ВКП(б). Ужо праз некалькі гадзін пасля забойства афіцыйна было заяўлена, што С. М. Кіраў стаў ахвярай змоўшчыкаў — ворагаў СССР.

С. 200:

*Панявежыс* — горад на поўначы Літвы, на рацэ Нявежыс (прыток Нёмана).

С. 201:

*Пасля рэвалюцыі Асмалоўскі ў Літву не трапіў: ад Расіі яе аддзяліла мяжа.*— У верас. 1917 г. створана Літоўская Тарыба (Савет), якая 11 снеж. 1917 г. прыняла Дэкларацыю аб незалежнасці літоўскай дзяржавы ў саюзе з Германіяй, а 16 лют. 1918 г.— Акт аб незалежнасці Літвы і стварыла ўрад на чале з А. Вальдэмарасам.

*Шавіёт* — лёгкая, мяккая, злёгку варсістая ваўняная ці паўваўняная тканіна.

С. 204:

*Каўказ* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 579).

*Чорнае мора* — міжземнае мора Атлантычнага акіяна, паміж Еўропай і Малой Азіяй.

С. 205:

*Калектывізацыя* — працэс аб'яднання аднаасобных сялянскіх гаспадарак у сельскагаспадарчыя кааператывы. Праводзілася ў канцы 1920 — пачатку 1930-х гг. у СССР з мэтай сацыялістычных пераўтварэнняў у вёсцы, ліквідацыі сельскай буржуазіі (кулацтва), павышэння таварнасці сельскагаспадарчай вытворчасці.

С. 213:

*Воласць* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 581).

*Бургамістр* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 581).

С. 214:

*Чырвоная Армія* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 579).

*«Огонёк»* — расійскі і савецкі грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі ілюстраваны часопіс. Першы нумар выйшаў 21 снеж. (9 снеж. паводле старога стылю) 1899 г. у Пецярбургу як штодзённы ілюстраваны літаратурна-мастацкі дадатак да газеты «Биржевые ведомости». У 1918 г. выпуск часопіса спыніўся і быў адноўлены ў 1923 г. у Маскве. Да 1940 г. выходзіла 36 нумароў у год, з 1940 г.— штотыднёвік.

С. 226:

*Днепр* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 575).

С. 227:

*Варажба* — станцыя Паўднёва-Заходняй чыгункі. Знаходзіцца ў горадзе Варажба Белапольскага раёна Сумскай вобл. Украіны. Вызвалена ад гітлераўскіх захопнікаў 3 верас. 1943 г.

*Харкаў* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 576).

*Алтай* — Рэспубліка Алтай, у складзе Расіі. Сталіца — г. Горна-Алтайск.

*Цім* — пасёлак гарадскога тыпу ў Курскай вобл. Расіі.

*Корт* — баваўняная тканіна, звычайна цёмнага колеру, для рабочага і спартыўнага адзення.

*На Маскву нацэлілі ўдар фашысты...* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 574—575).

С. 228:

*Сібір* — большая частка азіяцкай тэрыторыі ў Расійскай Федэрацыі, якая распасціраецца ад Урала на захадзе да хрыбтоў ціхаакіянскага водападзела на ўсходзе і ад Паўночнага Ледавітага акіяна на поўначы да стэпаў Казахстана і мяжы з Цэнтральнай Азіяй на поўдні.

*...ў час сваіх блуканняў па пакутах...* — алюзія на трылогію «Блуканне па пакутах» (1920—1941) рускага пісьменніка А. М. Талстога (1883—1945).

С. 229:

*Лямпа-васьмярык* — васьмілінейная газавая лямпа, кнот якой па шырыні роўны васьмі лініям. Адна лінія — 2,54 мм.

С. 236:

*На холмах Грузии лежит ночная мгла; / Шумит Арагва предо мною. / Мне грустно и легко; печаль моя светла; / Печаль моя*

*полна тобою, / Тобой, одной тобой…* — радкі з верша «На ўзгорках Грузіі…» (1829) А. С. Пушкіна; Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799—1837) — рускі паэт, празаік і драматург; пачынальнік новай рускай літаратуры, заснавальнік сучаснай рускай літаратурнай мовы.

С. 245:

*Тургенеў Іван Сяргеевіч* (1818—1883) — рускі пісьменнік.

С. 251:

*Колас Якуб* (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882—1956) — беларускі паэт, празаік, драматург, крытык, публіцыст, перакладчык, навуковец, педагог, грамадскі дзеяч; класік беларускай літаратуры, адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы. Народны паэт Беларусі (1926).

С. 252:

*Камуністычны інстытут журналістыкі* (КІЖ) — Камуністычны інстытут журналістыкі імя С. М. Кірава (КІЖ) існаваў у 1932—1940 гг. у Мінску як навучальная ўстанова для падрыхтоўкі кадраў для раённых, абласных і рэспубліканскіх газет. Заснаваны на базе газетнага аддзялення Камуністычнага ўніверсітэта Беларусі. Рэарганізаваны ў Беларускі інстытут журналістыкі (існаваў да 1941 г.).

С. 254:

*«Казёл»* — мянушку «казёл» атрымаў першы аўтамабіль Ульянаўскага (Горкаўскага) аўтазавода ГАЗ-А. Паводле адной з версій назва паходзіць ад станцыі Клізякоўка, паблізу ад якой у 1941 г. пачаў будавацца завод. Спакваля яна распаўсюдзілася на ўсе астатнія «газікі» — усюдыходныя легкавыя аўтамабілі маркі «ГАЗ».

С. 261:

*Камінтэрн* (Камуністычны Інтэрнацыянал, ІІІ Інтэрнацыянал) — міжнароднае аб’яднанне камуністычных партый і блізкіх да іх арганізацый розных краін у 1919—1943 гг. Заснаваны ў сак. 1919 г. у Маскве паводле ініцыятывы расійскіх камуністаў (бальшавікоў) на чале з У. І. Леніным ва ўмовах уздыму рэвалюцыйнага руху ў свеце пасля Першай сусветнай вайны.

С. 266:

*…са значкамі «Варашылаўскі стралок», «ГТО», «ГСО» на штрыфлях.* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 577).

С. 267:

*Старажытная Элада* (Старажытная Грэцыя) — цывілізацыя, дзяржаўнасць і культура на тэрыторыі паўднёвай часткі

Балканскага паўвострава, астравоў Эгейскага мора, заходняга ўзбярэжжа паўвострава Малая Азія і іншых зямель у II—I тыс. да н. э. (ад узнікнення першых грэчаскіх гарадоў-дзяржаў да рымскага заваявання ў II ст. да н. э.);

*Эсхіл* (525 да н. э.— 456 да н. э.) — старажытнагрэчаскі паэт-драматург.

*Сафокл* (каля 496 да н. э.— 406 да н. э.) — старажытнагрэчаскі драматург.

*Эўрыпід* (каля 485 ці 480 да н. э.— 406 да н. э.) — старажытнагрэчаскі драматург.

*Лукрэцый Кар* (Ціт Лукрэцый Кар, I ст. да н. э.) — рымскі паэт, філосаф-матэрыяліст, аўтар паэмы «Аб прыродзе рэчаў».

*Петрарка Франчэска* (1304—1374) — італьянскі паэт, вучоны-гуманіст эпохі Адраджэння. Вяршыня яго творчасці — зборнік лірыкі «Канцаньерэ» («Кніга песень», 1327—1374), дзе ў вершах, аб'яднаных у цыклы «На жыццё мадонны Лауры» і «На смерць мадонны Лауры», услаўляецца каханне.

*Авідзій* (Публій Авідзій Назон; 43 да н. э.— каля 18 н. э.) — рымскі паэт.

*Ленінград* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 576).

*...выраз Гогаля, які штаны свайго героя параўноўвае з Чорным морам.* — Гогаль Мікалай Васілевіч (1809—1852) — рускі пісьменнік, пачынальнік крытычнага рэалізму ў рускай літаратуры. Гаворка ідзе пра яго аповесць «Тарас Бульба» (1835, новая рэдакцыя 1842).

*Лермантаў Міхаіл Юр'евіч* (1814—1841) — рускі пісьменнік.

С. 268:

*Чарнышэўскі Мікалай Гаўрылавіч* (1828—1889) — рускі філосаф, пісьменнік, літаратурны крытык.

*РАПП* (Расійская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў) — літаратурная арганізацыя, якая існавала ў 1925—1932 гг. Афармілася на 1-й Усесаюзнай канферэнцыі пралетарскіх пісьменнікаў, уваходзіла ва Усесаюзную асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў (ВАПП), створаную ў 1924 г. на базе Маскоўскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў.

*Пераверзеў Валяр'ян Фёдаравіч* (1882—1968) — расійскі літаратуразнавец. У 1928 г. выдадзены зборнік артыкулаў В. Ф. Пераверзева і яго паслядоўнікаў «Літаратуразнаўства», які стаў прычынай для дыскусіі пра «пераверзеўскую школу» (1929—1930).

С. 270:

*...нямецкую і белапольскую акупацыі ў грамадзянскую вайну...*— маецца на ўвазе грамадзянская вайна і ваенная інтэрвенцыя 1918—1922 гг., у час якой значная частка тэрыторыі Беларусі акупавалася германскімі і польскімі войскамі.

*...два юбілеі: дваццаціпяцігадовы — універсітэта і саракагадовы — творчай дзейнасці вялікага паэта.*— Абедзве даты адзначаліся ў 1946 г. 24 лістап. 1946 г. адбылося ўрачыстае пасяджэнне вучонага савета БДУ, прысвечанае 40-годдзю творчай дзейнасці Я. Коласа, пра што напісала газета «Літаратура і мастацтва» 30 лістап. таго ж года.

С. 272:

*«Інтэрнацыянал»* — міжнародны пралетарскі гімн. Тэкст напісаў у 1871 г. Э. Пацье, музыку ў 1888 г. П. Дэгейтэр. З 1917 г. «Інтэрнацыянал» быў гімнам Савецкай дзяржавы, у 1944 г., з прыняццем новага Дзяржаўнага гімна СССР зацверджаны як гімн КПСС. Тэкст «Інтэрнацыянала» на беларускую мову пераклаў Я. Купала.

С. 273:

*Курская дуга* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 584).

С. 281:

*Блок Аляксандр Аляксандравіч* (1880—1921) — рускі паэт-сімваліст.

*Ясенін Сяргей Аляксандравіч* (1895—1925) — рускі паэт.

*Купала Янка* (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882—1942) — беларускі паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч; класік беларускай літаратуры; адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы. Народны паэт Беларусі (1925).

С. 282:

*...«Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм» Леніна...* — Ленін — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 588); «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм» (1909) — асноўная філасофская праца У. І. Леніна, дзе аўтар прааналізаваў найважнейшыя філасофскія напрамкі канца XIX — пачатку XX ст., абагульніў найважнейшыя прыродазнаўча-навуковыя адкрыцці.

*...«Анты-Дзюрынг», «Дыялектыку прыроды» Энгельса.*— «Анты-Дзюрынг» («Пераварот у навуцы, зроблены панам Яўгенам Дзюрынгам»; 1876—1878) — праца Ф. Энгельса, скіраваная супраць поглядаў Я. Дзюрынга. Крытыкуючы філасофскую эклектыку Дзюрынга, Энгельс абараняў матэрыялістычную дыялектыку як аснову

ўсяго марксісцкага светапогляду, супрацьпастаўляў поглядам апанента асноўныя прынцыпы марксісцкай палітэканоміі і навуковага камунізму. На аснове 3-й главы гэтай кнігі Ф. Энгельс напісаў працу «Развіццё сацыялізму ад утопіі да навукі» (1880); у 1873 г. Энгельс прыступіў да стварэння сваёй галоўнай навуковай працы, прысвечанай філасофскім праблемам прыродазнаўства,— «Дыялектыка прыроды», у якой ён хацеў даць дыялектыка-матэрыялістычнае абагульненне ўсіх найважнейшых дасягненняў прыродазнаўчай думкі. Над рукапісам Энгельс працаваў з вялікімі перапынкамі на працягу дзесяці гадоў (1873—1883), аднак яму не ўдалося яе завяршыць. Праца ўтрымлівае шэраг глыбокіх палажэнняў, пацверджаных сучасным развіццём прыродазнаўства і філасофіі.

*Першая руская рэвалюцыя* — рэвалюцыя 1905—1907 гг. у Расіі; няўдалая спроба змены дзяржаўнага ладу, выкліканая рэзкім абвастрэннем эканамічнага і сацыяльна-палітычнага становішча ў сувязі з руска-японскай вайной 1904—1905 гг.

С. 285:

*«Der Untertan»* («Вернападданы») — раман нямецкага пісьменніка Генрыха Мана (1871—1950), створаны ў 1914 г. Разам з раманамі «Бедныя» (1917) і «Галава» (1925) твор уваходзіць у трылогію «Імперыя», у якой на шырокім сацыяльным фоне выкрываюцца германскі шавінізм і мілітарызм, разглядаюцца праблемы фарміравання вернападданіцкай свядомасці, суіснавання ў адной асобе раба і тырана.

С. 286:

*Гамсун Кнут* (сапр. Кнуд Педэрсен; 1859—1952) — нарвежскі раманіст, навеліст, драматург, паэт, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1920, за раман «Сокі зямлі», 1917).

*«Новое время»* (з 2007 г. The New Times) — штотыднёвы грамадска-палітычны часопіс, які выдаецца з 1943 г. Выходзіць на рускай, англійскай, французскай, нямецкай, іспанскай і іншых мовах. Асвятляў унутранае і міжнароднае становішча СССР, праблемы савецкай знешняй палітыкі, актуальныя падзеі міжнароднага жыцця.

*Дзень Савецкай Арміі* — свята ў СССР, якое з 1946 па 1993 г. мела афіцыйную назву «Дзень Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту». Устаноўлена ў РСФСР 27 студз. 1922 г. як Дзень Чырвонай Арміі і Флоту.

С. 289:

*Ордэн «Знак Пашаны»* — дзяржаўная ўзнагарода ў СССР. Уведзены ў 1935 г., у 1988 г. перайменаваны ў ордэн Пашаны.

С. 292:

*Запарожжа* — цэнтр Запарожскай вобл. Украіны, порт на рацэ Дняпро.

С. 294:

*МТС* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 575).

С. 296:

*Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры* (МІФЛІ, або ІФЛІ) — Маскоўскі інстытут філасофіі, літаратуры і гісторыі імя М. Г. Чарнышэўскага — гуманітарная ВНУ ўніверсітэцкага тыпу, якая існавала ў Маскве ў 1931—1941 гг. Быў вылучаны з Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта і пасля зноў з ім аб'яднаны.

*Парусіна* — грубая, тоўстая льняная тканіна, якая першапачаткова ішла на ветразі.

*Каўпак* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 586).

*...удзельнічалі ў славутым паходзе на Карпаты, аж да нафтавых радовішч Пярэмышля і Драгобыча дайшлі.*— Карпаты — горная сістэма на ўсходзе Цэнтральнай Еўропы. Размешчана на тэрыторыі Румыніі, Чэхіі і Славакіі, Украіны, Польшчы, Венгрыі і Аўстрыі; Пярэмышль — памежны горад на паўднёвым усходзе Польшчы, на рацэ Сан, бліз Украіны (да мяжы 12 км); Драгобыч — горад у Львоўскай вобл. Украіны, адзін са значных прамысловых цэнтраў Прыкарпацця.

С. 297:

*Бурса* — назва духоўных вучылішчаў з інтэрнатамі ў XVIII — першай палове XIX ст.

С. 299:

*«Сымон-музыка»* — паэма Я. Коласа, якая выйшла ў 1925 г.

*«Палескія аповесці»* — аповесці Я. Коласа «У палескай глушы» (1923) і «У глыбі Палесся» (1927), якія пазней увайшлі ў трылогію «На ростанях» як першыя дзве часткі (завершана трылогія ў 1954 г.).

С. 303:

*У Магілёве бальшавікі скінулі царскага галоўнакамандуючага Духоніна...* — Духонін Мікалай Мікалаевіч (1876—1917) — расійскі ваенны дзеяч, генерал-лейтэнант (1917). Выконваў абавязкі вярхоўнага галоўнакамандуючага пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі (16—22 лістап. 1917 г.; зняты з пасады савецкімі ўладамі за адмову неадкладна ўступіць у мірныя перамовы з германска-аўстрыйскім

камандаваннем). 3 снеж. 1917 г. арыштаваны. Забіты на вакзале ў Магілёве натоўпам салдат і матросаў, якія даведаліся пра вызваленне ім з турмы ў Быхаве кіраўнікоў Карнілаўскага мяцяжу.

*...ў Быхаве... сядзелі пад замком царскія генералы.*— У рамане згадваюцца падзеі, звязаныя з мяцяжом Карнілава — узброеным выступленнем на чале з расійскім вярхоўным галоўнакамандуючым Л. Г. Карнілавым супраць Часовага ўрада 25—31 жн. (7—13 верас.) 1917 г. з мэтай устанаўлення ваеннай дыктатуры ў Расіі. Пасля паражэння мяцяжу генерала Карнілава і іншых афіцэраў трымалі ў турме г. Быхаў, адкуль яны 20 лістап. 1920 г. уцяклі на Дон.

С. 304:

*Павет* — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Расійскай імперыі, якая ўваходзіла ў губерню.

*Мяцеж Доўбар-Мусніцкага* — антысавецкае ўзброенае выступленне 1-га польскага корпуса на чале з Ю. Р. Доўбар-Мусніцкім. 25 студз. 1918 г. была абвешчана вайна Савецкай рэспубліцы. Ваенныя дзеянні вяліся з пераменным поспехам. 26 лют. 1918 г. у Бабруйску заключана пагадненне аб падпарадкаванні корпуса немцам. У маі 1918 г. злучэнне расфарміравана; Доўбар-Мусніцкі Юзаф Рамуальдавіч (1867—1937) — рускі і польскі ваенны дзеяч, генерал-лейтэнант рускай арміі (1917), генерал броні польскага войска.

*Пуд* — старажытная адзінка масы ў Беларусі і Расіі, роўная 16,38 кг. Вядома з XII ст. Афіцыйна выкарыстоўваўся да 1924 г.

*То немцы прыходзілі, затым уцякалі з Гомеля...* — З 1 сак. 1918 г. да 14 студз. 1919 г. Гомель акупаваны нямецкімі войскамі.

*...белы афіцэр Стракапытаў падняў мяцеж...* — Стракапытаўскае паўстанне — антыбальшавіцкае выступленне ў Гомелі 24—29 сак. 1919 г. Узнята 67-м і 68-м палкамі так званай Тульскай брыгады, перакінутымі ў сярэдзіне студз. у Гомель з Бабруйска. Кіраваў мяцяжом «Палескі паўстанцкі камітэт» у складзе афіцэраў палкоў на чале з загадчыкам гаспадарчай часткі М. Стракапытавым.

С. 305:

*Сож* — рака ў Смаленскай вобл. Расіі, у Магілёўскай і Гомельскай абл. і на мяжы Беларусі з Расіяй і Украінай, левы прыток ракі Дняпро.

С. 307:

*Грабар* — землякоп.

С. 308:

*Растоў-на-Доне* — цэнтр Растоўскай вобл. Расіі, порт на рацэ Дон.

*Дон* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 578).

*Рабфак* — скар.: рабочы факультэт — для падрыхтоўкі рабочай і сялянскай моладзі да навучання ў вышэйшай школе (у 1919—1940 гг.).

*«Тарас на Парнасе»* — паэма Канстанціна Вераніцына (1834 — каля 1904). Яе аўтарства доўга прыпісвалася іншым асобам, а друкавалася паэма, пачынаючы з 1889 г., як ананімная.

С. 309:

*...Данскі ўніверсітэт утварыўся з Варшаўскага. Перавандраваў у Растоў, калі да Варшавы падыходзілі немцы.*— Варшаўскі ўніверсітэт — найбуйнейшая навучальная ўстанова Польшчы. Заснаваны ў 1818 г. паводле ўказа Аляксандра I у Варшаве як Аляксандраўскі ўніверсітэт з юрыдычным, медыцынскім, прыгожых мастацтваў, прыродазнаўча-матэматычным і тэалагічным факультэтамі. Пасля паўстання 1830—1831 гг. закрыты (1831). У 1862 г. адноўлены пад назвай Галоўнай школы, якая ў 1869 г. ператворана ва ўніверсітэт з выкладаннем на рускай мове. У 1915 г. эвакуіраваны ў г. Растоў-на-Доне. Паводле пастановы Часовага ўрада Варшаўскі ўніверсітэт скасаваны, а на яго базе створаны новы, які называўся Данскі, з 1925 г.— Паўночна-Каўказскі, з 1931 г.— Растоўскі-на-Доне, з 1957 г.— Растоўскі дзяржаўны ўніверсітэт. У 2006 г. ВНУ рэарганізавана ў Паўднёвы федэральны ўніверсітэт.

*Рэктарам Варшаўскага ўніверсітэта... быў прафесар Карскі.*— Карскі Яўхім Фёдаравіч (1861—1931) — філолаг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, фалькларыст, палеограф. Акадэмік Пецярбургскай АН (з 1916, член-карэспандэнт з 1901), правадзейны член Інстытута беларускай культуры (1922), Чэшскай АН (з 1929). У 1905 г. Я. Ф. Карскі стаў першым выбраным рэктарам Варшаўскага ўніверсітэта. У 1908 г. пераабраны на новы тэрмін, але ў 1910 г. адмовіўся ад гэтай пасады ў знак пратэсту супраць самавольства міністра адукацыі. У 1915—1916 гг. працаваў у Растове-на-Доне, куды быў эвакуіраваны Варшаўскі ўніверсітэт, а пасля выбрання правадзейным членам АН у 1916 г. пераехаў у Петраград.

С. 311:

*Някрасаў Мікалай Аляксеевіч* (1821—1877) — рускі паэт, празаік і публіцыст.

*Багдановіч Максім Адамавіч* (1891—1917) — беларускі паэт, перакладчык, крытык і гісторык літаратуры.

С. 312:

*Сходня* — чыгуначная станцыя за 30 км на паўночны захад ад Масквы ў горадзе (з 1961) Сходня Хімкінскага раёна Маскоўскай вобл. Расіі.

С. 313:

*У сорак другім годзе, калі другі раз здавалі немцам Растоў...* — Баі за Растоў з канца 1941 г. да сярэдзіны 1942 г. насілі асабліва жорсткі характар. Горад захоплены немцамі 21 лістап. 1941 г., аднак Чырвоная Армія адбіла яго 29 лістап. гэтага ж года. 27 ліп. 1942 г. Растоў паўторна заняты гітлераўцамі. Канчаткова горад вызвалены 14 лют. 1943 г.

С. 315:

*Тураў* — гарадскі пасёлак у Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобл., прыстань на рацэ Прыпяць. У канцы І тыс. н. э. стаў палітычным, эканамічным і культурным цэнтрам Тураўскага княства, утворанага на тэрыторыі рассялення ўсходнеславянскага племені дрыгавічоў ад Дняпра на ўсходзе да Заходняга Буга на захадзе, ад Прыпяцкага Правабярэжжа на поўдні да вытокаў Лані і Случы на поўначы (тэрыторыя сучаснай Брэсцкай, часткова Гомельскай, Мінскай, Гродзенскай абл., паўночных раёнаў Украіны і ўсходніх паветаў Польшчы).

*Кіеўская Русь* — раннефеадальная дзяржава ўсходнеславянскіх і некаторых неславянскіх плямён у IX — першай трэці XII ст. з цэнтрам у Кіеве. У розны час у яе ўваходзілі тэрыторыі ад Прычарнаморскіх стэпаў да Паўночнай Дзвіны, ад Днястра і Заходняга Буга да Акі і Волгі. Паняцце «Кіеўская Русь» уведзена ў навуку гісторыкамі XIX ст.

*Кірыла Тураўскі* (каля 1130 — пасля 1190) — старажытнарускі (старабеларускі) пісьменнік, царкоўны дзеяч, багаслоў.

С. 320:

*Як тонкая рабіна з вядомай песні.*— «Тонкая рябина» — народны песенны варыянт верша «Рябина» (1864) рускага паэта І. З. Сурыкава (1841—1880).

С. 322:

*Авечкін Валянцін Уладзіміравіч* (1904—1968) — савецкі празаік, драматург, журналіст. Аповесць «С фронтовым приветом» напісана ў 1945 г.

*Ганчар Алесь* (Аляксандр Цярэнцьевіч; 1918—1995) — украінскі пісьменнік і грамадскі дзеяч, акадэмік Акадэміі навук Украіны (1978), Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Яго трылогія «Сцяганосцы» («Альпы», 1946; «Блакітны Дунай», 1947; «Злата

Прага», 1948) тэматычна звязана з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны. За твор аўтару была прысуджаная Дзяржаўная прэмія СССР (1948, 1949).

*Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч* (1914—1978) — беларускі пісьменнік, народны паэт Беларусі (1968).

С. 323:

*...летам сорак трэцяга пад Харкавам...* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 583).

*Усходняя Прусія* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 115).

*Сталінград* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 581).

С. 323—324:

*Чорны Кузьма* (сапр. Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 1900—1944) — беларускі пісьменнік. У 1920-х гг. выйшлі яго зборнікі прозы «Апавяданні» (1925), «Па дарозе» (1925), «Срэбра жыцця» (1925), «Пачуцці» (1926), «Хвоі гавораць» (1926), «Вераснёвыя ночы» (1929).

С. 325:

*Вялікдзень* — веснавое свята старажытных славян у гонар сонца, абуджэння прыроды і надыходу «вялікіх» палявых работ. Адсюль і назва. Хрысціяне пераасэнсавалі Вялікдзень у свята ўваскрэсення распятага Ісуса Хрыста, якое стала галоўным хрысціянскім святам. Яму надаецца асаблівы сэнс як азнаменаванню перамогі над грахом і смерцю.

С. 328:

*НКВД* (*бел.* НКУС) — скар.: Народны камісарыят унутраных спраў — адзін з цэнтральных галіновых органаў дзяржаўнага кіравання СССР, саюзных і аўтаномных рэспублік (1920—1946) па барацьбе са злачыннасцю і падтрыманні грамадскага парадку, забеспячэнні дзяржаўнай бяспекі.

С. 330:

*Арманд Інеса* (Лізавета Фёдараўна; 1874—1920) — дзяячка міжнароднага рабочага і камуністычнага руху.

С. 331:

*Бялінскі Вісарыён Рыгоравіч* (1811—1848) — рускі літаратурны крытык, публіцыст.

*Дабралюбаў Мікалай Аляксандравіч* (1836—1861) — рускі крытык, публіцыст, паэт, празаік.

С. 332:

*Крым* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 576).

*Ялта* — горад і прыморскі кліматычны курорт у Крыме, порт на Чорным моры.
С. 336:

*Лабаз* — памяшканне для гандлю зернем, мукой, а таксама для захоўвання зерня і мукі.
С. 337:

*Бакен* — плывучы знак на якары, які ўстанаўліваецца на водных шляхах для папярэджання пра небяспечныя для суднаў месцы.
С. 353:

*Шчаслівая постаць наспелых пасеваў / За вёскай, на сонным лясоў рубяжы…* — недакладная цытата (у арыгінале першы радок такі: «Наспелая постаць шчаслівых пасеваў») з верша «Жніво» (1910) Я. Купалы.

*Чалюскінцы* — удзельнікі экспедыцыі на параходзе «Чалюскін», мэтай якой было прайсці Паўночным марскім шляхам за адну навігацыю на неледакольным судне, сабраць навуковыя звесткі пра палярныя моры. «Чалюскін» выйшаў у рэйс 8 жн. 1933 г. з Мурманска ва Уладзівасток. У Берынгавым праліве судна было зацёрта льдамі, штормам вынесена ў Чукоцкае мора і 13 лют. 1934 г. расціснута вялізным ледзяным валам. Параход затануў за 100 км ад берага, 104 удзельнікі экспедыцыі высадзіліся на дрэйфуючую льдзіну. Праз два месяцы на самалётах яны былі вывезены на мыс Ванкарэм на паўночным захадзе Чукоцкага паўвострава. Аперацыя выратавання працягвалася з 5 сак. па 13 крас. 1934 г.
С. 354:

*Ленінградская лясная акадэмія* (Ленінградская лесатэхнічная акадэмія імя С. М. Кірава) — вышэйшая навучальная ўстанова, заснаваная ў 1803 г. указам імператара Аляксандра І. З лют. 2011 г.— Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны лесатэхнічны ўніверсітэт імя С. М. Кірава, вядомы і як Лесатэхнічная акадэмія.
С. 356:

*З Коласавымі вершамі (…) ён знаёмы з дзяцінства. Многія з іх — «Ручэй», «Адлёт жураўлёў», «Асадзі назад», «Канстытуцыя», «Мужык» — ведае на памяць.*— Верш Я. Коласа «Канстытуцыя» датуецца 1905 — 1906 гг., «Асадзі назад» — 1908 г., «Ручэй», «Адлёт жураўлёў», «Мужык» («Я — мужык, бядак пахілы…») напісаны ў 1909 г.
С. 359:

*Булгакаў Міхаіл Апанасавіч* (1891—1940) — рускі пісьменнік. У рамане «Белая гвардыя» (1925—1927) і п’есе «Дні

Турбіных» (пастаўлена ў 1926 г.), напісанай па матывах гэтага рамана, адлюстраваў настроі старой рускай інтэлігенцыі, еднасць яе з народам, роздум пра шляхі і выбар, думкі пра Белы рух і лёс Расіі.
С. 362:

*Нарач* — найбольшае возера ў Беларусі, у Мядзельскім раёне Мінскай вобл. Уваходзіць у Нарачанскую групу азёр і Беларускі Нацыянальны парк «Нарачанскі».

*Мястра* — возера ў Мядзельскім раёне Мінскай вобл. Уваходзіць у Нарачанскую групу азёр і Беларускі нацыянальны парк «Нарачанскі».

*Баторын* (Баторына) — возера ў Мядзельскім раёне Мінскай вобл.
С. 363:

*Князь-возера на Палессі* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 587).

Варыянты і разначытанні:
Часоп. «Полымя» // *зборнік*
С. 167:

[30—31] прыгожымі чатырох- і пяціпавярховымі дамамі // анфіладамі прыгожых чатырох- і пяціпавярховых дамоў
С. 168:

[5—6] у чатырохпавярховым, з аблезлай тынкоўкай Доме друку // у чатырохпавярховай, з аблезлай тынкоўкай будыніне

[30] на сесіі завочнікаў // на завочныя сесіі
С. 169:

[3] старшыня // член

[6—7] Рэдактар // Рэдактар Тужык
С. 175:

[26] мясцовасць Касцюшкі // мясцовасць
С. 176:

[4—5] больш важкі // важэйшы

[16—17] том Марксавага «Капіталу» таксама прачытаў. // том «Капіталу» таксама пачытаў.

[18—19] пасля шпіталя трапіў у сталіцу адразу пасля вызвалення мястэчка. // трапіў у сталіцу праездам, выпісаўшыся са шпіталя і накіроўваючыся ў афіцэрскі рэзерв.
С. 178:

[4] размаўляць адзін з другім не могуць. // не могуць.

[16] сядзенне // вось такое сядзенне

С. 180:
[30—31] пакоя-стадолы ў другі // ў другі пакоя-стадолы
[35] пакутаваў ад задышкі. // быў хворы на адышку.
С. 183:
[22] да таго // да заявы
[38] сваё // свае перакананні
С. 189:
[5] падавала // пасылала
С. 190:
[10] здольнай студэнтцы… // навучэнцы…
С. 192:
[26] прыгоды. // паходжанні.
[38] не мяняла. // не мяняе.
С. 193:
[3] на сесію // на завочную сесію
[4] стараючыся // стараўся
С. 194:
[11] промні // праменні
[14] промняў. // праменняў.
С. 195:
[1] у хлявах, пад ганкамі // у хлявах
[10] дзевяціпавярховага // шматпавярховага
[15] спяцовак // спяцоўкі
[20] дзяціна. // дужы як бык дзяціна.
С. 196:
[1] стракатыя // пярэстыя
С. 197:
[33—34] як быў малы // у дзяцінстве
С. 200:
[36] фельчарскай // медыцынскай
С. 201:
[13] ўрэшце // з рэшты рэшт
С. 202:
[28] з // застаўленая
[37—38] да ўлады і зажытку. // да зажытку.
С. 203:
[11] прыгожую матэрыю // прыгожы матэрыял
[27] камянямі // каменнямі
[33] цікавасцю // цікаўнасцю
С. 204:
[7] яны з Маргарытай // з Маргарытай

С. 205:

[26—27] Сказа «Адзін другога не ведаюць і знаёміцца не збіраюцца» ў зборніку няма.

[28] па чамадану // чамаданы

[29] адкідныя полкі. // полкі.

С. 206:

[13] выгуквае салдат. // выгуквае.

[37] ў зялёны колер // ў зялёную фарбу

С. 207:

[4] прылеглых блізкіх // блізкіх

[10] Як бы // Нібы

С. 208:

[8] кароткатэрміновага мужа // мужа

[25] Толькі // Яна толькі

С. 210:

[2] бацькоў-фельчараў // бацькоў-дактароў

[17] местачкоўцаў // настаўнікаў

[19] Да гаспадароў // Да настаўнікаў

[30] груба, колькі мела сілы // груба

С. 211:

[14] Сказа «Не менш як сто паліцэйскіх аб’явілася ў сяле» ў зборніку няма.

[20] га́ды // яны

[22] фінагентам // папрацаваць

[24—25] аднавіў работу фельчарскі пункт // аднавілася дзейнасць фельчарскага пункта

[25—26] з ненавіснай пасады. // са службы ў валасці.

С. 214:

[3] пад гэты горад // туды

[17] выйсце // магчымасць сустракацца

[18—19] нават ложак, стол былі // былі нават ложак, стол

[21] на другую. // на адну.

[34—35] ў садовай старожцы // ў старожцы

С. 215:

[37—38] на курсах піянерважатых. // на камсамольскіх курсах.

С. 216:

[28] дашчаная // драўляная

[37] доктару // вясковаму доктару

С. 217:

[7] зладзеі абабіралі // абабіралі

[14—15] з саламянай страхі // з саламянага даху
[27] цікаўнасці. // цікавасці.
[33] не цікавілі. // не доўга цікавілі.
С. 218:
[33—34] цёплага пачуцця да яго. // адказнага пачуцця.
С. 219:
[32] супакойваецца // саступае ў яго дамаганнях, супакойваецца
С. 220:
[3] збіраць. // жаць.
С. 221:
[9] прыехаў // прыехаў у надпрыпяцкі горад
[21] у яе адносінах з ім // у яе з ім адносінах
С. 225:
[27] пад крыссем // пад крысом
[28—29] да рыльца бутэлькі, яны // да рыльца
С. 226:
[21] абхапіла яго // абхапіла
[34] на ўсход. // ў водступ.
С. 227:
[18—19] пад Масквой, у дачнай мясцовасці. // пад Масквой.
[19] пад хмурымі // размешчаным пад хмурымі
С. 228:
[24] не ўспамінаў. // не думаў.
С. 232:
[1] ўспамінаючы зноў // ўспамінаючы
[3] Сказа «Выпіваюць яшчэ, затым яшчэ…» у кнізе няма.
[21] Выпіўшы яшчэ, Сяргей нарэшце // Сяргей нарэшце рашуча
С. 234:
[6] І // Але і
[21—22] У зборніку сказ «Цэлую хвіліну не адрывае бутэльку ад рота» адсутнічае.
С. 236:
[9—13] На холмах Грузии лежит ночная мгла; / Шумит Арагва предо мною. / Мне грустно и легко: печаль моя светла // На холмах Грузии лежит ночная мгла, / Струит Арагва подо мною, / Мне грустно и легко, печаль моя светла
[17] тварам да сцяны. // да сцяны.
С. 237:
[28] Трахімчыка. // Трахімчыка, няўдзячнага новага мужа Ізольды Апанасаўны.

С. 239:

[11] У зборніку сказ «Галя паправілася» адсутнічае.

С. 241:

[1] берагі ракі // берагі

[32] Залезшы // Зайшоўшы

С. 244:

[23] Вылезшы з цягніка // З вакзала

С. 245:

[14] Іначай не варта // Інакш навошта

С. 246:

[10—11] у суд заяву на развод з жонкай і чаму падаў. // заяву на развод.

[20] тварыку якога // тварыку, на якім

[28] расказвае нават // расказвае

[34—35] выключыўшы святло, аспіранты // аспіранты

[36] Лялька! Любуецца адной сабой. // Лялька!

С. 248:

[27] ускоквае // ускокваючы

[28] драцца // лезці

С. 249:

[21] хоча // папрасіўся ў камандзіроўку

С. 251:

[34—36] Можа, таму ён любіць Якуба Коласа. Колас тонка, дасканала адчувае рух прыроды, яе жыццё, адметныя асаблівасці кожнай пары года. // Але выключаючы толькі траскучы мароз, ён любіць усе поры года. Можа, таму любіць Якуба Коласа. Колас тонка і дасканала адчувае і ўмее паэтычна перадаць рух прыроды, яе жыццё, дыханне кожнай пары года.

С. 253:

[31] лёгкія // летнія

[35] па дахах // па стрэхах

С. 254:

[11] ламаецца. // мяняецца.

[24—25] афіцыянтка // афіцыянт

[29—30] лётчыцкі шлем з раменнымі вушамі. // лётны шлем.

[32] крыссе // крысы

[32] з бабровым // з бобрыкавым

С. 256:

[19—20] для цёплай еўрапейскай зімы хламіда // хламіда для цёплай еўрапейскай зімы

С. 257:

[22] ў надпрыпяцкім горадзе. // ў надпрыпяцкім горадзе хутка, паспешліва.

С. 258:

[18] лётчыцкім // лётным

С. 259:

[32] сумцы // вайсковай сумцы

[34—35] на абед да чулага, прыветлівага сакратара сельсавета // да чулага, прыветлівага сакратара сельсавета на абед

С. 264:

[36] Гэта // Ім з’яўляецца

[37] абліччы // вонкавым абліччы

С. 266:

[37] год і, што // год, што

С. 268:

[17] хваліць яго // хваліць

[24—25] разумеў мастацкі вобраз як голую ілюстрацыю класавага паходжання пісьменніка, ідэалогіі і палітыкі. // а таксама сацыяльнае становішча пісьменніка.

[27] Ды і выкладчык ён выдатны. А што болей трэба? // Ды і выкладчык ён выдатны, а што болей трэба?

[28] Даніла // Мікіта

[36] за ванну // за асобны кабінет з ваннай

[37] і не мыўся // адразу выйшаў з кабінета

[38] у ванне памясціцца… // у ванну ўціснуцца.

С. 270:

[27] не было // няма

С. 271:

[1] неацэнным // бясконцым

[14] перадаваць другім, даносіць да іх // перадаваць, даносіць да другіх

С. 274:

[13] У другое // У другое па чарзе

[30] І // Нават

С. 275:

[9] зацьмілі. // закасавалі.

С. 276:

[5] пісьменнікі // літаратары

[6] спярэшчан // наскрозь спярэшчан

[28—29] фасонаў бутэлек з вінам і гарэлкай. // трункаў.

С. 277:

[8] Саша працуе // Яна працуе

[10] Саша падабаецца // жанчына падабаецца

[12] Упрыгожваюць Сашу // Упрыгожваюць яе

[14] Саша клапоціцца // Жанчына клапоціцца

[15] раз-пораз чокаецца чаркай // безупынна гаворыць

[16] захмялелыя // гаманкія

[34] на цёмнае неба, засланае воблакамі // тут на цёмнае, засланае воблакамі неба

С. 280:

[36] бясконцасць // яе

С. 282:

[3] намеснік рэдактара. // намеснік.

[22] захапляльны // захапляльны, можна нават сказаць

С. 283:

[34] сонечнай. // з якой складаецца само сонца.

С. 284:

[27] адменная. // добрая.

С. 286:

[2] Там // Касцюшка

[9] У Германіі // Там, у Германіі

[10] яшчэ раз уважліва прачытаў // уважліва перачытваў

[11] Штодзённа сустракаючыся з людзьмі // Маючы штодзённыя зносіны з насельніцтвам

С. 288:

[11] прыхільнасці // прывязанасці

[12—13] з Віктарам, з Аркадзем, якія па-сапраўднаму падабаліся. // з Віктарам, які па-сапраўднаму падабаўся.

[33] каханкаў. // сякіх-такіх каханкаў.

[36] прыязджаў // прыязджаў да іх

С. 289:

[8—9] бацьку, аднаго з усіх медработнікаў раёна, узнагародзілі // бацьку ўзнагародзілі

С. 289:

[24] стаўку // стаўку зарплаты

С. 291:

[30] у цемнаватай // у цемнаватым

[31] вісяць // звісаюць

[35] другі раз, у самым // другі раз, ужо ў самым

С. 292:

[7] цягае // цягне

С. 293:

[25] Журавенкі. // Гарненкі.

[26] Журавенка // Гарненка

[35] Журавенкі. // Гарненкі.

С. 294:

[26—27] як жанчыны вельмі няўдалыя. // не такія прыгожыя, як яна сама.

[31] вельмі брыдкая. // не дужа цікавая.

С. 295:

[12—13] Некалькі выпадкаў абароны кандыдацкіх дысертацый ужо адбылося. // Тры ці чатыры аспіранты дысертацыі ўжо абаранілі.

[23] Пазней // Затым

С. 300:

[1] шматзначнасць карцін // шматзначнасць пісьменніцкіх разваг, карцін

[1] якія надаюць // што надае

[23] змест // ягоны змест

С. 302:

[10] Кандыдаты навук // Смяшлівыя, памяркоўныя

С. 305:

[1] У зборніку сказ «Вучыўся там шэсць месяцаў» адсутнічае.

С. 306:

[4] валасцей, акруг суседняй Украіны. // валасцей.

[32] хату і баба або дзеўка пад бок ляжа. // хату. Мясцовыя жанчыны да падарожнікаў уважлівыя.

С. 307:

[11] жанчынамі. // красунямі.

С. 308:

[30] матэматыкі // алгебры

С. 309:

[19] пачуў // Іван пачуў

С. 311:

[5] характару // розуму

[31] меў // напісаў

[33] Пецярбургу // Петраградзе

С. 312:

[3] настаўнікам. // дзячком.

[16] новай //першай

С. 313:

[13] гэткія // такія

[36] ў Маскву. // ў Маскву, дэмабілізавалі.

С. 315:

[18] прыязджаў // прыехаў

С. 316:

[24] капаннем // корпаннем

С. 317:

[12] ходзіць // хадуном ходзіць

С. 320:

[20] ляцелі // ляцяць

[34] нічога яму // нічога

С. 321:

[22] працы // работы

[27—28] класікаў марксізму як мае быць. // класікаў марксізму.

С. 323:

[24] ўражвала агромністая чытальная зала, у якой // ўражваў агромністы чытальны зал, у якім

С. 324:

[19] а сутыкнуўшыся // сутыкнуўшыся

С. 325:

[14] павільён. // павільёнчык.

[18] апранутых у цёплыя паліто, у валёнках. // апранутых у валёнкі, цёплыя паліто.

С. 326:

[2] каменне. // камені.

[22] каменне, якое // камені, якія

С. 328:

[9] ўцягнуць… // ўцягваць…

[13—14] крылца. // крыло.

С. 329:

[32] ў Сашыных // ў яе

С. 330:

[1] Сашы // ёй

[14] працы // работы

[16] аб'ёмам працы // па аб'ёму работы

С. 331:

[1] ў Леніна // Леніна

[16] на экзамен // на экзамены

[22] па гісторыі філасофіі // па філасофіі

С. 332:

[16] Ные душа. // Сумна Касцюшку ад адзіноты.

[17] Касцюшка // ён

[36] Сашу. // жанчыну.

С. 333:

[2] яно // яна

С. 334:

[22] сутулаватая // ссутуленая

С. 339:

[33] цёмны, брудны // брудны

С. 342:

[18—19] поўным сутычак, падазронасці, нянавісці свеце // імклівым, поўным сутычак свеце

[21] Чалавек гэты // Чалавек, які

[37] калі прахаджвалася // прахаджвалася

С. 344:

[21—22] у вялікай драўлянай скрынцы. // у вялікім драўляным футарале.

[22] адзначае // адлічвае

[33] іменна тут, бо большага памяшкання рэдакцыя не мае. // іменна тут.

[34] Зняўшы і // Распрануўшыся

С. 347:

[4] круглым почыркам // почыркам

[36] дашчаным тынам // тынам

С. 348:

[2] адну-дзве чацвярцінкі // сёе-тое з трункаў

[28—29] выпітых адзін за другім // выпітых

[37] Ён // Сябар

С. 350:

[12] прычасціліся. // паснедалі.

С. 353:

[18] ліпеньскае // жнівеньскае

С. 354:

[3] дзяўчыну // яе

[4] Саша // яна

[16] расплaдзіліся клапы // расплaдзіліся

[18] Іван Яворскі, Касцюшкаў сябар. // Касцюшкаў сябар Іван Яворскі.

С. 355:

[38] лістоў // лісцяў

С. 356:

[12] Няма ў паміне // Няма

С. 357:

[17] у старых // у перастарэлых

С. 358:

[22—23] Толькі не мае часу. Вельмі спяшаецца. // Толькі не мае часу, вельмі спяшаецца.

С. 360:

[9—10] Увайшоўшы ў пакой і ўбачыўшы // Увайшоўшы ў пакой, бачачы

С. 362:

[13] растрэсеным // расхлістаным

С. 363:

[15] у лодцы разам // па возеры

С. 364:

[19] дзве бутэлькі гарэлкі. // розныя трункі.

[29] з забрукаванай вуліцай // даволі вялікае, з новымі дамамі, з забрукаванай вуліцай

[36—37] У зборніку пасля сказа «Можа, трапіцца якая спадарожная машына» як асобны абзац надрукаваны наступны фрагмент: «Скверык з рэдкімі клёнамі, ліпкамі, аўтобусная стаянка — як бы састаўныя часткі разлеглай плошчы, вакол якой групуюцца будынкі раённых устаноў, а таксама прыземістыя мураваныя дамкі прыватнай забудовы».

С. 365:

[32] — Давайце пераначуем,— просіць Касцюшка Чарняўскага. // — Давайце пераначуем,— просіць Касцюшка Чарняўскага.— Што мы трацім? Паедзем заўтра.— Сёння трэба.

## 1987

### Асеннія мелодыі (с. 366)

Друкуецца паводле часоп. «Полымя», 1987, № 6. Пад тэкстам дата не пазначана.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1987, № 6.

Уваходзіў у зб. «Асеннія мелодыі», 1987. Пад тэкстам дата не пазначана.

Раман пераклаў на рускую мову П. Навуменка (Нёман, 1990, № 7).

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваюцца фрагменты розных чарнавых варыянтаў рукапісу-аўтографа (ф. 495,

воп. 1, адз. зах. 23—31, агульн. кольк. арк.— 893). У архіўнай справе № 23 на першай старонцы зверху злева дата 26.10.83 г., на чацвёртай старонцы надпіс: пач. 26.10.83.

15.02.84

На першай старонцы справы № 26 — варыянт пачатку рамана (супадае з пачаткам твора ў часопісе і зборніку) з датай уверсе злева 12.07.86, уверсе справа — прысвячэнне «Памяці сястры Ані». У справе № 27 першы аркуш аформлены як вокладка будучай кнігі:

«Іван Навуменка
Асеннія мелодыі
Раман
Мінск
«Мастацкая літаратура»
1987»

На другім аркушы змешчана толькі прысвячэнне «Памяці сястры Ані».

С. 367:

*Прыпяць* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 577).

*...перад самай вайной.*— гл. камент. да рамана «Летуценнік» (с. 595).

С. 371:

*Лата́к* — тут: адкрыты жолаб для сцёку соку.

С. 374:

*Сурдут* — мужчынскае верхняе адзенне накшталт пінжака з доўгімі поламі і адкладным каўняром.

С. 379:

*...ў далёкім прыволжскім горадзе.*— гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 579).

С. 380:

*...пра вандроўкі славян у старажытную эпоху...* — Звесткі мовазнаўства, у тым ліку гідранімікі, звязваюць старажытных славян з шырокай вобласцю Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, ад Эльбы і Одэра на захадзе, у басейне Віслы, у Верхнім Падняструоўі і да Сярэдняга Падняпроўя на ўсходзе. У другой палове I тыс. славяне занялі Верхняе Падняпроўе і яго паўночную перыферыю, што раней належалі ўсходнім балтам і фіна-ўгорскім плямёнам, а таксама землі на ніжняй Эльбе і паўднёва-заходнім узбярэжжы Балтыйскага мора і ператварыліся ў найбуйнейшую этнічную групу Еўропы.

С. 381:

*«Мона Ліза»* (поўн. назва «Партрэт спадарыні Лізы Джаконды», каля 1503—1505 гг.) — карціна італьянскага жывапісца Леанарда да Вінчы (1452—1519), адзін з самых вядомых твораў жывапісу ў свеце.

С. 383:

*Сібір* — гл. камент. да рамана «Летуценнік» (с. 600).

*Закаўказзе* — частка Каўказа, якая ляжыць на поўдзень ад Галоўнага, або Водападзельнага, хрыбта Вялікага Каўказа. Уключае большую частку паўднёвага схіла Вялікага Каўказа, Калхідскую і Кура-Араксінскую нізіны, Закаўказскае нагор'е, Талышскія горы і Ленкаранскую нізіну. У межах Закаўказзя размешчаныя асноўныя часткі Грузіі, Арменіі і Азербайджана.

*...бязлітасны вал фашысцкага нашэсця...* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 574).

*Палессе* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 580).

*Днепр* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 575).

*Арол* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 586).

С. 384:

*Сярэдняя Азія* — частка тэрыторыі Азіі ад Каспійскага мора на захадзе да мяжы з Кітаем на ўсходзе і ад Арала-Іртышскага водападзела на поўначы да мяжы з Іранам і Афганістанам на поўдні. У савецкі час сярэднеазіяцкімі называлі чатыры саюзныя рэспублікі: Узбекістан, Кіргізію, Таджыкістан і Туркменістан.

С. 385:

*Бранска-вяземскае акружэнне* — Бранск — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 574); Вязьма — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 575); у кастр. 1941 г. гітлераўцы акружылі асноўныя сілы Бранскага фронту, а таксама чатыры арміі Заходняга і Рэзервовага франтоў Чырвонай Арміі на захад ад Вязьмы.

*...захапіўшы Смаленск, немцы з сярэдзіны лета таўкуцца на месцы.*— гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 577, 582).

*З Ельні, малога гарадка, размешчанага за Смаленскам, іх нават выбіваюць.*— Ельня — горад, цэнтр Ельнінскага раёна Смаленскай вобл. Расіі, за 82 км на паўднёвы ўсход ад Смаленска. У час Смаленскай бітвы 1941 г. у раёне Ельні 19 ліп.— 8 жн.

адбываліся жорсткія баі паміж савецкімі войскамі 24-й і 43-й армій Рэзервовага фронту і 4-й нямецкай арміяй. Да 9 верас. савецкія войскі ліквідавалі ельнінскі выступ, сам горад быў вызвалены ў ноч на 6 верас.

*...тыя самыя немцы, якім, здавалася, навучыліся даваць адпор, раптам захопліваюць Арол, Бранск, Вязьму, апынуўшыся ледзь не пад самай Масквой.* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 574—575).

С. 386:

*Ком!* (*ням.* kommen) — хадзі сюды!

*«Шмайсер»* — нямецкі аўтамат са складным прыкладам, названы па імені свайго стваральніка Х. Шмайсера (1884—1953), канструктара агнястрэльнай і пнеўматычнай зброі.

С. 387:

*Саўінфармбюро* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 577—578).

С. 389:

*Ганаровая грамата Вярхоўнага Савета* — узнагарода, упершыню ўведзеная ў 1938 г. Перастала існаваць як форма ўзнагароды ў 1996 г.

С. 390:

*Лета сорак другога года, калі немцы рваліся да Сталінграда, на Каўказ...*— гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 579, 581).

С. 392:

*Славакі* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 578).

*Мадзьяры* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 585).

*Герадот* (каля 485 — каля 425 да н. э.) — старажытнагрэчаскі гісторык. Яго асноўны твор «Гісторыя» (назва ўмоўная) прысвечаны грэка-персідскім войнам (500 — 449 да н. э.). Падзеі ў ім выкладзены да ўзяцця грэкамі г. Сест у 478 г. да н. э. Пазней навукоўцы падзялілі твор на дзевяць кніг і кожную назвалі імем адной з муз. Чацвёртая кніга — «Мельпамена» — прысвечана Скіфіі і яе наваколлю. Гэта самая ранняя пісьмовая крыніца звестак і пра насельніцтва тэрыторыі Беларусі. Герадот меркаваў, што старажытнае славянскае племя будзіны — першабытныя насельнікі поймы Прыпяці — жыло над велізарным морам, у якое ўпадалі цяперашнія рэкі Гарынь, Стыр і Случ.

С. 393:

*Валасная ўправа* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 581).

С. 394:

*Роўна* — цэнтр Ровенскай вобл. Украіны. 28 чэрв. 1941 г. быў захоплены фашыстамі і стаў адміністрацыйным цэнтрам, у якім знаходзіўся рэйхскамісарыят акупаванай часткі Украіны. Горад вызвалены Чырвонай Арміяй 2 лют. 1944 г.

*Стараста* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 578).

С. 397:

*Чырвоная Армія* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 579).

*Гармата-саракапятка* — савецкая паўаўтаматычная супрацьтанкавая гармата калібру 45 мм. На працягу Вялікай Айчыннай вайны выкарыстоўваліся дзве мадыфікацыі гэтай артылерыйскай зброі: узору 1937 г. і больш магутная гармата М-42, што паступіла на ўзбраенне ў 1942 г.

С. 398:

*...са Смаленшчыны, з Дарагабужскага раёна...* — Смаленшчына — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 577); Дарагабужскі раён — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Смаленскай вобл. Расіі, цэнтр — горад Дарагабуж, на рацэ Днепр.

С. 399:

*...на партатыўнай радыёстанцыі «Северок».*— гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 574).

*Гітлер* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 574).

С. 400:

*На ўсю краіну прызналі адну падпольную арганізацыю — «Маладую гвардыю» ў Краснадоне. Ды і то, відаць, толькі таму, што пра яе напісаў славуты пісьменнік Аляксандр Фадзееў.*— Фадзееў Аляксандр Аляксандравіч (1901—1956) — рускі пісьменнік. У рамане «Маладая гвардыя» (1945, перапрацаваная рэд. 1951, Дзяржаўная прэмія СССР, 1946) услаўляецца подзвіг камсамольцаў-падпольшчыкаў Краснадона, патрыятызм народа ў Вялікую Айчынную вайну; Краснадон — горад у Данбасе (Украіна).

С. 401:

*Буг* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 587).

С. 402:

*Ой, бярозы ды сосны, партызанскія сёстры, / Вас ніколі ў жыцці не забыць...* — словы з песні «Ой, бярозы ды сосны» («Лясная песня»). Музыка У. Алоўнікава, словы А. Русака.

С. 404:

*Адэса* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 575).

С. 405:

*«Жыгулі»* — марка легкавых аўтамабіляў Волжскага аўтамабільнага завода (г. Тальяці, Расія).

С. 407:

*Рэмарк Эрых Марыя* (1898—1970) — нямецкі пісьменнік. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Шырокую вядомасць яму прынёс раман «На Заходнім фронце без перамен» (1929), які разам з раманамі «Вяртанне» (1931) і «Тры таварышы» (1938) склалі своеасаблівую трылогію пра Першую сусветную вайну і яе трагічныя наступствы ў лёсах франтавікоў гэтак званага страчанага пакалення.

С. 409:

*«Масквіч»* — легкавы аўтамабіль малога класа. Выпускаецца Маскоўскім аўтамабільным заводам імя Ленінскага камсамола з 1946 г.

С. 411:

*Гэта было на Далёкім Усходзе, у гады грамадзянскай вайны...* — Грамадзянская вайна — гл. камент. да рамана «Летуценнік» (с. 602); у 1918—1921 гг. А. Фадзееў быў падпольшчыкам, партызанам, камісарам партызанскай брыгады на Далёкім Усходзе; Далёкі Усход — агульная назва дзяржаў і тэрыторый на ўсходзе Азіі. У Расіі гэта Прыморскі і Хабараўскі краі, Амурская, Камчацкая, Магаданская і Сахалінская вобл., а таксама ўсходняя частка Рэспублікі Саха (Якуція) і Чыцінскай вобл.

С. 413:

*...прымаюць кандыдатам у члены партыі.*— згодна са статутам для ўступлення ў Камуністычную партыю Савецкага Саюза неабходна было прайсці кандыдацкі стаж тэрмінам у 1 год.

С. 415:

*Медаль «За адвагу»* — дзяржаўная ўзнагарода СССР. Устаноўлены 17 кастр. 1938 г. для ўзнагароджвання воінаў Чырвонай Арміі, Ваенна-Марскога Флоту і пагранічнай аховы за асабістую мужнасць і адвагу ў баях з ворагамі Савецкага Саюза. Пасля распаду СССР адноўлены ў сістэмах узнагарод Расіі і Беларусі.

*Сіманаў Канстанцін (Кірыл) Міхайлавіч* (1915—1979) — рускі пісьменнік. У Вялікую Айчынную вайну быў ваенным карэспандэнтам газеты «Красная звезда», удзельнічаў у абароне Магілёва. Яго п'еса «Русский вопрос» (1946, Дзяржаўная прэмія СССР, 1947) прысвечана праблемам барацьбы за мір, за прадухіленне новай вайны.

С. 416:

*Югаславія* — дзяржава ў паўднёва-ўсходняй Еўропе ў 1918—2003 гг.; да 1991 г. на тэрыторыі сучасных Сербіі, Чарнагорыі, Харватыі, Босніі і Герцагавіны, Македоніі і Славеніі, з 1992 г.— толькі Сербіі і Чарнагорыі.

*...кампанія супраць марганістаў-мендэлістаў — яе ўзначальвае славуты селекцыянер акадэмік Лысенка.*— Марганісты-мендэлісты — маюцца на ўвазе навуковыя паслядоўнікі двух сусветна вядомых навукоўцаў: Грэгара Іагана Мендэля (1822—1884), аўстрыйскага прыродазнаўца, заснавальніка вучэння аб спадчыннасці, і Томаса Ханта Моргана (1866—1945), амерыканскага біёлага, заснавальніка школы генетыкаў, лаўрэата Нобелеўскай прэміі (1933); Лысенка Трафім Дзянісавіч (1898—1976) — савецкі навуковец-аграном, стваральнік псеўданавуковай канцэпцыі спадчыннасці, зменлівасці і відаўтварэння. Адмаўляў класічную генетыку, сцвярджаў магчымасць наследавання набытых прыкмет. У 1930—1964 гг. дзейнасць Т. Д. Лысенкі падтрымлівалася І. В. Сталіным, М. С. Хрушчовым. Вучэнне і практычныя рэкамендацыі даследчыка былі неабгрунтаваныя і ўкараняліся адміністрацыйна, што нанесла вялікую эканамічную шкоду. Разгром навуковых генетычных школ, рэпрэсіі многіх навукоўцаў прывялі да дэградацыі сельскагаспадарчай і біялагічнай адукацыі, прыпынення развіцця біялогіі і сельскай гаспадаркі.

*Кіеў* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 584).

С. 417:

*Сыны высланага на Салаўкі кулака...* — Салавецкія астравы — група астравоў у Белым моры, пры ўваходзе ў Анежскую губу, у Архангельскай вобл. Расіі. Складаюцца з шасці астравоў: Салавецкі, Анзерскі, Вялікая і Малая Муксалма, Вялікі і Малы Заяцкія. У 1923—1939 гг. на астравах размяшчаліся Салавецкія лагеры асобага прызначэння (у 1937 г. перайменаваны ў Салавецкую турму асобага прызначэння); у 1920-я — пачатку 1950-х гг. у СССР праводзілася раскулачванне — пазбаўленне сялян, якія ўважаліся кулакамі, заможнымі эксплуататарамі бедных, сродкаў вытворчасці, вынікаў

вытворчай дзейнасці, грашовых накапленняў, права карыстання зямлёй і палітычных правоў. Поўная экспрапрыяцыя гаспадарак часта спалучалася з бязлітаснымі пакараннямі (расстрэлы, зняволенне ў канцлагерах, ссылка ў аддаленыя раёны і інш.) іх уладальнікаў за сапраўдныя або ўяўныя контррэвалюцыйныя дзеянні. У Беларусі набыла асабліва масавы характар у 1929—1931 гг. (усходнія і цэнтральныя раёны) і 1949—1952 гг. (Заходняя Беларусь).

С. 418:

*Савецкія войскі падыходзяць да Дняпра, у той дзень якраз фарсіруюць яго.*— У ходзе Гомельска-Рэчыцкай наступальнай аперацыі войск Беларускага фронту (генерал арміі К. К. Ракасоўскі) 10—30 лістап. 1943 г. 65-я армія фарсіравала Днепр на поўдзень ад Лоева, вызваліла горад і прайшла на захад да 20 км.

С. 419:

*Данбас* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 578).

С. 420:

*Палеаліт* — старажытнакаменны век, самая ранняя і найбольш працяглая эпоха каменнага веку. Пачаўся каля 2,2 млн г. таму і доўжыўся да канчатковага адступання ледавікоў (каля 8,3 тыс. г. таму).

*Мезаліт* — сярэдні каменны век, пераходны ад палеаліту да неаліту (каля X—V тыс. да н. э.).

*Неаліт* — новы каменны век, апошні перыяд каменнага веку. Пачаўся ў VIII тыс. да н. э. на Блізкім Усходзе, потым у Індакітаі як эпоха пераходу да вытворчай гаспадаркі. На тэрыторыі Беларусі неаліт настаў у канцы V тыс. да н. э., скончыўся ў 2000 — 1800-я гг. да н. э.

С. 423:

*Тацыт Публій Карнэлій* (каля 58 — пасля 117) — старажытнарымскі гісторык і палітычны дзеяч. Яго праца «Гісторыя» ахоплівае жыццё Рыма і ўсёй імперыі 69—96 гг., «Аналы» асвятляюць гісторыю Рымскай імперыі 14—68 гг. У этнаграфічным і геаграфічным нарысе «Германія» (98) апісаны грамадскі лад, рэлігія і побыт старажытных германцаў. Звесткі Тацыта вызначаюцца дакладнасцю і ўяўляюць каштоўнасць як сведчанні відавочцы.

*Іярдан* — остгоцкі гісторык VI ст. Яго галоўная праца «Пра паходжанне і дзеянні готаў» (даведзена да 551 г.) — важная крыніца па гісторыі готаў, Паўночнага Прычарнамор’я і перыяду Вялікага перасялення народаў. Яна мае каштоўныя звесткі з гісторыі іншых народаў і плямён, у тым ліку старажытных славян.

*Кірыла Тураўскі* — гл. камент. да рамана «Летуценнік» (с. 607).

*...з выхвалення фашыстаў, што яны асаблівая, нардычная раса.*— Нардызм — тэорыя, паводле якой прадстаўнікі «вышэйшай» паўночнай (нардычнай) расы з'яўляюцца стваральнікамі сусветнай цывілізацыі; разнавіднасць расізму. Заснавальнікамі нардызму лічацца французскія сацыёлагі А. Габіно і Ж. Лапуж. Тэорыя ўзята на ўзбраенне тэарэтыкамі германскага фашызму і ўзведзена ў ранг афіцыйнай ідэалогіі гітлераўскай Германіі.

С. 426:

*Дор* — тонкія дошчачкі для крыцця даху або абівання сцен пад тынкоўку.

*Адрына* — халодная будыніна для захоўвання кармоў, інвентару і пад.; пуня.

*Пуня* — вялікая халодная будыніна для захоўвання сена, адрына.

*Гумно* — вялікая халодная будыніна для складвання і абмалоту зжатага збожжа, а таксама пляцоўка перад гэтай будынінай.

*Азярод* — прыстасаванне з падоўжаных жэрдак на слупах для дасушвання снапоў, травы і пад.

*Журавель* — тут: прыстасаванне пры студні для даставання вады ў выглядзе доўгага шаста, які служыць рычагом.

*Арыйцы* (арыі) — індаеўрапейскія плямёны, што ў IV—III тыс. да н. э. насялялі стэпавую зону паўднёва-ўсходняй Еўропы (паводле іншых звестак — поўдзень Сярэдняй Азіі і прылеглую да яго тэрыторыю Іранскага плато). Разглядаюцца як непасрэдныя продкі сучасных індаіранскіх і большасці еўрапейскіх народаў.

*Скіфы* — агульная назва плямён паўночна-іранскай моўнай групы, якія насялялі Паўночнае Прычарнамор'е ў VII ст. да н. э.— III ст. н. э. Паводле розных меркаванняў скіфы — выхадцы з Сярэдняй Азіі ці Сібіры.

*Готы* — плямёны ўсходніх германцаў, якія ў пачатку I тыс. н. э. перасяліліся са Скандынавіі на паўднёвае ўзбярэжжа Балтыйскага мора. У апошняй чвэрці II ст. готы пачалі перасяленне на паўднёвы ўсход, у тым ліку і праз паўднёвы захад Беларусі.

*Гуны* — качавы народ, які склаўся ў II—IV стст. у Прыўраллі з мясцовых уграў і сарматаў і цюркскамоўных хуну, што прыйшлі ў II ст. з Цэнтральнай Азіі.

*Дрыгавічы* — адно з племянных аб'яднанняў усходніх славян, вядомых па пісьмовых крыніцах і археалагічных помніках. Займалі тэрыторыю на ўсходзе да Дняпра, на поўначы да лініі

Барысаў — Лагойск — Заслаўе — вярхоўе Нёмана, на поўдні мяжа пераходзіла за Прыпяць, на захадзе — за Заходні Буг (паводле іншых дадзеных да Выганашчанскага балота, на поўнач ад Пінска).

*Драўляне* — племянное аб'яднанне ўсходніх славян у VIII—X стст., якое жыло на правабярэжжы Прыпяці ў міжрэччах Гарыні, Ужа, Цецерава, Дняпра.

*Радзімічы* — усходнеславянская этнічная супольнасць. Жылі ў міжрэччы Дняпра і Дзясны, па цячэнні Сажа і яго прытоках. Апошняе ўпамінанне радзімічаў у летапісе датавана 1169 г.

*Угры* (фіна-угры) — група плямён, якія належалі да фіна-ўгорскай моўнай сям'і. Засялялі лясную зону Усходняй Еўропы і Заўралля, басейн верхняй і сярэдняй Волгі, Акі і Камы.

*Балты* — група індаеўрапейскіх плямёнаў і народаў, якія размаўляюць ці размаўлялі на балтыйскіх мовах або іх дыялектах (літоўцы, латышы, прусы, яцвягі, куршы, земгалы, селы). Тэрмін «балты» ўвёў нямецкі навуковец Г. Ф. Несельман у 1845 г. Фарміраванне балтаў адбывалася ў эпоху неаліту (III — II тыс. да н. э.), вобласць іх пашырэння ахоплівала басейны Віслы, Нёмана, Заходняй Дзвіны, Верхняга Падняпроўя, вярхоўяў Волгі і Акі.

С. 430:

*Балтыйскае мора* (у стараж. славян Варажскае мора) — унутрымацерыковае мора Атлантычнага акіяна каля берагоў Паўночнай і Сярэдняй Еўропы. Абмывае берагі Швецыі, Фінляндыі, Расіі, Эстоніі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Германіі, Даніі.

С. 431:

*...належалі рыжскім багацеям...* — Рыга — горад, сталіца Латвіі. Размешчана на берагах ракі Даўгава (Заходняя Дзвіна) пры ўпадзенні яе ў Рыжскі заліў Балтыйскага мора.

*...пабудаваны яшчэ ў буржуазныя часы.*— г. зн. да 5 жн. 1940 г., калі Латвія, пасля змены ўрада і дзяржаўнага ладу, увайшла ў склад СССР як пятнаццатая саюзная рэспубліка.

С. 432:

*Крым* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 576).

*Чорнае мора* — гл. камент. да рамана «Летуценнік» (с. 599).

С. 433:

*Ленін* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 588).

С. 441:

*Поўнач* — тут: мясцовасць з халодным, суровым кліматам, якая знаходзіцца пераважна паўночней за палярнае кола.

С. 444:

*Галун* — залатая, срэбная або мішурная тасьма, якая нашываецца на форменнае адзенне, і нашыўка з гэтай тасьмы.

С. 445:

*«Лада»* — марка легкавых аўтамабіляў Волжскага аўтамабільнага завода (г. Тальяці, Расія).

С. 446:

*...навеяны вядомай чэхаўскай п'есай воблік чыстых рамантычных птахаў.*— маецца на ўвазе лірычна-псіхалагічная п'еса «Чайка» (паст. 1896) А. П. Чэхава; Чэхаў — гл. камент. да рамана «Летуценнік» (с. 596).

С. 448:

*Сталін* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 580).

*XIX з'езд КПСС* — першы з'езд пасля 13-гадовага перапынку (XVIII з'езд ВКП(б) адбыўся ў сак. 1939 г.), праходзіў 5—14 кастр. 1952 г. На ім прынята рашэнне аб перайменаванні Усесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў) у Камуністычную партыю Савецкага Саюза і зацверджаны новы Статут КПСС. З'езд прызнаў неабходнасць перапрацаваць праграму партыі і стварыў для гэтай мэты камісію. 14 кастр. на з'ездзе выступіў І. Сталін. Гэта было яго апошняе публічнае выступленне.

*...тэорыя Мара аб стадыяльным развіцці мовы...* — Мар Мікалай Якаўлевіч (1865—1934) — расійскі філолаг і археолаг, акадэмік Пецярбургскай АН (1912), АН СССР (1925), АН Беларусі (1928). У 1920—1930-я гг. стварыў навукова неабгрунтаваную «яфетычную тэорыю» («новае вучэнне пра мову»), якая тым не менш дала імпульс распрацоўцы праблем сувязі развіцця навукі і грамадства.

С. 449:

*Напярэдадні Кастрычніцкіх свят...* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 580).

С. 451:

*Індыя* — краіна, размешчаная ў Паўднёвай Азіі, большай часткай на паўвостраве Індастан. У Індыі сфармавалася адна з найбольш старажытных цывілізацый свету. Паводле археалагічных даследаванняў у III тыс. да н. э. у даліне ракі Інд існавала развітая культура, створаная, верагодна, дравідыйскімі народамі.

*Ёга* — рэлігійна-філасофскае вучэнне, якое распрацавала асобую сістэму прыёмаў і метадаў самапазнання, што дазваляе чалавеку кіраваць псіхічнымі і фізіялагічнымі функцыямі свайго

арганізма, а таксама сістэма фізічных практыкаванняў, выпрацаваная паслядоўнікамі гэтага вучэння.

*Буда* — у будыйскай рэлігіі істота, якая дасягнула стану найвышэйшай дасканаласці («прасвятлення») і здольная паказаць шлях рэлігійнага выратавання. У вузкім значэнні — імя заснавальніка будызму Сідхартхі Гаўтамы (623—544 да н. э.), які, паводле легенды, пакінуў сям'ю і пасля сямі гадоў аскетычных вандраванняў і «пазнання ісціны» стаў прапаведаваць новае вучэнне ў Індыі.

С. 452:

*Эйнштэйн Альберт* (1879—1955) — нямецкі і амерыканскі фізік-тэарэтык, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1921), стваральнік тэорыі адноснасці — фізічнай тэорыі прасторы і часу ў іх сувязі з матэрыяй і законамі яе руху.

*Бруна Джардана Філіпа* (1548—1600) — італьянскі філосаф-матэрыяліст, паэт. Абапіраючыся на геліяцэнтрычную сістэму М. Каперніка і дапаўняючы яе новымі палажэннямі, выказваў думкі, што Сусвет не абмяжоўваецца Сонечнай сістэмай, а Сонца не з'яўляецца абсалютным цэнтрам Сусвету, яно рухаецца і мяняе сваё становішча адносна зорак, што існуе бясконцае мноства светаў. Джардана Бруна быў абвінавачаны інквізіцыяй у ерасі і вальнадумстве, пасля васьмігадовага зняволення ў турме спалены.

*Пталамей Клаўдзій* (каля 90 — каля 160) — старажытнагрэчаскі навуковец-энцыклапедыст з Александрыі. Праводзіў навуковыя даследаванні па астраноміі, матэматыцы, геаграфіі, картаграфіі, оптыцы і храналогіі. Распрацаваў геацэнтрычную сістэму свету. Яго «Храналагічны канон цароў» і іншыя творы — своеасаблівыя энцыклапедыі антычнага свету па розных галінах ведаў.

*Капернік Мікалай* (1473—1543) — польскі астраном, стваральнік геліяцэнтрычнай сістэмы свету. Сваё вучэнне ён абагульніў у творы «Пра абарачэнні нябесных сфер» (1543), забароненым каталіцкай царквой з 1616-га па 1828 г. Адкрыццё мела рэвалюцыйны характар, зрабіла карэнны пералом у астранамічнай навуцы і вызначыла далейшы шлях развіцця дакладнага прыродазнаўства.

С. 453:

*Апенінскі паўвостраў* — паўвостраў на поўдні Еўропы. На поўначы абмежаваны Паданскай нізінай, на ўсходзе абмываецца Адрыятычным, на поўдні — Іанічным, на захадзе — Тырэнскім і Лігурыйскім морамі.

*Этрускі* — старажытныя плямёны, якія ў І тыс. да н. э. насялялі паўночны захад Апенінскага паўвострава (вобласць Этру-

рыя, цяпер Таскана) і стварылі развітую цывілізацыю, што папярэднічала рымскай.

*Рымляне* — жыхары як самога горада Рым, так і ўсёй міжземнаморскай дзяржавы — Старажытнага Рыма. Горад Рым узнік у 753 г. да н. э. і на працягу V—III стст. да н. э. падпарадкаваў усе плямёны Апенінскага паўвострава, а з канца III ст. да н. э. стаў цэнтрам міжземнаморскай дзяржавы, якая пазней уключала заходнюю і паўднёва-ўсходнюю Еўропу, Малую Азію, узбярэжжа Паўночнай Афрыкі, Сірыю, Палесціну і інш.

*Італікі* — індаеўрапейскія плямёны, якія насялялі ў старажытнасці Апенінскі паўвостраў. На працягу I ст. н. э. раманізаваны.

С. 454:

*Старажытная Грэцыя* — гл. камент. да рамана «Летуценнік» (с. 601).

*Старажытны Рым* — тут: найбуйнейшая антычная цывілізацыя са своеасаблівай дзяржаўнасцю і культурай у VIII ст. да н. э.— V ст. н. э.

*Дунай* — рака ў Еўропе, на тэрыторыі Германіі, Аўстрыі, Славакіі, Венгрыі, Сербіі, Чарнагорыі, Харватыі, Босніі і Герцагавіны, Македоніі і Славеніі, Балгарыі, Румыніі, Украіны; другая па даўжыні пасля Волгі.

*Кіеўская Русь* — гл. камент. да рамана «Летуценнік» (с. 607).

*Хеты* — індаеўрапейскі народ, які ў канцы III тыс. да н. э.— VIII ст. да н. э. насяляў цэнтральную частку Малой Азіі.

*Кельты* — блізкія паводле мовы і матэрыяльнай культуры плямёны індаеўрапейскай групы, якія ў першай палове I тыс. да н. э. займалі вялікую тэрыторыю ў Заходняй і Цэнтральнай Еўропе.

С. 455—456:

*«За прочный мир, за народную демократию!»* — газета, орган Інфармацыйнага бюро камуністычных і рабочых партый. Выдавалася ў 1947—1948 гг. у Белградзе, у 1948—1956 гг. — у Бухарэсце. З 1952 г. выходзіла на 19 мовах. Выданне спынілася адначасова са спыненнем дзейнасці Інфармбюро (крас. 1956 г.).

С. 456:

*«Культура и жизнь»* — газета пры Упраўленні прапаганды ЦК ВКП(б). Выдавалася з чэрв. 1946-га па сак. 1951 г.

*Сарматы* — аб’яднанне качавых жывёлагадоўчых іранамоўных плямён (аланы, раксаланы, саўраматы, языгі і інш.). У VI—IV стст. да н. э. жылі ў стэпах і лесастэпах паміж рэкамі Табол

(у Сібіры) і Волга. У III ст. да н. э. рассяліліся ў раёнах на поўнач ад Каўказскіх гор і ў Паўночным Прычарнамор'і, дзе моцна пацяснілі скіфаў.

С. 464:

*ДТСААФ* (ДОСААФ СССР) — Усесаюзнае ордэна Чырвонага Сцяга дабравольнае таварыства садзеяння арміі, авіяцыі і флоту — масавая абаронна-патрыятычная арганізацыя працоўных, мэта якой — садзеянне ўмацаванню абараназдольнасці краіны і падрыхтоўцы працоўных да абароны сацыялістычнай Айчыны. Утворана ў 1951 г. шляхам аб'яднання самастойных таварystваў, якія ўзніклі ў 1948 г. на базе Асаавіяхіма (Таварыства садзейнічання абароне, авіяцыйнаму і хімічнаму будаўніцтву).

С. 469:

*У дваццатыя — пачатку трыццатых гадоў быў Шаўчук артыстам першага ў горадзе прафесійнага тэатра, які цяпер носіць імя Янкі Купалы.*— Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы створаны ў Мінску ў 1920 г. як Беларускі дзяржаўны тэатр (БДТ). З 1926 г. называўся Першы беларускі дзяржаўны тэатр (БДТ-1). 21 снеж. 1944 г. тэатру прысвоена імя Янкі Купалы, у 1955 г.— званне акадэмічнага, са снеж. 1993 г. носіць сучасную назву; Янка Купала — гл. камент. да рамана «Летуценнік» (с. 602).

С. 471:

*Пасля дваццатага з'езда партыі…* — XX з'езд КПСС адбыўся 14—25 лют. 1956 г. у Маскве. На закрытым пасяджэнні з'езд заслухаў даклад М. С. Хрушчова «Аб кульце асобы і яго выніках». У пастанове ЦК КПСС ад 30 чэрв. 1956 г. «Аб пераадоленні культу асобы і яго наступстваў» дадзена аб'ектыўная ўсебаковая ацэнка дзейнасці Сталіна, разгорнутая крытыка культу асобы. Прызнанне «памылак», якія трактаваліся як «адступленне ад ленінскіх норм і прынцыпаў партыйнага жыцця», садзейнічала дэмакратызацыі як самой партыі, так і жыцця краіны ў цэлым; Хрушчоў Мікіта Сяргеевіч (1894—1971) — савецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1964), тройчы Герой Сацыялістычнай Працы (1954, 1957, 1961). У 1953—1964 гг. Першы сакратар ЦК КПСС, адначасова ў 1958—1964 гг. Старшыня Савета Міністраў СССР.

*«Вопросы истории»* — савецкі і расійскі акадэмічны навуковы часопіс у галіне гісторыі. Выходзіць штомесяц. Заснаваны ў студз. 1926 г. як часопіс «Историк-марксист». Пад цяперашняй назвай выдаецца з верас. 1945 г.

*«Вопросы философии»* — акадэмічнае навуковае выданне, цэнтральны філасофскі часопіс у Расіі, орган прэзідыума Расійскай акадэміі навук. Выходзіць штомесяц. Заснаваны ў ліп. 1947 г.

*«Советская этнография»* — у 1931—1991 гг. назва вядучага расійскага навуковага часопіса ў галіне этнаграфіі і сацыякультурнай антрапалогіі «Этнографическое обозрение», заснаванага ў 1889 г. пры Маскоўскім універсітэце. З 1957 г. выдаецца адзін раз у два месяцы.

С. 472:

*Дзень Канстытуцыі* — 5 снеж. 1936 г. на VIII Усесаюзным надзвычайным з’ездзе Саветаў была прынята Канстытуцыя СССР (неафіцыйныя назвы «Сталінская канстытуцыя», «Канстытуцыя пераможнага сацыялізму»). Да 1977 г. гэта дата адзначалася як афіцыйнае дзяржаўнае свята — Дзень Канстытуцыі.

С. 478:

*«Труд»* — савецкая і расійская газета. Выходзіць з лют. 1921 г. у Маскве.

С. 480:

*Нэп* (скар.: новая эканамічная палітыка) — гаспадарчая палітыка Савецкай дзяржавы ў 1920-я гг. Прынята ўвесну 1921 г. X з’ездам РКП(б), названа новай у адрозненне ад палітыкі «ваеннага камунізму», якая праводзілася падчас грамадзянскай вайны 1918—1920 гг. Была разлічана на аднаўленне народнай гаспадаркі, прадугледжвала выкарыстанне рынку, розных форм уласнасці, легалізацыю гандлю, пашырэнне прыватнай ініцыятывы, развіццё спажывецкай кааперацыі.

*Пяцігодкі* (пяцігадовыя планы развіцця народнай гаспадаркі СССР) — асноўная форма планавання сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, частка сістэмы планаў, якая ўключала доўгатэрміновыя, сярэднетэрміновыя (пяцігадовыя) і бягучыя народнагаспадарчыя планы.

С. 481:

*Час, звязаны з дваццатым, затым дваццаць другім партыйным з’ездам…* — XXII з’езд КПСС адбыўся ў Маскве 17—31 кастр. 1961 г. На ім была прынята новая праграма Камуністычнай партыі, у якой вызначаліся перспектывы далейшага руху савецкага народа да камунізму.

*Германская Дэмакратычная Рэспубліка* (ГДР) — дзяржава ў Цэнтральнай Еўропе ў 1949—1990 гг. Узнікла ва ўмовах халоднай вайны на тэрыторыі Усходняй Германіі, што знаходзілася ў савец-

кай зоне акупацыі, пасля таго, як на заходнегерманскіх землях была ўтворна ФРГ (верас. 1949 г.).

*...як у творы славутага Гогаля, нарадзіўся новы Чычыкаў...* — Гогаль — гл. камент. да рамана «Летуценнік» (с. 601); Чычыкаў — герой паэмы-рамана «Мёртвыя душы» (т. 1, 1842) М. В. Гогаля, дзе ў вобразах надзвычайнай мастацкай і псіхалагічнай ёмістасці пісьменнік увасобіў маральнае аблічча сучаснага яму грамадства.

С. 483:

*Ледэрын* — баваўняная тканіна з лакавым пакрыццём, якая імітуе скуру.

С. 484:

*Калектывізацыя* — гл. камент. да рамана «Летуценнік» (с. 599).

*Індустрыялізацыя* — працэс стварэння буйной машыннай вытворчасці, у першую чаргу ў прамысловасці. У межах Расійскай імперыі, у тым ліку ў Беларусі, свой завяршальны этап індустрыялізацыя рэалізавала ўжо ва ўмовах савецкай улады. Гэты этап праводзіўся з сярэдзіны 1920-х гг., калі быў абвешчаны на XIV з’ездзе КПСС (1925) курс на індустрыялізацыю краіны ў якасці генеральнай лініі эканамічнага развіцця.

*...з тэрыторыі, што цяпер пад Польшчай.*— 18 сак. 1921 г. быў падпісаны Рыжскі мірны дагавор, паводле якога да Польшчы адыходзіла тэрыторыя Заходняй Беларусі.

С. 485:

*Адважна і пільна ўзлятае высока, / Краіну сваю аглядае штодня, / І цешыцца сэрца, і цешыцца вока, / Якое раздолле, прастор, шырыня!..»* — радкі з пісьма ў вершах «Вялікаму Сталіну ад беларускага народа» (11 ліп. 1936 г.).

С. 486:

*Хэмінгуэй Эрнэст Мілер* (1899—1961) — амерыканскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1954). У раманах «І ўзыходзіць сонца» (1926, у рус. пер. «Фіеста»), «Бывай, зброя!» (1929), зборніку апавяданняў «Мужчыны без жанчын» (1927; у тым ліку «Няскораны», 1926) выступіў як прадстаўнік гэтак званага страчанага пакалення, духоўны крызіс якога звязаны з Першай сусветнай вайной.

*Першая сусветная вайна* — гл. камент. да рамана «Летуценнік» (с. 597).

*Другая сусветная вайна* — гл. камент. да рамана «Летуценнік» (с. 597).

С. 493:

*Харкаў* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 576).

С. 497:

*У канцы вайны, калі яна перакрочыла ўжо айчынныя рубяжы…* — У выніку зімняй і летне-асенняй кампаній 1944 г. савецкія войскі амаль поўнасцю вызвалілі акупаваную нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыю краіны (толькі ў заходняй частцы Латвійскай ССР заставалася прыціснутая да мора група нямецкіх войск) і аднавілі дзяржаўную мяжу ад Баранцава да Чорнага мора.

С. 512:

*Форас* — адно з самых старажытных паселішчаў на паўднёвым беразе Крыма, заснаванае грэкамі ў V ст. да н. э. Сёння — пасёлак гарадскога тыпу.

С. 513:

*Понт Эўксінскі* (*лац.* Pontos Euxenos — гасціннае мора) — старажытнагрэчаская назва Чорнага мора.

*Ольвія* — антычны горад-дзяржава ў Паўночным Прычарнамор'і, паблізу вусцяў Дняпра і паўднёвага Буга. Рэшткі Ольвіі знаходзяцца каля с. Паруціна Ачакаўскага раёна Мікалаеўскай вобл. (Украіна).

*Херсанес Таўрычаскі* — старажытны горад у Крыме (цяпер у межах г. Севастопаля), заснаваны ў 422—421 гг. да н. э. грэкамі-перасяленцамі з Гераклеі Пантыйскай.

С. 515:

*Скандынаўскі паўвостраў* — самы вялікі паўвостраў у Еўропе, на паўночным захадзе мацерыка. Абмываецца Баранцавым, Нарвежскім, Паўночным, Балтыйскім морамі, іх залівамі і пралівамі. Заходнюю і цэнтральную часткі паўвострава займаюць Скандынаўскія горы, усходнія схілы якіх пераходзяць у плато Норланд вышынёй 400—700 м.

*Паўночнае мора* — ускраіннае мора Атлантычнага акіяна каля берагоў Еўропы. Абмывае берагі Вялікабрытаніі, Францыі, Бельгіі, Нідэрландаў, Германіі, Даніі і Нарвегіі.

*Печанегі* — саюз цюркамоўных плямён у паўночным Прычарнамор'і ў VIII—XII стст. Напачатку качавалі на ўсход ад Волгі, у канцы VIII ст. разбілі ў прычарнаморскіх стэпах венграў і занялі тэрыторыю ад Волгі да вусця Дуная.

*Полаўцы* — руская назва заходняга адгалінавання сярэдневяковага цюркамоўнага народа, вядомага ў Азіі як кіпчакі (кыпчакі), у Еўропе — як куманы (каманы). У XI ст. прыйшлі з паўночна-

заходніх тэрыторый Казахстана ў стэпы Паўночнага Прычарнамор'я і Каўказа. Пры нашэсці Батыя (1237—1243) адышлі ў Венгрыю, потым часткова ў Балгарыю. Апошнія групы полаўцаў канчаткова асіміляваны венграмі ў канцы XIX ст.

*Туркі* — народ, які складае асноўнае насельніцтва Турцыі. Этнічна нацыя склалася з цюркскіх качавых плямён, якія перасяліліся з Сярэдняй Азіі і Ірана ў XI—XIII стст., і мясцовага малаазійскага насельніцтва.

С. 516:

*Грэкі* — нацыя, асноўнае насельніцтва Грэцыі. Старажытнагрэчаская народнасць пачала складвацца ў пачатку II тыс. да н. э. пасля перасялення на Балканскі паўвостраў пратагрэчаскіх плямён — ахейцаў і іянійцаў, а з XII ст. да н. э. — дарыйцаў, якія асімілявалі карэннае насельніцтва. У эпоху грэчаскай каланізацыі (VIII—VI стст. да н. э.) утварылася культурнае адзінства і агульная саманазва «эліны».

*Фракійцы* — агульная назва асобнай групы плямён індаеўрапейскай сям'і, якія ў II тыс. да н. э. засялялі паўночна-ўсходнюю частку Балканскага паўвострава і паўночны захад Малой Азіі (бесы, геты, дакі, меды, одрысы і інш.).

С. 517:

*Татары* — народ цюркскай моўнай групы ва Усходняй Еўропе і Паўночнай Азіі. Упершыню этнонім «татары» з'явіўся сярод мангольскіх плямён, якія качавалі ў VI—IX стст. на паўднёвы ўсход ад Байкала. У XIII—XIV стст. назва распаўсюдзілася на некаторыя народы Еўразіі, што ўваходзілі ў склад Залатой Арды.

С. 518:

*...Дзюмезіля чытаў? Пра вярхоўных багоў індаеўрапейцаў. Кніга ў Парыжы выйшла.*— Дзюмезіль Жорж Эдмон Рауль (1898—1986) — французскі гісторык культуры і філолаг, член Французскай акадэміі (1978). Навуковыя інтарэсы былі засяроджаны галоўным чынам у галіне індаеўрапейскай міфалогіі і каўказскіх моў. Работа Ж. Дзюмезіля «Les dieux souverains indo-europeens» выйшла ў Парыжы ў 1977 г., рускі пераклад «Вярхоўныя багі індаеўрапейцаў» — у Маскве ў 1986 г.; Парыж — сталіца Францыі. Знаходзіцца на рацэ Сена, пры ўпадзенні ў яе рэк Марна і Уаза.

*Іерусалім* — горад у Ізраілі, на паўпустэльным пласкагор'і на захад ад Мёртвага мора. Заходняя частка — Новы горад (адміністрацыйны цэнтр акругі Іерусалім), належыць Ізраілю, усходняя частка — Стары горад, з 1967 г. акупаваны Ізраілем; паводле пастановы (1950) урада Ізраіля сталіца дзяржавы, месца знаходжання

ўрада і парламента. Рэлігійны («свяшчэнны») цэнтр іўдзеяў, хрысціян і мусульман.

*Закон Архімеда* — асноўны закон гідрастатыкі і аэрастатыкі, паводле якога на кожнае цела, апушчанае ў вадкасць (газ), дзейнічае выштурхная сіла, накіраваная ўгару, роўная паводле модуля вазе выціснутай гэтым целам вадкасці (газу) і прыкладзеная да цэнтра цяжару апушчанай у вадкасць (газ) часткі цела. Закон Архімеда — аснова тэорыі і практыкі плавання целаў. З яго ўлікам будуюцца аэрастаты, дырыжаблі, падводныя лодкі і інш.; Архімед (каля 287 — 212 да н. э.) — старажытнагрэчаскі навуковец, адзін з заснавальнікаў матэматыкі і механікі.

*Прыбалтыка* — назва тэрыторыі ва Усходняй Еўропе, якая прымыкае з усходу да Балтыйскага мора. Уключае дзяржавы Эстонію, Латвію, Літву і Калінінградскую вобл. Расіі.

*Кішынёў* — сталіца Малдовы.

С. 519:

*Кімерыйцы* — назва плямён, якія ў VIII—VII стст. да н. э. жылі ў паўночна-ўсходнім Прычарнамор'і. Паводле звестак Герадота і іншых аўтараў, кімерыйцы засялялі Паўночнае Прычарнамор'е аж да Фракіі і былі выгнаны адтуль скіфамі.

*Дакі* — група паўночнафракійскіх плямён, якія засялялі тэрыторыю на поўнач ад Дуная да Карпацкіх гор (сучасная Трансільванія).

С. 522:

*Цяжка, брат, гісторыкам, якія ўсутык ідуць за падзеямі. Босыя на вогнішчы.*— алюзія на паэму «Босыя на вогнішчы» (1922) беларускага паэта, драматурга, празаіка, грамадскага і культурнага дзеяча Міхася Чарота (сапр. Кудзелька Міхаіл Сымонавіч; 1896—1937).

*Даўгава* — назва ракі Заходняя Дзвіна ў межах Латвіі. Рака цячэ па тэрыторыі Расіі, Беларусі і Латвіі.

С. 522—523:

*...каталіцкі біскуп Альбрэхт Мядзведзь, які болей як сем стагоддзяў назад заклаў на нізкіх балотных берагах Балтыкі горад.*— Рыга ўзнікла на месцы старажытнага паселішча ліваў. У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца ў 1198 г., як горад і галоўная апора нямецкай каланізацыі ў Прыбалтыцы — з 1201 г.

С. 523:

*Ленінград* — гл. камент. да аповесці «Капитан Степь уходит в разведку» (с. 576).

*Дрэздэн* — горад на ўсходзе Германіі, на рацэ Эльба, адміністрацыйны цэнтр зямлі Саксонія.

С. 532:

*«Чем меньше женщину мы любим, тем больше нравимся мы ей...»* — радкі з чацвёртай главы рамана ў вершах «Яўген Анегін» (1823—1831) А. С. Пушкіна; Пушкін А. С.— гл. камент. да рамана «Летуценнік» (с. 600).

С. 542:

*Мінскае мора* (Заслаўскае вадасховішча, Ганале́с) — вадасховішча ў Мінскім раёне, за 10 км на паўночны захад ад Мінска. Створана ў 1956 г. Уваходзіць у Вілейска-Мінскую водную сістэму.

С. 545:

*...як Дон-Кіхот Дульцынею...* — гл. камент. да рамана «Летуценнік» (с. 597).

С. 547:

*Падольск* — горад у Маскоўскай вобл. Расіі.

Варыянты і розначытанні:

Часоп. «Полымя» // *зборнік*

С. 367:

4 На ціхіх зялёных вуліцах // На месцы ціхіх зялёных вуліц
12—13 на Прыпяці. // размешчанага на Прыпяці.
16—17 на паўднёвай ускраіне // размешчаная на паўднёвай ускраіне
19 дагледжаную // ахайна дагледжаную

С. 369:

8 зграбная // зграбнай
25 невялікіх // някідкіх
30 ў ціхіх някідкіх пакоіках // ў ціхіх пакоіках

С. 370:

4 ён рушыў // рушыў
13 коркаў. // коркаў са срабрыстай фольгі.
34 бруснічнікам // барвенкам

С. 371:

10 блізкіх і далёкіх // бліжніх і дальніх

С. 372:

9 Паблізу // Паблізу старой ліпы
22 збіраць жалуды // па жалуды
26—27 усё болей святлее. // святлее.

С. 373:

16 Лёня // малады
20 з Лёнем // з сынам

[33] ўсеўладна // ўладна

[36] з боку яго, мужчыны. // ад яго ўсё ішло.

С. 374:

[23] было б. // было б часцей.

[36] Павароты // Перабудовы

С. 375:

[33] навязлівага // нечаканага

[34] можа быць. // можа быць…

С. 376:

[1] кавалераў мела ў збытку. // колькі магла мець кавалераў.

[11] стрэлачніцу з хаты. // стрэлачніцу з хаты…

[12—13] інцыдэнтаў на грунце кахання ў Івана з Сашай у далейшым не здараецца. // любоўных інцыдэнтаў у Івана з Сашай не было.

[17] ў суседнім // размешчаным у суседнім

С. 377:

[13] прыкрываючы // накрываючы

С. 378:

[30] з абчэсанага сасновага бярвення // з абчэсаных сасновых бярвенняў

С. 379:

[15] ў далёкім // размешчаным у далёкім

С. 380:

[7] у суседнім // размешчаны ў суседнім

[32] І першую, і другую гісторыю // І тую, і гэтую гісторыі

С. 381:

[4] калі // у які ён

[36] вучылішча // вучылішча, размешчанага на ўскраіне прыволжскага горада

С. 383:

[12] найлепей // найбольш

[33] жыты // на полі жыты

С. 384:

[17] ля белых хатак // ля хатак

С. 385:

[25] на галовах. // на галаве.

[28] мінамётнага // кулямётнага

С. 386:

[2] левую // левую руку

С. 387:

[21—22] рагатлівай талакі, якая выйшла з ваенкаматаўскага двара // школьнай рагатлівай талакі

С. 389:

[29] падцёкамі // падцёкамі на шкле

[34] брыдот // брыдот і агідансці

С. 390:

[38] Саветы? // нашы?

С. 391:

[21—22] Маскве знаку аб прызямленні. // знаку аб прызямленні Маскве.

С. 392:

[1] мясцовай // новай

[9] заўсёды па суседству. // па суседству.

С. 393:

[4] бор // бор, размешчаны

[22] антысавецкі настроеныя тыпы // адпетыя кулачугі

С. 395:

[37] ў прадмесці гарадка // які размяшчаецца ў прадмесці гарадка

С. 397:

[3] братэрства // брацтва

[7] зімовага дня // дня

[20—21] якой-небудзь фарбай. // самымі рознымі фарбамі.

[38] збольшага // цяпер збольшага

С. 399:

[13] за ўсім партызанскім злучэннем // ва ўсім партызанскім злучэнні

[28] праводзілі // рабілі

[30] прадметамі. // рэчамі.

С. 400:

[9—10] патрыятызм? // такі адчайны патрыятызм?

[23—24] зрабілі // паступілі

С. 401:

[18] заданне // новае заданне

С. 402:

[9—10] дома на ўскраіннай // дома, размешчанага на ўскраіннай

С. 403:

[3—4] загадчыцай кабінета пры ягонай кафедры Ірынай Русецкай // лабаранткай Ірынай Сасноўскай

[10] якасці // рысы

[14] новым // нахлынуўшым

С. 404:

[19] Мог бы // Мог

С. 406:

[4] альтанка. // пакрытая дахам бяседка.

[26] падпалкоўніка-журналіста. // падпалкоўніка.

С. 407:

[18] братэрства // брацтва

[20] братэрства // брацтва

С. 409:

[34] суцэльна белай. // белай.

С. 410:

[8] гумо́ру Мікалай // гумо́ру

[10—11] нібы дзіцячыя // як бы дзіцячыя

[12] Нібы духам // Духам

[12] павявае // патыхае

[17] Яны дня // Дня

[37] авантурызму // адчайнай вынаходлівасці

С. 411:

[15] напісанымі лістамі // запіскамі

[17—18] парткабінета. // мясцовага парткабінета.

[28] У кніжным варыянце рамана пасля сказа «Правільна я гавару?» дапісаны сказ «Па-мойму, усё лагічна».

С. 412:

[33] не здагадваўся. // сам не здагадваўся.

С. 414:

[9—10] Штосьці падобнае намячаецца і ў Андрушкевіча з Клімавай. Аднак на першым часе іх адносіны // Аднак на першым часе адносіны Андрушкевіча з Клімавай

С. 415:

[2] здавацца. // выглядаць.

[24] «Рускае пытанне» // «Русский вопрос»

С. 416:

[22] славуты // вядомы

С. 417:

[6] пайшлі з паліцыі. // з паліцыі звольніліся.

[12—13] з новага, якое яшчэ пахла смалой, бярвення. // з новых, якія яшчэ пахлі смалой, бярвенняў.

[16—17] адменныя. // відныя.

С. 418:

[3] жыве // як бы жыве

[4] як бы створана // нібы створана

С. 420:

[7] пісьменніка // журналіста

С. 422:

[18] У кніжным варыянце сказ «Але ён не дае разгарэцца рэўнасці» адсутнічае.

[35] выхаванцаў // пітомцаў

С. 423:

[10] пары // далёкай сівой пары

[11] яго глыбінныя пласты // глыбінныя пласты мовы

[27] вязаліся // чапляліся

С. 424:

[20] ідэямі. // якой-небудзь ідэяй.

С. 425:

[4] малога і вялікага камення // малых і вялікіх каменняў

[5] каменні // каменнях

С. 426:

[8—9] з саламянай страхой // з саламяным дахам

С. 427:

[23] паміж рэдкіх стромістых соснаў // паміж рэдкімі стромістымі соснамі

С. 428:

[27—28] У кніжным варыянце сказ «За звычайнымі парканамі, у палісадніках раскашуюць жоўтыя вяргіні, астры» адсутнічае.

С. 428—429:

[38—1] адчувае ўсёй сваёй спакутаванай, недаверлівай душой, што любіць // адчувае, што ўсёй сваёй спакутаванай, недаверлівай душой любіць

С. 429:

[8] імгненна весялее: настрой // імгненна весялее. Яна такая: настрой

[31] вялікімі // невялікімі

С. 430:

[8—9] захварэў хлопчык — і на кафедру // захварэў хлопчык і на кафедру

[31—32] нічога з таго часу асабліва не змянілася. // нічога з таго часу асабліва не змянілася: доўгі, засланы мяккім чырвоным дыванам калідор, аздобленыя пад колер дубу дзверы пакояў, ліфт, які спускаецца і падымаецца на паверхі з ледзь чутным шасценнем, але выразна скрыгоча і грукае на прыпынках

С. 431:

[35] халоднае, непрыветлівае // халоднае

С. 432:

[6] пад лесвіцай // размешчаны пад лесвіцай

